

# ЯН
# СКРЫГАН



## Выбраныя
## творы

Мінск
«Беларускі кнігазбор»
2005



# ЯН СКРЫГАН

Ян, Янка (Іван Аляксеевіч) Скрыган — адзін з выдатных беларускіх пісьменнікаў, паэт, навеліст, нарысіст, публіцыст і крытык. Карыстаўся псеўданімамі Відук, Я. Відук, Ян Відук, Янка Відук, Крушына, Я. Крушына, Пірат, Аўлас і дзед Аўлас (разам з П. Броўкам).

Нарадзіўся Ян Скрыган 3 (16) лістапада 1905 г. у вёсцы Труханавічы Слуцкага павета. Пачатковую царкоўна-прыходскую школу закончыў у Труханавічах. Пасля вучыўся ў Беларускай гімназіі, у сельскагаспадарчым тэхнікуме г. Слуцка. Тэхнікум пакінуў з 4 курса, поўнасцю захапіўшыся літаратурай. У 1924 г. стаў працаваць у рэдакцыі слуцкай акруговай газеты «Вясковы будаўнік». Пасля ліквідацыі акругі перастала выходзіць і акруговая газета. Пэўны час жыў дома, у бацькі*. Пасля паехаў у Расоны, дзе працаваў былы рэдактар «Вясковага будаўніка» паэт Паўлюк Шукайла. Уладкаваўся загадчыкам Народнага дома пры выканкаме (1925—1926). Быў запрошаны ў рэдакцыю газеты «Чырвоная Полаччына», дзе пазнаёміўся з П. Броўкам, які працаваў там сакратаром. Вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які закончыў у 1932 г. Быў членам літаратурных аб’яднанняў «Маладняк» і «Літаратурна-мастацкая камуна». Будучы студэнтам, у 1929 г. выязджаў у Магілёўскую вобласць праводзіць калектывізацыю. Як карэспандэнт газеты «Звязда» ў 1930 г. працаваў на Гомсельмашы па ліквідацыі прарыву, прасцей — па наладжванню сістэмнай арганізацыі заводскага жыцця, назіранні за якім перададзены ў кнігах нарысаў «Права на энтузіязм» (1931) і «Недапісаны профіль» (1932).

У 1932—1936 гг. працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва». 13 лістапада 1936 г. ён быў арыштаваны органамі НКУС за быццам бы «контррэвалюцыйную дзейнасць» і асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі з высылкай у Сібір (Кемераўская вобласць). У 1946 г. вызвалены,

* Бацькі Я. Скрыгана былі раскулачаны і высланы пад Котлас, дзе і загінулі.

аднак пазбаўлены грамадзянскіх правоў на пяцігадовы тэрмін. Працаваў на пасадзе бухгалтара на гідролізным заводзе ў г. Фергане (1946—1948), на сланцахімічным камбінаце «Ківіылі» ў Эстоніі (1948—1949). У 1949 г. зноў арыштаваны і высланы ў Сібір. Працаваў бухгалтарам у райкамгасе і МТС Сухабудзімскага раёна. У 1954 г. поўнасцю рэабілітаваны, і яму былі вернуты ўсе правы. Пасля звароту ў Мінск аднавіў актыўную творчую дзейнасць. Працаваў рэдактарам у Дзяржаўным выдавецтве БССР (1955—1959), літкансультантам Саюза пісьменнікаў Беларусі (1959), рэдактарам і намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Полымя». Як добры знаўца мовы быў запрошаны галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларуская савецкая энцыклапедыя» П. Броўкам на пасаду загадчыка літаратурна-кантрольнай рэдакцыі, на якой працаваў з 1967 па 1975 год. У 1975—1985 гг. працаваў адказным сакратаром камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Узнагароджаны медалямі, ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Тувінскай АССР.

У творах «Парог» і «Свая аповесць» пісьменнік перадаў некаторыя экзатычныя моманты сваёй біяграфіі. Так, напрыклад, аказалася, што хросным бацькам Яна стаў ліберальны пан Ёдка. А атрымалася так таму, што ў бацькоў выжывалі адны дочкі, а сыны ўміралі. Народзіцца і памрэ, народзіцца і памрэ. А бацька вельмі хацеў хлопца. «А што гэта за гаспадар без наследніка. Добрыя людзі параілі: калі народзіцца зноў сын, трэба ранічкай выйсці на дарогу і хто першы трапіцца, узяць яго за хроснага бацьку. Гэта паможа»*. Калі нарадзіўся Янка, бацька так і зрабіў. І трапіўся яму якраз абшарнік Ёдка. І той згадзіўся. Падросшы, Янка нават хадзіў да хроснага бацькі ў адведкі і, навучаны сястрой, прасіў дапамогі. Пан не адмовіў.

Гады дзяцінства ў бацькавай хаце пісьменнік падае аб’ектыўна. З аднаго боку — гэта рай для душы, а з другога — трывожнае пачуццё, бо бацька быў «зачараваны зямлёй». Адсюль яго скупасць і неспагадлівасць. «Я бачыў, як у сясцёр — а яны ж былі маладыя! — парабіўшыся ў крукі, не разгіналіся пальцы. Маладзёж недзе магла хадзіць на кірмашы, збірацца на вячоркі, скакаць, весяліцца, а яны — у гэтым балоце — зналі толькі работу. У людзі ім паказацца не было ў чым. Маці плакала разам з імі» (I, 77). Даводзілася, каб трохі паправіць становішча, нешта прадпрымаць і без ведама бацькі.

Першыя творы з’явіліся ў друку ў 1925 г. Пачынаў Ян Скрыган літаратурную дзейнасць як паэт. Вершы падпісваў экзатычнымі псеўданімамі Пірат, Відук, Янка Відук. Сам пісьменнік гэтак тлумачыў іх сэнс. «Пірат» нясе ў сабе разбуральна-рэвалюцыйную ідэю перамен,

* Скрыган Я. Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1985. Т. I. С. 13. Далей спасылкі на гэта выданне даюцца ў тэксце (рымскай лічбай пазначаны том, арабскай — старонка).

знішчэння ўсяго старога, а «Відук» — сімвал неадольнага жыццесцвярджэння, бо так на Случчыне называюць дзікі мак-самасейку.

Іван Аляксеевіч не быў высокай думкі пра свае першыя паэтычныя спробы, створаныя пад уплывам авангардысцкіх літаратурных тэндэнцый першых гадоў савецкай улады, асабліва пад уплывам вельмі прыкметнай фігуры ў літаратурным жыцці 20-х гадоў Паўлюка Шукайлы*, якога ён характарызаваў наступным чынам: «Паўлюк Шукайла быў чалавекам агнявой натуры: добрага, шчырага сэрца, партызанскай зухаватасці і бунтарства. І ў вершах ён прызнаваў толькі бунт і таму адразу пачаў кіраваць нас на футурызм. Мы ў ім не разбіраліся, але Шукайлава энергія перадавалася і нам, і мы выпіналіся як маглі, каб толькі папасці ў той футурызм» (I, 108). Пісьменнік згадваў: «Вядома, і маладнякоўская «бурапеннасць» і «Літаратурна-мастацкая камуна», і іншыя розныя акалічнасці пакінулі на мне свой глыбокі і доўгі след. Самы цяжкі і доўгі — ад нашага наіўнага ўяўлення, што новая рэвалюцыйная літаратура павінна пісацца зусім іншай мовай і іншым стылем. Іх было вельмі многа, стыляў таго часу, я іх і баяўся, і цягнуўся да іх. Свежа, па-свойму, вельмі непадобна на класічную спакойнасць пісалі многія савецкія пісьменнікі...» (I, 112). А пазней выказаўся яшчэ больш сурова: «Ад тых маіх твораў мне цяпер аж нядобра, лепш бы іх не было» (II, 295). Разам з тым пісьменніка турбуе ўласнае ўсведамленне, што і ў ранніх творах прысутнічае частка аб'ектыўнай гісторыі яго духоўнай біяграфіі: «Яны ж нясуць на сабе маю літаратурную маладосць» (I, 112). Такая пазіцыя з'яўляецца, бадай што, самай апраўданай з пункту гледжання паўнаты літаратурнага працэсу.

Ян Скрыган ведаў таксама і творчасць выдатных беларускіх паэтаў, з якой пазнаёміўся яшчэ ў Слуцку. Ён згадваў: «Я многа чытаў, асабліва пасля таго як на рынку, у будачнікаў, знайшоў кнігі Янкі Купалы, Якуба Коласа і Змітрака Бядулі. Праз іх я ўбачыў народ куды глыбей, і ў душы варушылася патрэба самому гаварыць. Я пачаў шукаць паэтычнага слова» (I, 77). Нейкі час захапляўся Байранам.

Змястоўную накіраванасць і стылёвы лад ранняй творчасці Я. Скрыгана перадаюць самі назвы некаторых яго вершаў: «Перлы дзён», «З лейцамі свежых дум», «Эй, звіні», «Старонка вольная», «Праспяваў бы і я кіпарысы», «Партызаншчына», «За СССР — на варту», «Кастрычнік».

Але хутка пісьменнік перайшоў на празаічныя жанры, хоць вершы пісаліся і пазней, але друкаваліся ўсё радзей і радзей. Першым празаічным творам, які прынёс аўтару даволі шырокую вядомасць, стала апавяданне «Таіса» (1927) пра падзеі часоў Грамадзянскай вайны. Самі падзеі толькі згадваюцца, асноўнае ў яго змесце — адносіны і сутыкненне характараў. Арыгінальная жанравая форма апавядання — гэта зварот-успамін закаханага Петруся да Таісы. Абое яны служаць у пана.

---

* Павел Захаравіч Шукайла (нар. 1904). Расстраляны 14.04.1939 г.

Пятрусь узнаўляе гісторыю іх кахання, кахання драматычнага, бо сам час быў усеагульнай драмай. Іх размова пры сустрэчы:

«— Як добра мне з табою, — сказала ты. — Мы больш ніколі, ніколі не будзем сварыцца. І ты больш ніколі не крыўдзь мяне.

І тады я запытаўся:

— А ты заўсёды будзеш са мною? Што б ні здарылася — ты ніколі не пакінеш мяне?

— Ніколі! — адказала ты» (І, 55).

Але здарылася інакш. У ваколіцу прыязджае малады польскі паручнік Гжэцкі сачыць за парадкам і падаўляць сялянскія хваляванні. Паручнік — сама мужчынская прыгажосць... Сумуючы, ён пачынае заляцацца да прыгажуні Таісы. І Таіса не адхіляе яго заляцанняў, што трывожыць і абурае Петруся. Яна ж казала, што ніколі не пакіне яго. Таіса разрываецца паміж Петрусём і паручнікам. То яна кажа Петрусю, што паручнік «нахабны... агідны», то ходзіць на сустрэчы і ездзіць на паляванне-пагулянку з ім. Пятрусь — увасабленне дамашняй звыкласці, якая грэе душу і заспакойвае, усё, што звязана з асобай паручніка, трывожыць, палохае, але і прываблівае, бо ён дэманструе сабой вышэйшы ўзровень жыцця, якому селянін заўсёды зайздросціў. Не вытрымлівае спакусы і Таіса. Можна сказаць, што яна здрадзіла абяцанню ніколі не пакідаць Петруся і не здрадзіла. Калі скатаванага па загаду Гжэцкага паўстанца Петруся пакінулі паміраць, Таіса прыходзіць да яго, прамывае і перавязвае раны, хоча забраць яго з сабою, а пераканаўшыся, што гэта немагчыма, пакідае яму маленькі браўнінг. Відаць, дзякуючы гэтаму браўнінгу і выжыў Пятрусь, маючы пазней магчымасць згадваць усе перыпетыі іхняга кахання.

Апавяданне не пазбаўлена меладраматычных сітуацый, што было даволі характэрнай рысай для беларускай прозы 20-х гадоў. Аднак пазіцыя аўтара хоць і залежыць у многім ад ідэалагічных схільнасцей таго часу паказваць жыццё ў кантрастных чорна-белых фарбах (Гжэцкі знешне вельмі прыгожы і прывабны, а ўнутрана жорсткі і агідны), усё ж у падтэксце сюжэта псіхалагічная непрымірымасць класаў аказваецца ўмоўнай. Сялянка-прыгажуня Таіса хоць і цяжка, з асабістай ахвярнасцю, але ў сваіх канкрэтна-бытавых абставінах пераходзіць мяжу класавасці*.

У другім раннім апавяданні «Пры вогнішчы» (1926), сюжэт якога цалкам меладраматычны, з крымінальнымі завастрэннямі, таксама апавядаецца гісторыя няроўнага кахання, калі панская дачка Аміля пакахала парабка Ігната. Лёс закаханых трагічны: Ігната застрэліў

---

* Наколькі гэты момант тыповы і важны у канцэптуальным разуменні літаратурай народнага жыцця, сведчыць эпізод з рамана В. Адамчыка «Чужая бацькаўшчына», калі галоўнай гераіні, вясковай дзяўчыне Алесі, вельмі падабаецца адукаваны сын пана, у якога яна па найму жне жыта.

бацька Амілі, а яна пасля гэтага хутка згасла і памерла. Вызначальная ідэя апавядання — усе людзі ў сваіх пачуццях і дзеяннях роўныя і самастойныя, а іх класавая размежаванасць — недарэчнасць, трагедыя не толькі асобных людзей, але і ўсяго грамадства.

На гэту ідэю працуе як быццам і раскаянне пана, бацькі Амілі. Застрэліўшы Ігната і ўбачыўшы, як убіваецца па ім дачка, пан «размахнууся і пашчапаў сваю стрэльбу аб хвою».

У 20-я гады яшчэ можна было — хай у нясмелай форме — праводзіць думку, што варожае размежаванне класаў непрыдатнае для развіцця грамадства. Пазней, у 30-я гады, гэтая думка пачала ўжо лічыцца ідэйна падрыўной, якая супярэчыла ўсёй сістэме поглядаў бальшавіцкай партыі.

Тэма Грамадзянскай вайны складае змест апавяданняў «След гумавых шын» (1962) і «У Кірылы на хутары» (1958). У цэнтры апавядання «След гумавых шын» — нацыянальны канфлікт паміж выкладчыцай польскай мовы прыгажуняй Касяй, якая можа размаўляць з вучнямі і па-беларуску, і вучнямі, якія не прымаюць яе зацятага польскага патрыятызму.

У 1928 г. публікуецца аповесць «Затока ў бурах» (дапрацоўвалася ў 1956 г.). Сэнс назвы — узрушанасць глухой мясцовасці, правінцыі падзеямі гістарычнага значэння (вайна, рэвалюцыя). Аповесць пачынаецца з вельмі ўражлівага малюнка адпраўкі навабранцаў на вайну. Ростань з роднай вёскай узмацняе пачуццё замілаванасці да яе. Яна проста паэтызуецца ў мірным мінулым стане. Іншая вёска ў ваенны час — прыціхлая, трывожная. Вельмі дакладна перададзены адчуванні і псіхалогія салдаткі Алесі, якая праводзіла на вайну мужа Андрэя, застаўшыся з маленькім сынам Міхаськам [...]

Аповесць «Затока ў бурах» адкрывала жанравы шлях да твораў больш панарамнага паказу народнага жыцця ў гады гістарычных пераломаў. На гэтым шляху адначасова ці пазней з’явяцца раман К. Чорнага «Зямля» (1928) і раман М. Лынькова «На чырвоных лядах» (1934) з больш суровай вытрымкай рэалістычнага прынцыпу, бо эпілог аповесці «Затока ў бурах» адкрыта меладраматычны.

У пачатку 30-х гадоў Ян Скрыган у складзе брыгады быў камандзіраваны на завод Гомсельмаш для ліквідацыі прарыву. Невядома, у якой меры прысутнасць пісьменніка на заводзе садзейнічала ліквідацыі яго адставання. Аднак у выніку гэтай працяглай камандзіроўкі з’явіліся дзве кнігі нарысаў пра заводскае жыццё — «Права на энтузіязм» і «Недапісаны профіль», са зместу якіх відаць, што пісьменнік блізка прыняў да сэрца клопаты завода.

У кнізе «Права на энтузіязм» гаворыцца, што Гомсельмаш у той час выпускаў толькі сіласарэзкі і сячкарні. Па ўсім заводзе хаос, непарадкі. Дэталі выходзяць не па чарцяжу, іх трэба падпілоўваць. Патрэбны мужныя намаганні лепшых працаўнікоў устанавіць парадак і

дысцыпліну. І яны знаходзяцца. Яны патрабуюць сістэмы і разумеюць, што «трэба новыя метады, трэба індывідуальная адказнасць кожнага за свой працэс, за норму. А пакуль брыгада нежывая, непаваротлівая — як на паншчыне». І ўсё ж паступова адбываецца аб'яднанне людзей вакол агульнай справы.

Менавіта тут, у рабочым асяроддзі, пісьменнік знаходзіць чалавека, які мае ўсе падставы лічыцца станоўчым героем. Гэта інжынер Белабжэцкі. Адбываецца канфлікт паміж рабочымі і кіраўніцтвам завода. Кіраўніцтва штурхае рабочых на штурмаўшчыну. Рабочыя пратэстуюць. Але калі ўлічыць тое становішча, у якім знаходзіцца завод, штурмаўшчына часам аб'ектыўна неабходная.

У другой кнізе нарысаў — «Недапісаны профіль» — тая ж самая праблематыка. Той жа завод, тыя ж героі, тыя ж самыя праблемы. Барацьба з бракам, прарывы да лепшага, але тузаніна ў калектыве, недахваткі, гарачка. Узнікаюць розныя дробязныя побытавыя канфлікты. Прывезлі замежны экземпляр сіласарэзкі як узор, бо яна, «як лялька». Прыехаў спецыяліст-бухгалтар, «каб памагчы перайсці на гаспадарчы разрахунак»*.

Героі нарысаў у адной і другой кнізе паказаны пад сваімі сапраўднымі прозвішчамі, бо даюцца тлумачэнні пра іх пасады і занятак: «Сімховіч — першы сакратар партячэйкі, а пасля майстра цэха — памочнік Белабжэцкага», «Мацвеенка — планавік механічнага цэха», «Піліпёнак — начальнік кантрольнага аддзела», «Гейтман — майстра зборачнага цэха ў пачатку арганізацыі завода».

У многіх з іх рэвалюцыйнае мінулае і рэвалюцыйны вопыт, як у Белабжэцкага: «1917 год. Зямля ў агні. Людзі ў тузаніне, у сумяціцы, у нервах, у рэвалюцыі. Дзве рэвалюцыі. Людзі, франты, кулямёты, атрады, страляніна. І недзе напіраюць немцы. І недзе збіраюцца банды. І загад — адступаць!

401-й вярсце трэба тэрмінова эвакуіравацца. Разгружаюцца ваеннаінтэнданцкія склады. Снуюць хворымі трыбухамі паравозы. Бегаюць людзі з кацялкамі, з бомбамі, з вінтоўкамі, з мацюгамі, з песнямі, з недаедзенымі скарынкамі хлеба. І Белабжэцкі ў людзях, у нервах, у спешцы, у тэрміновай эвакуацыі. Трэба хутчэй разгружаць склады — быць грузчыкам, пакатнікам, стрэлачнікам, — вагоны, вагоны — адпраўляць вагоны!»**

У нарысах перадаецца працоўная атмасфера 30-х гадоў. Змест нарысаў стварае ўражанне, што тады на першым месцы грамадскіх клопатаў была праца, а не чалавек. Чалавек — толькі нібы прыдатак да вытворчасці, да плана.

---

* Скрыган Я. Недапісаны профіль. Мн., 1932. С. 64.

** Тамсама. С. 56—57.

За час камандзіроўкі на Гомсельмаш Я. Скрыган добра ўведаў заводскае жыццё, што яму моцна прыдалося, калі ён пасля вызвалення з лагера, але застаючыся высланым, нейкі час працаваў на заводах у Фергане і ў Эстоніі галоўным бухгалтарам.

Калі пісьменнік вярнуўся ў Мінск пасля поўнай рэабілітацыі і ўзнавіў творчую працу, тэма заводскага жыцця, асабліва такой яго структуры, як бухгалтэрыя, яго вельмі цікавіла. Відаць, таму, што гэтую прафесію, хоць і вымушана, ён засвоіў дасканала (высланыя за межы рэспублікі не мелі дазволу займацца прафесіяй, якая так або інакш была б звязана з ідэалогіяй). Больш таго, самы пераканальны па прафесійнаму майстэрству, побытавых абрысах і па гуманістычных адносінах да людзей вобраз станоўчага героя ў творчасці Яна Скрыгана — галоўны бухгалтар завода. Яго ўзносяць над усімі, і за што яго вельмі цэняць людзі — за бездакорную мараль і выдатнае прафесійнае веданне сваёй справы. У некаторых творах адны і тыя ж героі, падобная праблематыка (аповесць «Скажы адно слова» (1960), апавяданне «Дакументальная рэвізія» (1955). Героем абодвух твораў з’яўляецца галоўны бухгалтар завода Собіч. Гэты герой дарагі пісьменніку, бо ў многім Собіч — гэта сам пісьменнік. Лёс Собіча — частка біяграфіі Яна Скрыгана.

Раскрываючы вобраз Собіча, пісьменнік дасягае выключнай дакладнасці ў побытавай і літаратурнай фактуры. Ствараецца ўражанне, што не пісьменнік вымалёўвае абрысы вобраза, а герой самавыяўляецца ў такой ступені шчырасці і паўнаты, што здаецца не літаратурным вобразам, а жывым чалавекам.

Некаторыя апавяданні, напісаныя да арышту пісьменніка, сацыяльна востра змястоўныя, яны перадаюць аб’ектыўны малюнак грамадскага жыцця таго часу, яго драму, выкліканую ломкай вёскі — калектывізацыяй. Сярод іх апавяданне «Непатрэбны чалавек» [...]

У некаторых апавяданнях закранаецца праблема калектывізацыі ў сялянскім жыцці: «Па дарозе» (1929—1930), «Зноў па дарозе» (1932). Калі брат — гэта сам аўтар — пытаецца ў сястры Ульяны, першай сяловай дэлегаткі, чаму не кідаюць «шнурышчаў», яна адказвае ўхіліста: «А хто яго ведае, дзе лепш! Калі ж неяк страшна адважыцца» (II, 64). І брат прыходзіць да вываду — яна зусім дваістая. Праўда, на воз да іх падсядае чалавек, які хваліць калектыўную працу, але гэта пакуль што толькі словы.

У апавяданні «Зноў па дарозе» — тыя ж героі. Аўтар зноў сустракаецца з тым чалавекам, што пад’язджаў два гады назад. Яго завуць Гарасім Дубік. З ім герой-аўтар сустракаўся і год таму назад. Тады Дубік быў выйшаўшы з калгаса. Гэтую падзею ў сваім жыцці ён тлумачыць расчараваннем у калгасных парадках: «Нават праца свая прападае. Блудзяць людзі. Ніякае дбайнасці няма» (II, 78). Яго энтузіязм, якім ён жыў у апавяданні «Па дарозе», знікае, бо відаць нядбайнасць і раўнадушша да ўсяго, што некалі дорага было селяніну. Восень. «Над паплавамі

цягнулася волкасць — густая, слязлівая, — і пракосы далёка чарнелі, астаючыся забытымі зімаваць.

А далей пачыналася поле, і восеньскаю вільгаццю пахла зямля. Сям-там пападаліся шырокія загоны з недаворанаю бульбаю — таксама забытыя» (II, 77).

Аднак у 30-я гады творы пра калгасы не маглі заканчвацца на песімістычнай ноце. Праз год Гарасім, ужо калгаснік, зноў поўніцца энтузіязмам, верай ў заўтрашні дзень, як сказана ў апавяданні, «пачынае расказваць ужо сваю будучыню». Мабыць, у гэтым выразе ёсць трохі аўтарскай іроніі, бо «расказваць будучыню» проста немагчыма. Пра будучыню можна толькі марыць, бо ніхто не можа ведаць наперад, як усё складзецца на самай справе.

Герой-аўтар, які гасцюе ў Гарасіма, пазнаёміўшыся з калгаснікамі, таксама верыць, што ўсё дрэннае ў мінулым. «Не, сёлета не зазімуе ў полі чалавечая праца!» (II, 82). Але ж восень яшчэ далёка.

У спадчыне Яна Скрыгана нямала твораў на маральна-побытавую тэму. Сярод іх адно з самых найлепшых апавяданняў «Факір Іяма» [...] Гэта твор пра вялікае каханне. Здарылася так, што да пісьменніка, які працуе ў газеце, прыходзіць «вельмі пажылы чалавек невысокага росту, шчуплы, стомлены, нават нездараўчаны, нават разгублены. На вузкіх плячах кароткая даха, рудою, лямцаватаю шэрсцю наверх» (I, 180). Наведвальнік кажа, што ён артыст, факір Іяма і прыехаў у горад на гастролі. Пісьменнік згадвае, што сапраўды ў горадзе расклеены афішы з яго імем. Змешчаны і партрэт, але розніца паміж жывым чалавекам і партрэтам непрымірымая. На партрэце — «Нетутэйшае аблічча: загарэлы бронзавы твар з строгім бляскам воч; чалма, перакрыжаваная на лобе белымі складкамі, сярод якіх чорнымі прамянямі гарыць дарагі камень; тонкае колца завушніцы ў вуху. Міжволі ўяўленне заводзіць у далёкія, гарачыя, нязнаныя краіны, дзе поўна самых пякучых таямніц, дзе жывуць чараўнікі, адгадчыкі лёсу, і дзе змеі танцуюць пад музыку...» (I, 180).

Артыст прапануе пісьменніку купіць яго дзённікі, вельмі цікавыя і значныя па зместу. «Я многа паездзіў па свеце, — між тым гаварыў чалавек, — многа чаго бачыў і ўсё, што было вартае ўвагі, запісваў». Пісьменнік адмаўляецца купляць дзённікі, бо яны не ўваходзяць у яго творчыя планы. Тады артыст просіць змясціць хоць бы водгук у газеце на яго гастролі і запрашае яго з жонкай на спектакль. На пытанне, што яго вымушае прадаваць дзённікі, намякае, што мае грашовыя цяжкасці. І пісьменнік разумее яго. «Я разумеў. Факірскай прафесіі на той час было цяжка. Дзяржава змагалася проці папоўства, выкрывала рэлігійны падман, усякае шальмоўства, а факіры сваю работу будавалі пераважна на тайнах, на тым пастулаце, што яны валодаюць надпрыроднаю сілаю, знаюцца ні то з богам, ні то з нячысцікам» (I, 181). У артыста маладая і прыгожая жонка, ён не хоча, каб яна ў нечым цярпела нястачу.

Калі Іяма выйшаў на сцэну, здзіўленню пісьменніка «не было мяжы: гэта быў той самы заморскі чараўнік з партрэта — бронзавы, маўкліва-замкнёны твар, магічная зорка ў складках чалмы над самым лобам, танюткае колца завушніцы» (I, 182). Пасля бліскучага выступлення пісьменнік з жонкай Лінай знаёмяцца з жонкай і памочніцай Іямы Мар'янай, жанчынай «невыказанага хараства». Дзве сям'і сталі сябраваць.

Іяма з Мар'янай пазнаёміліся ў Мурманску ў час яго выступлення. «Калі спатрэбіўся яму ў нейкім фокусе ні то памочнік, ні то сведка, што ўсё робіцца без фальшу, ён пазваў ахвотнікаў з залы. Без хвіліны развагі ці вагання яна паднялася і пайшла на сцэну. І пачула, што з гэтага часу яна будзе пакарацца толькі яму» (I, 186). Гэта было каханне. Іяма ж не мог наглядзецца на яе, кахаў без памяці. Яна стала для яго радасцю жыцця, шчасцем найвялікшай глыбіні.

У сапраўднасці Іяма — былы вясковы пастух, родам з Сібіры, Уладзімір Красікаў (у першым варыянце — Іваноў). «Захварэў на штукарства», пабачыўшы выступленні вандроўнага цырка. Сам вандраваў з цыркам. «Потым на многа гадоў апынуўся ў Індыі і адтуль вярнуўся ўжо з вядомым на ўвесь свет імем факіра Іямы.

І вось аднойчы Іяма знік. Мар'яна шукае яго і знаходзіць у Маскве, на кватэры яго першай жонкі. Іяма адразу адпраўляе Мар'яну назад. Ён быў сумленным чалавекам, гуманістам. Спадзяваўся, што Мар'яна яшчэ знойдзе сваё шчасце. Перажываючы з-за таго, што імкліва старэе, не маючы пэўных заробкаў, хоць яго імя ведалі Парыж і Вена, Ніцца і Дэлі, ён баяўся, што Мар'яна расчаруецца ў ім і яе каханне патухне і што гэта будзе непрыемна ёй. Пісьменнік робіць правільны вывад: «Я таксама часта пытаўся ў самога сябе: чаму ён так абышоўся з Мар'янай? Ні на хвіліну я не прымаю намёкаў на нейкую пабочную жанчыну: такую здагадку магло спарадзіць толькі хваравіта-ўзрушаная тады Мар'яніна фантазія. Мне куды бліжэй думка, што ён быў па-рыцарску высакародны і пакінуў яе толькі таму, што вельмі любіў» (I, 190).

Папусціцца ўласнымі інтарэсамі, каб толькі палегчыць лёс другога чалавека, — гэта адзін з асноўных прынцыпаў кодэкса высакароднасці. Ён асабліва актуальным быў у 30-я гады, калі асоба чалавека і яго высакароднасць сціраліся з фону грамадскага жыцця.

Апавяданне «Факір Іяма», відаць, у многіх момантах сюжэта аўтабіяграфічнае. Аднак у літаратурнай спадчыне Яна Скрыгана ёсць нямала твораў, якія адкрыта ідуць за перыпетыямі складанай і цяжкай біяграфіі пісьменніка. Гэта «Парог», «Світанак», «Трывогі», «Спасціжэнне», «Шуканні». З гэтых апавяданняў-успамінаў відаць трагічны лёс сумленнай і чалавечна выхаванай асобы ў эпоху таталітарнага недаверу і ўціску ўсяго, што хоць бы намёкам выяўлялася як наяўнасць самастойнай думкі.

У апавяданні «Трывогі (працяг)» якраз і паказана, як дорага каштуе ў такую эпоху сумленнасць і чалавечнасць, вельмі часта цана ім — само

жыццё. Нават у органах НКУС сустракаліся чалавечныя людзі. Следчы раіць арыштаванаму пісьменніку: «Толькі нічога не выдумляйце, гаварыце праўду» (І, 214). І далей: «Ну і, вядома, за справу ўзяўся другі чалавек» (І, 215). Не выключана, што той першы следчы пайшоў тым жа шляхам, што і арыштаваны.

У гэтым жа творы ёсць горкія і шчымлівыя сардэчныя развагі на тэму «чалавек і бацькаўшчына». «Цяпер я гляджу на сваю дарогу, як на далёкі сон. Мая біяграфія здаецца мне вельмі доўгаю, і я дзіўлюся, як многа ў ёй месціцца. Я зазнаў і трагізм, і роспач, зведаў цану радасці і надзей: быў на грані таго горкага адчування, калі чалавек астаецца без радзімы — не мае на яе права, і зразумеў, якое гэта вялікае і дарагое пачуццё — бацькаўшчына.

Лёс кожнага чалавека — гэта свой лёс, але без лёсу народа няма і свайго лёсу. Часта я думаю, у якой душэўнай спустошанасці жывуць тыя, што апынуліся на далёкіх, чужых землях. Я не гавару пра здраднікаў і палітычных злачынцаў, яны самі пазбавілі сябе бацькаўшчыны. А маю на ўвазе тых, што па волі часу і падзей, па якой невялікай правіннасці або і зусім без правінкі — па прымусу — пакінулі сваю зямлю. Бацькаўшчына ім мроіцца толькі ў харошых снах. Я ведаю, што ім цяжка, што перад сабою летуценна яны бачаць бясконца дарагія родныя нівы, лугі, кветкі і травы, раніцы і вечары, вузкія сцежачкі сярод жытоў і хаты; што ім чутны нашы песні, што ім свеціць наша сонца, як надзея, як права астацца людзьмі» (І, 215).

Несумненна, гэтыя скрушлівыя думкі ўзніклі перш за ўсё як вынік уласнага духоўнага вопыту чалавека, які доўгі час вымушана жыў адарваны ад радзімы. Аднак магчыма, што гэтыя думкі пачуццёва ўзмоцнены перажываннем у сувязі з той акалічнасцю, што першая жонка і сын, застаўшыся на акупаванай тэрыторыі, пасля вайны апынуліся ў Нямеччыне і там засталіся назаўсёды.

Пісьменнік паэтызуе выявы дабрыні, спачування і разумення ў штодзённым побытавым жыцці. У апавяданні «Конны двор» у канюшні калгаса працуюць два ссыльныя, аўтар і Аляксей. Аляксей — кравец-мастак, просіцца, каб яго перавялі ў раённую пашывачную майстэрню. Але яго пакуль не адпускаюць. У час яго дзяжурства на конным двары гіне малады жарэбчык Бутон. Старшыня, брыгадзір і заатэхнік павінны скласці акт і назваць канкрэтнага віноўніка. Але спагнанне з ссыльнага можа абярнуцца абвінавачваннем у шкодніцтве. А гэта азначае новы тэрмін. Таму заатэхнік кажа: «Бутона ўсё роўна не падымем, а людзям яшчэ раз пакалечым жыццё, яно ў іх і так пакалечанае». Ну і запісалі «нешта другое» (І, 208).

У апавяданні «Наталя» раскрываецца лёс двух закаханых людзей — Наталі і Казіміра. У Казіміра ў вайну загінула сям'я, а ў Наталі ў час эвакуацыі пад бамбёжкай згубілася дачка. Наталя і Казімір пажаніліся, у іх цудоўныя дзеці. Але Наталі не дае душэўнага спакою думка

пра дачку, бо яна не ведае, жывая яна ці не. Сітуацыя ўскладняецца той акалічнасцю, што Наталя, ствараючы новую сям'ю, не сказала Казіміру, што ў яе была дачка. А калі яна аказалася жывой, Казімір у разгубленасці і одуме: «То ці можа быць каханне, калі няма веры? Як гэта нядобра і крыўдна. Незаслужана яго пакрыўдзіў блізкі, родны чалавек. Перад ім была не тая Наталя, якую ён ведаў увесь час. Хто ж яна такая? Была не адна Наталя, а былі дзве. Другую ён убачыў цяпер упершыню. Каторая Наталя была з ім? Каторую Наталю ён ведаў? Што — яна ашуквала яго ці аберагала? Бессардэчнасць гэта ці мужнасць? Што — яна стала цяпер лепшая ці горшая?» (I, 289). Але чалавечнасць і каханне перамагаюць. «Зараз жа збірайся і едзь па дачку! — сказаў ён раптам строга. — Чуеш? Трэба ехаць па яе неадкладна!» (I, 290).

Натуральна, што праслаўляючы сумленнасць, чалавечнасць і высакароднасць, пісьменнік з няменшым пафасам асуджае адваротны бок жыцця — непастаянства, здраду, амаральную эгаістычную выгаду. Апавяданне «Над гаем кружылі буслы» — пра тое, што жонка Ігната Антоля, калі яго арыштавалі, судзілі невінаватага і саслалі ў Сібір, «на другі ж тыдзень пасля яго бяды яна весела выйшла замуж» (I, 297). Яна не прыйшла нават яго праводзіць, а прыйшла з перадачай Яніна, з якой ён, вярнуўшыся, і ажаніўся. Антоля просіць у Ігната прабачэння, прызнае, што «зрабіла тады нядобра, гадка», а цяпер кінула мужа і другі год ходзіць за Ігнатам, «як цень». Але позна ўжо для абаіх. Бываюць у жыцці памылкі, якія пазней нельга выправіць. Таму чалавек павінен быць асцярожны перш за ўсё з самім сабой. Такая асноўная ідэя твора.

Ёсць у Яна Скрыгана і апавяданні агульнафіласофскага зместу: пра жыццё і смерць, пра радасць мастацкіх удач і сум творчых паражэнняў. Адно з самых загадкавых твораў у гэтым плане — апавяданне «Старасць» (1933), пра асобу скульптара Заіра Азгура, з якім пісьменнік сябраваў да арышту і пасля вяртання з ссылкі. Апавяданне і прысвечана Заіру Азгуру. Калі пісалася апавяданне, скульптару было дваццаць сем гадоў. І раптам — старасць. Прынамсі, так думае мастак. «Ён прыгінаецца бліжэй да люстэрка і пільна ўглядаецца. Гэта ён даўно не бачыў самога сябе і цяпер знайшоў новую трывожную прыкмету. Ад скроняў і да самай патыліцы — густыя палосы сівізны. Да таго густыя і незнаёмыя, што нават здаюцца чужымі.

— Няўжо так трагічна шпарка можа прыходзіць старасць? — з жахам думае скульптар» (II, 134).

Ад радасці нядаўняй творчай удачы не засталося нічога. Пісьменнік разумее сябра-мастака: «Якая няўхільная логіка. Вот ляпіў і не ведаў, што аддаў у гліну кавалак сябе. А самога сябе ўжо не вернеш. Пагібель таксама, як і росквіт, набывае інерцыю, і ў яе таксама ёсць свой подым. Страшна...» (II, 134).

Аднак ні аўтар, ні скульптар не з'яўляюцца закончанымі песімістамі. Песімізм у іх складзе душы і ўнутраным свеце — толькі часовае імгненне, выкліканае выпадковым збегам абставін. Яны гэта ведаюць не толькі з уласнага вопыту, а па-філасофску ведаюць, што адзіная крыніца аптымізму чалавека — само жыццё, успрынятае натуральна.

І скульптар абараняе свой аптымізм у спрэчцы з самім сабой. Яму пярэчыць другая частка яго натуры ў абліччы ўяўнага спадарожніка. У час праходкі пасля паспяховай працы скульптар бачыць фізкультурнікаў, якія бягуць па вуліцы. Скульптар захапляецца спартсменамі, бачыць у іх сімвал новай эпохі. Спадарожнік імкнецца развянчаць трываласць адчування скульптара. Ён гаворыць пра манію фізічнай сілы, пра моду на загарэлае цела і мускулы. І бачыць у гэтым прыкметы дэградацыі часу: «Дужы як бык, затое такі самы і дурань» (II, 137).

Старым аказваецца не скульптар, а спадарожнік, бо ён закончаны песіміст. Яму скульптар кажа: «Вы занадта стары. Вы нашмат старэй за мяне, малады чалавек. Вы — смерць, — нагнаў яго скульптар» (II, 138).

Скульптар як творца на раздарожжы. Ён вылепіў жанчыну, якую назваў Найдай, мяркуючы, што яна і ёсць увасабленне веку і самога жыцця. Найда здаецца яму жывой, як у грэцкай міфалогіі Пігмаліён закахаўся ў скульптуру, якую стварыў, і багі, бачачы такі напал пачуцця, ажывілі Галатэю для яго. «Найда! — зноў выхрыпеў скульптар. — У ёй уся мая радасць. Я спарадзіў яе як вобраз свае маладосці, я аддаў ёй самога сябе. Я вылепіў і пацалаваў яе ў губы, і яны былі цёплыя» (II, 141).

Але Найду паглядзела адна з фізкультурніц, якую скульптар бачыў на вуліцы. Скульптар чакае ад яе радаснага рэагавання, але чуе ад яе нешта зусім іншае.

«— Я не хачу быць такою, — урэшце сказала дзяўчына. Скульптар сумеўся.

— Прабачце, вы хочаце...

— Прафесар, — яна яго звала прафесарам, — у вас занадта многа Напалеонаў. Вы расставілі кругом сябе старадаўнасць. Нават Найда ваша чужая, з антычнасці. Прыгожае цела, і толькі. Гэтак трактуюць жанчыну эстэты. А дзе ж у ёй наша эпоха? Дзе душа новага часу?» (II, 143).

Дзяўчына пайшла. У душы мастака адбываецца пераварот: «Скульптар павярнуўся радасны, узрушаны. Майстэрня здалася яму ракою, поўнаю сонца і наплывам дзіўных, тонкіх пахошчаў. І ў гэтым новым, шырокім святле фігура Найды здалася не сваёю, далёкаю, яна нічога не мела агульнага з жывою Найдаю, дыханне, якое аставалася жыць у майстэрні. І ён ужо бачыў, як гэты новы вобраз ён вылепіць — рэальны, невычэрпна багаты, у каторым гарэцьме душа самага шчаслівага, самага разумнага ў жыцці пакалення» (II, 144). З такой трохі ідылічнай ноткаю завяршаецца твор. Мастак змяніў творчую

канцэпцыю, павярнуўшыся тварам да сучаснага, як гэта і патрабавалася ідэалагічнымі ўстаноўкамі таго часу, калі пісалася апавяданне. Робіць ён гэта з натугаю, але яго пераконвае той факт, што падобную пазіцыю засвоілі ўжо людзі з народа, як тая ж фізкультурніца, якая ўяўляецца скульптару новаю Найдаю.

Пісаў Ян Скрыган пра чалавечае і мастацкае аблічча Заіра Азгура і пасля вайны, рэабілітаваным вярнуўшыся ў Мінск. Гэта апавяданне-ўспамін «Рукі на кляновым лісце» (1978). У маладосці Заір Азгур марыў «даць гісторыю Беларусі ў скульптурных вобразах. Пачынаючы ад Скарыны ці, можа, нават раней» (I, 239). На думку аўтара, які пазнаёміўся са зробленым, ён сваю юнацкую мару ажыццявіў.

Філасофскім зместам вызначаецца таксама апавяданне «Запіскі майго суседа» (1932). Эпіграфам да яго ўзяты ўрывак з верша Б. Пастарнака, дзе гаворыцца пра інтымна-філасофскае самапазнанне. Праблема пазнання і самапазнання ставіцца і ў апавяданні «Запіскі майго суседа»: «Чалавек заўсёды павінен шукаць. Чалавеку дадзена вечна нічога не дасягаць такога, на чым ільга было б суняцца.

Гэта агульна.

Прыватна — чалавек эгаістычна шукае самога сябе. Арганічнае часткі сябе ў другім чалавеку. Каб знайсці сваю поўнасць» (II, 125).

У творы асуджаецца Шапенгаўэр. Макш чытае яго творы з мэтай іх крытыкі. Ён піша «крытыку філасофскага ідэалізму на этапе яго адмаўлення». Героі заняты пошукам паўнаты жыцця, праўды і ісціны. Прыводзяцца словы Ювенала: «Жыццё аддаць за праўдзівасць».

Ян Скрыган настойліва працаваў, аналізуючы жывую рэчаіснасць, каб пазнаць філасофію свайго часу. Ён любіў маладосць, маладосць сваіх сяброў і іх саміх, бо тая эпоха несла ў сабе такі ўзлёт мары і рэальных спадзяванняў, ад якіх ва ўсіх іх кружылася галава. Падумаць толькі: хлопцы ад спрадвечнай сахі, ад хат, пакрытых саломай, закліканы былі ў вышэйшы эшалон інтэлектуалаў, якія павінны былі вырашаць лёс далейшага духоўнага развіцця народа.

Вярнуўшыся пасля рэабілітацыі ў Мінск, пісьменнік праз нейкі час адчуў — і справядліва, што яго пакаленне пісьменнікаў, якіх ён ведаў у маладосці, — тых, што расстраляны, загінулі ў Сібіры, і тых, што выпадкам засталіся жывымі, — аказалася амаль напалову забытым. У яго ўзнікае намер вярнуць іх аблічччы сучаснасці, хоць гэта была цяжкая задача.

Цяжкая перш за ўсё таму, што прайшло шмат гадоў пасля іх знаёмства і сумеснай працы ў пару маладосці, і многія жывыя рысы іх знешняга і ўнутранага аблічча маглі сцерціся. Аднак пісьменнік і памятаў шмат, бо, відаць, там, у лагеры і на высылцы, часта згадваў тое, што было яму асабліва дарагім і памятным у яго жыцці да арышту. У выніку сталі публікавацца ўспаміны пра літаратурнае жыццё 20—30-х гадоў, якія пасля выйшлі ў свет асобным выданнем «Некалькі хвілін

чужога жыцця» (1979) з падзагалоўкам «Літаратурныя ўспаміны, сустрэчы, шляхі».

У гэтай кнізе і ў іншых выданнях змешчана пад такой жа назвай апавяданне «Некалькі хвілін чужога жыцця» (1960). Яно пра сустрэчу з Кузьмой Чорным, якая дала Яну Скрыгану магчымасць яшчэ раз пераканацца, якога вялікага маштабу талент гэтага тады яшчэ маладога пісьменніка [...]

Цікавая замалёўка першай сустрэчы з Якубам Коласам [...]

Пакінуў Ян Скрыган грунтоўныя і ўсхваляваныя ўспаміны пра Міхася Лынькова («Нарачанскі чараўнік») і Івана Мележа («Мой сусед Іван Мележ»). Якраз пра нарачанскі стыль жыцця М. Лынькова ва ўспамінах Яна Скрыгана і не гаворыцца, але характар пісьменніка, яго манера паводзіць сябе з людзьмі схоплены дакладна. Адзначаецца чуласць, дабрата, спагаднасць і рыцарская сумленнасць М. Лынькова. У нарысе пра Івана Мележа праўдзіва перададзена схільнасць пісьменніка правяраць напісанае на сябрах і знаёмых, яго часовае палахлівае нявер’е ў самога сябе, звычка не паслядоўна весці плынь зместу твора, а спачатку вылучаць тыя эпізоды, якія сюжэтна склаліся найбольш выразна ў дадзены момант, хоць яны могуць быць з іншай кнігі [...]

Заслуга аўтара цыкла літаратурных успамінаў не толькі ў тым, што ўзнаўляюцца жывыя характары пісьменнікаў, якія пакінулі значны, а часта і выдатны след у гісторыі нацыянальнай літаратуры. У сферы мастацкай творчасці абараняецца права пісьменніка на індывідуальнасць пазнання і адлюстравання свету.

Да арышту, актыўна ўдзельнічаючы ў літаратурным жыцці рэспублікі, Ян Скрыган памятае сустрэчы ў Беларусі многіх сусветна вядомых пісьменнікаў: японца Удзяку Акіта, венгерцаў Бэлу Ілеша, Матэ Залку і Антала Гідаша, паляка Бруна Ясенскага. Яну Скрыгану здарыўся выпадак паказваць выдатныя мясціны Мінска Іаганесу Бехеру. Бачыў і слухаў многіх рускіх паэтаў і пісьменнікаў, сустракаўся з імі [...]

Яна Скрыгана, як ён сам прызнаваўся, прываблівалі тыя пісьменнікі, творчасць якіх вызначалася выразнай індывідуальнасцю як у фабульных пошуках, сэнсавых канцэпцыях, так і ў стылёвай стратэгіі, калі ігнараваўся статус школьнай нормы, а мова выходзіла на мяжу эксперымента. Першым з такіх пісьменнікаў ён называў Барыса Пільняка [...]

Сам жа Ян Скрыган таксама лічыўся адмысловым стылістам як у мовазнаўчай тэорыі, так і ў творчай практыцы. Ён быў паслядоўным змагаром за чысціню нацыянальнай літаратурнай мовы, заклікаў берагчы яе ад канцылярска-бюракратычных скажэнняў, займаючы па гэтай праблеме шырокі спектр пазіцый. Ім апублікавана нямала павучальных артыкулаў, задача якіх дабіцца таго, каб пісьменнікі больш дбалі пра сапраўдную культуру роднага слова.

Пісьменнік вучыць іншых перш за ўсё на прыкладзе ўласнай творчасці, не баючыся прызнацца ў памылковых упушчэннях і недапрацоўках. І гэта вельмі каштоўна, бо ў такім выпадку ёсць канкрэтны наглядны прыклад і ўзор. Ён гатоў нешта паправіць і дапрацаваць. Але ў пытаннях мовы ён бескампрамісны ў сваіх патрабаваннях-парадах. Ян Скрыган пісаў: «Слоўнік — вельмі патрэбная пры рабоце рэч. Ён можа памагчы знайсці неабходнае слова, даць тлумачэнне, абагаціць лексіку. Але ж ён не падменіць сапраўднага адчування мовы» (II, 329). І прыводзіць анекдатычны выпадак, калі на мінскай гуце «Пралетарый» вісела абвестка такога зместу: «Тут прадаецца шлюбнае шкло» (у слоўніку рускае слова «брак» мае па-беларуску значэнне «шлюб»). У артыкуле «Думкі аб мове» (1957) ён сурова крытыкуе артыстаў тэатра імя Янкі Купалы за неахайнасць у мове. У гэтым жа артыкуле Ян Скрыган пісаў: «Ведаць мову — значыць ведаць законы яе будавання, ведаць яе народную аснову. Бо толькі ведаючы народную аснову мовы, можна ведаць, як правільна і проста выказаць думку, як натуральна, паводле законаў гэтай мовы, пабудаваць фразу, дзе якое сказаць слова, патрэбнае іменна да гэтага месца, дзе зрабіць націск, дзе і як вымавіць галосныя, зычныя, цвёрдыя, мяккія, уласцівыя гучанню гэтай мовы. Ведаць мову — гэта ў першую чаргу ведаць, як гаворыць народ, бо яна — сродак зносін людзей» (II, 328). Ён адкідае без усякіх ваганняў «грабянец нормы» (II, 363). Бадай што Ян Скрыган упершыню ўвёў у навуковы і літаратурны абыходак выраз «праўда мовы», разумеючы пад гэтым выразам вельмі многае, і перш за ўсё — праўду адлюстравання жыцця. Ён нагадваў, што «слова любіць, каб з ім раіліся, тады яно будзе служыць мове праўдзіва» («Клопат», 1984). Іван Аляксеевіч вёў цэлую вайну з кніжнасцю мовы ў літаратуры. Ён быў сапраўдным ворагам «грабянца нормы» («Беглыя запісы», 1963). І яшчэ: «Слова любіць, каб яго шанавалі» («Дабрыня і яшчэ сёе-тое», 1984). Але ў Івана Аляксеевіча, гэтага шчырага і нястомнага змагара за чысціню літаратурнай мовы, у творах нямала русізмаў. Гэта, напэўна, ад таго, што пісьменнік залішне строга і літаральна прытрымліваўся прынцыпу пісаць так, «як гаворыць народ». А ў будзённай народнай мове шмат русізмаў.

Для ўсіх рэабілітаваных пісьменнікаў, якія вярнуліся на радзіму да актыўнага творчага жыцця, непазбежна ўзнікала праблема натуральнага творчага ўваходу ў пасляваенны літаратурны працэс, асваення новых эстэтычных прынцыпаў і арыенціраў у параўнанні з 30-мі гадамі, калі яны сілком былі вырваны з гістарычнай паслядоўнасці ідэйна-мастацкага развіцця. Для такіх пісьменнікаў гэта была нялёгкая задача. Ян Скрыган справіўся з ёй паспяхова. У яго творчасці паменшала меладраматычных нагрувашчванняў, знік адкрыта класавы націск пры характарыстыцы герояў. Уся яго творчасць стала рэалістычна больш паглыбленай, па-грамадзянску пэўнай і вострай.

Праўда, напэўна, у Яна Скрыгана, як і ў іншых рэабілітаваных пісьменнікаў, захаваліся рэшткі рамантычнага светаадчування 30-х гадоў, што часам дазваляла ім крытычна глянуць на тое больш прагматычнае жыццё, у якое яны вярнуліся. Так, Ян Скрыган у замалёўцы «Знакі сардэчнасці» (1962) паказаў палахлівасць, няшчырасць, кан'юнктурнасць і карыслівасць часткі пасляваеннай беларускай інтэлігенцыі, што справядліва.

Ян Скрыган пакінуў пасля сябе значную ва ўсіх сэнсах творчую спадчыну, і яна заслугоўвае таго, каб яе чыталі, ведалі і разам з пісьменнікам думалі над тымі праблемамі жыцця, якія яго хвалявалі.

*Віктар Каваленка*



# КРУГІ

## Круг першы

## ПАРОГ

### 1

Не шанцавала майму бацьку на сыноў. Выжывалі адны дочкі. А што гэта за гаспадар без наследніка. Добрыя людзі параілі: калі народзіцца зноў сын, трэба ранічкаю выйсці на дарогу і, хто першы пападзецца, узяць яго за хрышчонага бацьку. Гэта паможа.

І вось як толькі я нарадзіўся, бацька досвіткам выйшаў за сяло. На якую ж дарогу павярнуць? На Сцяпкоў, на Падлужжа, на Сунаі? Лепш на Сунаі: яны ляжаць за нізовінай, далёка відно наваколле. А восень ціхая, усё кругом пуста, аж свіціцца.

Нарэшце на той бок нізовіны нехта паказаўся. Ехаў. Няйначай як шпарка — пыл хоць волкі, а каціўся клубамі. Усё бліжэй і бліжэй, перасігнуў цераз масток; стала відно, што коціць на гнядым жарабцы. А як параўняўся, бацька ўтрупянеў: пукаўскі пан Ёдка. Аднак жа, доўга не думаючы, зняў шапку і бразнуўся перад ім у паклоне. Жарабец стаў.

— Што такое, чалавеча?

— Паночку, родненькі, памажэце!

— А што ў цябе за бяда?

— Сын нарадзіўся.

— Ха-ха, пацешны ты чалавек!

Бацька расказаў просьбу: будзьце хросным, то, можа, Бог і змілуецца.

Казалі, што наш пан быў ліберал, не надта каб людзі яго клялі.

— Адкуль жа ты?

— З Труханавіч.

— А як зваць цябе?

— Аляксей.

— Ну, то давай, Аляксей, чалавек божы. А дзе ж твой сын?

— Дома.

Так і выйшла, што маім хрышчоным бацькам стаў абшарнік. І колькі ад гэтага было мне пакуты: за ўвесь час, пакуль я вучыўся ў Труханавічах, мяне так і звалі Ёдчыкам. Горшай мянушкі, мне здавалася, нельга было і прыдумаць. Доўга я не ведаў, чаму мяне так дражняць.

І брала горкая крыўда: другія ведаюць сваіх хросных, часамі хоць на вялікія святы маюць ад іх гасцінцы, а я свайго ніколі нават не бачыў. Ды гэта ўжо бог з ім, куды горш, што мянушка як бы папікала мяне ў нечым нядобрым, як бы насцярожвала проці мяне маіх аднагодкаў.

2

Першае, што я памятаю, нават не вельмі падобна на праўду. У святочнай хаце, цеснай ад людзей, твары і абрысы якіх зліты ў адну невыразную масу, жаночыя рукі трымаюць кволае дзіця. У белай кашульцы, бледнае і ціхае, яно сядзіць пакорліва, як бы сілячыся зразумець, што тут робіцца. А робіцца нешта незвычайнае, стаіць насцярожана-ўрачыстая хвіліна, і людзі, што тут сабраліся, у маўклівай немаце як бы чакаюць вялікага цуду.

Пазней, праз многія гады сталасці і вандраванняў, я расказаў пра гэты эпізод Ульяне, нямала яе здзівіўшы. Расказаў яго як выпадак, у якім не магу разабрацца: быў ён ці не быў. Можа, я яго прыдумаў, можа, чуў ад каго ці бачыў у сне і неўпрыкмет пачаў лічыць за яву. Але Ульяна сказала, што гэта самая чысцюткая праўда, толькі я не павінен быў бы яе памятаць, бо век мой тады быў не вельмі вялікі. Аказваецца, у той час, калі на шчасце мне шукалі хрышчонага бацькі, у мяне быў жывы яшчэ старэйшы брацік, такі нездараўчаны, што на добры лёс не даваў ніякай надзеі. І недзе перад апошняй яго хвілінаю было спраўлена набажэнства — з бацюшкам, з царкоўнымі песнямі, з кадзільным дымна-салодкім пахам: можа, як самы звычайны людскі абавязак, а можа, усё-такі з тайным спадзяваннем на цуд.

3

Потым, праз даволі вялікі час, калі памяць нічым не адзначыла майго існавання, ужо ярка я памятаю наш двор, адгароджаны парканам ад бацюшкавага агарода, вымашчаныя абгладжаным каменем прыступкі перад парогам, у сенцах камору з вузкімі дзверцамі, за якімі заўсёды стаяў гаркаваты пах мучнога пылу і мышыная кісліня. Памятаю вуліцу з выезджанай вузкай, як жолаб, сярэдзінай, у якую пасля дажджоў сцякала вада, на той бок калодзезь з прыкованым да пругла вядром і вечна мокрым пляскатым каменем, паложаным пад нагамі. Цераз двор ад калодзезя на высокім падмурку стаяў вясёлы дамок дзядзькі Сяргея з жоўтымі аканіцамі, а за ім, прытыкаючы к плоту, атуленая цёмнымі кустамі бэзу, — школа. Далей, наводшыбе, царква з шырокім цвінтаром, абнесеная мураванаю агароджаю, з высокаю белаю званіцаю. За царквою канчалася маё ўяўленне пра той канец сяла. Яно цягнулася бог ведае як далёка, і ўсё, што там рабілася і жыло, было мне невядома. Памятаю, мне вельмі хацелася там пабываць, паглядзець, ці такія самыя і там двары, ці такія людзі. І аднаго разу спраўдзілася маё жаданне. Хавалі яшчэ не надта старога чалавека, недалёкага нашага суседа, ці то ў насмешку, ці з пашаны празванага Каралём. Па вуліцы ішоў невялікі гурт людзей, неслі пратэсы і запаленыя тоненькія свечкі, нехта зацягваў жалобныя песні, нехта нясмела спрабаваў галасіць. Папераздзе ішоў бацюшка ў блішчастай рызе, полымя свечак хісталася, з пратэсаў учэпіста глядзелі абліччы святых. Я таксама ўціснуўся ў гурт, перш ззаду, а тады прашыўся бліжэй да труны і пайшоў да самага канца, забыўшыся, што гэта далёка і што варочацца дадому будзе страшна. Гэтага дня я адкрыў, што ў тым канцы сяла, на косым пагорку з чубком рэдкага беразняку, сціснутага невысокім плотам, адзінока і вусцішна стаяць могілкі. Бачыў, як апускалі ў магілу труну, чуў, як стукаюцца аб яе века свежыя гліняныя камякі зямлі...

4

Гэты канец нашага сяла быў мне куды мілей. На той бок вуліцы, за плотам, лявей ад калодзезя, стаяў стары клён; шырокімі шатамі свайго лісця ён прыкрываў тугі куп’істы мох на страсе падслепаватай хаты Рыжковых, жылаватае ж карэнне выходзіла на вуліцу, па ім штодня хадзілі жалезныя шыны калёс — і ўсё роўна яно спляталася ў яшчэ больш тугія

вузлы. За мастком, у нізіне, патроху запускаўся шырокі двор дзяковай сядзібы, бо пасля смерці гаспадара тут не было каму пільнаваць парадку. Сын, начытаны ў чужых кнігах, свайго лёсу не знайшоў, вандраваў бог ведае дзе па свеце і на сяле памятаўся тым, што ў часе пажару, выскачыўшы ў споднiках, прасіў кожнага, хто збягаўся сюды, каб ён выратаваў яму з агню гальштук. Далей, на горцы, памятаю манапольку; на яе паліцах уздоўж сцен цеснымі радамі стаялі пляшкі лядзяна-празрыстай вадкасці з белымі ці чырвонымі шапачкамі сургучу на халодных рыльцах. Няйначай як сядзелец прыехаў не так даўно: дом на высокім падмурку, тварам на вуліцу, не меў яшчэ ганка, аднак званок, прымайстраваны ўсярэдзіне над дзвярыма, кожны раз весела апавяшчаў гаспадара, што нехта прынёс яму, можа, апошні свой грош.

За сялом, аддзеленая жоўтымі палосамі намытага з гарыстых палеткаў пяску, стаяла цёмная кузня з яе чарадзейным звонам, з іскрамі ў горане, з раздумна-бяспечнымі, трохі выхвальнымі размовамі тых, хто тут збіраўся, пакуль каваўся конь, наварваўся сашнік ці перацягвалася кола. Закураны, у дымна-каляным фартуку, каваль пастукваў тоненькім малатком па кавадле, паказваючы, дзе ў зырка-агністы метал павінен ударыць памагаты. Трохі направа ад кузні, на косым узгорку, стаяў макгазын з чорна-смаловага абветранага бярвення, з шырокім рыпучым прыклетнікам, з дзвярыма, акованымі жалезнымі палосамі, — у ім хавалася гуртавое збожжа, каб на выпадак навалы, пажару ці якога другога няшчасця, можна было запамагчыся. Вартаваць макгазын хадзіла ўсё сяло, заступаў чаргу той, каму ў хату прыносілі булаву.

З гэтага канца сяла, ад крыжа, на якім вісеў распяты алавяны Хрыстос, разыходзіліся дарогі ў свет. Усю найпершую мудрасць жыцця, няхай сабе пазнейшым усведамленнем, спасцігаў я адсюль, з гэтага канца сяла...

5

У школу я пайшоў на сёмым годзе жыцця. Хоць яна была недалёка, але мне, як і другім, канцавым, пашылі палатняную торбу. Было весела складваць туды кнігі, дошку з грыфелямі, новы, выдзеўбаны з дзерава яшчык (гэтак у нас зваўся пенал), і, павесіўшы яе цераз плячо, ісці на ўрокі.

Потым трывожная тайна літараў. Потым першая радасць, калі з літараў склалася слова. Памятаю гэтую хвіліну. Дома я стаў на лаве, каб адарваць лісток у календары, што вісеў на сцяне каля стала. Перад тым як адарваць, пачаў складаць на ім літары. І на вялікае дзіва прачытаў: «Сре-да».

— А як будзе разам? — папыталася Ульяна. Яна цікавала за гэтаю хвілінаю.

— Среда, — адказаў я.

— А што гэта значыць?

— Серада.

Гэта было адкрыццё. Толькі дзівіла, чаму слова няправільна напісана: не «серада», а «среда». Але Ульяна растлумачыла, што напісана яно правільна, але мы няправільна гаворым. Мы мужыкі, і ў нас мова мужыцкая, а я на тое і вучуся, каб выйсці ў людзі. Сказала, што вучыцца мне трэба многа і старанна, бо іначай так мужыком і астануся.

Не скажу, каб тлумачэнне надта памагло мне вучыцца, але гаворка такая ўпершыню натыкнула на думку, што людзі не роўныя. Прыгледзеўшыся, і папраўдзе я сам убачыў, што калі на сяле хто больш-менш выбіваўся ў людзі, то гаварыць стараўся іначай — па-гарадскому. Ён іначай і выглядаў — акуратна, чыста, і людзі з ім іначай віталіся — яшчэ здалёк і вельмі пашаноўна.

Уласна, з гэтае першае прачытанае «среды» я пачынаю памятаць і сябе, і сваё наваколле.

Памятаю высокі школьны ганак, глухі цёмны калідорчык, направа дзверы ў клас. Нешта прыемна-трывожнае і ўрачыстае было ў тым, калі мы садзіліся за чорныя лакаваныя парты з адкіднымі векамі, расстаўленыя пад наш рост: меншыя, на першы і другі клас, — спераду, большыя, на трэці і чацвёрты, — ззаду. Памятаю нашу настаўніцу Лідзію Сулкоўскую, стройную маладую жанчыну з пакорлівымі, як бы вінаватымі вачыма. Ад яе заўсёды ішла нейкая строгая добрасць, святочная чысціня і далёкая тайнасць. Тайнасцю была яе манера адзявацца проста і дасціпна, здавалася, у самы звычайны крамны гарнітур, з-пад жакеткі якога, аднак, вельмі спакусліва выбіваліся бялюткія брыжыкі блузкі; гаварыць прыгожаю, не селавою, а гарадскою моваю; быць бацюшкаваю дачкою, жыць невядомым нам жыццём у вялікім доме з высокімі чыстымі вокнамі, з кустамі густога бэзу перад ганкам, з тугім змрокам саду ў глыбіні і быць нашай настаўніцай. Мы любілі і пабойваліся яе. Любілі за тое, што ў вачах яе была як бы

вечная трывога за нас, за цярплівасць, з якой яна кожнаму з нас аднолькава спакойна ўдзёўбвала ісціны навучання, а пабойваліся, што часамі добрасць саступала месца строгасці, калі трэба было станавіцца ў кут на калені. Пад такую кару падпадалі найбольш байбусы з чацвёртага класа, якія да таго ж у кожным класе заседжваліся па некалькі гадоў, але і на нас гэта наганяла страху.

6

Бацюшка нас навучаў закону божаму, царкоўна-славянскай мове і граматыцы. Нам трэба было лёгка разбірацца ў цітлах, ведаючы, якія літары пад імі схаваны. Мы вучыліся парадку царкоўнага набажэнства, чыталі псалтыр, часаслоў, актоіх, вучылі малітвы і псалмы. Як не дзіва, але найцяжэй нам давалася чытанне.

Бацюшка прыходзіў у сваёй доўгай чорнай расе, вузкай у паясніцы, шырокай у падоле, з маленькаю рудою бародкаю, з доўгімі, рэдкімі, па каўняры раскіданымі валасамі, з ліхаманкавым агнём у вачах, і палахліва аглядаў клас. Высокі, худы, ён здаваўся яшчэ худзейшы, бо нёс перад сабою выслізганы да жоўтага бляску тонкі кій з рагулькаю наверсе, у якой заўсёды ляжаў вялікі палец яго рукі. Мы прывыклі адказваць урокі бегма, спяшаючыся, глынаючы апошнія гукі, бацюшка ж патрабаваў кананічнага вымаўлення. Мы чыталі: «Блажені плачушчі, яко ті утешатся. Блажені алчушчі і жаждушчі правды, яко ті насытятся».

— Ка-ак? Повтори! — перабіваў бацюшка.

Мы паўтаралі, але вымаўлялі гэтак жа, як і першы раз.

— Остолоп, зачем же ты «і» в каше съел? Говори за мной: «Блажені плачушчі-і, яко тіі утешатся. Блажені алчушчі-і і жаждушчі-і правды, яко тіі насытятся. Блажені нішчі-і духом...»

Мы гаварылі за бацюшкам як бы і правільна, але як толькі паўтаралі самі, уся правільнасць знікала: у нас аніяк не выходзіла двух «і» на канцы.

Бацюшка крывіўся, як ад болю, уставаў з крэсла, вочы шалёна акругляліся, ён хапаў сябе за валасы, ірваў іх, падымаў кій, аддаваў яго таму, хто гаварыў урок, і крычаў:

— На, бей меня, терзай меня, жги на костре, только не издевайся над божьей молитвой. Безбожники, богохульники, вам бы только распинать Христа на кресте...

Ён крычаў высокім, тонкім голасам, у вачах блішчалі слёзы, нам рабілася страшна...

7

Памятаю, як Ульяна выходзіла замуж за Данілу. Ён таксама быў з Каралёў. Мабыць, усім Каралям давалася гэтая мянушка не за дастатак, а за спакойны розум. Даніла быў з бедных. Ён ездзіў у Амерыку на заработкі, прабыў там сем гадоў. Прыехаў адзеты, з чамаданамі, аздобленымі блішчастымі спражкамі, абцягненымі рыпучымі рамянямі, загадаваў рыжыя вусы, навучыўся збольшага тамашняй мове, і з таго часу пачалі зваць яго амерыканцам. Невысокі, негаваркі, ён нават сваім амерыканствам не надта быў відзён, выхваляцца не ўмеў, але Ульяна падмеціла ў ім добрую, чулую душу. Сама ж Ульяна была рослая, статная, у меру ў ёй было і хараства, і талкавітасці, і жаночага такту. Славы прыбаўляла яшчэ і тое, што на клірасе ў царкве яе голас даваў красу ўсяму хору.

Памятаю, як пачалася імперыялістычная вайна і ўсё сяло стагнала ад плачу, калі забіралі навабранцаў. Ульяна асталася адна з дваімі малымі на руках, бо Данілу таксама забралі ў салдаты. Памятаю пісьмы, над якімі яна плакала, бо пісьмы прыходзілі з фронту, дзе была смерць. Аднаго разу ў пісьме Даніла прыслаў фотакартку. Ульяна абрадавалася, што бачыць яго, але тут жа загаласіла ў слязах. У вайсковай гімнасцёрцы, падперазаны шырокім рамянём, Даніла стаяў на ўвесь свой невысокі рост, нават відны былі блішчастыя боты: не жарты — унтэр-афіцэр Усць-Дзвінскай берагавой артылерыі. Праваю рукою ён апіраўся на вузкую, збітую з пруцікаў падстаўку, а левую залажыў за спіну. Гэтая рука і стала прычынаю трывогі і слёз: няйначай як яна адарвана, бо навошта ён хаваў бы яе ззаду...

Памятаю ўдоў і салдатак, якім Ульяна пісала пісьмы на фронт.

І неўзабаве на сяле пачалі паяўляцца першыя калекі: то на мыліцах, то з пустым рукавом, то з хрыпучымі грудзямі. І пачалі хадзіць трывожныя чуткі: з фронту людзі ўцякаюць, немец прэ на ўсю сілу, зараз будзе тут. Адале пайшлі бежанцы, на худых пазамульваных конях, з рыззём на вазах, з дзецьмі на руках, адыходзячы ўсё далей на ўсход, просячы хлеба і пакідаючы пасля сябе пры дарогах невялічкія курганкі з

бярозавымі неакоранымі крыжамі на іх. А фронт набліжаўся, вечарамі чутно было, як глуха стагнала зямля...

Вельмі доўга гэтыя ўражанні пяклі маю памяць. Намнога пазней, калі я збіраўся стаць пісьменнікам, я злажыў з іх апавяданне, назваўшы яго «Шорсткая дарога». Не памятаю, хто з пісьменнікаў рабіў тады на мяне найбольшы ўплыў, але напісалася яно не сваім голасам. І праз тое я ніколі не ўключаў яго ў пазнейшыя кнігі, як вучнёўскае практыкаванне. Але аднаго разу пры нейкай выпадковай нагодзе Іван Грамовіч[1] успомніў гэтае маё апавяданне, сказаўшы, што калісь яно зрабіла на яго вялікае ўражанне, што ён нават плакаў. І я падумаў, што не будзе ніякага граху, калі я ўключу яго ў гэтую кнігу[2], трошачкі прайшоўшыся алоўкам па наўмыснай манернасці тагачаснай стылістыкі.

8

Бацька мой, як і ўсякі грэшны чалавек, вельмі ж хацеў забагацець. Ён залез у даўгі — у людзей, у зямельным банку — і купіў сабе пад Слуцкам кавалак зямлі. Няўдобіцы — пяскі, балоты ды імшарнік — самай таннай, абы толькі больш. Спадзяваўся на сваю цягавітасць і сілу: што ўсё гэта можна будзе пакарчаваць, выцерабіць, пазрэзваць куп’ё, асушыць.

Доўгім вузкім балотам зямля дзялілася на дзве палавіны: з гэтага боку Хваевіца, з таго — Саладухі. Назвы, мабыць, вельмі добра перадавалі сутнасць: Хваевіца — што калісь гэтыя пясчаныя ўзгоркі былі ўкрыты нізкарослым хвойнікам; Саладухі — што бралі многа поту, марнай работы, а вылезці з нішчымніцы не давалі. З імі і звязаны мой першы ўспамін.

Ціхі, веснавы, яшчэ даволі халаднаваты і хмурны дзень. На нізкім грудку стаіць наша маленькая, з тонкіх хваёвых вяршалін, на адно акно зрубленая хатка. У ёй няма сянец, яны намечаны толькі першым вянцом, паложаным на кругляку, і кожны раз, ідучы ў хату, іх трэба высока пераступаць. Страха недакрыта, па столі ходзіць вецер, голыя кроквы глядзяць у неба, на гэты канец, дзе будуць сенцы, выходзяць канцы лат. Двор адным канцом упіраецца ў імшарыну, поўную з краю зялёнай збраснявелай вады, у якой увесь дзень заходзяцца жабы, другім — у канаву, выкапаную бадай што перад самым акном. За канаваю праз маладыя лазінкі відзён слабенькі след дарогі, толькі нашай дарогі, бо, апроч нас, па ёй больш ніхто не ездзіць.

І двор, і хату, і беспрасветнае наваколле я памятаю толькі таму, што ўсё гэта звязана з зусім невялічкай падзеяй. Няйначай як я ў нечым правінаваціўся — ці то не зачыніў дзвярэй у хату і там, убегшы, мог нашкодзіць сабака, ці не ўпільнаваў накрытай сухім ламаччам ускапанай пры сцяне градкі і яе маглі разгрэбці куры, — але памяць трымае хвіліну, калі я, босы, у кашулі, з-пад якой мільгаюць мае голыя белыя ногі, уцякаю ад бацькі, які, зняўшы папружку, збіраецца мяне ўшчунуць.

— Ах ты абармот! Ах ты разбойнік! — ціха грозіць, даганяючы, бацька, і мне, памятаю, не так страшна папруга, як душыць крыўда і горнасць, што я не вінаваты: проста захацелася было спаць...

Першы ўспамін пра Хваевіцу таксама кароткі, як міг бліскавіцы. І таксама абрывак нейкай падзеі.

Рэдкі чысты лясок, пакінуты пасля росцерабу на патрэбу гаспадаркі. Тыльнаю сцяною да яго стаіць хлеў з нізкаю саламянаю страхою, тоўстая хваіна падымае над ім свае цяжкія пакарабачаныя сукі. На ледзьве значной дарожцы, што праходзіць паміж хлявом і лесам, лена разваліўся параконны плуг, выпражаны, мабыць, зусім нядаўна, бо тут жа раскінуты хамуты, вераўчаныя пастронкі, і нават грудок зямлі, выхаплены сашнікам з травою, яшчэ не абветраў. За канцом хлява вароты ў двор, і там, у яго глыбіні, я ведаю, стаіць хата. Наша хата, але я ў ёй ніколі не быў, бо там жывуць чужыя людзі. Па нейкай патрэбе туды пайшоў бацька, а я чакаю яго, і мне здаецца, што ён бавіцца немаведама як доўга.

Толькі намнога пазней я ўведаў, што труханавіцкую сядзібу бацька намерыўся пакінуць у пасаг старэйшай дачцэ Ульяне. Але яна была яшчэ ў дзеўках, рабіць, такім чынам, прыходзілася на дзве гаспадаркі. І, высіліўшыся, збольшага забудаваўшыся, бацька здаў хваевіцкае гнездзішча ў арэнду слуцкаму кавалю Лейбу, а сам выселіўся ў Саладухі. І няйначай як сюды прыходзіў нечага пазычаць, можа, нават коней, каб завезці ламачча на грэблю, якую штогод трэба было гаціць цераз балота, каб не зусім адцурацца ад свету, жывучы ў тых Саладухах.

## 9

Хваевіца прывучыла мяне к лесу, к жадобе да людзей, к раздумнай адзіноце. Помняцца найбольш зімовыя, бясконца доўгія вечары. Бывала, гарыць лучнік, бо газы не заўсёды

стае да нядзелі, яе трэба прывозіць з Слуцка, а гэта бывае не так часта. На дварэ круціць снег, у коміне шалёна скавыча вецер, за марознымі шыбамі апраметная цемень. Бацька нешта майструе — з гэблем ці са стругам, — маці сядзіць за прасніцаю, сёстры робяць рукавіцы ці шыюць. Пад лучніком стаіць цэбрык з вадою; перад тым як упасці туды, пляскатае вуголле на канцы лучыны курчыцца і сіпіць тонкім сінім піскам, а калі ўпадзе, коратка хруснуўшы, радасна ўспыхне агонь, на хвіліну высветліўшы і бацькаву бараду, і кудзелю ў прасніцы, і марозныя ўзоры на цёмных шыбах. І на душы расце трывога, і ўсё нечага чакаеш, нечага чакаеш: ну няхай бы здарыўся цуд і хоць нехта зайшоў бы...

І аднаго разу цуд такі здарыўся.

Памятаю, там, у цемры, у завірусе, за акном, раптам нема зайшліся сабакі. Потым ціхі стук у шыбу. Накінуўшы кажух, бацька выходзіць на двор. Яго там доўга няма, потым разам з марозам, што шэрым валам перакаціўся цераз парог і расплыўся па доле, увальваюцца тоўста апраненыя мужчыны, абіваюць валёнкі, атрэпваюць каўняры, авечыя шапкі. Адзін мажны, з рыжаю злямчанаю барадою, другі ніжэйшы, шыракатвары, аднавокі. Я не ведаю, як выглядаюць разбойнікі, але мне здаецца, што ён падобны іменна на разбойніка.

— Добры вечар, — кажуць яны, расхінаючыся. — Коні збіліся з дарогі, прысталі, просімся пераначаваць.

Маці коле распал, раскладае на прыпечку пад трыножнікам агонь. Пасля вячэры размовы — прыгоды, здарэнні, выдумкі — бадай што на ўсю ноч. Тут і тапельцы, і разбойнікі, і нячысцікі, і насланнё. Мяне даўно прагналі спаць, ды дзе тут заснеш, калі ад страху баішся заплюшчыць вочы...

А вось яшчэ хваевіцкая карцінка. Зіма. Таксама доўгі калядны вечар. Пара класціся спаць. Сунуўшы ногі ў атопкі і накінуўшы адзевак, я выходжу па малой патрэбе на двор. Вецер расхінае крыссе, пякучым снегам б’е ў шчокі. І раптам недзе далёка ў бяскрайняй снежнай цемрадзі пачынаюць выць ваўкі. Перш адзін на нізкай доўгай ноце, а тады да яго недзе яшчэ далей абзываецца другі, нават трэці, і гэтыя два ці тры галасы будуць то чаргавацца, то зліваца ў адзін, наганяючы ў душу магільны вусцішны холад. Мне пачынае здавацца, што галасы падступаюць блізка, вось яны ўжо недзе ў нашым ляску, вось за варотамі, за хлявом, зараз на двары заблішчаць ваўчыныя вочы. Мяне працінае холад і страх, я калачуся, але

не магу скрануцца з парога і не спяшаюся бразнуць клямкаю, сілячыся пастаяць яшчэ хоць з хвілінку, як бы яна мне нарэшце павінна адкрыць нейкую вельмі вялікую тайну...

А вось цёплае веснавая раніца. Я прачынаюся, чую, як маці тупае каля прыпечка, па хаце разносіцца такі смачны пах блінцоў, што мне хочацца тут жа з’есці хоць адзін.

— То папрасі тату, каб памаліў цябе.

Я выбягаю на ганак босы, лёгкі ад свежай вады, якой толькі што прамыў вочы, і крычу: — Тата, памалеце мяне!

Бацька нешта майструе на канцы двара пад паветкаю і, не перастаючы рабіць, загадвае мне хрысціцца. Потым, аддзяляючы слова ад слова, цераз увесь двор гаворыць малітву: «Отча наш, іжа ясі на небясі...» Я паўтараю за ім словы ўсяе малітвы, потым, ужо завучана, скоранька канчаю: «Ва імя Аца, і Сына, і Святога Духа, амін», зноў хрышчуся і весела бягу ў хату, пераскокваючы высокі парог. Блінец ужо ляжыць у місцы, цёплы, духмяны, зверху блішчаста намазаны здорам.

10

Пазней я пасвіў кароў. На лета, пасля школы, я прыязджаў ад Ульяны, і на мне ляжала пастухоўская работа. Нам прывозілі сваю жыўнасць — авечак, выпусткаў цялят — і Ульяна з Труханавіч, і Аўдоцця з Нівы, і добрыя суседзі па купленых дзялянках з Гарадзішчаў: у вас тут прытачна, вялікая лясная разлегласць, няхай палетуюць у чарадзе. Пасвіць было цяжка, але такая ўласцівасць дзяцінства, што нават яго слёзы памяць пасля ператварае ў хвілінкі мілай далёкай красы. Бывала, на золку, калі будзіць маці, здаецца, немаведама што аддаў бы, каб яшчэ кропельку падрамаць, аднак помніцца толькі асалода, з якой цягнецца гэтая кропелька. Асабліва цяжка выплысці са сну, калі гудуць жорны, і хочацца глыбей і глыбей на сябе нацягнуць коўдру і бясконца знікаць у тым рытмічным гудзенні. Або якая мілата хадзіць за статкам босымі нагамі па лужах пасля дажджу, ступаць па свежай халаднаватасці травы. Або ляскаць пугаю-дратаванкаю так, што па лесе коціцца пошчак, а на траве астаецца тугая выбрытая палоса.

Або якая смаката, калі маці ў торбу з сабою паложыць драбок цукру, і ты яго грызеш з чорным хлебам, ці спелы яблык, ці пляшку малака, заткнёную драўляным коркам, і яно пахне домам, матчынымі рукамі...

Пазней, калі я ўжо вучыўся ў Слуцку, на той пастухоўскай пасадзе прычыніўся выпадак, які мог бы каштаваць мне жыцця. Я схапіўся з двума ваўкамі.

Невялічкая мая чародка — каровы і авечкі — пасвілася на ўзлеску сярод кустоў арэшніку, маладога беразняку. Восень, кругом ціха, бязлюдна, даўно пакошана і звезена сена, на кустаўі пачынае жаўцець і аблятаць лісце. Я стругаю дужку — пляту кош. І раптам з-за шырокага куста выскачыў вялікі жоўта-шэры звер. Я ведаў, што тут недалёка будуецца яшчэ адзін пасяленец, Змітрок з Васілінак, і ў яго ёсць вось такі ж брудна-шэры сабака. Не паспеў я падумаць, чаго сабака бегае тут без гаспадара, як ён з разгону кінуўся ў авечкі. Авечкі шуснуліся ўбок, але ён управіўся схапіць адну і сіліўся закінуць яе за спіну. У руках у мяне была толькі недаструганая дужка. Я распаразаў папругу з меднаю замашною салдацкаю бляхаю і кінуўся ратаваць. Бачу, як ашчэранымі зубамі звер клычыць авечку, бачу яго страшныя вочы, але лезу на яго і перад гэтымі вачыма махаю бляхаю і крычу: «Ага, воўка!» Што гэта не сабака, а воўк, я, мабыць, ужо здагадаўся, бо тут жа нейкім другім бакавым зрокам бачу, як з-за другога куста выскачыў яшчэ адзін такі ж самы звер і мчыць у гурт авечак. Усё рабілася само, ніякага страху я не чуў, не было калі яму паявіцца — махаў і крычаў нема і апантана, налазячы на гэтую ашчэраную зяпу, — і дзіва: воўк выпусціў авечку і адскочыў. Авечка падхапілася і пабегла за ім, але воўк ужо забягаў за куст. Я кінуўся наперарэз другому, махаючы тою ж спражкаю, як агнём, усё гэтак жа нічога не памятаючы.

Толькі тады, калі яны адбеглі, мне стала страшна, і я ўбачыў, што ўвесь калачуся.

11

Бацька быў патомны труханаўскі мужык. (Дарэчы, увесь час мяне не пакідае перакананне, што ўсе Скрыганы паходзяць толькі з Труханавіч. Дзе б ні былі. Ёсць яны і ў Маскве, толькі ўжо з перайначаным канчаткам — Скрыгановы). Ён ведаў усе прафесіі, што патрэбны на сяле, умеў хадзіць каля зямлі, пілаваць на сталюгах дошкі, шчапляць і гадаваць сады, пакладаць малых кныроў; любіў сталярыць, бандарыць, рабіць калёсы і сані, саломаю ці гонтамі крыць стрэхі, цяслярыць, будавацца. Будоўля асабліва была яму па душы. Сёлета ён мог паставіць хату, але на той год перадумаць, што не тымі вокнамі

яна глядзіцца на сонца або стаіць не на тым месцы двара, і тут жа раскідаць яе і пачаць будаваць нанава. Самая вялікая бяда, што не было яму памагатых. Дочкі — ці ж гэта работнікі? Але ён камандаваў імі, ніколі нават не задумваючыся, што ў іх не мужчынская сіла. Ён не любіў і не ўмеў хварэць, усякую хваробу пераносіў на нагах, маючы найглыбейшае перакананне, што самы лепшы лекар — работа. Чужую хваробу лічыў за прытворства, глядзеў на яе як на спосаб пагультаяваць. Набожны, ён спраўляў усе святы, маліўся, ставіў свечкі, біў да самага долу паклоны ў царкве, але не лічыў за грэх у любое свята згрэбці і пакласці ў копы сена, звезці ў гумно снапы, асабліва калі надвор'е гразілася дажджом.

У яго былі паломаны абедзве нагі. Адну раструшчыла ў галёнцы, калі ён, будуючыся ў Труханавічах, вазіў з лесу бярвенне і яго на ўхабе з размаху заднімі санькамі — як у нас звалі, сучкаю — прыціснула да хвоі. Другую паламаў, калі будаваўся ў Хваевіцы. Зруб ужо быў высокі, напарнік цягнуў вяроўкаю новае бервяно, бацька памагаў яму знізу падпораю. І вось, калі канец ужо быў паложаны на сцяну, а вяроўка знята, бервяно слізганула, паляцела ўніз, ён не паспеў адскочыць. Пасля ўсё жыццё ён хадзіў не вельмі складна, адною нагою ступаючы карацей, другою даўжэй.

Пра сябе ён ніколі нічога не расказваў. Ён быў не надта вялікі ростам, але дужы. Я заўсёды адчуваў прыліў гонару, калі ад каго чуў пра яго сумленнасць, працавітасць і сілу. Мне здавалася, што ад яго нешта перадалося і мне, бо я ніколі не паддаваўся сваім аднагодкам ні ў спрыце, ні ў дужанні.

Памятаю, расказвалі, што некаму гуртам яны будавалі гумно. Ставілі шулы. І якраз тады, калі мужчыны сабраліся спусціць шула ў яму і паднялі яго верхні канец, бацьку здалося, што яма не так добра зачышчана ў дне, ён скочыў туды з рыдлёўкаю, а шула камлём шуснула яму на плечы. Ён напяўся, крактануў, і шула, толькі што ачэсанае, сырое, дубовае, выскачыла наверх.

Ён быў двойчы жанаты. Першая жонка памерла, нарадзіўшы толькі адну дачку Аўдоццю. Я памятаў яе ўжо дарослаю жанчынаю, калі яна, выйшаўшы замуж у Ніву за Хведара Лапца, прыязджала да нас у госці. Ён — красун, весялун, майстра на ўсе свае залатыя рукі, з светлымі валасамі і лёгкім голасам — заўсёды прывозіў з сабою нейкую адмысловую, вельмі чалавечую лагоду. Нам, малым, ён нарываў самых спелых вішань, спрытна лазячы па дрэвах; з бацькам за

сталом гаварыў пра гаспадарку, з маткаю на прызбе пра сваіх дзяцей — Марылю і Зосю. Усім было добра ад яго. Аўдоцця, белатварая, высокая і зграбная, уся свяцілася сваім шчаслівым лёсам. Толькі намнога пасля ўжо, калі быў дарослы, я дазнаўся, што маме яна няродная дачка, і дзівіўся той дружнасці, якая ляжала між імі. На ад'езд ёй стараліся як больш накласці ў воз гасцінцаў — яблыкаў, груш, а маці неўпрыкмет ўкручвала ў анучкі скаромнага. У імперыялістычную вайну Хведара забралі ў салдаты, а праз два гады ён ехаў дадому на пабыўку. За ўвесь час на франтах яго не зачапіла ні адна куля, а калі садзіўся ў цяплушку, поўную салдат, учапіўшыся ўжо на хаду, нехта, брыдкі душою, піхнуў яго ногцам, і рука папала пад колы. Памятаю, колькі я плакаў, калі, пасля выздараўлення, ён зноў прыехаў да нас з Аўдоццяю, і ў яго, схуднелага, бледнага і пацішэлага, востра падымалася ўверх сухое плячо.

— Што там рука, — сказаў ён бацьку спакойным галасам, — магла і галава папасці пад колы... Ну не той гаспадар ужо я буду, дык што ж зробіш.

Памятаючы пра нас, малечу, і, мабыць, не хочучы, каб мы думалі пра яго як пра калеку, ён, чапляючыся адною рукой, зноў залез на дзерава, каб нарваць нам самых спелых вішань.

Адною рукою ён спрабаваў і араць, і касіць, і сталярыць, але на скорым часе прыкінуўся пастаянны боль галавы, не стала ні спрыту, ні сілы, так і патухаў ён паволі і доўга.

12

Другую жонку бацька ўзяў з Грэска, пасля чаго ў Труханавічах нас і празывалі Грэжанчыкамі. У мацеры нас было адзінаццацера; трое памерла да мяне, двое — пасля мяне, я памятаю іх страшную смерць.

У Хваевіцу старэйшаю дачкою прыехала Таццяна. Ёй вельмі не пашанцавала. Недзе, яшчэ ў малыя гады, яна цяжка перахварэла на залатуху, асталася глухою. Невысокая сабою, ціхая, пакорлівая, пакорліва яна несла і свой лёс, нідзе не выстаўляючыся, усім саступаючы, не замінаючы малодшым выходзіць замуж, стараючыся, каб ад яе ішло толькі дабро. Гаворку з людзьмі ёй заменьвалі кнігі, на якія яна выбірала святочныя дні ці часіны між сну. Можа, ад адзіноты, а можа, спадзяючыся на палёгку, яе пацягнула ў набожнасць: я ніколі не бачыў, каб хто другі з такою гарачаю вераю і самазабыццём

шаптаў перад абразамі свае малітвы і каб у каго другога ў вачах было столькі адданасці.

Яе паказвалі дактарам (вядома, калі было позна ўжо), вазілі да шаптух, але спадзяванні на папраўку ўсё гаслі і гаслі. Яна звыкалася з сваёю адзінотаю маўкліва і пакутліва. Памятаю, аднаго разу, зайшоўшы з палявання і будучы пад вясёлым настроем, палясоўшчык з Зарачанкі, нястомны жартаўлівы заляцальнік да чужых жонак, Корбут Палікар пры ўсіх пацалаваў яе, і, можа, з месяц пасля гэтага я бачыў, як на яе губы, калі яна аставалася адна, набягала ціхая шчаслівая ўсмешка, як цень таго беглага жартоўнага пацалунка. Якое ж дарагое яно, гэтае чалавечае шчасце, калі пра яго толькі марыш. І наўрад ці завуць яго гэтым добрым словам, калі яго надта многа.

Потым ішла Лізавета, з характарам зусім непадобным. Паказная ростам, з некідкой, але асаблівай, трохі цяжкаватай прыгажосцю, яна любіла непакорства, мела незалежны погляд на законы сям'і і гэтым як бы вылучала сябе над другімі. Бацьку з яго гаспадарскім характарам камандаваць Лізаветаю было нялёгка; аднаго разу, калі яна сабралася ўпрочкі, прыйшлося даганяць яе конна і варочаць сілком. Гэтая падзея доўга ў нашай сям'і не забывалася. І было падобна на дзіва, што да яе раптам схіліўся самы самавіты і самы прыгожы на ўсё наваколле дзяцюк Есіп Шыманскі з Гарадзішчаў. Ён быў высокі, увесь светлы — светлавалосы, светлавусы, светлабровы, — спакойны і рахманы, як звычайна бываюць людзі яго рослай пароды. Аднаго разу ён ішоў на спатканне, на рэчцы сарвала мост, ён перакідваў з палі на палю кладкі, паслізнуўся, да берага дабраўся плыўма. На ім былі новыя шаўровыя боты, што на той час лічылася вялікаю раскошаю, і першае, што сказаў Лізавеце, выплыўшы: «Ах, якое недарэчнае ўтрапенне, боты ж, мабыць, прападуць!» Гэта была хвіліна разгубленасці, шкадавання дарагой прыгожай рэчы, бо Есіп ніколі не быў скупы, наадварот, меў натуру добрую і шырокую. Нават пасля ўжо, выйшаўшы замуж, калі Лізавета паяўлялася ў нас, то ўсё роўна адчувалася нейкая падкрэсленая ёю зверхнасць, што вельмі замінала жаданай цеплыні гасцявання.

Аксеня і Тэкля ў некаторай долі паўтаралі Таццяну памяркоўнасцю, добрым ладам душы, зычлівым, чулым паслушэнствам. Толькі ў Аксені надзіва лёгка спалучалася харастindividual ўнутранага свету з мяккай, сонечнай адкрытасцю твару, Тэкліна ж даверлівасць душы была скупей на адкрытасць; Тэкля як бы задыхалася ад немагчымасці свабодна сказаць

пра сябе ці бляскам воч, ці парывам дыхання, ці ўсмешкаю — гэтымі гіпнатычнымі знакамі ўнутранай чалавечай мовы. Не ведаю, ці ёсць навуковыя даследаванні да таго, але мне часта думаецца, што вонкавае аблічча чалавека мае самую цесную сувязь з яго ўнутранай арганізацыяй.

І замужжоўства Аксеніна праходзіла лёгка, як бы яна пра гэта ніколі не думала. Усім сваім залётнікам яна адмаўляла з самай мілай прастатою, — што ёй яшчэ не пара выходзіць замуж, — і не мала здзівіла ўсіх, калі выбрала Івана Сасноўскага з Набушава, чалавека не так ужо і паказнога, сухатварага, страгавокага, з чорна-паджарымі вусамі, якія рабілі яго намнога старэйшым.

13

Пасля мяне былі Ганна і Мікалай. Я не магу гаварыць пра іх спакойна, бо ў мне жыве перакананне, што з іх смерцю ў нашай сям'і страцілася нешта вельмі важнае, можа, нават галоўнае. Ганна была нечым падобна на Ульяну: жвавая, быстрая на розум, рашучая, праўдзівая і адкрытая, — такая натура фармавалася ўжо ў яе дванаццаць гадоў. Мне часта здаецца, што калі б яна была жывая, выпрамяненне яе натуры пакінула б нейкі добры след на лёсе ўсяе нашае сям'і ці па крайняй меры іначай скіравала б мой лёс. Можа, так думаць антылагічна, але ці кожная ісціна станавілася адразу бясспрэчнай.

Мікалай быў здаравяка, рос апошні ў сям'і. Ён быў прысадзісты, плячысты, на свае восем гадоў меў немалую сілу, і я ведаў тайныя бацькавы спадзяванні, што сваім памагатым і наследнікам на гаспадарку ён меціў не мяне, а яго. Ён так і прывучаў яго да працавітасці, да гаспадарнага ладу, змалку беручы з сабою і на сенакос, і на карчаванне, дбаючы, каб ён разбіраўся і ў цяслярскай справе, і ў бандарцы.

Але ў тысяча дзевяцьсот дваццатым годзе прайшла па нашых мясцінах страшная хвароба — крываўка. На адным тыдні памерлі перш Ганначка, а тады Мікалай. Бяда заўсёды шукае сабе апраўдання: нехта пусціў думку пра наканаванасць, бо смерць адзін раз падступалася ўжо да іх. Я памятаў тую далёкую ноч. Была позная восень, пад нізкім шэрым небам цягнула волкімі халадамі. І аднаго разу, прыцемкам ужо, хапіліся, што дзяцей няма дома. Здагадацца было няцяжка: за варотамі пачынаўся лес. Усю ноч мы шукалі іх, з сабакамі, з

ліхтарамі заглядаючы ў лаўжы, ва ўсе канцы падаючы галасы, завучы па імёнах і з заміраннем сэрца чакаючы, што яны абзавуцца. Якраз гэтага вечара закружыў першы калюча-востры снег; абое яны босыя; Мікалайку толькі тры гады. Чым магла прытуліць іх лясная чорная глушэча ночы? Іх маглі разарваць ваўкі; змогшыся, яны маглі прысесці пад любое дрэва, задрамаць і замерзнуць; маглі залезці дзе ў імшарыну і загразнуць у багне. Ноч праходзіла, круг пошукаў замыкаўся, і ўжо калі не аставалася ні каліва надзеі, нехта ў Гарахоўцы сказаў, што ўчора позна ўвечары бачыў, як на ўзлеску пад Прашчычамі снегам заносіла дзіцячыя босыя сляды. Іх там і знайшлі ў Прашчычах у першай хаце: добрыя людзі адагравалі іх на печы.

І вось цяпер Ганначка ляжала на покуці тоненькая, уся прасвечаная нейкаю празрыстаю незямною чысцінёю, а ў абяскроўленых губах так і асталася непатушаная гарэзнасць, усё роўна як ёй было смешна, што мы лічым яе за мёртвую.

Каля Мікалаевай труны памятаю толькі бацьку, як ён стаяў увесь дзень на каленях перад абразамі, просячы цуду.

— Божухна мой міласэрны, пачуй жа ты малітву маю, зрабі хоць раз божацкае дабро, — прасіў ён. — Можа, калі я зграшыў перад табою, дык пакарай мяне самога, адбяры ў мяне рукі, ногі, мову, зрабі мяне невідушчым, глухім. Але нашто ты забраў дзіця, яно ж нічым не саграшыла перад табою. Вярні яго, ты ж усясільны, не дай захлынуцца веры. Ты навучаеш, каб мы любілі адно аднаго, рабілі толькі дабро, дык чаму ж сам...

Ён змоўк, раптам як бы апамятаўшыся, што гэта ўжо не малітва, а спрэчка. І застыў на каленях у немым маўчанні, і гэта было страшней за крык. Трэці раз на маім жыцці паўтараўся выпадак, калі людзі прасілі цуду ў бога, а ён маўчаў. Трэці раз я бачыў, якія глыбокія раны рабіла чалавеку трагічная вера ў падман. Першы раз там, на самым пачатку майго паяўлення ў свет, калі чынілася набажэнства. Потым Таццяніны малітвы з такім святым чаканнем справядлівасці. І вось цяпер, калі чалавечая вера пераходзіла ў адчай.

14

Калі медыцына па сваёй схільнасці да цікаўства, бывае, пытаецца, на якія хваробы хварэў, я называю дзве: іспанку і крываўку. Першую з такой рамантычнай назвай цяпер ведаюць як грып і не вельмі баяцца, а тады, маладая, гуллівая, занесе-

ная к нам з далёкіх краін, яна лютавала страшна. Я першы год тады вучыўся ў Слуцку, нейкі зусім кароткі час меў кватэру каля Плашчадкі (так зваўся ў нас рынак, дзе прадавалася бандарка, сталярка і жыўнасць), адкуль заўсёды несла вострым духам конскага гною. Лепш будзе сказаць, што я там не кватараваў, а туліўся, бо ў малюсенькай, чорнай ад старасці хатцы, што па вокны ўрасла ў зямлю, месціўся толькі адзін ложак гаспадароў, яшчэ маладых, але нейкіх гіблых людзей, занятых вечнымі клопатамі пра беглую чарку. Я масціўся на нізкай, шырокай, таксама чорнай лаве пры сцяне, галава мая ўпіралася ў халодны покуць. Хваробу я памятаю толькі ў тыя часіны, калі вярталася прытомнасць і я чуў гарачы агонь свайго дыхання, якое, аддаючыся ад коўдры, пякло мне твар. Тады не было ніякіх лекаў, і тэрмометр нейкі час паказваў тую апошнюю рысу, за якой настае небыццё. У гэтай цёмнай хатцы і яшчэ раз я быў блізка каля тае рыскі, калі гаспадары, пайшоўшы з начы па беглае сваё прамышлянне, зачынілі заўчасна юшку, нарабіўшы чаду, і, вярнуўшыся выпадкова, адратавалі мяне ўжо толькі вынесшы на вуліцу, на снег.

Крываўка ж лютавала, аднак, куды страшней. Калі хавалі Ганначку, а тады Мікалая — іх вазілі на могілкі да прыпірышча ўсяе радні, у Труханавічы, за дваццаць вёрст, — я таксама ляжаў ужо хворы. Памятаю цвёрдую, улежаную пасцель у апусцелай каморцы, адгароджанай няструганымі дошкамі, саладкавы, млява-задушлівы пах паветра, кволую цішыню, у якой звінелі неадчэпныя чорна-сінія мухі, місачку схаладзелага аўсянага ўзвару, цягучы боль у нізе жывата то паныла-глухі, то такі востры, што, здавалася, там ірве вантробы клубок агню. І ўсюды мярцвяны пах нядобрай, успененаслізкай крыві...

На шостым тыдні я падняўся з пасцелі. Дома не было нікога. На двары так ярка лінуўся на мяне шырокі свет, так многа раскрылася нада мною неба, што я зажмурыўся. Вочы пазнавалі ўсё нанава, як бы дасюль усё гэта бачылі толькі ў сне. На прыгуменні, адразу за пералазам, расла маладая, яшчэ прывязаная да калка слівіна, яна толькі сёлета дала свой першы плод. Вельмі захацелася дайсці да яе, там жа ўнізе такая мяккая, шаўковіста-ласкавая трава. Ногі ступалі бог ведае як доўга, цела трымцела нейкай празрыстай салодкай слабасцю, я баяўся, каб, барані божа, не пахіснуцца, бо калі буду падаць, разаб’ецца ўся гэтая толькі сёння нарэшце знойдзеная мною краса навакольнага свету. На кволенькай галінцы, сярод рэдкага, як бы неасцярожна прыпаленага клінаватага

лісця, вісела адна-аднюсенькая слівіна, такая буйная і такая набрынялая сваёй тугой сінізною, што край яе аж лопнуў і з расколіны выцек і застыў камячок шыза-ашклянелай сукравіцы. Я быў згаладалы, схуднелы да таго, што рукі мае на сонцы прасвечваліся, і мне нічога цяпер так не хацелася, як зараз жа сарваць і з'есці гэтую слівіну.

І, можа, з таго часу мне няма нічога спакуслівейшага за сліву і нічога мілейшага за яе тугі, шыза-сіні, набрынялы колер...

## У ХРОСНАГА БАЦЬКІ

Правучыўшыся колькі часу ў Слуцку, я наведаўся да Ульяны. Каб паказаць, які з мяне стаў грамацей, я ўзяў з сабою падручнік французскае мовы — першыя параграфы з яго я мог чытаць як мае быць. Няхай там падзівяцца на сяле.

Наша сяло за час вайны вельмі збяднела. Землі неўрадлівыя, глiністыя, далёкія, дый рабочых рук не ставала. А яшчэ колькі людзей адрывалі на вайну — ганялі ў абозы, папраўляць дарогі.

Вельмі спадзяваліся на рэвалюцыю, чакалі зямлі. Першыя часы, як толькі ўладу ўзялі бальшавікі, думалі падзяліць фальваркі ды маёнткі, але скора прыйшлі немцы, аднекуль паявіліся польскія легіянеры. Паны зноў паварочаліся ў маёнткі.

Ульяна бадай што нічога не сабрала з поля — чым жыць, чым будзе засявацца на весну? Спарахнелі шулы ў браме, паразвальваліся платы, усё ідзе на згібенне. Нават калодзеж, што насупраць двара, засыпала зямлёю — згніў тын. І от, ці то яна сама надумала, ці людзі наўмілі, але маім гасцяваннем яна захацела запамагчыся.

— Схадзі ты, братка, да пана Ёдкі. Ён жа твой хросны, то, можа, успомніць дый паможа.

У нядзелю яна звязала матузком за ногі калашматага гарластага пеўня, ткнула мне яго пад паху і адправіла ў дарогу.

Шэсць вёрст да таго Пукава — дарога невялікая, але яна здалася мне вельмі доўгаю. Ішоў і ўвесь час думаў — як сустрэнуся з тым хросным, што скажу? І што скажа ён? Ці не прагоніць адразу, не захацеўшы нават паглядзець? І які ён — стары ці малады, ганарысты ці просты?

Нарэшце от ужо і маёнтак. Дарога наварочвае ў браму. Шырокі двор у зялёнай ласкавай траве. За брамаю справа

невялікая хатка, прыперлася задам у садок. Далёка, у глыбіні, на канцы двара вялікі дом, аслонены густымі, шырокімі ліпамі і прыціснуты да саду, — пакоі. Што ж мне цяпер рабіць? Куды ісці? Але з гэтай хаткі каля брамы выскачыла сухарлявая маладзіца, распытала, што мне трэба, забрала пеўня і сказала: «Ідзі». У мяне апалі рукі: а певень? Як жа я скажу сваю просьбу без пеўня? Але жанчына, мабыць, здагадалася: «Ідзі, я пану скажу, што ты гасцінца прынёс».

Прыступкі, ашклёны ганак; я падымаюся, адчыняю дзверы. У гэтым ганку — аказалася, што ён шырокі, — некалькі мяккіх крэслаў, невялікі столік з залачонымі абадкамі, на ім грамафон з выкручастаю трубою. У кутку — пляцёная этажэрка, поўная кніг. Яны то стаяць густымі радамі, то ляжаць адна на адной, абы-як. Адчынены, таксама шкляныя, дзверы ў шырокія пакоі, але там нікога няма. Я кашляю, каб мяне пачулі.

Адчыняюцца дзверы з левага боку, і ўваходзіць чалавек у чорным гарнітуры з белай манішкай, не так-то і высокі, танклявы, сухі, добра пабрыты і надушаны. І вясёлы.

— Ты да мяне, хлопчык?

— Але. З Труханавіч.

Пасадзіў, распытаў, чаго прыйшоў. Калі даведаўся, хто я, павесялеў, зарагатаў: «Ого, дык ты ўжо вялікі!» Я сказаў, што сястра просіць дубу на калодзеж, трохі ячменю, трохі аўса. Ад сябе я дадаў яшчэ і грэчкі. На гэта пан прамаўчаў, як бы не пачуў. Я ўстрывожыўся, але паўтараць не стаў: можа, ён яшчэ думае.

Неўзабаве ён павёў мяне ў сад, цераз другі шырокі ганак, абвіты дзікім хмелем, але запушчаны; цяпер дык я знаю, што гэта завецца верандаю. Сад пуставаў ужо, прасвечваўся, але сям-там віселі яшчэ і яблыкі. Пайшлі па дарожцы, усыпанай жоўтым лісцем, вузенькай і пакручастай. На канцы саду, у глухім кутку, стаяла нейкая будка, як вянглярня, толькі нізкаватая, уся абабітая кацёлкамі. Звычайнымі кацёлкамі, такімі, як мы качалі па вуліцы, але вельмі густа, адна пры адной. Нават патрэсканымі. Што ж гэта за праява такая?

— Па патрэбе не хочаш схадзіць? — папытаўся пан, кіўнуўшы туды галавою. — Збегай, я пачакаю.

Я пачырванеў: «Не».

Пасля мы абедалі. За невялікім столікам, удваіх, у тым жа першым вялікім пакоі. Падавала крамяная круглявая жанчына ў белым фартуху. Крупнік, такі рэдкі, што я не ведаў — есці яго ці піць. Мяса з нейкай падсалоджанай кашай. І ўсяго гэтага

вельмі патрошкі — як жа мала паны ядуць! А на закуску, на сподачку, па вялікім печаным яблыку, румяным, у цукровай жыжцы. Смачна.

Адпачыць пайшлі ў ганак. Пан сеў у крэсла, паказаў мне на другое.

— Дык ты вучышся ў Слуцку, кажаш? Малайчына.

Сюды я таксама ўзяў французскую кніжку. Яна ляжала ў кішэні, балазе была без абкладак і лёгка згортвалася ў трубку, і ўвесь час мне карцела, каб дабраць часу і паказаць яе. А цяпер якраз было зручна. Я сеў у крэсла, пакруціў яе ў руках і палажыў сабе на калені.

— Што гэта за кніжка ў цябе?

— Французская.

— Чытаеш ужо?

— Ага.

— Ну, то пачытай.

Я адгарнуў другі ці трэці параграф.

— Бойка чытаеш. Усю ці толькі спачатку?

— Мы не ўсю яшчэ прайшлі.

Пан Ёдка падняўся, папоркаўся ў этажэрцы і даў кніжку ў чорнай цвёрдай абкладцы.

— Сваю то ты чытаеш бойка, а от пачытай маю.

Я разгарнуў. Такія ж самыя лацінскія літары. Пан глядзеў на мяне чакаючы, а я аж умлеў: саб'юся, зблытаюся, прападу. І тут жа здзівіўся, не верачы сваім вачам: літары чужыя, а напісана па-нашаму — «Вучоны бык». Вось яно што! Падман! Стала весялей. Ну, тут я і пайшоў рэзаць, складна, гладка — любата!

— Ну што, добра? — папытаўся пан, хітра ўсміхаючыся. — Усё панятна, праўда? І перакладаць не трэба. Не чытаў раней такіх кніжак?

— Не.

— Ха, то-та ж! Дык і такія кніжкі трэба чытаць. Для каталікоў напісаныя, каталіцкімі літарамі. Але па-нашаму, па-беларуску, бо беларусы бываюць і з каталікоў.

Прызнаюся, я ніколі не думаў, што могуць быць кніжкі, напісаныя на той самай мужыцкай мове, як казала Ульяна, і мне стала радасна. Я гатоў быў чытаць яе далей, усю, да канца, але пан перапыніў.

— А цяпер пайграем, — сказаў ён. — Ты любіш музыку? Таксама трэба любіць.

З этажэркі ён дастаў чорны блішчасты кружок, палажыў яго на мяккую суконную палічку ў грамафоне і пакруціў корбу. Пасля на кружок спусціў чорную галоўку на выгінастай доўгай шыі і адступіўся. Грымнуў хор, ды такі, што ў гэтым ганку стала цесна ад гукаў — нейкіх чырвоных, харальных, урачыстых. Спявалі «Осанна в вышних», а пасля «На реках вавилонских». Гэтыя спевы я часта чуў у царкве.

Грамафон круціў магутныя чырвоныя гукі, але я іх бадай што не слухаў, а глядзеў, што робіць пан. А ён тым часам з тае ж этажэркі ўзяў маленькі складанік, выняў яго з замшавага футарала і пачаў чысціць пазногці. От сюды была прыкавана ўся мая ўвага. Божухна, каб мне такі ножык! Невялікі, з перламутравым тронкам, што пераліваецца вясёлымі колерамі, з цэлым скарбам усякіх прычындалаў у ім: ножык меншы і большы, нажнічкі, шыльца, яшчэ бог ведае колькі ўсякіх спакус. Як бы ён мне спатрэбіўся! Плясці кашы: калоць ракіту або стругаць дужкі ці парэбрыны. Або спускаць лазовыя дудкі. А колькі гаворкі было б сярод хлопцаў, як бы дзіваліся! Ну што было б хроснаму здагадацца і падарыць мне гэты ножык? Яму ж гэта нічога не значыць, а мне колькі было б радасці. Але пан скончыў абчышчацца, зноў засунуў ножык у футарал і палажыў на этажэрку. Не здагадаўся.

— То, мабыць, табе пара ўжо і дадому ісці, — сказаў нарэшце пан. — Па дуб і збажыну, скажы, няхай у пятніцу прысылае падводы.

Я сышоў з ганка. У клумбе кветак, якую я толькі цяпер заўважыў, стаяў невысокі, як бы спілованы, мармуровы слупок з высечаным на ім кружком цыферблата. «Сонечны гадзіннік», — здагадаўся я, хоць раней такіх і не бачыў. У дзірку пасярод цыферблата замест шпянька быў уторкнуты лазовы пруцік. Грэшна прызнацца, але я падумаў: вельмі ж малы знак пакінула тут рэвалюцыя.

Без пеўня дадому ісці было куды лягчэй. Я быў цяпер сам па сабе, сярод поля і сярод дарог, і мог думаць, што хацеў. «Чаму ж гэта ў аднаго чалавека так поўна ўсяго? — думаў я. — І навошта яму, аднаму, і такі дом, і такі сад, і ўсё багацце двара і зямлі? Няўжо яму не цяжка, калі ён бачыць, што гэта несправядліва? І такі скупы — нават ножыка не падараваў». І яшчэ мне думалася, што ў гэтым доме жыць яму ўсё-такі, мабыць, страшна.

## ДВА НЕМЦЫ

У дзевяцьсот васемнаццатым годзе да нас прыйшлі немцы. За мой невялікі век гэта быў першы сапраўдны вораг на нашай зямлі: маўклівы, узброены ў халоднае жалеза, з чужымі парадкамі і з чужой моваю.

Мы жылі на хутары, далёка ад бітых дарог, да нас мала хто заходзіў. І бацька, сціснуты агульнай людской трывогай, стараўся мала дзе патыкацца. Бывала, кожнае нядзелі ён ездзіў у наш невялікі гарадок Слуцак, каб што прадаць, а што купіць у гаспадарку — касу-літоўку, пераплётнага дроту на гаршкі, і прывезці які ласунак — паўфунта ці фунт селядцоў. Гэтыя ж часы ён сядзеў найбольш дома. І ці то памагала такая перасцярога, ці прычынай была наша балотная аддаленасць ад свету, але вельмі доўга немцы да нас не зазіралі.

І вось аднаго разу яны прыйшлі. У нядзелю. У майскі ціхі і сонечны дзень.

Я спутаў каня ў ляску, што краем прытыкаўся да самага двара, і варочаўся дахаты. Але суняўся і насцярожыўся, стуліўшыся пры бярэзіне: каля варот стаялі двое, цераз плот глядзелі на двор. Адзін — кароткі і таўсматы, з вельмі шырокім задам, другі — танклявы, высокі, з доўгаю шыяю, выцягнутаю з каўняра. За плячыма ў іх карабіны, на поясе цесакі. Абодва ў касках, у шэра-зялёных мундзірах з распоркамі ззаду, у ботах з кароткімі шырокімі халявамі, моцных, усё роўна як жалезных.

Як бы пераканаўшыся, што ўсё так, як належыць, яны адчынілі вароты, зайшлі. Пасярод двара таксама пастаялі, агледзеліся. З аднаго боку варывенька, агародчык і сад, з другога — хлеў, дрывотнік, там капошацца куры, выграбаючы сабе ямкі ў зямлі і млява купаючыся ў іх з параспусканымі крыламі. Няйначай як куры найбольш і кінуліся ў вочы ім; яны нешта сказалі адзін аднаму і пайшлі к хаце: таўсматы паперадзе, танклявы ззаду.

Звычайна калі да нас хто прыходзіў, то гэта была навіна, і я скарэй бег у хату. На гэты раз ісці не хацелася. Але на ганак выйшла маці, пазвала:

— Ідзі, дзеткі, скарэй сюды!

На покуці, пад абразамі, мнучы ў жмені кончык не вельмі густое свае барады, панылы і ўвесь нейкі нясмелы, сядзеў бацька. На лаве, на канцы стала, — яны, узяўшы карабіны між ног.

— Садзіся, сынку, — сказаў бацька, — можа, што паможаш. Чаго яны хочуць?

Гэтыя два, устаўшы, прапусцілі мяне за стол. Зноў селі: танклявы, з доўгаю шыяю — каля мяне, таўсматы, кароткі — за ім, з краю.

Помач мая была ў тым, што на свае дванаццаць гадоў я ўжо лічыўся грамацеем: год вучыўся ў Слуцку, збольшага разбіраўся ў нямецкай мове. А прыйшлі яны апісваць жыўнасць.

Таўсматы дастаў аловак, паперы, пачаў пытацца. Танклявы трошачкі ведаў некалькі польскіх слоў, але вымаўляў іх вельмі па-нямецку. Ён памагаў мімікай, жэстамі, паўтараў па некалькі разоў адно і тое ж слова, рысаваў пальцам на стале.

— Колькі кароў? — папытаўся таўсматы і схіліўся над паперамі, каб запісаць.

Танклявы пачаў тлумачыць, і я пачуў, як ён разы два торкнуў сваім каленам маё. Я зірнуў уніз. Апусціўшы руку пад стол, ён паказваў мне адзін адстаўлены палец. Я збянтэжыўся, бо не ведаў, як мне думаць: вораг гэта ці не?

Гэтак жа ён паказваў мне, колькі трэба запісаць коней, свіней, авечак і нават курэй. Таўсматы пісаў, унурыўшыся ў паперы. Танклявы стараўся сядзець упрыцён да стала, каб не відно было, як за кожным разам ён падае мне знакі.

Пасля таўсматы сказаў, што ім трэба абедаць. Маці схадзіла к дрывотні; пакуль яна смажыла на прыпечку, таўсматы ў сваіх паперах паправіў курэй: на адну паменшыў. Абедалі немцы доўга і моўчкі, не спяшаючыся, са смакам.

Гэтак жа не спяшаючыся яны выйшлі з хаты, перайшлі зноў цераз двор — з карабінамі, з цесакамі, у глухіх шэрых касках і ў жалезных ботах з кароткімі халявамі — цвёрда, маўкліва, самавіта.

За варотамі, перад тым як павярнуць на дарожку направа, што вяла па ўзлеску на слуцкі гасцінец, таўсматы суняўся каля старой карабатай бярэзіны па сваёй невялікай патрэбе. І трэба ж было, каб на гэты час на суседнім хутары, што добра відзён быў адгэтуль за нізкім пералогам, з двара выйшла жанчына. Яна адышлася метраў за дваццаць у поле, нешта высыпала з каша. Мабыць, попел. І толькі яна павярнула назад, як таўсматы зняў карабін з пляча, пачаў мерыцца.

— Як ты думаеш, Ганс, я пападу ў тую жанчыну? — сказаў ён танкляваму.

У мяне сэрца зайшлося крывёю. Я ведаў, што гэта Пракопіха. Муж яе яшчэ нядаўна тут ваяваў, адступіў разам з бальшавікамі. У яе поўны двор белагаловых дзяцей, хлапчукоў. Я любіў яе за добрае сэрца, за адзіноту, за гордую высокую постаць, на якой так складна сядзелі і вышываны кгарсэт, і спадніца з густымі фальбонамі, нават за тое, што яна мякка і вельмі працяжна выгаворвае «ць» на канцы слова — жацьсь, — як бы гэтаму «цьсь» найдаўжэй хацелася пабегаць па яе белых вясёлых зубах. Як жа зрабіць, каб гэтай жанчыны не забілі?

У танклявым я ўжо не бачыў свайго ворага — я схапіў яго за рукаў. Ён зірнуў мне ў вочы — у яго вачах я таксама ўбачыў спалох.

— Карл! — раптам ляпнуў ён па плячы немца з шырокім задам. — Хлопчык хоча стрэліць у гэтую птушку, — паказаў ён на варону, што села вельмі блізка на раскірачыстай хвоі. — Дай яму стрэліць.

Карл злосна плюнуў і вылаяўся. Вядома, карабіна ён мне не даў. Але і сам пацешыцца ўжо не мог: Пракопіха схавалася ў двары. Тады ён стрэліў у варону. Тая трапятліва падскочыла над суком, крутнулася і, падмінаючы крылы, цяжка грымнулася на дол.

15

Калі набіралася некалькі святочных дзён і не было куды дзявацца ад безрабоцця, бацька, пасядзеўшы які час на покуці, пытаўся:

— Мар’я, дзе ключы?

У чыстай палавіне стаяла скрыня з пукатым векам, пафарбаваная жоўта-зялёнаю фарбаю, акаваная палоскамі цёмнай бляхі. З сярэдзіны скрыня была выклеена квятастымі шпалерамі. У ёй ляжала матчына святочнае адзенне, спраўленае яшчэ ў дзеўках: сачак, спадніца з густымі фальбонамі з чырвона-чорнымі шырокімі палосамі ўпоперак, белая кужэльная кашуля з вышыванымі рукавамі, кгарсэт, цесна скроены ў стане і расшыраны на клубах, каптур, аблямаваны зялёнаю стужкаю ўзборкі. Усё гэта я не раз бачыў на мацеры ў святочныя дні, калі выпраўляліся дзе на кірмаш ці на фэст ці проста збіраліся да каго ў госці, і мне было весела глядзець на яе, бо яна сама рабілася тады ўся святочная і маладая. У скрыні ж зберагалася ўсё тое, што адкладвала-

ся на пасаг дачкам: абрусы, ручнікі ды коўдры, вытканыя доўгімі зімовымі вечарамі; пад сподам ляжаў туга скручаны, каляны сувой палатна з дзірачкамі на беражках ад пругоў, якімі напіналася палатно пры тканні. Памятаю мацерыны ўздыханні, калі час ад часу прыходзілася вымаць са скрыні то абрус, то коўдру, то зляжалы халодны сувой, адрэзваць ад яго ладны канец і пускаць на абыходак.

Бацька ў скрыні нічога гэтага не чапаў, а адчыняў прыскрынек, даставаў з яго паперы і нёс на стол. Ён разгортваў зляжалыя квіткі на сплату пазыкі, разгортваў няроўны і пакамечаны лісток са сшытка, у якім хімічным насліняўленым алоўкам неслухмянымі літарамі былі запісаны імёны нябожчыкаў. Гэты лісток зберагаўся як прымернік, каб кожны раз з яго можна было напісаць новы, не баючыся каго прапусціць ці ўпісаць не таго, каго бацюшка павінен упомніць у сваёй памінальнай малітве ў царкве. І нарэшце з прыскрынька даставалася і на стале разгортвалася самая галоўная папера — купчая. Наверсе, на ўсю яе шырыню, светлымі падвоенымі літарамі паведамлялася, што пазначаная ў гэтым плане зямля з колішніх уладанняў князёў Гагенлоэ пераходзіць у поўную ўласнасць пакупніка Аляксея Скрыгана, сына Самуілавага. У верхнім правым кутку, у рамцы, такімі ж светлымі, штукаванымі, толькі меншымі літарамі было напісана слова «эксплікацыя». Што азначала гэтае слова, я не ведаў, і тым больш магічна яно на мяне ўплывала. На той час я ўжо трохі знаўся з кнігамі, усюды шукаў іх, і кожнае чытанне ў душы маёй праходзіла як набажэнства. Самае значнае ў тайнах пазнання таілася іменна за незнаёмымі словамі, такімі, як «пірат», «ізгой», «юдоль», — за імі ўсплывалі і невядомыя краіны, і прыгоды, і нязнаныя хваляванні, і салодкія няясныя жаданні. Слова «эксплікацыя» аднак страціла сваю таямнічасць адразу ж, як толькі ўгадаўся яго сэнс. Пад ім у слупку было напісана, колькі ў плане мае быць зямлі ворнай, удобіцы, няўдобіцы — балот, хмызнякоў, імшарын, — колькі пад лесам. На карце ўсё гэта пазначалася знакамі — кружочкамі, круглымі ці даўгаватымі, часам пасплятанымі ў брыжыкі, рыскамі і малюсенькімі кропкамі.

Чым трывожыла бацьку гэтая купчая? Можа, тым, што за зямлю яшчэ не ўсё сплачана, і калі б, крый божа, не ўтрымалася новая ўлада, то прыйшлося б адразу за ўсе раты аддаваць і грошы і працэнты? А можа, хацелася паглядзець, як змянілася тая эксплікацыя: ці намнога паменшала за час

гаспадарання рысак і кропак, што азначала ў купчай балоты і пяскі. А можа...

Я ні разу не даходзіў да канца гэтага свайго трэцяга «можа», у ім было нешта вельмі трывожнае мне. Я ўжо ведаў, як зачароўвае людзей зямля. І не раз бачыў, як маці з дому ўцякала ўпрочкі.

16

За навуку я дзякую бацьку. На сабе вельмі добра адчуўшы, як цяжка быць непісьменным, ён намысліў мяне вучыць. Падабраўся і хаўруснік, наш далёкі сваяк Есіп Скрыган: у яго таксама быў сын, мой аднагодак, Алесь. Як толькі мы скончылі царкоўнапрыходскую, бацькі пайшлі да нашага папа Сулкоўскага і папрасілі, каб ён падрыхтаваў нас куды-небудзь у Слуцак. Поп ахвотна згадзіўся памагчы, стаў, як тады казалі, рэпетытарам.

Мы з Алесем апынуліся ў Слуцку. І толькі цяпер адкрылася, што бацюшка нас падрыхтаваў у духоўнае вучылішча. Ну, але якраз наспела Кастрычніцкая рэвалюцыя, яна скасавала не толькі духоўнае вучылішча, а ўсе гімназіі, камерцыйнае і рэальнае вучылішчы, парабіўшы свае школы першай і другой ступені. Праўда, вучыўся я крыху і ў гімназіі, пры польскай акупацыі.

Першыя гады вучыліся спакваля. Ішлі войны, усюды стралялі, было вусцішна і весела. Мы, хлапчукі, тайком бегалі на станцыю, збіралі параскіданыя там патроны і, сабраўшыся дзе ў зацішным месцы, стралялі, разбіваючы іх на камені. Або кідалі ў вогнішча, а самі разбягаліся. Вельмі было хораша, калі страляніна пачыналася бязладная, а кулі вішчалі, усё роўна як злуючыся.

А неяк раз, пры немцах, падкраліся, адчапілі некалькі вузкакалейных ваганетак і пусцілі іх па рэйках уніз, да вадакачкі, што стаяла каля рэчкі. Ваганеткі, дамчаўшыся да насыпу на беразе, з размаху перасігалі той насып і боўталіся ў ваду, карэжачы адна адну і падымаючы страшэнныя пырскі. Панадзіўшыся, мы займаліся гэтым не раз, слушна даходзячы розуму, што гэта не толькі забаўка нам, а і кепства немцам. Ну, але не доўга: пакуль нас не папужалі з вінтовак.

Вучэнне мне давалася лёгка, асабліва гуманітарнае. Вучыў я ўрокі найбольш не сам, а слухаючы, як іх вучыць Алесь, з якім мы разам і кватаравалі ў пані Стрыжэўскай. Мы

масціліся на кухні, Алесь чытаў учуткі, а я што-небудзь рабіў і слухаў. А тады паўтараў. Так і завучваў.

Аднойчы быў выпадак, пасля якога я дзівам астаўся жывы. Школа наша была на Трайчанах, за рэчкаю, хадзіць туды трэба было цераз Чортаў мосцік. Доўгі такі, вузкі, пешаходны. Узімку мы хадзілі напрасцяк, цераз рэчку.

І от, напрадвесні ўжо, вада паднялася, толькі на сярэдзіне пучыўся лёд. Алесь зірнуў на бакі, згледзеў укарэлы кусок ладнай леташняй дошкі, палажыў яго з берага, перайшоў цераз зябкую шэрань вады. Хлопцы за ім, паглядзелі — страшнавата, можа, нават лепш вярнуцца ды пайсці цераз мосцік? Так бы і зрабілі, але як жа Алесю: таксама варочацца ці далей аднаму пераходзіць рэчку? Не, пускаць яго аднаго нядобра. Каб прыдаць храбрасці, я захацеў паказаць, што лёд яшчэ моцны, разагнаўся і скочыў, мерачыся далёка за дошку. Усё далей сталася нечакана і лёгка: здавалася, што я не паспеў яшчэ дакрануцца да лёду, як пачуў, што шуснуў пад яго. Што рабілі хлопцы на беразе, не ведаю, мне яны пасобіць не маглі. Перш за ўсё я пастараўся вынырнуць, але над галавою быў лёд. І я зрабіў шчаслівае адкрыццё: лёд пад нізам шурпаты, з дзіркамі. Памятаючы, што вадою мяне магло аднесці ад палонкі, я, засоўваючы пальцы ў гэтае сітавінне, пачаў брацца ўбок. І дзіва — пацэліў на палонку. Першае, што я ўбачыў: хлопцы стаялі аслупянеўшы. Але тут жа нехта першы здагадаўся падаць канец тае дошкі. Я ўхапіўся за яе, выскачыў на бераг; з мяне цякла вада, а я рагатаў. Рагатаў дзіка, не могучы стрымацца, і не ведаю, што гэта было: ці ўсё тая ж бяздумная зухаватасць, ці падсвядомая радасць, што астаўся жывы.

Каб вярнуцца дадому, я нават і не думаў. Трэба было спяшацца, каб не спазніцца ў школу. Хлопцы павярнулі і пабеглі на мосцік. Я ж не саступіў: у другім месцы цераз ваду палажыў дошку, пераскочыў і пайшоў лёдам. Разам з Алесем.

Пакуль прыбег у школу, усё на мне зледзянела. Я стаў да грубкі і пачаў абаграавацца, паварочваючыся да гарачае кафлі то грудзямі, то спінаю, то бокам. Так увесь дзень: на ўроках ляскаў зубамі, а на перапынках грэўся каля грубкі. А ўвечары, калі клаўся спаць, то ўбачыў новае дзіва: зверху на мне была чорная кашуля, цяпер жа такая самая чорная стала і сподняя.

У нядзелю прыехаў бацька: як было заведзена, на ўвесь тыдзень прывёз харчы — хлеба, круп, сыру і конаўку масла.

Вядома, пані Стрыжэўская адразу расказала пра мяне. І, на маё дзіва, звычайна сярдзіты і строгі, бацька нават не накрычаў.

— Калі гэта было? — папытаўся ён у Стрыжэўскай.

— У чацвер, Аляксейка.

— Значыць, Богу так было ўгодна, — сказаў ён, пакорліва ўздыхнуўшы.

Аказваецца, у той жа чацвер бацька ехаў з Труханавіч дадому і таксама тапіўся. За Вынісцамі рэчку разліло вельмі шырока, уся доўзазная грэбля была пад вадою, цераз яе ішлі крыгі. І ўжо недзе на сярэдзіне ад вялікае быстрыні, што аж зносіла калёсы, кабылу збіла на канаву, калёсы перакруціла; аглоблямі і хамутом паваліла і кабылу. Вада віравала, а памагчы не было як і не было чым, каб хоць перарэзаць гужы. Кабыла захлынулася, ледзьве выратаваўся і сам бацька.

— Значыць, Богу трэба было ўзяць некага з нас траіх, і ён выбраў самае лёгкае для мяне, — сказаў бацька.

17

Гады навучання прайшлі вельмі скора, можа, таму, што перасыпаны яны былі падзеямі больш значнымі. Я памятаю, як паявіліся легіянеры Доўбар-Мусніцкага[3], у казакінах з англійскага сукна, аблямаваных смушкаю, на сытых, выкармленых конях і з крывымі шаблямі. Памятаю немцаў васемнаццатага года: яны прыйшлі ў ціхі, пакінуты нашымі войскамі горад на саменькім ранку. Іхнія грузавыя машыны з шэра-зялёнымі салдатамі, што стаялі адзін пры адным за бартамі, прайшлі па галоўнай вуліцы вельмі паволі, дэманструючы сілу; ад шырокіх касак, насунутых на самыя вочы, і ад цесакоў, панадзяваных на вінтоўкі, што паблісквалі цьмяным металам, рабілася жудасна.

Але найбольш раз’юшана і драпежна трымалі сябе жаўнеры Пілсудскага[4]. Лёгка, з нейкай бессаромнай зухаватасцю, яны маглі рабаваць, катаваць, падпальваць і арудаваць бізуном, гаворачы пры гэтым «проша пана», як бы рабілі паслугу. У легіянерах гэтай арміі былі смаркачы гадоў па чатырнаццаць, насілі не вінтоўкі, а карабіны, пад свой рост, і па сваёй блазноце аднолькава лёгка маглі і пагуляць у цацкі і пальнуць з карабіна. У Слуцак пілсудчыкі прыйшлі не мірна, а зрашэціўшы горад кулямі; доўга на вуліцах ад гэтых куль не загойваліся раны на дрэвах і папрабіванымі дзіркамі свіціліся аканіцы. За легіянерскімі спінамі гойсалі булак-балахоўскія

банды ў вялікіх авечых шапках і таксама ў заморскіх зялёных сукнах. Па нядзелях, калі было асабліва людна, на пляцы яны гаварылі крыклівыя прамовы і ў гэты ж час, за сотню крокаў ад прамоўцы, рабавалі крамы.

Памятаю нямую сцяну людзей уздоўж Бабруйскай вуліцы, калі вялі на могілкі расстрэльваць чатырнаццаць слуцкіх паўстанцаў. Якая гэта была страшная карціна: вязні ідуць па расстрэл сярод натоўпу, што кідае ім кветкі, і спяваюць «Вы жертвою пали в борьбе роковой». Натоўп маўчыць, і толькі гэтыя кветкі гараць агнём. Не, гэта быў не расстрэл партызанаў, гэта ішлі пераможцы ў сваю славу, у сваю вечнасць.

18

Ішлі гады, ішлі падзеі, усё гэта ў душы пакідала свой след. Я вучыўся, мяняліся назвы школ, і жыццё прымушала сталець.

Я многа чытаў, асабліва пасля таго, як на рынку, у будачнікаў, знайшоў кнігі Янкі Купалы, Якуба Коласа і Змітрака Бядулі. Праз іх я ўбачыў народ куды глыбей, і ў душы варушылася патрэба самому гаварыць. Я пачаў шукаць паэтычнага слова.

Да таго ж у мне рос нейкі крызіс: я пачаў не вельмі шчаслівай бачыць сваю сям’ю.

Да самай рэвалюцыі бацька выплачваў грошы ў банк за зямлю. Значыць, ад тае зямлі радасці яшчэ і не было. І ўсё наша жыццё было — гэта работа на капейку: аддаць даўгі. А пасля гэтага — зноў на капейку: нешта прыдбаць, нешта агораць, каб відна была гаспадарка, каб «выбіцца ў людзі». Гэта перарасло ў прагнасць і скупасць, скварка ці мяса былі нам у навіну, уволю маглі есці толькі квас, капусту, зацірку ды бульбу. І работа, работа, з цямна да цямна. Калі прыбрана ўжо поле і сенажаці — трэба церабіць кусты, раўняць куп’ё, зрэзваць пясчаныя пагоркі і звозіць іх у нізіны, капаць канавы, гаціць грэблі.

Але не гэта пужала, не ў гэтым была беспрасветнасць. Я бачыў, як у сясцёр — а яны ж былі маладыя! — парабіўшыся ўкрукі, не разгіналіся пальцы. Маладзеж недзе мог хадзіць на кірмашы, збірацца на вячоркі, скакаць, весяліцца, а яны — у гэтым балоце — зналі толькі работу. У людзі ім паказацца не было ў чым. Маці плакала разам з імі.

І мы рабілі нядобра. Калі бацькі не было дома, мы намалочвалі мяшок зерня — аўса, ячменю ці жыта — і хавалі

яго ўзаперу. У нядзелю сусед з другога хутара, Пракоп, ехаў у Слуцак, мы падкідалі яму гэты мяшок у воз. І гэтак цішком сёстры маглі сёе-тое купіць: хустку ці крамніны на кофту. Каб недзе, тайком жа ад бацькі, і надзець.

Не мірылася з гэтым душа. У сям'і — два светы. Як жа гэта можна? Дзеля чаго ж тады жыць, каб быць толькі рабамі зямлі? І я ўзненавідзеў зямлю, узненавідзеў скнарасць і прагнасць. Бацька рыхтаваў мяне ў наследнікі, а я ведаў, што гаспадара з мяне не будзе. І ўсё рос і падымаўся пратэст. І я пісаў вершы. Гэтак жа, як у тых кніжках, што выменьваў у будачнікаў, я пісаў пра цяжкую чалавечую долю. Складаў іх за бараною або за плугам. Ідзеш за роўнаю баразною, перад вачыма мільгаюць і мільгаюць адрэзаныя скібкі зямлі, а ў галаве ткуцца радкі.

Якраз у гэты час пад рукі папаўся Байран. Вялікі, у добрай абкладцы том з «Парызінай», «Абідоскай нявестай», «Яўрэйскімі мелодыямі», «Аблогай Карынфа», «Чайльд-Гарольдам» — ён акурат прыйшоўся мне па душы настроямі бунту і расчаравання.

19

І як ні дзіва, але, скончыўшы школу другой ступені, я падаўся ў сельскагаспадарчы тэхнікум. Чаму? Проста ў Слуцку больш не было куды.

Тэхнікум адкрыўся толькі нядаўна, размяшчаўся на Трайчанах, у былых манастырскіх будынках. Ух, якія ў іх былі тоўстыя сцены і якія змрочныя скляпенні! Бывала, калі ідзеш па каменнай падлозе, на калідоры не замірае глухі, нейкі халодны і жудасны гул. Там жа мы і жылі ў колішніх келлях, мясціліся чалавек па чатыры, у жалезных чорных круглых грубках па чарзе варылі кашу; калі яна была на сале — пах разносіўся па ўсіх памяшканнях.

Паўз манастыр працякала Случ. На яе беразе, пад вербамі, я ўпершыню ўбачыў Якуба Коласа.

На цвінтары былі пахаваны знакамітыя духоўныя асобы, тут расло многа язміну, бэзу. Наогул, увесь бераг быў у зяляніне, начамі спявалі салаўі, а я быў у самай той пары, калі пачынаеш здагадвацца, што ёсць каханне. Я пакахаў сваю аднакурсніцу, чарнавокую Зіну Андруковіч, але ў мяне быў сябар Аляксей Шаплыка, куды віднейшы за мяне і ростам, і

ботамі, і белымі зубамі, што рабілі яго ўсмешку проста царскаю. За гэтую ўсмешку можна было пайсці на скрут галавы, і я ўпаў у адчай.

Няйначай як з гэтага адчаю я і хапіўся за прапанову пайсці на вечарынку на Магільную вуліцу. Хто там будзе на той вечарынцы, я не пытаў, абы загаіць душу. Толькі адна бяда — не было ў мяне ботаў.

Не, боты былі, але ў такіх на танцы не пойдзеш — на дзеравянай падэшве. Проста да старых халяў швагер падбіў ачэсаныя асовыя калодкі, яны рабілі на цэлую вярсту груку, ступак у іх не згінаўся — што гэта за кавалер.

Выручыў усё той жа Алесь. Толькі ў нядзелю яму бацька прывёз новыя, хромавыя, на іх не было яшчэ нават добрага бляску, і я ведаю, што не лёгка далася майму земляку такая велікадушнасць.

На вечарынцы я станцаваў першы вальс з тоненькай, русявай і вельмі ласкавай Анютай Васілеўскай; прысеў з ёю поруч на крэслах, у гаворцы нашы валасы дакрануліся блізка-блізка, па мне прабег ток невыказнай пяшчоты. І з таго часу я хадзіў глухі, нямы, невідушчы, не ведаючы — каго ж мне любіць.

Калі стала вядома, што з чацвёртага курса сельскагаспадарчы тэхнікум з Слуцка пераязджае не то ў Мар'іну Горку, не то ў Красны Бераг, я не паехаў. З год быў дома, не знаходзячы сабе быту.

Бацька бачыў маю нуду, разумеў па-свойму: ці не пара ажаніць хлопца? Ужо нават нагледзеў і маладую — шляхцянку з-пад Забушоўя: вельмі ж хацелася яму парадніцца з шляхтаю. Аднаго разу я нават убачыў яе: ну што ж, дзяўчына як дзяўчына, няхай гадуецца.

Часамі хадзіў у Слуцак: пааставаліся ж там сябрукі. А аднойчы бацька даў нават заданне: прынесці свянцонае вады.

Бывае пад восень недзе такое свята, калі свенцяць ваду, ці не макавей адно. Я знаў, дзе гэта: каля сабора, у калодзежы. У горадзе на лета бадай што ўсе параз'язджаліся, надта добрых знаёмых я не знайшоў, прашлындаў увесь дзень па Трайчанах, па Калоніі, каля таго сабора нават не быў. А вады — што ж, набяру па дарозе ў любым калодзежы. І от іду дадому. Мінаю Магільную вуліцу. Не, тут нязручна, едзе многа людзей, угледзяць, што наліваю пустую пляшку, здагадаюцца. Набяру ў Васілінках. Але ж кажуць, што на злодзеі шапка гарыць: прайшоў і Васілінкі, а набраць не асмеліўся. Наперадзе Гарадзішчы — ну, там абавязкова. Але Гарадзішчы — гэта

ж наша суседняе сяло, тут ужо ўсе мяне ведаюць. Прайшоў міма. Падыходжу ўжо да дому, а пляшка пустая.

Зусім недалёка ад нас, у чаротах і асацэ, працякала Случ. Ледзьве відна з тых зараснікаў. Я перайшоў грэбельку, нізкі, з крывога верхавіння злеплены мосцік, спусціўся к броду, азірнуўся і апусціў у цёплую ваду пляшку. Набралася па самае рыльца. Старанна абцёр, хаця б не выглядала свежа, сунуў у кішэню. Але падумаў, што вельмі поўна набраў, можна здагадацца, што не ў калодзежы, адліў бадай што напалавіну.

Дома бацька наліў з тае пляшкі ў конаўку, дадаў яшчэ трохі з вядра, звязаў з жытніх каласкоў пучок, перахрысціўся і пачаў крапіць хату, вуглы, шэпчучы малітву. Пасля з гэтаю конаўкаю пайшоў у хлеў, у гумно, у свіран.

Бог ведае колькі прайшло часу, бацькі даўно няма, а мне і дагэтуль нядобра, калі ўспамінаю. Няхай сабе я і не вераваў, але ж не перад нейкім там богам, а перад бацькавай памяццю ў чымсьці як бы вінаваты.

## Круг другі

## СВІТАНАК

### 1

У слуцкую газету «Вясковы будаўнік» паслаў свае вершы. І неўзабаве атрымаў запрашэнне з’явіцца ў рэдакцыю. Што ж там такое? З’явіўся. На мяне паглядзелі, пагаварылі. Запрасілі на работу.

У маленькім пакойчыку, на другім паверсе дома на Пралетарскай вуліцы, якраз над кіно «Эдысон», я ўпершыню ўбачыў, як робіцца газета, і пачуў, як добра пахне фарба, калі яна лажыцца на аддрукаваныя старонкі. Я апрацоўваў заметкі, збіраў падпіску, фальцаваў газеты, хадзіў на вёрстку ў друкарню. Часамі друкаваліся і мае вершы, але мне хацелася, каб не ведалі, што пішу іх я. Мабыць, памятаючы ўсё таго ж Байрана, я выбраў сабе страшнае прозвішча — Пірат.

Рэдактар Паўлюк Шукайла[5] арганізаваў слуцкую філію «Маладняка». Часамі мы рабілі калектыўныя чыткі, наладжвалі вечары, і тады збіраліся ўсе маладнякоўцы — Апанас Атава, Язэп Сукала, Іда Чырвань.

Паўлюк Шукайла быў чалавек агнявой натуры, добрага, шчырага сэрца, партызанскай зухаватасці і бунтарства. І ў вершах ён прызнаваў толькі бунт і таму адразу пачаў кіраваць

нас на футурызм. Мы ў ім не разбіраліся, але Шукайлава энергія перадавалася і нам, і мы выпіналіся як маглі, каб толькі папасці ў той футурызм. Ён з'ездзіў у Мінск і дамогся, каб выдаць у кніжніцы «Маладняка» слуцкіх філіяльцаў. Што ў нас ёсць сілы, і не абы-якія, — запрасіў прыехаць і паглядзець. І аднаго разу пад восень прыехалі-такі два знакамітыя пісьменнікі.

Пасля мы ездзілі ў Мінск на першы з'езд «Маладняка». З гэтае нагоды я напісаў быў апавяданне «Гасцініца «Бельгія», але яно прапала. На з'ездзе я ўпершыню ўбачыў Міхася Чарота, Міхася Зарэцкага, Алеся Дудара, Андрэя Александровіча, Кандрата Крапіву, Міхася Лынькова, Уладзіміра Дубоўку і вельмі маладых і прыгожых Зіну Бандарыну, Яўгеню Пфляўмбаўм, Наталю Вішнеўскую. І гасцей — Сасюру, Гадзінскага, Ягансена — ад Украіны.

За час, што працаваў у газеце, я пашыў сабе карычневы гарнітур. Справіў боты, а да іх і галіфэ. Адразу ж налажыў і леі — і мацней, і харашэй, дый фасон нешта значыць. Словам, я станавіўся на ногі, служба ішла няблага, а футурыстычныя вершы не выходзілі. Шукайла цярпліва чытаў Маякоўскага і сябе — не гаруй, вучыся.

Але ўсё гэта нечакана скончылася. Акругу скасавалі, закрылася і газета. Шукайла паехаў сакратаром райкама партыі ў Расоны, філія распалася.

Зноў колькі часу я гаспадарыў дома. Але ўсё гэта было ўжо зусім чужое. Намысліў ехаць у тыя ж Расоны. Тым больш што Шукайла зваў у лістах: абавязкова прыязджай, работа знойдзецца.

На дарогу бацька даў восем рублёў.

2

Я думаў, Расоны — мястэчка, аж гэта невялікае сяло. І цэнтр размяшчаецца не ў ім, а ў колішнім маёнтку пана Глазкі. Будынак з чырвонай цэглы, над самым возерам, як замак, з вымудрамі — з порцікамі, з бельведэрам. Залезшы туды, як на званіцу, можна далёка агледаць наваколле. Тут былі выканкам і райкамы — партыі і камсамола.

Хачу трошкі адхіліцца. Колькі часу таму назад Генадзь Бураўкін, будучы карэспандэнтам «Праўды», сабраўся паехаць на Расоншчыну. У гэтую дарогу ён запрасіў Васіля Вітку,

Алеся Асіпенку і мяне, ведаючы, што я з ахвотаю згаджуся. Расоны цяпер вялікае, шырока разбудаванае мястэчка. Але яны далі мне не радасць спаткання, а боль. Самога сяла Расонаў я не знайшоў, яно спалена і знішчана фашысцкімі дзікунамі. Расоны рассяліліся на новым месцы, якраз каля Глазкавага замка, увабраўшы яго ў сябе. На месцы ж старога сяла стаіць толькі адна мураваная царква з чырвонымі ранамі на зрашэчанай кулямі тынкоўцы. Я стараўся аднавіць у памяці, дзе стаяла там школа, у старэйшых класах якой вучыліся вечна ласкава здзіўленая дзяўчынка Тайба і другая — надзвычай яркай, але строгай і халоднай прыгажосці Усвайская. Стараўся ўявіць, дзе стаяла там пошта, начальнікам якой быў белабрысы, з высокаю прычоскаю стройны юнак Красоўскі. У школе працаваў такі ж малады і белабрысы, толькі заўсёды маўкліва-задуменны, як бы расчараваны настаўнік Драгілеў, ён да самазабыцця любіў музыку. Аднаго разу на пошту прыйшоў баян, некім выпісаны з раёна. Ён ляжаў на пошце і тыдзень, і два, запакаваны, абшыты і змацаваны сургучнымі пячаткамі. Драгілеў страціў сон, ён хадзіў на пошту кожны дзень пасля ўрокаў у школе, просячы, каб Красоўскі даў пайграць. Як жа дасі пайграць, калі на ім ляжаць пячаці? І ўсё ж не мог сцерпець Красоўскі, гледзячы на пакуты свайго таварыша, распячатаў-такі пасылку. І ўвесь вечар Драгілеў разводзіў мяхі і плакаў самымі шчаслівымі слязамі.

Не знайшоў я і чыгункі, што ішла за Расонамі. Па лініі, дзе ляжалі рэйкі, разросся бярэзнік. Не знайшоў і станцыі, што стаяла ў густым ельніку ў кірунку на Пскоў, дзе быў сакратаром камсамольскай ячэйкі...

Я працаваў загадчыкам нардома. Ён мясціўся ў тым жа замку, у зале колішняй дамавой царквы. Гэты час я вельмі люблю, мне здаецца, што тады мы многа рабілі і дружна жылі — рабацiністы сакратар Макар Шалай, загадчыкі аддзелаў Ліда Іванова, Паўлючэнка, Ткачэнка.

Мяне пасылалі па сёлах праводзіць сходы, наладжваць культработу, рабіць даклады, асабліва па міжнародным становішчы. Ездзіць надта не было на чым, найбольш хадзіў пехатою.

Памятаю, ішоў у Сакалішча. Гэта было далёкае сяло, кіламетраў за дваццаць з гакам. Па дарозе былі лясы. Агітпрап Паўлючэнка даў мне свой наган — на ўсякі выпадак. Ісці было весела: то сёлы з павыгароджванымі выганамі, то палі і сенажаці, то пералескі і лясы. І ўсюды гэтыя фарбы восені з

жаўтаватым лістам, з нітачкамі павуціны, з нейкім летуценна-блакітным небам.

А пасля абступіў мяне лес з ціхім трывожным шэлестам, з павілястаю дарогаю, што на кожным пavароце то звужвалася, то расходзілася на многа каляін, то стульвалася, што аж было цёмна, то рассцілала вясёлыя палянкі. У мне брадзіў нейкі хмель радасці; не ведаючы, што б зрабіць, я выняў з кішэні той наган, падняў угору і стрэліў. Нават рэха не магло абазвацца: тут жа прыглушыла яго лістота. У Сакалішчах мяне ўжо чакалі: у нейкай самай шырокай хаце сядзелі не толькі камсамольцы, а старыя дзяды, маладзіцы. З ходу распрануўшыся і кінуўшы плашч на крэсла, я пачаў рабіць даклад.

А ў Матулёва я пайшоў з біноклем. Не памятаю, у каго ўзяў: цэйсаўскі, з цвёрдым чорным бляскам, з чыстым далёкім прыёмам — вельмі ж гаспадар прасіў яго берагчы. «Ну што ты, дзе ён дзенецца!» Усю дарогу я толькі і рабіў, што глядзеў у яго: усё перад вачыма — далёкі хутарок і жанчына, што развешвае бялізну на плоце і не ведае, што за ёю наглядаюць; фурманка, што выехала з лесу і завярнула на вузкую палявую дарожку; сцежачка, што на паваротах то абрываецца, то зноў паказваецца, выбегшы на ўзгорак; заяц, нечага спужаўшыся, ашалела сігае з боку ў бок. Любата!

У Матулёве я павесіў плашч за кулісамі невялічкай сцэны. Пасля даклада мне апладзіравалі і запрасілі на песні. А калі сабраўся ісці і надзеў плашч, у кішэні бінокля не было...

3

З Расонаў паслаў сшытак вершаў у «Маладняк». Неўзабаве мне іх вярнулі. Алесь Дудар пісаў, што слабыя. Я іх спаліў, а Дудару напісаў паштоўку, не зусім згаджаючыся з яго ацэнкай «новай плыні». Напісаў і задумаўся. Няўжо мае вершы такія благія? І, можа, папраўдзе было лепш, калі я пісаў пад Янку Купалу і Байрана? Але ж не, рэвалюцыйная паэзія павінна адкрываць нешта новае! Не заўважыў, як у такіх разважаннях скрэмзаў усю паштоўку рознымі завітушкамі, жаночымі галоўкамі, чорцікамі. Але перапісваць не стаў. І вельмі скора прыйшло паведамленне, што за хуліганства з «Маладняка» я выключаны.

Праўду сказаць, дык і я сам бачыў, што вершы ў мяне выходзяць нейкія не свае, нават мне самому чужыя. Пачаў пісаць

прозу. Апавяданне «Таіса» паслаў у «Чырвоную Полаччыну». Надрукавалі.

Але не факт надрукавання абумовіў канчатковы паварот да прозы, а цёплыя людскія словы. Неяк да нас у Расоны прыехаў загадчык акруговага аддзела народнай асветы Васіль Мухін. Ён быў чалавек вельмі непасрэдны, сам любіў літаратуру і, пазнаёміўшыся са мною, пацiснуў руку.

— Ну, вось добра, што я вас убачыў. Цяпер усім раскажу, што ніякага шрама ў вас няма, — сказаў ён.

Аказваецца, якраз у той час, як была надрукавана «Таіса», у Полацку праходзіла настаўніцкая канферэнцыя. Апавяданне стала прадметам размовы сярод настаўнікаў. У Мухіна пыталіся пра аўтара: хто ён такі, стары ці малады, і ці праўда, што на твары ў яго астаўся шрам. Рэч у тым, што апавяданне пісалася ад першай асобы, шрам быў у героя апавядання, і ўсім думалася, што аўтар піша пра самога сябе.

Неўзабаве я пераехаў на работу ў «Чырвоную Полаччыну». Горад, газета, зноў друкарскія фарбы — гэта было больш па душы. Дый рэдактарам быў найдабрэйшы чалавек — Сцяпан Сямашка. А сакратаром рэдакцыі — Пятрусь Броўка. Наогул, мне шанцавала на добрых людзей. Былі і дрэнныя, але яны неяк скора забываліся. Можа, такая ўласцівасць чалавечай памяці, што благога яна доўга не хоча трымаць. А можа, тут проста ўмоўнасць, бо вельмі часта благое ідзе не ад самой душы чалавека, а ад яго пасады ці абавязку. Бывае ж так, што людзям не пад сілу іх абавязак, і яны вельмі стараюцца не паказаць гэтага.

Найбольш мы любілі Сямашку, мабыць, за тое, што ён нам верыў. Мы рабілі газету з нейкім святым адчуваннем. Броўка пісаў вершы. Простыя, даступныя, і мне было шкода, што я ад гэтага адступіўся. Вакол газеты гуртаваўся літаратурны актыў. У Валынцах настаўнічаў Сымон Хурсік, ён ужо быў вядомы пісьменнік, меў кніжку ў маладнякоўскім выданні — «Першы паўстанак», і калі прыязджаў, то мы бачылі ў ім старэйшага. Да нас час ад часу наязджалі з Мінска — Андрэй Александровіч, Алесь Дудар, Анатоль Вольны. Наставала патрэба выдаць свой альманах. Разам з мінскімі пісьменнікамі выдалі два альманахі: «Наддзвінне» і «Росквіт».

Але перад намі паўстала і другая задача — вучыцца. Адзін за адным мы пацягнуліся ў Мінск. Шукайла ўжо быў там і нас заахвочваў.

Памятаю, калі мы з Шалаём прыехалі, ва універсітэце ўжо ішлі заняткі, а нам вельмі не хацелася траціць года. Шукайла быў не такі чалавек, каб бядзе не даць рады: ён пайшоў з намі да наркама асветы таго часу Антона Баліцкага. Наркам жыў у архірэйскім доме супроць сквера, дзе цяпер стаіць Дом афіцэраў. Вялізны, нізкі і цьмяны пакой, бадай што пусты. Масіўны стол, высунуты траха не на сярэдзіну, некалькі старадаўніх крэслаў, і на адным з іх ускінуты на спінку пінжак. Быў ранак, наркам выйшаў з другога пакоя, здавалася, яшчэ нават не выспаны, у карычнева-паласатай піжаме, з вялікімі акулярамі на буйным нізкавокім твары. Стаўшы каля крэсла, ён выслухаў Шукайлу і нахмурыўся. Але Шукайла не даў доўга думаць наркаму: ён сказаў, што нам конча трэба вучыцца, бо мы будаўнікі новай культуры.

— Дык жа спазніліся! Як жа будзе з залікамі?

— Уся сіла ў вас, дзядзька Баліцкі. Калі трэба, то, значыць, трэба: залікі здадуць, стаўшы студэнтамі.

Крэкчучы, упіраючыся, наркам прыгнуўся да стала, каб стоячы напісаць запіску рэктару універсітэта.

Пазней годам прыехаў Пятрусь Броўка. Здаецца, наркам напісаў і яшчэ адну запіску.

4

У Мінску мы адразу апынуліся ў сапраўднай літаратурнай атмасферы — сходы, дыспуты, літаратурныя вечары і выступленні. У асноўным полацкім зямляцтвам арганізавалі сваё аб'яднанне — «Літаратурна-мастацкую камуну», на так званай мясцовай футурыстычнай платформе.

Арганізацыя гэта заснавалася не ад духу часу і творчай патрэбы, а ад зухаватасці і пратэсту: «Ах, вы нас у «Маладняку» не прызнаяце? Ну дык мы зробім сваё згуртаванне». А ў згуртаванні тым шмат хто нават яшчэ не спрабаваў пісаць.

Цяпер дык я проста дзіўлюся, як мы асмеліліся з такім актывам ісці да ўрада і прасіць, каб нас зацвердзілі як творчую арганізацыю. Мы ледзьве набралі дзесяць чалавек, патрэбных па статуце, загадзя ведаючы, што добрая палавіна з іх уключана ў спісак толькі дзеля нормы. І з гэтым спіскам пайшлі да старшыні Саўнаркама таго часу Мікалая Галадзеда. Гэта на плошчы Свабоды, у будынку, дзе цяпер музычная школа,

і ў пакоі, дзе вісіць таблічка «клас № 1». Праўда, пасля надбудовы там усё, здаецца, парушана.

Галадзед сядзеў за шырокім сталом, у ваеннай гімнасцёрцы, з гладка зачэсанымі назад валасамі. Ва ўсёй яго постаці, прамой, акуратнай, адчувалася прастата і ўнутраная дысцыпліна. Толькі не стасавалася з прастатой дзелавітасць, з якой ён адразу неяк усё бачыў і разумеў. Прагледзеўшы наш спісак, ён запытаўся:

— Усе пішуць? Усе пісьменнікі?

— Будуць пісаць, Мікалай Мацвеевіч, — адказаў Шукайла. — Гэта ўсё новыя, маладыя сілы.

— Бачу, — сказаў Галадзед і ўсміхнуўся. — Думаеце, ваша аб'яднанне патрэбна літаратуры?

— Абавязкова! — Шукайла цвёрда ткнуў у падлогу кіем і сцяў губы, што азначала таксама, што ён гаворыць бяссправачную ісціну. — Рэвалюцыйная літаратура павінна шукаць новых шляхоў. Мы будзем змагацца супроць усякай традыцыйнай гнілаты і сентыментальнага мяшчанства. Мы — за росквіт жыцця!

Такая агульная дэкларацыя нічога не гаварыла пра наша творчае аблічча. На адну хвілiначку я ўбачыў ваганне, калі Галадзедава рука ўзяла і крутнула ў пальцах асадку. Ён падпісаў наш спісак.

— Паспрабуйце. Пабачым, — сказаў ён, палажыўшы асадку.

Цяпер настала самае цяжкае — грошы. Бо што значыць аб'яднанне без свайго друкаванага органа? Нам трэба часопіс. Але Галадзед, мабыць, гэта прадбачыў.

— Колькі? — папытаўся ён.

Мы паказалі калькуляцыю на рэгулярнае штомесячнае выданне.

— Не, пакуль што дам толькі на адзін нумар. А там пабачым, што ў вас выйдзе.

Тут жа ён выклікаў маладога высокага чалавека і распарадзіўся з асабістага фонду выдаць «Літкамуне» дзесяць тысяч рублёў.

Пакуль ішла арганізацыйная мітусня, мы яшчэ адзін аднаго трымаліся. Цешыла вонкавая старана і арыгінальнасць. Памятаючы прыклад футурызму, што трэба нечым вылучацца, мы хадзілі бадай што ўсе з кіямі і ў капелюшах, што на той час было навіною. Трымалі сябе ваяўніча і задзёрыста. На літаратурных вечарах і дыспутах чыталі крыклівыя вершы,

траха не хапаліся загрудкі ў спрэчках. Я гавару «мы» вельмі ўмоўна, бо ўсё гэта за нас рабіў Шукайла. Мы былі як фон: калі было трэба — мацней крычалі і грукалі ў падлогу кіямі.

Але як толькі справа дайшла да практыкі, то адразу ўбачылі, што ўсе мы розныя, што ў нас няма ніякага творчага адзінства. Выявілася, што па душы нам куды бліжэй традыцыі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Пушкіна ды Талстога. Разбіўка нашых вершаў на сечаныя радкі ішла сілком, была не арганічная. Крык наш і пратэст быў наіўны, голас надрываўся і фальшывіў. Асабліва гэта выявілася, калі пачалі складаць першы нумар «Росквіту». Вершы былі традыцыйныя, сялянскія, з лірыкай і подыхам ніў, радкі прасілі напеўнасці, а мы ламалі і настаўбурчвалі іх. Проза прасіла роздуму, каларыту, можа, нават нейкага коласаўскага спакою, а мы рвалі яе на кавалкі, перабівалі нервознымі паўзамі, клічнікамі, шматкроп'ем, каб надаць ёй нетутэйшы выгляд. За ўзор мы бралі часопіс украінскіх футурыстаў «Новая генерацыя», дзе з набору рабілі пеўнікі, зоркі, розныя рамбічныя і кубічныя фігуры. Раздзел крытыкі не толькі граміў класіку і традыцыі — ён абвяшчаў вайну наогул усяму таму, што ляжала па-за межамі «Літкамуны». Як я бачу, дык і цяпер многія «наватары» ідуць не далей вось такога зухаватага крыку, думаючы, што адкрываюць яшчэ адну Амерыку.

Памятаю, у Шукайлы, на яго пустой кватэры па Чырваназорнай вуліцы, парассцілаўшы паліты і кажухі, мы ляжалі на падлозе, перабіралі рукапісы, крэмсалі і спрачаліся. І патроху пачыналі цверазець. Нешта ў душы было неспакойна. Мы бачылі, што вайну абвяшчаем сур'ёзную, а шаблі ў нас з трэсак. Дзеля чаго мы ўсё гэта робім? Чаго хочам? Хто і дзе нашы ворагі? Навошта і каму гэта трэба? І да чаго дойдзем? Дарогі гэтай ніхто з нас не бачыў.

Сяк-так склалі нумар. Як у людзей, паявілася ў ім дэкларацыя, напісаў яе Паўлюк Шукайла, і мы яе ўбачылі толькі тады, калі трэба было падпісваць нумар часопіса ў свет. Гэта было ў друкарні, мы стаялі між друкарскіх машын — Броўка, Шалай і я, — чыталі яе, і нашы сэрцы сціскаліся болем. Такая дэкларацыя была проці нашых перакананняў, яна як бы адбірала ў нас права на тое, што мы любілі, чым жылі: на Купалу, на Коласа, на тую манеру, якой мы дагэтуль умелі пісаць. Нам вельмі не хацелася, каб такая дэкларацыя рабіла нас адшчапенцамі. Абараняў яе толькі Шукайла, і калі з ціхага, спакойнага наш пратэст пачаў пераходзіць на

раздражненне, калі выявілася наша аднадушная трывога ў выпадку яе паяўлення ў свеце і каб палажыць канец спрэчкам, я з нецярпліваю асалодаю вырваў гэтую старонку, набраную адразу за тытулам сечанымі радкамі, як верш.

Ужо дома я знайшоў яе, пакамечаную, у сваёй кішэні. Я падумаў: дзякуй богу, што ні ў кога яе не асталося і ніхто пра наша дзівацтва нават не будзе ведаць. Але потым падумаў іначай, не знішчыў: ніколі не трэба папраўляць час, праўда астаецца заўсёды за ім.

Некалі гэтую дэкларацыю я пераказваў у апавяданні «Смага». Але цяпер падумалася, што ёй куды лепшае месца вось тут:

*«Беларуская Літаратурна-мастацкая Камуна*
*выйшла ў паход*
па палёх, па шляхох
барацьбы
*за росквіт!!!*
(вызваленне чалавецтва
ад прытухлых,
заскарузлых
конанаў,
традыцый
архіўных
вякоў).
*Ідзе ў наступ,*
*руйнуе!*
літаратурна-мастацкія
плецяні
і забарыкаджанні,
сплеценыя,
нацяганыя
з трантаў
і ануч
стар'ёўшчыны.
*У шэрагах фронту*
*няма*
плякатаў,
шыльдаў,
маскіравання
ад сапраўднасці.
У руках
не сцяг,

а вытворчасць!
*Сябры камуны*
работнікі фабрыкі
літаратуры
і мастацтва;
*вытворчасць —*
*акорд жыцця.*
Пад лязг
фабрычных машын,
спеў жняярак і кос
чуецца жыцця гудок —
пачынаецца
наша праца!..»

Пасля другога нумара «Росквіту» мы зноў сабраліся на Шукайлавай, цяпер ужо больш абжытай, кватэры па вуліцы 11 Ліпеня (цяпер Кірава) і большасцю галасоў парашылі, што далей нам рабіць няма чаго.

Вядома, і маладнякоўская «бурапеннасць», і «Літаратурна-мастацкая камуна», і іншыя розныя акалічнасці пакінулі на мне свой глыбокі і доўгі след. Самы цяжкі і доўгі — ад нашага наіўнага ўяўлення, што новая рэвалюцыйная літаратура павінна пісацца зусім іншай мовай і іншым стылем. Іх было вельмі многа — стыляў таго часу, я іх і баяўся, і цягнуўся да іх. Свежа, па-свойму, вельмі непадобна на класічную спакойнасць пісалі многія савецкія пісьменнікі — Барыс Пільняк, Усевалад Іванаў, Ісак Бабель, Юрый Алеша, Арцём Вясёлы. У іхняй манеры было многа квяцістасці, метафарычнай смеласці, дынамікі, зухаватай настаўбурчанасці, якая часам ішла насуперак логікі нават. І з болем у душы, любячы і шануючы тых жа Янку Купалу і Якуба Коласа, я з усяе сілы намагаўся, каб папасці ў самы найноўшы лад. Мабыць, найбольшы ўплыў на мяне зрабіў Барыс Пільняк сваім стылістычным бунтарствам.

Да гэтага часу я стараўся не ўключаць у свае кнігі тых сваіх апавяданняў, ды неяк падумалася, што гэта несправядліва. Яны ж нясуць на сабе маю літаратурную маладосць. «Смага» — гэта як бы споведзь на часе роздуму аб лёсе горада і вёскі, спроба асэнсаваць нейкую гістарычную супярэчнасць паміж імі, зразумець і прыняць новую рэвалюцыйную рэчаіснасць для сяла. «Запіскі майго суседа» — знак майго захаплення філасофіяй на той час, пошукі непасрэдных

адносін грамадскага сужыцця; на апавяданні, мабыць, можна распазнаць цень чыіхсьці ўплываў.

«Старасць» таксама пошук: свежасці, маладосці, дабра. Яна прысвечана Заіру Азгуру, бо, па сутнасці, ён як скульптар, як выразнік прыгожага гарманічнага цела, па сутнасці, ён даў мне і тэму і спосаб яе скульптурнага вырашэння.

Няхай сабе ў тых далёкіх пошуках і ў роздуме было многа наіўнага, але ж перад сённяшнім днём заўсёды быў учарашні.

5

У той час ва універсітэце мы былі як вольныя слухачы — на лекцыі лепшых выкладчыкаў хадзілі, на лекцыі горшых — не, займаліся самастойна. Гэта давала магчымасць выбраць часіну і для літаратурнай работы.

Я жыў з Макаром Шалаём, чалавекам нястрымнага запалу спрэчак. Ён назубок ведаў класікаў марксізму, Чарнышэўскага, Герцэна, Дабралюбава, Пісарава, Пляханава і логікай іх мыслення збіваў з ног любога праціўніка. Ён не мысліў сябе без спрэчак і шукаў толькі такога асяроддзя. Мы з ім і лекцыі дзялілі: я хадзіў на гуманітарныя навукі, а ён на сацыяльна-эканамічныя, а дома адзін аднаго мы знаёмілі з тым, што праходзілі па курсу. У той час, калі яго не было дома, я найбольш і выбіраў часіну, каб пісаць.

Памятаю, узапар чатыры дні не выходзіў з дому, пішучы «Затоку ў бурах». Гэта быў спецыяльны заказ для першага нумара «Росквіту», бо прозы ў нас не хапала. Скончыў у шэсць гадзін раніцы, выпрастаўся над сталом — пакой сіні ад дыму. Я пацягнуўся, і пакой захадзіў у мяне перад вачыма, закружыўся так, што я зноў прысеў і ўхапіўся за стол.

Наогул у маладыя гады пісалася лёгка і скора. Вядома, гэта тлумачыцца ў першую чаргу маладосцю. І тым, што пісалася абы-як: цяпер жа смешна глядзець на тое, што тады зроблена. «Таісу» напісаў за адну ноч. А цяпер на кожнае апавяданне ідзе не адзін месяц.

У 1929 годзе занёс у Дзяржаўнае выдавецтва першую кнігу — «Затока ў бурах». Прачытаў сам Цішка Гартны, нешта за тры дні, і адразу пусціў у друк, не зрабіўшы ні аднюсенькай заўвагі. Проста дзіва: на цяперашнія часы дык колькі там бездапаможнасці.

У тым жа дваццаць дзевятым годзе з брыгадай партыйных работнікаў паехаў на Магілёўшчыну па калектывізацыі.

Памятаю адзін сход. У цеснай накуранай хаце паўнютка людзей, стаяць за дзвярыма — у сенцах, на дварэ. За сталом прэзідыум. Усю ноч спрэчкі: а як жа будзе ў тым калгасе? Тыя, што за парогам, час ад часу выкрыкваюць злосныя рэплікі: «Пралетарамі нас хочуць парабіць?», «На жонак камунія будзе?». І калі, нарэшце, пацягнуліся да стала пісаць заявы, нехта шпурнуў камяком снегу і патушыў лямпу. Усё загуло, затрашчала, дзынкнулі вокны, на дварэ нехта стрэліў. Нашай камісіі стала цяжка.

Але тут жа ў многіх руках загарэліся запалкі, лямпа зноў зацяплілася над сталом.

На раніцу я пайшоў да чалавека, які раней парабкаваў у пана, быў гаспадарлівы і аўтарытэтны на людзях, і нам хацелася, каб ён пайшоў у калгас, бо на яго глядзелі другія. Ён якраз снедаў — жонка і двое падлеткаў. Выслухаўшы мяне, ён сказаў:

— Ты, мабыць, галодны, чалавеча, то садзіся ды паеш. Калі хочаш, дык і з сабою дам кусок сала, толькі адчапіся ад мяне.

У 1931 годзе з брыгадаю «Звязда» ездзіў на Гомсельмаш. Там мы жылі каля трох месяцаў — Брайнін, Паваротны і я. Днём ішлі на завод, а ўвечары, у гасцініцы, усеўшыся за круглым сталом, пісалі карэспандэнцыі ў газету.

Здаецца, у тым жа годзе, разам з Платонам Галавачом, Васілём Кавалём і Цодзікам Даўгапольскім, быў на Магілёўскай фабрыцы шоўку. Пісалі яе гісторыю. Кніжка называлася «На Цішоўскай пустэчы».

6

Спалучаць паездкі, літаратурную работу і вучобу было, вядома, цяжка, але на ўсё ставала часу. Неяк паказалася была Зіна. Яна вучылася ў сельскагаспадарчай акадэміі, тут была нядоўга часу і вельмі абрадавалася нечаканай сустрэчы. У мяне жыло да яе ўсё самае харошае, але на душы асталася трывога і нейкая даўняя туга. І мне здаецца, што я яе вельмі пакрыўдзіў, аднаго разу не адказаўшы на парыў яе шчырасці, бо ўжо не яна хадзіла каля майго сэрца. Пасля лекцый ва універсітэце я любіў, калі цесным гуртком мы збіраліся ў невялікай аўдыторыі і Мішка Гольдберг, што пасля стаў Златагоравым, гіпнатычна размахваючы кучараваю чупрынаю, іграў Брамса, бо тут і была тая, што напаўняла мяне новаю

трывогаю. Я чакаў, каб пасля гэтай музыкі поруч з ёю, такою ўтульнаю і непазнана ласкаваю, прайсці да веснічак яе дома.

Сваё сяброўства, часамі вельмі блізкае, а часамі проста патрэбнае для душы, было і сярод пісьменнікаў. Я вельмі добра пачуваў сябе ў асяроддзі Платона Галавача, Уладзіміра Хадыкі, Васіля Каваля, Рыгора Мурашкі. Не парывалася старая цесная дружба з Петрусём Броўкам. Наладжвалася і больш маладая — Юлі Таўбін, Сымон Баранавых, Барыс Мікуліч. З Заірам Азгурам нейкі час мы былі проста як спарышы. Роздуму і спрэчак у нас хапала без меры; нахадзіўшыся па горадзе ці па парку, мы прыходзілі да мяне, укладаліся на падлозе і да самай раніцы не стульвалі воч. Гэты чалавек гарэў нестуханаю прагаю ўсё знаць. Сёння ён начаваў у мяне, заўтра ў другога, паслязаўтра ў трэцяга, ад кожнага пакрысе нечага набіраўся і ішоў далей, каб гэтае назбіранае і раздаць жа людзям. Так ён і багацеў душою.

Я гавару вельмі бегла пра падзеі і сустрэчы з людзьмі. З часам я збіраюся вярнуцца, каб сёе-тое пашырыць, знарок расказаць хоць бы пра таварышаў, якіх толькі што згадаў. А ў памяці асталіся і другія імёны і даты. Як, напрыклад, сустракалі Максіма Горкага, калі ён з Італіі праязджаў праз Мінск.

На вакзале было паўнютка народу. У дзвярах вагона паказаліся перш яго вусы, а тады ён сам, высокі, худаваты, з коратка падстрыжанымі і настаўбурчанымі валасамі. Стоячы на прыступках, ён азірнуў натоўп, што запоўніў увесь перон, у адказ на кветкі і вітанні хацеў сам сказаць прамову. «Вот вы, все молодые», — пачаў ён, акругляючы сваё волжскае «о», ды так і не дагаварыў да канца, на вачах паказаліся слёзы. Ён сціснуў далоні рук, патрос імі перад сабою, заменьваючы гэтым жэстам усе словы.

Памятаю японскага пісьменніка Акіта Такудзо (Удзяку), кароценькага, жвавага, бронзавага ад свайго ўсходняга сонца, з тварам, пабітым на танюсенькія маршчынкі. Гэта было ў часы «Літкамуны», і нам вельмі імпанавала, што ён, левы, у першую чаргу завітаў да нас, таксама «левых».

Памятаю венгерскіх пісьменнікаў Бэлу Ілеша, Матэ Залку і Антала Гідаша. Літаратурная грамадскасць сустракала іх вельмі цёпла, бо мы бачылі ў іх прадстаўнікоў рэвалюцыйнай Венгрыі, выгнаннікаў з свае радзімы пры дыктатарскім рэжыме Хорці.

Яшчэ больш цёпла сустракалі Бруна Ясенскага, і не дзіва. У адказ на пасквільны французскі раман таго часу «Я палю Маскву» Ясенскі напісаў раман «Я палю Парыж». З Польшчы яму прыйшлося эміграваць. На антрэсолях у рэстаране «Еўропа» ў яго гонар быў тады дадзены банкет. Вядома, пілі чаркі, гаварылі прамовы. Высокі, энергічны, з тонкім, тыпова польскім профілем твару, Ясенскі дзівіў элегантнай пластычнасцю рухаў, культураю жэсту і слова. Здаецца, з ім тады быў і Стандэ; запомніўся высокі блішчасты лоб, няйначай як гэты лоб належаў яму.

Выпала на маю долю паказваць Мінск Іаганесу Бехеру. Вялікі, мажны, у круглых акулярах, ён гаварыў паволі, у руках быў скупы. Памятаю, даехаўшы да вуліцы Энгельса, я не ведаў, куды сказаць, каб павярнуў шафёр. Не было чаго тады паказваць у Мінску. Гарбатая, прысыпаная парошай першага снегу, Савецкая вуліца спускалася ўніз да электрастанцыі. Ну, а далей што? Камароўка з яе пакрыўленымі хатамі. Паказаў домік Першага з’езда РСДРП і сказаў павярнуць налева, каб паказаць хоць сляды гісторыі — Траецкую гару, Замкавую вуліцу, Нямігу, звязаўшы яе з «Словам аб палку Ігаравым». Завяршыў азнаямленне паказам першых нашых будоўляў — Дома ўрада і Універсітэцкага гарадка.

Памятаю характэрны твар Давіда Бергельсона, не такі падмаладжаны, як у «Литературной энциклопедии», а больш будзённы, з рэзкімі лініямі маршчын, з паўней акрэсленымі губамі; здаецца, ён якраз тады вярнуўся з-за мяжы, і яму было дзіва гаварыць з савецкімі пісьменнікамі.

Памятаю сустрэчу ў Доме ўрада з Леанідам Лявонавым, тады маладым і вельмі папулярным па раманах «Барсукі» і «Злодзей»; ён прыязджаў з Дз. Пятроўскім. І ў Мінску і ў Маскве меў шчасце бачыць Уладзіміра Маякоўскага і Анатоля Луначарскага. Разам з вялікай дэлегацыяй рускіх і замежных пісьменнікаў выпала пабываць у Яснай Паляне. Больш за ўсё мяне цягнула да Барыса Пільняка, я тады быў пад уплывам яго прозы. І дзівіла, што ён такі стыхійна рускі, а паходзіць з немцаў, што ён русы. Я ўяўляў яго чорным, а ён — русы. Гаварыў скупа, важка, перш падумаўшы. І яшчэ нязвычна было бачыць, што патыліца ў яго была нябрытая, рыжы мяккі пушок клаўся аж на каўнерык, а на той час гэта было нямодна. Пільняк быў чалавек вельмі дапытлівы: усё, пра што пісаў, павінен быў бачыць сам. І ў Туле, калі мы, заняўшы ўсю залу на вакзале, збіраліся перакусіць, ён знік — пайшоў аглядаць

металургічныя заводы. Ужо ў вагоне выціраў запэцканыя мясціны на сваім пінжаку.

Запомніўся Барыс Пастарнак. Твар цяжкі, скасабочаны, парушаны ў прапорцыях так, што здавалася, ён зроблены з многіх твараў, не зусім дапасаваных адзін да аднаго. Мы ехалі з ім у трамваі. Сказаўшы слова ці два, ён тут жа замкнуўся ў самога сябе. Стаяў на праходзе, узяўшыся за почапку ўверсе, і ўвесь час варушыў губамі і пагойдваўся, ловячы нейкія рытмы. Людзі на яго з дзівам глядзелі і абыходзілі, стараючыся не зачапіць і не парушыць гэтага набажэнства.

7

Канчаўся універсітэт, і рабілася шкода добрых настаўнікаў. Мы любілі Замоціна, Вальфсона, Піятуховіча, Фохта, Саўсуна. Саўсун прыязджаў з Масквы, у аўдыторыю з'яўляўся проста з цягніка і, без ніякіх канспектаў і выпісак, пачынаў тут жа лекцыю. Тоўсценькі, кругленькі, ён хадзіў перад кафедраю, дробна тупаючы кароткімі нагамі, і па памяці чытаў тэксты з Тургенева, адкуль хочаш і колькі хочаш, дзівячы нас фенаменальнасцю свае памяці. Чытаючы, ён на ўсё забываўся і нават ніколі не чуў званка.

Пасля універсітэта я працаваў у рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва». Месцілася яна ў Доме пісьменніка. Аднаго разу ў рэдакцыю прыйшло вельмі нядобрае пісьмо з Любаншчыны. У ім пісалася, што Янка Скрыган быў у іхніх мясцінах, выступаў на вечарах, чытаў свае творы і груба, зняважліва трымаў сябе. Настаўнікі патрабавалі абмеркаваць неэтычныя паводзіны Скрыгана і пакараць яго. Рэдактар, Ільля Гурскі, трывожна і здзіўлена папытаўся:

— Што ж ты там нарабіў?

Я сам быў здзіўлены не менш за яго, бо на Любаншчыну ніколі не ездзіў.

Праз колькі часу, спусціўшыся на ніжні паверх, я расказваў пра гэта таварышам. Усе абураліся.

— Трэба напісаць ліст у рэдакцыю, сказаць, што гэта быў не ты, а нейкі шарлатан, — параіў Васіль Каваль.

Воддаль ад нас сядзелі двое, таксама пра нешта гаварылі. Аднаго я бачыў толькі спіну. І раптам угледзеў, што патыліца ў яго ўся наліта крывёю. Я ведаў гэтую патыліцу, гэтую спіну — мне стала нядобра і вельмі брыдка за яго. Я пачуў, як мне самому стала горача. Абарваўшы гаворку, я ціхенька

ўстаў і неўзаметку выйшаў. Павярнуў дадому, ішоў і спінаю адчуваў, што за мною ідзе ён. Гэтак жа ціха, як і я, але неадступна. Вось ён набліжаецца, вось ён ужо за маім плячом. Я баюся азірнуцца, каб пэўніцца, што гэта праўда. І толькі калі павярнуў на менш людную вуліцу Урыцкага, ён паказаўся з-за пляча.

— Я чуў вашу гаворку, — сказаў ён. — Вам не трэба нікога шукаць і дазнавацца, бо гэта быў я.

— Нашто ж вы гэта зрабілі?

— Не ведаю. Я вельмі люблю літаратуру, вы ж знаеце. Быў у камандзіроўцы ад газеты і падумаў, што нічога благога не зраблю, калі прачытаю вашы рэчы. Я ведаю іх на памяць. А нагрубіяніў, бо не выцерпеў, што яны вас не разумеюць. Чаму бо вы пішаце з вымудрамі.

Ён правёў мяне да самага дома, просячы толькі аднаго: каб я не пісаў у газету ліста. Бо тады можа ўмяшацца пракуратура, а ён жа сам спадзяецца стаць пісьменнікам.

Я паабяцаў. Пісьменнікам, ведама, ён не стаў. Праз дваццаць з лішнім гадоў я сустрэўся з ім: ён быў на добрай пасадзе, дырэктарам школы, а пра літаратуру нават не загаварыў.

За час работы ў газеце я падмеціў адну характэрную рысу ў Янкі Купалы. Ён ніколі ці бадай што ніколі сам не прыносіў сваіх вершаў і не браў за іх ганарару. Усё гэта рабіла за яго цётка Уладзя. Ён жа звычайна заходзіў проста пасядзець, пагаварыць, папытацца, як пажываем. І тут жа каля яго збіраўся цэлы гурт.

— То, можа, сходзім ды хоць па куфлю піва вып’ем? — скажа ён напаследак. — А то вы нешта тут вельмі зашчыраваліся.

Ну, і ішлі. Цугам за ім. Я ніколі не бачыў, каб Купала хадзіў адзін — вечна за ім цэлы хвост маладых. А на руцэ ў яго вісіць кіёчак. А ён паперадзе. Твар шчаслівы, харошы, сядытады прабяжыць па ім усмешка. Павернецца, што-небудзь скажа каму цераз плячо, трошачкі крывячы ўніз губу. І зноў з кіёчкам паперадзе.

Калі прыехаў з кангрэса ў Чэхаславакіі — не абмінуў запрасіць у госці. Сымона Баранавых і яшчэ не памятаю каго. Стаміўся, занудзіўся па доме. Відаць, што быў закаханы ў Аляксея Талстога, пра яго гаварыў найбольш. Паказаў падарункі: зімовыя чаравікі на фетравай падкладцы, маленечкі патэфон. Прайграў некалькі пласцінак. А напас-

ледак участаваў чэхаславацкаю мятнаю гарэлкаю ў кантовай пляшцы.

— Надта многа не піце, і другім жа трэба пакаштаваць, — жартаваў ён, а сам падліваў і падліваў.

Асталося адно і цяжкае ўражанне. Невялічкай брыгадаю — памятаю, што быў Васіль Каваль, — мы выступалі на Барысаўскай запалкавай фабрыцы. На той час у крытыцы вельмі ўпэўнена адчуваў сябе вульгарны сацыялагізм, і Бэндэ кружыў над літаратураю, як коршак. У бэндаўскай крытыцы імёны Янкі Купалы і Якуба Коласа былі сінонімамі палітычнага рэнегацтва. І от як толькі Янка Купала прачытаў свае вершы, нехта з залы кінуў злаславае запытанне, нават не запытанне, а сцвярджэнне, што ён адступнік. Зала зашумела, загула ад абурэння і тут жа сціхла, бо з-за стала падняўся Янка Купала. Трошачкі больш як звычайна дрыжала губа, трошачкі глушэй як звычайна ён сказаў, што ніколі, ні на якім этапе не адступаўся ад свайго народа.

Залу страсянулі воплескі, але ўжо ўвесь вечар Купала быў хмурны і маўклівы.

Крытыка таго часу нямала шкодзіла: яна хацела спрасціць літаратуру, выкінуць з яе душу. Я сам быў у адчаі: як жа навучыцца пісаць так, каб было правільна? Здаецца, і тэму браў самую сучасную — калгасы, але не: дробнабуржуазны ўхіл, корпанне ў чалавечай душы. А як жа напісаць без душы, без чалавека? Спрабаваў, і выйшла дрэнь — «Недапісаны профіль» або другія апавяданні, падобныя на фактаграфічныя нарысы. Праўда, я сам на сабе пераканаўся, як асцярожна трэба пісаць, каб табою не пакарыстаўся зламыснік, і асцерагаўся гэтай «душы», аб’ектывізму. Пасля таго як выйшла «Шугае сонца», з тае ж Магілёўшчыны ў ЦК быў прысланы яе экземпляр. Увесь тэкст скрэмзаны, затушаваны радкі і цэлыя абзацы. Закрэслена ўсё тое, што гаварылі або думалі добрыя людзі, аўтараў розум, а пакінуты думкі і размовы нехацімцаў, кулакоў і падкулачнікаў ды тое, дзе сказана, як не па-гаспадарску выглядае колішні панскі маёнтак. З такой «дапрацоўкай» мая кніжка чыталася зусім іначай. Так што і гэта трэба было мець на ўвазе.

Тым не менш у спадарожніках хадзіць было не вельмі весела. Шукаючы спосабу знайсці тую правільнасць, я падумаў, што, можа, мне шкодзіць рамантыка, у якую часам любіў пусціцца, і з свае творчасці надоўга выгнаў жанчыну і каханне. А тады яшчэ падумаў, што, можа, мяне падводзіць тэма.

Як ні кажы, а сялянская душа складаная, у ёй вельмі блізка суседзяць бядняк і кулак. Калгасы — таксама новая форма: сэрцам і розумам я даходжу, а можа, дзе чаго недачувае душа? І захацеў паспрабаваць сябе ў новым матэрыяле. У Гістпарце мне далі дакументы пра козыраўскіх партызанаў. Я здзівіўся: якая гераічная старонка барацьбы за рэвалюцыю! Пад свежым хваляваннем бегла накідаў аб гэтым у «Правду» нарыс «Восем смертнікаў». Пачаў пісаць раман, але скончыць не ўдалося, а матэрыялы загінулі.

## Круг трэці

## ТРЫВОГІ

### 1

Даволі доўгі час я не займаўся літаратураю. Я пабываў у Сібіры, Узбекістане, Эстоніі, бачыў розныя землі і гарады.

І ўсюды на сваім шляху сустракаў і добрых і благіх людзей. Найбольш добрых, і найбольш гэта помніш, бо на добрым вучышся сам. Я маю на ўвазе не якую дабрачыннасць, а чуласць, сумленнасць і праўду, няхай сабе жорсткую, чалавечыя ўчынкі. А благія — гэта як памылкі друку.

Добры быў Васіль Аркадацкі, бухгалтар па прафесіі, які ўзяў мяне з земляных работ і не выпусціў з вока, пакуль не дабіўся толку. Узяў ён мяне на падмогу ў часе гадавой справаздачы — проста чарціць бланкі, а выпусціў бухгалтарам, даўшы неблагую спецыяльнасць.

Добры чалавек быў галоўны бухгалтар завода Мікалай Воранаў. Я змогся, ходзячы па Фергане і шукаючы работы больш-менш блізкай па душы. У снежні, у самую тамашнюю зіму, як толькі наставала ноч, я выходзіў за горад, выбіраў месца, дзе расло больш тутоўніку, награбаў лісця пад сябе і лажыўся спаць. Раз заначаваў у чайхане, але якраз была праверка дакументаў, мяне западозрылі, запрасілі ў міліцыю, і толькі назаўтра выпусціў пракурор Вавілаў. Страціўшы ўсякую надзею, я пайшоў бадзяцца па вуліцах і натрапіў на новы завод, што стаяў недзе на краі горада. У недабудованай канторы проста на ўтрамбованай зямлі стаялі сталы, а за самым дальшым сядзеў галоўны бухгалтар, відаць, нядаўна дэмабілізаваны. На шафе вісеў яго шынель, на стале, казырком на кантору, ляжала яго шапка. Не выпускаючы з зубоў чорнай прасмаленай люлькі, ён спакойна і неяк хваравіта-ціха распытаў, што я знаю па сваёй прафесіі, і сказаў:

— Пішыце заяву.

— Толькі я... — недагаварыўшы, я красамоўна паказаў на свой бушлат.

— А я бачу, — сказаў Воранаў. — Пішыце заяву.

Тут жа з заявай ён пайшоў да дырэктара, да начальніка аддзела кадраў. Выклікаў каменданта Сёміна і распарадзіўся, каб мяне пасялілі ў інтэрнат.

— Пакуль што кватэры асобнай няма, — растлумачыў ён. — Але скора будзе, будуем цэлы гарадок.

За ўвесь час работы на заводзе я ўпэўніўся, што такі душэўны і чулы быў ён да ўсіх. Характар і лёс гэтага чалавека, удзельніка іспанскіх падзей, патрабуе цэлай кнігі.

Добры чалавек быў дырэктар гэтага ж завода Уладзімір Кучарэнка. Інжынер, чалавек з дзвюма вышэйшымі адукацыямі, вучоны, ён не надта любіў сваё дырэктарства, але яго любілі літаральна ўсе. Дабрата яго была справядлівая і строгая. Ён нават ніколі не загадваў, ён прасіў, і выканаць просьбу Кучарэнкі было за гонар. Бадай што ўсіх сваіх людзей ён ведаў, і не толькі ў твар, а як жывуць, якія ў іх сем'і і ў чым маюць патрэбу. І чым толькі мог — памагаў, бо час быў цяжкі, толькі што скончылася вайна. У сваім «козліку» ён ніколі не ездзіў адзін: ці з работы, ці на работу падбіраў па дарозе, каго найперш сустракаў. Яго шафёр Віця ведаў ужо гэтую прывычку, і як толькі на тратуары пазнаваў свайго рабочага, сунімаўся і зваў — сядайце. З дырэктарства Кучарэнка такі адпрасіўся, бо адначасна спраўляў і другую работу — галоўнага інжынера. Пасля яго прыйшоў новы дырэктар, Курзін. Ён прынёс з сабою і новы, вельмі модны на той час стыль кіравання: хмуры, цяжкі погляд, цвёрды, халодны голас, жалезную беспярэчнасць і манументальную недаступнасць, — усё, што павінна было ўвасабляць волю і сілу. Кантакт з людзьмі ён наладзіў толькі праз загады: даць вымову, папярэдзіць, звольніць. Тып такога кіраўніка з голай, аскетычнай суровасцю на нейкі час стаў узорам і для літаратуры. Кабінет у Курзіна стаў пуставаць. Інжынеры, начальнікі аддзелаў пачалі разбягацца.

Аднойчы на тэрыторыю завода прыйшлі цыстэрны з сернаю кіслатою. Іх трэба было разгрузіць, каб не плаціць за прастой вагонаў. Ноч, на заводзе лішніх рабочых рук няма. Курзін абзваніў усе тэлефоны, разаслаў па бліжэйшых кватэрах усіх вахцёраў і вартавых, каб сабраць людзей, але ніхто не прыйшоў. На кацельнай у інжынера Канстанцінава працавалі дзяжурныя і падсобныя рабочыя, Курзін загадаў ім, але яны

сказалі, што кацельнай пакінуць не могуць. Ён пазваніў Кучарэнку, гнеўна папікнуўшы, да чаго ім разбэшчаны на заводзе людзі. Кучарэнка з кватэры звязаўся з Канстанцінавым:

— Дарагі Канстанцін Сяргеевіч, там прыйшлі цыстэрны. Трэба іх разгрузіць, памажы, калі ласка.

Тут жа сабралася брыгада і пайшла на разгрузку. Але толькі таму, што «Уладзімір Арсеневіч просіць».

2

Ферганскі клімат аказаўся не па мне. Горача, скрозь млявая спёка, нават арыкі, што цякуць пад ценем густых прысад, не памагаюць. На рабоце я ўвесь абліваўся потам, бегаў у кацельную пад халодны душ, але пакуль даходзіў да свайго стала ў кантору, зноў млеў ад духаты і плёхаўся ў крэсла як нежывы. А тут яшчэ падступіла туга, ад якой не мог знайсці быту: я нудзіўся па нашых палях, лугах, лясах і зяляніне. Выходзіў за горад, а там бясконцыя голыя пяскі, распражаныя сонцам, і наўкруга горы. Я пачаў бачыць сны — як налівае і ходзіць хвалямі жыта, як па лузе растуць кусты, як віюцца ў полі дарогі, і думаў: няўжо ж гэта ўсё я цяпер буду бачыць толькі ў снах?

Як на тое шчасце, у Эстоніі аказаўся знаёмы, і на маё пісьмо, што хацелася б перамяніць геаграфічнае месца, я атрымаў афіцыйнае запрашэнне на работу ад сланцахімічнага камбіната. «Прапануем месца старшага бухгалтара механічнага завода, выплачваем пад'ёмныя, забяспечваем кватэрай, тэлеграфуйце згоду», — пісалася ў тэлеграме. Са мною ў дарогу пусцілася жонка з пяцімесячнаю дачкою, а па чыгунках таго часу гэта была не лёгкая адвага. Добра, што сябры зварылі з медзі каністру, палудзілі яе з сярэдзіны і ўсю напоўнілі спіртам. Сям-там гэта памагала.

Мяне прызначылі на зусім другую работу — на сланцавую шахту. Толькі што ўцёк адтуль галоўны бухгалтар Каракіёз, захапіўшы з сабою трынаццаць тысяч рублёў. Не вельмі было мне весела: гэтай вытворчасці я не знаў, уся дакументацыя ішла на эстонскай мове, уліку, як выявілася, бадай што не было — нездарма ўцёк Каракіёз.

Адступацца было нельга. Задача двайная: авалодаць мовай, чытаць самому ўсю дакументацыю, каб людзі не лічылі мяне чужым, і другое — знайсці недзе пачатак, каб цвёрда ад яго

ступаць. На цэлага паўгода я засеў у канторы, не вылазячы з яе бадай што круглыя суткі. І калі, здавалася, усё пайшло ўжо на лад, пазванілі, што выклікае галоўны бухгалтар камбіната Пятроў.

У Пятрова сядзелі дырэктар камбіната Фердынанд Меттус і яго намеснік Абрам Пеўзнер. Яны паглядзелі на мяне вельмі падазрона. Што магло здарыцца?

Пятроў прыехаў да нас нядаўна з апарату міністэрства. Мы ведалі, што не па сваёй ахвоце. Проста ён там надакучыў сваімі строгасцямі і старэчым фармалізмам, ад яго хацелі збавіцца і знайшлі пачэсную прычыну: вы, Мікалай Мікалаевіч, чалавек спрактыкаваны, з характарам, едзьце і папраўце справы на камбінаце «Ківіылі». Бо камбінат немалы, займае салiднае і вельмі пачэснае месца ў сістэме сланцахімічнай прамысловасці, і няхай ён нам не псуе агульнае карціны ў балансе міністэрства. Пятроў прыехаў чыста выбрыты, сівавусы, у вельмі добрым макінтошы, з маладою жонкаю рыжага, агністага колеру і з невялікім чамаданчыкам на ўсю пяціпакаёвую кватэру. Ну што ж, чалавек ва ўсім хоча выглядаць маладым. Дай божа.

І неўзабаве Пятроў так зацiснуў цуглі, што дырэкцыя не магла павярнуцца. Нічога нельга было зрабіць: ні аплаціць грузаў, ні купіць што па неадкладных патрэбах, ні аформіць лімітавай чэкавай кніжкі, ні паслаць каго ў камандзіроўку. Ва ўсім ён бачыў шальмоўства і круцельства, усіх падазраваў у злачынствах. На сваім стале ён паставіў машынапіску «Алімпію», корпаўся ў дакументах і пісаў дакладныя і даносы ва ўсе канцы: у міністэрства, у рэвізійна-кантрольнае ўпраўленне, у райфінаддзел, у дзяржаўны банк. На нас панакладалі санкцыі, пазбавілі пазык, арыштавалі бягучы рахунак. Уся дзейнасць камбіната аказалася скованай. Дырэкцыя званіла ў міністэрства, але там пакуль што нічога не маглі зрабіць: Пятроў нічым не парушаў законаў.

У шальмоўстве ён западозрыў і мяне і пазваў абодвух дырэктараў, каб яны самі пераканаліся, якія тут кадры на гэтым камбінаце.

— Ну, дык расказвайце, малады чалавек, што вы там натварылі, — сказаў ён, пасадзіўшы мяне перад сабою па другі бок стала. «Алімпія» на суконнай падкладцы была ссунута на край, але ўсё роўна як бы не давала мне бачыць усяго Пятрова. — Раскажыце, які цуд вы зрабілі ў сябе там са сланцам. Здорава, здорава! Вы падаяце вялікія надзеі! Ха-ха!

Меттус, чалавек светлабровы, душэўны, праўдзівы, глядзеў на мяне вачыма шчырай шкадобы: як жа так здарылася? — і нейкай надзеі: а можа, гэта няпраўда? Пеўзнер, маленькі, настаўбурчаны і калючы, — вачыма з'едлівай асалоды: ага, папаўся, зладзюга!

А выйшла самая простая рэч. Увесь час на шахце высока каштаваў сланец, куды даражэй, як гэта прадугледжвалася планам. Па маёй справаздачы ён стаў, наадварот, куды дзешавей. Я паказаў Пятрову ўсе дакументы, дакладна расшыфраваў калькуляцыі. І Меттус, і Пеўзнер павесялелі.

А ніякага цуду я і не зрабіў, проста — паставіў усё на сваё месца. Не прыняў выдаткаў другіх аддзелаў камбіната, якія звычайна спісваліся на шахту, бо нават аддзел забеспячэння паняў такую моду: бог ведае каму выдасць камплект спяцовак (гумавых ботаў, плашчоў, ватовак і адавізуе* на шахту — там знойдуць, куды ўсё гэта дзець. Ачысціў ад чужародных затрат падземны і наземны транспарт, праверыў нормы цэхавых выдаткаў, папярэдзіўшы начальнікаў участкаў, што прыму строгія захады, калі яны будуць перавышаны. Апрыходаваў (а значыць, паменшыў затраты на сланец) вернутую з выпрацаваных штрэкаў руднічную стойку. Не абышлося і без канфліктаў: не прыняў некалькі ліпавых нарадаў. Адзін з іх проста нахабны: тры тысячы рублёў за ачыстку ўсходняга зумфа. Я праверыў — ніякай ачысткі не было. Інжынер Уладзімір Зон стаў маім лютым ворагам.

3

Прайшоў яшчэ нейкі час, і зноў на стале маім зазваніў тэлефон.

— Кууc кюменд кууc? — папытаўся нямоцны, але страгаваты голас.

Гэта быў нумар майго тэлефона — шэсцьдзесят шэсць.

— Йя, кууc кюменд кууc, — адказаў я.

— Вас просяць зайсці да дырэктара камбіната, — прашчабятаў галасок дырэктаравай сакратаркі.

У дырэктара сядзеў Абрам Пеўзнер. Напярэкрыж яны пачалі мяне ўгаворваць, каб згадзіўся стаць галоўным бухгалтарам камбіната. Гэта было неверагодна. І страшна.

* Ад слова «авіза» — паведамленне, што адпраўлены груз, тавар або грошы.

Неверагодна, бо я быў упэўнены, што мая біяграфія не падыходзіць да такой пасады. Страшна, бо гэта ж вялізная гаспадарка, прадукцыя якой мае бог ведае якую складаную наменклатуру. Па-сутнасці, гэта некалькі заводаў, патрэбных адзін аднаму. Не, не магу я згадзіцца.

Выклікалі і назаўтра.

На трэці дзень я ішоў ужо вагаючыся, бо ў душы спакушаў і захапляў размах творчасці. Але ні спрачацца, ні вагацца не было ўжо ніякай патрэбы — мне паказалі загад міністра на прызначэнне.

4

Зноў пайшлі дні, калі я мог прыходзіць дадому толькі ўночы. Не буду гаварыць, што і як мне прыйшлося рабіць, каб дамагчыся зрухаў. Мабыць, відно ўжо, што і тут былі каля мяне добрыя людзі, — я маю на ўвазе Меттуса. Неяк увечары, калі на ўсім камбінаце свяцілася толькі маё акно, ён зайшоў да мяне, сеў на канапу і папытаўся:

— Цяжка?

Што цяжка, то ён бачыў сам. Падумаў трохі, дадаў:

— Можа, што трэба, каб я чым памог? Нашы начальнікі аддзелаў дысцыпліны не вельмі любяць. Вы скажыце, дык мы іх абавяжам загадам.

І памагаў. Усім, чым мог: і ўвагаю, і чулым словам, і загадам.

Зусім іначай разбіраўся ў душы другі чалавек, парторг Назараў. У аповесці «Скажы адно слова» я расказаў пра выпадак з двума рабочымі, што сабраліся ехаць у адпачынак. Я там не ўсё дагаварыў да канца.

Вельмі доўга цягнуўся такі час, што я мог даваць людзям толькі сякія-такія авансы, і то ў выпадку вялікай патрэбы. І вось усё гэта мінулася, у касе ляжалі мільёны грошай, апарат спешна рыхтаваў ведамасці, каб разлічыцца з даўгамі і выдаць чарговую зарплату — усім, адразу. У гэты час і зайшлі два рабочыя — з гнеўным патрабаваннем, каб ім выдалі ўсе грошы, бо яны едуць адпачываць аж на Украіну. Нават паказалі даведку аддзела кадраў, што едуць іменна туды. Я паслаў іх у касу.

Неспадзявана атрымаўшы больш як па восем тысяч на кожнага, неўзабаве яны зноў зайшлі да мяне, прызналіся, што

ашукалі, што ні на якую Украіну не едуць, і з гэтае нагоды прасілі пайсці з імі і выпіць хоць па куфлі піва. Я ніколі не рабіў гэтага, мне было смешна і дзіка нават падумаць, каб так зрабіць, і адмовіўся. Але да канца рабочага дня я бачыў, як адчыняліся дзверы ў кабінет то з памяшкання бухгалтэрыі, то з калідора і гэтыя два чалавекі ўсё цікавалі, каб застаць мяне аднаго.

— Таварыш галоўбух, няўжо вы намі грэбуеце? Пасядзіце з намі паўгадзінкі, толькі па адным куфлі піва! Просім вам ад шчырага сэрца. Калі няма часу, то мы будзем чакаць вас аж да вечара. Вось тут, у калідоры, і будзем чакаць, а вы сабе працуйце. Просім вас на аднае паўгадзінкі.

І тут я падумаў: а чаму, папраўдзе, я не магу пасядзець з імі? Чым гэта блага? Іх радасць — гэта ж і мая радасць, можа, нават большая, бо нарэшце я ўбачыў плён свае працы. Але Назараў атруціў гэтую хвіліну радасці.

Назаўтра, як толькі я прыйшоў на работу, зазваніў тэлефон.

— Галоўбух? Безабразія! — крычаў Назараў. — Як вы маглі дапусціцца, каб вас бачылі разам з рабочымі ў рэстаранах? Дарваліся да чужых грошай? Сваіх не хапае? Хто вам дазволіў? Сорам! Які ж вы галоўбух пасля гэтага!

Я слухаў і не верыў сваім вушам. Што я мог сказаць? Дый ці варта было гаварыць? Нават калі б я зрабіў якую правінку, дык хіба нельга па-чалавечы разабрацца ў ёй, і не па тэлефоне? Не, ніякія парыванні душы гэтаму чалавеку невядомы. Я чуў, як у мяне спірае дыханне, і, каб не нагаварыць грубасцей, кінуў трубку.

Тут жа зноў зазваніў тэлефон.

— Што, не хочаце са мною гаварыць?

— Не хачу, — сказаў я. — Калі такім тонам — не хачу. І не буду, — і зноў палажыў трубку.

Хвілін праз дваццаць зайшоў Меттус. Пасядзеў, пагаварыў, параіўся, ці варта пасылаць чалавека ў Ленінград на прыёмку новага абсталявання. І ўжо адыходзячы, як бы няўзнак, стоячы ў дзвярах, спагадліва сказаў:

— З вамі гаварыў Назараў. Не зважайце, з ім гэта бывае.

Прайшло з год часу. Усё ішло як мае быць, я меў права як бы нават ганарыцца ўсім, што зроблена. Неяк пасля абеду вярнуўся з тэрыторыі камбіната — такія праходкі сталі маёй патрэбай — і толькі паспеў распрануцца, як дырэктарава сакратарка папрасіла зайсці да Пеўзнера. Звычайная рэч, а от не

магу зразумець, чаму на гэты раз нешта трывожнае кальнула ў сэрца. У Пеўзнера сядзелі два чалавекі. Адзін з іх папытаўся, ці з сабою ў мяне пашпарт...

5

Сярод людзей, што займаліся маім лёсам, таксама былі добрыя і благія людзі. Нават у тыя далёкія гады, калі не толькі мяне напаткала бяда, я меў магчымасць пераканацца ў гэтым. Справаю маёю займаўся вельмі строгі чалавек, Цімафееў. Ён быў нават жорсткі, але ўвесь час не пераставаў перасцерагаць: «Толькі нічога не выдумляйце, гаварыце праўду. Калі станеце выдумляць, вы нагаворыце на сябе, міжволі ўцягнеце і другіх, невінаватых, а савецкія законы не могуць дапусціць несправядлівасці». Мне часамі думалася, што вось такі, мабыць, быў Дзяржынскі: яму аднолькава важны былі і дзяржава, і чалавек у ёй.

Ну і, вядома, за справу ўзяўся другі чалавек.

Цяпер я гляджу на сваю дарогу, як на далёкі сон. Мая біяграфія здаецца мне вельмі доўгаю, і я дзіўлюся, як многа ў ёй месціцца. Я зазнаў і трагізм, і роспач, зведаў цану радасці і надзей: быў на грані таго горкага адчування, калі чалавек астаецца без радзімы — не мае на яе права, і зразумеў, якое гэта вялікае і дарагое пачуццё — бацькаўшчына.

Лёс кожнага — гэта свой лёс, але без лёсу народа няма і свайго лёсу. Часта я думаю, у якой душэўнай спустошанасці жывуць тыя, што апынуліся на далёкіх, чужых землях. Я не гавару пра здраднікаў і палітычных злачынцаў, яны самі пазбавілі сябе бацькаўшчыны. А маю на ўвазе тых, што па волі часу і падзей, па якой невялікай правінцы або і зусім без правінкі — па прымусу — пакінулі сваю зямлю. Бацькаўшчына ім мроіцца толькі ў харошых снах. Я ведаю, што ім цяжка, што перад сабою летуценна яны бачаць бясконца дарагія родныя нівы, лугі, кветкі і травы, раніцы і вечары, вузкія сцежачкі сярод жытоў і хаты; што ім чутны нашы песні, што ім свеціць наша сонца, як надзея, як права аставацца людзьмі.

6

У горы таксама ёсць месца для любові. Аднакава яны жывуць надзеяй.

Я палюбіў Сібір і сібірскую зіму з яе сухімі, яснымі марозамі, калі стаіць такое чыстае і ціхае паветра, што ты нават не думаеш, што тут пяцьдзесят градусаў і трэба асцерагацца, каб не адмарозіць шчок, барады ці носа, бо нават і не заўважыш гэтага; з яе лютымі завеямі, калі ўвесь свет кружыцца вакол цябе ў шалёным, дзікім, белым, сляпучым танцы і ты ўжо не ведаеш, дзе права, дзе лева, нават дзе неба і дзе зямля. Палюбіў імклівае, але гарачае і нейкае ва ўсім спелае лета, за якое на вачах растуць і збажына, і травы, і кветкі, яркія і буйныя і ўсё-такі як бы нечым несапраўдныя, бо ў іх няма самага наймілейшага іх хараства — паху. Палюбіў нясмелыя вёсны і кароткую яркую восень, калі раптам аб адным дні загарацца жоўтым лісцем бярозы і так і стаяць і гараць ціхім залатым полымем, падкрэсліваючы заспакайнелыя сінія далі з пералескамі, узгоркамі і лагчынамі. Пад сярэдзіну лета колькі ў тых пералесках ягад — буйных чырвоных трускалак, якіх можна набраць цэлы кораб на адным месцы, лежачы бокам у высокай траве. Не раз усёй сям'ёй — з жонкай, дачкой і сынам — і з нашым вясёлым Бобікам, які аднойчы нарадзіў поўную будку шчанят, і мы вымушаны былі цяпер называць яго Бобіхай, — не раз вось з такой сямейнай кампаніяй, пабраўшы кашы, мы хадзілі на гэты промысел у нядзелю, знаходзячы ў ім і адпачынак і асалоду.

Я палюбіў сваё харошае сяло з яго ціхімі вуліцамі і завулкамі, з камунгасам, дзе працаваў і зазнаў таксама гора і ўдачы, з узгоркам за нізкім драўляным мастом, дзе стаяла наша зямлянка і дзе Аня спрабавала завесці і качанят і гусянят, а яны, голенькія яшчэ, пры першым халодным дажджы, папруцянелі на беразе невялічкай нашай рэчкі, што працякала тут жа пад гарою; з жалем душы я сабраў іх і безнадзейна прынёс у зямлянку, а Аня безнадзейна, у слязах, сама не ведаючы навошта, пакідала ў цёплую печ, а пасля, калі адчыніла засланку, яны, шэрыя, выкачаныя ў попел, страшныя і лупатыя, стаялі гуртам і ціўкалі, чакаючы, каб іх нарэшце адтуль забралі.

Я думаў, што я ўжо карэнны сібірак і нікуды мне не трэба. Але аднойчы на работу да мяне прыбегла Аня і, адчыніўшы дзверы ў кантору, дала знак, каб я выйшаў. У руцэ ў яе я ўгледзеў раскрыты канверт. Не ведаю, што я падумаў, але на гэтую хвіліну ўсё для мяне знікла. «Вось чытай, — сказала яна, з дрыжаннем рукі падаючы той канверт. — Толькі спакойна». Я яшчэ не паспеў прачытаць ні радка, як з розных пакояў

зачохкалі дзверы і людзі падбягалі да мяне, віншавалі і ціснулі рукі. Ніхто не ведае законаў, па якіх так скора пазнаюцца добрыя весці. Гэта было паведамленне пракуратуры БССР, я атрымаў яго 17 студзеня 1955 года. Я зірнуў на Аню, яна ледзьве стаяла — бледная, раптам уся зняможаная, а ў вачах было шчасце.

Цяпер я адчуў, што не магу аставацца тут ні аднаго дня. Праўда, як гэта заўсёды бывае ў такіх выпадках, знайшліся раптам неадкладныя справы па службе, па доме, якіх нельга кінуць абы-як, прыйшлося затрымацца яшчэ на колькі месяцаў, але жыў я ўжо да часу. І нарэшце, распрадаўшы што мог і купіўшы гарнітур, пакуль што адзін, пусціўся ў дарогу.

Дзень за днём перастуквае па рэйках цягнік. Божа, якія прасторы, якая мілата! Гэта ўжо канец мая, за вокнамі ўсё жыве і красуе. Бок аголенай чырвонай скалы, пералесак, ручай, стэп, сіні вецер з далёкіх прастораў, косае крыло птушкі. Сяло з дзёрнам на стрэхах ад ветру, з нафтавым складам пры станцыі і раз’езджанай да яго чорнай, блішчастай ад нядаўняга дажджу дарогай. Лес, пільня, высокая і тонкая труба паравіка, штабелі дошак, бярвенне, трэскі, аполкі і ваганеткі на тоненькіх нітачках рэек. Лініі высакавольтавых перадач, дарогі ўсцяж чыгункі і грузавыя машыны, што то пакажуцца, то схаваюцца разам з нечаканым паваротам гэтай дарогі. На станцыях саставы і саставы, нагружаныя цэглаю, вугалем, пяском, металам, машынамі, абсталяваннем. А за Новасібірскам, аж да самага Урала, спрэс зялёная кучаравая рунь. Ну што ж, бывай, Сібір, ад цябе я таксама ўзбагацеў душою.

У купэ ад Масквы са мною тры чалавекі. Маладыя. Адзін з іх палажыў на столік чырвоную скураную папку. Хто яны? Стараюся прыслухацца да гаворкі. Геолагі. Ну вось, новая, раней невядомая ў Беларусі прафесія.

Прайшла правадніца, забрала білеты. У яе голасе я чую новую і вельмі знаёмую і родную інтанацыю. Мова! З жахам я ўспамінаю, што яе зусім забыў. У мяне прапаў нават акцэнт — нідзе ніхто за ўсе гады не мог нават западозрыць, што я не рускі. А цяпер вось гэтае цвёрдае ш, ч, р і мяккае дз, ц, с. І хочацца, каб даўжэй стаяла гэтая жанчына і больш гаварыла.

За Смаленскам бадай што ўсю дарогу не адыходзіў ад акна. Здавалася, што я памятаў тут любую бярозку. А ў Мінску, ступіўшы на Прывакзальную плошчу, ашаламіўся — нічога падобнага не чакаў, нічога не пазнаваў. І першае, што

зрабіў, — здаў чамадан у камеру ручной клажы і пайшоў аглядаць горад...

## Круг чацвёрты

## СПАСЦІЖЭННЕ

### 1

Можа, дзякуючы памяці мы маем магчымасць адзначаць рух часу.

Я ведаў, што па маёй зямлі прайшлі спусташэнні і смерць, але ў памяці непачапаным аставалася ўсё так, як я пакінуў: і горад з яго ціхай мурожнай Маркаўскай вуліцай за паркам Горкага, і людзі, і іх аблічча, і галасы.

Усё ў памяці ўваскрасала тысячы разоў як жывое, з фізічным адчуваннем выявы і гукаў, і ўсё аказалася няпраўдай. Аказалася, што ўсё тое, з чым жыў ты як з самай блізкай надзеяй на рэальны свет, даўно не існуе, яго навечна забраў з сабою час. Тое, што бачыў я цяпер, было падобна на сон ці на добрую казку, з якой мы навучаемся марыць.

Кругом быў сон: і Прывакзальная плошча, на якую клалася ўсё неба, і вуліцы, шырыня і прастор якіх не месціліся ні ў якую яву, і Алесь Пальчэўскі з яго жонкаю Тамараю, што адразу прытулілі мяне, уступіўшы вузенькую бакоўку на Красівай вуліцы, і ціхая радасць, што недзе тут хадзіла мая маладосць, і трывогі за самае галоўнае, самае найпершае: хто тут цяпер я? Як сустрэнуся з сябрамі, калі яны дзе асталіся.

Двое, я ведаў, ходзяць у добрай народнай славе, колькі часу таму назад я пасылаў ім тэлеграмы, вычытаўшы з газет, што яны пашанаваны ордэнам Леніна. Мне была гордасць за іх, нібы і я быў нечым спрычынены да іхняй славы. Нават у тэлеграфісткі з нашай пошты акругліліся вочы ад нечаканасці, што я знаюся з такімі людзьмі. Засмуцілі ці парадавалі іх мае віншаванні?

Сном было і тое, што так доўга не быў тут, што недзе за спінаю асталіся далёкія прасторы, ходжаныя і няходжаныя дарогі, зімы і леты, невялічкая забытая хатка на ўзлессі, якое называлася Камаровым, дзе я ўсю восень вартаваў ссыпаную ў капцы залатую пшаніцу і дзе сярод хараства, якое так шчодра, ідучы на спачын, раскідае прырода, асталося многа маіх нікому не расказаных дум...

2

Дома пісьменніка па старым месцы няма. Ён месціцца на ціхай даўняй вуліцы, у асабняку, уціснутым у зялёны садок. У ніжнім паверсе музей Янкі Купалы, мне ж трэба падняцца наверх па ўсходах з другога ганка, з двара.

Пажылая жанчына сказала, што яшчэ рана, нікога няма, але, здаецца, прыйшоў Міхась Калачынскі. Калі я зайшоў, ён не паспеў яшчэ зняць свайго шэрага габардзінавага макінтоша, стоячы, чытаў нейкую паперку, успёршыся на стол рукамі. На мяне зірнуў быстра, з дзівом: хто я такі і чаго заявіўся без папытання? Але тут жа павітаўся, падаўшы руку, калі я сказаў пра сябе. Папытаўся, калі я прыехаў, ці не натаміўся ў дарозе. Мне была прыемна спакойная прастата, роўны, упэўнены голас, нейкая добрая спагада ў ім. Прыемны быў твар з круглымі мяккімі лініямі, у якіх я доўга сіліўся разгадаць нешта мне вельмі знаёмае. Аказалася, якраз вось такі, круглы і мяккі падбародак быў у Кузьмы Чорнага. Мне стала яшчэ лепш на душы. Распрануўшыся, Калачынскі даланёю прыгладзіў рэдкія, падаткія валасы, але за стол не сеў, астаўся стаяць пры акне разам са мною. Я заўважыў, што неўпрыкмет ён разглядае мяне. Ну што ж, нармальна, гэтаксама, мабыць, зрабіў бы і я. Між тым ён распытваў: адзін я прыехаў ці з сям'ёю, наогул, што ў мяне за сям'я, ці падабаецца мне новы Мінск.

Ён правёў мяне з кабінета да самых усходаў, але на апошняй хвіліне затрымаў.

— Паслухайце, — сказаў ён, — у вас нічога няма з сабою вашага, напісанага, каб пачытаць?

Я зразумеў. Ні па абліччы, ні па тандэтным і даўно нямодным адзеўку я ніяк не выглядаў на пісьменніка.

— Не, — сказаў я, — няма.

— Ну, але ж вы патроху там пісалі?

Як жа сказаць, што пра тое, пра што ён хоча ведаць, ён не мае ніякага ўяўлення, што я сам трывожуся, не ведаючы, што з мяне будзе: можа, зусім адвыкла рука. Вядома, гэта, мабыць, вельмі важна, каб пры аднаўленні паказаць нейкі знак нястрачанай прафесіі, але нічога напісанага ў мяне няма. Некалькі няўпэўненых накідаў, планаў, беглых партрэтаў, зробленых на гарачую руку толькі пасля таго ўжо, як Аня прынесла ў МТС тую паперку, не могуць служыць такім знакам. Што ж мне паказваць?

— Я разумею, — між тым гаварыў Калачынскі, — вам няёмка чужому чалавеку паказваць нешта там не даведзенае да ладу, але мая цікавасць мае чыста спартыўны інтэрас.

— Не, — сказаў я. — Нічога няма ў мяне. Не пісаў.

Па ўсходах падняўся невысокі паўнаваты чалавек, гадоў, можа, трохі больш за трыццаць, але з цяжкаватым дыханнем. Ён зірнуў бегла на мяне, на Калачынскага, як бы пытаючыся, чаго мы тут стаімо і хто такі ў гэтай кампаніі я, хацеў прайсці далей, але Калачынскі сказаў:

— Гэта Шамякін, першы намеснік старшыні Саюза, — а калі Шамякін недаўмёна зірнуў на яго, патлумачыў, хто такі я.

Шамякін моцна сціснуў маю руку, засвяціўся такой цёплай, свойскай усмешкай, так проста і хораша зірнуў на мяне, што я раптам пачуў сябе самім сабою. Так, як бы я стаў роўны з ім, а значыць, і роўны з усімі. Перш-наперш Шамякін папытаўся, ці атрымаў я ад яго ліст, тады папрасіў прабачыць, што так запазніўся з адказам.

— Ведаеце, быў на курорце, — гаварыў ён, яшчэ не асіліўшы цяжкаватасці ў дыханні, — і толькі вярнуўшыся, мог адказаць вам. Вельмі дзякую за вашы заўвагі. І ў пісьме, і вось тут зноў кажу, што дзіўлюся, як гэта вы маглі, столькі часу не чуючы мовы, зберагчы такое тонкае адчуванне яе. А?

Гісторыя з пісьмом трохі засмучала мяне. Яна спрычынілася не вельмі ўдала. Па дарозе ў Мінск, у Краснаярску, зусім выпадкова, ад выпадковых людзей Пальчэўскі даведаўся пра мяне. Што я ў гэтых мясцінах. З дарогі ён напісаў паштоўку, а ўжо з Мінска прыслаў некалькі бандэроляў з газетамі і часопісамі. За многа гадоў я першы раз бачыў беларускія выданні і ўпершыню пачуў беларускае слова — ад самога сябе. І, памятаю, не то ў «Беларусі», не то ў «Маладосці» была надрукавана нізка кароткіх апавяданняў Івана Шамякіна. У адным з апавяданняў гераіня расказвала падарожніку пра сваё жыццё. Мне здалося, што яна, сялянка, павінна была б гаварыць не такою моваю. Я падмяніў ёй дыялог, даўшы другі лад сказу і другія, як мне здавалася, больш блізкія яе вобразу словы. Зрабіў і нейкія іншыя заўвагі. Выйшла нешта падобнае на рэцэнзію, і я паслаў яе аўтару. Цяпер мне было няёмка ўдвая за тое пісьмо. Першае, калі я яго пісаў, то адтуль, з свае далечыні, уяўляў, што Шамякін — гэта нейкі зусім малады хлапчына, які яшчэ толькі намацвае сваю дарогу да літаратуры. Аж аказалася, што і ён, і Калачынскі, і ўсе тыя, пра каго чуў і каго бачыў, што гэта людзі, у якіх за плячыма ўжо і розныя спецыяльнасці, і вайна, і салідныя тамы кніг. Другое, я

не ведаў, што Шамякін ходзіць у першых намесніках старшыні. Мне было непамысна, калі я думаў, што мой учынак можна цяпер тлумачыць як нейкі тонка разлічаны ход.

Я стаяў, скованы гэтай сваёй няёмкасцю, але Шамякін не даваў ёй застояцца. Ён распытваў пра дарогу, дзе і ў каго я спыніўся, ці не маю ў чым патрэбы. Мабыць, добра ведаючы, што мне найбольш карціць, сказаў, што Броўка цяпер у невялікім ад'ездзе і як толькі вернецца — адразу ж будзе скліканы прэзідыум.

— І адновім вас у Саюзе, — сказаў ён. — Я думаю, што ўсё будзе добра, так што вы не хвалюйцеся, а?

Вельмі невялікая, па сутнасці, беглая размова, але я пайшоў зусім іншы — з адчуваннем нейкага добрага, даўно не веданага спакою і пэўнасці.

3

І з гэтай часіны зноў пачалася для мяне бацькаўшчына.

Удоўж і ўпоперак я аббегаў горад, абхадзіў мясціны, якія чымсьці былі мне блізкія і дарагія. І ўсё памятаў, што нечага як бы яшчэ не асмельваюся зрабіць. Зайшоў у пісьменніцкую бібліятэку да вечнай кніжнай гаспадыні Мар'і Хайноўскай і як бы няўзнак папытаўся, ці тут Заір Азгур.

— А от мы зараз пазвонім яму дахаты і даведаемся.

Яна ўся была абложана кнігамі, нават тэлефон на стале прыйшлося адкопваць ад кніг. Пакуль яна набірала нумар, я чуў, як у мяне білася сэрца: мела ці не мела права дзівіцца тая наша тэлеграфістка?

Азгур доўга не мог зразумець, хто з ім гаворыць. Потым на хвіліну я пачуў у трубцы замяшанне, потым паспешлівыя запытанні, дзе я, адкуль званю, потым тлумачэнні, як і куды мне ісці.

— Я буду чакаць цябе, я выйду на вуліцу, чуеш?

Неўзабаве з падарожжа вярнуўся Броўка, я ніяк не мог пагадзіцца, што па ім так густа прайшла сівізна. Радавала, што хоць тая самая асталася рухавасць і непасрэднасць, той самы неспакойны, гарачы голас і тыя самыя мяккія рукі. Не, тэлеграма таксама яго не засмуціла, была толькі бяда, што не мог адказаць на яе.

На прэзідыуме ўбачыў гэтак жа памечаных усімі знакамі гадоў Крапіву, Лынькова, Глебку, Гурскага, было добра ад іх поціску рук. Убачыў і тых, пра каго толькі чуў, — Пестрака,

Мележа, Панчанку, аказваецца, усе яны таксама ужо ў гадах. Ах, як жа многа мне цяпер трэба ўсяго пазнаваць. Не толькі людзей, пра якіх нават уяўлення не мела мая памяць, а і таго, што імі зроблена. Усюды, на кожным кроку, нават вучыцца думаць.

Не ведаю, хто намысліў, але мне ўжо была нагаворана работа: рэдактарам мастацкай літаратуры ў Дзяржаўным выдавецтве. Гэта было і добра, і страшна: ці здолею, ці спраўлюся? Дасканаласць літаратурнай прафесіі вырасла куды як высока, а сам я... Але трывогі гэтыя адышлі па другі план. На тым жа прэзідыуме вынеслі і яшчэ адну пастанову: перш-наперш паслаць на адпачынак у Дом творчасці. У выдавецтве я пакінуў толькі заяву, просячы пачакаць з маім прызначэннем. Адпачынак на цішыні, у лесе, быў мне вельмі патрэбен: якраз там я мог бы прывесці да ладу тыя накіды, пра якія не сказаў Калачынскаму.

4

Памятаю, доўга не мог прывыкнуць, што я рэдактар. Мне было прывычна, што дзень мой з самага ранку пачынаўся тлумам, гаманою: нехта выпісваў матэрыялы на будоўлю; нехта дамагаўся новых спяцовак; неадкладнага афармлення патрабавалі касавыя і банкаўскія аперацыі; некага трэба было адправіць у камандзіроўку; ад некага прыняць справаздачу. Там быў увесь дзень мой расспланаваны і разлічаны: дзе якую ўвагу аддаць электрастанцыі, дзе млыну, дзе шахце, дзе будоўлі воданапорнай вежы. Тут жа з самага ранку я прыходзіў у цішыню, каб сесці за свой стол у кутку пакоя і паглыбіцца ў рукапісы. Тут абступалі мяне вобразы другія — з раманаў, аповесцей, апавяданняў, — і я не мог з імі спрачацца, як там, у сябе ў камунгасе, бо за кожным з іх стаяў аўтар, гаспадар, і слухаліся гэтыя вобразы не мяне, а яго, нават калі ім гэтага і не хацелася. Часамі мне было з імі добра, я разумеў іх, быў іх аднамыснікам, памагатым, калі яны неслі ў сабе звычайныя чалавечыя ўчынкі, жэсты і думкі; часамі ж усё тое, што яны рабілі і як думалі, аддавала фальшам, і было за іх крыўдна і няёмка, як за жывых. Мабыць, седзячы за тым сваім ціхім выдавецкім сталом, я нарабіў нямала нетактоўнасці і памылак, на першым часе маючы справу не з аўтарамі, а з вобразамі. Мабыць, не мала каго пакрыўдзіў, гаворачы праўду ў вочы. Пазней навучыўся гаварыць яе іначай, кожны раз любы ўчынак прымерваючы да сябе і памятаючы, што людзі чакаюць адзін ад аднаго толькі дабра. І памятаючы, што зло робіцца вельмі лёгка, нават можна не заўважыць, зрабіўшы яго.

Вядома, бывае, што праўда робіць вялікі боль, можа, не меншы, як крыўда, і яе трэба гаварыць асцярожна. Усе свае няўдачы я перажываў удвая, часамі позна даходзячы, што мне іх рабіць асабліва нельга; не раз я адчуваў на сабе зычліва-насцярожанае вока сяброў-рэдактараў: ці чую я літаратуру? Чалавечая спагада і ўвага вельмі патрэбны, аднак жа калі яны залішне відны, то падкрэсліваюць далячынь.

Я ні ад кога не пачуў далечыні. Наадварот, я сам дзічыўся людзей. Усё хацелася, каб ніхто ў мне, калі чакае добрага, не памыліўся. А між тым у «ЛіМе» надрукавалася першае апавяданне. Праўда, Алесь Бачыла доўга хадзіў каля таго апавядання, усё перакройваючы яго на свой лад. Мне не хацелася папраўляць яго, яно ўсё яшчэ было свежае, папраўкі маглі парушыць танальнасць. Пазней, астыўшы, я не раз яго правіў сам, бачачы, што ў ім многа лішнаты, неадсеянага матэрыялу. Лёгка пусціў апавяданне ў «Беларусі» Кастусь Кірэенка, аднак далікатна даўшы зразумець, што ў ім таксама я залішне многа пра што хачу сказаць. Мабыць, усе нашы памылкі ад таго, што мы недзе пераходзім грань. Часамі да самых простых ісцін мы даходзім запозна.

Няйначай як дзеля таго, каб я больш уваходзіў у каляіну жыцця, мяне пасылалі ў камандзіроўкі. На свае вочы я ўсюды бачыў яшчэ не загоеныя раны вайны, сляды дзікіх спусташэнняў, удоўства, калецтва. Брацкія, яшчэ без помнікаў і абеліскаў, магілы. Часамі адзінокія, маўклівыя курганкі паўз дарогу, з агароджаю і без агароджы, з надпісам па драўляным слупку, што тут пахаваны невядомы салдат. Колькі іх, невядомых, рабіла той герaічны подзвіг, каб даць мне права сёння хадзіць па зямлі? Не раз з свае далёкае далечыні я прасіўся, каб памерці разам з імі... Я бываў у гарадах майго дзяцінства і ў тых, што ўз'ядналіся з маёй бацькаўшчынай пасля скасавання несправядлівых граніц. Па старажытных мурах, па выслізганым бруку, на цяжкіх плітах тратуараў чыталася іх гісторыя. Я глядзеў на іх шырокімі вачыма: і Гродня, і Брэст, і Пінск — усё гэта старонкі барацьбы, якія мне былі вядомы толькі з кніг ці з газет. Цяпер па гэтых дарогах усё як бы чыталася мною нанава. Гісторыя мужнасці.

Я ўспамінаў сястру сваю Ульяну, да якой, вярнуўшыся, завітаў на першым жа часе. Вайна ў яе забрала ўсіх сыноў. Яе самую вялі на расстрэл за тое, што не хацела ўдаць сваіх людзей. Па дарозе з сяла на могілкі, а тады далей, у паплавы, яе вялі шасцёра, і яна ўвесь час чула, як у яе спіну ўнізваецца халоднае вастрыё штыка. Трэба было толькі адно: прызнаць,

што ў спіску, які ёй паказалі, усе семнаццаць чалавек камуністы і партызаны. У спіску былі і камуністы і партызаны. Былі нават тыя, праз каго загінуў яе муж Даніла, найсумленнейшы чалавек. Але ці пра гэта трэба было цяпер памятаць? Яна вытрывала ўсе страхі, усе здзекі, усе каманды не азірацца, усе павароты то ў поле, то ў панылае бязлюддзе паплавоў, усё далей ад воч, ад сяла, пад наведзенымі дуламі смерці, цвёрда памятаючы толькі адно, што ні пад якімі страхамі не павінна назваць ні аднаго таго прозвішча. Усіх зберагчы.

— Дык от, братка, пасля таго часта адбірае ў мяне то ногі, то як не свая робіцца паясніца, — казала Ульяна.

Тады яна не чула яшчэ ўсяе бяды. Па невялікім часе зусім адабрала ў яе і паясніцу, і ногі. Прыкаваная да пасцелі на многа гадоў, яна, аднак, ва ўсім вяла рэй, ведала, чым жыве свет, раіла людзям, як жыць, як берагчы калгас, любіць зямлю. І ўсім наказвала шанаваць партыю. Больш за ўсё дзівіла мяне гэтая яе мудрасць.

Усім сваім жыццём, складам мыслі, душою Ульяна і мяне вучыла дабраце і мужнасці.

5

Едучы ў Мінск, я яшчэ не ведаў, астануся ў ім ці не. Так і Ані сказаў: чакай — напішу: або вярнуся, або і табе прыйдзецца пускацца ў дарогу.

Я вельмі не люблю абыякавых адносін да абавязку. І да свае работы прывык: бачыў у ёй і плён, і элементы творчасці, і спосаб грамадзянскага ўдзелу ў жыцці. Але як толькі атрымаў права на шырокі свет, мяне і пацягнула ў яго. Мне хацелася большага размаху. Практыка ў мяне была: Ферганскі завод № 15, сланца-хімічны камбінат «Ківіылі» ў Эстоніі, маштаб якога можна пазнаць хоць бы з таго, што адна бухгалтарская парафія ў ім налічвала больш за пяцьдзесят чалавек. Пад час ад’езду я меў некалькі запрашэнняў на работу. Апроч усяго іншага, мне важна было мець новае месца жыхарства, каб не надта хадзіла за мной мая біяграфія. Вельмі ж цяжка было з ёю на віду ў людзей. На пасаду галоўбуха я меў запрашэнне ад мінусінскага будаўнічага ўпраўлення № 5, але нешта не вельмі гарнула мяне туды. У мяне было перакананне, што будаўнічыя адзінкі такога тыпу патрабуюць многа пустога клопату і не маюць вялікай самастойнасці. Куды больш мела спакусы запрашэнне на Брацкую ГЭС. Ад аднаго гэтага слова займала дух: і маштабы, і рамантыка. «...

Брацкае будаўніча-мантажнае ўпраўленне знаходзіцца ў г. Брацку Іркуцкай вобл., размешчана на р. Ангара, зносіны па чыг. ад г. Краснаярска да ст. Тайшэт — па Сібірскай магістралі, а ад ст. Тайшэт да г. Брацка — па новай — Тайшэт-Ленскай чыг. Пра сваю згоду прашу паведаміць неадкладна»,— пісалася ў запрашэнні галоўнага бухгалтара Краснаярсклеспрамбуда У. Нікольскага.

Па ўласцівай усім людзям патрэбе заахвочваць сваю будучыню часамі я марыў, як, вярнуўшыся з Мінска пасля аднаўлення ў Саюзе пісьменнікаў, буду працаваць недзе там, на той Брацкай ГЭС, няхай сабе не галоўным бухгалтарам, як у Мінусінску, а толькі старшым, як гаварылася ў брацкім запрашэнні, і ніхто не будзе ведаць, што я не толькі бухгалтар, а яшчэ і пісьменнік. Дазнаюцца недзе пасля, калі выйдзе ў мяне новая кніга, і тым больш гэта будзе незвычайна і прыемна. Нешта падобнае са мною ўжо раз было. Начальнік нашай шахты Франц Шубарчык, колішні маркшэйдэр львоўскіх радовішчаў каменнага вугалю, папрасіў, каб я яму паказаў апошнюю заяву, якую напаткаў такі шчаслівы лёс. Мы можам прыпісваць магічныя ўласцівасці самым нязначным з’явам, думаючы, што яны памаглі нечым спраўдзіць нашы спадзяванні. Толькі з заявы Шубарчык дазнаўся, што я колішні пісьменнік, і быў вельмі збянтэжаны. «Як жа так? — гаварыў ён. — Я нічога не ведаў і столькі з вамі па рабоце сварыўся, і ўсё мацярком ды мацярком...»

Як талстоўскі Аленін з «Казакоў», я жыў уяўленнем свае работы ў Сібіры бадай што да самай Масквы. Мне ўсё рысаваліся нашы, цяпер далёкія, пейзажы і палеткі, наша дзялянка поля за гарою, дзе мы саджалі бульбу і дзе аднойчы Аня, пайшоўшы абкопваць, не знайшла яе, села на палявой дарозе і расплакалася, і суцешылася, і рассмяялася толькі тады, калі я, прыехаўшы пазней на веласіпедзе, сказаў ёй, што яна сядзіць і плача на сваёй дзялянцы. То ўяўлялася заблытаная сваімі калідорамі і павыгароджванымі фанернымі кабінетамі кантора Краснаярсклеспрамбуда па глухой бакавой вуліцы ў Краснаярску, і высокі, рана пасівелы, стомлены і худы галоўбух яе Нікольскі, які гаварыў са мною ціхім, хваравітым голасам, і мне здавалася, што ён робіць гэта ад спачування, бо я сам прыйшоў да яго, калоцячыся ў грыпознай ліхаманцы. То рысаваліся карціны таго Брацка, і ўсюды, дзе вадзіла мяне ўяўленне, я бачыў снягі, бясконца сіняе неба над галавою і чуў густы, векавечны, трывожны шум тайгі. Усе гэтыя ўяўныя карціны і ўспаміны пакінулі мяне пасля Масквы, калі раптам і па пейзажах за вагоннымі вокнамі, і па

людзях, і па іх гаворцы, і па нечым вельмі нераспазнаным адчуў, што мяне кругом абступае родны дом, і Сібір пачала ўяўляцца вельмі далёка. Я зразумеў, што развітаўся з ёю назаўсёды.

6

Неяк напрадвесні ў камунгас да мяне прыходзіў чалавек наймацца на работу. Гадоў за сорак, з пышнай, крутой шавялюрай колеру сівой бронзы, густымі брывамі і цяжкім паглядам воч — Саакян. Я сказаў, што мне няма куды наймаць, усе пасады заняты, людзі з работаю спраўляюцца.

— Ты неразумны чалавек, — сказаў Саакян. — Я працую вартаўніком на нафтабазе ў МТС, і мне надакучыла гэтая работа. Чаму ў цябе ў касірках павінна хадзіць Волька Федарэнка, калі ў яе ёсць свой палюбоўнік Цітоў? І чаму ў рахаўніках у цябе працуе гэты нягоднік Гордзін, які шальмуе толькі на самога сябе? Любога з іх можаш прагнаць, калі маеш сумленне.

Вядома, я нікога не прагнаў і Саакяна на работу не ўзяў. І от цяпер Аня пісала, што Саакян не дае ёй быту. Запыніўшы на вуліцы, ён вельмі спагадліва паціснуў ёй рукі, сказаў, што заўсёды спачуваў ёй і спачувае цяпер, што падзяляе яе гора і будзе шчаслівы, калі яна згодзіцца знайсці свой прытулак у яго сэрцы. Рэч у тым, сказаў Саакян, што муж ваш самы мярзотны і паганы чалавек на зямлі. Ён ніколі не кахаў і не кахае вас, цярпеў толькі таму, што вы былі яму патрэбна як прыслуга, як наймічка. Ён да вас больш ніколі не вернецца і да сябе не пазаве, ён рад, што нарэшце шчасліва развітаўся з вамі.

Я разумеў, што гэта Саакянава помста мне, што Аня не верыць гэтаму, і разам з тым ведаў, што спакой яе парушаны, што доўга выпрабоўваць яе веры і цярплівасці нельга. Трэба было шукаць кватэры і перабіраць сям'ю. А з кватэрамі вельмі цяжка. У горадзе яшчэ многа руін, многа пазарастаных быльнягом і крапівою дзядзінцаў; за пустымі вокнамі сцен галоўнага корпуса універсітэта, дзе я вучыўся, на вышыні трэцяга паверха відна ацалелая ад колішняй столі пакарэжаная жалезная бэлька, і там, дзе яна вытыркае з сцяны, на грудку пер态трушчанай цэглы нясмела прымасцілася і распусціла зялёныя лісткі маленькая бярозка...

І вось пайшлі дні пошукаў. Памятаю, якая гэта была цяжкая работа хадзіць з двара ў двор, з вуліцы ў вуліцу па тых адрасах, што нехта параіць табе, сустракаць насцярожлівыя або запабеглівыя вочы раздабрэлых мяшчанак, слухаць іх завучана-

прытворную мову не то спагады, не то ўступчывасці: «У мяне ўжо загаворана, але калі вы не пастаіце за цаною, то саступлю гэты пакойчык вам, бо задатку не брала. Ах, вы з сям'ёю? Не, то за такую цану не магу».

Першая наша гаспадыня была жанчына высокай пастаці, чорнага воласу, удава. Дамок яе, з агародам і садам, стаяў за глухою, высокаю брамкаю. Было ёй гадоў за трыццаць, аднак жыла яна ўжо толькі тым, што прайшло. Колішнім шляхецтвам, колішняй красой тонкага профіля, колішняй славай, што была спявачкаю эстрады, называлася актрысаю, ездзіла на гастролі. Бог знае што здарылася з ёю, няйначай, што душу пакалечыла таксама вайна, але ўсё гэта аказалася прамяняным на клопаты, вельмі далёкія ад мастацтва: каб штораніцы бегчы на Камароўскі рынак то з кошыкам вішань, то з бярэмем свежанарваных, яшчэ расяным холадам пранізаных кветак. Яна далікатна сустрэла маю сям'ю і вельмі далікатна растлумачыла, што нам забаронена. Забаронена моцна гаварыць у доме, шпарка хадзіць; не пырскаць вады на кухні, паліць керагаз і ўмывацца толькі на двары; класціся спаць не пазней адзінаццаці, не рыпець і не стукаць дзвярыма.

Пасля былі ў нас розныя гаспадыні, з рознымі прымхамі і вантурамі. Адна з іх называла нас міленькімі, часта хварэла на галаву і тады кляла ўвесь свет, заадно і нас, што мы знарок нарабілі чаду. Другая, сухая і цёмная, як мумія, з нацягнутай жоўтай скурай на выпетралых руках, мела гадоў за семдзесят веку, бог ведае куды і навошта запасіла грошы, марыла сябе голадам, жывячыся размочанымі сухарамі, а, не ўтрываўшы, калі Аня гатавала абед, прасіла чым-небудзь участавацца, пасля кволілася жыватом і крычала, што яе абкармілі. Але чамусьці мне больш памятаецца апошняя наша гаспадыня — Мар'я Мароз. Не таму, што яна была папраўдзе лепшая за другіх, а што з яе домам звязаны нейкі добры плён маіх спраў. У гэтым доме я рыхтаваў зноў сваю першую кнігу, з гэтага дома пераехаў на кватэру, выдзеленую па тэрміновай чарзе райвыканкамам.

7

У Мар'і Мароз было добра тым, што яна ні ў што не ўмешвалася. У нас быў свой парадак ці непарадак, свая ўладкаванасць ці неўладкаванасць; мы маглі ўсю ноч дняваць або ўвесь дзень адсыпацца. У нас быў канец дома з кухняй, прымайстраванай у ацепленым ганку, свой хлевушок, каля якога зімою я пілаваў дровы, распырскваючы жоўтае пілавінне

ў мяккі цукровы снег, а пасля калоў іх, са смачным гаханнем пускаючы сякеру, і, намарожаныя, яны разляталіся з нейкім ахвочым звонам.

У выдавецтве ўключылі ў план кнігу; я разумеў, што ўсё гэта было зроблена чужымі добрымі людзьмі: і каб уключылася ў дзейную работу імя, і каб памагчы мне ўмацавацца. Я прагледзеў старыя кніжкі, і мне стала сумна: многае і па сутнасці, і па выкананні асталося ў тым далёкім часе літаратурнага маленства і сляпых пошукаў. Тое, што можна было вярнуць, трэба было перарабляць.

Не ведаю, чым дарагі тыя хвіліны, калі хочаш, каб даўжэй працягнуліся дні. Удзень я чытаў у выдавецтве рукапісы, а ўвечары, дачакаўшыся, калі ўсе ўлягуцца, садзіўся за стол. Пад гэты час у маім жытле сабралася многа народу, прыехалі з сёл хто на сезонныя работы, хто на курсы. Каб дайсці да століка, прыткнутага пры акне да пасцелі, трэба было пераступіць нечыя рукі ці ногі. Я абстаўляў кнігамі ці газетамі лямпу, каб святло падала толькі на ліст паперы, і — мяне абступалі мае старыя вобразы — Алеся, Наталя, Таіса, Цымбал, Караневіч, вытанчаны паручнік Гжэцкі, — з імі я пускаўся ў далёкія светы, змагаўся, перамагаў і знясільваўся, кахаў і ненавідзеў, траціў надзею і спадзяваўся, і варочаўся ў свой пакой, калі ў шчыліны аканіц прабіваўся ўжо золак.

Так прыйшла вясна, настала лета, восень...

На работу я хадзіў, выбіраючы самыя кароткія дарогі, па нейкіх дворышках, па сутачках і завулках. У чужых дварах за плоцікамі і кветнікамі спелі ягады, цвілі і ўсыпаліся пладамі сады. У нечы двор вялі сцежкі вузкія, аблямаваныя мурожнаю травою, у нечы шырокія, з брамкамі, за якімі знікалі сляды «Масквічоў» ці «Пабед». Я ведаў, па якіх пуцінах і ў якія дамы ходзяць жанкі, як яны адзеты і што ў іх за клопат; у якіх мужчыны і што ў іх за прафесіі. Ведаў, дзе часта чуцён раяль... Пераходзіў Пераносную вуліцу з новымі, высока-чысцюткімі дамамі, з чысцюткімі фіранкамі ў вокнах. І — як жа гарнула мяне за чужыя веснічкі, за чужыя вокны, у чужыя сады: заўсёды хочацца зірнуць у загадку чужога жыцця.

Я думаў, што творчасць — гэта таксама загадка і шчасце, калі ты нешта добрае адкрыеш людзям...

# ГОРКАЯ ДАЛЯЧЫНЬ

## ТРЭБА ХОЦЬ ТРОШКІ ЎСПОМНІЦЬ

### 1

Першы пісьменніцкі Дом творчасці таго далёкага часу — 1936 года — быў недзе пад Пухавічамі. У колішнім панскім маёнтку. Дом вялікі, двухпавярховы, з рознымі пакоямі і заламі, дзе можна было і спакойна працаваць, і адпачываць думкаю. Быў вялікі сад з дарожкамі, з кветнікамі і альтанкамі; была не то рэчка, не то рэчачка з гарбатым пешаходным мастком праз яе; і была ціхая дарожка ў мястэчка, пры якой стаяла невялікая не то будка, не то крамка, дзе можна было купіць і віна, і гарэлкі.

Я прыехаў сюды папрацаваць, бо была нейкая важная тэма для газеты «Літаратура і мастацтва», якая патрабавала неадкладнага клопату. Знарок прыехаў адзін, і вельмі скора адчуў сябе вінаватым перад жонкаю, што не ўзяў яе з сабою. Аказалася, што на ўвесь Дом творчасці я быў адзіны і працавальшчык, і адпачывальшчык. І ўчора даў тэлеграму дадому, каб яна прыехала. Дзеля гэтага схадзіў у краму і купіў «самага лепшага», як параілі там, віна.

Чакаючы, вядомая рэч, міжволі ўспаміналася, як мы пазналіся і як пажаніліся. Яе звалі Галяй. Яна была адзіная дачка ў вельмі незвычайнай сям'і. Бацька — Гаммер — паходзіў з тых немцаў, што некалі кухарылі пры рускіх царах. Часам ён, дзеля жартаў, любіў успомніць, можа, сапраўдашні, а можа, прыдуманы выпадак, што здарыўся пры нейкім цары. Снедаючы, у далікатным печыве цар наткнуўся на запечанага таракана. Тут жа ён грозна крыкнуў на кухара — што гэта значыць!

— Разынка, Ваша вялікасць! — весела адказаў кухар, выкалупаў таракана з печыва і праглынуў яго.

Гэта з сямейнай гісторыі Галінага бацькі. А маці была з французаў, якіх таксама запрашалі калісь для выхавання дзяцей. Калі бацька быў, па-сутнасці, звычайным дабрадушным чыноўнікам, то маці сваю французскасць шанавала з вялікай годнасцю. Яна нідзе не працавала, лічыла, што яе найбольшы абавязак у тым, каб трымаць у парадку дом і выхоўваць дачку. І праўда, у доме заўсёды была нейкая вельмі патрэбная прастата і вольнасць. А дачка ніколі нідзе не вучылася, не канчала ніякіх ні школ, ні інстытутаў, але была першакласна адукаванай і простай. Усё гэта дало ёй маміна выхаванне. Яна працавала ў Дзяржаўным выдавецтве машыністкаю. І здзіўляла тым, што, не так даўно будучы жыхаркаю Смаленска, вельмі пісьменна друкавала па-беларуску. Словам, мы не толькі з ёю здружыліся, а — пажаніліся.

Усё гэта цяпер успамінаючы, я чакаў яе заўтра да сябе.

Але недзе пад вечар зайшоў да мяне загадчык Дома творчасці з незнаёмым чалавекам. І той незнаёмы чалавек паказаў дакумент на тое, што павінен мяне арыштаваць. Дырэктар разгублена і ашаломлена стаяў моўчкі.

Чамусьці я вельмі спакойна і абыякава сустрэў гэтую навіну. У мяне была бязмежная ўпэўненасць, што гэта проста памылка і яна адразу ж высветліцца. Я не мог прыдумаць сабе аніякай віны.

Начаваў я ў мясцовым допры[1], бо на Мінск у гэтую пару цягнікоў не было. І ўспомніў, што сям'я дома цяпер будзе не толькі без мяне, але і без грошай. Грашовая кніжка была пры мне, я падпісаў некалькі чэкаў на ўсю суму сваіх зберажэнняў і папрасіў свайго канваіра, каб ён занёс яе дадому. Ён зрабіў гэта. І гэта быў першы выпадак, адзначаны мною, калі людзі з тае строгае пасады, якую яны займаюць, не пазбаўлены чалавечнасці.

Ці трэба расказваць, як успрымалася і як прыжывалася новая, нікім і ніколі не чаканая акалічнасць, калі чалавек не разумее, чаму, чаго і навошта робіцца арыштантам, адразу — нечалавекам? О, якое гэта страшнае крушэнне! Галоўнае, што ты не ведаеш, навошта гэта, чаму і за што? Што здарылася? Дзе, у чым прычына? Дзе закон? Дзе абарона? Як жа абараніцца і засцерагчыся?

Толькі назаўтра раніцаю канваір завёз мяне ў Мінск. У вядомую ўсім установу. Уваход на рагу вуліц Цэнтральнай і Валадарскага. Вядомая рэч: адразу ў адзіночку.

Толькі цяпер мяне адразу ахапіла трывога. Толькі цяпер дайшла да ўсведамлення сур'ёзнасць мае бяды. Толькі цяпер, першы раз, я ўсвядоміў, што сям'і ў мяне больш не будзе. Што

яны цяпер перажываюць найстрашнейшую сямейную бяду. І што я на іх кладу не толькі бяду, а — ганьбу.

Я шнураваў па камеры, упершыню ўяўляючы, як людзі бываюць вымушаны развітацца з жыццём. Што гэта зусім не цяжка — развітацца з сабою. Куды цяжэй — як? Якім спосабам? Не здарма ж раз-пораз у вочка ў дзвярах заглядае вартавы. Мабыць, такія думкі завітваюць не толькі да мяне...

2

Першы следчы ў мяне быў Цімафееў. Я ўпэўнены, што калі б ён вёў маю справу, то ўсё было б і граматна, і справядліва, і чалавечна. Гэта быў ужо даволі пажылы чалавек. Ён са мною проста, як кажуць, бяседаваў на тэму на той час модную: кругом ворагі, кругом здраднікі, прадажнікі, асабліва беларускія нацыяналісты. Не можа быць, каб гэтая тэма мяне абышла: недзе, нечым і мяне яна краналася. Дык вось: з кім, як, на якую тэму. Тым больш што галоўны ж нацыяналіст, Цішка Гартны, таксама сядзіць, ён жа нешта раскажа. А я па праўдзе быў далёкі ад такіх «небяспечных» тэм, ні з кім, нідзе, ніколі не гаварыў. Нашы з ім гутаркі з гэтай тэмы пачыналіся і нічым не канчаліся; ніякая падпольшчыны, падазроных гаворак ні з кім і ніколі ў мяне не было. Выключаючы хіба адзін выпадак, які я палічыў бяздумным жартам з боку Зміцера Астапенкі[2]. Але ж гэта быў проста дурны жарт.

А было так. Мы з ім кватаравалі ў сваіх гаспадынь за вакзалам. Аднаго разу ішоў я з Дома пісьменнікаў дадому, і на парозе мяне нагнаў Астапенка. Ідзем, нешта гамонім па дарозе, і недзе ўжо блізка каля вакзала Астапенка, нешта жартаўлівае расказваючы, раптам кажа:

— Слухай, Янка, паступай у ГАБ.

— Што за ГАБ такі? — пытаюся ў Астапенкі.

— Група Адданых Бацькаўшчыне, — сказаў Астапенка і разрагатаўся.

Я тут жа суняўся і строга, нават сярдзіта кажу Астапенку:

— Каб такіх жартаў я ад цябе больш не чуў!

— Не, дык я ж жартую! — разрагатаўся Астапенка. — А ты, аказваецца, надта пужлівы.

Гэта было каля вакзала. Далей мы ішлі нейкі час моўчкі. Я падумаў, што Астапенка вельмі любіць вострыя жарты; ён не раз мне гаварыў, як у думках ён лётае на прыдуманым ім аэраплане па чужых краінах, спускаецца недзе ў чужых гарадах. Што ён можа спусціцца на тым аэраплане на любой плошчы любой

сталіцы свету, бо ён ведае тыя гарады як свае пяць пальцаў. «Хочаш, я нарысую табе план любой сталіцы свету, з назвамі плошчаў, вуліц».

Фантазіі ў яго былі заўсёды вельмі крылатыя, у гэтым яму можна было пазайздросціць.

*7 мая 1992 г.*

## НЕЛЮДЗІ

Самыя страшныя ў маім жыцці былі два чалавекі. Першы — мой сусед па кватэры ў Мінску і, здавалася, сябар, паэт. І прафесійны правакатар.

Другі — мой следчы: гэта ўжо дзяржаўны цынік і правакатар.

Першы кожны раз правакаваў як бы жартам, але гэты жарт трымаў на патрэбу ў запасе. Другі — як следчы — будаваў на гэтым свой стыль: абавязкова зрабіць з чалавека злачынца. Няважна, вінаваты ён ці не. Павінен быць вінаваты!

Божачка, як ён здзекаваўся! Біў, абліваў халоднаю вадою. Саджаў на ножку перакуленага табурэта, на некалькі гадзін саджаў у карцэр, такі вузкі, што ў ім нельга было павярнуцца. І калі ты не меў сілы ўжо стаяць, ты вісеў, здушаны яго цеснатою да болю ва ўсім целе.

І было зусім нечакана, што допыты раптам спыніліся. Недзе, мабыць, на месяц ці больш. І раптам выклікаў на допыт новы следчы, каб абвясціць пра канец следства. Трэба было падпісаць пра гэта пратакол. Я адмовіўся падпісваць, бо там былі скрозь выдумка і паклёп. Тады следчы выклікаў «сведку» — гэта быў той самы мой сябар. Ён сцвярджаў, што ў пратаколах допыту ўсё правільна, што следства ішло нармальна.

І была яшчэ адна, апошняя сустрэча з ім. Аказалася, яго накіравалі за мяжу. У Чэхаславакію. Гэта было ў турме. Ён прайшоў паўз мяне ў бушлаце па-дарожнаму, з торбаю за плячамі. Мабыць, і там была ў яго тая самая місія інфарматара.

Ён там быў забіты пры першых жа сутычках чэхаў з немцамі. Няйначай свае ж і забілі...

*15 жніўня 1992 г.*

## УЗНАГАРОДА

Бог ведае якім спосабам дазналіся нашы маладыя жонкі — Мікулічава, Шушкевічава і мая — пра дзень нашай адпраўкі ў Сібір, каб прыйсці на развітанне з намі. Яны стаялі здалёк за скрыжаваннямі дарожных пуцей, каб хоць адтуль цераз слёзы глядзець на нас. Дзеля гэтага мы ўпрасілі канвой, што стаяў пры дзвярах, каб шырокія таварныя дзверы былі хоць трохі рассунуты, каб мы маглі хоць на хвілінку паказацца ў іх.

Цягнікі ішлі і ішлі доўгім цугам па ўсёй краіне, мінаючы гарады, прасторы, радзіму. Але няйначай як была нейкая пільная патрэба, каб наш эшалон спыніўся ў Марыінску. Яна, тая патрэба, была сама сабою відна, каб па дарозе хоць патрохі рассяляць зняволеных.

Нас згрузілі ў зону за высокі калючы дрот, у толькі што змураваны, вялікі, халодны, зусім пусты чырвоны мур. У ім не было яшчэ ні перагародак, ні падлогі; халодным шклом ярклі адны толкі высокія вокны; мякка ступалі ногі ў глыбокі жоўты пясок, насыпаны замест падлогі.

Мы пераначавалі ў гэтым пяску, ціснучыся адзін да аднаго і ўкрываючыся з галавою сваім лёгкім адзеўкам, хоць у дыханні шукаючы цяпла. А раніцаю адчыніліся дзверы і на высокі парог стралок прапусціў мажнога, цёпла апраненага ў чорны бушлат чалавека. Асаблівай незвычайнасці надавала яму пушыстая, пярэстай, чорна-белай шэрсці зімовая шапка. Ён ступіў з высокага парога ўніз, на пясчаны дол, адразу стаўшы невысокім і таўсцейшым, і падняў руку.

— Увага! — сказаў ён. — Падыміце рукі, хто тут з вас цесляры!

Я падумаў, што наперадзе нічога лепшага мяне чакаць не можа. А цяслярыць, што ж — магу. Усё дома рабіў гэтак жа, як і тата: араў, касіў, малаціў; пілаваў і бярвенне, і дошкі, стоячы на высокіх сталюгах; будаваў і ў просты, і ў нямецкі вугал. І падняў руку.

У этапе ішло многа нашых пісьменнікаў, але ўсе маўчалі. У вока кінуўся толькі Змітрок Астапенка — ён здзіўлена глядзеў на мяне. І раптам скоранька таксама падняў руку. Нас, толькі двух, і забраў з сабою дзесятнік Зайцаў.

Таго ж дня я быў уключаны ў брыгаду будаўнікоў. Мяне пасялілі ў доўгі, змрочны, душна напакаваны людзьмі барак, месца знайшлося ў самым яго канцы на верхніх нарах. Я з трывогаю думаў, як жа ў сваім лёгкім хатнім адзеўку я выйду заўтра на работу, калі на вуліцы ўжо сапраўдная тут зіма, цісне мароз.

Але нездарма мне спадабаўся Зайцаў нейкай ціхай, спакойнай сваёй душэўнасцю, бо ўвечары капцёр прынёс мне казённую амуніцыю: бушлат, ватовыя прашываныя штаны, зімовую шапку і валёнкі. Стала і надзейна я афармляўся ў лагерніկі.

З раніцы, вядома, я быў на рабоце. Мы будавалі новыя зямлянкі і баракі. Тут, на рабоце, я ціхенька і пашаноўна дзякаваў бацьку, што ён з малых гадоў прывучыў мяне ўмець усё рабіць. Цяслярская работа была мне па душы, мабыць, таму, што я знаў яе з дому.

Позна ўвечары ў барак прыносілі вячэру. І зробленыя пайкі хлеба. У гэты ж час да мяне прыходзіў Змітрок Астапенка. Худы, знясілены. Яго пасялілі недзе ў другім месцы, бо на работу ён не выходзіў. Пайка хлеба ў яго была невялікая, штрафная. Ён залазіў да мяне на нары, і я чым мог дзяліўся з ім. І баландаю, і маленькай рыбкаю, і драбком цукру. Я ведаў яго натуру і, здаецца, здагадваўся, што ён нездарма, не ўмеючы ніякай фізічнай работы, захацеў зрабіць высадку на гэтай станцыі.

Аднак жа доўга мне тут быць не давялося. Аднае раніцы нашу брыгаду пасадзілі на дзве грузавыя аўтамашыны, прыкрылі зверху ад марозу брызентам і завезлі ў Іваньскі лагер. (У якім, дарэчы, праз многа гадоў пасля я сустрэўся з вядомым венгерскім рэвалюцыйным дзеячам Бэла Кунам і з жонкаю Мікалая Бухарына[3] Аннаю Ларынай.) Там жа, у Іваньскім лагеры, я і прабыў увесь свой прысуд да канца. І сцвярджаю: толькі таму, што адбываў яго на адным месцы, астаўся жывы. Калі ж праз дзевятнаццаць гадоў нашу групу нарэшце апраўдалі, то з дванаццаці чалавек вярнуліся толькі чацвёра. Загінулі пераважна тыя, хто трапляў у частыя і далёкія этапы.

Узнікла і загадка: два чалавекі ў рэабілітацыю не папалі — Змітрок Астапенка і Сяргей Знаёмы[4]. Меркаванне было толькі адно: што яны ўцяклі.

Але гэтае меркаванне не спраўдзілася. Калі мы, апраўданыя, ужо былі дома, сярод пісьменнікаў, асабліва сярод тых, што часта бывалі ў Маскве па службе, не раз гаварылася, што яны там бачыліся з Астапенкам. Лепш кажучы, ён з імі бачыўся. Гаварылася, што ён напісаў новую нізку вершаў, нават паэму, і меў клопат, каб іх выдаць у Мінску.

А ў даведніку «Пісьменнікі Савецкай Беларусі», выдадзеным у 1981 годзе, напісана нешта нечаканае: што Астапенка ў часе вайны служыў у Савецкай Арміі, быў на фронце. Вось якія дзівосы рабіліся з Астапенкам. А чуткі, што хадзілі за ім, былі яшчэ больш легендарныя: што ён загінуў не дома, не на

сваім фронце, а ў Чэхаславакіі, перакінуўшыся туды і разам з чэхаславакамі абараняючы іх рэспубліку ад нямецкай навалы.

Але давайце вернемся назад. У Іваньскі лагер, куды нас прывезлі. На першым часе мы нічога там не ўбачылі, апроч невысокага збудавання з саламяных матаў, над якімі падымалася пара. Аказалася, што гэта астрожніцкая лазня. Я не ведаў, што ў такой спарудзе, зусім адкрытай, нават без даху, а проста злёгку прыкрытай толем, можна мыцца сібірскай зімою. Тут у праходах стаялі катлы з гарачаю вадою. Мы абліваліся ёю, сцёбалі сябе венікам, каб хутчэй управіцца, але аказалася, што наш адзевак забраны ў пражарку, каб вытруціць з яго паразітаў, і міжволі мы завіхаліся і далей.

Потым нас, вядома, з канвоем і з сабакам, павялі ў барак, таксама спаруджаны са збітай саломы, абшытай з абодвух бакоў дошкамі. Пры варотах, блізка перад першаю канвойнаю вышкаю, стаяў даволі шырокі клазет. Таксама каб быў на воку. У бараку днявальны нам паказаў, дзе ёсць незанятыя месцы, і мы сталі жыхарамі новага жытла, чакаючы вечара, каб пазнацца з тутэйшымі жыхарамі.

Іваньскі лагер быў, па сутнасці, сельскаю гаспадаркаю: рабіў зерне. Яго лагпункты на тэрыторыі былі размешчаны даволі ўдала: кожны ў самым цэнтры свае тэрыторыі. Толькі першы лагпункт, як камандны, выглядаў бязладна, архаічна. З тае прычыны, што эшалоны са зняволенымі ісці ў Сібір не пераставалі, а яшчэ большалі, першы лагпункт трэба было карэнным чынам і пашыраць, і дасканаліць. Найперш патрэбен быў асобны, свой, гарадок для вольнанайманых. І патрэбна была бальніца. А каб зняволеныя не надта кідаліся ў вочы, іхнюю зону трэба было вынесці ў поле, зрабіўшы там свой умацаваны гарадок па ўсіх правілах патрэбнай строгасці.

На гэтым свежым аб’екце і пачалася наша работа. Была самая пара зімы. Нас, чалавек сорак, вывелі з ламамі, кіркамі і рыдлёўкамі. У белым полі свістаў вецер, падымаючы снежную замець. Калі вецер сціхаў і замець спадала, удалечыні ў нізіне, недзе на краі гэтага свету, відны былі абрысы хат вёскі Івань. Зусім другі, ад нас аддзелены вольны свет.

Мы будавалі зямлянкі. Намечана іх было тры. Рабілася гэта вельмі проста: адны ламамі і кіркамі дзяўбалі зямлю, другія рыдлёўкамі кідалі яе наверх, а трэція тачкамі адвозілі ўбок.

Не буду я апісваць, што такое лагерны барак ці зямлянка; што каб іх спарудзіць, патрэбен і лес, і дошкі, і нейкае нават тонкае ўмельства.

На зямлянках гэтых мы праваждаліся да вясны. Былі і хваробы, і абмарожванні, і паміранні. На рабоце ў нас увесь дзень гарэла вогнішча, і мы, як хто мог, выбіраў часіну і спосаб, каб пабыць у яго цяпле і дыме ці хоць пагрэць рукі. Мы, цесляры, неўзабаве перайшлі на сваю работу. Брыгадзір наш, Прахор Тарасаў, быў чалавек талкавіты, душэўны, са Смаленска, мы з ім адразу паразумеліся на тым, што я адмовіўся памагаць яму ў яго брыгадзірскай бухгалтэрыі.

— А мне падумалася, што табе як чалавеку граматнаму гэта па душы.

— Не, — сказаў я, — баюся, што адразу залічаць мяне ў прыдуркі ці ў падхалімы.

Тарасаў засмяяўся.

— А ведаеш, — сказаў ён, — от ты не хочаш памагаць мне, а мне гэта падабаецца. А хто ж ты такі будзеш? Чалавек, бачу, граматны. Нечым жа добрым займаўся?

Мне было цяжка сказаць яму, хто я. Асабліва пасля таго, як убачыў, што наўрад ці выберуся адсюль, ці буду нават жывы. Але падумаў: нашто ж таіцца, што хацеў быць пісьменнікам.

Тарасаў як часаў бервяно, так і разагнуўся над ім, пакінуўшы сякеру ў дзераве. Пастаяў, паглядзеў на мяне, уздыхнуў, мабыць, не ведаючы, што сказаць.

— І ў нас жа, у Смаленску, свае паэты растуць, — нарэшце сказаў ён. — Твардоўскі Аляксандр ды Мікалай Рыленкаў. Здаецца, іх не пачапалі... А пра цябе, чалавеча, не чуў.

— Як жа пачуеце, калі я пісаў па-беларуску.

— А-а, гэта праўда. Але і ў нас жа пад Красным ці пад Манастыршчынаю гавораць бадай што па-вашаму.

Чамусьці гэта мне было вельмі прыемна слухаць. Я ўспамінаў гісторыю Вялікага княства Літоўскага, у тайне душы ўсцяшаючыся хоць мінулым.

На аб'екце нашым выхад з зоны быў шырокі, бо ездзілі тут і падводы, і машыны. І вось аднаго разу на рыжым, добра ўкормленым кані пад'ехалі расцялежаныя калёсы з доўгім смаловым бервяном. І самае вялікае было маё дзіва, што вазаком была жанчына. Была яна ў бушлаце і ў ватовых штанах, паверх якіх какетна спускалася кароткая спаднічка. Ад мае работы гэта было зусім недалёка. Я бачыў, як какетна на галаве ў яе завязана хустка каптурыкам. І твар — маладзы, прыгожы, свежы, трохі зaружавелы на холадзе, усё роўна як нейкі святочны. Мне здалося, што я тысячу гадоў не бачыў жанчыны. Я здагадаўся, што яна з другога лагпункта, на якім жывуць адны жанкі. Я глядзеў на яе, як на цуд, як на царыцу, што паявілася тут нечакана. І ўспомніў,

як у Мінску, у турме, на допытах, вымагаючы ад мяне неверагодных прызнанняў, следчы Быхаўскі на мой пратэст, што ўсё гэта злосная няпраўда, трасучы кучараваю чупрынаю і пырскаючы слінаю, шалёна крычаў: «Ишь, сволочь, Иисус Христос нашёлся, правда ему нужна! Нам нужна та правда, которой от тебя требуют!» — і тут жа пагрозліва дадаваў: — «От меня не ўйдё-ёшь! Я тебя, сволочь, загоню в такие дебри, что ты десять лет п... не увидишь!» (Грэшна сказаць, але я ўзрадаваўся, ужо цяпер прачытаўшы ў газеце «Звязда» артыкул, у якім гаворыцца, што гэты следчы потым расстраляны сваёй жа сістэмай.)

І вось цяпер, куды раней як тыя абяцанкі, я бачыў сапраўдны мілы жаночы вобраз. Дзіва, казку, самую святую і чыстую жаданасць.

Спыніўшы падводу, з драбін яна ўзяла ахапак сена, панесла і кінула яго перад канём. Спакойна, талкавіта, яна пачала развязваць бервяно перш на возе, а потым перайшла к цялежцы. Толькі яна працягнула руку, каб развязаць вяроўку, як каню захацелася пасмактаць адсунутыя каліўцы. Ён напяўся ў хамут і тузануў цялежку.

— Тпру, стой, у рот я...! — крыкнула жанчына на каня, робячы дасціпна, па-блатняцку адпрацаваны націск на другім складзе слова, якога я не асмельваюся напісаць.

Божухна! Я ўтрупянеў. Я азірнуўся, ці бачыў хто і ці чуў хто апроч мяне. Вядома, усе чулі. І ўсе спакойна, будзённа рабілі сваю работу — пілавалі, дзяўблі зямлю, часалі шулы, габлявалі дошкі.

А я ўсё баяўся зноў зірнуць на яе. Што з ёю было, што сталася і што будзе тут, у гэтым яе асяроддзі? Не яна ж сама стала гэтакаю. І ўсё ж я быў рад, што ўбачыў яе.

Так і асталася яна ў памяці, як дзіва. Як мара. Як светлая здань. Як царыца.

Як узнагарода.

*1 сакавіка 1991 г.*

## КАЧАН МЁРЗЛАЙ КАПУСТЫ

Доўга я не мог даўмецца, што са мною робіцца. Усё як бы нармальна, а чую, што мне цяжка і падняцца на свае верхнія нары, і павярнуцца на чужы голас, і нават паварушыцца на пасцелі. Не кажучы ўжо, што цяжка на рабоце, увесь час дзяўбаючы мёрзлую зямлю.

Словам, я наракаў на работу. І дзівіўся: як жа так? Я нічым не хварэю, і з цела не худы, і твар, калі ўмываюся, то чую, што ён нармальны. А сілы няма.

Поруч са мною на верхніх нарах месціўся чалавек няпэўнай каўказскай нацыянальнасці, пажылы, з коратка пастрыганымі вусікамі, Араў. Мне здаваўся ён чалавекам спрактыкаваным, добрым, адукаваным, бо гаварыў па-руску вельмі чыста, як самы інтэлігентны рускі чалавек. На работу ён не хадзіў, нейкі інтэрас меў тут жа, па бараку. Часта гаварыў то з днявальным, то з капцёрак ці з дзяжурным. Даставаў часам якіх ласункаў з чужых пасылак. Мне падумалася, што пра свае трывогі варта з ім пагаварыць.

Аднаго разу з сваіх вандровак Араў прынёс невялікі аскепак люстэрачка і брытву. Люстэрачка прымацаваў да стаяка на нарах і пачаў брыцца. Я папрасіў, каб у люстэрачка ён даў паглядзецца і мне. І аж спужаўся, зірнуўшы: я зразумеў, што мая раздабрэласць як з цела, так і з твару, не што іншае, як апуханне. Ад голаду.

Трэба было нешта рабіць, неяк ратавацца. І ўсё роўна як бог папраўдзе існуе, ён пачуў маю трывогу і зрабіў цуд. Назаўтра ж нашу брыгаду ўвечары ахова вяла з работы. Ужо недалёка ад варот (я ішоў у калоне крайні), тут скрозь гарэлі ўжо ліхтары, і ў гэтым не вельмі яркім святле бадай што каля самага тропу я ўбачыў качан капусты. Няйначай як яго адабралі ў брыгадзе, што прайшла перад намі. Добры, пукаты, свежы, марозна-пругкі качан капусты. Мне трэба было зрабіць толькі адзін крок убок, каб забраць яго. Я добра памятаў прыслоўе, якое паўтаралася канвоем кожны раз перад кожнаю дарогай, што крок налева з шарэнгі або крок направа ад нашага кірунку лічыцца за ўцёкі, і зброя ўжываецца адразу ж. І, нічога гэтага не памятаючы, я ўсё ж зрабіў гэты крок і падняў качан.

— Калона — стой! — імгненна пачулася каманда канвою.

Тут жа да мяне падбеглі з карабінамі два стралка: і той, што ішоў з правага боку ззаду, і пярэдні. Задні забраў у мяне качан, пакруціў яго ў руках, пацiскаў, кругом абмацаў, перадаў першаму. Тое самае зрабіў і першы. Уся калона стаяла ціха, ужо ўсе ведалі, чаго мы спыніліся. Абодва канваіры аглядалі качан доўга, як след. Я горка думаў, як цяжка мне будзе апраўдвацца перад брыгадаю, што гэтак недарэчна правінаваціўся. Нарэшце першы канваір, апошні раз крутнуўшы качан у руках, вярнуў яго назад другому, ціха сказаўшы:

— Аддай яго чалавеку.

Не зняволенаму, не арыштанту, як звычайна заведзена, а — чалавеку. Я толькі гэта пачуў.

Качан быў цвёрды, як жалезны. Пасля вячэры я садраў з яго толькі адзін ліст, халодны, ледзяны, і патрошку-патрошку адкусваў. Ён быў салодкі. Мабыць, уся свежая, перамарожаная капуста бывае такая салодкая? — пытаўся я ў самога сябе і даваўся дзіву, што не ведаў. Я баяўся многа есці, але з'еў увесь ліст.

А качан палажыў пад падушку. Яна была з саломы, вельмі ўжо працёртай, і акуратненька абхапіла качан. Цяпер я мог заснуць.

Але што ў мяне быў за сон, не разгадаю. Я быдта глядзеў на самога сябе зверху. Быдта я спаў. Галава мая была ў яркім святле, трохі павернутая ўбок. Мне відно было сваё вуха, чутачку растуленыя губы і заплюшчаныя вочы. Я роўна, спакойна дыхаю. На пляскатай саламянай падушцы сярэдзіна цвёрда выпуклена, і я ведаю, што гэта ад качана капусты, які ляжыць пад ёю. І супакойваюся.

Потым яркая пляма святла, у якой ляжала мая галава, паволі патухла. Мне таксама хацелася спаць.

*3 лютага — 2 сакавіка 1992 г.*

## ПАЛЯРНАЕ ДЗІВА

Я памятаў, што жонка пры апошнім нашым спатканні на чыгуначных пуцях, калі мы маглі глядзець адно на аднаго толькі здалёк, пад вартаю ахоўніка ў дзвярах таварнага вагона, што тады яна перадала мне ў дарогу турысцкі мяшок, палажыўшы ў яго як сваю памяць шкарпэткі, насавыя хустачкі, пальчаткі, шалік...

Цяпер гэты мяшок ляжаў у мяне ў галавах. Калі я стаў сапраўдным лагернікам, то туды ж палажыў і ўсё знятае з сябе хатняе, абмундзіраваўшыся ў казённае: бушлат, ватовыя штаны, валёнкі і зімовую шапку. Я памятаў пра сваё хатняе адзенне, спадзеючыся, што, можа, дасць бог, усё гэта мне яшчэ спатрэбіцца. Бесперастанку я пісаў заявы і просьбы ў Вярхоўныя Саветы, Пракуратуры і Народныя суды Саюза і рэспублікі з просьбаю, каб перагледзелі маю справу. Недзе ў спадзяваннях нясмела думалася, што там, наверсе, усё ж знойдзецца чулы і справядлівы чалавек і асмеліцца абараніць праўду. І я вярнуся дадому ва ўсім сваім, хатнім адзеўку, як бы са мною ніякай бяды і не было.

Але ж дзеля гэтага трэба выжыць. Качана капусты хапіла мне ненадоўга, дый якая там была ад яго дапамога? А што ж

і як рабіць дзеля гэтага? Няйначай як трэба пагаварыць з маім добрым суседам Аравым.

— Усё гэтае тваё дабро трэба прадаць, давай яго сюды, — сказаў Араў, выслухаўшы, што ў мяшку ў мяне ляжаць мае хатнія рэчы. — І прыкупляць хоць бы па пайцы хлеба. А яшчэ лепш, каб чаго і скаромнага.

Сёе-тое мы з ім разам з мяшка і выбралі.

Назаўтра ўвечары, калі нас прывялі з работы, лежачы на нарах Араў сказаў, што зарабіў мне трыццаць рублёў. І перадаў складзеныя паперкі. Іх аказалася на дваццаць сем рублёў.

Я зразумеў, што траяк ён пакінуў сабе за паслугу. Прызнаюся, мяне гэта збянтэжыла. Нават пакрыўдзіла: чаму ён не захацеў, каб такой далікатнасцю, як падзяка, распарадзіўся я сам? Гэта ж вельмі не па-сяброўску! Гэта пахіснула ўсю маю прыязнасць да яго. Я ж думаў, каб не толькі падзякаваць грашыма, а сказаць і нейкае добрае слова. Са шкадаваннем падумалася, што з гэтага часу не вельмі ўхвальна я буду меркаваць пра яго. Але тут жа падумалася і іначай: што гэта проста тутэйшая завядзёнка. І што мне самому патроху трэба прывыкаць да гэтага. Ці тое яшчэ давядзецца ўбачыць і перажыць самому.

Тым часам Араў памог мне і даставаць тыя пайкі, і напытаць скароміны...

Час і чалавечая прырода самі па сабе робяць вялікія цуды. Я папраўдзе неўзаметку акрыяў. Зноў ажываліся і мары, і спадзяванні. Успомніўся чамусьці універсітэт, сябры, з якімі вучыўся, — Пятрусь Броўка, Васіль Каваль, Сымон Куніцкі. Нашы настаўнікі — Сямён Вальфсон, Язэп Лёсік. Дом пісьменніка і людзі, якія там бывалі, — Міхась Лынькоў, Платон Галавач і заўсёды з кіёчкам Янка Купала. Свая футурысцкая суполка «Беларуская літкамуна», агністы яе кіраўнік Паўлюк Шукайла, наша маладое літаратурнае бунтарства ў пошуках навізны. Пра ўсё гэта было прыемна расказваць нават Араву. Я заўважыў, што гэта яму падабаецца, няйначай як грашыў вершамі таксама.

Гэтым мы займаліся і сёння. Нарэшце замоўклі. І па цішыні на нарах можна было здагадацца, што барак ужо спіць. Божа, да чаго я люблю хвіліны, калі астаешся зусім адзін. Або няхай сабе гэта будзе сярод людзей, але ты нічога не чуеш і не бачыш, у цябе свой свет: тваё ўяўленне. Як лёгка ў такія хвіліны ты ўмееш сягаць, як многа бачыш і ведаеш, як праторна і шчасліва жывеш...

У стане вось гэтакай ілюзорнасці, спароджанай барачнай цішынёю, самотным святлом начных лямпак над нарамі і маімі ціхімі марамі, я падняўся з пасцелі і выйшаў з барака. І здзівіўся, што ў такі позні начны час на вуліцы як удзень светла. Што такое? Дайшоўшы да месца, куды звычайна ходзяць перад сном, я павярнуўся тварам на поўнач, каб зачыніцца, і радасна здагадаўся, што бачу паўночнае ззянне, пра якое ведаў толькі з літаратуры. Я закамянеў, здзіўлены і зачараваны. Я ўбачыў дзіва, пра якое нават баюся, што не здолею расказаць. Але перш паспрабую зазірнуць у энцыклапедыю. На жаль, у навуковай мове нават на кропельку няма ні ўзрушанасці, ні красы. Вось як напісана:

«Палярнае ззянне — гэта свячэнне верхніх слаёў атмасферы на вышыні 100—1000 км у выніку ўзаемадзеяння сонечнай плазмы з магнітасферай Зямлі.

Назіраецца праз суткі ці двое пасля ўзнікнення храмасфернай успышкі на Сонцы. Сумарная магутнасць карпускулярных патокаў, што выклікаюць П. з., на працягу некалькіх гадзін можа дасягаць $10^{14}$ ват. Найб. часта П. з. узнікаюць у зонах П. з., размешчаных на адлегласці 23° ад полюсаў геамагнітных (паўн. геамагн. полюс знаходзіцца ў Паўн. Грэнландыі). У гады высокай сонечнай актыўнасці іх можна назіраць да геамагн. шырот 20—30°, г. зн. і на Беларусі. Назіранні П. з. — эфект. сродак вывучэння фізікі верхняй атмасферы».

Мне ж гэта вунь як убачылася.

На вуліцы было холадна, зябка. Я выскачыў у ніжняй бялізне. Мяне ўсяго праймаў холад, я чуў, што калачуся, але стаяў як укапаны і глядзеў у неба. Божа, якое яно было шырокае і як магутна кіпелі і мяняліся ў ім фарбы. Адтуль, недзе з-за гарызонту, з-за зямлі падымаліся ўгору шырокія каляровыя палосы святла, яны ўвесь час мігцелі, калаціліся і мяняліся ў сіле бляску і колераў, успыхваючы то ярка і магутна, то затухаючы і пераходзячы ў кволасць, у нечаканасць. Каляровыя ўспышкі то залівалі ўсё неба, то падалі за гарызонт, каб там перамяшацца ў новыя колеры. Колеры як бы змагаліся між сабою, спяшаючыся адзін аднаго перасіліць. Не было толькі двух колераў: чорнага і белага, бо не маглі яны быць прывычнымі ў гэтым трапяткім каляровым пажары неба.

Не ведаю, не памятаю, як я мог пакінуць гэтае відовішча. Памятаю толькі, што мяне наскрозь праймаў холад і ў здранцвенні дробна-дробна ляскалі зубы.

Вунь як даўно і далёка гэта было. І калі я цяпер часам успамінаю тыя свае прапашчыя дваццаць гадоў, то сам сябе

суцяшаю хоць бы тым, што іменна ў Сібіры ўбачыў такое непаўторнае дзіва, як палярнае ззянне.

*29 сакавіка 1991 г.*

## ТРЫПЦІХ

Плачу, галосячы, калі ўдумляюся і бачу, што ляжыць у труне чалавечая наша краса — знямелая, бездыханая, са скананым аблiччам.

*З Біблii (па памяцi)*

### 1. БУДРЫК

Забразгалі замкамі жалезныя дзверы, і ў камеру ўпусцілі чалавека. Ён ступіў баязліва, нехаця, не ведаючы, што рабіць далей. Сталага веку, мажны, самавіты, ён разгублена глядзеў у глыбіню камеры, нікога і нічога не бачачы. Усё ў ім было зляканае: галава з мяккаю чупрынаю засівелых валасоў, вочы з перапалохана-адчайным бляскам, знямелая пакора дзябёлай фігуры, непрывычнай да бездапаможнасці.

Ён стаяў, у адной руцэ трымаючы хатулёк, відаць, спешна сабраны яму ў дарогу, з якога вытыркаў кончык вышыванага ручніка. Але не ручнік дзівіў вока развітальнаю спагадаю сям'і, а мяккае жоўтае футра зімовай шапкі, уваткнутай у хатулёк, відаць, у самую апошнюю хвіліну. Другая рука вымушана была трымаць паясніцу штаноў, каб яны не спаўзлі ўніз, бо гузікі і ў адзежыне, і ў бялізне былі выразаны.

Нас у камеры было чатыры чалавекі, і мы вельмі разумелі кожнага, хто сюды прыходзіў упершыню. На волі кожны ведаў, што ў турме сядзяць толькі злачынцы, ворагі народа. І калі сюды прыходзіў новы чалавек, то ён вельмі пільнаваўся, каб тут яго не справакавалі на якую нялюдскасць. Гэтакі страх чытаўся і ў вачах новага чалавека. Мы абступілі яго з роспытамі, што робіцца на волі, ці няма якіх свежых добрых навін? Ці не чутно пра якую новую амністыю? Нарэшце, ці ведае пра ўсё гэта Сталін?

Але чалавек стаяў ашаломлены. Здавалася, ён нават не разумее, пра што ў яго пытаюцца. Нарэшце староста камеры, палкоўнік медыцынскай службы Пазнанскі, у белай сподняй сарочцы і ў вайсковых з чырвонымі кантамі штанах, якія вельмі не пасавалі да лямцавых тапак, надзетых басанож, зжаліўся над новым чалавекам. Ён адхіліў рукою просьбітаў:

— Перастаньце, хлопцы, — сказаў ён. — Хіба вы не бачыце, што яму не да вашых роспытаў? Паспееце. Дайце яму апамятацца.

— Я ні ў чым не вінаваты, — горача пажаліўся чалавек. — Упэўнены, што выйшла памылка. На першым жа допыце ўсё высветліцца, і мяне выпусцяць.

— Дай Божа, — сказаў Пазнанскі. — А пакуль што вось ваш ложак, прабачце, што каля парашы, але ж гэта лёс кожнага, хто прыходзіць апошнім. Зрэшты, нам хацелася б ведаць, як вас зваць-велічаць і хто вы?

— Будрык. Маё прозвішча Будрык. А раблю я кіраўніком спраў у Савеце Народных Камісараў Беларускай Рэспублікі.

— Дзякую. Займайце сваю пасцель. Прывыкайце патрохі.

Мужчыны разышліся па сваіх ложках. Кожны думаў пра новага чалавека. Нейкі ён незвычайны. З такой вялікай пасады і такі перапалоханы і збянтэжаны. І каб не вярэдзіць сябе лішнімі думкамі, мы папрасілі доктара Пазнанскага заняцца нашымі звычайнымі хітрошчамі. У яго была неверагодная памяць, ён пераказваў нам «Анну Карэніну» Льва Талстога з літаральнай дакладнасцю, нават па раздзелах. Вядома, рабілася гэта тайком, неўпрыкмет, каб наглядчык, зірнуўшы ў акенца, мог падумаць, што мы проста жупім між сабою.

Будрык жа тым часам змагаўся з сваімі пакутамі, яму было вельмі цяжка, яго хіліў сон, дашчэнту знясіліў бясконцы вобыск. Вочы патухалі, галава падала на грудзі, увесь ён пачынаў неяк грузка асядаць тулавам. Прахапліваўся, спрабаваў апамятацца, але праз хвіліну зноў хіліўся і асядаў. Раптам як падкошаны зваліўся галавою ў падушку. І тут жа з бразгатам адчынілася жалезнае акенца ў дзвярах і наглядчыцкі голас строга загадаў, што ўдзень спаць нельга.

Гэтак ён мучыўся да вечара. І калі ўжо была блізка пара, што можна нарэшце легчы ў пасцель, яго забралі на допыт.

Мы чакалі яго чатыры дні. Гэта нас вельмі трывожыла. На ўплясканай камернай падушачцы так і астаўся ўціснуты след яго галавы. Нам здавалася, што ён незвычайны. Займаў вялікую пасаду ў высокай установе, няйначай як быў камуністам, паважаным і аўтарытэтным — гэтак прывыклася думаць пра людзей, якія намі кіравалі. І няйначай як быў адукаваны і інтэлігентны, гэта відаць было па яго разгубленасці і бездапаможнасці. І па вачах. У іх чытаўся страх ад нечаканага крушэння асноў жыцця.

Нарэшце на пяты дзень неяк занадта быстра, трывожна і пагрозліва адчыніліся дзверы, і ў камеру ўпусцілі чалавека. Мы

не адразу пазналі яго. Твар быў чужы: шэры, круглы, апухлы, у рудых і сініх нядобрых плямах, на ім толькі ўгадваліся вузкія шчыліны воч. Валасы мокра пазліпаныя. Пінжак страціў сваю святочную свежасць, па ім пайшлі брудна-каравыя лапіны.

Усё было ясна: чалавека адразу ж, з ходу, паставілі на самы страшны — канвеерны допыт. Гэта калі следчыя, пасадзіўшы цябе на край табурэта або яшчэ страшней — на ножку перакуленага табурэта, мяняючыся па чарзе або гуртам, будуць біць, з усіх бакоў крычаць у вушы, каб ты падпісаў тое, чаго яны хочуць.

Допыты будуць цягнуцца запар некалькі дзён. І ты, знямажаны, без сну, без адпачынку, страціўшы адчуванне навакольнасці, часу, сэнсу падзей, аглушаны непраўдападобнасцю, што табе трэба стаць злачынцам — зваліўся непрытомны на падлогу. Цябе абліюць халоднаю вадою, зноў пасадзяць на табурэт (або на яго ножку) і пакажуць сілу, каб ты, нарэшце, зразумеў, што ратунку няма.

Няйначай як пасля гэтакай апрацоўкі Будрыка і прывялі ў камеру. Колькі хвілін ён стаяў, стараючыся ўсё нешта зразумець. І не паспеў яшчэ сесці на сваю пасцель, як тут жа зноў адчыніліся дзверы, і наглядчык крыкнуў:

— Будрык! З рэчамі! На выхад!

Больш яго ніколі, ніхто і нідзе не чуў і не бачыў. Апошняя спешная дарога яго была, мабыць, у Курапаты.

*15 лістапада 1988 г.*

## 2. БЭЛА КУН

У лагернай бухгалтэрыі існаваў, ды, мабыць, існуе і цяпер дакумент, які завецца арматурнай ведамасцю. Гэта вялікі здвоены аркуш паперы, адмыслова разграфлены ўдоўж і ўпоперак. Злева ў ім пішацца імя-прозвішча зняволенага, а зверху ўніз, у вузенькіх графках, прастаўляецца ўсё тое, у што абуты-адзеты зняволены: бушлат, целагрэйка, штаны, сарочка, споднікі, рукавіцы, шапка, чаравікі ці валёнкі і г. д. Куды б зняволены ні перасылаўся, разам з ім, як за чалавекам скарбовым, пойдзе і арматурная ведамасць.

На той час я рабіў у цэнтральнай бухгалтэрыі лагера. Яна была за зонаю. Пад канвоем, а часамі з сабакамі, нашу брыгаду вадзілі на работу, у так званы штаб.

Я быў бухгалтарам агульнага аддзела. У гэтым аддзеле звычайна завяршаецца справаздача гаспадарчай дзейнасці — тут робіцца бухгалтарскі баланс. І вось аднаго разу пры дакумен-

тах чацвёртага лагпункта аказаўся вялізны пук арматурных ведамасцей. Значыцца, на той лагпункт прыйшоў этап новых людзей. Гэта заўсёды цікава — адкуль жа прыйшоў этап? Што за людзі? Можа, там ёсць землякі ці нават знаёмыя? Я пачаў гартаць гэтыя ведамасці, перачытваючы прозвішчы, аркуш за аркушам. І вось аж не паверыў сваім вачам: Бэла Кун! Божа, як жа так? Сусветна вядомы рэвалюцыянер — і раптам у лагеры? Воін, дзеяч Камінтэрна — і контрык? Што ж гэта такое? Для майго пакалення гэтае імя было як легенда. Падумаць толькі: у 1916 годзе, у Першую сусветную вайну, Бэла Кун пападае ў рускі палон — і становіцца камуністам. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі сустракаецца з Леніным, гэта кладзе адбітак на ўсё жыццё. З палонных салдат ён фарміруе інтэрнацыянальныя атрады і перадае іх у дапамогу Чырвонай Арміі. Удзельнічае ў абароне Петраграда, у баях пад Нарваю, у ліквідацыі эсэраўскага мецяжу ў Маскве. На нейкі час нелегальна вяртаецца ў Венгрыю, засноўвае там камуністычную партыю; не без яго ўдзелу абвяшчаецца і Венгерская Савецкая Рэспубліка. Пасля яе задушэння вяртаецца ў Савецкі Саюз. З не меншай энергіяй потым пойдзе яго дзейнасць у Камінтэрне. Папраўдзе легенда. Няма ніякага дзіва, што мне захацелася ўбачыць яго.

Знайшоўшы прычыну, што некаторыя весткі ў справаздачах патрабуюць удакладнення, я напісаў рапарт галоўнаму бухгалтару лагпункта Зміцеру Грышко з просьбаю паслаць мяне на адзін дзень у камандзіроўку на чацвёрты лагпункт. Назаўтра ж з канвоем я быў туды перапраўлены.

Не магу, каб не прызнацца, што сэрца маё білася моцна, калі ў зоне я падыходзіў да нізкага, доўгага, шэра-цёмнага барака з дашчаным спадзістым дахам. Я хацеў уявіць, як убачуся з чалавекам, — і не мог. Сіліўся ўспомніць, ці не бачыў яго калі на здымках, — і таксама не мог. Але чамусьці не знікала ўпэўненасць, што аблічча яго мне вядома.

Цёмна-шэры барак стаіць на зямлі магутна, упэўнена. Адчыняю дзверы — тамбур. Адчыняю другія — налева і направа, на ўсю даўжыню барака ідуць двух’ярусныя нары. Пярэдні край іх асветлены з вокан, што ўрэзаны ў даху як фрамугі. Цішыня. Людзей — ні душы. Усе на рабоце. Нават днявальны некуды, мабыць, адбег.

Але ўглядаюся ў левы бок: не, відно, што чалавек колькі ляжыць і зверху, і знізу, відны панакрываныя вынашанымі шэрымі баваўнянымі коўдрамі іх ногі. Значыцца, тыя, што не маглі пайсці на работу, хворыя. Вызваленыя лекпомам[5].

Углядаюся ў правы, блізшы канец барака, і мне здаецца, што там, у самым канцы, на верхніх нарах нехта сядзіць. Шыбаю туды: праўда — чалавек. Знізу пытаюся:

— Прабачце, дарагі таварыш, я шукаю чалавека, якога завуць Бэла Кун. Ці ведаеце вы яго? Дзе яго шукаць?

— А я і ёсць Бэла Кун, — адказвае чалавек на чысцюткай рускай мове.

Ну тут ужо ясна, што па драўляных прыступках, прыбітых да слупа, мне давялося залезці на нары. Расказаць, хто я, як дазнаўся, што сюды прыйшоў этап, чаму захацеў пабачыцца.

Бэла Кун сядзеў на чорным сенніку не па-нашаму: скрыжаваўшы ногі па-ўсходняму, ці, як кажуць, па-турэцку, што мяне здзівіла, бо я не чуў, каб у Венгрыі было заведзена гэтак сядзець. У чорным свойскім пінжаку, з коратка пастрыганымі (невядома адкуль і як імгненна ўспомненымі) вусікамі на круглявым добрым твары. Гэта мяне абнадзеіла.

Бегла я растлумачыў, хто я і чаму яго ведаю. Не з літаратуры як рэвалюцыйнага дзеяча, а ад жывых людзей, яго вучняў і паслядоўнікаў. Я — з Мінска, колішні беларускі пісьменнік, але таксама даўно зняволены ў лагер, хоць і не вінаваты, наадварот, у душы лічу сябе камуністам. Недзе на пачатку трыццатых гадоў да нас у Мінск прыязджалі ў госці венгерскія пісьменнікі Антал Гідаш (мы яго звалі па-свойму — Анатоль), Матэ Залка і Бэла Ілеш. Цікавыя, дружныя, слаўныя хлопцы. Мы разам з імі выступалі на літаратурных вечарах, паказвалі ім сваю Беларусь.

— Як жа пажывае ваш Янка Купала? — раптам здзівіў мяне гэтакім запытаннем Бэла Кун.

Я не ведаў, што адказаць. У лагеры мы былі пазбаўлены ўсякай грамадзянскай інфармацыі, чытаць газет не мелі права. Што рабілася ў свеце, я ведаў толькі з выпадковых чутак. Але скора пераканаўся, што і Бэла Кун жыве мінулым. Ён ахвоча перакінуўся на тэму больш блізкую яму. Сказаў, што памятае, як на Заходнім фронце Тухачэўскі[6] «даў прыкурыць пану Пілсудскаму». Мне стала весялей, бо я сам трохі памятаў тыя часы і мог абазвацца на гаворку. Памятаў і акупацыю нашага краю, і пажары. Потым, у час ужо мірны, памятаў, як пад Мінскам, за Койданаўскім трактам, на папаровых палетках з нейкай нагоды праходзіў вайсковы парад, і самы галоўны начальнік, што прымаў той парад, на сваім высокім цёмна-гнядым кані заўсёды відзён быў паперадзе ўсіх. Вельмі прыгожае гэта відовішча, калі глядзіш здалёк, што конь зліваецца ў адно з седаком. Тады ў нас гаварылі, што гэта таксама быў Тухачэўскі.

У барак зайшоў днявальны, чалавек пажылы, барадаты, у часта прашыванай целагрэйцы. Кульгавы, адна нага не згіналася. Ён пранёс у дальшы канец два новыя бярозавыя венікі, палажыў іх пад нары, відаць, у тым канцы было і яго прытулішча. Падышоў да нас, пачуўшы, што Бэла Кун з некім гаворыць. Паглядзеў на мяне, хітнуў галавою, убачыўшы, што чалавек чужы. Як гэта чуйна напомніла мне даўнасць у родных мясцінах, калі нават невядомыя людзі, сустрэўшыся ў дарозе, скажуць адзін аднаму «дзяньдобры».

Як толькі днявальны пайшоў, Бэла Кун здзівіў мяне новаю нечаканасцю. Аказваецца, ён ведаў аднаго з нашых першых дзяржаўных дзеячаў, Язэпа Адамовіча[7]. Я здагадаўся, што гэта было вельмі даўняе знаёмства, няйначай як недзе з першых рэвалюцыйных часоў.

Пішучы цяпер пра гэта, я не мог, каб не зазірнуць у нашу энцыклапедыю. І праўда, Адамовіч служыў яшчэ ў царскай арміі, быў унтэр-афіцэрам, узнагароджаны трыма Георгіеўскімі крыжамі. У Чырвонай Арміі з самага яе заснавання. Вызваляў Беларусь ад інтэрвентаў, кіраваў разгромам бандаў і сваіх, і засланых — Барыса Савінкава[8], Булак-Балаховіча[9].

Бэла Кун зваў Адамовіча ўлюбёна, ласкава — Язеп. Каб упэўніцца, ці няма пра яго якіх новых вестак, я зірнуў у пазнейшыя даведнікі. І аказалася, што імя ў Адамовіча ўжо не тое — Іосіф. Я падумаў, што ніякага дзіва ў тым няма: запабягаць мы прывучаны даўно.

Між тым я памятаў, што час ідзе, а мне бавіцца нельга, у дарогу назад на вахце заказаны канваір. Але не так турбавала мяне тое спяшанне, як нечаканае адчуванне таго, што мною робіцца нешта вельмі нядобрае. Як асмеліўся я шукаць сустрэчы з Бэла Кунам? Толькі цяпер, як след удумаўшыся і ўгледзеўшыся, да мяне дайшло: якая гэта велічыня, якая фігура. З якімі людзьмі ён знаўся; у якіх падзеях браў удзел. Памяць і ўяўленне тут жа падкінулі і падмацунак да праўды гэтага сумнявання — вобраз Міхайлы Фрунзе.

У 1920 годзе з поўдня нас вельмі ціснулі ўрангелеўскія белагвардзейскія фарміраванні. Можна сказаць, адборныя, бадай што напалавіну з афіцэраў. Каб разграміць іх, быў створаны новы, Паўднёвы фронт, на чале якога Ленін параіў паставіць Фрунзе. Памяць мне падказвала, што разам з ім там быў і Бэла Кун. Я асмеліўся ў яго папытацца пра гэта.

— Ваша праўда, паважаны таварыш, — сказаў Бэла Кун. — Быў як член рэўваенсавета. Гэта была мая самая пачэсная ваен-

ная місія. Найшчаслівейшая, бо я вучыўся ваеннаму майстэрству ў самага глыбокага стратэга, Богам дадзенага таленту. За той час душэўна я пазнаўся з самым храбрым, самым справядлівым, разумным, далікатным і самым простым чалавекам, Міхайлам Фрунзе. І самым чэсным і чыстым камуністам. Усяму я вучыўся ў яго. Нават смерці, якую ён прыняў гэтак мужна.

Бэла Кун задумаўся. Па прыжмураных вачах відно было: нешта далёкае сузіраў.

Задумаўся і я. Мне ўспомнілася гісторыя, пра якую ў свой час хадзілі розныя чуткі. Магчыма, якраз яе цяпер сузіраў і Бэла Кун.

У 1926 годзе пісьменнік Барыс Пільняк у шостым нумары часопіса «Новый мир» надрукаваў «Повесть непогашенной луны». У ёй гаварылася, што ў нейкую лекавую ўстанову прывезлі хворага чалавека. Праз колькі часу ў тую ўстанову пазваніў высокапастаўлены чалавек і папытаўся, як ідзе папраўка ў хворага чалавека. Яму адказалі, што кансіліум вядомых дактароў згоды на аперацыю не дае, бо любое хірургічнае ўмяшанне хвораму прынясе толькі смерць. Цяжка памаўчаўшы якую хвіліну, голас у трубцы спакойна загадаў рабіць аперацыю.

У надрукаванай аповесці пасля ў хворым нехта пазнаў Міхайлу Фрунзе, а ў голасе, што загадаў рабіць аперацыю, — Сталіна. Аповесць потым прызналі заганнаю, надрукаванне яе ў часопісе — грубаю памылкаю, нумар часопіса канфіскавалі. Пільняку прыпомнілі ідэйныя зрывы і ў другіх творах. Знайшлі, што ў яго залішне самастойны характар. Успаміналі доўга, не адзін год. Хоць бы пра тое, што ён паходзіць з немцаў, з прозвішчам Вогаў. Ці пра тое, што матэрыяльна ён памагаў Карлу Радэку ў выгнанні. У 1937 годзе стаў выгнаннікам і сам Барыс Пільняк. З лагера ён не вярнуўся.

Час мойканчаўся. Вельмі хацелася мне папытацца ў Бэла Куна, ці падобна смерць героя з «Повести непогашенной луны» на тую, якую «мужна прыняў» Фрунзе ў жыцці. Я быў упэўнены, што ступень праўды ці вымыслу ў творы Бэла Куну была вядома. Аднак жа пытацца не пасмеў. Падумаў, што гэта нетактоўна. Сказаў толькі, што хачу шчыра падзякаваць і развітацца.

— Ну што ж, — сказаў Бэла Кун, — і я вам дзякую. Мне было прыемна, што вы захацелі мяне наведаць. І вельмі тонка падкупілі мяне, расказаўшы, што ў вашай Беларусі гасцявалі нашы пісьменнікі. Усе яны былі мне як родныя, Матэ Залка блізкі і па ваеннай прафесіі. Вы ж ведаеце, што ён быў генералам?

— Ведаў, — сказаў я.

— Мабыць, вы ведалі таксама, што Антал Гідаш быў мой зяць? Замужам за ім была мая дачка Агнеса.

— Гэтага я не ведаў, — сказаў я, здзіўлены.

— Што і зяць Антал Гідаш, і дачка Агнеса, і жонка мая Ірына — арыштаваны?

— І гэтага я не ведаў! — ускрыкнуў я, зніякавелы. — Божа мой, як жа так? Нашто ён гэта зрабіў? — сказаў я з болем душы.

У Бэла Куна звузіліся вочы, ён строга зірнуў на мяне.

— Сталіна вы не чапайце, — цвёрда сказаў ён. — Сталін — гэта геній! Гэта мудры настаўнік і правадыр усяго працоўнага чалавецтва свету!

Ну што ж: відаць, яны былі адзін на аднаго нечым падобныя. Кажуць, ён сам быў страшэнна жорсткі і вельмі ахвоча расстрэльваў палонных, не стараючыся ўпэўніцца, што вінаваты яны. Прынамсі, гэтак горача абараняць Сталіна мог толькі аднадумец.

*16 сакавіка 1989 г., 16 лютага 1991 г.*

## 3. АННА ЛАРЫНА

Паўз чацвёрты лагпункт цякла рэчка Кія, з тайгі па ёй сплаўляўся лес. На беразе, на прытачным месцы, была абсталявана запань; бярвенне ў ёй гэтак густа наганялася адно на адно, што праз яго ледзьве прабівалася вада.Налоўчаныя арыштанты ў сваім знарок не па-людску пашытым адзенні, лазячы па гэтым настаўбурчаным, слізкім бязладдзі, бусакамі намацвалі больш слабкае бервяно і выбаўлялі яго наверх. Выбавіўшы, гэтак жа лоўка накідвалі на камель пятлю доўгага, blішчаста выслізганага ланцуга і гукалі на бераг — паганяй! Там напагатове стаялі ўжо запрэжаныя ў пастронкі сытыя пародзістыя коні. Яны тралявалі бярвенне на левы бераг, на так званы дзелавы двор, абсталяваны піларамаю, сушыльнямі, майстэрнямі, варштатамі, усім неабходным начыннем. Зона была абнесена высокай густой агароджаю з крытымі вышкамі, дзе зручна маглі адчуваць сябе і стралок, і кулямёт пры ім.

Мне спатрэбіліся гэтыя ўводзіны, каб сказаць, што ў нашым лагеры хапала і прамысловай, і сельскагаспадарчай работы, але цяглавая сіла пераважала традыцыйная — коні. І на дзелавым двары панавала тая завядзёнка, што на ім шчыравалі ламавікі толькі пародзістага складу. А гэтакая эліта патрабавала, каб пра яе штомесяц ва ўправу давалася адмысловая аператыўная справаздача. З даволі складанымі паказчыкамі.

Звычайна справаздачу гэту рабіў самы спрактыкаваны і размудраны бухгалтар лагпункта Зінавей Кармій. Але Кармій нарэшце сумленна адбыў тут свае гады і мерыўся паехаць дадому на Украіну. Трэба было налаўчыць да гэтай работы каго другога. Як на тое прыгналі на лагпункт новы этап, у тым ліку некалькі жанчын, бог ведае з якіх высокіх меркаванняў уключаных у разнаякі мужчынскі гурт. І праз некаторы час у штаб на Цэнтральны лагпункт старшаму заатэхніку Фадзееву аператыўную справаздачу пра цяглавую сілу на дзелавым двары прынесла жанчына. Нікому не вядомая. Але з прозвішчам даволі громкім — Анна Ларына.

Аднак жа людзі пажылыя і дасведчаныя ў нашай новай гісторыі памяталі, што гэтак звалі маладую Бухарынаву жонку.

І вось за тое, што Анна Ларына была Бухарынаваю жонкаю, ёй собіла пабываць і ў нашым лагеры.

И пошли лагеря —
Мариинский,
Ново-Ивановский,
где вонь баланды, портянок
для женщин — единственное ТЭЖЭ, —

сказаў Яўгеній Еўтушэнка ў сваім лірычным рэпартажы «Жена Бухарина» ў газеце «Известия».

З таго першага разу Анна Ларына і пачала штомесяца насіць у штаб аператыўныя справаздачы пра жывое цягло на дзелавым двары. Яна пачала прывыкаць і да гэтай дарогі, і да работы. Ішла пешкі і паміж жытоў, і па лугавых далях, па сутнасці, адна, бо канваір тупаў ззаду, нічым не замінаючы, можна было марыць, думаць, успамінаць. Такія хвіліны чалавеку вельмі патрэбны.

Нарэшце, Цэнтральны лагпункт. Кантора. Драўляны, доўгі, казённы, гонтамі крыты будынак. На ганку канваір аставаўся з нашым, тутэйшым, перачакаць сваю падканвойніцу. А яна праходзіла тамбур, потым калідор налева, на якую хвіліну спынялася перад дзвярыма направа з надпісам АПЧ, што азначала агро-производственная часть. Яна ўжо ведала, што там сядзелі людзі найбольш пажылыя: аграномы, інжынеры, механізатары, планавікі, колішнія дактары і кандыдаты навук, цяпер гэтакія ж сама падканвойныя. Яна іх бадай што нікога не ведала.

Нарэшце яна адчыняла дзверы. У правым кутку, пры акне, сядзеў старшы заатэхнік Фадзееў. Светлавалосы, маўклівы, вечна задуменны, гадоў за сорак мужчына. Яна моўчкі клала яму на стол сваю справаздачу.

Ён праглядаў яе, дзякаваў і, спахапіўшыся, запрашаў сесці.

Яна была самага зручнага, ці, лепш сказаць, сярэдняга росту, цёмнага воласу, нават надта цёмнага, аж да сіняга бляску. Спакойнага аблічча, з удумлівымі вачыма, чамусьці, здавалася, надта строгімі. Выручала толькі ўсмешка, але вельмі рэдкая. Можа, ад прыроды, а можа, ад зазнанай долі. А найвярней — ад сарамяжнасці. Рэч у тым, што саромелася яна сваіх зубоў. Калісьці выраслі яны так свавольна — ніжнія, упартыя, — што выціснуліся з сваіх радоў у бакі, і калі яна смяялася, то яны надавалі ёй гэтулькі зухаватай хлапечасці, што міжволі хацелася смяяцца разам з ёю. З гэтаю бядою яна змагалася няшчадна: дазваляла сабе толькі маленькую ўсмешку. І тады яшчэ натуральней свяціліся ў яе аблічы вабнасць і мілата.

Я пакінуў Нова-Іваньскі лагер у 1946 годзе. Не ведаю, ці доўга яшчэ насіла там Анна Ларына ў штаб свае справаздачы. Мне толькі здавалася, што таго дня, калі яна мелася быць, старшы заатэхнік АПЧ Фадзееў вельмі чакаў.

*14 сакавіка — 28 жніўня, 15 снежня 1989 г.,*
*22 ліпеня 1992 г.*

## БЛУКАННІ

У доўгім і змрочным бараку, у самым душным яго канцы, на верхніх нарах месцілася брыгада канторскіх работнікаў — бухгалтэрыя, забеспячэнцы, планавікі. Унізе, пад імі — землякопы, цесляры, будаўнікі.

Сярод будаўнікоў было і маё месца.

Аднаго разу, пад канец года, недзе ўжо блізка перад сном, высунуўся над праходам з сваіх верхніх нараў бухгалтар лагера Васіль Аркадацкі і крыкнуў:

— Хвілiначку ўвагі, таварышы! Нам у кантору на час гадавой справаздачы патрэбны чалавек, які ўмеў бы чарціць справаздачныя формы. Калі сярод вас знойдзецца хто, што ўмеў бы гэта рабіць, — падыміце руку!

Я падумаў: ніколі гэтым не займаўся, але ж ніякай адмысловай граматнасці на гэта не трэба — і падняў руку.

— Заўтра ж, калі ласка, на сваю работу не выходзьце, а прыстройвайцеся да канторскай калоны, — сказаў Аркадацкі.

Такім неспадзяваным чынам і перамяніўся мой лёс. Я набыў новую прафесію, пачаўшы яе з самых, як кажуць, азоў. Прайшоў усе прыступкі: і чарціў тыя формы, і перапісваў начыста чужыя справаздачы. А самае, мабыць, галоўнае — вучыўся валодаць

лічыльнікамі, без чаго рахункавых работнікаў не бывае. Праз колькі часу мяне пачалі перакідваць з аддзела ў аддзел, у залежнасці ад таго, дзе патрэбна была дапамога. Такім чынам я авалодаў ўсёй разнастайнасцю бухгалтарскай работы. Але завяршэннем трэба лічыць аддзел агульны, дзе сыходзіліся дакументы ўсіх аддзелаў і дзе рабіўся баланс, як вынік дзейнасці ўсяе гаспадаркі за месяц, за квартал, за паўгода, за год.

Вось які накірунак майму лёсу даў Васіль Аркадацкі.

Памятую той дзень, калі праз дзесяць лагерных сваіх гадоў я вызваляўся. Начальнік гэтага аддзела быў новы, яшчэ не прывучаны, каб з лагернікамі гаварыць моваю афіцыйнаю, сухою ці нават пагардліваю. Ён весела папытаўся, куды я хачу ехаць. Я ведаў, што дадому мне ехаць няможна, што свае новыя дзесяць гадоў я павінен адбываць яшчэ ў ссылцы, і адказаць нічога не мог. Начальнік убачыў маю разгубленасць і захацеў памагчы. На сцяне ў яго вісела карта СССР. Ён падвёў мяне да гэтай карты, параіў заплюшчыць вочы, выцягнуць руку, пакруціць ёю і ткнуць пальцам у карту. Туды і паехаць. Пальцам я ткнуў у Фергану. Начальнік весела рассмяяўся, бо аказалася, што сам ён адтуль, узбек, з Ферганы. На Фергану і выдаў мне дакументы.

Там мне было ўсяляк. Асабліва ўпачатку.

На работу з маім дакументам усюды мне адмаўлялі.

Першую ноч я спаў за горадам, бо, дабіраючыся са станцыі Гарчакова да Ферганы, бачыў, што перад горадам цячэ цэлая сістэма канаваў, якія забяспечваюць вадою горад, а ўзжоўж ідуць прысады, з якіх упала ўжо лісце. З гэтага лісця я і змастачыў сабе пасцель.

На другі дзень, натаміўшыся ў бадзянні, недзе пад вечар ужо, я зайшоў у даволі танную кавэрню падсілкавацца. І нечакана на лаве заснуў. Няйначай як гаспадар, убачыўшы ў мяне нешта падазронае, пазваў міліцыянера. Ноч мне давялося правесці ў доме прымусовых работ. Аднак жа назаўтра пракурор Вавілаў адпусціў мяне.

Не памятаю, колькі дзён давялося мне бадзяцца па Фергане. Я наймаўся ў гараджан калоць дровы, здрабняць каменны вугаль. Натрапіўшы на базар, я купіў найсмачнейшую ў свеце рэч, якая звалася ляпёшкаю. Мабыць, я ўмінаў яе з такім апетытам, што тутэйшы шавец, які прадаваў каля варот сваю работу — чаравікі, тапкі, боты, — папытаўся ў мяне, хто я? Я адказаў не манячы.

— Калі хочаш, то сёння пойдзем начаваць да мяне, — сказаў ён. — К шасці гадзінам падыходзь сюды.

Яны жылі ўдваіх з жонкаю недзе на канцы горада. Накармілі мяне як след. Жонка яго паслала мне на шырокім тапчане. Начаваў я ў іх і заўтра, але мне здалося, што не вельмі падабалася чабатару, каб яго жонка гэтак душэўна спачувала мне, — і больш начаваць не пайшоў.

Аднаго разу ішоў па вуліцы вельмі цяжкі, натомлены. За металічнаю ўзорыстаю агароджаю відзён быў ні то парк, ні то грамадскі сад. Там відны былі дарожкі, клумбы, кветнікі. Сюды-туды прахадзілі, гуляючы, людзі. Або сядзелі на лаўках. Мабыць, і ў мяне была патрэба адпачыць, я таксама зайшоў. Выбраў найцішэйшае месца, і — што здарылася потым, не памятаю. Апынуўся ў бальніцы. Выйшаў адтуль толькі назаўтра — памыты, пасвяжэлы. Уся мая адзежа была пражарана, пачышчана. Пайшоў я далей па вуліцы, увесь час думаючы — як жа ўсё-такі многа на свеце добрых і чулых людзей.

У гэтакіх мроях выйшаў аж за горад. Вуліца ператварылася ў палявую дарогу, і там, удалечыні, сінеючы, падымаліся горы. Незнаёмы рамантычны ландшафт. Міжволі падумалася, што нездарма людзі робяць падарожжы, каб адкрываць сабе ўсё новы і новы свет. Але гэта была як бы нячасная, як бы нядобрая ці благая думка, бо зрок мой змеціў, што гарадская вуліца не абрывалася, а толькі павярнула направа і што там стаяць новыя цагляныя будынкі, абнесеныя цаглянаю ж чырвонаю агароджаю. Я і павярнуў туды.

Канечне, гэта быў завод. Новы. Шмат будынкаў яшчэ толькі пачаты. За агароджаю, адразу ж налева, прысадзістая будыніна заводакіраўніцтва. Я пераступіў парог, перад кожнымі дзвярыма шукаю таблічкі, дзе было б напісана: «Бухгалтэрыя». Знайшоў. Адчыніў дзверы: ну пэўна ж — знаёмая карціна. Сталы і сталы, то поруч, то адзін пры другім. З праходамі паміж імі. Картатэкі, лічыльнікі. Людзі, што адразу зірнулі на мяне. А я бачу толькі адзін стол, што стаіць за праходам, і чалавека за ім. Відаць, што нядаўна ён быў вайсковым. Яго форменная фуражка з блішчастым казырком ляжыць на ражку стала, на аколышку нават значон яшчэ след цэшкі. І кашуля на чалавеку яшчэ таксама казённа-зялёнага колеру. Я кіруюся да яго шырокім праходам, збянтэжаны тым, што ён пільна-запытальным зрокам глядзіць на мяне. Я вітаюся наклонам галавы і кажу, што я бухгалтар, шукаю работы. Мне хочацца, каб усё-такі ён адразу ведаў, хто я, і паказваю на свой лагерны бушлат, сказаўшы:

— Толькі я...

— А я ўсё бачу, — перабівае ён мяне ціхім голасам. — Давайце вашу заяву.

На заяве ён чырkануў некалькі слоў, падняўся і пайшоў з пакою. Вярнуўся неўзабаве.

— Усё ў парадку.

Я зразумеў: ён хадзіў да дырэктара. Значыцца, і там — аднадум.

Ён распытаў, як у мяне з жытлом. Выклікаў каменданта Сёміна і загадаў тут жа ўладкаваць мяне ў інтэрнат. Свайму памочніку Тураеву параіў замацаваць мяне за матэрыяльным аддзелам.

Божа, як нечакана тут жа я стаў чалавекам. І як гэта добра, што ў мяне ёсць што шчасліваe памятаць.

***25 студзеня 1992 г.***

## НА КАМАРОВЕ

Везлі нас доўга. На гэты раз нават без варты. І ў Краснаярску, у турме, камера таксама не адзіночка, а агульная, чалавек на трыста. Так што і сяброўства пачало знаходзіцца. А сяброўства — божа, як не хапала яго там, калі душа не перастае балець ні ўдзень, ні ўночы.

Ну ды вось нарэшце стала вядома, куды хто з нас замацаваны. Мне выпала Міндэрла. Сяло вялікае, гарбатае, бо размешчана на ўзгорку. І не глухое, бо стаіць на Енісейскім тракце, нават мае сваю пошту. Пазней я буду загадваць у ім конным дваром, а пакуль што мною камандуе хто хоча. Я езджу і нарыхтоўваць лес, і выганяю коней на выпасы.

Сёння я быў на малацьбе ў Камарове. Конная перавозная малатарня. На мне ляжаў клопат, каб адкідаць салому. Ух, якая гэта шалёная работа. Няма калі і перадыхнуць...

Потым мы перакусвалі. Хто што прынёс з сабою. У мяне, вядома, нічога не было. І суседка Клава, што на палок падавала снапы, паспяваючы развязваць і перавяслы, разгарнула на мураве свой ручнік і запрасіла далучыцца. Не цяжка было здагадацца, што яна загадзя брала ў запас, каб можна было з кім падзяліцца. І ўсё роўна мне цяжка было прыняць запрашэнне.

Салому мы потым скідалі ў капу. Зерне прыбралі ў пуню — на ток.

Камарова — гэта кіламетраў за сем ад сяла, пры невялікім ляску — летнік. Там стаіць пуня — крыты ток, толькі з бакавымі

сценамі-плецянямі: ссыпанае зерне ў ім падсыхае роўна і гігіенічна, увесь час ходзіць па ім ціхі ветрык.

А наводдаль стаіць невялікі дамок, раздзелены на дзве палавіны — птушнік. Улетку сюды прывозяць і выпускаюць на волю курэй — Госпадзі, якая ім тут выгода! Колькі ім прастору і волі! І каб вы бачылі, як клапатліва пільнуе іх певень! Ён, небарака, нічога сам не клюе, ходзіць высока на нагах, задраўшы галаву, і час ад часу падае апаслівы голас. А нанач куры ідуць у тую палавіну дома, дзе пароблены седалы ім.

Першая ж, меншая палавіна дома — гэта кухня, дзе рыхтуюцца ім харчы. У ёй жыве і той, хто тут дзяжурыць.

На гэты раз дзяжуру тут я. Адзін на ўсю гэтую гаспадарку. У мяне тут стул, тапчан, грубка, умураваны кацёл на пліце. Лямпа вісячая, акно, нанач завешанае фіранкаю. Адзінокі, доўгі, нікім не рушаны мой час.

І мае ўспаміны. Я адзін, але ва ўспамінах усё да кропелькі са мною. Увесь мой далёкі дом. Час. Сям'я. Божа, другая сям'я, але гэтакая ж, як і першая, — разлучаная.

Як жа так? Што ж гэта за праклён такі, што сям'і мне мець не суджана?

І ўсё ж не разлучваюся з ёю хоць у сваіх успамінах. У сваіх думках...

Вось ужо і вечар прайшоў, я пішу ім пісьмо. Гэта таксама шчасце, калі хоць ёсць каму пісаць пісьмы...

Які цяпер час? Мабыць, вельмі позна? Пара схадзіць паглядзець гаспадаркі.

Я запальваю ліхтар, той, што завецца кажаном, і выходжу на двор. Якая цемень! Ужо за адзін крок нічога не відаць і не пазнаць. Адно перабягае і перабягае збоку мой цень. Нават сцежкі ў пуню не пазнаць, яна як бы то знікае, то паказваецца аднекуль на імгненне. І нарэшце, як бы ўжо зусім неспадзеўна, — цвёрды ток пуні, страха, што навісае над ім, угадваецца і куча зерня: спакойная, маўклівая, не чапаная нікім, як бы проста адпачывае. «Дзякуй богу, усё спакойна, — як бы гаворыць яна, — ідзі, чалавеча, і ты спаць».

Але я яшчэ доўга не буду спаць. Яшчэ доўга ў сваіх думках я буду гасцяваць дома.

*27 студзеня 1992 г.*

## МУЗА

Я так доўга жыў у Сібіры, што мог лічыць сябе сібіраком. Раённы цэнтр, дзе больш за ўсё давялося бавіцца, ляжаў у плоднай раўніне паміж невысокіх узвышшаў, якія надзейна засцерагалі яго і ад лютых марозаў узімку, і ад шалёных вятроў улетку. Як у кожным прыстойным мястэчку, была ў ім і свая шырокая цэнтральная вуліца, на якой мясціліся бадай што ўсе галоўныя ўстановы — райвыканкам, райкамы партыі і камсамола, райфінаддзел, міліцыя, усякія раймагі.

Што яшчэ было ў нас знакамітае, дык гэта клуб, перароблены з мураванай вялізнай царквы, так што хапала яму і віду, і гмаху, і саліднасці. На шырокі брукаваны пляц перад ім звычайна заходзіў увесь раённы транспарт: і аўтобусы, і конныя фурманкі з папаскаю, каб што прывезенае прадаць — сталярку, бандарку ці жыўнасць.

Само сабою, што ў цэнтры мясцілася і сталоўка, вядомая на ўвесь раён, бо хто б ні прыязджаў у цэнтр, без гэтай установы не абыходзіўся.

Была і яшчэ адна ўстанова, якой не магу каб не ўспомніць. Мясцілася яна трохі збоку ад галоўнай вуліцы, але яе таксама ведалі ўсе, і звалася яна райкамунгасам. Апроч местачковага жыллёвага фонду меў ён сваю прамысловую гаспадарку: лазню і паравік. Лазня працавала па пятніцах і суботах, а паравік пыхкаў штодня: малоў завезнікам муку, абдзіраў крупы, пілаваў дошкі і брус.

У райкамунгасе я рабіў бухгалтарам. Чакаў, што павінна прыехаць сям’я, а пакуль што харчаваўся таксама ў сталоўцы.

Была ў ёй свая, нейкая асаблівая мілата, і кожны бачыў, што мілата гэтая ішла ад самой загадчыцы — Музы. Першае, што была яна надзіва прыгожая. Не толькі нейкім прыдатным, умеркаваным ростам, постаццю, а тонкім, нейкім вельмі спакойным і разам з тым праніклівым тварам, які прымушаў вас зноў і зноў цішком зірнуць на яе. Нечакана вам пачынала здавацца, што неспадзяванай вабнасці пярэчыць залішняя строгасць. Але гэтая насцярога тут жа знікала, калі яна з кім гаварыла. Наадварот, вас дзівіла непасрэднасць і шчырасць яе даверлівасці.

Другое, што дзівіла таксама адразу, — ужо не яна, а стыль работы гэтай установы. Літаральна свой, неспадзяваны. Парадак. Прадуманасць. Мэтазгоднасць. І, можа, самае нечаканае: што рабочае месца самой загадчыцы было тут жа, у зале сталоўкі. Не ў кухні, з кухарамі і афіцыянткамі, а ў зале сталоўкі, навідавоку,

каб яна бачыла і людзей, што тут бываюць, і ўвесь свой парадак. Яна сама магла падаць талерку ці шклянку, калі хто меў у тым патрэбу, нешта на хаду падказаць афіцыянтцы, а самае галоўнае — бачыць усіх людзей, што тут гасцююць, і сачыць, каб усім было добра, прыветна і гасцінна.

Гэтак яна была выхавана. Добрымі людзьмі. Адзін з іх нават стаў яе мужам. Праўда, цяпер не верыцца, што гэта быў ён. Аказваецца, лепшым настаўнікам усё ж бывае само жыццё. А людзі могуць мяняцца.

Гэтак сталася і з яе мужам, строга партыйным чалавекам. За гады свайго замужоўства яна не перастае дзівіцца, да чаго ён перамяніўся. Быў жа і просты, і чулы, і ласкавы. І справядлівы. Няўжо ж у тым вінаваты пасады, якія ён займаў? Усё большыя і важнейшыя? Асабліва цяперашняя — першага сакратара райкама. Здавалася б, што чым большая ці адказнейшая пасада ў чалавека, то гэта ж і большая разумнасць, большая сардэчнасць. І большая шляхетнасць душы. Не сказаць, каб такіх якасцей у яго не было, яна іх добра памятае, яны вылучалі і над другімі, але... Час і пасады — толькі яны паклалі на яго сваю верхавенскую пячаць.

Ды калі б гэта абыходзілася толькі службаю, то кадук яго забяры, можна было б не чуць і не бачыць гэтага. Але ж службовая фанабэрыя кладзецца і на сям'ю. Раптам яму стала не па душы, што колішнія сяброўкі з Атаманава, дзе яна расла, сябравала, камсамоліла, цяпер, бываючы ў мястэчку, забягаюць да яе і яна цэлымі днямі бавіцца з імі. А з райкамаўскімі работніцамі ні знаёмства, ні дружбы ў яе няма... І потым — гэтая пасада загадчыцы сталоўкі, вельмі ж залішняе слугаванне на віду ў людзей...

— Не вельмі трэба, каб усе бачылі, як ты там усім слугуеш. Тым больш што, кажуць, ты нават фіранку з дзвярэй у бакоўку зняла, няхай усе бачаць, хто там бывае. А туды ж заходзяць і нашы людзі, ведаю, што не без чаркі... Няўжо ж ты гэтага не разумееш? Ці, можа, робіш знарок?..

— Вадзім, дарагі, — сказала яна мужу, — у чым жа тут ганьба? У мяне ёсць кніга водгукаў, я табе дала б пачытаць іх, калі б ты захацеў... Бачу я, што цябе турбуе нешта другое: што тваю жонку ўсе бачаць на чарнавой рабоце, разам з усімі. Якая ж тут ганьба?.. Здаецца мне, што ты турбуешся не за мой гонар, а за свой. Што сярод маіх сябровак і знаёмых нікога няма з райкамаўскага актыву. Але дазволь жа і мне распараджацца сабою так, як навучыла мяне маё жыццё.

— Муза!..

— Я разумею цябе, Вадзім. Мая работа вельмі замінае і твайму аўтарытэту, і тваёй службе. Калі хочаш ведаць, то мяне гэта таксама трывожыць... Але ні ў чым я папраўляць сябе не магу. І не буду.

І праўда, свайго парадку ў сталоўцы яна ні на кропельку ні ў чым не парушыла. Адно, што вельмі відно стала: цэлымі гадзінамі яна сядзела ў зале ў сталовай у сваім крэсле моўчкі, задумаўшыся, нікога не бачачы. І дадому з работы ішла самая апошняя, як бы нехаця.

Трэба сказаць, што месяцы два таму назад у нашай сталоўцы паявіўся не зусім звычайны сталавальнік. Мужчына сярэдніх гадоў, інтэлігентнага выгляду. Гэта быў галоўны інжынер камбіната будаўнічых матэрыялаў, які будаваўся кіламетраў за пяць ад мястэчка. Наслуханы пра нашу сталоўку самай лепшай хвалы, ён і прыкаціў аднаго разу на разведзіны ў лёгкай каламажцы, запрэжанай буланым каньком. І з таго разу кожны дзень акуратненька прыязджаў к другой гадзіне дня. Буланаму, не распрагаючы, на гэты час падкідаў ахапак сена або навешваў на морду ў торбе аброку, а сам ішоў у сталоўку. Там, у куточку, аблюбаваў ён сабе месцейка, выгаднае тым, што яно было ціхае. Столік стаяў невялікі, круглы, чорна-блішчасты, разлічаны на два месцы. Але звычайна ніхто другі сюды не падсаджваўся, бо на другім крэсле новы сталавалькік клаў свае рэчы — ці то партфелік, ці шапку.

Новага наведвальніка ў нас ніхто не ведаў, і таму хадзілі пра яго ўсякія чуткі. Што ён далёка з Расіі, што сюды прыехаў не па сваёй ахвоце, усё роўна як сасланы ці што. Ці проста не спрацаваўся са сваім начальствам і з’ехаў у Сібір. Другія, наадварот, сцвярджалі, што ён не толькі спрактыкаваны, а вучоны інжынер, і прысланы на нашу будоўлю таму, што яна вельмі адказная.

Між тым праўшоў час, у сталоўцы ўсе ціха прывыклі і да яго маўклівасці, і да акуратнасці. Куды больш нас цікавіла сямейная бяда загадчыцы Музы. Яна была як аглушаная, усё рабіла моўчкі або надоўга застывала ў сваім крэсле, пра сваю бяду ні з кім гаварыць не хацела.

Усе гэта бачылі і перажывалі таксама моўчкі. У тым ліку, здаецца, і сталавальнік. Звалі яго Казімір Мікалаевіч. І вось ён папрасіў, каб Муза падышла да яго століка. З запаснога крэсла ён прыбраў сваю шапку, жэстам папрасіў сесці. Яны гаварылі ціха і доўга. Было відаць, што хваляваліся, асабліва Муза. Яна з нечым не згаджалася, то замаўкала, то горача пярэчыла. Можна было зразумець, што гаворка ішла ў іх важная. І не лёгкая.

Сустрэліся яны і назаўтра.

А дзён праз два Муза прыйшла на работу недзе пад поўдзень. І прынесла невялікі хатуль, увязаны ў даматканую лёгкую посцілку. Можна было здагадацца, што ўвязаны былі жаночыя строі і пасцельная бялізна.

Як заўсёды ў сваю пару паявіўся Казімір Мікалаевіч. Ён кіўнуў галавою Музе. Убачыў хатуль, яшчэ раз ухвальна кіўнуў галавою.

...У каламажцы яны селі поруч. Наперадзе ляжаў хатуль. Муза папрасіла, каб Казімір Мікалаевіч праехаў паўз райкам партыі. Там яна зайшла ў пакой да тэхнічнай сакратаркі Веры, дастала з рыдыкюля партбілет і палажыла яго на стол. Сакратарка здзіўлена ўзняла на яе вочы.

— Я выходжу з партыі, — сказала Муза. — Вельмі прашу пры выпадку перадаць гэта Вадзіму Пятровічу.

*26 снежня 1991 г.*

## ЭСТОНІЯ

Усё было добра ў Фергане. І служба па душы, і людзі, з якімі знаўся. Тут пачалася ў мяне і сям'я. Новая. Бо першая — загінула. Не фізічна, але так распарадзіўся час. Пра гэта трэба расказваць асобна.

Дырэктар нашага прадпрыемства Уладзімір Кучарэнка працаваў, па сутнасці, часова. Ён быў глыбока вучоным чалавекам якраз па той галіне, дзеля якой будаваўся завод. І вось нарэшце аж праз некалькі гадоў глаўк спецыяліста знайшоў. Чалавек падкрэслена строгі, партыйны, вядома, — Курзін. Першае, з чаго ён пачаў сваю дзейнасць — з чысткі апарату, заводакіраўніцтва. Я, вядома, аказаўся чалавекам непажаданым.

Гэта было страшна зноў. Нават страшней, як было, бо пад небяспеку падпадала ўжо другая мая сям'я: жонка Ганна, яе хлопчык Алік і наша дачушка Галачка.

Але выручыла нечаканасць.

У лагеры адбываў таксама свой час інжынер-будаўнік высокай кваліфікацыі Сцяпан Фядорчанка. Ён вызваліўся на колькі месяцаў раней за мяне, паехаў у Эстонію. Мы перапісваліся. Ён спыніўся ў гарадкуКівіылі, уладкаваўся на работу па спецыяльнасці — узначальвае гарадскі будаўнічы трэст. Пісаў пра самое мястэчка — што гэта цэнтр сланцавай прамысловасці, на базе якой існуе вялікі сланцахімічны камбінат. Пра гэта ён сказаў невыпадкова: што няйначай як там ёсць патрэба ў бухгал-

тарах. Бо не так даўно яшчэ здабыча сланцу была там справаю прыватнаю, і бухгалтэрыі сапраўднай бадай што не існавала.

Як жа дарэчы прыйшоўся мне гэты ліст! І мы, з новаю маёю сям'ёю, асмеліліся пусціцца ў далёкую пуцявіну. Як заўсёды знайшліся і добрыя людзі: яны перадалі нам у дарогу каністру тутэйшага спірту. О, як гэта нас выручыла: і пры перасадках, і пры ўладкаванні ў спакайнейшым месцы ў вагоне.

На камбінаце нас прынялі вельмі ахвоча: тут жа была знойдзена кватэра, я быў адразу прызначаны бухгалтарам у цэх па здабычы сланцу і падземнага транспарту. Але бухгалтэрыі там папраўдзе як бы і не было. Трэба было пачынаць усё з самага пачатку. З курсаў. Каб людзі ведалі, што такое баланс, праводка, сальдавая і абаротная ведамасць, абаротны і шахматны баланс. Каб у цэнтральную бухгалтэрыю камбіната мы здавалі сапраўдны баланс з усімі расшыфроўкамі і дадаткамі.

І праз тры месяцы я прынёс у цэнтральную бухгалтэрыю камбіната справаздачу з усімі расшыфроўкамі і дадаткамі. Пасаду галоўнага бухгалтара камбіната выконваў часова бухгалтар з міністэрства, бо тутэйшая, камбінатаўская бухгалтарка запусціла ўсю справаздачу і з паўгода як кінула работу і з'ехала. Ён і з мяне пацяшаўся, як з няўмекі.

— Ну, паказвайце, паказвайце, што вы там прынеслі, дарагі таварыш, — гаварыў ён, разгортваючы маю справаздачнасць, і раптам сціх, замаўчаў...

Няйначай як па яго рэкамендацыі дырэктар камбіната Фердынант Меттус, чалавек разумны, далікатны, светлабровы, прыгожы, выклікаў мяне і папытаўся, ці не мог бы я стаць за галоўбуха камбіната...

Вядомая рэч, што не ўсё гэта так скора і лёгка рабілася, як гаворыцца. Трэба было найперш авалодаць аб'ёмам работы: і адносіны з банкам, і крэдыторы, і дэбіторы, і пастаўшчыкі, і даўгі. На першым часе прыходзіў з работы, толькі каб перананачаваць.

А час ішоў.

І, нарэшце, мяне радавала, што я рэгулярна пачаў атрымліваць грошы з банка на зарплату. Хоць гэта нясціпла гаварыць, але было прыемна, калі часам пасля палучкі ў кабінет да мяне заходзілі дэпутацыі з рабочых і запрашалі пайсці з імі разам паабедаць. «Вельмі просім, ну адну шкляначку віна выпіце з намі», — прасілі яны. Прызнаюся, можа, я нядобра зрабіў, але ні разу на іхнюю просьбу не адгукнуўся.

Словам, усё ішлося як след. І на рабоце, і ў сям'і. Аня таксама ўладкавалася на работу. І дзеці былі — хто ў школе, хто ў садзіку. Ды вось аднаго разу рассыльная, адчыніўшы дзверы, сказала:

— Вас просіць зайсці Пеўзнер.

Гэта — намеснік дырэктара.

Зайшоў. Пеўзнер стаяў блізка пры стале з ваенным чалавекам. Ваенны папытаўся, ці з сабой у мяне пашпарт. Я дастаў, аддаў яму.

— Вы арыштаваны, — сказаў ваенны, рукою дакранаючыся да кабуры...

Вось так скончылася маё гасцяванне ў Эстоніі. Яшчэ добра, чэкіст згадзіўся зайсці са мною дадому, каб я мог пераадзецца адпаведна таму, дзе цяпер мне давядзецца быць. Дома быў Алежка, я папрасіў яго збегаць на работу да мамы і сказаць, каб яна скоранька ішла дадому. Вядома, яна тут жа прыбегла... Калі я выходзіў з дому, скрозь слёзы яна сказала: «Памятай, дзе б ты ні быў, я да цябе прыеду».

*1992 г.*

## КОХІЯ

Я не ведаў, што гэта за расліна. З такою нетутэйшаю назваю. І не ўведаў бы, калі б не здарэнне.

Нашу брыгаду канторскіх работнікаў лагера вадзілі на работу пад канвоем: штораніцы — туды і штовечар — назад. У канторы вокны былі з кратамі — каб ніхто не падумаў, што можна ўцячы. Ды ніхто ўцякаць не збіраўся, бо ўсё наваколле — гэта лагер. Зона. Але парадак ёсць парадак.

Кузьма Карнееў быў бухгалтарам вытворчага аддзела. Па сутнасці, у яго аддзеле — уся працоўная дзейнасць гаспадаркі, — работы хапала. Але ніхто ніколі не чуў і не бачыў, каб Кузьма журыўся, бедаваў ці скардзіўся. Ён быў чалавек прыгожы, чулы, просты, яму можна было б даваць усе пахвальныя эпітэты. Яго ўсе любілі.

А ён вельмі любіў кветкі. На рабоце яго месца было каля акна, і ўсё тое акно было застаўлена вялікімі і малымі вазонамі, якія ён штодня паліваў, з кожным то ласкава, то пагрозліва гаворачы. І яны як бы слухаліся яго: цвілі і красавалі.

Жылі мы ў закрытай зоне, у земляным доўгім бараку, месціліся на верхніх нарах у самым канцы. Якраз пры Кузьмовай пасцелі, у схілістым земляным даху, было таксама глыбокае акно.

І, вядомая рэч, яно было занята раскошным вазонам. Першы раз бачыў я такую паэтычную расліну з далікатным, празрыстым, падобным на лёгкі цень ці на пух квітненнем. Я любіў глядзець на яе, яна спараджала ў душы патрэбу ў далікатнасці, ласкавасці, чуласці. Мабыць, і ў самога Кузьмы было такое адчуванне, бо ён з ёю і гаварыў, і кожны раз як бы гладзіў ці папраўляў якую найбольш упартую галінку. І, вядома, палівaў, стараючыся, каб у вазоне было і не надта вільготна, і не суха. Ён вельмі пільнаваўся патрэбнай меры. І ўвечары, калі брыгаду прыводзілі з работы, ён першым чынам даглядаў гэты вазон.

І вось аднаго разу, калі прывялі канторскую брыгаду з работы, Кузьма не ўбачыў вазона на сваім месцы. Вазон валяўся на нарах, вырваны з пасудзіны разам з тугім камяком чорнай зямлі, пранізанай аголеным карэннем.

Божа, да чаго цяжка было глядзець, як балесна і нема плакаў Кузьма, падбіраючы аголеную расліну і ладзячы яе назад, у вазон.

Стары аднаногі днявальны Ермачэнка пакорліва сіліўся растлумачыць, што вобыск рабіла цэлая брыгада. «Вельмі раскашавацца пачалі паны зняволеныя», — казаў іхні старшыня. А па мне, дык нечага, мабыць, шукалі.

Не ведаю чаму, можа, проста як патрэба нешта душэўнае памятаць, але ў мяне і сёння на сцяне, над пісьмовым сталом, на зграбна выштукаванай вузкай палічцы, у высокай узнёслай металічнай вазе стаіць гэтакі ж самы куст кохіі. Як бы сцвярджаючы, што ў свеце маўкліва гаспадараць толькі час і памяць.

*3 сакавіка 1992 г.*

## НЕРАЗГАДАНЫЯ СЛЁЗЫ

Кожнае раніцы адчыняліся лагерныя вароты, наша канторская брыгада выходзіла за зону і станавілася ў шарэнгу па чатыры. Стралок даваў каманду кожнай чацвёрцы адысці на два крокі наперад. Гэтакім чынам палічыўшы, а набіралася нас чалавек трыццаць, даваў агульную каманду ў дарогу: «Шагам марш».

Гэтак нас вадзілі на работу — аграномаў, заатэхнікаў, рахаўнікоў. Часам былі два канваіры — ззаду і спераду калоны, а часам адзін — толькі ззаду. Залежала ад абставін: памоцнены рэжым быў, або перад святочнымі днямі, або мелася наехаць якая інспекцыя.

На работу нас вадзілі паўз бальніцу. І бадай што кожны раз па дарозе мы сустракаліся з маладою жанчынаю, якая таксама ішла на работу, толькі не ў штаб, а ў бальніцу. Там была свая ўліковая кантора.

Не магу сказаць, чым мяне зачапіла тая жанчына. Яна была маладая, была ў яе нейкая свая краса, не кідкая, а сціплая, маўклівая, не ўсім адкрытая, як бы затоеная. І асаблівасць яе была яшчэ ў тым, што нават сярод людзей, у натоўпе, яна была як бы адна.

А я люблю такія натуры, іх заўсёды хочацца разгадваць. І паявілася ў мяне гуллівая думка: а што калі яе патрывожыць? Калі напісаць ёй пісьмо? Але так, каб яна, барані божа, не ўведала, хто ёй піша.

Проста, па маладосці гадоў, захацелася пажартаваць.

Як толькі канвой заводзіў нас у штаб, мы ўсе разыходзіліся па сваіх пакоях. Самы вялікі быў у нас, у рахаўнікоў. Сядзела ў нас за сваімі сталамі чалавек, мабыць, дзесяць. Асобныя пакоі былі, вядома, у галоўнага бухгалтара і ў касіркі — толькі яны двое былі ў нас вольнанайманыя.

У нашым пакоі былі бесканвойныя два чалавекі. Адзін з іх, даволі пажылы ўжо, Андрэй Іваніцкі, працаваў на складскім аддзеле. Ён, добры, ахвочы, як кажуць, кампанейскі чалавек, згадзіўся перадаць пісьмо. Вядомая рэч, з умоваю, каб яна не ўведала, хто піша яго.

Што я пісаў у гэтым пісьме? Усё ёй — пра яе ж. Так, як яе бачыў, як яе ўяўляў, як пра яе думаў. Пісаў пра яе аблічча — абаяльнае, прыгожае, сціплае, разумнае. Пра яе характар, які сабе рысую, пра сціпласць, сумленнасць. Пра адданасць. Пра тое, як яна можа кахаць, шанаваць, паважаць. Памятаць. Марыць. Чакаць. Усё пра яе. Не адразу. А асцярожна, паволі, патрохі, за нейкі пэўны, нават немалы час. Не просячы і не патрабуючы ніякага адказу.

Кожны раз, калі мы сустракаліся, калі мы ішлі ў калоне на работу ці з работы, калі я стараўся трымаць сябе адсутна, каб яна, барані божа, не ўгадала мяне, — кожны раз пасля гэтага я быў як хворы, і толькі сам сабе цішком мог сказаць: дзякуй богу, яна не прызнала мяне.

Гульня гэтая цягнулася доўга. З жарту, з пацехі, яна стала нечым вельмі сур’ёзным. Я пачаў жыць перакананнем, што шчаслівы. І што нават баюся гэтага.

Дарэчы, пісаў я свае запіскі не так і часта. Трэба было даць ёй час і магчымасць усё гэта зразумець. Яна ведала, што піша

ёй чалавек канвойны. Гэта не жарты. І бачыў, што кожны раз, сустракаючыся з нашай калонаю, яна настойліва і патрабавальна разглядае яе. Вядомая рэч, ёй хацелася ведаць, пазнаць, каторы ж тут я.

А я нават ведаў, як зваць яе. І імя ў яе было самае харошае: Ганна. Ганна Георгіеўна Гарунова — паглядзіце, якое цудоўнае спалучэнне. І пра гэта я напісаў ёй.

Памятаю, па рабоце ў мяне выйшла невялікая няўпраўка. Памочнік мой адбыў сваю меру, вызваліўся, паехаў дадому. Галоўбух дакляраваў мне дастаць памочніка з перыферыйнага аддзялення. Я цярпліва чакаў. І пакуль што сам і разносіў праводкі ў картатэкі, і падлічваў шахматку.

Ды вось адчыніліся дзверы, увайшоў галоўбух, а з ім, неспадзявана, і Ганна Гарунова.

— Вось вам памочнік.

Я, вядома, падзякаваў галоўнаму, прывітаўся з новым сваім работнікам. Яна адразу пачала знаеміцца з сваёю гаспадаркаю. Я ўбачыў: па рабоце яна чалавек граматны.

Я сеў за сваё інструкцыйнае пісьмо, якое надумаў паслаць на перыферыю. Скончыўшы, перачытаў яго, трохі паправіў і папрасіў сваю новую памочніцу аднесці ў машынапісны аддзел. Яна ўзяла ў рукі, паднялася, але зірнула ў тэкст і застыла, палахліва зірнуўшы на мяне. Божа, я зразумеў: яна пазнала почырк! Як жа я мог забыць пра гэта! Ціха, маўкліва яна заплакала, зноў села, галаву абхапіўшы рукамі. Потым хутка паднялася, выцерла слёзы, зноў узяла ў рукі паперку і панесла яе ў машынапісны пакой.

Назад яна не вярнулася.

***1992***

## СУХАБУЗІМ

*(Як жа доўга вярталася праўда)*

Ужо калі я перабраўся з Міндэрлы ў раённы цэнтр Сухабузім, калі старшыня райвыканкама Міхаіл Удавічэнка накіраваў мяне на работу ў райкамгас, калі я больш-менш асталяваўся і наняў кватэру ў Слобжыных, што жылі недалёчка ад райкамгаса над рэчкаю, калі я ўпэўніўся, што жыву на гэтым месцы больш-менш трывала, я папрасіў, каб прыехала Ганна. І вось ужо з Масквы яна дала тэлеграму, што едзе. З дзецьмі.

Я вельмі ясна ўявіў, што самым цяжкім этапам у яе дарозе будзе няйначай як гэты, самы невялікі кавалак дарогі — ад

Краснаярска да Сухабузіма: дзе, калі, з якога вакзала, якім транспартам і па якой дарозе трэба ехаць у той Сухабузім?

Пры райкамгасе існавала рамонтна-будаўнічая брыгада. Прарабам у ёй быў таксама ссыльны — Фёдар Багданаў. Нядаўна да яго прыехала жонка — жвавая, прыветная, душэўная жанчына, яна тут жа згадзілася з'ездзіць у Краснаярск, сустрэць і прывезці маю сям'ю.

І вось мы зноў разам.

Вядомая рэч, што жыццё маё пайшло іначай. Але і Ганне трэба таксама нечым заняцца. Паехала яна ў найбліжэйшы калгас Падсобкі і купіла на гадоўлю парася. Дадому ішла шчаслівая. Па дарозе нагнала яна незвычайную працэсію: невялікі гурт людзей нёс на могілкі дамавіну.

Гэта шчаслівая прыкмета, падумала яна. І праўда, усё неяк адразу пайшло ў нас ладам. На самым канцы мястэчка, каля рэчкі, мы нават купілі зямлянку, у якую потым да нас заходзіла многа добрых людзей.

Былі там і другія журботна-вясёлыя рэчы. Вядома, калі пад бокам рэчка, то грэх жа, каб не завесці гусей. У суседкі Ганна купіла гуску, пасадзіла яе на яйкі. Вывела тая чародку гусянят і бадай што цэлыя дні бавілася з імі на рэчцы. Аднаго разу выпаў халодны град, Ганна ўспомніла, кінулася на рэчку. Бераг аж белы ад граду, а гусяняты ляжаць дагары ножкамі, нежывыя. Ганна расплакалася, пазбірала іх у прыпол, прынесла ў зямлянку і пакідала яшчэ ў цёплую печ. І забыла пра іх у сумятні. Ды праз які час пачула, што ў печы гусяняты заціўкалі. Адкрыла засланку, а яны стаяць усе, укачаныя ў попел, толькі вочкі блішчаць. Божа, колькі было і смеху, і радасці.

Туды ж, у зямлянку, заходзілі да нас многія людзі. І нашы, ссыльныя, і тутэйшыя, сібіракі. Тутэйшыя найбольш ад свае сардэчнасці, калі нешта тамтэйшае спякуць, напрыклад, шанежкі, каб такою навіною пачаставаць і нас. А ссыльныя — проста па-зямляцку. Вельмі помніцца Пятро Крывец, што рабіў прарабам на новых будоўлях, з Заходняй Беларусі, мілы, душэўны чалавек. Ды вядомы ленінградскі крытык, рэдактар часопісаў «Резец» і «Звезда», сакратар ленінградскага Саюза пісьменнікаў Анатоль Гарэлаў. Ён загадваў у Сухабузіме птушкафермаю. Птушкаферма была за рэчкаю, наводшыбе ад мястэчка. Харчаваўся ён сухамяткаю, бо ў сталоўку хадзіць было далёка. Забягаў да нас таксама. Ганна неяк папыталася ў яго, як ён харчуецца.

— Аніяк, — сказаў ён. — Там жа нічога няма.

— А жыўнасць жа ваша нясецца?

— А як жа: і куры, і гусі.

— То вы ж бы хоць яйкамі жывіліся трохі.

— Што вы, што вы, барані божа! — аж спужаўся Гарэлаў. — У мяне ўсё падлічана і запісана ў кнігі: ад яечка да яечка!

Сумленнасць яго проста дзівіла: ён жа мог за ўсё гэта сумленна разлічвацца, учыняючы неабходны запіс.

Потым здарылася так: працаваў я ў бухгалтэрыі МТС. Аднае раніцы туды прыбегла Ганначка з паднятым у руцэ пісьмом і, адчыніўшы дзверы ў кантору, крыкнула:

— Ян, табе пісьмо! На, чытай, толькі спакойна!

Бог ведае якімі шляхамі перадаюцца людзям добрыя весці. Яшчэ не паспеў я ўзяць у рукі таго пісьма, як да дзвярэй пачалі падбягаць людзі і шчасліва ціснуць мне рукі. Гэта было пісьмо намесніка пракурора Беларусі А. Вярбіцкага з Мінска, у якім пісалася:

«Сообщаю, что Верховным Судом БССР от 29 декабря 1954 г. приговор Верховного Суда БССР от 4—5 октября 1937 г. по Вашему делу отменен и дело производством прекращено за недоказанностью состава преступления.

*Зам. прокурора БССР*
*государственный советник*
*юстиции 3 класса (А. Вербицкий)».*

Ну што ж, цяпер можна было ехаць дадому. Пасля дваццаці гадоў.

*19 лютага 1992 г.*



## ДНО ДУШЫ

У Слуцку я кватараваў на ціхай Надрэчнай вуліцы ў пані Стрыжэўскай. Штонядзелі да мяне прыязджаў бацька. Мой тапчан стаяў на кухні. Пані Стрыжэўская выходзіла сюды, бацька кланяўся ёй і пытаўся пра мяне: ці добра вучуся.

— Ды скардзіцца не магу, увесь час сядзіць чытае.

— То і дзякуй богу. А гэта вам...

Не разумеў я, чаму лычка кілбасы бацька аддае гаспадыні. Ці яму дома не жадны, або ці я сам не з'еў бы яго?

— За турботы, панечка, — тлумачыў бацька. І калі забірала гаспадыня тую кілбасу, бацька ўздыхаў, і я зноў не разумеў: ад радасці гэта ці ад смутку.

— Дзякую, Аляксейка, а за сына вы не бядуйце: я за ім пагляджу.

Таго, што мне прывозілі з харчоў, павінна было хапіць на тыдзень. Але да конаўкі масла я баяўся дакрануцца; так, хіба толькі скраечку тоненька паскрабу ножыкам, каб пакаштаваць. Вельмі ж добра пахла яно — домам, сонцам, палямі ды лугамі з кветкамі, подыхам вятроў, матчынаю ласкаю. Гэтая конаўка масла была мне святым скарбам, я яе бярог.

На базары мне добра былі вядомы сцежкі да будак, дзе на століках, сярод рознай старызны і хламу, ляжалі і перакупленыя ў некага кнігі. Я часта прастойваў каля іх то здалёку, то зблізку. Часамі асмельваўся ўзяць якую ў рукі і пагартаць. Не, мне не ўсе падабаліся. Былі там спеўнікі з удалым Хаз-Булатам, соннікі, аракулы, пісьмоўнікі — кожная з іх на свой лад дакляравала пакупніку разгадку тайнаў і шчасце. Але рука мая цягнулася да вельмі непрыкметных, надрукаваных найбольш на шэрай ці жоўтай паперы, з маркамі выдавецтваў Клецкіна, Марціна Кухты

ці суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца». Бо сярод іх маглі быць кніжкі Я. Коласа і Я. Купалы.

І пасля таго, як масла з конаўкі было многа разоў пераважана і перакаштавана будачнікам, я ішоў на кватэру самы шчаслівы. Няважна, што цэлы тыдзень я буду есці нішчымны крупнік і бульбу, гэта няўзнак, затое колькі наслухаюся я чужое душы, колькі дум і пачуццяў абудзяць дарагія радкі.

Пані Стрыжэўская не хлусіла бацьку, кажучы, што на маё гультайства не мела права скардзіцца: я чытаў. А што чытаў — які клопат да таго быў пані Стрыжэўскай. А от куды горш, калі дома, на летніх ці зімовых канікулах, замест таго каб раненька легчы і ранenька ўстаць, я сядзеў за поўнач у сваім кутку, прыкрыўшы ад усіх газоўку. Бацька раз прачнецца, другі і ўжо не можа вытрываць, каб не крыкнуць:

— Лажыся спаць, кажу! Заўтра не дабудзішся цябе!

Аднаго разу ў нядзелю, калі чытаць можна было не хаваючыся, ён сказаў:

— То хоць бы ты пахваліўся, пра што там чытаеш увесь час.

Я не ведаў, ці можа гэта быць, каб стары чалавек ды знайшоў уцеху ў вершах. Але тут жа перагарнуў назад старонкі.

Што я мужык, усе тут знаюць,
І, як ёсць гэты свет вялік,
З мяне смяюцца, пагарджаюць, —
Бо я мужык, дурны мужык.

— Чакай, чакай, — перапыніў бацька. — Вось так і напісана, як чытаеш?

— Так і напісана.

— От так, як мы гаворым?

— Так, як гаворым.

— А божа мой! То што ж гэта за кніжка?

— Янка Купала.

— Хм! Дык жа здорава!

Чытаць, пісаць я не умею,
Не ходзіць гладка мой язык,
Бо толькі вечна ару, сею, —
Бо я мужык, дурны мужык.

— Скажы ты, да чаго складна! — паддаў ахвоты мне бацька. — Ну, давай далей.

Я чытаў і быў рад, што не толькі маю душу кранаюць гэтыя радкі, што ў гэтым мужыку бацька бачыць самога сябе, а значыць, будзе і пратэставаць і бунтаваць разам з Янкам Купалам.

Галеюць дзеці век без хлеба,
Падзёрты жончын чаравік,
Не маю грошы на патрэбу, —
Бо я мужык, дурны мужык.

Бацька ўздыхнуў і зацiснуў у жменю вусы. З найбольшаю сiлаю я прачытаў апошнiя радкi, дзе Янка Купала горда заяўляе права мужыка быць чалавекам.

— Ты, сынку, добрыя кнiжкi чытаеш, — сказаў пасля одуму бацька. — Правiльна пiшацца ў iх.

Цi трэба гаварыць, што тут жа я прачытаў усю кнiжку адным духам. Чытаў і бачыў, як бацька слухае, то ўздыхаючы, то падпiраючы галаву рукою, то недзе цiха ходзячы ў сваiх думах. Асаблiва гнеўна насупiлiся ў яго бровы, калi я чытаў «А хто там iдзе?», дзе, здаецца, нават фiзiчна чуеш, як рушыць грозным паходам людскi натоўп, несучы напаказ усяму свету сваю крыўду.

А чаго ж, чаго захацелась iм,
Пагарджаным век, iм, сляпым, глухiм? —

пытаўся я словамi Янкi Купалы, i нехта нябачны i непадкупна справядлiвы адказваў словамi такой святой i нечакана простай праўды, што аж ледзянела сэрца: «Людзьмi звацца».

Бацька доўга маўчыць, i я знаю, што ён сам вось цяпер iдзе ў гэтым адвечным людскiм паходзе i не можа апамятацца. Падумаўшы трохi, ён кажа:

— Ой, якая гэта праўда, дзеткi.

У хаце стаiць цiшыня. На прымурку дрэмле кот, пахне свежападмеценым долам, за акном у агародчыку вiдно, як у венчык вяргiнi торкаецца ацяжэлая пчала.

Бацька сядзiць задумаўшыся, доўга, i я не чапаю гэтых дум, бо не часта даецца, каб чужое слова кранулася самага дна душы.

*1959*

## НАСТАЎНIК

У маленстве маiм ёсць адна вельмi яркая дата. Недзе ў пачатку дваццатых гадоў у Слуцку, на Манастыршчыне, на беразе рэчкi, я суняўся каля чалавека, якi паволi адзяваўся, толькi што пакупаўшыся. Я стаяў i глядзеў на чалавека аж да таго часу, пакуль ён не пайшоў — яшчэ малады, з невялiкiмi вусiкамi, здаецца, у саламяным капелюшы, з чорным пакамечаным партфелем.

Пайшоў чалавек, а я не ведаў, як нарадавацца, што ўбачыў яго, — гэта быў Якуб Колас.

Да таго часу я ведаў Якуба Коласа толькі па кнігах, якія купляў як мог і дзе мог. Гэта былі часамі вельмі ўжо зачытаныя кнігі, з паабдзіранымі вокладкамі, з паразрыванымі лістамі; я перш за ўсё склейваў іх, папраўляў, як нешта самае дарагое. Звычайна ў іх пісалася пра беднага гаротнага чалавека і пра пошукі шчасця. Я чытаў і перачытваў гэтыя кніжкі па некалькі разоў — без канца. Які харошы, шырокі, прывабны і поўны хвалявання быў свет ад тых кніжак — простых, напісаных моваю, самаю блізкаю сэрцу! Як уздымалі, трывожылі душу і некуды звалі гэтыя кніжкі! Як хацелася любіць чалавека і нешта рабіць дзеля яго! І, можа, ад тых дарагіх старонак я сам злажыўся пісаць...

За светлыя часіны ў маладосці ад вашых кніжак, за чалавечае фармаванне душы вашым словам — шчыры, сардэчны дзякуй вам, дарагі і любы настаўнік, дзядзька Якуб.

*1956*

## ГОСЦІ З МІНСКА

Неяк раз ішлі мы з Паўлюком Шукайлам па Пралетарскай вуліцы ў Слуцку. Была хмурная гразкая восень 1925 года. Я, памятаю, стараўся ісці асцярожна, каб не надта мясіць ботамі гразь, а Шукайла, надушаны, элегантна адзеты, у лакавых чорных туфлях, ішоў абы-як, ступаў дзе папала, і мне шкада рабілася гэтых туфляў. Але пасля я забыўся на іх, бо пачуў ад яго вельмі важную навіну: да нас у Слуцак прыязджаюць Кузьма Чорны і Язэп Пушча[1].

Дзён колькі я толькі і быў заняты гэтаю навіною. Жарты сказаць — я пабачу сапраўдных пісьменнікаў. А што яны былі сапраўдныя пісьменнікі, я ўжо ведаў. Не раз чытаў у газетах. А маленькія кніжачкі з бібліятэкі «Маладняка», тоненькія, з партрэтам аўтара на светлай вокладцы, цаною ў 20 капеек, заўсёды аж хвалявалі.

Нецярпліва чакаючы гасцей, я зноў перачытваў гэтыя кніжачкі і думаў: якое гэта вялікае шчасце — быць пісьменнікам.

І вось яны прыехалі. Абодва маладыя, абодва невысокія ростам, у чорных палітах. Памятаю, як яны распраналіся ў вузенькім калідорчыку на кватэры ў Шукайлы, доўга прымайстроўваючы шапкі, бо яны ўсё падалі, не трымаючыся на кароткіх цвіках.

— О, дык у цябе, браце мой, кватэра нішто сабе, — сказаў Кузьма Чорны, увайшоўшы ў пакой. — Жывеш ты, можна сказаць, як слуцкі князь.

На тыя часы і папраўдзе была неблагая кватэра: адзін пакой, але пrasторны, крэслы, абабітыя аксамітам, на канапе плюшавыя падушачкі. Усё гэта было, вядома, гаспадарскае, — відаць, што гаспадары жылі ў свой час раскошна.

Кузьма Чорны агледзеўся, пацёр адна аб адну рукі.

— Калі ў цябе такая важнецкая гаспадарка ў доме, браце Паўлюк, то, мабыць, і літаратура ў случакоў павінна быць нішто сабе, — сказаў ён, як бы падаючы знак, што можна пачынаць гаворку.

І гаворка пачалася адразу са спрэчак. Шукайла вельмі хацеў паказаць, што і ўсе мы, тутэйшыя маладнякоўцы, яго паслядоўнікі, самыя чыстакроўныя футурысты. Сам сябе ён лічыў правадыром новай плыні ў маштабе ўсяго «Маладняка» і цяпер меў выпадак пахваліцца гасцям, што і мы ў Слуцку не лыкам шыты. Ён адразу заявіў, што мы ломім усе старыя літаратурныя традыцыі і каноны, робім літаратуру новай рэвалюцыйнай фармацыі, і, каб давесці гэта практычна, пачаў чытаць свае вершы, напісаныя і папраўдзе так, што ў іх разбуралася рытміка і ўся прывычная вершаваная форма.

Язэп Пушча сядзеў у крэсле каля стала, склаўшы адна на адну свае прыгожыя рукі. Кузьма Чорны — каля задняй сцяны на канапе; ён сядзеў, адкінуўшы галаву назад і раскінуўшы рукі, як бы проста адпачываў. Ён, здаецца, нават не глядзеў, як ходзіць па пакоі Шукайла, чытаючы свае вершы, жэстыкулюючы і то гнеўна падымаючы голас, то спускаючыся да ледзьве чутнага шэпту. Нічога нельга было разабраць на твары ў Чорнага: думаў ён ці папраўдзе адпачываў, падабаецца яму гэта ці не. Поўны спакой у вачах, у чутачку адстаўленай ніжняй губе, у круглаватым падбародку. І ўсё ж такі па нечым другім, невядомым і нераспазнаным, было відаць, што ён слухае.

Пасля я не раз пераконваўся, як хораша ўмеў слухаць Кузьма. Алесь Дудар, напрыклад, калі з ім гаварылі, пачынаў свістаць. Ідзеш з ім або сядзіш каля яго, ты яму гаворыш, а ён пешта насвіствае. Табе аж нядобра робіцца. А Чорны слухаў так, што ты забываўся на сябе, на яго, на ўсё, што вакол цябе робіцца, а жыў толькі адчуваннем патрэбы падзяліцца з ім.

Шукайла кончыў чытаць. Язэп Пушча паспрабаваў запярэчыць, процістаўляючы футурыстычнай грамавітасці радкі з імажыніcцкай паэзіі. Ён чытаў плаўныя строфы, суправаджаючы мяккую рытміку жэстамі свае пластычнае рукі, але Шукайла перабіваў і ўвесь час позіркам адрасаваўся да Чорнага. А Чор-

ны маўчаў. Спакойна ляжалі на спінцы канапы яго раскінутыя рукі. Мы, чалавек колькі, запрошаных сюды для паўнаты аўдыторыі — маладнякоўка Іда Чырвань, дзяўчына з Надрэчнай вуліцы Стася Шпакоўская (што стала Пушчавай жонкаю), — моўчкі сядзелі па кутках і заміралі ад шчасця, што нам давялося пабыць на такой сапраўднай літаратурнай гаворцы.

Нарэшце Чорны зняў рукі са спінкі канапы і палажыў іх на сядзенне.

— Вельмі добра ты робіш, браце Паўлюк, што пішаш, — сказаў ён. — Усё трэба пісаць, абы толькі людзі чыталі, бо гэта вельмі важна. Але ж ці варта ў вершах крычаць?

Паўлюк трохі збянтэжыўся. Але ненадоўга. Праз хвіліну ён пачаў даводзіць, што рэвалюцыя павінна гаварыць голасам мужным, што народ, які скінуў з сябе ярмо прыгнёту, не можа цярпець мярцвячыны і мяшчанскага пошапку.

— Ды яно, браце, у кожнага бывае такая часіна, што хочаш пакрычаць, — лёгка згадзіўся Чорны. — Няўдача якая ці пасварышся з кім. Але ж яно скора і праходзіць. Так што, панечку мой, можаш сабе і пакрычаць, калі табе так хочацца.

Спрэчка не выходзіла. Гэта было ясна. Чорны нават не спрачаўся, ён нейкім другім, бакавым ходам пераводзіў гаворку, калі яна была не ў яго плане. І каб зусім адчапіцца ад футурызму, ён пачаў пытацца пра нейкага Шлёму, які таргуе мясам на ятках, пра нашы літаратурныя справы — ці многа мы пішам і ці можна падабраць, каб выдаць кніжачку нашай філіі ў бібліятэчцы «Маладняка».

Нам вельмі хацелася, каб Чорны што-небудзь пачытаў, але ён сказаў, што на памяць чытаць не ўмее, а з сабою нічога няма.

— Няхай Пушча чытае, — сказаў ён, — у яго добра выходзіць. А Паўлюку не трэба. Ён ужо і начытаўся і нагаварыўся, хопіць з яго.

Неўзаметку гаспадыня, з высокай прычоскаю і ў сукенцы з пышнымі зборкамі, пачала насіць і стаўляць на стол пачастунак. Чорны падышоў, нагнуўся над сталом, паглядзеў.

— А пан гаспадар жыве-такі заможна. — Ужо тады Чорны як бы практыкаваўся ў дыялогах, якія меўся даць сваім героям. — То гэта ў пана сваё ці куплёнае? — І тут жа вельмі сур’ёзна папытаўся: — Ты, можа, і папраўдзе, Паўлюк, хочаш нас пачаставаць?

Пасля зноў чыталі вершы і гаварылі да позняй ночы. Мяне ніколі не цягнула душой да футурызму, а тут гаварылі пра роз-

ныя кірункі. Я слухаў і не ведаў — які ж з іх лепшы, дзе шукаць самога сябе...

Не ведаю чаму, але я прыслухоўваўся больш да Чорнага. Хоць ён гаварыў мала, але мне здавалася, што ва ўсім — як ён гаварыў, як слухаў і нават як маўчаў — было нешта патрэбнае, нейкая вельмі блізкая мне праўда.

*1962*

## РАНІШНІЯ РОСЫ

### 1

Прыехаў я ў Мінск як самы глухі правінцыял: нясмелы, непаваротлівы, сарамяжы. Усюды я сам сабе здаваўся лішнім, усюды замінаў. З людзьмі загаварыць мне было няёмка; калі са мною гаварылі — не ведаў, як адказаць. На мне быў кароткі кажушок з аблямаванаю распоркаю ззаду. Праўда, пад кажушком відзён быў ужо знак першай інтэлігентнасці — гальштук, а на галаве — лёгкая фасоністая кепачка. Пад той час я працаваў у газеце і паспеў справіць боты і галіфэ. Словам, адзеўся я ў самае лепшае, што меў, бо прыехаў на вельмі вялікае ў маім жыцці дзіва: на першы з’езд «Маладняка». Было гэта ў канцы лістапада 1925 года.

Слова «прыехаў» сказана занадта смела, бо, па сутнасці, мяне прывёз Паўлюк Шукайла. Калі я мог нешта значыць, то толькі пры ім. Як правінцыяла ён пракаціў мяне з сталічным фасонам на фаэтоне — ад вакзала да гасцініцы «Бельгія». Знаў ці не знаў ён тае гаспадыні з «Бельгіі», але адрэкамендаваўся так, што тая закруцілася, як уюн. Мажная, шырокая ў плячах і ў твары, па рыпучых сходках яна пратапталася на другі паверх, нешта некаму там крыкнула, і тут жа перад намі паявілася такая ж дзябёлая, уся накрухмаленая пакаёўка. Крутнуўшы клубамі, яна сказала «хадзем» і павяла цераз цёмны калідорчык налева. У куткавым пакоі з квяцістымі шпалерамі і скасабочанай падлогай яна паправіла капу на ложку, абцягнула на стале абрус, пачапала графін з вадою і моўчкі выйшла. У пакоі пахла састаялаю духатою, сухою раструшчанаю вапнаю і клапамі. Шукайла заняў ложак з высока настаўбурчанаю падушкаю, мне паказаў на цыратовую канапу і, прыхарашыўшыся перад люстэркам, знік, сказаўшы, што пойдзе шукаць свайго земляка Валынца.

Я пабыў адзін, паляжаў на той канапе і таксама пайшоў. Горад мне здаўся вялізным, людным. На тратуарах было цес-

на, я баяўся, каб знячэўку каго не зачапіць, і стараўся ісці асцярожна. Вуліцы — адна, другая, упоперак, наўскасяк, але я трымаўся толькі галоўнай, каб не заблудзіць. Вітрыны крамаў былі застаўлены бог ведае якім багаццем тавараў: футры, гузікі, чамаданы, гальштукі, шапкі. Шыльды з цьмянымі залачонымі надпісамі, часамі яшчэ з цвёрдымі знакамі і яцямі, старанна абвяшчалі, што за аднымі дзвярыма знаходзіцца майстэрня гадзіннікаў, за другімі — бакалея, за трэцімі — зубны лекар, за чацвёртымі... Ад адных надпісаў магла закружыцца галава. І людзі то беглі міма гэтых дзвярэй, то заклапочана ныцалі ў іх. Па бруку, лёгка пацярушаным снегам, раз’язджалі рамізнікі з настаўленымі будамі; пасля іх яшчэ доўга чуцён быў стукат конскіх падкаваных ног. Зрэдку праходзіла конка; з гары коні гоцкалі трухам, а пад гару напіналіся як маглі, і фурман, падпяразаны і строгі, пакручваў пад імі пугаю і торгаў за лейцы. Нарэшце ўсе гэтыя дзівы зніклі, калі я ўбачыў краму з надпісам: «Кнігарня».

Доўга я не мог перадыхнуць, гледзячы на паліцы, да столі напакаваныя кнігамі. Гэта мне было даражэй за ўсё...

2

Зала ў будынку Інбелкульта[1] запомнілася толькі тым, што ў ёй было многа народу. Чаго збіраўся з’езд, што на ім гаварылася, гэта прайшло міма ўвагі. Запомніліся людзі. І запомніліся найбольш тым, што былі ўсе вельмі розныя і ў той жа час вельмі аднолькавыя. Аднолькавыя, што пераважна ўсе маладыя, а розныя — што апранены былі хто ў што мог. І кажухі, кароткія і доўгія, і суконныя даматканыя світкі, і шынялі або перарobленыя з шынялёў бравэркі. На галовах — клінаватыя кепкі з гузікамі наверсе, аблавушкі, стаўбуны, будзёнаўскія шлемы з слядамі спораных зорак або яшчэ і з зоркамі. Не пазнаць, хто сабраўся: селавыя настаўнікі ці студэнты, пастухі ці аратыя. Трохі было і чыста гарадскіх, гэтыя адразу відны і па адзежы, і па асвойтанасці. Яны і трымаюцца купкамі, і гаворка ў іх бойкая, смелая. А тыя, даматканыя, туляцца дзе ў кутку, гавораць асцярожным пошапкам або моўчкі пакурваюць.

Людская стракатасць найбольш відна ў перапынках, калі ўсюды стаіць гамана. Я стараюся, каб не прапусціць міма ўвагі тых, каго ведаю па літаратурнай папулярнасці. Вунь Міхась Чарот[2]. Я абгледзеў яго яшчэ ў прэзідыуме, калі ён сядзеў паміж смаляна-чорным, порсткім і акулярыстым Гэсенам, прадстаўні-

ком ЦК, і Уладзімірам Сасюрам[3]. У яго кучаравая галава, скупая ўсмешка і нясмелы жэст. Ён вельмі прыгожы, як дзяўчына. І гэтая прыгажосць нейкая простая, даступная і добрая. На гэтым сходзе ён цэнтр, гэта відаць і ў перапынках, калі яго тут жа акружае то адна, то другая група. Ад яго як бы ідуць нябачныя ніці ўсіх тутэйшых падзей.

А вось Міхась Лынькоў, высокі, спакойны, бадай што вечна з папяросаю ў руках. Ён гаворыць мала, больш слухае другіх, бо таксама нетутэйшы, з Бабруйска. За плячыма ў яго, мабыць, ужо добры стаж нейкай немалой работы, бо выглядае ён стала, спрактыкавана, дый шынель, што сядзіць на ім вельмі ж пацывільнаму, проста як знак біяграфіі, дадае гэтай сталасці.

Такі ж спакойны, але зусім іначай, з філасофскай сузіральнасцю і ціхім сялянскім роздумам, Кузьма Чорны. Ад селяніна ў яго ўжо нічога няма, ён апранены па-гарадскому, нават з кульбаю ў руках. Невысокі, павольны, ён быў бы непрыкметны, каб не гэты вельмі шырокі спакой на яго твары. На ім не прачытаеш ні смутку, ні ўзрушанасці, ні радасці, ні трывогі.

Затое адразу відзён другі чалавек, што стаіць разам з Чорным, — Адам Бабарэка[4]. Ён вельмі добры і ад гэтай дабраты свае нават крыху меланхалічны. Ён любіць слухаць, трошачкі набок схіліўшы галаву, гаворыць ціхім, кволым голасам, як бы баючыся, каб не пакрыўдзіць цябе. І ў яго ў руках кіёк, але таўсцейшы, сукаваты. Ён крытык, маладнякоўскі Бялінскі, і відаць, што яго не баяцца, а паважаюць.

А вось, моргаючы вачыма (у яго такая прывычка, ці што, — штораз моцна зажмурвацца), у скураной тужурцы дзелавіта прабягае Алесь Дудар[5]. За ім, у пярэстай кепцы, збітай на самую патыліцу, увесь нейкі румяна-празрысты і агніста-кучаравы Анатоль Вольны[6]. Яны вечна ўдваіх, гэтыя два чалавекі, я ўжо заўважыў, і вечна некуды спяшаюцца: Дудар паперадзе, а Вольны ззаду.

У фрэнчы з даматканага сукна, з нашытымі вісячымі кішэнямі з бакоў і на грудзях зрэдку паяўляецца рослы, з высоказдзіўленымі брывамі чалавек — Кандрат Крапіва. Ух, як ён не падобен на свае байкі! У байках столькі рогату, весялосці, нават здзеку, а сам ён строгі, каменна-маўклівы, скупы на слова, на жэст, на ўсмешку. Проста дзіва.

І запомніўся яшчэ адзін чалавек — ваенны. Самы ваенны з усіх ваенных. Праўда, іх было тут нямнога — ён ды Рыгор Мурашка[7]. Але Мурашка ўвесь быў паходны, франтавы, адчу-

валася, што ён тут як госць: і прасторны шынель, і будзёнаўская шапка з нашытаю зоркаю, і хада, і калючы позірк, — усё было ў ім як бы напагатове, а гэты — падкрэслена элегантны, акуратны, пачынаючы ад абмотак і канчаючы тугім рамянём і яркімі нашыўкамі на пятліцах гімнасцёркі, — быў парадны, як адшліфаваны. Але дзівіў ён іменна тым, што менш за ўсё быў падобны на ваеннага. Аблічча, жэсты, манера гаварыць, стаяць, усміхацца неяк вельмі ж па-цывільнаму не маглі стасавацца да формы, пярэчылі ёй.

Як толькі канчалася пасяджэнне, каля яго збіралася асабліва цесная група людзей. Тонкі, высокі і стройны, ён быў абавязкова відзён, але не ростам, а іменна вось гэтай сваёй асаблівай манерай трымацца: і свабодна, і разам з тым скавана. Гаворыць ён весела, ахвоча. Ён хоча памагчы сабе жэстамі, але жэсты вельмі ж стрыманыя: увесь час ён як бы нешта круглае сціскае перад сабою ў далонях. Здаецца, яму цяжка выйсці з нейкай засвоенай нормы прыстойнасці руху. І раптам, забыўшыся на гэтую норму прыстойнасці, ён раскіне рукі і зарагоча так непасрэдна, што аж прысядзе. Або, забыўшыся, возьме дый пачэкаецца на назе. З той жа нормай прыстойнасці ён слухае чужую гаворку, трохі ўгнуўшы галаву, пільна гледзячы ў вочы, але тут жа паспее павярнуцца, каб з некім павітацца, усміхнуцца яму, кіўнуць галавою.

Стрыманасць і непасрэднасць як бы вечна ваююць у ім. Ваюе і другое: то халодны, то цёплы тон шэрых воч, то строгія, рэзкія лініі поўных губ, то мяккая і даверлівая ўсмешка на іх.

Гэта быў Міхась Зарэцкі[8]. Ужо тады, з першых апавяданняў, ішла за ім слава рамантыка. Гэтая рамантыка акружала і яго біяграфію, як жа: гадаванец духоўнай семінарыі — і чырвонаармеец, сын дзяка — і камуніст, спявак тонкіх пакут кахання, душэўнага разладу — і камісар. Не дзіва, што я, правінцыяльны хлапчук, глядзеў на яго як зачараваны.

3

У 1927 годзе, калі я прыехаў у Мінск вучыцца, Міхась Зарэцкі выглядаў зусім іначай. Гэта быў ужо ў поўным сэнсе слова пісьменнік і інтэлігент. Папулярнасці і славе яго адпавядаў і вонкавы выгляд. Апранены ён быў, як тады казалі, чыста па-еўрапейску: самае моднае элегантнае паліто, блішчастыя пальчаткі і капялюш. А капялюш на той час мала хто насіў, гэта было нават вельмі смела.

Бачылі мы яго найбольш ва універсітэце і найчасцей разам з Александровічам[9] і Дударом. Яны сталі студэнтамі на год ці на два раней. Бывала, на перапынках, калі мы ўсе высыпалі на калідор, нехта першы заўважаў і абвяшчаў нямоцна: «Зарэцкі ідзе!» І праўда, у канцы калідора паяўляўся цёмна-шэры капялюш і над усімі галовамі праплываў у гардэроб.

Мы тады зачытваліся Зарэцкім. Пісаў ён многа, горача і ярка. Лёс яго герояў і гераінь быў заўсёды складаны, у рэвалюцыю яны ішлі шляхамі пакутліва-цяжкімі. Былі ў іх і спады, і пад'ёмы душы, надзеі і безнадзейнасць, каханне і роспач. Адна за адной выходзілі яго кнігі: «У віры жыцця», «Пела вясна», «Пад сонцам», «На чыгунцы». Паявіўся першы яго раман «Сцежкі-дарожкі». Тут жа ён быў перакладзены на рускую мову, з нумара ў нумар друкаваўся ў газеце «Рабочий».

І раптам да славы Зарэцкага далучылася і няслава: у друку паявіўся вядомы тады «Ліст трох»*. Зарэцкі пакінуў універсітэт.

Пасля гэтага даволі доўгі час я не бачыў Зарэцкага. Час ад часу толькі сустракаў яго прозвішча ў друку: або пісаў ён, або пісалі пра яго. Асабліва шырокая гаворка была пра яго нарысы «Падарожжа на новую зямлю».

З усіх пісьменнікаў, што, пакінуўшы «Маладняк», пайшлі ў другія літаратурныя згуртаванні, Зарэцкі ў душы, мабыць, аставаўся маладнякоўцам. Калі старэйшыя, палымянцы ці ўзвышэнцы, вельмі рэдка зазіралі ў Дом пісьменніка, то Зарэцкі бываў там найчасцей. Кузьма Чорны ды ён. Бывала, адчыняцца дзверы і, як заўсёды акуратны і падкрэслена далікатны, пакажацца ён. Проста зойдзе пабачыцца ды пасядзець з таварышамі.

---

* А. Александровіч, А. Дудар, М. Зарэцкі. Нязгода з сістэмаю выкладання.

Прыблізна на гэты час прыпадае і наша больш-менш блізкае знаёмства. Бо дагэтуль яно было больш афіцыйнае, ці, як кажуць, шапачнае.

Памятаю, аднаго разу, пры такой вось сустрэчы, неўзабаве пасля таго як выйшла яго кніга «Ракавыя жаронцы», я сказаў, што не зусім разумею назвы. Па-першае, яе цяжка адразу прачытаць правільна: можна чытаць і «ра́кавыя» і «ракавы́я». Па-другое, не вельмі ясны сэнс: якія ў рака могуць быць жаронцы? Дый эмацыянальна яна нічога не гаворыць, а ў яго назвах я перш за ўсё прывык бачыць эмацыянальную фарбу.

Зарэцкі ўсміхнуўся, кіўнуў галавою, як бы ў знак падзякі за заўвагу (мы сядзелі на канапе, павярнуўшыся адзін да аднаго), але не згадзіўся ні з адным пунктам маіх меркаванняў.

— Па-першае, — сказаў ён мне ў тон, — ніхто не прачытае «ракавќя», бо па-беларуску пакуль што такога слова няма. Па-другое...

І ён расказаў доўгую гісторыю, дзе ўпаміналася дзяцінства, яго бабка ці маці, іхняе сяло, народныя павер’і, прымхі і чары, звязаныя з нейкай таямнічай костачкай у галаве ў рака, якая называецца жаронцамі. Калі знайсці тую костачку, то яна, як тая папараць-кветка, можа адкрываць людзям таямніцы шчасця...

— Так што, як бачыш, усё на месцы, толькі трэба сёе-тое ведаць з народнага побыту. Можа, я напісаў зусім не тое, што чуў, або не так, як чуў, але мне запала ў памяць вось гэтая вера народа ў сімвал, і захацелася абавязкова нешта напісаць і назваць яго такой назвай. Ну, а ў мяне часта бывае так, што якая-небудзь ідэя-фікс муляе ўвесь час, пакуль ад яе не адчэпішся.

Дарэчы, тое, што мы гаварылі адзін аднаму «ты», тлумачыцца не нашай асаблівай блізкасцю, а, мабыць, завядзёнкаю. На «вы» мы звярталіся вельмі мала да каго: да Купалы, Коласа, Бядулі і Гартнага. І па бацьку нікога не называлі. Калі старэйшы або далёкі ці вельмі паважаны, то да імя дадавалі «дзядзька»: дзядзька Янка, дзядзька Колас. Прычым цікава, што ў Купалы і ў Гартнага «дзядзька» прыстаўляўся да імя, а ў Коласа і ў Бядулі да прозвішча. А да астатніх звярталіся проста: Міхась, Рыгор, Платон. Толькі цяпер з літаратурных крыніц я ведаю, што Зарэцкага па бацьку звалі Яўхімавічам. І калі ў мяне цяпер часам пытаюцца, як звалі па бацьку Каваля, Мурашку, Хадыку ці каго другога з маіх сучаснікаў, то я паціскаю плячыма — не ведаю.

Тады ж я сазнаўся Зарэцкаму, што з’яўляюся, як кажуць, яго паклоннікам, што вельмі люблю яго чытаць. І адну рэч нават напісаў пад яго ўплывам. І сапраўды магу сказаць, што яго кнігі я насіў у кішэні. Мала таго што яны пахлі друкарскаю фарбаю і

дражнілі нейкаю трывожнаю і прыгожаю зайздрасцю, дык яны пякліся жарам аўтарскага неспакою. Мне здавалася, што «Паэму пра чорныя вочы» можна спяваць, над «Кветкаю пажоўклаю» — плакаць. Пратэст, абурэнне, прагу змагання падымалі «Голы звер» і «Двое Жвіроўскіх». Рэвалюцыйным запалам дыхала ад кожнай тэлеграмы, загаду, запіскі, газетнага паведамлення з «42 дакументаў». Усё гэта адпавядала маёй натуры, майму настрою няўрымслівага бунту і пошукаў, якімі я паспеў напакавацца з літаратуры, пачынаючы ад байранаўскай расчараванасці і канчаючы агністым пафасам рэвалюцыі ў кнігах Фурманава, Іванава, Фадзеева і Лібядзінскага. Зарэцкі мне быў блізкі, мабыць, тым, што ў ім лёгка спалучаліся і тыя і тыя настроі. Вось я і не вытрываў, каб не сказаць пра сваю слабасць да яго.

Мы сядзелі блізка каля дзвярэй, часта тут праходзілі людзі, і Зарэцкі апасліва азірнуўся. Я зразумеў: ён не хацеў, каб такую занадта захлёбістую гаворку пачуў хто другі.

— Ну, ты пра гэта перастань, — сказаў ён цішэйшым голасам, нават з дакорам. — Калі вучыцца, то трэба ў сапраўдных пісьменнікаў. Ну, хоць бы ў Тургенева, калі хочаш...

4

Не памятаю дакладна, ці то быў ужо заснаваны Саюз, ці існавала яшчэ БелАПП, але за намесніка старшыні рабіў Андрэй Александровіч. І от неяк сустрэўшы мяне ў Доме пісьменніка, ён папытаўся, ці не хачу я зрабіць экскурсіі на Маскоўскі электразавод. Я з ахвотаю згадзіўся.

— А хто яшчэ паедзе? — папытаўся я.

— Міхась Зарэцкі.

Не ведаю, па чыёй ініцыятыве была наладжана гэтая паездка. Можа, яе хацеў сам Зарэцкі, а можа, яна была надумана кіраўнікамі Саюза, каб памагчы яму душэўна супакоіцца. Рэч у тым, што ў апошнія часы яго вельмі сур’ёзна крытыкавалі. І за няўдачы ў ранейшых творах (бакавы паказ рэвалюцыі, няяснасць ідэйна-мастацкіх рашэнняў, як у «Кветцы пажоўклай»), і за «Вязьмо», і асабліва за раман «Крывічы».

Электразавод нас здзівіў многім. Па ўсіх цэхах, як па вуліцы, бегалі электракары, усюды была чысцюткая чысціня, нейкі святочны парадак, і галоўнае, што за людзей рабілі аўтаматы. Асабліва ў першым цэху. За кожным агрэгатам наглядала адна жанчына. Яе задачай было залажыць у першы аўтамат порцыю шкляных трубак, а потым станкі самі забіралі тую трубку,

перадавалі адзін аднаму далей, паварочвалі яе, распальвалі на агні, рэзалі, сціскалі, надзімалі, а на самым канцы цэха ў скрынку падалі ўжо гатовыя электралямпачкі з усімі іх прыпаямі, цокалямі, вальфрамавымі нітачкамі ўсярэдзіне, навешанымі зігзагамі ці дужкамі на рагулькі. Было так ціха, што мы нават баяліся моцна гаварыць.

Аглядалі завод мы дзён тры. Апроч лямпачак на ім выраблялася яшчэ бог ведае колькі ўсякага начыння. І кожны раз я бачыў, што Зарэцкага цягне іменна ў гэты першы цэх. Там пры акне гаспадарыла жанчына з крайняга агрэгата. Белы халат рабіў яе падобнай да медыцынскай сястры. Час ад часу яна праходзіла каля станкоў, правяраючы рытм працэсу, а ў вольную хвіліну садзілася за столік і чытала кнігу. Аднак дзівіла ў гэтай жанчыне не падабенства да медыцынскай сястры, а больш падабенства да Лізы Каліцінай з «Дваранскага гнязда» Івана Тургенева. Нешта ў ёй было стомленае, зняверанае і разам з тым вельмі прывабнае. У чым яно было — нават цяжка сказаць: можа, у задуменнай адчужанасці, можа, у пакорлівых складках губ, а можа, у нейкай даверлівай тузе воч. І от Зарэцкі ўсе дні лічыў за свой абавязак падысці і пабыць з ёю якую часінку.

Ад’язджалі мы з самым лепшым настроем. У нас было многа ўражанняў і ад завода, і ад Масквы, бо мы паспелі агледзець і музеі.

На цягнік мы селі ўвечары і, успомніўшы, што яшчэ не абедалі, адразу пайшлі ў вагон-рэстаран. Народу тут было не многа, мы выбралі сабе столік у кутку. Зарэцкі прагледзеў меню і, сцепануўшыся і пацёршы адна аб адну рукі, як ад вялікага холаду, заказаў пляшку «Карданахі». І ці то яшчэ жыў у нас той добры настрой, ці мы згаладаліся па гаворцы, ці, можа, таму, што ўпершыню нам давялося так блізка пабыць адзін з адным, але праседзелі мы ўсю ноч. Перагаварылі бог ведае колькі.

— Ты думаеш, я вельмі давольны тым, што зрабіў? — пытаўся Зарэцкі. — Не, ганарыцца няма чым. Яшчэ далёка да таго, каб можна было сказаць самому сабе, што ты пісьменнік. А нам дык асабліва цяжка, бо мы не маем ні школ, ні традыцый. А значыць, не маем і прафесійнай культуры. І якое дзіва, што пішам яшчэ не зусім зграбна, што і памыляемся часам. Шкода толькі, што крытыка лічыць, што яна не памыляецца. А яна ж таксама яшчэ ў пялёнках.

Мы згадалі Янку Купалу і Якуба Коласа. Пра тое, што традыцыі ў нашай літаратуры якраз закладваюць яны. Што гэта наш гонар і слава. Што яны сапраўды народныя і пачатак нашай

сучаснай літаратуры будзе лічыцца ад іх. Дзівіліся з Змітрака Бядулі, што ён, будучы яўрэем, так любіць патрыярхальную Беларусь і так ведае прыроду сялянскай душы. Успомнілі Платона Галавача — што шчыры мастак і найсумленнейшы чалавек. Кузьму Чорнага — што ён надзвычай самабытны, сапраўды нацыянальны і што яму суджана стаць нашым Дастаеўскім ці Бальзакам. Але Зарэцкі неўзаметку вярнуўся да старой тэмы.

— Мяне многа крытыкавалі, і часта гэта было правільна, нічога не скажаш. Мая бяда ў тым, што я паказваю інтэлігентаў, якім прыйшлося самім разбірацца ў рэвалюцыі і або ад яе гінуць, або прыйсці да прызнання яе. Гэта давалася нялёгка, адсюль і трагізм, і надломы душы. Але ж я мастак і не маю права выбіраць, што выгадна ці нявыгадна, не ўважаючы на гістарычную праўду. Нарэшце, трагічнае заўсёды давала найлепшыя і самыя велічныя ўзоры мастацтва, калі можна так сказаць, адлюстроўвала самыя высокія намаганні чалавечага духу. Можна прыгадаць хоць бы Шэкспіра, Пушкіна, Талстога. А рэвалюцыйны час наогул нельга ўявіць без калізій.

Мякка стукалі колы, за акном была цёмная ноч. Часамі вельмі блізка за шыбаю ў святле нашага акна паяўляўся клубок шызага дыму, ён то сіліўся прыліпнуць да вагона, то раптам адкочваўся, падхоплены ветрам. Людзей стала многа, вагон напоўніўся гаманою, звонам кілішкаў, папяросным дымам. Наша пітво аказалася вельмі слабое, афіцыянтка спагадліва прынесла каньяку.

— Ты бачыў тую жанчыну на заводзе? — раптам папытаўся Зарэцкі. — Ну, што адразу, калі ўвойдзеш, стаяла пры акне, трохі пажылая ўжо. Бачыў твар яе? Які цудоўны твар! На ім напісана ўсё: і яе духоўная прыгажосць, і пакуты. Аказваецца, яна таксама была ў арміі, нават трохі ведае мяне. Ну, а цяпер у яе двое дзяцей, трагедыя ў сям'і, яна адна. Я вельмі шкадую такіх жанчын.

Мне здалося, што Зарэцкі жыве нейкім новым замыслам. І што нездарма гаворыць пра тую жанчыну: няйначай як ад яе вобраза нешта ўвойдзе ў яго новую кнігу.

— Вось бачыш, — гаварыў Зарэцкі, — зноў трагедыя. Я хацеў бы напісаць кнігу, ад якой у людзей было б светла і хораша на душы. Так, як у мяне было хораша ўсе гэтыя дні. Усё здавалася так гарманічна там, так разумна. Я абрадаваўся гэтай жанчыне. Першае ж вока бярэ ўсё непасрэдна. Аж, аказваецца, няма чыстага хараства, чыстай радасці, чыстай чысціні, каб яны існавалі самі па сабе. Ёсць жыццё, а яно тым і харошае, тым і дарагое, што ў ім можна і радавацца, і плакаць, і траціць над-

зею, і вечна шукаць усё большага шчасця. Гэта закон. Калі яго пачнеш абыходзіць, астанецца адна пазалота, а каму гэта трэба? Вялікія ідэі ў творы можа несці на сабе толькі чалавек з усімі яго супярэчнасцямі, слабасцямі і сілаю духу. Уся рэч толькі ў тым, каб відно было, дзеля чаго гэта, дзеля якіх ідэалаў.

Час бег неўзаметку. Наш столік даўно быў пусты. Афіцыянтка падыходзіла і раз, і другі, мабыць, хочучы напомніць, што мы толькі займаем месца. Цягнік недзе спыняўся, стаяў на нейкіх станцыях, дзе больш, дзе менш, паціху кранаўся з месца і зноў ішоў далей, усё стараючыся ззаду пакінуць ноч. Паступова меншала людзей, сціхала гамана, толькі ў дальшым ад нас кутку нейкія трое усё пацяшаліся моднай на тыя часы песенькай:

Румба — большие ноги,
Румба — большой живот, —

і пасля кожнага куплета з завываннем, на розныя галасы выцягвалі доўгае, канвульсіўна нудотнае «а-а-а — ля-ля-ля-а-а».

Мне ўвесь час карцела, што за ўсю дарогу мы ні разу не загаварылі пра тое, што, мне здавалася, больш за ўсё павінна было трывожыць Зарэцкага. Нарэшце я такі папытаўся:

— А чаму ўсё ж не ўдаліся табе «Крывічы»? Што ты думаеш з імі рабіць?

Зарэцкі пералажыў відэльцы з месца на месца, пальцамі сагнаў крошкі на настольніку ў адну кучку, прыціснуў іх і пачаў качаць, як гарошыну.

— Тут, бачыш, ёсць многа і мае віны, што, не закончыўшы, не адпрацаваўшы як след і не параіўшыся з таварышамі, аддаў друкаваць. Але не менш вінавата і тэорыя «аўтагеннасці», калі крытыка загадзя, па інерцыі ўжо не верыць мне. А там жа ўвесь эфект якраз у канцы.

Тэорыя «аўтагеннасці», што бытавала тады, сцвярджала, па сутнасці, фатальнасць. Па гэтай тэорыі выходзіла, што ўся дзейнасць чалавека абумоўлена класавай і сацыяльнай прыродай. Выхадзец, напрыклад, з дваранства не мог мець прагрэсіўных поглядаў, тым больш не мог быць рэвалюцыянерам; ён мог быць толькі класавым ворагам. Гэтак жа і пісьменнік: правільна ён мог стварыць толькі аўтагенны вобраз, гэта значыць, вельмі вузкі вобраз свайго сацыяльнага асяроддзя. Па гэтай тэорыі рабіліся і літаратурныя героі: радаслоўная клалася ў аснову іх светапогляду і дзейнасці.

— «Крывічоў» мне прыйдзецца перарабіць, — сказаў Зарэцкі. — Бо хочацца, каб гэта было лепшае з усяго, што я

напісаў да гэтага часу. Ёсць там і памылкі, і недагляды. Але ўсё гэта можна паправіць. Паглыбіць той самы тэзіс — у імя чаго. Якраз менш за ўсё я крыўдую на крытыку за гэты раман. Тут была прынцыповая гаворка.

За акном шарэў ранак. Перш зблізку, а тады ўсё далей і далей адкрываліся лугі, сенажаці, даўно паскошаныя, з аголенымі, прысмірэлымі кусцікамі на іх. Па нізінах хадзіў туман, сцелючы за сабою сінія халодныя росы.

Набліжаўся Мінск. Мы пайшлі ў купэ па рэчы.

*1963*

## ДЗЯДЗЬКА ЦІШКА

Даволі доўгі час мне думалася, што Цішка Гартны і Змітрок Жылуновіч[1] — два чалавекі. І нават калі ўжо ведаў, што гэта няпраўда, усё роўна кожнае прозвішча выклікала свой вобраз. Цішка Гартны — паэт, пышнавалосы, тонкі, высокі і стройны, з кволым пявучым голасам; Змітрок Жылуновіч — грузны, мажны мужчына, малагаваркі, з цяжкім паглядам воч, строгі і нават суровы, прывучаны, каб яго слухаліся. За кожным прозвішчам замацоўвалася пэўная вобразная мадэль. З Цішкам Гартным звязваліся «Урачыстасць», «Песні працы і змагання»; з Змітром Жылуновічам — чарада ўсякіх тытулаў: публіцыст, дзяржаўны і грамадскі дзеяч, арганізатар і кіраўнік самага слыннага літаратурнага аб'яднання «Полымя», якое выдае і свой часопіс, дырэктар кнігавыдавецкіх спраў такога размаху, што друкуе беларускія кнігі аж у Лейпцыгу. Удзельнік рэвалюцыі і першы старшыня нашага ўрада. Такі чалавек папраўдзе павінен выглядаць як асілак.

Па невялікім часе пасля майго прыезду ў Мінск, на вуліцы, Паўлюк Шукайла паказаў на купку людзей:

— Вунь Цішка Гартны.

Купка людзей стаяла каля будынка з шыльдаю ўстановы, я не паспеў прачытаць якой. Сярод іх я пазнаў высокага, у шэрым паліце і ў шэрай нізкай кепцы Міхася Зарэцкага і нахмуранага, у скураной рыжай тужурцы Алеся Дудара. Трэці чалавек кідаўся ў вочы тым, што быў невялікі і апранены неяк так, што ўсё на ім не мірылася між сабою. Паліто, чорнае, навюсенькае, занадта шчыгульна аблягала фігуру, танчыла і меншыла яе, а хацелася наадварот, каб яно было прастарнейшае, тады больш самавіта выглядаў бы і сам чалавек; круглыя, вялікія, у чорных тонкіх кружках акуляры займалі многа месца на твары, драбнілі яго

і надавалі яму непатрэбнай круглявасці; цвёрды, з жалабаватым брылём капялюш і гальштук-матылёк, не вельмі затулены каўняром паліта, выглядалі занадта нетутэйшымі, зрысаванымі з дзікенсаўскіх персанажаў. У паставе ж і манеры трымацца, стрымана і незалежна, было нешта і зусім простае і такое, што надта блізка да сябе не падпускала. А найбольшая недапасаванасць была да майго першага ўражання: як гэта, каб Цішка Гартны ды быў такі невялікі!

* * *

Недзе на пачатку 1929 года панёс я ў выдавецтва сваю першую кніжку. Назваў яе па аповесці — «Затока ў бурах»: назвы з бурамі былі вельмі модныя на тыя часы. Выдавецтва мясцілася на рагу Савецкай і Камсамольскай вуліц у даволі ладным будынку. Будаваўся ён, відаць, раскошна, з вялікімі заламі, з высокімі вокнамі, але пасля, калі рабілі выдавецтва, залы гэтыя дошкамі паразбівалі на пакоі, выгарадзіўшы пасярэдзіне вузкі, цёмны, пакручасты калідор, дзённае святло ў які даходзіла з кабінетаў праз закураныя шыбіны, паўстаўляныя над кожнымі дзвярыма. Я пахадзіў па гэтых калідорах з сэрцам, як бы падвешаным на валасінцы: з кожным стукам яно гатова было абарвацца. За перагародкамі ішло не вядомае мне жыццё, там людзі займаліся бог ведае якімі вялікімі і важнымі справамі, а я прыйшоў з такім несусветным глупствам: з скруткам сваіх, нікому не вядомых, на шурпатай шэрай паперы ад рукі перапісаных апавяданняў. Па калідоры прайшоў невысокі, даволі пажылы чалавек, з рэдзенькай рыжай бародкай. Я не пасмеў у яго папытацца, куды мне зайсці. Выйшла з адных дзвярэй і скоранька пратупала ў другія маладая жанчына, весела намармытваючы нейкую песеньку. У чорных лакавых туфлях, прыкрытых зверху светла-жоўтымі гетрамі, прайшоў нехта тонкі, вузкалобы, яшчэ малады, але, мабыць, ужо знакаміты, пакінуўшы пасля сябе густую хвалю парфумнага паху. Я нікога не ведаў, і гэта мяне супакойвала: прынамсі, ніхто не здагадаецца, чаго я тут тарчу. Але вось, шырока ступаючы, паволі праходзіць высокая фігура ў шэрым крапчастым гарнітуры, з гладкай блішчастай прычоскай, з даволі вядомым імем. Ён рослы, з выцягнутаю спінаю, доўгім тварам і ладным носам; на ім ляжыць пячаць нейкага нетутэйшага дасціпнага шляхецтва. За ім ходзіць слава, што ён вучоны, дзеяч заходнебеларускага руху, але мне заўсёды здавалася, што прыехаў ён вельмі здалёк і як бы толькі ў наведзіны. Раптам

я востра ўсведамляю нейкую небяспеку сабе ад таго, што тут ходзіць гэты чалавек.

Каб мне папасці да Цішкі Гартнага, я нават і не мысліў, але цяпер, прачытаўшы на адных дзвярах шыльдачку «Дырэктар», тут жа пастукаўся.

Гартны сядзеў за вялікім сталом, адзін на ўвесь прасторны пакой. За яго спінаю было акно ў двор, святло біла ў вочы, яно шкодзіла мне бачыць Гартнага. Я стаў трошкі ўбаку, бліжэй да сцяны, не даходзячы да стала. Гартны быў заняты чытаннем паперак, якіх было поўна, то ў папках адна на адной, то разложаных лісткамі. Пасля майго павітання ён падняў свае круглыя акуляры і доўга глядзеў, як бы стараючыся прыпомніць, хто я такі.

— То ты ж так да мяне не зайшоў, нешта маеш? — папытаўся ён нарэшце замест павітання.

— Зборнік прынёс. Апавяданняў. — Я падышоў бліжэй да стала і пачаў круціць у руках свой скрутак.

— Гм, апавяданняў... Нешта я твайго нічога не чытаў. Як прозвішча, кажаш? Хаця, чытаў, мусіць, гэта ж ты быў у літкамунаўцах?

— Я.

— То-та ж, ваякі... Ды нешта невялікі дождж пакапаў з вашага грому... То давай сюды, чаго ты камечыш у руках гэтыя свае апавяданні. Зойдзеш дзён цераз тры.

Тры дні былі мне найгоршаю пакутаю. Рэч у тым, што калі выйшаў першы нумар літкамунаўскага часопіса «Росквіт», дык пра яго ні адна газета, ні адзін часопіс не адгукнуліся ні словам. Мы палічылі гэта за змову і ў другім нумары надрукавалі карыкатуру Уладзіміра Бохана «Вежа маўчання». З гэтай вежы, на ўсёй яе вышыні, то з акна, то проста са сцяны, у маўклівай і змоўніцкай позе выступала чыя-небудзь фігура ці аблічча: тыя, хто быў вінаваты ў маўчанні. Была там і фігура Цішкі Гартнага як рэдактара «Полымя». Ведама, як і ва ўсякім шаржы, там было трохі перакрыўленасці і насмешкі. І цяпер я быў упэўнены, што Гартны нездарма папытаўся, ці не быў я ў літкамунаўцах. Мне прыгадаліся раптам усякія чуткі, што ён чалавек ганарысты і памятлівы на зло. Раней я такім чуткам не верыў, а цяпер усё гэта магло павярнуцца на праўду.

Праз тры дні я пастукаўся ў тыя самыя дзверы, зайшоў у той самы кабінет. Гартны доўга не адрываўся ад рукапісу, мне стала непамысна: няўжо мой? Але не, папера добрая і пісана больш буйным почыркам.

— Ну што, герой, прыйшоў? — нарэшце, дачытаўшы старонку, папытаўся Цішка Гартны сваім насавым голасам. — Ты вучышся дзе, ці як? — раптам папытаўся зусім пра другое, кругла гледзячы на мяне. — І, мабыць, бедна жывеш? То зайдзі ў бухгалтэрыю, няхай скажуць, калі табе могуць даць грошай, бо рукапіс твой я ўжо аддаў, каб пускалі ў друк.

Ішоў я з выдавецтва і не мог разабрацца, у чым была мая радасць. Ці ў тым, што ўхвалены рукапіс, ці ў другім — што не спраўдзіліся пра дзядзьку Цішку тыя нядобрыя чуткі.

* * *

Яшчэ запомнілася некалькі імгненняў і думак, звязаных з Цішкам Гартным. Памятаю, гэта пасля таго ўжо, як ён прайшоў чыстку, як пачалі пісаць і гаварыць пра яго нядобра.

Пісалі і гаварылі не толькі пра яго, але на ўсім шырокім фоне тых падзей відзён быў больш за ўсё ён. І, памятаю, у маім уяўленні ніяк не стасавалася, каб гэтак лёгка і непашаноўна можна было гаварыць пра Цішку Гартнага. Каб у яго былі нейкія там нелюдскоты. Маглі быць толькі заслугі! Але вось аказваецца, што і ў сваіх творах, і ў літаратурна-крытычных артыкулах, якія ён пісаў пад прозвішчам Сымона Друка, і ў высокай дзяржаўнай дзейнасці нароблена нямала памылак. Усё гэта было да таго нечакана і нова, што не хацелася верыць. Думалася, што няйначай як з Цішкам Гартным чыніцца нейкая несправядлівасць. Можа, хто нават злы на яго і цяпер, карыстаючыся выпадкам, помсціцца, выдумляе ўсякую несусвецiцу. Нездарма ж і тон абгаварэння такі — куслівы, ахвочы, замест шкадобы і паважання.

Гэтакай хадой думак мне хацелася абараніць Цішку Гартнага, не даць раскідацца вобразу, мне дарагому, звязанаму з уяўленнем рэвалюцыі, бацькаўшчыны, нейкай высокай чалавечай людскасці. І таму кожны раз, убачыўшы, я глядзеў цяпер на Цішку Гартнага іначай. Няхай сабе ён кімсьці і абгавораны, але сумленны. Няхай і незразуметы — але герой. Гэтыя новыя якасці я бачыў ва ўсім: у тым жа адзенні, цяпер, як здавалася, якраз на яго скроеным і падабраным, у няскорай хадзе, у маўклівай нахмуранасці. Здавалася, я нават бачыў плынь яго думак. І, на маё дзіва, думак гэтых я трохі баяўся. Яны мне здаваліся занадта строгімі. Нават не строгімі, а гордымі. Яны як бы не любілі, каб да іх хто блізка датыкаўся. Здалёк — калі ласка, нават з ахвотаю яны давалі сабою палюбавацца здалёк, а зблізу — барані божа. Можа, гэтае ўяўленне асталося ад той першай сустрэчы, калі

на вуліцы ён стаяў разам з Зарэцкім і Дударом, і тады пра яго я так падумаў. А можа... ну што рабіць, каб гэтак не думалася?

Уяўленне вяло і далей. Я ніколі не бачыў, каб Цішка Гартны жартаваў, смяяўся, каб у яго быў нейкі другі, не той, што заўсёды, маўклівы настрой. Ніколі не бачыў, каб ён радаваўся ці смуткаваў, быў нечым здзіўлены ці ўражаны. Я казаў сабе, што я прыдзіраюся, што выдумляю нейкую непатрэбшчыну, бо зусім чалавека не ведаю. Не ведаю, як ён жыве дома і як на людзях, сярод тых, хто яму блізкі ці жаданы.

«Ты нядобры чалавек, — гаварыў я сам сабе, — ты кажаш, што любіш Цішку Гартнага, як бога, і сам жа гэтага бога скідаеш з яго вышыні. Нашто табе займацца гэтым? А, от бачыш: табе трэба ведаць прыроду багоў. А тады пойдзеш і далей: пачнеш разбірацца, што ім трэба — тое, што ты пра іх, ці тое, што яны думаюць пра сябе. І што яны больш любяць: цень, каторы кладзецца ад іх на зямлю, ці сонца, якое дае гэты цень. Ну от бач, якая гэтая хітрая філасофія, пакінь яе. Не разбурай п’едэсталаў, усё роўна на іх нехта павінен стаяць...»

І аднаго разу я ўбачыў Цішку Гартнага ў зусім простай яго хвіліне. З Сымонам Баранавых[2] мы зайшлі ў Дом пісьменніка, маючы нейкі кніжны інтэрас. Бібліятэка была зачынена, мы селі за столік і расставілі шахматы. Неўзабаве ў пярэдняй пачуўся вясёлы голас Зарэцкага. Адчыніліся дзверы, і ён сам паказаўся ўсёй сваёй высокай фігурай, прапускаючы перад сабою Цішку Гартнага. Зарэцкі, разахвочана жэстыкулюючы, вёў нейкую, яшчэ па вуліцы пачатую, гаворку. Занятыя ёю, яны адышліся ўбок, да акна, нават не зірнуўшы на нас. І тут я з радасцю ўбачыў, што Гартны такі ж просты і непасрэдны, як і ўсе мы. Як і ўсе мы, грэшныя, забыўся павітацца. І з Зарэцкім гаворыць проста, як мы з Баранавых, не саромеючыся і запальчывасці, і ўсмешкі. Што сталася? — пытаўся я ў самога сябе. — Ці я чалавека папраўдзе не ведаў і не бачыў, як жыве ён сам-насам, ці... няўжо прастата ажывае толькі пасля таго, як небяспека затуліць славу?

Мабыць, яны зайшлі сюды, каб некага прычакаць, але не дачакаліся, сабраліся ісці і толькі цяпер кінулі ўвагу і павіталіся з намі. Няйначай як адчуўшы няёмкасць за такую познюю ўвагу, яны падышлі да нашага століка.

Зарэцкі заўсёды ўмеў міла пажартаваць.

— Давайце пагледзімо, дзядзька Цішка, як галагуцкія пеўні схапіліся.

Гартны паглядзеў на дошку з даволі рэдкім ужо войскам на ёй.

— А гэты большы, мабыць, абгульвае меншага, — сказаў ён Зарэцкаму, кіўнуўшы на Баранавых, стараючыся далей павесці жарт.

Хаваючыся за хітраватую сваю прастату, Сымон Баранавых не пагадзіўся:

— Ай, дзе вы бачылі, дзядзька Цішка.

Пайшлі яны, і мне здалося, што я зрабіў вялікае адкрыццё. Што чалавек — заўсёды бог. Але тады, калі ён падобен толькі на самога сябе.

*1968*

## НЕКАЛЬКІ ХВІЛІН ЧУЖОГА ЖЫЦЦЯ

Ужо каторы месяц, як у шуфлядзе майго стала ляжала гатовае апавяданне, але я не асмельваўся, каб надрукаваць ці каму-небудзь паказаць яго. Я нават баяўся яго.

То мне здавалася, што гэта самае лепшае з усяго, што мною напісана: яно самае строгае, самае стройнае і душэўнае; кожнае слова ў ім не толькі стаіць на месцы, а стаіць важка, значна, нясе на сабе найбольшую нагрузку; тут поўна чалавечых хваляванняў, самых трапяткіх адзнак нашага часу. Калі я яго перачытваў, то ўсё перажываў зноў з абвостранай сілай і быў проста шчаслівы, што мог нешта людскае зрабіць.

То раптам усё гэта мянялася. Варта было хоць трошачкі паддацца сумняванням, хоць у нечым адным не пачуць упэўненасці, як усё адразу выглядала іначай. Ужо здавалася, што ўсё гэта напісана няздарна, наіўна і бездапаможна, што тут няма ні думак, ні пачуццяў, што я не падняў і не вырашыў ніякага пытання і нічым тут не крану чалавечае душы. Зноў я перачытваў гэтае апавяданне і з гаркотаю крыўды і болю на сэрцы клаў яго назад у шуфляду. Няхай паляжыць. Можа, пасля, як усё передумаю, дык напішу яго нанава.

Я заўсёды не меў веры ў тое, што пісалася мною. Гэтак было і гэтак, мабыць, будзе скрозь. Ніколі не будзеш справядлівым суддзём самому сабе. А можа, усё-такі каму-небудзь паказаць яго? І такая думка падбіла на смеласць пашукаць другога — строгага і больш справядлівага суддзю. Аднаго разу ранкам, памятаю, у святочны дзень, я і пайшоў да яго. Не вельмі гэта вясёлая рэч — панесці напаказ чалавеку тое, чаму ты сам не рад.

Ён жыў за рэчкаю, уніз ад Траецкае гары, недзе поблізу цяперашняе вуліцы Янкі Купалы. Дзень быў хмурны, пад восень. Я пайшоў цераз сад Прафінтэрна, даўшы вялікага круку, каб

даўжэйшая была дарога. Сям-там пажаўцела ўжо лісце. Людзей тут мала, не так, як пад вечар, па такой цішыні можна прайсціся паволі, падумаць. Зараз будзе паваротка налева, а тады помнік Першага з’езда РСДРП, а тады яшчэ налева. Нарэшце вось і яна, ціхая, малаязджалая вуліца, што канцом упіраецца ў рэчку. Нізкі драўляны дом, ганак, цёмны калідорчык і — направа яго пакой, як цяпер кажуць, кабінет, хоць тады так і не гаварылі.

— А братачка, от добра, што ты зайшоў, — сустрэў мяне гаспадар без здзіўлення, так, як бы даўно чакаў. — Ну, то распранайся. Якраз мне і пагаварыць не было з кім.

Гэта было бадай што самае характэрнае ў яго — знайсці такое слова, каб ты адразу пачуў сябе проста.

Пакой быў невялікі, поўны мяккага змроку, здаецца, ад таполевага ценю на вуліцы, і ціхі, як бы знарок зроблены так, каб у ім хацелася думаць. Як вядома, характар чалавека кладзецца і на яго рэчы: мала іх ці многа, якавы яны, як пастаўлены. Пісьмовы стол, палічка з кнігамі, канапа і пара крэслаў. Таксама толькі тое, што памагае сабраць і прагледзець думкі. На стале, з краю, адна на адну пакладзеныя кнігі, а пасярэдзіне разгорнуты том Бальзака: мабыць, толькі што я адарваў ад чытання.

— Сядай, — сказаў гаспадар, паказаўшы на канапу. Невысокі, трошачку кучаравы, у пантоплях і ў чорнай рабочай кашулі, ён быў увесь нейкі хатні, даступны. — Мабыць, маеш нешта добрае сказаць?

Ведама, я прызнаўся, чаго прыйшоў.

— Ну то давай пачытаем.

Ён любіў, каб чыталі самі аўтары. Мне здаецца, што гэта была яшчэ адна яго характэрнасць: слухаць, як з чужога голасу гучыць слова, гэтая найпершая акраса любога твора. Прыткнуўшыся плячом да спінкі канапы поруч са мною, ён выбраў зручную позу і за ўвесь час, пакуль я чытаў, нават не зварухнуўся. Я чакаў, што ён мяне дзе-небудзь перапыніць, перапытае, як гэта бывае, калі, слухаючы, страціш па якую хвілінку ўвагу і захочаш аднавіць яе. Або што ўбачу, як на твары ў яго паявіцца цень душэўных зрухаў, як гэта бывае, калі цябе нечакана ўразіць нешта вельмі ўдалае ці бездапаможнае і фальшывае. Але твар быў абсалютна спакойны. Здавалася, што ён нават не слухаў, а думаў нешта сваё.

Калі я скончыў, ён падняўся, пахадзіў па пакоі.

— Скажу табе, братачка, што мы з табою вельмі розныя пісьменнікі. Таго, што ты сказаў у апавяданні, мне хапіла б на цэлы раман. Я пайшоў бы тут не ад думкі, каб яна мяне скоўвала, а ад самога чалавека. Тады я мог бы разгарнуць і пачуцці і па-

казаць душэўныя зрухі, словам, тут бы ў мяне ўсё разраслося вельмі шырока. А ты зрабіў гэта, братачка, як злодзей: сам сябе абакраў.

«Як жа нядобра я зрабіў, што прыйшоў сюды з такім нялюдскім апавяданнем, — думаў я сам сабе. — Як я мог дазволіць сабе такую смеласць?»

— Але ж можна сказаць, што гэта я гавару пра сябе, а не пра цябе, — перачакаўшы трохі, сказаў гаспадар. — Я гавару пра тое, як бы я напісаў. А тут жа не я, а ты. То павінен сказаць табе, братачка, што ты вельмі добра робіш, што так пішаш. У цябе другі план. І трэба, каб кожны пісьменнік быў падобны толькі на самога сябе.

Яшчэ трошкі перачакаўшы, сказаў ужо жартаўліва, у той манеры, якую любіў надаваць сваім персанажам:

— Так што, панечку мой, можаш смела пускаць яго ў людзі.

Ён пахадзіў па пакоі, шлёпаючы пантоплямі і хмурачы лоб, як бы нешта ўспамінаючы. Відаць, яму нешта карцела, нечага да канца ён яшчэ не сказаў. Падышоў да стала, стаў перад разгорнутаю кнігаю Бальзака і паказаў у яе пальцам.

— От, братачка, дзе сіла дык сіла!

Я ведаў, што гэта было яго новае глыбокае захапленне. Не так даўно вышэй за ўсіх ён ставіў Дастаеўскага. Пра гэта я яму і сказаў.

— Скажы, ты ляжаў калі ў бальніцы? — папытаўся гаспадар. — Дык от, калі ляжыш у бальніцы, то табе здаецца, што ўвесь свет хворы. Думаеш, што на зямлі толькі і жывуць людзі то з болькамі, то з немачамі, то з пакалечанаю душою, то яшчэ з якою трасцаю. Проста аж страшна робіцца, што кругом нікога здаровага і не асталося. То я табе скажу, чалавеча, што праз Дастаеўскага толькі от такі хворы свет і бачыш. Але ж гэта няпраўда.

Гаварыў гаспадар ціха, без жэстаў. Відаць, ён выносіў новае, вельмі важнае для сябе перакананне і, каб яшчэ больш усталявацца ў ім, хацеў перадаць яго і другому. Святасць гэтага перакanання жыла ва ўсёй паставе, калі ён раптам суняўся і павярнуўся да мяне, ва ўсім абліччы — у спакойным высокім ілбе, у падаткай упартасці воч пад крыху прыўзнятымі брывамі, у поўнай, трошачкі пухлявай ніжняй губе, у мяккай ямачцы на круглым падбародку.

— Магу сказаць, — гаварыў ён далей, — што я лічу Дастаеўскага найвялікшым пісьменнікам, але цяпер яго чытаць, братачка, трошкі пабойваюся. Лёс нашага краю быў такі цяжкі,

і так многа было калецтва і духоўных пакут у нашага народа, што, пішучы пра ўсё гэта, вельмі лёгка можна скаціцца да змілавання пакутамі. Пачаць пісаць пад Дастаеўскага. Але гэта будзе парушэннем праўды і гісторыі. Наш народ здаровы і мужны, гэта мы самі з табою бачым. То пра яго і пісаць трэба мужна.

Памаўчалі. У гэтым маўчанні было нешта вельмі харошае, нават патрэбнае. За акном прайшоў чалавек, моцна і доўга грукаючы абцасамі па дзераўляным тратуары. Гаспадар, здавалася, слухаў, калі скончыцца гэты грукат, але няйначай як слухаў яшчэ нейкую думку ў самім сабе.

— То бачыш, браце мой, я вельмі рад, што перахварэў на Дастаеўскага, каб гэта ўсё зразумець. — Падышоў да стала, узяў разгорнуты том Бальзака — гэта быў «Бацька Горыо», — перагарнуў колькі старонак, як бы збіраючыся пачытаць, але тут жа палажыў назад, прыкрыў рукою і сказаў: — От у каго трэба вучыцца, як пісаць. Вялікі пісьменнік. Тут, братачка, нічога не скажаш. Увесь падыспад выверне табе. Усё ўбачыш.

А праз колькі хвілін дадаў:

— От каб з такою сілаю напісаць пра гісторыю нашага народа. Гэта ж, можна сказаць, спрэс белая пляма ў літаратуры — наша гісторыя.

І ён пачаў гаварыць, што гэта вельмі ўдзячная і патрэбная тэма. Колькі тут нікім не кранутага, найбагацейшага матэрыялу. На працягу доўгіх вякоў наша краіна з'яўлялася скрыжаваннем чужых захопніцкіх інтарэсаў. Не раз тут праходзілі спусташальныя войны, шугалі пажары. Хто толькі меў сілу — і заваёўнікі, і свае дамарослыя князькі-магнаты, — усе гаспадарылі тут, паліваючы нашу зямлю крывёю і потам простага чалавека, рабуючы, здзекуючыся і прадаючы яго, як быдла. А народ жыў і змагаўся. Ён уваскрасаў з папялішчаў і раскіданых гнёздаў і шукаў праўды, дамагаючыся яе непакорствам, бунтамі, паўстаннямі, уцёкамі ў чужыя землі. Наша зямля поўная касцей, крыжоў, курганоў і крыўды. А народ такі выжыў. Пра гэта проста нельга не пісаць.

Я расказаў, што быў сведкам, як у Слуцку ў дзевяцьсот дваццаць трэцім годзе далакопы, капаючы на рынку яму пад тэлеграфны слуп, выкапалі пад брукам адна на адну зложаныя тры труны. Гаспадар сказаў:

— От бач, і ніхто не памятае, калі гэта было. І нідзе не напісана. То я от і кажу: калі б гэта хто знайшоўся ды напісаў вось такую мастацкую энцыклапедыю ўсяго таго, што рабілася на нашай зямлі. Тут трэба не адна якая кніга, а многа раманаў, каб умясціць усе галоўныя этапы гісторыі аж да нашых дзён.

Бальзак раскрыў толькі адну філасофію буржуазнага класа: чалавек чалавеку — воўк. А мы, братачка, ужо стаімо на парозе новае філасофіі, калі чалавек чалавеку становіцца братам. От якая тут разлегласць і ў часе, і ў людзях...

Такое гаворкі ад яго да гэтага я не чуў ніколі і быў вельмі здзіўлены. Мяне дзівіла не тое, што наогул можна асмеліцца падумаць пра такую вялізазную работу, а што планы яе носіць у сваёй галаве іменна ён і што, як мне здалося, нікога не чакаючы, усю гэту работу бярэ ўжо на свае плечы. Тут жа я ўбачыў, што ў яго і папраўдзе шмат чаго ўжо прадумана. Ён зрабіў некалькі пейзажных накідаў, відаць, свае цімкавіцкае мясцовасці, у гэтых малюнках часта ўпаміналіся крыжавыя дарогі, стары дуб, карчма. Накінуў і некалькі ліній скрыжавання чалавечага лёсу і характараў, даўшы ім свае жэсты і якую-небудзь сваю фразу, накшталт таго, што: «Каб ты ўчарнеў, дай божа, мой паночак, як ты мне запамог» альбо: «Дык, можа, пане егамосцю, на гэтым і схаўрусуемся?»

Шмат каго з іх я пасля пазнаваў у вобразах герояў, калі ён, нават не канчаючы іх, адзін за адным пускаў у свет свае раманы.

Інтанацыю, жэсты ён перадаваў так ярка, што ўсе гэтыя тыпы перада мною стаялі як жывыя. Мне здавалася, што я іх або недзе бачыў, або ведаў.

— Здорава! — не ўтрываў я. — І дзе толькі ты іх бярэш?

Сеўшы ў крэсла, гаспадар сказаў вельмі сур’ёзна, як гэта любіў рабіць, калі хацеў надаць жартаўлівасці:

— Я, панечку мой, маю сваю акадэмію, то там яны ў мяне і гадуюцца. Праўда, сама акадэмія ў Цімкавічах, але філіялы працуюць і тут. Як-небудзь я зваджу цябе, чалавеча, туды. Можа, ты і сабе каго там нагледзіш, то я лёгка саступлю. От бы ў тваю «Смагу» чалавек колькі адтуль перасяліць.

Падрабляючыся пад гаворку сваіх персанажаў, ён пажартаваў:

— То колькі б вы, пане егамосцю, узялі, каб я захацеў у вас купіць гэтую назву? — І тут жа сказаў ужо сур’ёзна: — Не, папраўдзе, вельмі добрая назва. Я нават не ведаю, чаму да яе сам не дадумаўся. А яна мне вельмі спатрэбілася б. На адно гэта слова можна напісаць цэлы раман. А можа, прадасі? — І хітравата ўсміхнуўся ніжняю пухляваю губою.

Не памятаю, з якога выпадку я пачаў расказваць пра бабку, у якой кватараваў у Слуцку на Падвальнай вуліцы, займаючы куткавы пакойчык.

— Чакай, чакай, — перапыніў мяне гаспадар, — як ты сказаў — куткавы пакой? А божачка мой, якое слова! Як жа гэта я да гэтага часу абыходзіўся без яго? А гэта ж самае наша слова. Дай-тка я запішу яго.

Сярод сваіх папер на стале, акуратна складзеных у стосік з левай рукі, ён знайшоў запісную кніжку і запісаў. Але гэта было, мабыць, не надта цімкавіцкае слова, — не памятаю, каб пасля я сустрэў яго дзе ў ягоных творах.

Я сабраўся пайсці, але гаспадар сказаў:

— Давай пойдзем разам, браце. Раз я падакляраваў, то без ніякае мітрэнгі мы зараз з табою і сходзім у тую акадэмію. Балазе яна тут у мяне недалёка.

На вуліцы ён павярнуў пад Траецкі рынак. Я адразу зразумеў, у чым рэч. Там было заўсёды поўна народу, а сёння, у святочны дзень, усё аж гуло. Гандлявалі з латкоў, з крамаў, з будак, а старызнікі раскладвалі свой тавар проста на зямлі. Чаго толькі там не было: паржаўленыя замкі, клямкі, шасцераанькі ад насценных гадзіннікаў, драбкі каніфолі, віншавальныя паштоўкі, рамкі да фотакартак, самавары, старыя кнігі з паточаным шашалем рыжым скураным пераплётам. Тут было сваё, вельмі каларытнае царства. Але найбольш маляўнічая карціна была каля вазоў, дзе прадавалася збажына, агародніна, жыўнасць. Тут стаяла гамонка больш вясёлая, бо ў кірмашовыя дні, пасля сходнага продажу якога свінчаці, на возе мужчыны збіраліся каля пляшкі гарэлкі. Як на тое, траплялася кума ці сваццця або проста добрая суседка, яе таксама частавалі, а тая перш цырымонна аднеквалася, а пасля, перакуліўшы чарку і выліўшы цераз галаву недапітыя кроплі, уся ружавела і налівалася буйнаю весялосцю так, што іскры яе воч аж апякалі другога, падкага на жаночыя звады. Тут нельга было не суняцца ды не паслухаць і сакавіты жарт, і ўспамін, і якую селавую прыгоду. От ён і любіў патаўчыся каля гэтых вазоў. Ён сам мог стаць і прадаўцом, і купцом, пахваліць або прыцаніцца да чаго і доўга таргавацца, пераходзячы на мову сваіх персанажаў: «То нешта ж, васпане, дарагавата просіце». Або стаць руплівым гаспадаром і, успёршыся на біла воза, доўга гаварыць з чалавекам пра яго гаспадарку і душэўныя клопаты.

Да Траецкае гары было недалёка. Мы ішлі, то мінаючы людзей, то саступаючы ім дарогу. Але, нагнаўшы чалавека ў чорным паношаным паліце, па хадзе відаць, што старога, ён прыпыніўся.

— Давай трошачкі пройдзем за ім, — сказаў ён. — Як ты думаеш, хто гэта такі? — І тут жа сам адказаў: — Няйначай

як стары гандляр, і яму цяпер трудна без разгарнення. Але ж падрахоўвае ў галаве нейкі гешэфт. А хітры: ты паглядзі на яго хаду.

Праз хвіліну, агледзеўшы яго спіну, трохі ўгнутую галаву, сказаў:

— Трэба адразу, нават паглядзеўшы ззаду, пазнаць, што гэта за чалавек. Можна ўгадаць і яго прафесію, і характар. І нават манеру гаварыць.

Я ўспомніў, што часта бачыў, як ён, робячы па горадзе свае вячаровыя праходкі, от гэтак жа падоўгу мог неўзаметку хадзіць за чалавекам, які чым-небудзь кінуўся яму ў вочы. Пастукваючы кульбаю або павесіўшы яе на руку, ён мог забыцца на сябе ў гэтым сваім падарожжы. Аднаго разу я напаткаў, калі ён ішоў за маладою жанчынаю, ён мне паказаў на яе. Лініі яе плеч, фігуры былі проста невыказнага хараства.

— От, браце, пекната, — сказаў ён. — А я ўсё шукаю, каб хоць па чым-небудзь угадаць, якая ў яе душа.

Гэтак я і памятаю яго, Кузьму Чорнага, у вечным разгадванні людзей — іх аблічча, характару, лёсу, каб пасля жывыя абрысы іх пераносіць у свае кнігі.

*1960*

## НАДПІС НА КНІЗЕ

За вочы я ведаў яго даўно, але асабіста пабачыцца не шанцавала. У гэтым не было ніякага дзіва — яго пасада першага сакратара ЦК камсамола Беларусі не давала магчымасці надта раскідацца часам. Дзівіць магло хіба толькі другое: як ён пры такой пасадзе выбірае хвіліну, каб яшчэ і пісаць. І пісаць не абы-як: і сур’ёзна, і па-чалавечы глыбока, і многа. Яго кніга «Дробязі жыцця» на той час у параўнанні з кніжкамі другіх маладнякоўцаў выглядала як добры том. А колькі ўсякай грамадскай і службовай работы — пасяджэнняў, выступленняў, дакладаў! А новыя апавяданні ў свежых нумарах часопісаў! І ўсё гэта па-гаспадарску ўдумліва і па-грамадзянску мужна. Глыбока ў душы я паважаў яго, і нават імя — Платон — было як бы апраўданнем гэтае павагі. У такім старадаўнім імю было нешта надзіва простае і народнае, з ім звязвалася ўяўленне нечага спакойнага і разважлівага. А прозвішча — Галавач[1] — як бы дапаўняла гэтае ўяўленне. І хацелася думаць, што ён пажылы, бо іначай адкуль у яго творах было б столькі сталасці.

І от недзе раз на пісьменніцкім сходзе, сярод тых, што былі ў прэзідыуме, я ўбачыў незнаёмага чалавека гадоў дваццаці шасці. Ён сядзеў на заднім плане, за спінамі, паміж Міхасём Лыньковым і Андрэем Александровічам. Валасы пышныя, вельмі светлыя і, відаць, мяккія, як кужаль. І бровы зусім светлыя, што іх аж не відно. У твары многа простай і даступнай дабраты. І сціпласці. Ён як бы пачуваў сябе няёмка, што яго запрасілі на такое пачэснае месца, і стараўся быць у цяньку. Але раз ад разу да яго паварочваўся то Александровіч, то Лынькоў, то яшчэ хто з прэзідыума. І кожны раз, калі ён нагінаўся да іх, кужэльныя валасы ападалі на лоб, і ён шырокай рукою адкідаў іх назад. Часамі ён спрабаваў усміхнуцца, але ўсмешка не ішла яму і зараз жа згасала, паблукаўшы якое імгненне каля тонкіх губ. Усмешка занадта маладзіла яго, рабіла юнаком і як бы сама ведала, што робіць не вельмі выгадную паслугу.

Мяне здзівіла, што Галавач быў мала падобны на маё ўяўленне пра яго.

Пасля ён выступаў, выйшаўшы на трыбуну. І тут выявілася яшчэ большае непадабенства на загадзя нарысаваны вобраз: што ён любіць глядзець трошачкі спадылба, што гаворыць вельмі спакойна і ціха і што голас у яго мяккі, з малюсенькім насавым гучаннем. І здалося зусім нечаканым, што няма ў яго ні рэзкага жэсту, які звычайна выпрацоўвае прафесія, ні строгага позірку, ні павышанай камандзірскай ноты — усё па-чалавечы проста і душэўна.

З гэтага часу і пачалося наша добрае знаёмства. Я сказаў бы, нават сяброўства, каб не баяўся гэтага слова ў дачыненні да Галавача. Бо мне здаецца, што сябравалі з ім усе, і ён нікога не вылучаў і не дзяліў на лепшых і горшых. З кожным ён быў роўна чулы і блізкі, знаходзіў хвіліну і сустрэцца на вуліцы, і пасядзець на канапе ў Доме пісьменніка, і ахвотна ўзяць пачытаць рукапіс, каб не пазней як назаўтра ж пабачыцца з аўтарам, бо ён, можа, чакае і хвалюецца. Ён знаходзіў нейкае сваё душэўнае слова, па-свойму раскрываў рэчы і з’явы. Не скупіўся некага пахваліць, нечаму парадавацца ці сказаць у вочы праўду, калі яму што не падабалася.

Я меўся паехаць на калектывізацыю з брыгадаю работнікаў ЦК. Прызнаюся, ехаў з неспакойным сэрцам, хоць па сваёй ахвоце. Прадбачыў, што будзе цяжка: на свае вочы бачыць, як будзе ламацца спрадвечны лад сялянскае душы; тут жа, можа, не абыдзецца без глыбокіх чалавечых трагедый. Ведаючы, што Галавач ужо быў у такой паездцы і цяпер на гэтую тэму піша

аповесць «Спалох на загонах», я захацеў пагаварыць з ім. Мне хацелася загадзя быць падрыхтаваным да нечаканасцей, прыйсці як бы ўжо на гатовыя пазіцыі. Доўга мы сядзелі з ім, і ў голасе яго я чуў боль.

— Платоне, дарагі, але ж гэта трэба? Іначай нельга? — папытаўся я з трывожным чаканнем.

— Трэба, іначай нельга, браце Янка. І, можа, самае важнае, няхай сабе з душэўным болем, мець іменна вось гэтую ўпэўненасць. Бо ніколі ніякія гістарычныя пераломы не рабіліся лёгка. А мінаць іх нам няма як.

Я ведаў, што Галавач ніколі не крывіць душою. І быў вельмі рад, што ў дарогу ён даў мне не толькі сваю, але і маю ўпэўненасць.

Ён не ведаў ніякіх вонкавых і пабочных меркаванняў, апроч сумлення. Памятаю, пасля таго як я вярнуўся з «Гомсельмаша», дзе тры месяцы працаваў з брыгадаю «Звязды» па ліквідацыі прарыву, у мяне была даволі непрыемная гісторыя. Я напісаў серыю нарысаў і надрукаваў іх у «Маладняку». Неўзабаве паявіўся артыкул пра гэтыя нарысы пад назваю «Паклёп на завод». Назва страшная, і папрок цяжкі. Але Галавач адразу ўбачыў тут несумленнасць і без ніякіх ваганняў стаў на абарону. Ён увайшоў у камісію па вывучэнні справы і не адступіўся да таго часу, пакуль не дамогся, каб давесці, што ў рэцэнзента былі нячыстыя рукі. Выйшла вельмі простая рэч: рэцэнзентам, што схаваўся за псеўданім, быў чалавек, які прэтэндаваў стаць сааўтарам нарысаў, хоць сам не напісаў ні радка.

Не памятаю чаму, але нейкі пэўны час Платон Галавач жыў у гасцініцы «Еўропа», займаючы ў ёй невялікі пакой. Неяк з Петрусём Броўкам мы сустрэлі яго на вуліцы, ён спяшаўся.

— Куды?

— Атрымаў новую кватэру. Некага трэба пашукаць, каб памог перабрацца.

Мы адразу ж павярнулі назад. Каля гасцініцы ўжо стаяў грузавік. Лёгка мы пагрузілі ўсю немудрашчую гаспадарку — ложак, стол, шафку, усякую драбязу. Усё ўмясцілася ў адну машыну. Галавач сеў з шафёрам у кабіну; нам з Броўкам не хацелася тарчаць у кузаве сярод паперакульваных табурэтак, мы паехалі трамваем, балазе ён тут жа і праходзіў паўз гасцініцу.

Кватэра была ў новым доме на Маскоўскай вуліцы. Выйшаўшы з трамвая, я захацеў паглядзець, колькі цяпер часу. Гадзіннік з рукі я зняў перад пагрузкаю і заткнуў яго ў верх-

нюю кішэньку пінжака, знарок пакінуўшы кончык раменьчыка наверсе, каб можна было лёгка выняць. Торкнуўся цяпер я ў гэтую кішэньку, а гадзінніка няма. Ну ясна — я ўспомніў, як пры выхадзе з вагона, у самых дзверцах, мяне сціснула кампанія падшывальцаў, вельмі спяшаючыся вылезці.

Броўка, вечна вясёлы і жартаўлівы, разрагатаўся.

— Будзеш знаць, як блізенька класці. Ах, як жа далікатненька ты яго засоўваў, цяпер толькі ўспамінаць будзеш.

Кватэра была на тры пакоі. Мы паўношвалі ўсё ў дом, паскладалі абы-як і дзе папала. Не паспелі спаласнуцца, паліваючы конаўкаю адзін аднаму ў кухні, як у Галавача ў руках бліснула паўлітэрка, адна, а тады другая. Размясціўшыся як дзе хто мог — на зэдліку, на перакуленым чамадане, на зложаным слупку кніг, — мы весела выпілі, закусваючы цвёрдаю кілбасою і храбусткою цыбуляю, макаючы яе ў кучку солі, пасыпаную пасярод стала на газету. Галавачова жонка Ніна ўсё толькі прасіла прабачыць за такую імправізацыю.

Мабыць, Броўка некуды спяшаўся і, забыўшыся, што трэба маўчаць, папытаўся, каторая гадзіна. Машынальна я зірнуў на руку і тут жа апамятаўся, але было ўжо позна: Галавач заўважыў, як я скоранька абцягнуў рукаў і апусціў гэтую руку. Ён паглядзеў на аднаго, на другога.

— Што такое, хлопцы?

Прыйшлося расказаць. Галавач адразу ж спахмурнеў. У тым, што я астаўся без гадзінніка, ён вінаваціў толькі сябе. Тут жа ён пачаў здымаць свой гадзіннік, каб аддаць яго мне. Я выкручваўся як толькі мог: што мой быў стары і ўжо нікуды не варты, што я рад такому выпадку, бо цяпер куплю новы, і бог ведае чаго ні выдумляў я, каб толькі супакоіць. Але ўпэўнены, што так і не супакоіў. Нават ад тае кватэры ў яго не было цяпер радасці.

Аднаго разу я паскардзіўся Галавачу на самога сябе: наш час патрабуе жыццесцвярджэння, светлай бесклапотнай усмешкі, аптымізму, а ў мяне часта нават самыя найсённяшнія вобразы носяць у сабе гучанне нейкага душэўнага неспакою, далёкай тугі.

— Дык гэта ж вельмі правільна, — сказаў Галавач, — бо інакш не будзе чалавека. Лёгкая радасць, лёгкае гора, лёгкі аптымізм — гэта ўсё роўна як пусты смех. Ад яго і няёмка, і крыўдна, і бачыш няпраўду.

Пісаў Галавач з нястомнаю прагаю, але скрозь яму здавалася, што піша дрэнна, і мучыўся гэтым. Супрацоўніку Дзяржаўнага выдавецтва ў Маскве Яфіму Кантару, які меў дачыненне да

выдання на рускай мове рамана «Праз гады», ён пісаў: «...мяне вельмі моцна хвалюе пытанне: ці ёсць у кнізе тое, што мы называем мастацтвам... Ці змагу я быць патрэбным у літаратуры, ці павінен ёй аддаць свае сілы, ці будзе гэта апраўдана?..»

Нeяк я даў яму прачытаць рукапіс свайго апавядання. Назаўтра ён вярнуў яго, а пагаварыўшы, выняў з-пад пахі і даў мне загорнутую ў паперу кнігу. Гэта быў новы яго зборнік. У надпісе, памятаю, былі такія радкі: «...за тое, што ўмееш упарта працаваць». Мне стала няёмка: няўжо ён не ведае, што я хварэю на тую ж хваробу, як і ён, што мне пакутліва даецца кожнае слова, кожны раз, калі саджуся за стол, я адчуваю сябе бездапаможна, як першакласнік? Я сказаў яму пра гэта. Галавач усміхнуўся сваёю светлаю, заўсёды нейкаю нясмелаю ўсмешкаю.

— То, можа, яно так і трэба, — сказаў ён. — Тады яшчэ з большым правам я даю табе такі надпіс.

*1963*

## КАЛЯРОВЫ АЛОВАК

Памятаю, у «Узвышшы» я прачытаў аповесць Лукаша Калюгі[1] «Ні госць ні гаспадар». Асабліва ўвагі мае гэтая аповесць не зачапіла. Была яна свежая па почырку, па рысунку, але прозвішча я сустрэў упершыню і падумаў, што за такі псеўданім схаваўся нехта з вядомых пісьменнікаў. Можа, нават хто з маладнякоўцаў, каб у чужым часопісе не выступаць пад сваім прозвішчам. Занадта сталая рука адчувалася ў манеры пісьма.

Але праз год у тым жа «Узвышшы» паявілася аж чатыры апавяданні Лукаша Калюгі. А яшчэ праз трохі часу ў «Полымі» пачала друкавацца аповесць «Нядоля Заблоцкіх». І гэтае прозвішча, такое каларытнае, нечым вельмі тутэйшае, не то лясное, не то палявое, пачало мяне інтрыгаваць. Мне падабаўся гэты пісьменнік. Арыгінальны па стылю і самабытны. Глыбокі па роздуме, прычым роздум не наверсе ідэі, а недзе ў яе сутнасці, за тэкстам, як арганічны скутак тваіх адчуванняў. Культурны па мысленні і па філасофскай напоўненасці. Чараўнік па мове: так і бруіцца, так і зіхаціць яна ўсім багаццем народнай дасціпнасці. Усмешнік: не-не дый пакажацца яна, гэтая добрая ўсмешка, можа, нават крыху хітраватая і таксама схаваная за тканінаю слоў.

— Хто такі ў вас Лукаш Калюга? — папытаўся я аднаго разу ў Кузьмы Чорнага.

— Пісьменнік, — адказаў ён, гэтым адным словам як бы вычэрпваючы ўсю характарыстыку. Але падумаў, дадаў: — І не абы-які пісьменнік, братачка. Богам дадзены талент. Як-небудзь я цябе пазнаёмлю, вы адразу з ім паразумееецеся, панечку мой.

Але пазнаёміў не ён. Недзе ўвосень 1932 года хмурнаватым днём я ціха брыў па вуліцы, кіруючыся ў кіно «Чырвоная зорка». На рагу Савецкай і Ленінскай убачыў Заіра Азгура. Ён стаяў на крайку тратуара, моцна пастукваў кійком перад сабою і ў такт гэтаму пастукванню нешта горача тлумачыў высокаму, цыбатаму хлопцу. На хлопцу быў кароткі суконны курцік чорнага колеру і кепка з вельмі сплясканым верхам. Твар бледнаваты, з тонкім інтэлігентным профілем, вочы шэрыя з чутачку сіняватым дымком, а губы ўвесь час як бы стрымліваюць трошкі скептычную ўсмешку.

— Знаёмся, — сказаў Азгур, — Лукаш Калюга.

У кіно я так і не пайшоў. Заведзеная Азгурам гаворка перайшла і да нас. Як спраўдзіў Кузьма Чорны, мы тут жа паразумеліся. Галоўным чынам на тым, што яшчэ дрэнна пішам. Літаратура новага, вялікага часу новых прастораў і далячыняў, як і сам час, яна шукае, у гэтых пошуках ёсць і ўдачы, і няўдачы. У аснову літаратуры трэба класці не здарэнне ці дробны факт, чым грэшыць большая частка маладой прозы, а грамадскую падзею, роздум, духоўны свет чалавека, яго інтэлект. Бо факт, выпадак — гэта адлюстровак аднаго дня, а не адлюстровак часу, эпохі. У такім прыблізна плане ішла наша гаворка. Мне яна імпанавала, бо я сам адчуваў, што ўсё, што раблю, трэба рабіць куды лепш.

Не скажу, што наша знаёмства перайшло ў сяброўства. Не, мы нават рэдка бачыліся. Сяды-тады, сустрэўшыся на вуліцы. Аднак жа кожная сустрэча была як бы працягам першай: яе хацелася чакаць. Плынь Калюгавай думкі заўсёды ішлася так, што ставіла або загадку, або антытэзу: трэба было пярэчыць. І манера гаворкі такая, што Калюга заўсёды нечага як бы недагаворваў, трымаў у запасе.

Бачыліся мы рэдка, мабыць, таму, што Калюга ніколі не бываў у Доме пісьменніка. Я думаў, што гэта ад залішняй сціпласці: чалавек ні з кім там не знаёмы, саромеецца. Аж аказалася зусім не тое.

— А што мне рабіць у тым вашым доме? Розуму ж там ні ад каго не набярэшся.

Гм... Ну што ж, характар у кожнага свой. І хто ведае, каму што памагае: самаўпэўненасць ці сціпласць. Кожны нешта думае і

пра сябе, і пра другіх, дык што лепш: гаварыць ці маўчаць пра гэта? Новая Калюгава загадка.

Аднаго разу ён даў мне рукапіс свайго апавядання. Будзе час — прачытаеш. Ведама, я прачытаў яго таго ж вечара. Дасціпны майстар жыццялюб, тонкі стыліст — усё калюгаўскае было ў тым апавяданні. І тая самая прыжмураная калюгаўская ўсмешка. Называлася яно «Цеснаватая куртачка».

Памятаю, я сказаў, што ў апавяданні не надта ўдалы канец. Ён цяжкаваты, загружаны манернай філасофіяй, не выцякае з сутнасці апавядання.

— Пагляджу, можа, папраўлю, а можа, і не, — як звычайна, загадкаю адказаў Калюга.

Здарылася так, што Калюгі я больш не ўбачыў. І «Цеснаватую куртачку» прачытаў больш як праз трыццаць гадоў. Выразаныя і сашчэпленыя старонкі з часопіса, набытыя літаратурным архівам. Канец, вядома, той самы, я быў загадзя ўпэўнены, што так і будзе, бо ведаў, што Калюга слухаецца толькі свайго густу. Але па старонках заўзята і густа пахадзіў нечы каляровы аловак. У апавяданні хлопцы, падвыпіўшы, едуць сватацца, усю ноч блудзяць, не могуць папасці да маладой. Усё зроблена дзеля ўсмешкі, нават вёскі — Здарэнні і Анекдоты; нават конь, на якім едуць жаніхі, святочна-херувімскі — белы.

У каляровым алоўку вельмі пазнаецца Бэндэ[2].

І от прабег час і паставіў усё на месца. Нічога не страчана, усё зрабілася так, як трэба. Выходзіць Калюгава кніга, і я рад, што зноў сустрэнуся з ім.

***1966***

## ПАБІТАЯ ШАШАЛЕМ КНІГА

Па Валадарскай вуліцы, адціснуты ў двор гасцініцай «Мінск», стаіць мураваны, на тры паверхі, даволі ладны, са слядамі колішняй велікапышнасці дом. Ніжні паверх яго заняты пад гастраномію, калісь жа тут мясцілася букіністычная кнігарня, у якой я бываў частавата. Загадвала кнігарняй маладая жанчына з цёплаю ўсмешкаю на вінаватым твары, нечым падобная на народніцу.

Я ў той час вучыўся ў універсітэце, грошай лішніх у кішэні не вадзілася, але нават калі аставаўся апошні рубель, то я перш за ўсё ішоў з ім у кнігарню.

Напачатку загадчыца не вельмі верыла ў маю замілаванасць да кнігі. Майго паяўлення ў кнігарні яна бадай што не заўважала, на вітанне адказвала ледзьве-ледзьве; калі я прасіў паказаць якую кнігу, то яна рабіла гэта не сама, а маўкліва загадвала сваёй памагатай, маладой бледнатварай дзяўчыне, кіўком галавы паказаўшы на мяне як на дакуку. Мяне брала вялікая крыўда: тады не было моды пускаць пакупнікоў да паліц, за столікі маглі заходзіць людзі толькі, мабыць, вельмі блізкай катэгорыі; часта я бачыў, як яны, прыставіўшы лескі, поўзалі па паліцах, а часамі заходзілі нават у самае святое: у каморку за вузкімі дзвярыма, дзе кнігі, яшчэ не пастаўленыя ў парадак, валяліся абы-дзе і абы-як, высвечваючы цвёрдым лакам сваіх скураных спінак, найчасцей парудзелых і пабітых ужо шашалем. Туды мне доступу не было. І толькі пазней я здагадаўся, што ў гэтым намнога вінаваты быў сам.

Не так даўно собіла мне набыць кажух, доўгі, прасторны, з шырокім каўняром, з пляцёнымі круглымі гузікамі. Гэты кажух служыў мне вераю і праўдаю: дома, калі да мяне заходзілі сябры-красамоўцы, такія, як Заір Азгур, я рассцілаў яго на падлозе мае каморкі, і мы без канца маглі бавіць на ім час у нашых спрэчках; зімою на вуліцы, калі, бадай што ўдвая захінуўшы крыссе і наставіўшы глухі каўнер, я хадзіў у ім як пан, не баючыся ніякіх ні вятроў, ні марозаў. У гэтым кажусе я хадзіў і ў кнігарню, дзеля большай зручнаты часамі нават падперазаўшыся і ўзяўшы ў рукі да бляску выслізганы арэхавы кій. Усё гэта ішлося трохі ад майго нядаўняга футурызму, а трохі ад не заглушанай яшчэ і нечым дарагой інерцыі сялянскасці.

І от аднаго разу, разам з Броўкам, Нікановічам[1] і, здаецца, Хадыкам[2], мы зайшлі ў кнігарню, апраненыя на той час элегантна: у добрых палітах, у капелюшах, у гальштуках. Я бачыў, як загадчыца ні то збянтэжана, ні то разгублена зірнула на мяне, мабыць, не верачы, што я магу быць чалавекам сваім у гэтай кампаніі пісьменнікаў. Мне вельмі добра ўспомнілася, як не раз усякімі хітрыкамі яна старалася, каб кніга, вартая нейкай асаблівай увагі, не папала мне на вока. Ясна, чалавека ў сялянскім кажусе наўрад ці вядзе сюды нейкая інтэлектуальная патрэба. І вось цяпер я быў бясконца рады, што яна пачувае сябе няёмка, знарок яшчэ больш стараўся падкрэсліць, што ў такой кампаніі невыпадковы: з усімі свабодна, на «ты», — гэта была як бы мая невялікая помста ёй.

Але тут гаворка ідзе не пра крыўду, а пра добрую нагоду. Пасля гэтага ў кнігарні я таксама стаў сваім чалавекам. Цяпер

і мяне прывячалі хоць стрыманаю, але ветлаю ўсмешкаю. Як і тыя, каму нядаўна зайздросціў, цяпер я сам лазіў па паліцах, дыхаў старым, кнігамі прапахлым пылам. Заходзіў я і ў каморку, і тут было найцікавей. Грудамі наваленыя кнігі таілі ў сабе трывожную неспадзяванасць адным тым, што былі толькі што прывезены. Да іх яшчэ не дакраналіся чужыя рукі, і магло стацца, што сярод іх знойдзецца нешта незвычайнае, рэдкае. Чым незвычайнае і чым рэдкае, я не ўяўляў, асалода была ў самім спадзяванні. Што можа быць спакуслівей за таямніцу чалавечага духу, якая жыве вось тут, сярод маўклівых, пажоўклых ад часу старонак, і якая можа адкрыцца толькі табе? Ні з чым не параўнаная мілата!

Дык вось аднаго разу гэтая таямніца чалавечага духу такі кранулася мяне. У той жа каморцы я развязаў стос кніг, толькі што сюды занесеных. Не ведаю, чым кінуўся мне ў вока томік у цвёрдым пярэстым пераплёце з паабдзіранымі бакамі, з патрэсканаю на спінцы рудою скураю. Гэта было «Уваскрэсенне» Льва Талстога. Я меў Збор твораў Талстога і гэты томік хацеў ужо адлажыць, але на адной з старонак заўважыў дапіскі. Чорным чарнілам на полі старонкі было напісана некалькі слоў і рыскаю пазначана, куды яны павінны стаць у тэксце. Я адгарнуў далей — і яшчэ натрапіў на такія ж папраўкі. Іх аказалася вельмі многа, большых ці меншых, вынесеных на поле або ўпісаных у тэкст, а часамі дапіскі былі, мабыць, такія, што на старонцы не месціліся, і тады стаяла памета: глядзі сшытак такі ці такі. Сэрца ў мяне закалацілася: у руках у мяне была тайна. Чые гэта папраўкі? Хто іх рабіў? Почырк тонкі, літары доўгія, косыя, цесна папрыцісканыя адна к адной — няўжо рука самога Талстога? Ці, можа, пасля яго сюды дапісваў нехта другі? Але хто? А можа, гэта цэнзурныя выкідкі? Якімі шляхамі кніга апынулася тут, у Мінску, і хто той чалавек, што прадаў яе сюды, у кнігарню? І ці зберагліся сшыткі, дзе яны і як іх пачаць шукаць?

Дома я паставіў гэты томік асобна, каб на паліцы ён не асабліва вытыркаўся. Я збіраўся напісаць пра сваю знаходку ў Ясную Паляну, у Інстытут літаратуры, — у мяне было перакананне, што ў руках я трымаю рэч унікальную. Паказваў я кнігу толькі самым блізкім сябрам, на такую знаходку яны шчыра дзівіліся, а Мікола Аляхновіч[3] на прамілы бог прасіў пераступіць кнігу яму, крытыку і літаратуразнаўцу, у каторага яна павінна быць па законе.

Не памятаю, якія турботы занялі мой час і ўвагу, але калі я сабраўся пісаць, то кнігі ў схованi не знайшоў. Не было ўжо і Аляхновіча, каб папытацца, ці не зрабіў ён сяброўскага жарту.

Так я і не ведаю, што загінула ў мяне тады: можа, чые выпадковыя практыкаванні, а можа, самыя жывыя сляды ніколі не ўтаймаванай думкі Талстога.

І ўсё не веру, што гэта здарылася ўпраўду. Увесь час мяне не пакідае адчуванне, што ў нейкую часіну яна возьме дый акажацца, гэтая пабітая шашалем кніга.

*1967*

## НА ВЯЧЭРЫ

У даведніку «Пісьменнікі Савецкай Беларусі» пра Сымона Куніцкага[1] сказана вельмі коратка: нарадзіўся ў вёсцы Гарані Заслаўскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і; скончыў літаратурнае аддзяленне педфака Беларускага дзяржаўнага універсітэта; працаваў у Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР. Памёр 14 красавіка 1940 года.

Такая скупасць тлумачыцца трыма акалічнасцямі: першае, што для літаратуры Сымон Куніцкі памёр вельмі рана, не паспеўшы акрэсліць сваіх абсягаў; другое, што яго творы не сабраны і не вывучаны; і трэцяе, што Куніцкі быў надзіва сціплы чалавек.

Памятаю нашы гады навучання ў універсітэце. Як гэта бывае звычайна, кожнае асяроддзе падзяляецца на пэўныя групкі сяброўства. Гэтыя групкі былі і ў нас. Адных, што прыйшлі ў універсітэт пасля многіх гадоў настаўніцтва, яднали інтарэсы прафесіі, другіх — проста любоў да навукі, трэціх — яшчэ якія ідэалы. Мы ж — Пятрусь Броўка, Алесь Пальчэўскі[2], Сымон Куніцкі ды яшчэ колькі хлопцаў — здружыліся на тым, што любілі літаратуру.

Сымон Куніцкі сярод нас паявіўся неяк нечакана і непрыкметна. Памятаю, мы разыходзіліся з заняткаў і дзяліліся ўражаннямі ад лекцый Піятуховіча, трохі пацяшаючыся з таго, што ён шапялявіць.

— Але ж знае свой прадмет і любіць яго, — сказаў Сымон Куніцкі. — Я сам бы хацеў так многа ведаць.

Вось гэтае жаданне «многа ведаць» і вылучала Куніцкага сярод нас. Не скажу, што мы ўсе не хацелі многа ведаць, але ў нас гэта выходзіла неяк бязладна, з нейкім бунтам і партызанствам. Мы, асабліва Макар Шалай і Апанас Сідарэнка, заспрачаўшыся па якой кнізе ці па якім пытанні эстэтыкі, маглі забыць на абед, на вячэру, хапацца за чубы, праседзець усю ноч, плаваючы ў сінім дыме і навальваючы па стале цэлыя горы недакуркаў.

Куніцкі ж скрозь быў спакойны. І ў спрэчкі ўмешваўся толькі тады, калі нешта сам для сябе высніў. І ніякія наскокі і цытаты з Пісарава, Бялінскага і Дабралюбава, якімі мы вельмі любілі размахвацца, не маглі збіць яго з панталыку. Бачачы, што спрэчкі пераходзяць у спорт, ён надзяваў шапку і развітваўся.

Хоць Куніцкі ўспамінаецца найбольш у такіх нашых студэнцкіх паядынках, але ён якраз менш за ўсё і любіў гэта. Ён як бы шкадаваў часу на такое марнатраўства. Ён ішоў дадому або ў бібліятэку або проста выбіраў дзе лавачку на скверы і стараўся пабыць з кніжкаю ці абдумаць нейкую тэму.

Я кажу «абдумаць нейкую тэму», бо Куніцкі, нікому не прызнаючыся, пісаў. Перш рэцэнзіі на новыя кніжкі, а потым артыкулы — тэарэтычныя ці па творчасці якога-небудзь пісьменніка. Пачаўшы з невялікіх рэцэнзій, ён дайшоў да шырокіх абагульненняў, напісаўшы працы пра творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, Андрэя Александровіча, Сымона Баранавых, Барыса Мікуліча[3], Хвядоса Шынклера[4].

Куніцкі быў вельмі памяркоўны. Памяркоўнасць была ў яго хадзе — павольнай, як бы нясмелай, — у прысадзістай, плячыстай фігуры, у шыракаватым і адкрытым твары з рэзка акрэсленымі лініямі губ, у манеры гаварыць — спакойна і абдумана. У нейкім сялянскім спакоі. Ніколі нічым ён не любіў хваліцца або выстаўляцца напаказ. Ніхто не заўважыў, калі ён надрукаваў першую рэцэнзію, а пасля першы артыкул. Ніхто не ведаў, што ён многа чытае, і кніжка, якая бадай што заўсёды была ў яго пад пахаю, аніяк не гаварыла пра яго вучонасць. Ніхто не заўважыў, што ён пайшоў на работу ў Акадэмію навук, і нават блізкія сябры не адразу даведаліся, што ён працуе вучоным сакратаром Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва.

І таксама мала хто заўважыў, што артыкулы яго пачалі паяўляцца ўсё радзей.

Па нейкай нагодзе ў Доме пісьменніка была наладжана ўрачыстая вячэра. Я сядзеў поруч з Сымонам Куніцкім. Недалёка ад нас, размахваючы пляшкаю, перад тым як наліць пустую паднятую чарку, гаварыў прамову Лукаш Бэндэ. Ад яго прамовы, як і заўсёды, халадзела ў сэрцы.

Я павярнуўся да Куніцкага:

— Нешта ты мала, Сымоне, пачаў друкавацца.

— Хто яго ведае, мабыць, я перавучыўся. Ці недавучыўся. Не патраплю, як трэба пісаць. Ты бачыш, як ён весела дырыжыруе, як на парадзе, — кіўнуў ён на Бэндэ. — Тут нехаця пачуеш сябе невукам.

Бэндаў голас хрыпата весяліўся над залаю, і я вельмі блізка разумеў душэўную разгубленасць Сымона Куніцкага.

*1965*

## ПАДПРАЎЛЕНАЕ ПРОЗВІШЧА

Да арміі ў яго было прозвішча Баран. Дадому вярнуўся з новым канчаткам у ім — Баранаў. А калі стаў пісьменнікам, захацелася або вярнуцца да старога, або даць прозвішчу нейкую этнаграфічную акрасу.

Чамусьці пра гэтакі клопат ён захацеў параіцца са мною. Ведама, да старога прозвішча варочацца было нельга. Пачнуць зваць, як гэта скрозь заведзена, — Баран, з націскам на першым складзе. А каму такая падробка патрэбна. Я стаў прыгадваць — як жа з прозвішчамі ды з мянушкамі абыходзяцца ў людзях?

У нас, у Труханавічах, быў вельмі маларослы чалавек Юрачка. Жонка ў яго, як на тое, была самаю высокаю жанчынаю, мабыць, на ўсім наваколлі. Бывала, у нядзелю, калі ўсё сяло старэйшага веку богапашаноўна кіравалася на званы ў царкву, Юрачка з жонкаю стаяў у расчыненых варотах свайго двара, і кожны не мог, каб не зірнуць перш на жанчыну, што галавою траха не ўпіралася ў стрэшку над брамаю, а тады на мужчыну ў начышчаных ботах, у цёмна-сіняй шапцы, што стаяў недзе пры доле, ніжэй за локаць яе, паложанай на жывот, рукі. Няйначай як з-за гэтай мілай пацешнасці людзі далі ім сваё ласкавае празванне — Юрачкавы. І няйначай як з-за лагоды і любасці ў іхняй сям'і іх паважалі на сяле, і ніхто ніколі нават не падумаў, каб пасміхнуцца з іх.

Дык вось, у нас на сяле іх называлі толькі па мянушцы: Юрачкавы. У множным ліку. І гучала гэта так: «Да Юрачкавых госці прыехалі» або: «Юрачкавы ўжо адсеяліся».

Наш сусед меў прозвішча Рыжкоўскі, але людзі звалі яго Рыжок, а сям'ю — Рыжковы. І гаварылі: «У Рыжковых садрала ветрам страху». Другі наш сусед быў Бартошык, а людзі гаварылі: «Барташовы ў Слуцак паехалі», «Трэба пазычыць солі ў Барташовых».

Вось я і сказаў Сымону:

— Хіба ты забыўся, як у вас на сяле гавораць? Ты цяпер вучышся ў Мінску, а калі прыедзеш дадому, то суседзі скажуць: «У Якава Баранавых сын жа ў госці прыехаў». Так ці не? Гэта значыць, не хто прыехаў, а чый сын прыехаў. У аснове прозвішча

ляжыць сям’я, гняздо, зборнасць, гурт. Адсюль ты і мяркуй, як табе пісацца.

Сымон падумаў, паўздыхаў, памеркаваў сам сабе.

— Кадук на цябе, можа, ты і праўду кажаш.

І ў друку паявілася прозвішча: Баранавых.

Праўда, мы тады не падумалі, што канструкцыя прозвішчаў з канчаткам на *ых* лічыцца сібірскай. Але ж у Сібір з’ехала нямала і нашых людзей, і ўсякая пераемнасць гаворыць і пра пэўную блізкасць. Вось жа па-нашаму сёлета, а па-сібірску сёгады.

То, можа, і з прозвішчам мы не нарабілі ніякае бяды.

***1976***

## БІЯГРАФІЯ

Вельмі хутка прыйшоў адказ на ліст, у якім я прасіў яго прыслаць пра сябе сякія-такія весткі. Асноўныя этапы яго жыцця былі мне вядомы па нашай маладосці, але пасля таго прайшлі многія гады, і калі за іх нешта цікавае ці больш-менш важнае здарылася, то пра яго варта было ўспомніць: выдавецтва намервалася выдаць новы даведнік, у які было ўключана і яго імя.

«Дата нараджэння: 31 студзеня 1902 года, па новым стылі 13 лютага».

Я ведаў адну датклівую рысу яго характару: насцярожанасць да лёсу. Думалася, што нездарма ўпамянуты новы стыль, што зараз, праўдамі і няпраўдамі, за ўсю доўгую непрыветнасць свайго жыцця ён пачне наракаць на гэтую лічбу трынаццаць. Але ён сябе перасіліў.

«Вучоба: у 1925 годзе скончыў Мінскі педагагічны тэхнікум. Два гады потым працаваў у Полацку (адзін год у Валынцах) настаўнікам, а першы год і загадчыкам аддзела ў газеце «Чырвоная Полаччына». Пісаў і друкаваў вершы і апавяданні пад псеўданімам С. Багун. У альманаху «Наддзвінне» змясціў апавяданне «Францішак Скарына».

Вось з гэтага часу я і памятаю яго. Я таксама працаваў у Полацку, у той жа газеце, годам пазней, разам з Броўкам. Часамі ён прыязджаў з тых сваіх Валынцоў у акруговы аддзел народнай асветы ці ў рэдакцыю, і гэта было добраю прычынаю, каб нам сабрацца ды пасядзець. Ён ужо быў далёка вядомы: меў кніжку, выдадзеную ў «Маладняку» з аўтаравым партрэтам на белай, дубовымі галінкамі аздобленай вокладцы — «Першы паўстанак». Тую кніжку я чытаў, лежачы на верхнім палку ў вагоне па дарозе з Слуцка ў Расоны, пры агарку свечкі, што

ўсю ноч канала ў закураным ліхтары. І, памятаю, увесь час дзівіўся ваяўніча абачлівай натуры Адама Залеса, якому ніяк не ўдавалася прымерыць сябе да рэвалюцыі. І вось ён, аўтар таго Адама Залеса, сядзеў і гаварыў з намі. Праўда, ён не любіў асабліва мірнай гаворкі, не прызнаючы за намі роўнага права разбірацца ў з'явах літаратуры.

Але нас гэта не надта і абыходзіла, мы прызнавалі за ім бясспрэчную зверхнасць старэйшага. Адзнакаю яго старэйшасці быў яго роўны, ціха-настойлівы голас, сухі строгі твар з пільнымі цёмна-сінімі вачыма, гладка зачэсаныя на правы бок валасы, пад якімі ўжо тады, здавалася, прасвечвала лысіна.

Час і памяць не вельмі пагадняюць між сабою сваю работу: час усё мяняе, бязлітасна сцірае нават сляды ўчарашняга, а памяць толькі тыя сляды і зберагае. Толькі імі і жыве. І ўсё ж такі не ведаю, ці можна на яе паверыцца. Я, напрыклад, каб хто папытаўся, сказаў бы, што «Францішка Скарыну» ён друкаваў не ў «Наддзвінні», а ў «Маладняку». І што не пісаў ён вершаў і не было ў яго псеўданіма «Багун». І чаму ён не ўпамінае свае аповесці «Пільнікі»? Калі па праўдзе сказаць, то свае памяці варта найбольш асцерагацца. Мы любім чытаць чужыя ўспаміны, можа, таму, што ім таксама не вельмі верым.

«1 верасня 1927 года паступіў на другі курс літаратурналінгвістычнага аддзялення Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Скончыў увесну 1930 года. У гэты ж час пісаў апавяданні і аповесці, друкаваўся ў «Маладняку». У 1930-м выдаў другі зборнік апавяданняў «Шляхамі навальніц». У «Маладняку» была змешчана мая аповесць «Чорны мост». 18 ліпеня таго ж года былі зроблены захады наконт майго новага месца жыцця...»

Гэтая бяда напаткала тады не толькі яго. Але ўсё не верылася ў яе верагоднасць. Думалася, можа, дзе паехаў — у госці, адпачываць — і скора вернецца. Але не вярнуўся. І гэта было аж вусцішна, бо калі мы сталі студэнтамі, наша становішча зблізіла нас. Мы нават падружыліся, калі сталі суседзямі па кватэрах; ён жыў у ціхім завулку за вакзалам, у пані Дыбзінскай. Пані Дыбзінская была маладая ўдавіца з мяккім пышным воласам і ласкаваю даверлівасцю ў вачах, мела падлетка дачку, таксама ласкавую і пухлявую, нечым падобную на вярбовы каток, калі ўвесну ён укрываецца пухам. Дом быў ціхі, стаяў у глыбіні густога саду. У вузкім куткавым пакойчыку, які ён займаў, вечна панаваў халаднаваты змрок. Мабыць, ад халасцяцкага яго жыцця ў пакоі ўсё выглядала так, нібы пастаўлена выпадкова ці на пакуль што. Ложак з тонкіх металічных пруцікаў, з глыбока

ўлежаным матрацам — засланы бегла. Падаконнік заняты бог ведае чым: эмаліраваная рудая конаўка з чайнаю лыжачкаю ўсярэдзіне, драбок счарсцвелага хлеба каля яе; разведзенае ў запас чарніла ў цёмнай высокай пляшцы, заткнёнай скручаным з паперы коркам; алавянага колеру спонкі на ланцужку. І абавязкова пляшачка адэкалону, гранёная, з тоўстага цьмянага шкла, з шэрым прыцёртым коркам — наводдаль, асобна: гаспадар любіў, наліўшы ў даланю, павесці ёю па твары, змачыць рэдкія, старанна і гладка зачэсаныя валасы.

На стале — даўнім, масіўным, з прысадзістымі тумбамі — ляжалі вузка нарэзаныя лісткі паперы, густа спісаныя дробным почыркам, па многу разоў перакрэсленыя, бязлітасна пакрэмзаныя; на палях, касяком і ўпоперак, напісаны новы тэкст: танюсенькія лініі паказваюць, куды ён павінен устаўляцца. Часамі яны ляжалі доўга, гэтыя лісткі, на іх пачыналі класціся знакі забытасці. Нешта рабілася з ім, здавалася, ён баіцца таго, што сам стварыў, запар па некалькі дзён ён не бываў дома. Сапраўднай творчасці, мабыць, і гэта патрэбна: перайсці цераз сумняванні. Пасля, выпетралы і пачарнелы, ён паяўляўся наранкам, зноў прыкіпаў да стала і ўжо траціў адчуванне часу, перамешваючы дзень і ноч, зноў пісаў і перакрэсліваў, напаўняючы пакой сінім дымам і з рудое конаўкі пацягваючы густы ахаладзелы чай. Яго не было каму даглядаць, а пані Дыбзінская сама шукала спагады.

«У 1936 годзе я прыязджаў у Мінск, але праз дваццаць чатыры гадзіны пакінуў радзіму. Жыў у Марыйскай і Чувашскай АССР і з 1937 г. перасяліўся ў Петрапаўлаўск Казахскай ССР. Выкладаў у сярэдніх школах і тэхнікумах нямецкую мову».

І тут я трошкі перапыню яго. Недзе ў тым жа 1936 годзе я атрымаў ад яго ліст. Невясёлы, поўны адчаю і душэўнага болю. У тым лісце ён скардзіўся на адзіноту і забытасць, параўноўваючы гэта з заўчасным скананнем, бо наўрад ці ўдасца ўжо акрыяць, каб да прывычнай работы вярнуліся рукі. Я мала што разумеў у далёкіх і складаных тады акалічнасцях яго лёсу, не ведаў пра тыя яго дваццаць чатыры гадзіны і адказаў з бестурботнаю зухаватасцю: ты, бач, заўсёды любіў згушчаць фарбы, быў лёгкі на крыўды, а трэба ўмець падняцца на вышыню часу і пакорна панесці нават ахвяры, калі яны патрэбны вялікім ідэям і справам.

Час не мае літасці нават да ідэалаў. Шмат чаго, зробленага калісьці з чыстаю душою, часамі не хочацца ўспамінаць. Не ведаю, ці патрэбны грахі, калі яны нават святыя.

«Як пачалася Вялікая Айчынная вайна, першы год я як настаўнік меў браню. Але ўжо 6 мая 1942 года мабілізаваны

ў Чырвоную Армію... Наводчык мінамёта і ротны пісар. Пасля прарыву фронту мы рушылі к Бярэзіне. У бойках быў два разы кантужаны. На шчасце, лёгка. Асколкам мне прагнула сталёвую каску, але я хутка апрытомнеў і з строю не выбыў. Пасля фарсіравання Бярэзіны рушылі на Чэрвень, Мінск, пад Баранавічы, Слонім... Беласток... Фарсіравалі рэчку Нараў, занялі плацдарм... Наскочылі на нас «тыгры». Папаў у палон. 29 красавіка 1945-га пад Берлінам з палону ўцёк. І адразу ж аўтамат у рукі... У сярэдзіне жніўня 1945-га быў дэмабілізаваны з Савецкай Арміі па гадах. З 1 верасня 1945-га пачаў працаваць у Петрапаўлаўску ў сярэдняй школе настаўнікам, а 18 ліпеня 1947-га дазнаўся, што «няправільна» ўцёк з палону... У 1956-м усё як след высветлена. Зноў пайшоў працаваць настаўнікам у сярэдніх школах».

Нічога гэтага я ўжо не ведаў. Я лічыў, што ён загінуў. Асабліва лёгка так магло стацца пры яго непадаткім характары. Але аднаго разу Рыгор Бярозкін перадаў мне ад яго прывітанне. Як? Адкуль? Яны недзе бегла бачыліся пасля вайны, у абодвух у іх былі свае «няправільнасці», за якія ім было нявесела, а цяпер сяды-тады яны перапісваюцца. Я адразу ж паслаў яму ліст. Ён быў вельмі рад, што не ўсімі забыты. Тым, хто жывы і хто яго памятае, перадаваў прывітанне.

«Пачаў хварэць на гіпертанію і стэнакардыю... І вось у 1964 годзе з сям'ёю з раёна пераехаў бліжэй да медыцыны — у Караганду. Адзін год працаваў, а потым цяжка захварэў, работу пакінуў і перайшоў на пенсію па старасці».

Эпічна, спакойна, як пра чужое жыццё. Памятаю, на першым часе нашае перапіскі я папытаўся, ці не думае ён аднавіць у друку сваё імя: напісаць нешта новае, перагледзець ды перавыдаць старое. Ад перагляду старога ён тут жа адмовіўся: навошта яго пераглядаць, хіба тады я пісаў не так, як трэба? Але паслаў я яму яго ж апавяданне «Янка з Падлесся», перадрукаванае з колішніх выданняў на машынцы, збіраючыся ўключыць яго ў Анталогію. Ён здзівіўся: як многа чаго знайшлося папраўляць. І паправіў.

І відаць, што гэтая работа была яму ў радасць, яна ўсхвалявала яго. Я быў упэўнены, што цяпер ён не астыне, што рукі самі папросяць работы. І праўда, ён пачаў пісаць аповесць, чарнавік ён прыслаў у «Полымя», — тым самым дробным, крутым, мне добра вядомым чыркам. І аднак жа настае часіна, калі распараджацца сабою становіцца цяжка: давесці да ладу ён яе не паспеў.

«У 1968 годзе здарыўся прыступ інфаркту. Тры месяцы праляжаў у бальніцы і вось ужо цэлы год стараюся акрыяць... Часамі і выпіў бы, дык няможна...»

Эпічна, спакойна, як пра чужое жыццё. А мне ўсё не верыцца, што гэта праўда. Усё здаецца, што ён той самы — малады, гардаваты і самаўпэўнен, і толькі хітруе. Ён і калісь умеў хітраваць: бывала, пра кожную яго новую рэч я дазнаваўся толькі пасля таго, як яна была надрукавана. І, бывала, заўсёды любіў ухапіць вокам яго кароткае тугое імя: Сымон Хурсік...

***1969—1977***

## НЯСПРАЎДЖАНАЕ КАЛЕГАВАННЕ

Назва кнігі «Як вясну гукалі» да таго мне падабалася, што я карцінна бачыў Магілёўшчыну, далёкае, мілае ў ёй сяло з яго песнямі, карагодамі, варажбою, вячоркамі, купальскімі і начлежнымі начамі. І любіў невядомага мне, але добрага аўтара.

Потым выявілася, што ён таксама вучыцца ў універсітэце, гэты паэтычны пісьменнік Васіль Каваль[1]. Ці вучыўся ды пакінуў, але як бы зноў хоча вярнуцца. Аказалася, што ён зусім не пявучы, не такі паэтычны і ласкавы, як назва яго кнігі, а наадварот, маўклівы, спакойны, з чорнымі і цвёрдымі, а не светлымі і мяккімі валасамі, трохі насуплены, задуманы, трохі недаверлівы, з нізка апушчанаю галавою, з цяжкаю верхняю губою і як бы пужлівымі вачыма. Я паспрабаваў з ім падружыцца, але наткнуўся на стрыманасць і асекся. Потым зразумеў, што гэтая стрыманасць была яго характарам. Нават усміхаўся ён скупа, як бы баючыся, каб чаго нядобрага не падумалі пра яго ўсмешку. Мы з ім часта сустракаліся, але толькі выпадкова, як бы не хочучы, каб хто падумаў, што мы можам калегаваць. Бо дружба, калегаванне — гэта нешта несучаснае, сентыментальнае, маладушнае, нават мяшчанскае. Сапраўднае калегаванне павінна быць строгае.

Памятаю, на семінарскіх занятках мне выпала для разгляду тэма «Творчасць Васіля Каваля». Праводзіў семінар Адам Бабарэка, чалавек, які вельмі паважаў думку другога. Маючы сваю думку па нейкі твор, ён ніколі не глушыў чужой. На запяткі прыйшоў і Васіль Каваль. Памятаю, мяне гэта і радавала, і трошкі бянтэжыла. Я разглядаў тры кнігі: «Як вясну гукалі», «На загонах» і «Крыніца». У пазнейшых рэчах быў трохі чуцён уплыў Максіма Горкага, гэтак мне здавалася. Пра гэта я і сказаў, пашкадаваўшы, што Васіль Каваль пачынае аддаляцца ад самога сябе.

Семінар прайшоў нармальна. Адам Бабарэка разгляд ухваліў. Недавольны сабою астаўся толькі я сам: ці не пакрыўдзіў Васіля Каваля?

— Ды што ты, братка, — сказаў ён мне намнога пазней, калі мы ўмудрыліся на нейкую часіну астацца сам-насам у Доме пісьменніка. — Я сам ведаю, што гэта праўда, ды хвароба невялікая, яна пройдзе.

Потым, таксама намнога пазней, пайшла часіна, калі Каваль яшчэ больш унурыўся, цёмны з твару ад прыроды, яшчэ больш пацямнеў, тое, што пісаў, не радавала яго. Часіна гэтая цягнулася даволі доўга, ён то раптам знікаў, то паяўляўся нейкі разгублены, устрывожаны, як бы ў чым вінаваты. Пісалася яму цяжка, ён кідаўся з тэмы на тэму, ні ў адной не знаходзячы паталі. Нешта ўсё ў яго выходзіла выпадковае, зусім не блізкае яго душы.

Аднаго разу я ішоў дадому з цэнтра, у сваё Завакзалле, і нагнаў Каваля. Ён ішоў угнуўшы галаву, на ім нізка сядзела яго чорная суконная кепка, і мне здалося, што ён быў рад сустрэчы. Мы так і пайшлі далей ціхаю хадою — праз малады скверык, за вакзал, цераз пешаходны масток над чыгуначнымі пуцямі, у мой Піянерскі завулак.

Прадуктовая крама ад мяне зусім блізка, на рагу. Па сумным Кавалёвым настроі я зразумеў, што мне трэба туды забегчы.

Гаворка наша ішла паволі, як бы нехаця. І разам з тым я бачыў, як рад Каваль, што можа пагаварыць. Даўно я заўважаў яго душэўны неспакой. Я разумеў, што прычына на той час была, мабыць, агульная: у літаратурнай крытыцы быў модны вульгарны сацыялагізм, на любы твор можна было чакаць суровага, але несправядлівага прысуду. Гэтым я тлумачыў Кавалёву разгубленасць і трывогу, і тое, што ў яго творах усё прыцішвалася хваляванне, усё меншала і меншала ў іх непасрэднасці і душэўнасці.

— Душэўнасць, — паўтарыў Каваль. — То якраз жа яна больш за ўсё і небяспечная. Іменна яна павядзе за сабою ўсякія перажыванні, ваганні, няпэўнасці, а гэта ж і будзе называцца дробнабуржуазным самакапаннем. А можна пайсці і далей: душэўнасць — гэта душа, а душа — папоўства, ідэалізм. Вось паспрабуй і здагадайся, як трэба пісаць.

Каваль не любіў гаворкі з тэарэтычнымі ўхіламі, і я падзівіўся, што хапіла ў яго духу на такі доўгі маналог.

Я ніколі не быў вялікім ахвотнікам выпівання. Аднак убачыў, што пляшка ўжо апусцела, а ў нас і галовы яшчэ як бы зусім чыстыя, і ні пра што людскае мы як след і не перагаварылі.

На стале нудзіліся астаткі халасцяцкай закускі: разрэзаныя галоўкі цыбулі, абгладаныя хрыбціны нейкай сухой рыбіны; чарсцвее разламаны акраец хлеба; рассыпаны сінія крышталікі нядбайна растоўчанае солі.

Каваль гаворыць ціха, палажыўшы галаву на ўзлакочаныя рукі, на вочы яму напускаецца цвёрдая, чорная пасма густых валасоў, што так упарта не хочуць, каб іх зачэсвалі назад. Ён не можа доўга глядзець у вочы, толькі час ад часу з-пад ілба кідае на цябе позірк. І аніяк не развесяліўся. Нейкі глыбокі одум трывожыць яго. Я падумаў, што мне, мабыць, зноў трэба збегаць у краму.

Мы праседзелі з ім увесь вечар, і, мабыць, ні разу не было ў нас такой добрай і блізкай сустрэчы, як гэтая. Мы ўспомнілі і універсітэт, і мой разгляд яго творчасці, і сваіх сяброў і таварышаў. Гаварылі пра самастойнасць і ўплывы, зноў пра крытыку, сумленную і несумленную, глыбокую і павярхоўную. Пра тэмы, гістарычную і сучасную, пра тое, што стала нялёгка пісаць, бо літаратура набывае сталасць.

Каваль вельмі цяжка раскрываўся перад другімі. Нават калі ў яго было гора, няшчасце, нейкая крыўда, ён перажываў усё гэта сам, адзін, ні ў кога не шукаючы спагады.

— Ты разумееш, самае страшнае, што я стаў не верыць сабе як пісьменніку, — сказаў Каваль. — Гэта не дае мне быту, я не ведаю, што рабіць з сабою. І калі жывеш з такімі думкамі дзень за днём і не бачыш прасветліны, можна звар’яцець...

Вельмі тонкая рэч — псіхалогія творчасці. Першыя кнігі Васіля Каваля — гэта паэмы пра зачараваны край, пра вёску і спрадвечны лад жыцця селяніна. Гора, бяда, нараджэнне і смерць, праца і ўслаўленне яе, — паказу гэтага ладу жыцця падпарадкавана ўся паэтыка Кавалёвай творчасці.

І раптам усё гэта гіне. Калгасы. Яны бязлітасна перайначваюць базу, а значыцца, перайначваюць і спрадвечны патрыярхальны лад жыцця. Свядомасць. Псіхіку. Пісьменніку трэба быць наперадзе часу, паказваць іменна вось гэтую перайначаную псіхіку, а вобразы не гатовы да гэтага, яны фальшывяць. Каваль як мастак добра ведае, што калі вобраз фальшывіць, то ён не можа быць мастацкім. І самая блізкая і родная тэма — вёска, яе побыт, паэтычны і песенны лад — робіцца непапулярнай, асучасванне яе выглядае падробкаю. Каваль шукае сабе іншых тэм, піша «Ільку», прымушаючы нават цыганоў шукаць сабе сацыяльнага выратунку ў сялянскасці. І непадкупная Кавалёва душэўнасць і лірычнасць штораз усё блякне і блякне.

— Я хачу з сабою нешта зрабіць, — кажа Каваль. — Можа, на які час перастаць пісаць, можа, дзе паездзіць па людзях, пабыць на будоўлях, нарэшце, на год ці на два стаць рабочым. І вось мучуся гэтым, маладушнічаю і перажываю. А пісьменніку быць нясмелым — проста няможна.

За акном змяркае. Стол наш пусты. Мы за ім і насядзеліся, і нагаварыліся.

І раптам я ўспомніў, што ў мяне два білеты на «Вясёлую ўдаву».

— Давай сходзім, — кажу я, — нельга, каб білеты прападалі.

Выняўшы з кішэні пінжака, гэтыя білеты я разгортваю перад Кавалём, каб ён пераканаўся, што і папраўдзе нельга прапускаць такога шчаслівага выпадку. І тым часам спрабую ўявіць, як нехта чакаў мяне на гэты другі білет. А можа, як-небудзь удалося прайсці?..

Мы кіруемся к тэатру, я стараюся прыбавіць хады, бо гэта не так блізка — на вуліцы Валадарскага, але Каваль ідзе паволі, раздумна. І ўжо на шырокіх прыступках, перад самымі дзвярыма, ён спыняецца і кажа:

— Не, не трэба. Лепш я схаджу да Полі.

Я ведаю гэтую яго дзяўчыну, Полю Басінкевіч: толькі нядаўна быў прыемна здзіўлены (бо не верылася, што Каваль асмеліцца на заляцанне), убачыўшы, як прайшлі яны ўдваіх міма мяне, ён — павольны, унураны, лапцявата ступаючы, у глыбока насунутай чорнай суконнай кепцы; яна — невялічкая, складненькая, з ціхім, пакорліва-ласкавым тварам, нейкая ўся даверліва-ўтульная, яшчэ зусім дзеўчанё. Ну што ж, падумаў я, пасля нашай гаворкі яму якраз і трэба пабыць з ёю.

Кантралёрка здзіўлена паглядзела на мяне, зірнула ў білет, ціхенька, угнуўшыся, правяла мяне па цёмнай зале, ледзьве чутна шапнула «тут» і паказала на мой рад. Я праціснуўся, таксама ўгінаючыся, на сваё месца і адразу трывожна ўбачыў, што нікога на мой другі білет няма. Не дачакалася, прыйдзецца заўтра апраўдвацца, падумаў я і пачаў збіраць увагу на тое, што рабілася на сцэне. Але хутка заслона апусцілася, залу заліло яркае святло.

Лепш я не буду падымацца, падумаў я, праседжу антракт тут, бо нехта ў фае патрапіцца знаёмы, убачыць, што я выпіты. Лепш перачакаю тут... А можа, яна не прыходзіла? Не, мабыць, вельмі чакала і пайшла адна дадому. Ох, і цяжкая ж будзе гаворка заўтра. Але ж у мяне і папраўдзе была важная прычына...

У часе вось гэтакіх горкіх разважанняў я пачуў, як нехта дакрануўся да майго пляча.

Я падняў вочы. Перада мною стаяла добрая, мілая жанчына, Жэня Семяняка, машыністка Дома пісьменніка.

— А вы чаго сядзіце?

— Хачу тут перабыць антракт, — кажу я. — Каб не надта мяне бачылі.

— Які антракт, гэта ж канец!

Я азірнуўся: праўда, на ўсёй зале, з канца ў канец, ні аднюсенькага чалавека.

— Хадзем, — сказала яна. — Я бачыла, як вы зайшлі, як селі. Ведама, трохі здагадалася. А тады гляджу, усе выходзяць, а вас няма. Бярыце мяне пад руку, — сказала яна, — не перажывайце, усё нармальна...

***1976***

## НАРАЧАНСКІ ЧАРАЎНІК

Здаецца, гэта было зусім нядаўна, калі ў нашым каралішчавіцкім Доме творчасці жылося і працавалася зусім іначай. Цяпер рэдка каго з пісьменнікаў там убачыш, шмат у каго, дзякуй богу, завяліся свае лецішчы, працаваць можна дома, а бывала, бадай што ўся творчая работа праходзіла там. Прыязджалі найбольш увосень ці ўзімку, а ўлетку чаргавалі работу з адпачынкам. Работа звычайна займала першую палавіну дня, а пасля полудня хто чытаў, хто выходзіў на паляначку перад домам прабавіць час у размовах, хто, гукнуўшы сабак, пускаўся па лясных сцежках у грыбную ці ягадную вандроўку, а хто, пабраўшы кіі, выходзіў на гравійку, робячы шпацыр аж да самай рэчкі, у час якога звычайна прадумвалася тое, што не вытанцоўвалася за пісьмовым сталом. Тут гулялася вельмі добра: бывала, ідзеш, як у глыбока прасечаным сярод лесу зялёным тунелі, зверху накрытым палоскаю блакітнага неба, а шэрая нітка дарогі то ўзбяжыць на пагорак, то апусціцца ў нізовінку.

Праведаць каралішчавіцкіх творцаў часамі наязджаў і Міхась Лынькоў. Такая падзея адразу набывала сваю прыкмету: на палянцы перад домам раптам паяўляўся абярэмак хмызняку. Неўзабаве абярэмак вырастаў у ладную кучу ламачча, потым нехта прывалакаў корч, а яшчэ нехта — добрую сухастоіну. І ўсе ўжо ведалі, што перад домам будзе раскладзена вогнішча.

Раскладалі агонь і без Лынькова, але што гэта быў за агонь — смехата, на яго нават мала хто збіраўся. А лынькоўскі

агонь — гэта рытуал, чарадзейства, гіпноз. Можна падбіраць бог ведае колькі высокіх слоў, але яны мала перададуць адчуванне сапраўднага набажэнства, якому аддавалася ў такія часіны ўся істота Міхася Лынькова. Усё жыло ў нейкім узнёсла-зачараваным руху: вочы, твар, пастава ў бронзавых водблісках полымя.

Я перапыню апісанне гэтага свяшчэннадзейства, бо толькі што зрабіў даволі шчаслівую памылку. Звычайна, калі пішаш пра нейкую нагоду ці з'яву і ведаеш, што прыблізна гэтакай жа справай заняты і нехта другі, стараешся пільнавацца добрага такту і не чытаць яго. Але вось у газеце ўбачыў успаміны Янкі Брыля і не ўтрываў, прачытаў. І добра зрабіў. Аказваецца, пра многае, што я збіраўся гаварыць, вельмі кампактна і добра сказана Брылём — пра тыя ж вогнішчы і карчы; пра нарачанскае катанне на лодцы; пра чуласць, дабрату, спагаднасць і рыцарскую чэснасць Лынькова. Нямала на сабе я адчуў гэтыя яго душэўныя якасці і лічу, што Брыль як бы і за мяне ўдзячна расказаў пра ўсё гэта. Я ж тым часам пастараюся ўспомніць што-небудзь іншае.

Але не, чутачку ўсё ж паспрабую затрымацца: у Лынькова было яшчэ адно, як цяпер кажуць, хобі — фатаграфаванне праз агонь. У тых жа Каралішчавічах Лынькоў некалькі разоў ставіў мяне з дачкою на той бок вогнішча, доўга прыладжваўся, то падымаючы апарат над галавою, то цяжка прысаджваўся, відаць, перамагаючы боль у нагах, каб падцікаваць хвілінку і зняць нас у гарачым паветры, што празрыста дрыжала над агнём. Але выходзіла ўсё нешта не так як трэба — можа, быў не той агонь, не тое паветра ці занадта многа збіралася людзей. Лынькоў зашпіліў апарат і сказаў:

— Давай, уюнаш, адсюль паедзем.

Лынькоўскі шафёр на лынькоўскай «Пабедзе» павярнуў па гравійцы направа, мінуў адзін пагорачак, другі, цераз неглыбокую канаўку крутнуў яшчэ раз направа, на вузенькую лесавую дарожку, і спыніўся па паляначцы, поўнай нейкага зацішнага, паэтычнага хараства, нават са смаловым карчом пасярэдзіне. З якою ахвотаю сваім маленькім гуртам мы збіралі па лесе сухі хмызняк, перасохлыя аскабалкі! Якое цудоўнае, у меру празрыстае і ціхае было наша вогнішча! І на якога добрага і шчаслівага чараўніка быў падобен Міхась Лынькоў! Ён пстрыкаў і пстрыкаў апаратам праз вогнішча, ласкава буркочучы:

— Малайцы! Яшчэ трошачкі ўбок ступіце, ага, вось так. Птушанятка маленькае, як цябе там, — Галачка? — чутачку больш прытуліся да таткі. Ну вось! Не-не, яшчэ разок станьце!..

* * *

Дадому да Лынькова мяне прывяла нейкая дзелавая патрэба. Няйначай гэта ў той раз, калі Дзяржаўнае выдавецтва даручыла мне весці «Бібліятэчку беларускага нарыса і апавядання». Трэба было перагаварыць з Лыньковым пра запланаваную яго кніжку «Агні Танганьікі», бо сам ён не вельмі рупіўся, каб папасці ў той план. Я, ведама, і пачаў з дзелавой размовы.

— Пачакай, дарагі ўюнаш, усё паспеем зрабіць, перш давай пасядзім трошкі, ты ж у мяне ў гасцях першы раз.

Рабочы пакой у Лынькова быў не так і вялікі, але ўтульны, з балконам у ціхі двор. У ім не было нічога лішняга: пісьмовы стол, два крэслы, канапа і аж да столі ўстаўленыя кнігамі стэлажы, што займалі спрэс дзве сцяны. Стэлажы зашклёны так, што кожная палічка ў кожнай секцыі мела свае, як кажуць, аўтаномныя дзверцы, яны неяк хітра адчыняліся знізу, утопліваліся ў стэлаж, падымаючыся над палічкаю казырком і даючы зручны доступ да кніг. На адной з круглых точаных ручак на такіх дзверцах вісеў начэплены на плечкі гаспадароў гарнітур. (Пазней я пераканаўся, што на гэтым месцы, каб быць напашэве, ён вісеў заўсёды.)

— ...Ды, можа, я табе што-небудзь пакажу ці раскажу, мой дарагі інак Іаане, — далей вёў сваю гаворку Лынькоў. Ён называў мяне то ўюнаш, то інак Іаане.

З ніжніх шафак, што служылі стэлажам за тумбачкі, Лынькоў пачаў вымаць перавязаныя папкі, вялікія канверты з чорнай храбусткой паперы. З іх ён выкладаў на стол то малыя, то вялікія фотаздымкі з не нашымі гарадамі і пейзажамі, з не нашымі людзьмі і з не нашым гарачым сонцам. Пра кожны фотаздымак Лынькоў нешта расказваў, і гэтыя расказы і фотаздымкі вадзілі мяне бог ведае дзе — па Стакгольме і Капенгагене, па Амстэрдаме і Рыме; я пралятаў над Грэцыяй, Турцыяй, Іранам, рабіў вымушаныя прыпынкі ў нейкіх неспадзеўных мясцінах. Больш за ўсё я вандраваў па Індыі, гэтаму мне памагала экзотыка, набытая з розных кніг і чутак — пра змеяў, што танцуюць пад музыку, факіраў, ёгаў. Якраз, здаецца, тады Лынькоў ці то рыхтаваў, ці то пісаў ужо свае ўспаміны «З зарубежных вандровак», і яму, відаць, было вельмі дарэчы сёе-тое аднавіць з сваіх дыпламатычных ваяжаў.

Потым паявіўся праектар, я мяняў у ім здымак за здымкам і мог, як кажуць, прадметна пабываць у розных краінах, пабачыць самыя найвыдатнейшыя цуды свету — вадаспады, пірамiды, храмы, музеі, масты...

Потым на стале паявіліся сувеніры. Чаго толькі там не было: самыя дзівотлівыя вырабы ад значкоў аж да чорных блішчастых чарцей.

Потым паявілася Соф'я Захараўна і ўсё перапыніла:

— Мабыць, ты чалавека бязбожна натаміў, — гэта да Лынькова. А тады да мяне: — Давайце лепш пяройдзем у сталавальню...

Ужо дома я беражліва выняў з партфеля сувеніры, без якіх Лынькоў не мог мяне адпусціць: індыйскую цыгарэтніцу і асадку. Цыгарэтніца зроблена з сандалавага дрэва, яна і да гэтага часу вылучае нейкі бальзамічны пах, міжволі рысуючы ў уяўленні вобразы далёкай, але нечым мілай і спакуслівай Індыі. Асадка вытачана з косці, і мне здаецца, што абавязкова з слановай, яна звінчваецца з дзвюх частак: у свідравіну ў ніжняй устаўлены ажурны слупок, ім павінна заціскацца пяро; на верхняй, спусцістай, вытачана некалькі мяккіх круглаватых патаўшчэнняў, самы ж верх пераходзіць у танюсенькі спічак, нагадваючы нечым усходнюю рытуальную архітэктуру.

* * *

Хочацца і яшчэ адным выпадкам расказаць пра далікатнасць душы Міхася Лынькова. Але і расказванне гэтае патрабуе далікатнасці.

У свой час Дзяржаўнае выдавецтва даручыла мне рэдагаваць раман Лынькова «Векапомныя дні». Мяне гэта не на жарт злякала. Па многіх прычынах. Першае, на рэдактарскую работу я прыйшоў пасля даволі доўгага перапынку і не вельмі быў упэўнены, што ўсё ў мяне ідзе да ладу. Другое, ад самага таго маладнікоўства, калі мы былі на з'ездзе і нават сфатаграфаваліся разам на двары Інбелкульта (на задняй высокай лаўцы пры чырвонай цаглянай сцяне, Лынькоў у шынялі з папяросаю ў адстаўленай руцэ, я, поруч, у кажушку і ў вясёлай кепачцы), ад таго даўняга часу я ўспрымаў Лынькова толькі як свайго літаратурнага настаўніка, — то ці меў я права быць яго рэдактарам? Лынькоўскія апавяданні «Гой», «Над Бугам», «Андрэй Лятун», «Баян», «Сінія галіфэ», такія ўзнёслыя і рамантычныя, былі мне як музыка. Калі крытыка часам называла Лынькова прадстаўніком беларускай арнаментальнай прозы, то я ганарыўся, што і мяне часамі называлі арнаменталістам, не ўдаючыся ў сутнасць — добра гэта ці блага. І раптам — быць яго рэдактарам! Трэцяе, я ніколі не быў раманістам, творы шырокага плану мне процілаказаны, а тут раман на чатыры ці,

можа, на пяць кніг! Ды ці згодзіцца на гэта сам Лынькоў? Але ўваходзіць у пакой рэдакцыі галоўны рэдактар выдавецтва Янка Шарахоўскі і, убачыўшы маю збянтэжанасць, кажа:

— Міхал Ціханавіч ведае, і ты, пане-браце, не трапячыся.

Але ўсё роўна я неспакойны: мне трэба пачуць гэта ад самога Лынькова.

— Уюнаш, усё нармальна, — сказаў Лынькоў, калі я з ім пабачыўся. Мы з ім прайшліся па выдавецкім вузенькім калідоры, і ён, як звычайна, перасыпаючы гаворку царкоўнаславянізмамі, тлумачыў: — Тут у нас з табою патрэбна вось якая прадмова, дарагі інак Іаане: гэты мой раман-эпапея, а калі сказаць высокім шцілем, дык раман-апупея, пісаўся мнозі леты і зімы, і натуральна, што ён высіліў мяне да крывінкі. Я, уюнаш, добра разумею, што там будзе многа лішніцы, і ты не будзеш ведаць, што з ёю рабіць. А мне якраз і трэба, каб ты не баяўся. Я тваю руку ведаю, дзярзай, уюнаш, а я буду ўпаваць на тваю літасць, а найпача на строгасць. Дзярзай, кажу!

Прыйшлося дзярзаць. Але ўсе заўвагі і алоўкавую ахвочасць на палях рукапісу я паказаў Лынькову. На маё дзіва ён толькі сказаў:

— Уюнаш, усё ў норме.

І вось пасля некаторага часу, калі раман выйшаў з друку, Лынькоў падхапіў мяне на сваю «Пабеду» і завёз на нарачанскае лецішча.

Тут я баюся расказваць многа, бо было ўсё нармальна лынькоўскае і, мабыць, усім вядомае. Было выношванне з хлевушка і начэпліванне на лодку матора, добрасумленнае тлумачэнне, якія найлепшыя якасці мае «Віхор», а якія «Масква», што адзін з іх трэба збыць, а другі набыць; было катанне па возеры з заездам на востраў, чароды качак, якія то ўзляталі, патрывожаныя намі, то зноў садзіліся на ваду і аніяк нас ужо не баяліся; была перавозка карчоў на бераг, тое самае чарадзейнае вогнішча, за якое сябры назвалі Лынькова нарачанскім чараўніком; была вячэра ў сцішаным адвячоркавым доме з высокімі светлымі пляшкамі нетутэйшага віна на стале, якое гаспадар наліваў у такія ж высокія і светлыя келіхі.

— Давай, дарагі інак Іаане, падымем сіі чашы ды пабачым, якімі акрыдамі і дзікім мёдам, сабраным з тутэйшых угодзій, участуе нас прападобная Соф’я Захараўна.

Як звычайна, ішла нейкая гаворка, ішоў час. Я ўсё чакаў, што Лынькоў нейкім чынам упомніць «Векапомныя дні» — цяпер,

мабыць, аўтарская думка пра іх усталявалася, выявілася тое, чым можна радавацца, і тое, што засмучае.

У мяне між тым у душы ўвесь час жыла трывога, ці не парушыў я ў тым маім рэдагаванні меры добрага чалавечага і прафесійнага такту. Няйначай трывога была відна, бо Соф'я Захараўна знайшла спосаб перапыніць яе.

Яна, мабыць, разумела, што зручней за ўсё такую тонкую аперацыю належыць выканаць ёй.

— Памятаю, як вы хваляваліся, калі браліся за рэдагаванне Міхасёвага рамана, — сказала яна. — А цяпер жа намечана выдаць яго ў Маскве. Дык Міхась сядзіць і ўсё падціскае і падціскае яго.

Усё. Божухна, колькі найчуйнейшай дыпламатыі ў гэтых жанчын! Яна выручыла і мяне і падбіла Лынькова нарэшце супакоіць мае трывогі.

— Некалі, уюнаш Іаане, я сказаў табе, што ўсё ў норме. Гэтак яно і ёсць, ты дзярзнуў вельмі добра. То, можа, давай хоць цяпер зробім божаскую справу ды акрэпім святою вадзічкаю тое наша дзярзанне. Налей з гэтай добрай нагоды, дарагая Соф'я Захараўна, паўней нашы келіхі.

***1977***

## ЛІСТ НЕ БУДЗЕ АДАСЛАНЫ

Дзядзька Бядуля, я перад Вамі вельмі вінаваты. Паслухайце, што прычынілася са мною. Вось у маіх руках запрашэнне на вечар, прысвечаны дзевяностагоддзю з дня Вашага нараджэння. Ён меўся быць, як і належыць па календары, 27 красавіка 1976 года ў вельмі прыветным Доме мастацтваў, што некалі — памятаеце? — зваўся Юбілейным домам. У свой час у ім мясціўся этнаграфічны музей, потым Дзяржаўная бібліятэка. А потым яго падвысілі, адкапаўшы цокальны паверх, зрабілі там клуб з усімі наменклатурамі, што належыць мецць клубам, а ўнізе кавярню, даволі-такі ладную, шмат хто туды забягае. Я ведаю, што гэтакімі рэчамі Вы не займаліся, і таму распісваць не буду, а павяду гаворку далей.

У запрашальным білеце напісана праграма вечара. Напісана, што ўступнае слова на ім скажа Іван Чыгрынаў — ён цяпер у нас за сакратара Саюза пісьменнікаў, нішто сабе хлопец і добры пісьменнік. Даклад «Жыццё і творчасць Змітрака Бядулі» прачытае кандыдат філалагічных навук Віктар Каваленка (таксама Вы яго не ведалі, разумная галава), і, нарэшце, з успамінамі пра

Вас выступяць пісьменнікі і дзеячы культуры. А на заключэнне будзе мастацкая частка. На гэтым жа білеце такое знаёмае і блізкае сэрцу Ваша аблічча — графічны партрэт, аўтар якога, на жаль, невядомы. Чамусьці не заведзена ў нас называць, хто рабіў, напрыклад, вокладку на часопісы «Полымя», «Новый мир» ці, скажам, «Наш современник». Часамі мы не ведаем, чыё фота ці рысунак змешчаны ў нейкай кнізе або чыя пастаўлена недзе скульптура. А гэтым, бывае, карыстаюцца несумленнікі ці няўмекі.

Я таксама падакляраваў выступіць на Вашым вечары, і вось прычынілася такая нечаканасць, што...

Але чакайце, лепш я ўсё раскажу з самага далёкага пачатку.

* * *

Памятаю, я ніколі не спадзяваў, што нейкае звычайнае слова або некалькі спалучаных слоў могуць гэтак скалануць душу. «На зачарованых гонях» — вось якія былі гэтыя словы. Чаму яны мяне ўразілі? Першае: бо яны былі як бы з нашае хаты, з таго спрадвечнага скарбу, які завецца матчынаю моваю. А другое — я і сам не ведаю: мабыць, тое, што яны неслі ў сабе як бы нейкую трапяткую тайну. Чалавек усё жыццё на нешта спадзяецца: на тое, чаго няма, але ў што трэба верыць. Гоні — гэта ж зямля! І вось яна зачараваная: чым жа спатоліць яна адвечную чалавечую веру? Якія трэба знайсці заклёны, каб усё жыццё поруч з чалавекам ішла толькі добрасць і не было бяды? Вось якім сэнсам дыхнула на мяне назва Вашае кнігі. І аж да гэтага часу я памятаю такія шэдэўры з яе, як «Малыя дрывасекі», «Пяць лыжак заціркі», «Летапісцы», «Гора ўдавы Сымоніхі». Не, не знайшлося чараў, каб і малыя, і вялікія жыхары з Вашых апавяданняў тады, на тым далёкім Вашым часе, пазналіся з добрым лёсам.

З гэтае кнігі я і палюбіў Вас, дзядзька Бядуля. Бо тое, што пісалася ў ёй, я бачыў на свае вочы: і ў нашых Труханавічах, і ў Гарадзішчах, і ў Гольчычах. Кранала гэта і нашае сям'і.

Нейкім чынам я знайшоў і Вашы «Абразкі», выдадзеныя ў Пецярбургу ў 1913 годзе самаахвярным выдавецтвам «Загляне сонца і ў наша ваконца», і ці не там толькі ўпершыню прачытаў Вашу імпрэсію «Пяюць начлежнікі», ад якой і да гэтага часу чую і тую ноч, і начлежныя галасы, і звон цугляў, і хрумстанне коньмі ахаладзелай роснай травы.

А яшчэ памятаю Вашы вершы. Вы падпісвалі іх прозвішчам Ясакар. У іх многа было казачнага і таксама таямнічага, і нават

вусцішнага, ад чаго хацелася чытаць іх больш і больш — яны нечым палохалі і некуды заварожліва звалі. А можа, галоўная вабнасць вершаў была ў самім прозвішчы? Памятаю, перад Слуцкам ішлі старыя прысады: высокія таполі з вузка сціснутым галлём і спічастаю вяршыняю. Цяпер я ведаю, што яны завуцца пірамідальнымі, а тады за іх імклівае хараство і нейкую паэтычную нетутэйшасць я называў іх Вашым прозвішчам — ясакарамі. Ці мала ў чым, бывае, мы памыляемся і вельмі шкадуем, што тая памылка не асталася праўдаю.

* * *

Мне вельмі не ставала таго, што я Вас ніколі не бачыў. І вось нарэшце я прыехаў у Мінск. Я ўжо сам нешта патроху крэмзаў, і калі што больш-менш удавалася, то з падзякаю ў сэрцы памятаў, што на празаічную пуцявіну мяне скрозь падбівалі кнігі дзядзькі Коласа і Вашы. Праўда, на той час напаткаў мяне грэх: па розных прычынах, а найбольш, мабыць, ад браку элементарнай літаратурнай падрыхтаванасці я схаўрусаваўся з тутэйшым нашым футурызмам, далёкім складу мае душы. Вельмі пашкодзіў ён мне, збіваючы на манернасць і крык, але трэба быць справядлівым — шмат чаму і навучыў: навучыў лаканічнасці, строгасці і дысцыпліне слова.

Не памятаю, дзе я Вас упершыню ўбачыў, памятаю толькі, што доўга на Вас глядзеў. Невысокі ростам, у чорным гарнітуры, з пышна-кучараваю галавою, з характэрным тварам, на якім асабліва вылучаліся вочы і губы. Вы стаялі на вуліцы і гаварылі з больш высокім за Вас чалавекам. Разам з ім Вы і пайшлі, ступаючы вельмі мякка, гаварылі нямоцна, падкрэсліваючы свае словы скупым, нясмелым жэстам рукі. Вы як бы клапаціліся, хаця б не пакрыўдзіць субяседніка няласкавым тонам ці якім неасцярожным словам. І ў Вашых вялікаватых вачах і ў поўных губах было столькі цішыні і добрасці, што міжволі падумалася: вось таму і ў творах Вашых так многа паэзіі. Можа, я памыляюся, можа, дзе трэба, Вы былі і строгі, і нават жорсткі, бо трэба прызнацца, што без гэтакай якасці абыходзіцца пакуль што проста нельга.

Потым прыкмячаць Вас я стаў усё часцей і часцей, мне было прыемна, што Вы як бы вылучалі мяне нейкаю асабліваю ўвагаю. Часам я бачыў Вас разам з Мар'яй Ісакаўнай і доўга глядзеў Вам услед, бо ў Вашай лучнасці было нешта не зусім звычайнае: яна была высокая, стройная, прыгожая нейкаю нетутэйшаю, як бы пужліваю прыгажосцю, і нястрымна імклівая.

Пра ваша рамантычнае, як бы нетутэйшае каханне і сямейную ладнасць хадзілі прыгожыя чуткі, і гэта яшчэ больш вылучала Вас з агульнае прывычнасці.

Я схіляўся перад рамантыкай і Вашай дзейнасці: Вы былі рэдактарам такіх часопісаў, як «Зорка», «Наш край», пісалі артыкулы пра народную творчасць, выяўленчае мастацтва, тэатральныя справы і стан грамадскай думкі на Беларусі. Вы былі пісьменнікам вялікай мары, гэта значыць, абуджалі сацыяльную і нацыянальную свядомасць народа.

Ва ўсе часы людскога высокага рушэння гэтакая чыннасць слушна прызнаецца найпачэснейшаю.

* * *

Не памятаю, ці гаварыў я калі з Вамі пра Вашага «Салаўя». Я задыхнуўся, прачытаўшы гэтую аповесць. За такою лірычнаю ласкавасцю і душэўнасцю гэтулькі народнага гора, суровай адвагі і — сацыяльнай несправядлівасці і жорсткасці часу. І аднак жа, нягледзячы на зусім іншую напоўненасць, нейкі пярэгалас яе адчуваўся з далёкімі і мілымі мне «Начлежнікамі». Колькі разоў, у розных рэдакцыях, перачытваў я вось гэты пачатак:

«Вясна.

Дазвольце чытачу маляваць вясну па свайму густу.

Салоўка спявае.

Ці варта чапаць гэту маленькую шэрую птушачку?»

Праз колькі радкоў, вар'іруючы далей гэты пачатак, Вы зноў — і раз, і другі — як бы пыталіся ў чытача пра маленькую шэрую птушачку — ці варта яе чапаць. Мне гэта вельмі імпанавала, хацелася і самому вось гэтак жа пісаць.

Ад Вашага «Салаўя» было добра і Вам, і Вашым чытачам. Вы хадзілі як бы нейкі памаладзелы. І от жа зусім нечакана — «Язэп Крушынскі». Гэта было вельмі, як кажуць, законна, бо Вам, як і шмат каму (і тады, і цяпер), хацелася моваю душы дакрануцца да сучаснасці. Але (і тады, і цяпер) рабіць гэта вельмі цяжка. Вульгарна-сацыялагічныя крытыкі пачалі Вас рэзка вучыць, як трэба пісаць, а кожны (і тады, і цяпер) можа пісаць толькі па-свойму, і таму другі том «Крушынскага», які Вы паспрабавалі пісаць не па-свойму, даў Вам асабліва многа клопату. Вы вельмі чулліва пераносілі ўсе заслужаныя і незаслужаныя нараканні. Вы сталі хмурны, прыцішаны, нават разгублены. Вашы дзівосна адкрытыя вочы як бы ўсім гаварылі: «Божухна, што я нарабіў!» І Вы папраўлялі і папраўлялі свайго «Крушынскага», але гэтым

ні кропелькі не паправілі бяды, бо мастацтва не пераносіць фальшу. І з таго часу нейкая ціхая, насцярожаная трывога не пакідала Вас. Вы як бы нават асцерагаліся гаварыць з людзьмі.

— Дзяньдобры, дзяньдобры, — сказалі Вы аднаго разу мне бегла. Потым спахапіліся, што нявартa ўдаваць, нібы Вы на мяне за што сярдзітыя, вярнуліся і падалі мяккую руку. — Ну як жа пажываеце, скажэце? — папыталіся Вы. — Нешта, мабыць, важнае пішаце, бо мала дзе вас відно? — Вы развіталіся, але зноў вярнуліся і заклапочана зірнулі на мяне: — Слухайце, дык вы, кажуць, ажаніліся? Ну то віншую і скажу, што вельмі добра зрабілі, спарней пойдзе работа...

* * *

Вельмі шкадую, што ніколі з Вамі не параіўся наконт адной рэчы. Бо аж да гэтага часу не ўпэўнены, што правільна пішу Ваша імя.

Звычайна, калі я пішу, то абавязкова правяраю фразу на голас. Не кніжную, а народную, бытавую фразу. Я павінен уявіць, як скажа яе нехта другі. Вось на маёй Случчыне звычайна гаварылі: «Прыйшоў Змітрок», але — «Няма Змітра», «Скажы Змітру», «Параімся са Змітром». І мне здаецца, што форма, у якой цяпер скланяецца Ваша імя — Змітрака, Змітраку, Змітраком, — не народная, а кніжная. Можа, я і памыляюся, бо, каб сцвярджаць гэта, трэба ведаць жывую гаворку ўсіх куткоў Беларусі. Ды гэта, па сутнасці, не мае і значэння, бо так прывыклася і ніхто нічога мяняць не будзе. Мяне цікавіць тут бок чыста мовазнаўчы: правільна ці няправільна я адчуваю законы формаўтварэння слова. І ўсё ж часамі вельмі хочацца падскочыць у той Ваш Пасадзец і паслухаць — як жа гавораць людзі.

* * *

Мяне часта не пакідае трывога, хаця б усё, што звязана з Вамі, не загінула ці не перайначылася. У нашым «Вячэрнім Мінску» (як бачыце, у нас даўно ўжо ёсць свая вячэрняя газета, дый, трэба сказаць, вельмі неблагая, калі не лічыць, што некаму ў ёй цяжка даецца мова). У «Вячэрнім Мінску» надрукавана фота дома, у якім Вы калісь жылі. Днямі я хадзіў паглядзець на той дом: ён стаіць сярод садоў бадай што на самым пачатку вуліцы Льва Талстога, драўляны, яшчэ здаровы і ладны, на высокім падмурку, на два высокія ганкі, з шырокімі вокнамі і

шыферным дахам. На рагу да сцяны прыбіта мемарыяльная дошка, на якой напісана, што Вы жылі там у 1915—1918 гадах, а з Вашых і чужых успамінаў вядома, што пэўны час разам з Вамі там кватараваў і Максім Багдановіч. Дом яшчэ трывалы, калі яму патрэбна якая направа, то яе лёгка зрабіць: параскідаць самадзейныя прыбудоўкі і прыгарадкі, якія тут майстраваў кожны новы гаспадар.

Дарагі дзядзька Бядуля, каб Вы ведалі, як разбудаваўся наш Мінск! Вы не пазналі б яго, ён стаў не толькі прыгожы, а і вялікі. Дайшла чарга і да Вашага Завакзалля: то там, то там над садамі падняліся лёгкія гмахі, як бы сплеценыя з блакітнае вышыні і адных толькі вокан. Я зарадаваўся гэтаму, але тут жа і спахмурнеў. Я ўбачыў, што нядаўна тут папрацаваў бульдозер: за домам відна расчышчаная пляцоўка, мабыць, пад бытоўкі, якія звычайна ставяцца пры ўсіх салідных будоўлях, а па садах і агародах, распіхваючы іх у бакі, лягла шырокая палоса свежанаварочанае зямлі — толькі што праложаная лінія падземнае гаспадаркі. Прызнаюся, я спужаўся: я зразумеў, што Вашаму дамку асталося жыць тут вельмі нядоўга.

Але я не даў волі гэтай панікёрскай думцы, мне захацелася падумаць зусім іначай. І тут жа перад маім унутраным зрокам паўстала зусім новая вуліца Льва Талстога, шырокая, чыстая, забудаваная прасторнымі, лёгка ўскінутымі ў неба дамамі, а сярод іх, унізе, — непачапаны астравок кучаравае зеляніны колішняга саду, і ў ім, атулены цёмным кіпенем бэзу, Ваш дамок. Да яго вяла дарожка, абсаджаная маладымі арабінамі, на рагу мармуровым спакоем бялела тая самая мемарыяльная дошка, а над ганкам прыбіта шыльда: «Літаратурны музей класікаў беларускай літаратуры Максіма Багдановіча і Змітрака Бядулі».

Вось што можа стацца з Вашым домам, дзядзька Бядуля. Бо гэта ж, мабыць, адзіная рэліквія, звязаная з Вамі, што асталася пасля вайны, і тым больш яна дарагая. Ёсць, праўда, вуліца, якой нададзена Ваша імя, ладная вуліца, па сутнасці, у цэнтры, і плошча пры ёй. Я гэтаму вельмі рад. Але калі быць справядлівым, то Ваша імя законна мог бы насіць Даўгінаўскі гасцінец, гэтак дзівосна ўплецены ў рамантыку Вашай біяграфіі.

* * *

Не ведаю чаму, але часцей за ўсё ўспамінаецца мне наша апошняя сустрэча. Гэта было ў 1936 годзе, мы святкавалі

гадавіну Вялікага Кастрычніка, пісьменніцкая калона была невялікая, але дружная.

Быў ціхі, хмурнаваты і нават халаднаваты восеньскі дзень, мы ішлі па выслізганым бруку не вельмі тады шырокай Савецкай вуліцы, абапал на тратуарах стаялі цесныя натоўпы людзей — пажылых, падлеткаў, жанок з дзецьмі на руках, то там, то там ігралі аркестры, над калонамі луналі сцягі, партрэты, транспаранты, гучалі песні. Мы то прыцішвалі хаду, калі натыкаліся на пярэднія, нечым прыпыненыя калоны, то чуць не бяжком спяшаліся, каб нагнаць іх і запоўніць разрыў, і кожны раз пераблытвалі свае рады. І сталася так, што пасля чарговай вось такой перабежкі мы апынуліся поруч з Вамі.

— Ой, дзяньдобры, дзяньдобры! — весела і ахвоча абазваліся Вы і, як мне здалося, асабліва прыязна зірнулі на мяне. — А-а, дык з вамі і яшчэ нехта! — хітравата ўскрыкнулі Вы, слізгануўшы позіркам міма майго пляча, — мабыць, той, каго вы гэтак доўга ад мяне хавалі? Ну то давайце знаёміцца.

Дзень быў ціхі, хмурнаваты. Па спіне пачала прабягаць ліпучая золкасць. Далей мы пайшлі разам, перакідваючыся беглымі словамі, пацепваючы плячыма. Ды так за гаворкаю і не згледзелі, як параўняліся з трыбунаю — прайшлі міма кіраўнікоў, узрушана віталі ўзмахамі рук, падхапілі бясконцую хвалю «ўра», а потым апынуліся ў цішыні і зразумелі, што можна разыходзіцца. І мы і далей, усё гэтак жа абы-што гаворачы, пайшлі разам з Вамі. І недзе ўжо толькі каля прафінтэрнаўскага парку я асмеліўся на адчайную прамову.

— Дарагі дзядзька Бядуля, — сказаў я, зірнуўшы ў Вашы чыстыя паўнаватыя вочы, — толькі ўчора зусім выпадкова ў магазіне я ўбачыў нейкае зусім новае віно, якое завецца «Салхіна», і купіў дзве пляшкі. У вінах я не знаюся, не ведаю, чаго яно варта, можа, вельмі добрае, можа, вельмі благое, і от мы просім Вас, даражэнькі дзядзечка Бядуля, каб мы разам зайшлі да нас і пакаштавалі таго віна. Калі яно будзе добрае — разап'ём да дна, калі благое — адставім убок і дастанем чаго іншага. Не спяшайцеся дадому, мы перш сагрэемся, а потым Вас правядзём, усё будзе спакойна, нармальна, а? Вы не ведаеце, як нам хочацца, каб Вы зайшлі. А? Сёння ж такое свята!

Упрошвалі мы Вас наперабой. Вы спалохана паднялі бровы, расставілі перад сабою далонямі ўверх рукі, як бы гаворачы: «Добрыя мае, што ж вы са мною робіце?» — і тут жа пакорліва сказалі:

— А што вы думаеце, можа, і праўда варта зайсці? Бо вы ж гэтак сімпатычна просіце.

Ой, якая гуллівая ўсмешка прабегла па Вашым твары!

Я не буду расказваць, як даверліва і ахвоча Вы ўвайшлі ў наш дом на нашай ціхай Маркаўскай вуліцы, як весела селі за стол, не ведаю, ад душы ці для прыклёпу цмокалі языком, каштуючы тое «Салхіна», мне дык, па праўдзе кажучы, яно не падабалася, нейкае задушліва салодкае, а з салодкім, прызнаюся, я не хаўрусую і цяпер; як бясконца мы гаварылі — божачка, як душэўна Вы гаварылі пра літаратуру! — і Вы нарэшце сказалі, што ў вас наперадзе вельмі важная работа: трэба напісаць біяграфічны раман, у якім будзе сказана ўсё галоўнае — і пра сябе, і пра Беларусь, якую Вы любіце найадданейшаю любоўю.

Не буду расказваць, як ішоў час, як перш спалохана і жаласліва тулілася да шыбы галінка клёну з нашага саду і на ёй трапяталі тры рудыя, пакарабачаныя, яшчэ не апалыя лісты, а тады як шчытна прыліпла да вокан цямноцце, і Вы, ужо пры электрычным святле, седзячы на канапе, як чарадзей, чыталі нейкія даўнія, як бы біблейскія вершы і расказвалі гісторыі, нешта з якіх я пазнаваў пазней у Вашай «Сярэбранай табакерцы».

Вось пра што я збіраўся расказаць на Вашым юбілейным вечары, дзядзька Бядуля. Але вінаваты ў тым, што не мог зрабіць гэтага.

Нават ніякавата прызнацца, што прычынілася са мною. На маленькім лістку паперы я напісаў парадак думак, каб сказаць іх найкарацей. Яшчэ з гадзіну аставалася часу, а ў мяне з самай раніцы ламала косці, у галаве цяжка гуло, як бы там нехта беспярэстанку круціў ашалелыя жорны. Я ведаў, што пачынаецца грып, але загадаў сабе ў гэта не верыць, перасеў на канапу і ў думках уявіў і залу, поўную людзей, і сцэну з урачыстым прэзідыумам, і... вельмі выразна ўбачыў, што да мяне падыходзіце Вы...

Вунь якая прычына, чаму я не паказаўся на Вашым вечары, дзядзька Бядуля. Той грып улажыў мяне тыдні на два. І вось, каб хоць трошкі апраўдацца, пішу Вам гэты ліст. Толькі шкода, што ён ніколі не будзе адасланы.

***1977***

## РЭКВІЕМ

Змітрок Астапенка кватараваў у Завакзаллі непадалёк ад мяне. Аднаго разу, калі я зайшоў да яго, ён папытаўся:

— Што табе гаворыць такая назва: «Запалім люлькі»?

Некалькі хвілін я падумаў. Я заўсёды любіў чужыя добрыя назвы, гэтая бясспрэчна падабалася мне. У ёй быў малюнак. Мне ўяўляўся адзінокі пакой, вечар, і за маўклівым сталом, не запальваючы святла, сядзяць даўнія сябры. Можа, пасля вялікіх дарог і доўгіх разлук яны сабраліся, каб усё дарагое кожнаму ўспомніць. Мужчынскія ўспаміны, якія праз усе выпрабаванні лёсу праносяць суровую вернасць. І ў тых успамінах абавязкова будзе вобраз жанчыны... Я так і сказаў: вельмі добрая назва.

— На вершы ці на прозу?

— На вершы. А можа, нават і на прозу. На такі суровы марскі раман.

Астапенка хадзіў па пакоі, мне здавалася, нават не вельмі мяне слухаючы. Высокі, сухатвары, узрушаны нейкаю неспакойнаю думкаю.

— Трохі ўгадаў, — сказаў ён. — Пакуль што гэта нізка вершаў, але так я збіраюся назваць усю кнігу. Новую, вядома. Толькі яшчэ не ведаю, куды яна мяне завядзе... Мора, пра якое ты гаворыш, таксама мяне спакушае, якраз мне і трэба мужныя, суровыя людзі.

Невядома, па якой сувязі Астапенка раптам успомніў, як быў на граніцы з Польшчаю. Сваю «Ноч на станцыі Негарэлае».

Ах, не ў гэтым жа справа, што ёсць Беларусь
На усходзе й на захадзе!..
Справа не ў гэтым!
Гэта станцыя ставіць глухую мяжу
Для ўсяго невыказна вялікага свету!
І калі уяўляю, што там, за мяжой,
Вісне чорная ночка у колеры сажы,
Мне шкада не адной Беларусі маёй,
А падзелены свет неабсяжны.

— Ты разумееш, аж страшна, — сказаў ён сваім ціхім голасам. — Паласаты слуп, ступіў за яго, і — канец! Адзін толькі крок дзеліць свет папалам...

* * *

Нейкі пэўны час, памятаю, я заўважыў, што Астапенка мала дзе бываў, стаў задуменны, заклапочана-ўзрушаны. Мог су-

стрэцца твар у твар на вуліцы, але не пазнаць і прайсці міма. Мог радасна пацiснуць руку, пачаць вельмі жывую размову і тут жа забыцца на яе, недагаварыць і пабегчы. У мяне ён раптам папытаўся, ці не хачу я пабыць у Германіі. Чаго? Навошта? Якім чынам?

— Ах, гэта я так сабе. Давай пойдзем да мяне, ды я табе пачытаю новыя вершы.

Але вершаў ён не чытаў, а, як толькі зачыніў дзверы, здзівіў новым пытаннем: ці хачу я пабачыць усё, што робіцца ў яго ў доме?

— Не разумею, — пацiснуў я плячыма.

— Ну вось так: зараз рассунуцца сцены, і ты ўбачыш усіх жыхароў гэтага дома, можа, каторага нават за не вельмі прыстойным заняткам. Хочаш?

— Нейкая ў цябе сёння буйная фантазія.

— Чаму буйная? Нармальная! Проста ты не ведаеш, што я зрабіў вялікае адкрыццё. Я разгадаў таямніцу жыцця матэрыі, і ў маіх руках цяпер вельмі страшная сіла. Я магу ў любым парадку сінтэзаваць атамы, а значыць, маёй волі няма канца. Магу ўсюды быць, усё знаць, усё бачыць, лёгка разбураць усё тое, што чалавеку на шкоду, і гэтак жа лёгка аднаўляць. Калі яно трэба.

Я паглядзеў на Астапенку з няяснаю трывогаю. Падобных жартаў ад яго я ніколі не чуў, і калі гэта жарт, то дзеля чаго ён? Астапенка хадзіў па пакоі мяккаю, украдліваю хадою, раптам як бы заспяшаўшыся. Твар сухі, рэзка акрэсленыя губы, прамы нос, нешта татарскае ў сківіцах. У чорных, тонка прычэсаных валасах акуратны, цвёрды прабор з правага боку.

— Ну што, паверыў? — суняўся ён перада мною. Вочы цёмнакарыя, вузкія, бадай што да самых зрэнкаў прыкрыты млявымі павекамі. І таму, што яны так прыкрыты, у іх вечна тоіцца нешта як бы не зусім табе даверанае. Папытаўся і дазволіў паявіцца на губах хітраватай, таксама скупой, усмешцы. — Ты як хочаш, а я павінен верыць, бо іначай у мяне нічога не выйдзе. Пішу раман, — паясніў ён. — Першая частка ўжо гатова. Хачу даць назву «Вызваленне сіл», а можа, яшчэ перадумаю... Тайну атама адкрыў не я, а мой герой, і сваім сакрэтам ён хоча знішчыць стары свет. І ўжо колькі часу, як я сам сябе баюся, усё здаецца, што не ён, а я валодаю гэтаю страшнаю тайнаю.

Ён сеў у крэсла і бегла расказаў некалькі эпізодаў. Усе падзеі развіваюцца ў Германіі, дзе на той час пачынаў асталёўвацца фашызм. Мяне, памятаю, дзівілі не сюжэтныя ходы, самыя неймаверныя па страхаце і смеласці, а тое, што герой найда-

сканалейшым чынам ведаў Берлін. Вуліцы, плошчы, помнікі, службовыя цэнтры, глухія куткі. Ведаў, як прайсці да іх найкарацейшым спосабам. Ведаў, якім ліфтам і на які паверх падняцца, каб з некім пабачыцца ці заблытаць сляды.

— Чакай, — перапыніў я яго, — горад ты таксама выдумляеш? Бо калі чытацьме немец, то адразу зловіць цябе на падмане.

Зноў па Астапенкавых губах прабегла лёгкая хітраватая ўсмешка.

— Калі б мяне скінулі з неба ўночы ў любым пункце і сказалі, што трэба пайсці ў нейкі другі любы пункт, я зрабіў бы гэта лёгка, ні ў кога не пытаючыся, — сказаў ён. — Берлін я ведаю, як самы прававерны берлінец, ніколі там не бываўшы.

* * *

...Трыццаць другі год быў вельмі цяжкі. Бывала, па дарозе дадому, пачынаючы ад Віленскага рынку і да самага вакзала, усю восень я бачыў, як уздоўж тратуараў, уціскаючыся ў цень ад дамоў ці агароджаў, масціліся маўклівыя, зняможаныя людзі, найбольш жанкі, або цэлымі сем’ямі, з дзецьмі, параскладаўшы на доле ўвесь свой скарб: коўдры, ручнікі, падушкі, вышываныя строі, каптуры, сувоі палатна — выбірай што хочаш, толькі дай кавалак хлеба, ці круп, ці збажыны. То быў засушлівы год, асабліва на Украіне. Нялёгка было і ў нас.

Зайшоў неяк тае восені да мяне Астапенка. Мы заседзеліся доўга. Пара было ісці ў горад, каб дзе павячэраць. Але Астапенка сказаў, што атрымаў з дому пасылку, і запрасіў да сябе.

— Я пайду папрашу гаспадыні, каб яна чаго згатавала — бульбы падсмажыла ці яечню спякла. Ну, а да чаю ёсць сала, масла. Так што ты праз паўгадзінкі прыходзь. Роўна праз паўгадзіны, — паўтарыў ён і пайшоў сваёю дробнаю мяккаю хадою.

Праз паўгадзіны я быў у Астапенкі, але дзверы ў яго пакой не адчыніліся. У цёмны калідор выглянула гаспадыня і сказала, што Змітрака дома няма.

— Быў, забягаў толькі што, — паясніла яна. — Палажыў свае кніжкі, паперы і некуды скоранька пабег.

Я пастаяў хвілін колькі каля брамкі і ціха пабрыў у горад. Перайшоў вузкі, доўгі масток над чыгуначнымі пуцямі, Прывакзальную плошчу, колішні Віленскі рынак, перароблены ў сквер, з яшчэ маладымі кволымі дрэўцамі. Жоўты свежы пясок на дарожцы перасыпаўся пад нагамі. З вуліцы Карла

Маркса павярнуў на Урыцкага і застыў, здзіўлены. На рагу стаяў Астапенка і, выцягнуўшы шыю, паверх людскіх галоў некуды далёка ўзіраўся.

— Змітрок! — гукнуў я.

Ён пудка зірнуў на мяне, шырока здзівіў вочы і схапіўся за галаву.

— Божачка мой, — сказаў ён, — памарока нейкая найшла на мяне. Гэта ж ты быў у мяне?

— У цябе.

— Ну от жа — як пярун спаліў памяць. Разумееш, мне трэба тут аднаго чалавека сустрэць, — ён вінавата ўсміхнуўся, — успомніў, прыйшоўшы ад цябе. Ну і пабег, і, мабыць, спазніўся...

Ён зноў выцягнуў шыю і заклапочана азірнуў вуліцу. І нават не заўважыў, калі я яго пакінуў.

Потым я бачыўся з Астапенкам пры акалічнасцях іншых. Мы былі ў Сібіры. Аднаго разу ён зайшоў да мяне ў барак, падсеў на нарах, худы, знябыты, у вачах тузаўся адчай. У змроку слабенькіх рэдкіх лямпак сама што раздавалі вячэру. Вядома, неважнецкую, але ў Астапенкі і гэтага не было: ён на работу не хадзіў. Поліўку я з’еў сам, а рыбкаю і драбком цукру падзяліўся.

— Што ты сабе думаеш, Змітрок? — сказаў я яму. — Гэтак жа можна і зусім згібець.

Астапенка паглядзеў на мяне сваімі цёмна-карымі вачмі і ціха, каб не чулі суседзі, сказаў:

— Я ўжо другі раз ем выгнанніцкі хлеб, дакуль жа можна? Я мушу нешта зрабіць. Заняцца нечым больш карысным і важным... Доўга я тут не буду ўсё роўна. Хочаш разам?..

Мне здалося, што я правільна зразумеў яго, і, каб перасцерагчы далейшыя ўдакладненні, сказаў, што гэта жарты дурныя. Найпершае, што мне трэба, дык гэта тое, каб давесці, што я не вінаваты, а дзеля гэтага я павінен быць жывы.

— Не, дык я не пра ўцёкі, — раптам весела ён разрагатаўся.

Па нядоўгім часе нашу цяслярскую брыгаду пасадзілі ў дзве машыны, прыкрылі ад марозу брызентам і павезлі на другія будоўлі. З Астапенкам я нават не пабачыўся.

Пачуў я пра яго ўжо толькі ў Мінску. І зразумеў, якой карыснай і важнай работы ён шукаў сабе. Ён зрабіў так, як некалі і намысліў на тых далёкіх сібірскіх нарах. Мяне здзівіла не толькі смеласць учынку, а і веліч яго. Як, якім чынам ён умудрыўся тайна папасці на той бок фронту, у варожы тыл? Загінуў ён, выконваючы партызанскае спецзаданне. Мне ўспомніўся і той вечар, калі чытаў ён «Ноч на станцыі Негарэлае», і той боль, што свет падзелены напалам.

На сцяне ў Саюзе пісьменнікаў вісіць белая мармуровая дошка з прозвішчамі, напісанымі залатымі літарамі, усіх тых, хто ў Айчынную вайну аддаў сваё жыццё за бацькаўшчыну. Сярод іх і імя Змітрака Астапенкі. Як шкода, што невядома яго магіла, каб можна было схадзіць да яе і зрабіць тое, чаго не ўдалося пры жыцці, — развітацца з ім.

*1970*

## СЯРГЕЙ ФАМІН І ЯШЧЭ НЕХТА

Вершы гэтага чалавека ў друку паяўляліся не вельмі часта. Нават самога паэта рэдка хто бачыў. Ён не хадзіў ні на літаратурныя дыспуты, ні на вечары. Дый у Доме пісьменніка ён, здаецца, ніколі не бываў.

Сярод студэнтаў універсітэта яго невысокая фігура вылучалася нейкаю мілаю дваістасцю. З аднаго боку кідалася ў вочы паэтычная прыналежнасць яго: доўгія, густа зачэсаныя валасы; тоненькі гальштук на кужэльнай, здавалася, занадта памятай кашулі, пашытай, мабыць, мацераю ці сястрою роўненькім, аднак не машыновым, а ручным швом; хада такая, што як бы не яна слухалася гаспадара, а гаспадар ішоў туды, куды вялі яго ногі. З другога — нейкая яшчэ не страчаная вясковасць: зухавата адкінутая на самую патыліцу кепка так, што відзён быў толькі задраны ў неба казырок; загарэлы, ціхі твар; нясмеласць, нават нейкая крыўда ў вачах. Думалася, што яму цяжка быць сярод людзей.

Але гэтак выглядаў Сяргей Фамін[1] да таго часу, пакуль маўчаў. Варта ж было яму загаварыць, як вам пачынала здавацца, што вы гэтага чалавека ведаеце ўсё жыццё. І голас, і таварыскасць, і раптам весела ажывелы твар, і яшчэ бог ведае якія няўлоўныя рухі чалавечае душы вас забіралі пад свой уплыў адразу. Вам хацелася пабыць з ім найдаўжэй, не толькі паслухаць яго, а расказаць яму пра сябе, нават усё тое, што было як бы вашаю далікатнаю тайнаю. Я часта думаў, што такіх людзей аднойчы спасцігае самае апантанае каханне нейкай невядомай жанчыны. На жаль, найбольш трагічнае.

Словам, Сяргей Фамін не ўкладваўся ў рамкі будзённай прывычнасці. Памятаю адзін выпадак, які не раз уваскрашаў мне яго забыты вобраз. Мы сустрэліся выпадкова, даўно не бачыўшыся, і, як звычайна, ён мяне тут жа загаварыў. Як

заўсёды — узнёсла, ахвоча, шчыра. У мяне не так даўно выйшла першая кніга, і я сказаў:

— Калі хочаш, Сяргей, давай зойдзем да мяне і я дам табе сваю «Затоку ў бурах». Бо іначай зноў ты прападзеш і я цябе надоўга не ўбачу.

Зноў слухаў я Сяргея — вершы Міхася Чарота, яго «Босыя на вогнішчы» ў нейкім летуценна-ўзвышаным чытанні, потым Максіма Багдановіча, Канстанцыю Буйла, Паўлюка Труса. Сваіх вершаў ён чытаць не захацеў.

Пайшоў ён ад мяне недзе пад поўнач. Я доўга яшчэ не спаў, было такое адчуванне, што я пабываў на нейкім свяце ці са мною здарылася нейкае дзіва. Усё гучалі і гучалі ў памяці чужыя радкі. Нарэшце я праваліўся ў сон, але ў чатыры гадзіны ночы прачнуўся ад стуку ў акно.

Сяргей увайшоў узрушаны, без шапкі, каўнер кашулі расшпілены. У вачах нейкая шчаслівая вінаватасць.

— Ты, братка, не гневайся і не сварыся на мяне, — сказаў ён, аберуч загладжваючы назад цяжкія свае валасы. — Што сярэдначы прыбег ды разбудзіў цябе. Разумееш, прачытаў засаб усю тваю кніжку і гэтак развярэдзіў сябе, што падумаў: калі зараз жа не выгаваруся, то захварэю. Ты ж ведаеш, абы-як чытаць я не ўмею... Не, не, ты маўчы, я буду гаварыць...

Гэты выпадак успамінаючы, кожны раз я думаю, што ў ім адлюстравана нейкая трапяткая рыса часу: непасрэднасць і чысціня нашых памкненняў, можа, нават наіўнасць і абмежаванасць духоўнага зроку і гэтакая ж наіўнасць, непасрэднасць і абмежаванасць маладой нашай літаратуры, у якой мы, аднак, бачылі самую дасканалую сталасць і маглі да слёз расчульвацца ў замілаванні ёю.

* * *

Потым Сяргей Фамін знік.

* * *

Праз колькі немалога часу мяне спакусіла рамантыка лесасплаву, і я напрасіўся ў камандзіроўку. На беразе Лепельскага возера ішла нарыхтоўка лесу, там жа стаяла прасторная будыніна для рабочых, а ў выгараджанай каморцы жыў начальнік канторы, які з ахвотаю прытуліў і мяне. Мы з матарыстам пераганялі плыты на другі, дальшы канец возера. Буксір быў нямоглы, не

цягнуў, матор задыхаўся, матарыст у прамазучанай да слізгаты ватоўцы abліваўся потам, раз-пораз заводзячы яго тонкім раменным паскам. На сярэдзіне возера часта ўсходжваўся вецер, пачынаў ганяць плыт ва ўсе непатрэбныя нам бакі. Часамі заганяў у нейкія азызлыя сінія чараты, часамі плыт разбівалі ашалелыя, валавяна-цяжкія хвалі, і мы з матарыстам ледзьве дабіраліся да берага ў нашай даўно ненадзейнай лодцы.

Начальнік канторы з ласкавым імем Яўгень і нязвычным прозвішчам Абарбанэл увесь дзень матаўся то на лесапавале, то на тралёўцы, то на вязанні плытоў. Увечары, нагаварыўшыся з рабочымі на гаманкой нарадзе, ён заходзіў у нашу каморку і яшчэ гадзіны дзве не даваў мне заснуць.

За тыя дні, што мы пражылі разам, я дазнаўся пра яго гора. Яго пакінула жонка — разумніца, красуня, найласкавейшай душы чалавек, як гаварыў пра яе Яўгень Абарбанэл. Закахана і шчасліва яны жылі ў добрым горадзе, рабілі ў нейкіх блізкіх да мастацтва ўстановах, і толькі пасля ўжо, каб забыцца, ён з'ехаў на гэтае возера. Прывёз з сабою той самы навюсенькі гарадскі, строга сіняга колеру шаўётавы гарнітур, насіў пад ім тыя самыя бялюткія крухмаленыя кашулі, завязаныя вішнёвым гальштукам, гэтаксама акуратна штораніцы брыўся, старанна прычэсваўся, выштукоўваючы роўненькі левы прабор у чорных, да бляску гладкіх валасах. Было такое адчуванне, што ён збіраецца ў тэатр або толькі што вярнуўся з яго. Ніяк не стасаваўся з пракаветнаю лясною глушэчаю гэтакі досціп.

У каморку ён уваходзіў імкліва, садзіўся на свой тапчан, тут жа падымаўся, вешаў кепку на доўгі цвік у сцяне і пачынаў хадзіць, бясконца віхаючыся перада мною. І гаварыў, гаварыў — усё пра сябе, пра свой нешчаслівы лёс. Нядаўна ад збеглае жонкі ён атрымаў ліст, у якім яна пісала, што памятае яго, усё роўна кахае і, можа, вернецца. Гэта яшчэ больш вярэдзіла яго памяць. Ён любіў паэзію, прывёз з сабою самыя блізкія сэрцу кніжкі і шукаў спатолі ў чулліва-зняверанных вершах. Шнуруючы перада мною па каморцы, ён чытаў іх, даходзячы да такой экзальтацыі, што аж бялеў.

Не говорите мне — он умер. Он живет!
Пусть жертвенник разбит — огонь еще пылает,
Пусть роза сорвана — она еще цветет,
Пусть арфа сломана — аккорд еще рыдает, —

дэкламаваў ён, на хвіліну суняўшыся і жэстам рукі перадаючы трагічныя, рваныя рытмы.

— Вось гэтак і ў мяне, — уздыхнуў ён, — і «жертвенник разбит», і «арфа сломана». Нічога не асталося, апроч рыдання. Фініта ля камедыя!

Ад меланхалічных вершаў ён мог перайсці да бравурных. Аднаго разу мне здалося, што ён прачытаў не чужы, а свой верш:

Вы всем одарены — умом и красотою,
И жало есть у вас, достойное эстета,
Чтоб жалить поэтичней. Как вендетта,
В своем движенье вы красиво-леденящи.
У древних были б вы богиней настоящей.
Но жаль, даже улыбка не смягчает глаз:
Такого пустяка, как сердце, нет у вас.

Мне падумалася, што напісана было гэта пра жонку. Тым больш што, сажмурыўшы вочы, ён двойчы помсліва пасмакаваў радкі: «Как вендетта» і «В своем движенье вы красиво-леденящи».

Аказалася, што ён няблага дасведчаны і ў беларускай паэзіі: з замілаваннем прачытаў класічныя дубоўкаўскія радкі: «О Беларусь, мая шыпшына, зялёны ліст, чырвоны цвет!» І ўжо зусім здзівіў, прачытаўшы надзвычай паэтычны верш Сяргея Фаміна «Рамонкавы пыл». Чалавек ідзе па лугавых красках, і на халявах яго ботаў астаецца пылок ад іх. Цудоўны вобраз гаспадара добрай зямлі! Я сказаў, што Фаміна даўно выпусціў з вока, не ведаю, дзе ён, і шкадую. Сімпатычны хлопец.

— А ён у Горы-Горках, — сказаў Яўген Абарбанэл. — Выкладае ў сельскагаспадарчай акадэміі.

Я падумаў: а чаму б мне не заскочыць туды, там жа і мой зямляк Юрка Гаўрук. А можа, хто астаўся яшчэ і з сяброў, што давучваліся там пасля слуцкага сельскагаспадарчага тэхнікума, у якім вучыўся і я, ды пакінуў яго, не спакусіўшыся перспектываю агранамічнае дзейнасці. І, скончыўшы камандзіроўку, узяў білет на Мінск цераз Горкі.

* * *

Горада я не бачыў, ён пачынаўся за пылнаю дарогаю, чамусьці перагароджанаю доўгім праслам, туды я не пайшоў. Ад акадэміі запомніўся шырокі двор з двухпавярховымі мураванкамі шэрага, казённага тыпу, астаткі старога ліпавага ці кляновага парку за імі, а далей ішло поле з зялёнымі доследнымі дзялянкамі. Юрка Гаўрук быў у адлучцы, сяброў-землякоў нікога не асталося, а

Фаміна я напытаў у адной з гэтых мураванак. Усё ў іх было змрочна-саліднае: прысадзістасць, гаматныя вокны ў глухіх гладкіх сценах, высокія, у закасцянелай чырвонай алівавай фарбе дзверы, глухія, размашыстыя калідоры. І Сяргееў пакой быў вялікі, мабыць, выгараджаны з яшчэ большага, падобна было, што адна сцяна збіта з дошак, яна дрыжала, калі адчыняліся дзверы. Але Сяргей быў не адзін. Я адразу ўспомніў, што некалі, на апошнім курсе універсітэта, пры выхадзе вельмі часта чакала яго дзяўчына стройнай постаці, з адухоўленым тварам, і вочы ў яе загараліся, як толькі ён паяўляўся. Таксама студэнтка.

Сустрэў мяне Сяргей вельмі радасна. І яна пазнала мяне і трошкі нахмурылася, заўважыўшы, што я, можа, даўжэй як трэба на яе паглядзеў, бо зразумела, што ў гэтым была міжвольная хвіліна параўнання.

Сяргей пасля першых абдымкаў схапіў са стала скрутак папер і некуды пабег, сказаўшы: «Прабач, на хвілінку, неадкладныя справы». Я цяпер зноў зірнуў на жанчыну, у якой ад колішняй красы мала што асталося. Хіба толькі той жа ўзрушаны бляск воч. А ў абліччы нейкі стомлены спакой і прыцішанасць. Нейкае зацятае, непакорнае прымірэнне.

— Сядзьце, — сказала яна, — Сяргей зараз вернецца, яго выклікалі ў дэканат. — І тут жа загаварыла пра тое, што было ёй, мабыць, важней за ўсё. — Я ведаю, чаго вы на мяне паглядзелі. Сама скажу, каб не пыталіся: нешта не выйшла ў нас гэтак, як хацелася. Не скажу, што з ім цяжка, можа, горш — што вельмі лёгка. Нейкі ён раскіданы, усяму адкрыты, вечна спяшаецца некуды паспець... Гэтак і ў вершах, гэтак і ў рабоце. Гэтак і ў сям'і. Праўда, мы яе і не маем, я дзяцей нават не асмелілася заводзіць. І калі задумаешся — то ў нас жа няма і заўтрашняга дня...

Я зноў успомніў тыя нашы не так і далёкія гады, калі кожны з нас збіраўся выбраць самую шчаслівую пуцявіну і пайсці па ёй з каханым чалавекам праз усё жыццё. І як тады я падумаў пра Сяргея, што нейкая жанчына безаглядна пакахае яго. За юначую, няўрымслівую красу яго летуценняў. І што тое каханне можа стацца трагічным.

Усё гэта цяпер вельмі блізка датыкнулася мяне. Як бы я быў вінаваты, што некалі бачыў іх шчаслівымі. І я слухаў жанчыну і думаў, як жа цяжка мне будзе гаварыць з Сяргеем, калі ён вернецца з дэканата.

*1979*

## РУБЕЦ

Ніколі я не ўмеў парыцца ў лазні і скрозь зайздросціў тым, хто залазіў на самы высокі палок. Я толькі дзівіўся, як заядлыя аматары з асалодаю хвасталі сябе там венікамі, потым скочваліся ўніз — блішчастыя і цяжкія, як бы налітыя нейкаю неймавернаю нетутэйшаю гарачаю сілаю. І аднаго разу мне пашанцавала.

У лазні ў Плаўскага, калі я сабраўся быў узяць білет, з-за глыбокага акенца на мяне запабегліва зірнулі спрактыкаваныя вочы магутнай гаспадыні-касіркі.

— Паслухайце, малады чалавек, — сказала яна, — а чаму вы не хочаце ўзяць нумар? Якраз пустуе, гэта ж такая раскоша! Нумар двайны, але пакуль што мыйцеся вы адны, а я з вас і грошы вазьму за аднаго.

Праўда, гэта была раскоша. Нумар з парыльняю. На мяне аднаго. Эх, і намыюся ж я, і напаруся колькі захачу! Два аддзяленні. Першае — мыйня: медзяныя краны з гарачаю і халоднаю вадою; мураваныя тапчаны, на якія напачатку аж нязручна садзіцца, бо нават пад гарачаю вадою на іх заўсёды чутна слізкая халаднаватасць; мураваная ванна, душ. Другое — парыльня: невысокая печ, у распаленую каменную пашчу якой трэба плесхануць вады, а яшчэ лепш, кажуць, піва, каб не толькі шуганула пара, а каб на ўсю парыльню расплыліся найдзівоснейшыя пахошчы; аддаля ад печы — прыступкі з цёмна-рудых, тысячу разоў наскрозь прапараных дошак, а на самым версе — палок.

На скорую руку апаласкаўшыся ў мыйні, з душэўным трапятаннем я пераступіў парог парыльні і зачыніў за сабою дзверы. З чаго ж пачаць?

Найперш я злазіў на палок, каб як след праняцца адчуваннем, што вакол мяне сёння ўсё незвычайнае. Але незвычайнасці ніякай не было. Пах сырых, як бы чутачку падапрэлых дошак. Трохі цяплей, як унізе, відаць, сёння тут яшчэ ніхто не мыўся. Злез, наліў у ражку вады, падумаў, што халоднай, можа, нядобра, прыбавіў цёплай. Лінуў у пашчу, нямнога, а калі перастала сіпець, падбавіў. Наладзіў так, што можна было лёгка сядзець на прыступках недзе блізкавата кверху. Меркаваў: падымуся вышэй, калі пара крыху спадзе. Бо кончыкі вушэй і ноздры пачынала шчыпаць. Трэба будзе часцей падбягаць сюды, каб нарэшце як след прывыкнуць, падумаў я. Гэта ж папраўдзе вунь якая асалода.

Недзе падчас вось гэтакіх маіх думак, калі я збіраўся залезці на самы палок, ціха адчыніліся дзверы, і ў парыльню ўвайшоў

Янка Купала. У адной руцэ ў яго бляшаная ражка, пад пахаю бярозавы венік, у другой — нейкая пасудзіна, ні то вялікі кубак, ні то келіх. Ён суняўся ў дзвярах. Цела стройнае, маладое, цягавітае. Не загарэлае.

Быстра знізу зірнуўшы на мае прыступкі і, мабыць, пераняўшы маё здзіўленне, ці, можа, нават зляканасць, ён тут жа сваім тонам заспакоіў мяне.

— Дык гэта ты так парышся? — весела папытаўся ён. — У гэтакім холадзе? Не, чалавеча, такая работа не пойдзе. От зараз я паддам табе *свае* пары. І пагляджу, які ты смелы парыльшчык.

Ён пашукаў вачыма, куды можна было дзець бляшаную ражку і венік з-пад пахі. Вялікі келіх ён трымаў перад сабою, няйначай як змесціва яго збіраючыся плескануць у чарэнь печы, і нешта жартоўнае ўсё гаварыў і гаварыў, але я ўжо не чуў. Я няўцямна глядзеў на рубец, што ішоў знізу ўверх наўскасяк па яго жываце, зарубцаваны буграваты, вузламі, няроўна, бо рана сшывалася, мабыць, у спяшанні і не вельмі лёгка.

Я ўспомніў, як колькі немалога часу таму назад хадзілі ўпартыя чуткі, што Купала вельмі цяжка хварэў. Што ён рэзаўся, калі прыйшлі яго забіраць. Але гэта была вялікая тайна, пра якую няможна было ні ведаць, ні гаварыць пра яе. Аднак жа ўсе такі ведалі. Бо назаўтра ж пасля падзеі з-за дзяржаўнай мяжы чужыя галасы як мага мацней выкрыквалі ў наш бок навіну, што бальшавікі зарэзалі Купалу.

То дзякуй жа богу, што ён выжыў.

*22 чэрвеня 1983 г.*

## МОЙ СУСЕД ІВАН МЕЛЕЖ

О лёс мой, выказацца дай,
не забяры мяне заўчасна
у тую далеч, дзе так часта
мне сніцца будзе любы край.

*Алесь Каско*

Я пачаў ужо восьмы дзесятак свайго веку. Іван Мележ быў маладзей за мяне на шаснаццаць гадоў. І катора пара як няма яго. Гэта страх як несправядліва. Ён напісаў вельмі добрыя кнігі, на жаль, самай галоўнай не скончыў. Трэба спяшацца расказаць пра яго хоць трохі з таго, што ведаю.

1

Найперш мне помніцца бераг рэчкі за нашым каралішчавіцкім лесам. Летнім сонечным днём там збіралася бадай што ўсё насельніцтва Дома творчасці. Туды ж па нядзелях наязджалі пісьменнікі-гараджане, да сем'яў або праведаць таварышаў.

Найчасцей на сваіх «Пабедах» наязджалі двое: Андрэй Макаёнак і Іван Мележ. Падскокваў Алесь Кучар, чамусьці ён выбіраў час, калі купальшчыкаў было мала або пад канец, калі бераг ужо бадай што пуставаў. Ён любіў купацца адзін, але да мяне далучаўся ахвотна. Пакружыўшы раз-другі на самай быстрыні, ён спыняўся і, стоячы па грудзі ў вадзе, разводзячы яе перад сабою рукамі, распытваў, як жылося і выжылася мне ў мае доўгія і далёкія адсюль гады. Мы з ім зналіся даўно, калі ўбіралася ў громкую славу крытыка, і я разумеў, што чалавеку часам бывае патрэбна дакрануцца як да свае, так і да чужое памяці.

Макаёнак паяўляўся шумна, ставіў сваю «Пабеду» пры самым беразе, на хаду з некім вітаўся, некаму перадаваў гарадскі паклон, тут жа раздзяваўся, загарэлы, дужы і ладны целам, купаўся, а тады або прысаджваўся да нечай кампаніі, або расчыняў у машыне насцеж усе дзверцы і пачынаў яе мыць.

Іван Мележ прыязджаў зусім іначай. Ён паяўляўся неўзаметку, ставіў машыну блізка дзе да кустоў, далей ад берага і ад тлуму. Ціха вітаўся з знаёмымі, часам падыходзіў да іх, а найчасцей падыходзілі да яго. Я ніколі не бачыў, каб ён купаўся ці нават каб, раздзеўшыся, пасядзеў на сонцы. Наадварот, ён шукаў цішыні і ценю. Уся манера яго — і гаварыць, і быць на адзіноце — была нейкая роздумная, я б сказаў, рамантычна-сузіральная ці спакойна-філасофская. І міжволі з усіх, хто тут паяўляўся, мая ўвага падала найперш на яго.

Я заўважыў, што за шклом, на задняй палічцы ў яго машыне кожны раз ляжала тая самая, даволі тоўстая кніга. Неяк праходзячы міма, я міжволі нагнуўся над тою палічкаю і прачытаў: «Іван Мележ. Мінскі напрамак».

— Як бачу, дык вы заядлы аматар кніг, — пачуў я над сабою Мележаў голас.

— Прашу прабачыць, — сканфузіўся я.

Мележ прыязна, чутачку схіліўшы набок галаву, усміхнуўся. І папытаўся:

— Не чыталі?

— Не, — прызнаўся я.

— Шкада. Я думаў, што, можа, вы дасце якія свае заўвагі. Мне, як чалавеку, у якім вы пазналі аўтара, — зноў з падкрэсленай прыязнасцю сказаў Мележ, — хацелася б ведаць, ці ўсё ў ёй ладна. Ваша ж прозвішча Скрќган?

Часта хто маё прозвішча вымаўляе з няправільным націскам. Звычайна, я папраўляю. Часамі гэта памагае, часамі не. Але не хацелася, каб памыляўся іменна Мележ.

— Не, — сказаў я, стараючыся не саступаць з жартоўнага тону. — Трошкі іначай — Скрыга́н.

Мележ падняў здзіўлена бровы і якую хвіліну памаўчаў.

— А чаму вы думаеце, што ваша версія слушная? — папытаўся ён.

Я сказаў, што ў нашым сяле Труханавічах з гэтакім націскам завуць усіх Скрыганоў. А мясцовае вымаўленне трэба лічыць, мабыць, самым законным.

— Безумоўна, — адразу згадзіўся Мележ. — Вось што, — сказаў ён праз хвілінку. — Як бачу, дык мы з вамі і бачыцца і гаварыць будзем яшчэ не раз. А цяпер давайце пакатаемся. Я вас паважу па самых прыгожых тутэйшых дарогах.

Толькі цяпер, калі Мележ уходжваўся каля машыны — праціраў лабавое шкло, папраўляў люстэрка, потым сядаў за руль, — я здзіўлена заўважыў, што ненатуральна высока і востра падымаецца ў яго адно плячо, што ўвесь час ён стараецца берагчы правую руку. Тады я яшчэ не ведаў пра яго цяжкае раненне ў вайну і вялікае намаганне шпітальных хірургаў, каб выратаваць яму гэтую руку.

2

Потым даволі доўгі час мы жылі з ім у адным доме. У адным пад'ездзе: ён на чацвёртым паверсе, а я над ім — на пятым. Так што мелі час і набачыцца, і нагаварыцца, і намаўчацца.

Бывала, пачуецца ад яго тэлефон:

— Што робіш?

Найчасцей хатні мой час быў заняты работаю службоваю, бо ў «Полымі» было цяжка дабраць дзелавой часіны. Народу набіралася шмат, было душна, тлумна; адны заходзілі, бо мелі нейкі дзелавы інтэрас, а другія проста каб прабавіць весела час: бываюць жа такія веселуны, што не адарвешся, слухаючы іх. І звычайна рэдактарскае чытанне я браў дадому. Мележ лічыў гэтакі занятак выпадковым і несур'ёзным і таму пытаўся далей:

— То, можа, я зайду?

Або:

— То, можа, зойдзеш да мяне?

Ну і заходзілі як калі: то ён да мяне, то я да яго. Найперш падам варыянт, калі да яго заходзіў я, каб заадно расказаць і пра яго кабінет.

У тым вельмі салідным на выгляд доме з грунтоўнаю муроўкаю і грунтоўным метражом была, аднак, не надта ўдалая планіроўка — пакоі доўгія, вузкія, у іх цяжка было ўтульна ці хоць бы зручна размясціцца. Высокае паняцце эстэтычнага я вельмі добра разумеў у Мележа — адзначыў гэта з першага ж разу, пераступіўшы парог яго пакоя. Бо мне самому ўсё жыццё не давалі спакою дзве звычайныя чалавечыя слабасці: жытло і рабочае месца ў ім. За ідэал рабочага месца мне служыць пісьмовы стол у Доме творчасці ў Дубултах. Божухна, якая гэта раскоша! Зручны. Шырокі, прасторны, на ім, як бы на воку, перад табою ўсе твае думкі, уся плынь твора, яго лёгка і прыемна пісаць. Міжволі ўспомніцца, што адзін час была мода на сталы з тоненькімі, як пруткі, ножкамі: сядзеш да яго пісаць, а ён задрыжыць ад першага дотыку. Не разумею, чаму мода найчасцей ідзе насуперак разумнаму? Здавалася б, наадварот: яна павінна несці высокі сэнс!

Звычайна ў тым доме, у нашым пад'ездзе, бадай што ўсе пісьменнікі пад рабочае месца займалі дальшы, куткавы, зацішны пакой. І бадай што аднолькава размяшчаліся ў ім. Або стол ставілі да акна і сядзелі, як сляпыя, перад сцяною чужога дома на той бок вуліцы, а ўвесь прастор пакоя аставаўся за спінаю, ззаду, анічым не дакранаючыся да твае мыслі. Або сядзелі бокам да акна, ставячы стол удоўж пакоя, яшчэ больш падкрэсліваючы яго даўжыню, з адною толькі перавагаю, што вочы маглі больш прасторна раскідацца на бакі і ззаду не было пустаты. Гэтакая кампаноўка выглядала трохі па-чыноўніцку, але хто скажа, што чыноўнікі не разбіраюцца ў кабінетным камфорце?

Мележ самым крутым чынам парушыў гэтакі стандарт. Усю сцяну ад вуліцы ён зацягнуў масіўнаю, але мяккаю цёмна-зялёнаю драпіроўкаю; пісьмовы стол, нетутэйшы, лакаваны цёмна-рудым колерам, з авальнымі краямі, з угнутым паглыбленнем для рабочага месца, з палічкамі ў тарцовых сценках пад кнігі, што скрозь трэба мець напашэве, — гэтакі універсальны, даволі кампактны стол, адсунуўшы яго надалей ад драпіроўкі, ён паставіў так, каб сядзець тварам на кабінет. Перад сталом, з краю, чутачку наўскасяк пастаўлена крэсла, каб мог пасядзець госць, калі часам зойдзе. Па сценах некалькі стэлажоў, не спрэс прысунутых адзін да аднаго, каб уражвала багацце кніг, а з прагалінамі, занятымі то

крэслам, прыткнутым як бы знячэўку, то канапаю. І на крэслы, і на канапу накінуты дываны, таксама як бы знячэўку, бегла, нават не зраўняны краі і не ўмяты складкі. І зусім перамяніўся пакой, ён стаў цёплы, зручны, куды карацейшы, тут як бы спрадвеку пасялілася ўтульнасць і цішыня. З першага ж позірку я зразумеў, што тут спатрэбіўся высокі Мележаў густ. Увесь тлум вонкавага свету аставаўся за драпіроўкаю, а тут — свой свет, свая святая святасць.

Няйначай як Мележу патрэбна было часамі з дня рабіць ноч, і гэтаму таксама памагала драпіроўка. Затуліў сцяну цяжкаю апонаю, і калі ласка — ноч! Слугавала гэтаму і высока на сцяне ўмайстраванае прыладдзе дзённага святла: у любы час шкляныя, цнатліва-сцішаныя трубачкі нясмела ажываюць, разліваючы па пакоі млечна-бялюткае роўнае святло. Толькі дзівіла элементарнае парушэнне законаў асвятлення — з правай рукі. Тут ужо прыйшлося здагадвацца: значыцца, раней стол стаяў тварам да акна, як у другіх. Вельмі няўрымслівая гэта рэч — знайсці душэўны лад з сваім наваколлем.

3

Ніколі ні ў кога я не бачыў такіх датклівых адносін да работы, як у Мележа. Калі ён пісаў, то да ўсяго астатняга быў сляпы, глухі — як загіпнатызаваны. І калі вы хоць нечым выказалі душэўнасць і спагаду таму, чым ён быў заняты, ён вельмі лёгка давяраўся вам. Ён не мог, каб не падзяліцца кожнаю хвілінаю свае няпэўнасці ці трывогі. Ці ўдачы. Учора, напрыклад, мог прачытаць новы раздзел ці кавалак з напісанага, упэўніцца, што ён зроблены, як кажуць, на самым высокім эмацыянальным, псіхалагічным, этнаграфічным, філасофскім, моўным і яшчэ якім там прафесійна-пісьменніцкім узроўні, што пасля гэтага можна спакойна і шчасліва пайсці спаць, — але назаўтра пад вечар зноў пытаўся, ці можна зайсці. І гаворка і сумнівы пачыналіся нанава, бо ўчарашнія старонкі рукапісу былі пакрэмзаны, скрэслены паметамі, і дробным, круглявым Мележавым почыркам былі ўпісаны папраўкі або тэкст быў напісаны новы.

Звычайна тое, што чытаў Мележ, было паслядоўным ходам твора. Але аднаго разу ён прачытаў раздзел, які вельмі здзівіў мяне. Ён выпадаў з паслядоўнасці, быў непадрыхтаваны ні падзеямі, ні логікай руху, знаёмыя былі толькі імёны. У нядаўна чытаным раздзеле я перажываў за Васіля Дзятліка, што яму

пачынае перабіваць дарогу да Ганны Яўхім Глушак. Запомніўся малюнак, калі Ганна жала жыта, адале адышлася ад сваіх і ўзмежкам падалася к лесу. Яўхім цікаваў за ёю; ладуючы з бацькам свой воз снапоў, прыкінуў, што яна магла пайсці ў маліны. І, улучыўшы хвіліну, схітраваўшы перад бацькам, што нагледзеў арэшынак на абручы і што трэба іх ссекчы, таксама сігануў у лес. Можа, гэтак ярка і не запомніўся б той малюнак, калі б не сустрэлася тут Яўхіму Хадоська. Яна чула душою, што Яўхім пакідае яе.

«— Я грубая, — з адчаем гаварыла яна.

— Нагуляла, значыцца?.. Цяпер шукаеш, хто вінаваты?..»

Ух, які хціві нягоднік быў гэты чалавек! Не хацелася, ой як не хацелася, каб у свае цянёты ўбэрсаў яе Яўхім, каб прыняла яго Ганна! І стала лягчэй, калі гэтак і выйшла, калі з разбітаю храпаю пайшоў ад яе Яўхім.

А цяпер Мележ чытаў нешта зусім другое:

«Ганна сядзела на возе, над незачыненай труной, як бы абдымала яе рукой. Галава яе была схілена, сонца паблісквала ў шаўкавістых валасах, пасма якіх, непрыбраная, звешвалася на лоб. Вочы яе, сухія, гарачыя, нязводна глядзелі на малую: Верачка, блізкая і недасяжная, ляжала сярод валошак, пакладзеных Сцяпанам. Другія суткі не зводзіла Ганна вачэй з роднага тварыка, не верыла, не магла згадзіцца, што неўзабаве тварык гэты мусіць назаўсёды знікнуць.

...Ганна рабіла ўсё як у бяспамяцці, толькі вочы жылі, з нямой пяшчотай і скрухай глядзелі, не адрываючыся ад малой. Яна моўчкі стаяла з мачыхай, калі здымалі труну, ставілі на зямлю, калі поп казаў штосьці, моўчкі, паслухмяна падышла развітацца з малой. Прытулілася да тварыка, хвіліну паляжала побач, але, як мачыха ўзяла за плячо, паслухмяна паднялася. Калі ж бацька ўзяў века і хацеў накрыць дамавінку, з Ганны бяспамяць як бы спала раптам. Яна як бы ажыла, умомант, нібы пры бляску маланкі, убачыла пясок, гліну, цёмную зеўру ямы, убачыла, даўмела нанова, жахнулася — вырвалася з рук мачыхі, поўная роспачы і нястрымнай сілы, з крыкам кінулася да труны:

— Не!

Яна ўпала на зямлю, абхапіла дамавіну, прынікла да малой. Шаптала, задыхалася ад гора, ад любасці:

— Не дам, не дам дочачку маю! Кветачку маю! Мальвачку маю!.. Не дам! Не дам! Вяргінечку маю, півонечку маю малую! Не дам! Не дам!!!»

Не хапала сілы слухаць, нельга было даўмецца, якія акалічнасці напаткалі Ганну. Што здарылася? Дзе дзеўся Васіль Дзятлік? Калі і як было, і ці было яно, Ганніна замужоўства? Але я набраўся цярплівасці не перапыняць, праслухаў урывак да канца.

— Адкуль гэта? — пытаўся я.

Мележ памаўчаў. Потым як бы сам сабе вінавата ўсміхнуўся.

— Гэта ўжо з другой кнігі.

— Дык жа не скончана яшчэ першая?

— Не скончана. Да канца першай далёка яшчэ.

І якое было мне дзіва, калі я дазнаўся, што Мележ можа пісаць, не пільнуючыся паслядоўнасці твора. Пісаць тыя мясціны, якія найбольш гатовы ў галаве, прадуманы, перажыты душою — у канцы гэта ці ў сярэдзіне кнігі, — а потым ужо кампанаваць іх, устаўляючы кожную на сваё месца. Міжволі з болем падумалася, колькі мною загублена найдаражэйшых, найярчэйшых эпізодаў, карцін, парыванняў душы толькі таму, што на сваім свежым часе я не запісаў іх, чакаў, калі прыйдзе чарга на іх законнае месца. І яны бляклі, мізарнелі і патухалі, стаўшы дакорам, як злачынства, невядома навошта зробленае табою...

4

Затое мне знаёмы быў клопат з назвамі твораў. І ўдзень і ўночы; і ў сне і наяве. Беспярэстанку яны варушацца і кіпяць у галаве. То паяўляюцца і знікаюць, то перайначваюцца, кожны раз набываючы другую акрасу.

У Мележа іх было некалькі спіскаў. «Палеская хроніка» яшчэ была толькі задумана, а назвы ўжо прыдумляліся. Адна з першых была «Людзі на балоце»; прызнаюся, яна мне не вельмі падабалася: не хацелася, каб эмацыянальна людзей заценьвала балота, якое ў маёй біяграфіі вельмі ж далося ў знакі. Потым ішлі назвы з характарыстыкаю Палесся: «Туманы над багнаю», «Навальніца над полем». У розным спалучэнні вар'іраваліся словы з такімі сімваламі, як «бераг», «асака», «раска», «завеі». Напрыклад, «За асакою бераг». Безліч розных прымернікаў. Як відаць, назвы рабіліся з запасам на ўвесь цыкл «Хронікі», бо «Подыхам навальніцы» назваўся потым другі том, «Завеі» дасталіся трэцяму, праўда, з дадаткам адзнакі часу: «Завеі. Снежань».

Першы том аставаўся без канчатковай назвы да самай апошняй хвіліны. Толькі перад здачаю рамана ў набор, пасля пакутлівых ваганняў Мележ напісаў на тытульнай старонцы: «Людзі на балоце». І раптам лёгка ўздыхнуў, супакоіўшы сябе філасофскаю пігулкаю, што калі будзе добрая кніга, то да назвы адразу прывыкнецца.

5

Цяпер раскажу пра выпадак, які здарыўся аднаго разу, калі пасля тэлефоннага званка Мележ зайшоў да мяне. Звычайна я саступаў яму месца за сталом, заўважыўшы, што ён там чуўся больш утульна. Перад гэтым я чытаў «Мінскі напрамак» — першы том новага выдання, падпісаны аўтарам мне як падарунак. Мележ адразу пазнаў разгорнутую на стале сваю кнігу, стрымана, але здаволена ўсміхнуўся, сказаўшы, што яму вельмі прыемна заспець суседа за такім неспадзеўным заняткам, як чытанне яго, аўтаравай кнігі.

— Вось цяпер нарэшце ты скажаш мне і свае заўвагі, — успомніў ён колішнюю размову.

Ён перагарнуў старонку-другую назад, і твар яго спахмурнеў. На старонках простым алоўкам былі пароблены мае паметы: ці то падкрэслены радкі ў тэксце, ці на палях пастаўлены пытальнікі і напісана якое слова ці разгорнутая заўвага. Я ведаў, як хваравіта прымае Мележ любое чужое ўмяшанне ў сваю работу, як лёгка яго можа параніць любая неасцярожнасць, і мне стала непамысна. А Мележ тым часам адгортваў і адгортваў старонкі назад. У кожную заўвагу ўчытваўся, у кожны мой знак узіраўся. Нарэшце абхапіў галаву ўзлакочанымі на стол рукамі і застыў, нават забыўшы, што сядзіць не за сваім сталом.

Доўга мы праседзелі вось гэтак моўчкі, я бог ведае што перажыў.

— Ну што ж, усё правільна, дарагі Яне, — сказаў ён. — Я ўвесь час гэты свой раман папраўляю, гэтае выданне таксама папраўлена. Галоўным чынам дапісваю, абчалавечваю, калі можна гэтак сказаць, вобраз генерала Чарняхоўскага. А мова, ты ж яе найперш і падкрэсліў, каюся, мною тут недагледжана. Кніжная. Нават не кніжная, а — газетная! У гэтым уся й бяда. Вельмі цяжка мне было адмовіцца ад уяўлення, што ваенную рэч трэба пісаць моваю службовае сферы. Апраўдваючыся, што ваенная тэрміналогія ў нас не распрацавана. А хто ж будзе распрацоўваць яе, калі не мы? На жаль, позна я спахапіўся, а

папраўляць усю кнігу — гэта ж усё роўна як пісаць яе нанава. Няма калі.

Я прызнаўся, што лічу, што яго «Людзі на балоце» — гэта класічны ўзор таго, як мова робіць герояў твора жывымі людзьмі. Ні аднаго фальшывага слова, а адсюль і робленага жэсту, позы. Нават Вераччыну дамавінку Сцяпан убраў валошкамі. Не кніжнымі васількамі, якія я ўпершыню пачуў толькі ў Багдановічавых «Слуцкіх ткачыхах» і доўга думаў, што кветкі гэта нетутэйшыя. А тымі краскамі, што ведаў з дзяцінства, бо іх таксама звалі ў нас валошкаю.

— Праўда? Нідзе ніякага фальшу? — раптам ажывеў Мележаў твар, і вельмі зычліва, чыста і даверліва засвяціліся яго вочы.

Ён пайшоў, не сказаўшы на гэты раз, чаго заходзіў, якая да мяне была ў яго патрэба. Але праз паўгадзіны пазваніў зноў:

— Яне, дарагі! І я, дый ты цяпер, я ведаю, працаваць не будзеш. Давай трохі паездзім па наваколлі, як рабілі гэта не раз, калі трэба было знайсці добры спакой. Спускайся, я іду заводзіць машыну.

Ездзілі мы доўга і многа. Мележ добра ведаў дарогі гэтага, як ён сказаў, наваколля. Ён выбіраў тыя, што завуцца сценкамі або прасёлкамі, праз цяперашнюю малую патрэбу ў жывым цягле закінутымі часамі да таго, што пачалі зарастаць травою, толькі дзе-нідзе прасвечваліся яшчэ колісь убітыя каляіны ды пасярэдзіне іх угадваўся конскі след. Такія дарогі апавіты вечнай паэзіяй, яны, звычайна, ідуць па мяжы лесу і поля або сенажаці, і ты, суняўшыся, можаш зачаравана глядзець, як у бясконцым палетку плыве і плыве збажына...

Прыблізна ў гэтакай мясціне Мележ і спыніўся: на паваротцы з высокага пагорка выскачыў на дарогу краёк бору, можна сказаць, рэштка колішняга бору з медзянымі ствbooламі гонкіх хваін, з падсушанымі доле на сонечных лапінах пярэстымі плямамі моху, чабору і верасу. Лёгка мы знайшлі мясціну з густым ценем у кустах, што буйна выраслі за дарогаю на колішніх глінішчах, і апусціліся ў ласкавы халадок травы.

— Пісьменніку абавязкова трэба мець машыну, — сказаў Мележ, — яна дае куды больш поўнае адчуванне свету. Калі не баяцца гіпербалы, дык можна сказаць, што пісьменнік без машыны — гэта чалавек у творчым сэнсе адсталы, несучасны, ён не можа як след разабрацца нават у сённяшнім дні. Гавару гэта з свае практыкі.

Я мог толькі згадзіцца з гэтакім меркаваннем, асабліва пасля сённяшняга падарожжа. Але Мележ тут жа перамяніў тэму.

— Дык ты кажаш, ні ў адным слове не чутно фальшу? — Відаць, увесь час ён не забываўся на нашу размову. — А гэта мне вельмі дорага.

Лёгка пайшла ў нас гаворка аб мове, асабліва цяперашняй. Што яна стала багатая, граматная, гнуткая, але што народную аснову яе вельмі ж калечаць неахайнікі. То калькаю, то хадульнаю будоваю фразы. Пісьменнік павінен вучыцца мове кожны дзень! Што было б лагічна, каб Інстытут мовазнаўства меў сектар культуры мовы, які даваў бы свае рэкамендацыі або свае перасцярогі. Абараняў бы і лексіку, якая з'яўляецца духоўным багаццем народа, мудра назбіраным за ўсю яго гісторыю. Ці ёсць, напрыклад, патрэба такія народныя словы, як «лужок», «кубак» — падменьваць «чашкаю» і «лужайкаю»? Калі людзей усё жыццё звалі Аленаю і Прахорам, то чаму стала лепш зваць іх Алёнаю і Прохарам? Што толькі праз нашу неахайнасць мове надаецца ненатуральнасць і хадульнасць.

— Усё гэта лёгка можна было б прапусціць міма ўвагі як выпадковасць ці як памылку, — гаварыў Мележ. — Дык жа яна, зафіксаваная недзе ў картках таго ж Інстытута мовазнаўства, потым стане нормаю.

Гэтакая гаворка была нам па душы. Можа, у ёй была нават нейкая няслушнасць, але гэта анічым не стала нам на шкоду. Тым больш што я адчуваў, што асабліва па душы яна была Мележу: тады ўвесь ён жыў у моўнай атмасферы сваіх «Людзей на балоце».

## 6

Ён ніколі не скардзіўся на здароўе. І разам з тым на вуліцы, калі ты мог з ім сустрэцца, перасцярожліва паказваў жэстам, што яму гаварыць нельга. І прабачліва як бы прасіў вачыма: «Ты, калі ласка, гавары, я буду слухаць цябе, але мне — няможна». Гэтак было не толькі ўзімку, у халады, ці ў сырую восень, а нават улетку. І было дзівам бачыць, як гэты высокі, ладны, прыгожы чалавек, элегантна апранены — у драпавым паліце або ў светлым габардзінавым макінтошы, у светла-рудой шапцы-вушанцы або ў чорным берэце, гэтакі ветлівы і далікатны, — было дзівам, як ён стараецца не трапляць людзям на вочы з-за свайго глухога частага кашлю, з-за патрэбы настаўляць вышэй каўнер і цёплым шалікам тоўста ўкручваць шыю, рукою затульваць дыханне. І

ён з'язджаў з дому то ў Крым, то ў Трускавец, то яшчэ куды на цэлыя месяцы. Збоку гледзячы, можна было падумаць, што чалавек раскашуе, гойсае па курортах, а ён шукаў мясцін, дзе можна было б, на ўсё забыўшыся, працаваць, пераклаўшы клопаты аб здароўі на медыцыну або хоць на лекавы фактар клімату. Каб самому не думаць, апроч работы, ні аб чым.

Вось як пісаліся Мележам яго «Людзі на балоце». Апошнім разам, памятаю, паехаў ён у Ялту ўшчэнт высілены, схуднелы, з настроем невясёлым. Зайшоў у рэдакцыю развітацца і папрасіць, каб планавалі ў часопісе месца.

— На ўсякі выпадак майце мяне на чарзе, — сказаў ён. — А потым — пабачыце. Бо хто яго ведае: можа, у мяне нічога людскага і не выйшла.

Па немалым часе ён напісаў з Ялты, што рукапіс рамана выслаў. І не ўтрываў, каб не перасцерагчыся ў тым, што лічыў асабліва важным.

«Зазіраючы наперад, — пісаў ён, — думаю, што ў Вас, напэўна, будуць нейкія сумненні наконт таго, як даваць гаворку героям. Я наважыўся перадаць некаторыя асаблівасці гаворкі палешукоў, але пастараюся зрабіць гэта як мага асцярожна, — каб не абцяжарваць задачу чытачу, які наважыцца ўзяць у рукі маю кніжку... Табе, як уражэнцу Цэнтральнай Беларусі і чалавеку, які любіць чыстую літаратурную і правільную мову, гэтыя асаблівасці, можа быць, не спадабаюцца, але я думаю, што ў тых сціплых адхіленнях, якія я асмеліўся дапусціць у адпаведнасці з жывой палескай мовай, яны неабходны. Яны — частка агульнага каларыту беларускага нашага краю, які я люблю разам з яго рэкамі, лясамі і балотамі. Думаю, што не толькі вучоныя-дыялектолагі, але і наш брат-празаік не можа быць зусім абыякавым да таго, як гаварылі вякамі і гавораць людзі вялікай часткі нашай зямлі».

Прыблізна вось што напісаў я Івану Мележу ў Ялту. Што раман мною прачытаны за дзве ночы дома — замест сну: ці не найлепшая гэта рэцэнзія? Што ён — бясспрэчная ўдача, чытаецца, як самы сённяшні, самы сучасны. Што людзі ў ім як жывыя, за іх, як за жывых, перажываеш. Раману я прарочыў шчаслівую долю і дзякаваў за хвіліны чытацкага майго хвалявання.

Я, мабыць, не пераступлю такту, калі падам і яшчэ колькі мясцін з лістоў, якія вельмі добра перадаюць стан новага Мележавага самаадчування.

«Твой ліст аб рамане — адна з самых радасных для мяне вестак з родных мясцін за многія і многія месяцы. Прызнаюся,

чытаў і чытаў я яго, прыглядаўся, нібы хацеў яшчэ раз пераканацца, што ўсё так і напісана, як прачытаў зразу», — пісаў ён у чэрвені 1961 года.

«У мяне жыла і яшчэ жыве нейкая асцярога да кнігі, да яе лёсу, усё яшчэ жыву чаканнем — як будзе далей, усё правяраю сябе...

Але разам з тым у гэтым чаканні, у гэтай асцярожнасці твaё добрае слова мяне цешыць і робіць смялейшым. Праца, за якую я ўзяўся, не вельмі ўдзячная, не вельмі лёгкая ў наш час, калі ўсюды толькі і гаворкі — аб сучаснасці, але я не магу не рабіць яе — яна мне дарагая, як самае дарагое ў сэрцы. Я калісьці напісаў кнігу пра лейтэнантаў і генералаў, пра герояў, а цяпер мяне вабіць зямля, поле, хаты нашы, я думаю, што гэтыя простыя, у нечым наіўныя, у нечым мудрыя гарапашнікі-людзі і ёсць аснова жыцця. З іх бяруць пачатак, імі ўзрошчаны першыя парасткі, якія далі і пяцігодкі, і сямігодку, і спадарожнік, і касмічны карабель «Усход»...

Усе мы — чалавекі, Янка, і ўсіх нас часта — часцей, як трэба, мабыць, — трывожаць сумненні. Неаднойчы ў мяне была такая думка, што, можа, залішне глыбока ўлез у «балота», выбраў такую доўгую дарогу па багне. Думалася часам, можа, гэта нецікава другім, не вельмі патрэбна, а ты (я), дзівак, пнешся, гнешся, марнуеш на гэта гады, здароўе, жыццё... Таму твой ліст — не проста добры ліст, гэта слова таварыша, якое памагае ісці, падтрымлівае, дае сілы, большай упэўненасці.

Дзякуй табе! Пасля твайго ліста так захацелася сесці за стол, павесці гаворку далей!..»

## 7

Ён скрозь шукаў цішыні. Усюды: дома, у дарозе, пры рабоце, на адпачынку. Асабліва патрэбна была яна за рабочым сталом. Ён памяняў кватэру, але без асаблівай удачы. Я быў на той кватэры, апрошчана-строгай, халодна-чыстай, бачыў усе пакоі, нечым падобныя адзін на адзін, чамусьці здавалася, што ў іх павінны быць насцеж паадчыняны ўсе дзверы. Бачыў новы кабінет: Мележ сядзеў за тым самым сталом, які тут здаваўся чамусьці лішнім: на тых самых стэлажах кнігі стаялі як напаказ, пазорыста, але зусім не душэўна. За вокнамі час ад часу з грукатам праходзіў трамвай, на выездзе з плошчы Свабоды ён доўга і тонка звінеў, і я бачыў, як кожны гэтакі раз па Мележавым твары праходзіў боль.

Добра, што нядоўга яму прыйшлося там бедаваць.

Потым ён жыў на вуліцы Янкі Купалы. На добрай, спакойнай, малаязджалай вуліцы. Паўз яе цякла гэтакая ж спакойная рэчка, а за ёю зелянеў ціхатою дзіцячы парк. На гэты раз Мележ сядзеў на засланай стракатым пледам канапе, скрыжаваўшы на грудзях рукі, і пытаўся, пытаўся ў мяне, як жыву, што раблю, чаму мала пішу. Прасторны кабінет яго быў напоўнены нейкім вельмі чыстым, высокім святлом, можа, ад шырокага тут акна, а можа, ад душэўнага ладу, што праступаў праз скупую Мележаву ўсмешку. Я ніколі не бачыў, каб Мележ адкрыта, свабодна, уголас смяяўся, яму ішла толькі вось гэтакая скупая, можна сказаць, хатняя ўсмешка.

— Ты вельмі добра зрабіў, што завітаў да мяне, — сказаў ён на развітанне. — І заходзь, калі ласка, часцей. А то так стала — усё некалі і ўсё некалі нават сустрэцца.

*1980*

## ПАСЛЯ РАЗВІТАННЯ

Нас з ім бадай што разам напаткала бяда. Калі па нейкім немалым часе я нарэшце апрытомнеў, то першае, што слаба дайшло да ўсведамлення: у ложку насупраць мяне ляжыць Алесь Пальчэўскі. Аднак у памяці гэта толькі зафіксавалася, не пакінуўшы ні здзіўлення, ні трывогі. Адчуванні прыйшлі пазней, калі я пачаў у сім-тым разбірацца. Да мяне дайшло, што Пальчэўскаму вельмі блага: яму адабрала мову, паралізавала частку цела. Кожны раз, прачнуўшыся ад свайго частага засынання, з нейкаю палахліваю прымхлівасцю ў душы я бачыў, што на мяне з падушкі глядзяць Алесевы ціхія вочы. Як бы чаго пытаюцца. Як бы хочуць нешта сказаць.

Хвароба цякла вельмі няроўна. Часам наставалі хвіліны палёгкі, калі здавалася, што трывожыцца няма чаго, што бяда пройдзе, як праходзіла ўжо не раз. Аднаго разу ён мяне зусім абнадзеіў. Калі я адужэў да таго, што мог падымацца на ложку, захацелася самому пабрыцца. Разетка была тут жа ў сцяне. Вельмі няўпэўнена хадзіла брытва па нясвежай барадзе, млела, не набраўшыся яшчэ сілы, рука. Калі я скончыў, Алесь мармытнуў нейкае слова і кісцю правае рукі паказаў на сваю бараду. Я зразумеў. Першы раз я ступіў з пасцелі і, апіраючыся па тумбачку, перасеў да яго на ложак. Брытва мая, сетачная, не брала яго барады, яна патрабавала кароткага воласу, і ён тым

жа слабым жэстам рукі паказаў, што ў яго ў тумбачцы ляжыць свая брытва.

Потым настаў даволі доўгі час упартага, маўклівага забыцця. Потым яго перасялілі — падкаціўся гэты страшны бальнічны тапчан на мяккіх гумовых колах і спакойна павёз яго за дзверы. У палаце стала нязвычна, нават трывожна ціха.

Назаўтра ўранні я выйшаў у калідор, каб наведацца да Алеся. Дзверы ў яго палату былі прачынены, але ў ёй стаяла толькі прытуленае да сцяны крэсла і бялела чыста засланая пустая пасцель.

* * *

Пакрысе прыпамінаюцца і прыпамінаюцца нашы маладыя гады. Пісаць ён пачаў яшчэ на рабфаку, першае апавяданне «Ахвяра» надрукаваў у «Маладым аратым» у 1926 годзе. Быў высокі, тонкі, белабрысы. І худы: на выцягнутым вострым твары відны былі адны толькі вочы.

Ён не хацеў нідзе вытыркацца, але цягнуўся да грамадскае работы. Апроч удзелу ў рэдкалегіі быў членам усякіх камісій, прафкама, студкама. Хадзіў лёгка, любіў таварышаванне, але ў кампаніі, як гэта бывае сярод студэнтаў, каб пільнавацца нейкага свайго гурту, не лез, пасля заняткаў спяшаўся дадому. Трохі не пасавала да яго таварыскае натуры гэтакая нехлапечая дамавітасць. Думалася ўсяк: чалавек прыйшоў з рабфака, трэба многа наганяць па вучобе ці хоць бы старацца, каб не адстаць. Або тое, што быў з беднае сям'і, розных дастаткаў з дому не чакаў, прыходзілася выбіраць часу і на падработкі. Не апошняя прычына бачылася і ў яго суровай самадысцыпліне, бо пісьменніцтва не кантактуецца з марнатраўствам. Нарэшце сярод прычын адкрылася самая нечаканая: аказалася, ён быў жанаты. Аднак жа рэдка калі яго можна было бачыць з жонкаю: мілавідная маладая жанчына з кучаравымі валасамі колеру спелае пшаніцы, Мура. Я адразу апраўдаў і яго дамавітасць, і праняўся нейкаю адмысловаю, новаю да яго павагаю.

Жыў ён у Завакзаллі, на Красівай вуліцы. Чаму яна гэтак звалася, астаецца тайнаю, бо нічога «красівага» ў ёй не было. Яна выходзіла бадай што за горад, была падобна больш на выселкі. Ад другіх яе вылучала хіба толькі тое, што дамоў стаяла больш новых, дашчаныя тратуары, калі ідзеш па іх, не ўгіналіся, стройным шнурам яшчэ стаялі платы. Яе чамусьці аблюбавалі паэты. На ёй ці поблізу яе, у тым, як цяпер кажуць, рэгіёне ў розныя

часы — хто больш, хто менш — пражывалі Васіль Каваль і Сымон Баранавых, Змітрок Астапенка і Юлі Таўбін.

Я таксама жыў у Завакзаллі, адразу за чыгункаю, мне чутны былі ўсе перастукі па рэйках і гудкі. Часта па дарозе дадому з універсітэта Алесь забягаў да мяне пасядзець, папрастарэкаваць, пачытаць новыя вершы.

Вершы ён пісаў найбольш дзіцячыя, я ж, ведама, стаяў за прозу, тым больш што з яе ён і пачынаў.

— А яно, мабыць, гэтак і пойдзе, — не адразу згаджаўся ён. — Бо ў мяне ў Прусінаве, гэтак жа як у Кузьмы Чорнага, і радні з паўсяла набярэцца, і здарэнняў усякіх хапае, можна пісаць бог ведае колькі. А ў вершах жа мала што скажаш.

Як бачым, ужо тады творчая практыка Кузьмы Чорнага настаўляла нас. І праўда, у Алесевых творах пад рознымі псеўданімамі і ў розных, далёка не тутэйшых сітуацыях, таксама неўзаметку пасяляліся прусінаўскія дзядкі і бабулі.

* * *

Бывае парода людзей, сапраўднае чалавечае хараство якім надае старасць. Усё мяняецца ў іх — і хада, і пастава, і манера трымацца, і аблічча. Вось з такой пароды і быў Алесь Пальчэўскі. І калі з чалавекам жывеш поруч, гэтакіх перамен не надта і бачыш. Але жыццё распараджаецца так, што часамі самыя лепшыя сябры не бачацца доўгімі гадамі.

Сустрэўшыся, першае, што ён папытаўся: дзе я жыву.

— Ды нідзе яшчэ, трэба шукаць.

— Хадзем да мяне. Мы толькі ўдваіх з жонкаю, месца хопіць.

Ён зноў жыў на Красівай вуліцы. Праўда, яе стала не пазнаць: усё кругом абсялілася, стала цясней, і сама вуліца як бы павузела і пацямнела.

Дом драўляны, яшчэ ладны, на дзве палавіны. Адну з іх займаюць Пальчэўскія. Вялікі пакой і бакоўку. Чыстата, прыбранасць. З бакоўкі выходзіць незнаёмая мне жанчына, жонка. Тамара Цулукідзе. Артыстка? А-а, прыпамінаю: славуты грузінскі тэатр з не менш славутым яго рэжысёрам-рэфарматарам Сандро Ахметэлі і, вядома, таленавітымі артыстамі. Здаецца, такое прозвішча нават чуў: у кіно Ната Вачнадзе, а ў тэатры — Цулукідзе. Прыглядаюся: сімпатычная невысокая жанчына з пунсова-жадлівымі грузінскімі губамі; чую — класічна чыстая руская мова. Яна паказвае мне на бакоўку: калі ласка,

пакуль знойдзеце, займайце. Алесь з гасціннаю ўсмешкаю ківае галавою: будзь як дома.

Час ішоў. Потым ён жыў на вуліцы Карла Лібкнехта, потым — на Чарнышэўскага. Цяпер яму было куды лягчэй пільнавацца заведзенага парадку: з раніцы — у сябе за сталом, з абеду — на службе, а вечар — на людзей. І ўсё расцвітала і ўсіх дзівіла яго чалавечая краса. Мажны, высокі, плячысты, ладны,— дзе ён усяго гэтага набіраўся? У свабодна адкінутых назад валасах з густым снегам сівізны — спакойная, як бы прафесарская сталасць. У высокай паставе галавы — велічнасць, у няспешнай хадзе — паважнасць. Нос — з гарбінкаю. Адкуль узялася ў яго, у прусінаўскага кроўнага мужыка, гэтакая пародзістая арыстакратычная гарбінка?

Ён любіў, калі ў яго бывалі людзі. Іх было бог ведае колькі, Алесевых прыхаджан: сябры, знаёмыя, радня. Калі, бывала, я нейкі час не акажуся, ён званіў:

— Ну дзе ты дзеўся? Што там робіш? Нічога? То скарэй жа прыходзь! Ты хіба забыўся, што прагуляў?

Гэта пра шахматы. Страшэнна любіў. Часам ззываў цэлы гурт, на выкідку, на дзве дошкі: мяне, Хомчанку і Мяжэвіча. Калі прагульваў — перажываў.

Апошнім часам дактарамі яму было забаронена гуляць. Таксама перажываў.

Забаронена было і працаваць, гэта асабліва яго мучыла. І мне здаецца, што тут ён вінаваты: ці не прысаджваўся ўсё-такі цішком да стала? І мог гэтым сабе пашкодзіць.

* * *

Пасля бацькоў асталася ў Прусінаве хата. Яна не гадзілася пад лецішча, стаяла бадай што пасярод сяла, пры самай вуліцы, не было тут ні зацішку, ні ўтульнасці. Але не мог Алесь, каб забыцца на гнездзішча. Разоў колькі ездзіў туды ў тое Прусінава, дастаў матэрыялаў, знайшоў майстроў, даў грошай — папраўляйце. Хаты стала не пазнаць: пераслана падлога, памяняны вокны і дзверы, абшаляваны сцены, шыферам накрыта страха. Нават усярэдзіне памяняўся план: ад варыстае печы дзверы разыходзяцца ў абедзве палавіны, каб і там і там можна было зацішна працаваць.

Але не прыпамінаю я, каб Алесь надоўга ездзіў туды.

Апроч бацькоўскай хаты агледзеў ён і могілкі. На канцы сяла стаялі яны, занядбаныя, запушчаныя: за раскіданаю агароджаю

пасвіліся цяляты, варочалі лычамі зямлю свінні. Зноў пачаўся Алесеў клопат — з сельсаветам, з матэрыяламі, з цеслярамі.

Памятаю, ішлі мы з ім ад чыгуначнае станцыі Коласава да Прусінава пехатою. Гэтакі пахучы смаловы лес, гэтакая паэтычная дарога, не сталбавая, а прасёлкавая, што заўсёды вывіваецца па нейкіх толькі ёй вядомых жадунках, каб за кожным паваротам паказваць вам новыя дзівы. Мы стараліся ісці не дарогаю, каб не пападаць у раз’езджаныя, пылныя каляіны, а чуць-чуць збочвалі ў лес і вельмі шкадавалі, што ніхто не пратаптаў тут сцежкі: як жа добра ідзецца тут па мяккім імху, па слізкай, сухой рудой ігліцы, і толькі адно замінае: што сюд-туд трэба выварочвацца, каб якая малая, гарэзліва-дзёрзкая хвойка не сцебанула цябе па вачах ці не падрапала твару. Я сказаў, што калі б тут хадзіў гэтак часта, як ён, то даўно працерабіў бы дарожку: і самому якая была б зручната, і людзі дзякавалі б.

Праз колькі часу, зноў запрашаючы ў Прусінава, Алесь сказаў, што дарожку ён працерабіў.

— Не мані, — сказаў я. — Гэта вельмі цяжкая работа — праз увесь лес.

— Дык табе ж даецца права праверыць, — хітравата ўсміхнуўся ён.

Аказваецца, папраўдзе дарожка была працярэблена: ён знайшоў ахвотнікаў, падлеткаў, заплаціў.

Ён быў вельмі чулы сэрцам, даверлівы, з ім лёгка было таварышаваць. Жыў у дастатку, і вельмі незвычайныя ў яго былі адносіны да грошай. Раскідацца ён імі не любіў, быў ашчадны, ведаў, як кажуць, цану капейцы, але з лёгкім сэрцам і распускаў іх. У яго было многа пляменнікаў, далёкай і блізкай радні, і ўсе рады былі ад дзядзечкі Алеся запамагчыся. І пазычаў, часам нават мала знаёмым людзям. Пазычаў і мне. Ён ведаў, што я меўся збыць адзін клопат, але ўсё адкладваў і адкладваў. Аднаго разу ён і папытаўся, чаму не раблю.

— Ат, пачакаецца, — сказаў я абыякава.

— Што, мабыць, грошай няма? То колькі табе трэба? Тысячу хопіць!

У яго была проста патрэба рабіць каму-небудзь дабро. І сам быў бы з найшчаслівейшых, калі б не адна акалічнасць.

У маім апавяданні «Над гаем кружылі буслы» ёсць сітуацыя, блізкая той, якую перажыў Пальчэўскі. Натуральна, што я не мог друкаваць яго, не прачытаўшы Алесю. Там адна з гераінь, калі яе муж аказаўся ў бядзе, як мага барзджэй адцуралася яго,

выйшла замуж за другога, перапісала на яго сына, дала яму новае прозвішча.

Алесь доўга маўчаў пасля таго, як я скончыў чытаць. Глыбока ўздыхнуў.

— Ён цяпер ужо сталы мужчына, — сказаў ён. — Мае сваю сям'ю і добрую работу. Сяк-так упрасіў яго, прыязджаў сюды. Але гаворкі ў нас не выйшла. Гэтак чужым і паехаў.

* * *

Не хочацца канчаць успамін пра яго сумна. Тым больш што ён сам не любіў ныцця, на яго гледзячы хацелася жыць гэтак, як ён — жыццялюбна, чалавечна, з адкрытым тварам. Бывала, ён вельмі любіў простыя, усім вядомыя жарты. Званіў па тэлефоне і падробленым голасам прыдумляў якую-небудзь гісторыю: што вам па нейкай справе конча трэба з'явіцца ў выканкам або ў міліцыю, у такі і такі пакой. Яго мілае шальмоўства звычайна я адразу ж разгадваў, але аднаго разу папаўся-такі. Пазванілі з домакіраўніцтва, даволі строга: што каторы месяц у мяне не аплачана кватэра. Як так! — настаўбурчыўся я. — Тут нешта наблытана, у мяне ўсе квіткі...

— Дык вось мы ж і просім зайсці да нас з квіткамі, таварыш Скрыган.

— Зараз жа зайду!

Тут толькі Алесь разрагатаўся. Божа, як хораша ўмеў ён рагатаць! Здаецца, што я нават бачыў на тым канцы тэлефона, як рагоча ён: шчыра, па-дзіцячы шчасліва, высока закінуўшы назад зусім белую сваю галаву.

*1980*

# САМАЕ ДОЎГАЕ ТАВАРЫШАВАННЕ

## 1

Трое нас — Пятрусь Броўка, Макар Шалай і я — надумалі конча вучыцца. Трэба было ехаць у Мінск, там быў ужо Паўлюк Шукайла і нас падганяў. Пад канец 1927 года мы з Шалаём паехалі, аднак, удваіх; Броўка мусіў трохі затрымацца, бо не было каму здаць газетнага сакратарства.

У Мінску мы лёгка знайшлі кватэру ў Завакзаллі, у гэтым жа доме згаварылі пакой і Броўку. Гэта было і зручна, і пасяброўску, бо наш клопат не абмяжоўваўся толькі побытам і універсітэцкімі турботамі, нам хацелася быць разам. Кожнаму з нас наперадзе свяціла таемная зорка жаданых літаратурных скуткаў. Заняткі ў універсітэце не заміналі нам у гэтай мары. Мы мелі магчымасць на лекцыі важнейшыя і цікавыя — хадзіць, на малаважныя і нудныя — не. То быў час пошукаў і станаўлення беларускай новай літаратуры. У Мінску то ў клубе Карла Маркса, то ў Доме працасветы, то яшчэ дзе наладжваліся літаратурныя вечары, дыспуты, абмеркаванне нейкіх неадкладных праблем ці твораў. І мы свой час аддавалі на гэта. Такая атмасфера была нам найлепшаю літаратурнаю школаю.

Пятрусь Броўка, будучы чалавекам вельмі чулым да грамадска-палітычнай чыннасці, рынуўся ў гэтую атмасферу з усім запалам свае непасрэднае натуры. У Полацку нейкі пэўны, зусім невялікі час яго трывожылі матывы так званай ясенінршчыны, тут жа гэты налёт знік імгненна. Яго цалкам захапіла паэзія барацьбы, наступу, услаўлення часу, рэвалюцыйных пераўтварэнняў рэчаіснасці. Вершы тае пары пазней увойдуць у першую кнігу, сама назва якой будзе гаварыць аб іх накіраванасці: «Гады як шторм».

Была ў Петруся Броўкі яшчэ і такая здольнасць, што ён ніколі не аставаўся адзін, каля яго абавязкова збіраўся гурт аднадумцаў ці прыхільнікаў. І вельмі скора яго сябрамі сталі такія паэты і празаікі, як Уладзімір Хадыка, Васіль Каваль, Сымон Баранавых, Валеры Маракоў[1]. Але найважней сказаць, што яго палюбіў Янка Купала. Ён сумаваў, калі Броўкі доўга не бачыў.

Паўлюк Шукайла меў сваю натуру: ён ніколі і ні ў чым не мог быць радавым. Па сутнасці, ён паехаў з Полацка ў Мінск і падганяў нас па той прычыне, што выношваў ідэю, каб арганізаваць беларускую літаратурную футурыстычную суполку. А гэта можна было рабіць толькі ў сталіцы. Мы ж

трое павінны былі стаць членамі-заснавальнікамі «Беларускай літаратурна-мастацкай камуны». Цікаваю фігураю ў «Літкамуне» быў Уладзімір Варава, член КПСС з 1923 года, колішні падпольны работнік у Заходняй Беларусі, пісьменнік з вельмі вострым палітычным зрокам — на жаль, у 1929 годзе ён стаў ахвяраю кулацкага тэрору. Незвычайнаю з'яваю было і тое, што членам-заснавальнікам камуны быў вядомы рускі пісьменнік, рэвалюцыянер, рамантык, наватар Арцём Вясёлы.

Літаратурна-мастацкая камуна жыла нядоўга, але нам, яе ўдзельнікам, яна дала нямала карысці. Гэта таксама была вучоба. Больш практычная. На рэдагаванне свайго часопіса «Росквіт» мы збіраліся ўсе, хто жыў у Мінску. Рассаджваліся дзе хто мог на кватэры ў Шукайлы або лажыліся на разасланыя на падлозе кажухі і світкі і ўголас чыталі кожны твор — ці то прозу, ці то вершы. Знаходзілася многа заўваг — і па сэнсе, і па граматнасці пісьма, і па паэтычным дыханні, якое тады было ў нас, маладых, яшчэ вельмі слаба пастаўлена. Мы гаварылі адзін аднаму ў вочы толькі праўду. Аўтар або пераконваўся, што яго твор нікуды не варты, або згаджаўся сам давесці да ладу, або прымаў папраўкі, якія мы падбіралі гуртам тут жа на зборні. Божа, які гэта быў светлы і святы час на нашым шляху да сталасці.

Гэта быў наш другі, паралельны універсітэт. У нас не было ніякіх ні штатных адзінак, ні рэдкалегіі, ні рэдакцыі, ні жанравых аддзелаў, але з другога нумара «Росквіту» паэзія фактычна ляжала на Броўку. У той час яна таксама была розная, можа, нават у большай ступені, як цяпер. І лірычная, на вясковай меладычнай яснасці, і грамабойна-урбаністычная, так званая наватарская. Апошняя больш пасавала да нашага футурыстычнага накірунку, але Броўка прыкладаў многа намаганняў, каб у вершах аставаліся і душа, і ласка, і мелодыя. Вядома, не без сутычак, і часта вельмі вострых, з Шукайлам. Тут якраз месца сказаць — Шукайла не быў гняўлівы ці помслівы. Ён быў чулы, спагадлівы, чалавечны.

Мяркую, што іменна гэтая практычная школа памагла нам прафесійна вырасці, пасталець, ярка навучыла баяцца фальшу і хадульнасці і прывяла да перакanання самаліквідавацца.

Памятаю адзін, мабыць, нікому не вядомы эпізод. Аркадзь Куляшоў пачаў пісаць вершы вельмі рана, яшчэ вучнем у сваіх Саматэвічах. Часамі ў Мінск ён прыязджаў, каб наведаць сваіх сяброў-землякоў Змітра Астапенку і Юлія Таўбіна[2]. Вершы яго былі наватарскія, свежа-нечаканыя, смелыя. Натуральна, што, спакушаны нашымі дзёрзкімі літаратурнымі навацыямі і тым больш падахвочаны самім Шукайлам, аднаго разу ён забег на

наша чарговае пасяджэнне. Вядомая рэч, каб паглядзець, ці варта яму да нас падавацца. Было такое асцярожнае ўзаемнае меркаванне. Гэта сталася якраз тады, калі ў нас набрыняў творчы крызіс і мы ўжо гаварылі толькі павышанымі галасамі. Дачакаўшыся перапынку, Аркадзь Куляшоў нашу зборню ціха пакінуў.

Памятаю і апошнюю хвіліну нашай выдавецкай дзейнасці. Мы з Броўкам зайшлі ў друкарню, дзе друкаваўся другі нумар «Росквіту». Там быў Шукайла, ён прыйшоў, каб падпісаць часопіс у свет. Шчасліва ён трымаў гэты нумар у руках. Гэтак жа шчасліва перадаў яго Броўку, сказаўшы, што нарэшце напісаў дэкларацыю, якой вельмі не хапае нам як творчай арганізацыі. Здзівіўшы вочы, Броўка перадаў нумар мне. На першай старонцы за вокладкаю, набраныя markup рознымі шрыфтамі ўразбіўку, крычма крычалі радкі дэкларацыі.

Мы даўно зразумелі, што літаратуры нельга падменьваць штукарствам. Мы горача запратэставалі. Каб надаць пратэсту форму бясспрэчнасці, старонку з дэкларацыяй давялося вырваць. Дома я апамятаўся і пашкадаваў, што выкінуў яе. Але яна дзівам аказалася ў кішэні майго пінжака.

2

Мне Пятрусь Броўка — гэта цэлае жыццё. Пяцьдзесят чатыры гады таварышавання, веры адзін аднаму, патрэбы ў духоўным кантактаванні. Мне нават здаецца, што мы ніколі не разлучаліся, хоць быў адзін доўгі і вельмі страшны перапынак.

Пачалося з таго, што ў 1926 годзе з Расонаў я прыехаў у газету «Чырвоная Полаччына» — друкавацца. Там і пазнаўся з адказным сакратаром рэдакцыі Петрусём Броўкам. Малады, трапяткі, няўрымслівы; вясёлы, ахвочы на жарт. Ён жа і надрукаваў у газеце маё ці не першае ў прозе практыкаванне «Таіса».

Потым у гэтай жа газеце я і працаваў разам а ім.

Потым паехалі мы ў Мінск — вучыцца, кватаравалі ў адным жа доме ў Завакзаллі. Універсітэт, слынныя педагогі — Замоцін, Піятуховіч, Вальфсон, Саўсун, Бабарэка, Бузук, Фохт. Вучыліся і шукалі сваіх дарог у літаратуры. Гэта было куды цяжэй, як вучыцца. Вакол нас — самі па сабе, не ведаючы нас і не падазраючы пра нашы пошукі — існавалі літаратурныя кірункі: рамантызм, сімвалізм, імажынізм, футурызм, канструктывізм, акмеізм, імпрэсіянізм, кожны з іх дражніў нас сваёю непазнанасцю, а мы

конча павінны былі мець свой, наш кірунак, прымеркаваны да пазнавання нашага жыцця.

Гэта было вунь як даўно — на пачатку.

А потым стыкнуліся і на завяршэнні. Калі я пусціўся ўжо быў у нажыты адпачынак, а Броўка распачаў дванаццацітомную Беларускую Савецкую Энцыклапедыю. Ён сказаў мне:

— Памажы. Ты ж ведаеш, энцыклапедычнага стылю ў нас няма, яго трэба рабіць. Каб ён быў і навуковы і просты. Эканомны, сціснуты — і кожнаму даступны. Каб мова ў нас была не адарвана ад народнай. Абавязкова каб была народная аснова! Бяры на сябе мову энцыклапедыі. Я табе веру.

Дзякую яму за тую чыстую яго веру. Хоць задача была да таго цяжкая, што не раз мне прыходзіў на думку той доўгі страшны перапынак. Ад мовы ж нашай адвучвалі вякамі.

Пра Петруся Броўку вельмі нялёгка гаварыць: ён быў занадта звычайны. Ён не ўмеў вылучацца сярод другіх: быў просты, даступны, роўны кожнаму. Гэтак жыў, гэтак і пісаў — без вымудраў, без выкрунтасаў, шчыра і ясна. Яму вельмі прыстала годнасць народнага паэта рэспублікі. Ён быў добры, чулы, тактоўны. Умеў бачыць чужую бяду. Любіў памагаць другім, калі нешта абяцаў — абавязкова помніў гэта. Думаю, шмат хто з пісьменнікаў не забывае Броўкавай душэўнасці.

Я таксама памятаю. Хоць часамі выходзіла так, што ў дачыненні да мяне нешта ён мог зрабіць не так, як хацеў. Бывалі, на жаль, такія тонкія хвіліны. Але што ж зробіш: нават грахі ўмеюць ціха прыжывацца ў мінуласці, калі яны не завуцца памылкамі.

Ён не быў помслівы. Як у кожнага, у яго былі непрыхільнікі, але ён стараўся з усімі быць роўным. Больш таго — нават абараняў, калі бачыў, што нехта да іх несправядлівы.

Калі мы вымаўляем слова камуніст, то ў яго сэнс укладаем усё самае ідэальнае. Сярод ідэальнага конча мы бачым самую чыстую рыцарскую сумленнасць, высакародную партыйнасць і бескампрамісную прынцыповасць. Хіба не было ўсяго гэтага ў Броўкі? Проста мы цяпер бачым, што ён быў мудры.

Як у кожнага з нас, у яго, ведама ж, былі свае хвіліны і адчаю, і роспачы, і неспакою, і творчых трывог. Былі і трывогі, што давала яму хвароба. Але дзе і калі Броўка паказаў гэта на людзі? Хто, дзе і калі бачыў разгубленасць і смутак на Броўкавым твары? Божа, які гэта быў аптыміст, жыццялюб і весялун! Там, дзе ён паяўляўся, рабілася цёпла, хораша на душы і лёгка.

Смерць выдатных людзей заўсёды з’яўляецца ўрокам для жывых. Робіцца вельмі відно, што нам ёсць чаму вучыцца ў іх.

*1980, 1985*

## НЯСЛАВА І ХВАЛА

### 1

Я ехаў да Алеся Пальчэўскага прабавіць за шахматамі разрывак часу. На плошчы Перамогі ў тралейбус увайшоў Юрка Гаўрук, ён адразу быў відзён па мажной раздабрэлай фігуры. Каля мяне якраз апрасталася месца, і я падняў руку, нямоцна гукнуўшы яго.

— От добра! Якраз мне і трэба было бачыць цябе, — сказаў ён, цеснавата ўсаджваючыся каля мяне. Чутачку не выгаворвалася ім літара «р», ён як бы далікатненька пераскокваў яе. — Скажы, як бы ты напісаў усім вядомае прозвішча: Хемінгуэй ці Гемінгуэй?

— А што такое? — механічна сказаў я, здзіўлены гэтакім незвычайным пытаннем.

— Перакладаю «І ўзыходзіць сонца». Цяжкаватая работа: і не зусім прывычны стыль, і падтэкст. Ну і ў некаторых рэчах не вельмі ўпэўнены. І як напісаць прозвішча, і як назваць кнігу. Можа, лепш — «Фэст»?

Я вельмі баюся неўмеркаваных людзей. Ёсць яны і сярод маіх добрых знаёмых. Калі гэтакі чалавек бывае дзе сярод чужых людзей, то зараз жа стараецца паказаць, што ён не абы-хто, а — паэт. Скажам, дзе ў дарозе, у аўтобусе ці ў цягніку ён як бы незнарок пачытае верш. Пабачыўшы, што да яго прыслухоўваюцца, ён смялей падыме голас і пачне чытаць вершы адзін за адным, і свае, і чужыя, упамінаючы паэтаў самых громкіх, каб відно было, што ўсе яны самыя блізкія яго сябры. Чытае на ўвесь голас, зыркаючы вачыма, светла і шчасліва любуючыся сабою. Ты не ведаеш, куды дзецца, што зрабіць, каб спыніўся чалавек, а ён усё больш і больш уваходзіць у сілу.

Юрка Гаўрук[1] таксама гаварыў на ўвесь голас. Яго чутно было на ўсім салоне. Але дзіва — у яго гэта было натуральна. Звычайная дзелавая размова. Ні кропелькі выхваляння, позы, афектацыі. Хіба толькі павышаная экспрэсія. Гэтак, як

гаварыў звычайна, бо ён ніколі не ўмеў гаварыць ціха. Як бы ён ні стараўся сказаць нешта шэптам, у яго выходзіла громка.

Я сказаў, што схіляюся да «Фэсту». Бо і ў нас жа саміх гэтакім словам звалася вялікае прастольнае свята. То няхай бы і аставаўся гэты загадкавы моўны пярэгалас. Тым больш што ў арыгінале раман перш гэтак і зваўся — «Фэст».

Аказалася, што яго турбуе спосаб перадачы гуку «г» на нашу мову. Рэч у тым, што ў арыгінале пісьменнікава прозвішча пачынаецца з лацінскае літары «H», значыцца, з нашай глухой, спакойнай літары «Г»: Гемінгуэй. Руская ж транскрыпцыя палічыла за лепшае перадаць мяккасць вымаўлення літарай «Х»: Хемінгуэй, бо ў рускім алфавіце глухой літары «Г» няма, яна — выбухная.

Я разумеў, што мае парады Гаўруку не надта былі й патрэбны. Практыкаю і логікаю часу гэтае пытанне даўно вырашана само сабою. Гаўрук пра гэта ведаў сам. Чужое думкі ён пытаўся толькі дзеля таго, каб яшчэ больш замацавацца ў сваёй. Каб даўжэй пабыць у атмасферы свае работы. Ён быў прыроджаны спрэчнік і дыскутант. Я яму і сказаў пра гэта.

— Ну мала што, — не то запярэчыў, не то згадзіўся Гаўрук. — Гэты пераклад не зусім звычайны: трэба, каб чужая класіка стала і нашаю класікаю. Дый не хочацца, каб потым нехта папракнуў газетчынаю ці яшчэ якім грахом. А з назваю, мабыць, твая праўда: трэба пакінуць «Фэст».

Аднак жа саступаць з сваіх пазіцый Гаўрук не ўмеў. Калі раман выйшаў друкам, то ён зваўся так, як было ім намечана: «І ўзыходзіць сонца» («Фэст»).

Раскажу і больш даўнюю гісторыю. У свой час, калі Гаўрук перакладаў навелы Андрэ Маруа, ён прынёс друкаваць іх у «Полымя». У мяне даўно былі нелады з двума не вельмі ўдала сканструяванымі словамі: распаўсюджвальнік і наведвальнік. Яны нязграбныя, цяжкія на вымаўленне. У іх міжволі прысутнічае непатрэбная адзнака множнасці, а гэта робіць іх ненатуральнымі. Мне здавалася, што гэтай бядзе можна лёгка памагчы. Калі не зусім, то хоць трохі. Проста пісаць іх карацей: распаўсюднік і наведнік. Трохі пагаманіўшы, Гаўрук згадзіўся паправіць. І мы паправілі. У навеле «Біяграфія» напісалі: «*Наведнікі* зашапталіся», а ў навеле «Асабняк»: «Мне даручана паказаць яго *наведнікам*». Калі ж пераклады выйшлі кніжкаю «Падарожжа ў нябыт і яшчэ 24 навелы», гэтыя папраўкі былі адпраўлены назад.

2

Ніяк не прыпомню, дзе, калі і пры якіх акалічнасцях мы пазнаёміліся. Гэта магло быць у Слуцку, калі я рабіў у газеце «Вясковы будаўнік», а ён прыязджаў на лета дадому, найверагодней, што тады. А можа, на з'ездзе «Маладняка» ў дваццаць пятым годзе як землякі? Гэта, зрэшты, не мае значэння, але дзівіць загадка, як магло стацца, што нічым не запомненая, малаважная сустрэча магла перайсці ў сардэчнае таварышаванне на ўсё жыццё.

Першыя весткі пра сябе Гаўруком пададзены ў яго аўтабіяграфіі.

«23.04.(6.05).1905 год. Бацька — сталяр, з вёскі Шалавічы, 20 км ад Слуцка. У сям'і было трайное прозвішча: Гарват — Гарбач — Гаўрук. Бацька, Паўлюк, адслужыўшы ў салдатах, прыстаў у прымы да Аўдоцці Маскаленкі, што стала мне мацерао. Была яна з Вялікага Журава, пад самым горадам. На выхаванне ўзяў яе бяздзетны дзядзька, што жыў у Слуцку на арандаваным ад манастыра пляцы з маленькім садам».

Далейшыя храналагічныя весткі пойдуць так:

У 1921 г. Юрка Гаўрук скончыць у Слуцку школу другой ступені.

У 1921 г. паступіць у Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя Валерыя Брусава ў Маскве — на інструктарскае аддзяленне па класу крытыкі, фальклору і мастацкага перакладу. Скончыць інстытут у 1925 годзе. У гэты ж час у Маскве практыкуецца Беларуская тэатральная студыя, і Гаўрук, выкарыстаўшы свае незвычайныя здольнасці да замежных моваў, перакладзе для студыі камедыю Вільяма Шэкспіра «Сон у летнюю ноч». Прэм'ера спектакля будзе паказана масквічам, а потым, калі студыйцы пераедуць у Віцебск, стаўшы заснавальнікамі Беларускага другога дзяржаўнага тэатра імя Якуба Коласа, у першую праграму будзе ўключаны і гэты спектакль.

Вельмі шчасліва ў Гаўрука пачыналася працоўная дарога. У 1924 г. ён ездзіў па вёсках Случчыны, запісваючы народныя песні і казкі, праз год выйшла першая кніжка падарожных нарысаў «Вясковыя рыскі». Пасля брусаўскага інстытута, у дваццаць сваіх гадоў, ён выбраны дацэнтам кафедры беларускае мовы і літаратуры ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горы-Горках. Таварышаваў там з Максімам Гарэцкім[2], таксама выкладчыкам акадэміі. Там жа склалася

літаратурная філія з даволі значным ядром літаратараў: Міхал Ганчарык[3], Алесь Вечар, Уладзімір Прыбыткоўскі, Васіль Каваль, Алесь Аляксееў. Друкаваліся горыгорацкія пісьменнікі ў часопісе «Аршанскі маладняк».

Юрка Гаўрук літаратурна найбольш быў звязаны з Мінскам. Шчыра, па-зямляцку здружыўся з Кузьмом Чорным. Пра яго ў аўтабіяграфіі ён скажа: «Я любіў яго як чалавека вялікай душы і нейкае ранняе сталасці. Ён быў празорлівы і ў сваіх вывадах амаль ніколі не памыляўся. Я дзівіўся цярплівасці яго натуры і яго пастаяннаму гарэнню».

У трыццаць першым годзе Гаўрук перайшоў у Магілёўскі педагагічны інстытут таксама дацэнтам кафедры і чытаў курс зарубежнай літаратуры і літаратуры народаў СССР. Як пасля ён прызнаецца, гэта былі самыя плённыя гады яго дзейнасці: ён не толькі вучыў другіх, а вучыўся сам, упэўнена рыхтуючы сябе да літаратурнай творчай работы. Але ў лютым трыццаць пятага года нечакана ён апынуўся на Поўначы.

3

Поўнач — гэта шырокі край. Гаўрук пабываў у Карэліі, ва Усходняй Сібіры, у Комі АССР. Пачыналася будоўля Пячорскай чыгуначнай магістралі, работы было колькі хочаш. Ён выбраў тапаграфічную. «Работа была да таго цікавая, — скажа ён пасля, — што я і цяпер з прыемнасцю ўспамінаю вогнішчы і белыя ночы, і свае паходы з нівелірам па вузкіх прасеках у дзікай тайзе, поўнай чарніц, буякоў, марошкі і грыбоў-падасінавікаў».

Паэзія заўсёды памагае жыць чалавеку. Потым ён служыў на чыгунцы інжынерам тэхнічнай інспекцыі, жыў на станцыі Інта. Атрымаўшы адпачынак, у сорак шостым годзе наведаўся ў разбураны Мінск. Гэтак жа быў разбураны і Слуцак, куды, вядома, не мог не з'ездзіць Гаўрук. Нядобра, смутна было на душы. Тыя хвіліны Гаўрук запіша сабе на памяць. «Бацька... памёр у Слуцку ў 1946 годзе, так і не пабачыўшыся са мною. Памёр ён у беднасці, у чужой хаце, пражыўшы 75 гадоў. Той утульны кут, дзе прайшло маё дзяцінства і куды я так ахвотна прыязджаў некалі адпачыць і папрацаваць, у вайну выгараў датла».

У Мінску Гаўрук пабачыўся з Якубам Коласам. Колас горача параіў яму вярнуцца да літаратурнай работы. Гэтую параду паўтарыў у пісьме, і тады ўсё перавярнулася ў душы

ў Гаўрука. Нялёгка было, але ён знайшоў-такі кнігі свайго ўлюбёнага Шэкспіра і ўзяўся за работу. За «Атэла». За «Караля Ліра». Хацелася рабіць усё адразу, але гэта проста немагчыма, дый асноўным жа клопатам была служба. Давай, Юрка, не будзем, аднак, трапятацца, казаў ён сабе. Цяпер у нас з табою ўсё пойдзе ладам. «Гамлет» быў перакладзены яшчэ ў трыццаць чацвёртым годзе. Але гэта было даўно, трэба прабегчы яго і цяпер свежым вокам. З «Гамлетам» наогул тварыліся шчаслівыя рэчы: у трыццаць пятым ён быў надрукаваны кнігаю, хоць перакладчык не быў названы; у сорак шостым — пастаўлены на сцэне Беларускага тэатра імя Якуба Коласа таксама без імя перакладчыка; у шэсцьдзесят чацвёртым надрукаваны выдавецтвам «Беларусь» да чатырохсотых угодкаў Вільяма Шэкспіра.

4

У Мінск Гаўрук вярнуўся ў пяцьдзесят шостым годзе. Неўзабаве Беларускі дзяржаўны тэатр імя Янкі Купалы запрасіў яго на работу. Памочнікам галоўнага рэжысёра па літаратурнай частцы. На гэтай пасадзе ён прабыў дзесяць гадоў. Гэта была вельмі ўдзячная работа. І характарам, і справаю, і карысцю. Ён не толькі рыхтаваў рэпертуар, а сачыў за сцэнічнаю моваю артыстаў. У гэтым сэнсе работа была нялёгкая. Час робіць сваю справу паслядоўна. Карыфеі Купалаўскага тэатра, ігра якіх дала яму славу акадэмічнага, патрохі пакідалі сцэну. На змену ім прыходзілі новыя таленты, з дыпломамі. І часам з моднымі авангардысцкімі «мухамі». Іх зусім не цікавіла тутэйшая акадэмічнасць, яны і сцэнічную мову вымаўлялі так, каб яна выглядала чужаземнаю. Гэты клопат таксама ляжаў на Гаўруку — не даваць, каб парушалася моўная праўда. Часамі амбіцыі прыходзілася вырашаць калектыўным парадкам, нават размоваю ў друку.

І ўсё ж работа ў тэатры Гаўруку была па душы. Яна давала імпульс, прымушала ўвесь час ісці наперад. Ён прысутнічаў на абмеркаванні рэпертуару, на рэпетыцыях, на ўсіх дзелавых пасяджэннях. А калі сплывала гэта дзелавая неабходнасць, спяшаўся ў свой невялічкі службовы пакойчык, каб, нарэшце, астацца адзін на адзін з сабою. На століку і ва ўсіх шуфлядах ляжалі ў яго лісткі паперы, пасpісаныя яго круглаватым почыркам. Найперш гэта былі пераклады твораў, якія павінны былі пайсці на сцэне Купалаўскага тэатра.

Ён працаваў апантана, не даючы сабе ніякае перадышкі. Я ніколі не бачыў, каб ён быў нічым не заняты. Каб галава яго адпачывала.

Ён перакладаў з моваў французскай, англійскай, нямецкай, польскай, рускай, украінскай і многіх другіх, у яго практыцы эпізадычных. Пераклаў п’есы «Ліса і вінаград» Фігейрэду, «Забыты ўсімі» Хікмета, «Тысяча франкаў узнагароды» Гюго, «Мяцеліца» Лявонава, «Дзядзька Ваня» Чэхава, «Мешчанін у дваранах» Мальера, «Улада цемры» Талстога. Асобныя творы Аляксандра Пушкіна, Фрыдрыха Шылера, Адама Міцкевіча, Джорджа Гордана Байрана, Лесі Украінкі, Уладзіміра Сасюры, Генрыха Гейнэ, Уолта Уітмена, Вольфганга Гётэ, Леконта дэ Ліля. Раманы «І ўзыходзіць сонца» Эрнеста Хемінгуэя, «Дачка ўрагану» Катарыны Сусанны Прычард, «Любіць будзем заўтра» Андрэ Стыля, навелы Андрэ Маруа. Пераклаў з беларускай на рускую мову «Любу Лук’янскую» і «Пошукі будучыні» Кузьмы Чорнага, «Серадзібор» Піліпа Пестрака.

Ён пісаў артыкулы пра тэатральныя справы і майстэрства перакладу. Перапісваўся з паэтам-перакладчыкам Вільгельмам Левікам, які высока ставіў Гаўрукову перакладчыцкую дзейнасць. Мне вядома, напрыклад, што пераклад Гаўруком Шэкспіравай трагедыі «Кароль Лір» Левік назваў наватарскім, дакладным і смелым. Рэч у тым, што, звычайна, на перакладчыкаў магічна ўплывала само слова «кароль», і яны міжволі выпісвалі ўвесь звыклы побытавы антураж каралеўскага наваколля параўнальна недалёкага часу, забываючыся, што кароль Лір — гэта вобраз легендарны, мяркуюць, што ён мог існаваць недзе ў IX стагоддзі да нашай эры, і яму ўласцівы антураж прымітыўнай гаспадаркі. Гэтакае асяроддзе, калі на каралеўскім двары топчацца ўсякая жыўнасць і пахне гноем, якраз Гаўруком і перададзена. І нават мова герояў не вытанчана-каралеўская, а груба-прасцецкая.

5

Па невялікім часе пасля таго, як Гаўрукі асталяваліся ў Мінску, яны запрасілі нас у госці. Яны — гэта Юрка і яго жонка Таццяна Міхайлаўна, і мы — я з жонкаю Ганнаю. Пасялілі іх тады на Ленінскім праспекце ў доме № 43; там жылі, памятаю, пісьменнікі Анатоль Астрэйка, Антон Бялевіч, Іван Кудраўцаў і, здаецца, Мікола Хведаровіч. Ладны, прыгожы дом, даволі пікантнай архітэктуры, трохі нейкай мяша-

най, з выступамі, з паваротамі ў сценах, нават з нясмелымі намёкамі на порцік і калоны ў ім. Ставіўся ён да вайны, некалі зваўся Домам спецыялістаў, а важней за ўсё, што стаяў у мясціне, якая звалася вельмі прыгожа — Залатая Горка.

Зайшлі мы да Гаўрукоў, перш паблудзіўшы па паверхах. Гэта быў невялікі пакойчык у чужой кватэры з адным акном, што глядзела ўздоўж праспекта на Камароўку. Пасярэдзіне стаяў круглы стол, ужо сабраны для гасцявання, вакол яго чатыры няновыя крэслы. Што яшчэ запомнілася воку, дык гэта прыціснутая да сцяны пляскатая этажэрка: знізу, зачыненая дзверцамі — шафка, а зверху тры адкрытыя палічкі — пад кнігі. Запомнілася гэта, мабыць, таму, што і мы гэтак жа паволі абжываліся: першым набыткам якраз і была вось гэтакая этажэрка.

Цяпер я ўпершыню ўбачыў Таццяну Міхайлаўну. Стройнага росту, прыгожая нейкім сваім, я сказаў бы, шляхетным хараством, яна здзівіла мяне незвычайна. Варушкая, імклівая, даверлiва непасрэдная, з першай жа хвіліны яна пасяліла ў нас адчуванне, што мы зналіся між сабою ўсё жыццё.

За сталом яна не пераставала напамінаць, каб мы частаваліся. Дзівіла ў ёй пяшчота і спагада, а заадно перасцярога і ласка да Юркі: каб ён не надта шчыраваў, каб сябе пабярог. «Ну ты ж, як гаспадар, перацярпі хоць разок ці хоць да канца не бяры», — гаварыла яна больш просьбаю воч.

Яна то рупілася, каб у нас усё ішло ладна, то бегла на кухню, каб нешта падсвяжыць. Паспела расказаць, што кухня ў іх агульная з тутэйшымі жыльцамі, і яна стараецца займаць яе днём, каб не замінаць людзям, калі яны вернуцца з работы. Расказала, што цяпер увесь іх бацькоўскі клопат — гэта дачка Аліна. Што ў свой час было ёй вельмі цяжка. Каб скончыць універсітэт, ёй з неймавернымі намаганнямі і асцярогаю прыйшлося перавесціся ў Маскву, дзе жыў далёкі дзядзька, бо тут шкодзіў ёй бацькаў цень. Яна і цяпер жыве ў Маскве, робіць у такіх установах, што трэба знацца з мастацтвам.

Потым мы з Юркам пераселі да этажэркі, на якой стаяла не так многа кніг, і асобна — дзе было іх найменш — ляжаў таўшчэзны французскі энцыклапедычны слоўнік. Юрка ўзяў яго ў рукі, і мне здалося, што пагладзіў яго. Пра гэты слоўнік ён сказаў цэлую прамову, нешта накшталт таго, што ў французаў гэта самы практычны даведнік, і ён сістэматычна (ці не штогод адно?) перавыдаецца, каб заўсёды быць на ўзроўні часу.

Потым наша гаворка перайшла на тэатр, што там працаваць куды цяжэй, як думалася, хоць і вельмі трэба.

Я любіў размовы з Гаўруком, яны заўсёды ўзрушвалі мяне, раскрывалі яго духоўны неспакой, прымушалі ціха дзівіцца на яго творчую заўзятасць. У яго натуры не было ні фанабэрыі, ні хітрошчаў. Я ніколі не чуў, каб Гаўрук гаварыў пра каго злосна, непахвальна, зайздросціў ці папракаў каго ў чым.

Гэтак мы і дадому пайшлі з дзіўным, нейкім заспакоенаціхім настроем. Адно толькі стаяла перад вачыма: што яшчэ зусім пустая хата. Няма ні абжытасці, ні ўладкаванасці, у Юркі няма нават рабочага кутка. Ну што ж, суцешліва думалі мы: прыйдзе час і ўсё стане на месца, будзе і дастатак, і лагода, і ўтульнасць. Як у людзей. Як было і ў нас.

6

Час ішоў і, ведама, рабіў сваю патрэбную справу. Гаўрук пакінуў тэатр. Яго пераклады набывалі ўсё большы аўтарытэт. Ён заслужана ўпісваўся ў шэрагі першых перакладчыцкіх фігур. Трэба сказаць, што на чале з Язэпам Семяжонам вырасла цэлая школа перакладчыкаў з розных моваў і літаратур свету.

Але я мушу тут вярнуцца трошкі назад, каб сазнацца, што некаторыя асаблівасці ў характары Гаўрукоў мяне прыемна здзівілі.

Не памятаю, ці то была якая нагода, ці тэлефонны званок, але мы зноў завіталі да Гаўрукоў. Яны жылі ўжо на новай кватэры ў выдавецкім доме на Чарнышэўскай вуліцы. Не надта і вялікая, але затое ўся свая. Два пакоі, усе добрыя выгоды, нават тэлефон, які не так яшчэ лёгка дастаецца мінчанам. Зайшлі, акінулі вокам. І якое ж мне было дзіва, што ў новай кватэры было ўсё гэтак, як і ў старой, — толькі самае неабходнае. Той самы круглы стол з чатырма крэсламі каля яго, тая самая прасторная відната сцен. Новым набыткам была хіба толькі адзежная шафа з люстэркам у дзвярах. Бог ведае, якая гэта таемнасць чалавечых рук: нешта паставіць не так, як ты думаў бы, прымайстраваць на сцяне графічны рысунак ці разьбяную выцінанку, павесіць дэкаратыўную палічку з нейкаю сувенірнаю дрындушкаю, на тонкую тумбачку ў кутку паставіць чыгуннага Мефістофеля ці Несцерку, і, калі ласка, у пакоі запанаваў свой, модна кажучы, хатні мікраклімат. Ніякай лішнаты ці раскошы. Ніякага грузнага багацця, цяжкай

дарагой мэблі. Фэст на душы, святочная чысціня і светласць у доме. І вось яно: і дастатак, і ўтульнасць, і лагода. І сама Таццяна Міхайлаўна як бы прасвечаная гэтаю лагодаю.

У другім, меншым, пакоі таксама — тая самая тахта і пляскатая этажэрка з ахапкам патрэбных для работы кніг, з тым самым французскім энцыклапедычным слоўнікам наверсе. Нават па адной гэтай прымеце ды яшчэ па ўлежанай тахце, у любую хвіліну як бы гатовай прыняць на адпачынак свайго гаспадара, толькі па адным гэтым антуражы можна было адразу пазнаць, што пакой гэты — Юркаў. Тут, як у храме, пануе дух творчага набажэнства, нават паветра, здаецца, трывожна чакае спасціжэння нейкай жаданай таемнасці.

На маё дзіва, у гэтым пакоі за невялікім столікам сядзелі Юрка Гаўрук і Ніл Гілевіч і самазабыўна гаварылі пра літаратуру. Нямала часу таму назад Гілевіч выклапатаў творчую камандзіроўку ў Балгарыю і гадоў колькі запар ездзіў туды практыкавацца ў балгарскай мове, каб перакладчыцкаю работаю служыць узбагачэнню найстаражытнейшых нашых культур. Няйначай як самазабыўная размова якраз і ішлася пра новыя Гілевічавы пераклады з балгарскае паэзіі.

Надзіва паэтычны быў гэты дом.

7

Выйшла так, як ён і пастанавіў сабе. Яшчэ з тых маладых гадоў, калі ён удачна пераклаў камедыю «Сон у летнюю ноч», якая далучыла яго не толькі да паэзіі, але і да тэатра, ён сказаў сабе, што Шэкспір найгеніяльнейшы паэт і драматург і што ён будзе перакладаць яго ўсё жыццё. І на астатак конча перакладзе трагедыю «Антоній і Клеапатра».

Гэтак і выйшла. «Антонія і Клеапатру» ён перакладаў даўно і доўга, але прыхваткамі і больш упадабанымі мясцінамі, паміж усякаю другою работаю. Але павярнулася так, што Коласаўскі тэатр успомніў колішнюю сваю датычнасць да Шэкспіра і намерыўся паставіць «Антонія і Клеапатру». Гэта і ўзрадавала Гаўрука, і засмуціла. Рэч у тым, што цяпер жа стала модна прачытваць любога класіка не так, як ён пісаў з сваім разуменнем і часу, і хады гісторыі, а трэба чытаць яго па-цяперашняму. Класік, бачыце, на тое і класік, каб пісаць грунтоўна, але ж гэта ўжо вялікая даўнасць, і яе трэба падняць на вышыню сённяшняга дня. Як жа, бывае, мы любім надзяваць на сябе чужую адзежыну, падганяючы яе пад свой

рост, нават выдумляем дзеля гэтага ахоўную назву — звышзадача. Гэтак ці іначай, але Коласаўскі тэатр заказаў Гаўруку так званы пастановачны варыянт.

Гэта была вельмі няўдзячная работа — нешта прапускаць, нешта прыдумляць за Шэкспіра. Гаўрук працаваў без імпэту, а без гэтага паэзія чахне. І таму спакойна ён прыняў вестку, што «Антоній і Клеапатра» ставіцца не будзе. Нават не даходзіў прычын. Тлумачэнне прасілася само: не настаў яшчэ час. Няйначай як у тэатра на пастаноўку няма яшчэ ні адвагі, ні таленту, ні сілы.

Але ж не хацелася, каб работа прападала. Гаўрук пайшоў у выдавецтва «Мастацкая літаратура». Можа, варта выдаць трагедыю, даўшы памету, што гэта пастановачны варыянт? Дырэктарстваваў выдавецтвам чалавек вялікай, справядлівай і чулай душы, сам улюбёны ў літаратуру і пакутнік за яе, пісьменнік Мікола Ткачоў. Гэтакі ж быў у яго і памочнік, галоўны рэдактар Аркадзь Марціновіч. Паслухалі яны, пагарталі пераклад і параілі, а лепш сказаць, падахвоцілі Гаўрука, каб пераклад «Антонія і Клеапатры» зрабіць пановаму. Як след. Каб быў Шэкспір.

Гаўрук збіраўся трохі перадыхнуць, а тады брацца за новую, не менш важную работу. Наставала пара спраўдзіць яшчэ адзін запавет самому сабе — напісаць пра Максіма Гарэцкага. Успамін ці аповесць — што выйдзе. Пра чалавека, з кім працаваў, ад якога пераймаў і працавітасць, і сумленнасць, і душэўнасць. Як несправядліва, што, бывае, мы запозна распазнаём страчанае, калі ад чалавека астаецца толькі памяць аб ім.

Ну што ж, яшчэ на які гадок часу адсунецца запавет.

І пачалася зноў тая самая пякельная, пакутліва-слодычная работа. Куды б ён ні ішоў, што б ні рабіў, нават уночы не пакідала яго гучанне слова. Якія гэта вялікія чары, калі адно слова шукае другога, каб стаць стройнасцю, тактам, паэтычным суладдзем! Што, калі б моўчкі мог паслухаць гэта сам Шэкспір? Ці ўхваліў бы? Хоць бы вось гэтую мясціну, калі пасля Антоніевага самагубства Клеапатра, каб злучыцца з ім і за межамі жыцця, пускае на грудзі сабе ядавітую змейку.

Клеапатра Ірадзе

Падай мне мантыю. Надзень карону.
Хачу у несмяротнасць адысці.
О дар Егіпта, вінаградны сок,

Мяне ты болей весяліць не будзеш!
Хутчэй, хутчэй! Ірада! Харміяна!
Вы чуеце, мяне Антоній кліча!
Ён у вачах маіх, ён мнеківае,
Учынак мой адважны ухваліўшы.
Смяецца з Цэзара, з яго удач.
Што шчасце? Нам даюць яго багі,
Каб потым адабраць за гордасць нашу.
Антоній любы, муж мой, я іду!
Цяпер тваёю маю права звацца.
Агонь, паветра — вось мой новы свет,
Стыхіі іншыя — істотам дробным.
Гатова? Дык вазьміце ж з маіх вуснаў
Астатняе цяпло. О Харміяна!
Ірада любая! Навек бывайце!..

Цалуе іх. Ірада падае і памірае.

Упала? Мёртвая? Ад пацалунка?
Ці ж на губах маіх змяіны яд?
Калі з жыццём так лёгка расставацца,
Дык смерць — прыемны боль, любоўны дотык.
Ты знікла моўчкі, даказаўшы ўсім,
Што свет не варты развітальных слоў.

8

Кніга «Антоній і Клеапатра» выйшла на трэці год пасля Гаўруковай смерці. Яе выдавецкі рух быў ужо на клопаце Тацьцяны Міхайлаўны і самага душэўнага сябра — Ніла Гілевіча. І запавет самому сабе, каб напісаць пра Максіма Гарэцкага, не быў спраўджаны.

Двойчы падкідалася хвароба. Прыязджалі дактары, але ён сказаў, што ні ў якія бальніцы не пойдзе. Я прывык дома, — сказаў ён. Пройдзе. Можа, і прайшло б, калі б у самую нядобрую хвіліну не прабіўся да яго нейкі аўтар з просьбаю пракансультаваць яго рукапіс. Таццяна Міхайлаўна нічога не магла даць рады: пачуўшы голас у дзвярах, Юрка сказаў пусціць.

Труна стаяла на ўзвышэнні ў Доме літаратара, дзе звычайна мы скрозь развітваемся з нашымі калегамі. Поўна кветак. У любы час года на развітанне людзі дастаюць кветкі, гэты маўклівы знак апошняга яднання. У кветках ляжаў цяпер

Юрка Гаўрук, нейкі новы, непазнана святочны, задуманы. Як непрывычна бачыць яго ў такой нязручнай, строгай паставе: рукі зложаны на грудзях, і яны больш ніколі не паварушацца. І ўсё-такі як добра, калі нас ёсць каму хаваць. І калі вядома, дзе пахаваны чалавек. На сцяне, за труною, партрэт, такі блізкі і такі знаёмы, цяпер аблямаваны чорным крэпам. Чорнымі стужкамі перавіты вянкі, маўкліва прыслоненыя да сцяны. На ўсіх тварах жалоба, смутак, пакора, як бы цяпер кожны бачыць сваю дарогу. І над усім такая вусцішная цішыня.

Наабапал узвышэння крэслы для радні і сваякоў. Хто ведае, якая тут ступень роднасці, — усе жальбуюць. Толькі Таццяна Міхайлаўна не паказвае твару: яе галава, ухутаная чорным шалікам, апушчана ўніз, ахоплена рукамі.

Аднак жа дзве постаці былі тут відны перад усім, і стаялі асобна. Ён і Яна. Ён — у чорным, лёгкім, шчыгульным курціку, сярэдняга росту, мужчынскага спелага веку, інтэлігентна-зычлівага выгляду. Яна — гэтакая ж ладная, стройная, роўнага з ім росту, зграбная лёгкай стрыманасцю свае паставы і самапавагаю. Яны стаялі трошкі наводдаль ад сваіх, нікім не занятых крэслаў і вылучаліся і гэтым стаяннем, і тым, што жылі як бы не ўрачыста-пахавальным рытуалам, а нечым сваім: дзяняшнім, прывычным, неадкладным — жывым. Для іх існавала не смерць, а — жыццё. І ўсе, хто знаццём, а хто адчуваннем, адразу ж бязлітасна пазнавалі: гэта дачка. Аля. І яе муж Слава. Прыехалі з Масквы. І ўсе, хто тайком, а хто адкрыта, зачаравана глядзелі на іх.

Я таксама глядзеў. На чалавечую няскораную пекнату. Нема і таксама зачаравана. З адчайнаю думкаю, што — ніколі не расстаючыся — жыццё і смерць вечна варагуюць з сабою.

Можа, смерць і дадзена дзеля таго, каб сцвярджаць урачыстасць жывога.

*1981—1986*

# СКУРАНОЕ ПАЛІТО

## 1

У гэты магазін я зайшоў выпадкова. Калі і была якая прычына, то хіба толькі каб паглядзець, як перароблена колішняе выдавецтва, дзе Цішка Гартны прыняў і выдрукаваў маю першую кнігу «Затока ў бурах».

А перароблена ладна. Я хадзіў і дзівіўся, што нават не пазнаю, дзе тут віўся вузенькі калідор, выгараджаны дошкамі, дзе ціснуліся кабінеты з фрамугамі над кожнымі дзвярмі, праз якія цадзілася ў гэты калідор рэдзенькае святло. Цяпер тут разлягаліся прасторныя гандлёвыя залы з паразвешваным на стаяках і парaскладаным у вітрынах таварам. За прылаўкамі гаспадарылі сімпатычныя маладыя жанкі, прыбраныя, як здавалася, у самыя святочныя строі. Па залах хадзілі людзі, нешта выбіралі, да нечага прыглядаліся, нешта прымервалі.

Я купляць нічога не збіраўся, але таксама хадзіў за людзьмі. І купіў-такі, не вытрываў: два каўнерыкі 39 памеру, які тады, па маладосці гадоў, быў акурат па маіх габарытах.

Цяпер тая мода з каўнерыкамі прайшла, ніхто яе з маладых не памятае, і няйначай як сёе-тое трэба расказаць.

Кожны ведае, як несправядліва мы абыходзімся з кашуляю, калі яе любім і часцей за ўсё носім. Бывае, што каўнерык у ёй траціць сваю свежасць ад першага надзявання. Уся кашуля чысцюткая, а з-за каўнерыка трэба яе мыць. Дый наогул каўнерык заўсёды зношваецца да пары, на самым натужным месцы праціраецца, і кашулю, яшчэ здаровую, трэба выкідаць.

А ў мой малады век да гэтакай сітуацыі была больш справядлівая мода. Кашулі шыліся дваякія: і з прышыўнымі каўнерыкамі, і з прыстаўнымі. Першыя насіліся штодня, яны былі зручныя на ўсе выпадкі: і ў святочныя і ў будныя дні; і на работу і дома. Яны насіліся і без пінжака.

Кашулі ж з прыстаўнымі каўнерыкамі былі больш высокага класа: знарок пад гарнітур і насіліся з гальштукам. Каўнерыкі былі розных гатункаў: мяккія, але даволі пругкія, каб не маглі ні моршчыцца, ні курчыцца, ні вылазіць з-пад пінжака; і цвёрдыя, выпрасаваныя па форме да глянцу — на самае элегантнае нашэнне. На такі каўнерык можна было глядзець як на высокае мастацтва. І я не раз добрым словам успамінаю тую моду і шкадую, чаму яна знікла.

Купіўшы каўнерыкі, я папрасіў да іх і спонак — у запас. Дзве кароткія заднія, і дзве даўжэйшыя, што сашчаплялі каўнерык

з кашуляю наперадзе. І з лёгкім сэрцам пайшоў таўчыся між людзей далей.

На другім паверсе была крамніна, хусткі, бялізна, ручнікі, тавары ўсё больш жаночыя, мой халасцяцкі інтэрас да іх нічога не меў. На трэці паверх я падымаўся ўжо без аніякага цікаўства, проста каб толькі сказаць сабе, што як след агледзеў увесь універмаг.

І памыліўся. Адразу ж направа, за палітураванаю перагародкаю, на плечыках вісела мужчынскае адзенне, і ў вочы найперш кінуліся скураныя паліты. Тут я і прыкіпеў. Тры скураныя паліты, ніколі мною не бачанай элегантнасці. Спакойная, мяккая і нейкая як бы цёплая чарната скуры. Футра каўняра пушыстае, лёгкае, рудавата-сонечнага, радаснага колеру, нават здалёк відно, што яно ласкавае і нейкае як бы ўтульнае, яго хочацца гладзіць.

— Лётчыцкае, — сказала жанчына, што стаяла за лакаванаю перагародкаю. — А паглядзіце ж, якая подбіўка! — Яна падышла і расхінула ў паліце крыссе.

Гэта было самае неспадзяванае і нечуванае мною дзіва. Подбіўка таксама была з футра. З гэтакага ж мяккага і пушыстага, як і каўнер, можа, хіба было ў ім трохі больш чырванаватага тону. Сшыта яна з нейкіх маленькіх звяркоў, і ад кожнай шкуркі, сточанай гэтак дасціпна, што не відно было ніякага знаку, звісалі хвосцікі. Гэта было і пацешна, і міла, і бясконца нечакана.

— Памерайце, — сказала жанчына, убачыўшы маю зачараванасць. — Якраз будзе ваша.

Я любіў добрыя рэчы, у гэтым трэба сазнацца.

Мне здалося, што яна прымервала на мне гэтае паліто з нейкім асаблівым стараннем. Паварочвала мяне перад люстэркам і перадам, і бокам; і зашпільвала на ўсе гузікі, і расшпільвала, як бы знарок, каб відна была цнатлівая мілата подбіўкі. Адступалася на колькі крокаў, аглядаючы здалёк, і падыходзіла як бы толькі дзеля таго, каб зняць з пляча нікому не відную парушынку. Мерала і з подбіўкаю, і адшпіліўшы яе; і лёгка накінуўшы, і перахапіўшы поясам, каб я мог паглядзець, як элегантна абцякаюць уніз складкі мякка падатлівай скуры.

— Загарнуць? — папыталася жанчына, мабыць, ужо разумеючы, што пытацца й не трэба.

Я паглядзеў у свой гаманец — ці хопіць у мяне грошай. Гэта было даўно. Недзе, мабыць, у дзевяцьсот трыццаць чацвёртым годзе.

## 2

Максім Танк вярнуўся з доўгай замежнай камандзіроўкі. Здаецца, з сесіі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. І першага ж дня мы з Алесем Бачылам да яго і прыбеглі. Каб расказаць, што робіцца ў «Полымі», галоўным рэдактарам якога ён робіць, бо мы ж яго памагатыя: адзін — яго намеснік, другі — адказны сакратар. А найважней, вядома, каб парадавацца, што ён вярнуўся дадому, пабачыць і паслухаць яго. Як кажуць, з першых рук пачуць апошнія сусветныя навіны.

Прыйшоў і Аркадзь Куляшоў, ціхі, трохі раздабрэлы, трохі нечым стомлены: сусед па кватэрах і аднапалчанін на паэтычным алімпе. Максім ходзіць па гасцёўні, то што расказвае, то што сам распытвае. Ён раздае прывезеныя падарункі: шарыкавыя алоўкі, чарнілныя ручкі, закладкі ў кнігі. На шырокім стале стаіць пукатая дубовая бочачка з жалезнымі абручамі і бронзавым кранікам, з налітым туды каньяком. Стаіць некалькі фасоністых пляшак — пляскатых, кантовых, круглых, аблепленых яркімі рэкламнымі паперкамі — віскі, партвейны, другія напоі, вядомыя па хемінгуэеўскіх творах. Калі хто хоча — каштуйце, частуйцеся, дарагія сябры і госці. Сам гаспадар не п'е аніколечкі, ніхто ніколі яго не бачыў нават падпітым. Ды яму гэтакі допінг і не трэба: ён вечна кампанейскі, свойскі, блізкі, вясёлы — без ніякай надзіманай умоўнасці. Гэтакі ж ён і на рабоце, і з чужымі людзьмі ў рэдакцыі — просты, даступны, яго не цісне ні пасада, ні слава. І ўвесь вечар мы так і гамонім: то ён расказвае, то слухае нас, то знойдзе прычыну ўспомніць дарэчы нейкую гісторыю — ці прывезеную, ці тутэйшую, — знайшоўшы абавязкова той досціп, ад якога будзеш не смяяцца, а ад душы рагатаць. І ўсё гэта ходзячы па хаце шырокаю ступою.

Але неўзаметку з асветленым тварам, у стракатай сукенцы паяўляецца Любоў Андрэеўна і ўсіх запрашае ў сталовую.

Тут на стале ўжо стаяць і тая самая дубовая бочачка з жалезнымі абручамі, і фасоністыя пляшкі. Нас зусім нямнога: двое палымянцаў, Аркадзь Куляшоў, Максімава сям'я, вельмі цесны, як кажуць, круг. Не, нехта-такі быў і яшчэ. Бяседа пайшла весялей, шумней, бо настала пара папраўдзе пакаштаваць і прывезеныя, і тутэйшыя напоі. Тое самае віскі мне аніяк не спадабалася, а калі напраўду, то яны падобны на нашу самагонку. Аказалася, што ў іх слава больш літаратурная.

Праз якую не так ужо й малую гадзіну часу мы з Аркадзем выходзім зноў у гасцёўню — пакурыць. Цяпер тут нікога няма, пакой стаў куды прастарнейшы, шырокі стол — пусты. Ар-

кадзь сядае на той яго бок, на канапе, я — на крэсле процi яго. Пакурылi, памаўчалi, але ж моўчкi доўга сядзець не будзеш. Тым больш калi раптам сама сабою просiцца прысесцi з намi i наша маладосць. Дзе было i «маладнякоўства», i маладая лiтаратура, што гэтак iмклiва выходзiла ў свет. З цяперашняга часу асаблiва вiдно, што i мы нешта людскае, нешта патрэбнае рабiлi. Няхай сабе не вельмi дасканалае, але душою чыстае, бо служыла яно рэвалюцыi. Гэтакае ж чыстае было i сяброўства: прынамсi, у мяне — з першае ж сустрэчы i да апошняй яго хвiлiны з Петрусём Броўкам. I таварышаванне: з Алесем Пальчэўскiм, Сымонам Баранавых, Барысам Мiкулiчам, Юркам Гаўруком, Паўлюком Шукайлам, Мiхасём Багуном[1], Сяргеем Грахоўскiм[2]. I былi яшчэ два чалавекi, з Мсцiслаўшчыны: Змiтрок Астапенка i Юлi Таўбiн. Яны ж i найдаражэйшыя сябры Аркадзя Куляшова. З тае Мсцiслаўшчыны ён перш прыязджаў да iх як госць, а потым пераехаў i назаўсёды ў Мiнск. Мсцiслаўцы вылучалiся нечым вельмi сваiм: зямляцкаю згуртаванасцю i асаблiваю, патаемнаю сталасцю верша. I не дзiва, бо ўжо тады яны шукалi сабе настаўнiкаў. Неймаверна цяжка, цераз невядомых перакупшчыкаў, яны плацiлi па дзвесце рублёў за кнiжачку «Жемчуга» Мiкалая Гумiлёва, «Четки» цi «Белая стая» Анны Ахматавай. Ганялiся за кнiжкамi Мiкалая Цiханава. Патрэбен быў верш першакласнай сучаснасцi. I ўсiх нас яднала адна iдэя: рэвалюцыйная бацькаўшчына, якую бязмежна павiнна славiць паэзiя.

Усё гэта мы ўспамiнаем з Аркадзем. Што гаворым, а што думаем моўчкi. I нiяк не можам зразумець, закон гэта цi выключэнне, калi набыткi не абыходзяцца без страт. Трывога ж, ды не толькi трывога, а небяспека, вельмi блiзка хадзiла i каля яго долi. За адным заходам не стала сяброў — Змiтра i Юлiка; за другiм — Платона Галавача. Гэта быў не толькi старэйшы таварыш, а Аркадзеў швагер: дзве сястры-случанкi, Нiна i Аксеня Вечар, сталi iм жонкамi. Хiба будзеш спакойны?

Каторы ўжо раз мы з iм перакурваем. У маўклiвай бяседзе бывае куды больш слоў, чым у гаворцы. I бачыў я, што яму хочацца глядзець у тое наша маўчанне. Там назаўсёды астаўся яго вялiкi боль, жальба, немы крык душы.

Калi i дзе, я ўдакладняць не стану
Таго, што больш не выклiкае прэк.
Бесчалавечнасць выпалiла рану
На часе тым, што адышоў навек.
........................................................

Сябры мае! Пад пустак дыванамі
Ці не абрыдла безназоўнасць вам?
Дзе дзверы, што замкнуліся за вамі?
Як вас знайсці? Якіх пытацца брам?
Маўчыць нябыт каменных пліт паважных,
Дзе з надпісаў дажджы змываюць пыл,
Там я блукаў, але імёнаў вашых
Не адшукаў на вокладках магіл.
Няма куды сваю жалобу ўскласці
Ні жонкам, ні знаёмым, ні бацькам.
Сябры мае, хіба ж аб гэтым шчасці
У маладосці марылася нам?
Вяло нас музы строгай блаславенне
На шлях цяжкі, ды што казаць аб тым...
Я — ваша памяць, вы — маё сумленне,
Я — дрэўка, вы — трымалі сцяг над ім.

Гэты «Маналог» пра сяброў пісаўся Куляшовым тры гады. Мне здаецца, што якраз пры тым нашым маўчанні і складаліся яго радкі.

Нарэшце Аркадзь сказаў:

— Давай, Янка, нічога больш успамінаць не будзем. Раскажы лепш, як ты жывеш.

Што ж, гэта вельмі правільная хада думак. Хіба не самае трапяткое і дарагое ў чалавека — яго заўтрашні дзень? Усе яго надзеі, спадзяванні, чаканні? Уся яго чалавечая краса?

— Нядаўна набыў «Выбранае» Бабеля. Перачытваю яго. Хачу паглядзець, чым некалі захапляўся, — кажу я.

— Дарэмна і захапляўся. Не люблю я паэтычнай прозы. Манернасць. Проза павінна быць простая. Нават суровая. Дарэмна траціш час.

Вось як? Гм... Што гэта? Каб сказаць, што ад літаратуры я даўно і безнадзейна адстаў? Што высокія развагі пра літаратуру мне ўжо проціпаказаны? Я чуў, што ў грудзях мне робіцца цесна, што дыханне мне спірае даўкі камяк абурэння і крыўды. Значыцца, пісьменніка ўжо ў мне няма? Задыхаючыся, але стараючыся стрымаць сябе, я гавару:

— Паэтычная проза — гэта не грэх, а найвышэйшая якасць літаратуры. Куды горш — празаічная паэзія!

— Што ты маеш на ўвазе?

— А хоць бы твой «Аманал»!

3

След ад тае размовы астаўся цяжкі. Я разумеў, што пакрыўдзіў Куляшова незаслужана. Аднак жа, як і раней, мы сустракаліся з ім — ці то дзе на людзях, ці выпадкова на вуліцы. Ніякіх гнявоў як бы не было. Мяне дзівіла толькі яго манера абыходзіцца пры сустрэчы. Павітаўшыся, як гэта бывае звычайна, я пытаўся:

— Як здароўе?

— А тваё як здароўе? — адказваў ён пытаннем на пытанне.

Мог я пытацца і іначай: як жывеш? як маешся? што чутно ў цябе? — і ён кожны раз перапытваў: а як ты жывеш? а як ты маешся? а што ў цябе чутно? — і гэтым збіваў з тропу. Міжволі думалася, што ён не хоча з табою гаварыць. Вядома, адразу і прычына напрошвалася сама сабою: сляды тае крыўды.

Аднак жа, аднаго разу сустрэўшыся, ён сказаў:

— А ведаеш, пра што я думаў? Правільна ці няправільна вы ліквідавалі сваю «Літаратурна-мастацкую камуну». Мне здаецца, што зрабілі вы гэта заўчасна. Рэч у тым, што нешта падобнае на вашу «Літкамуну» ўсё роўна было патрэбна. Маладой нашай літаратуры маладнякоўскія рамкі рабіліся цесныя. Наспявала неабходнасць шукаць новых сродкаў паэтычнага ўвасаблення часу. Ваша «Літкамуна» якраз і магла памагчы гэтаму. Нездарма ж, памятаю, адзін час я блізка прыглядаўся да яе. Неяк раз нават пабываў на вашым сходзе.

— Ты тады скоранька ўцёк, — успомніў і я той выпадак.

Гэтакімі ці, можа, трохі не гэтакімі словамі я перадаў калі не дакладнасць, то сутнасць размовы. І, памятаю, яна мяне вельмі здзівіла; я зрабіў з яе свае высновы. Першае: што дарэмна папракаў паэзію Куляшова ў неспакойных рытмах і ў празаізмах, бо гэта якраз і былі яго пошукі «новых сродкаў паэтычнага ўвасаблення часу». І другое: што і да «Літкамуны» ён «блізка прыглядаўся», бо спадзяваўся, што яна будзе нейкаю эксперыментальнаю школаю.

Тым часам я даўно абдумаў і сваю ўспышку. Ён жа правільна сказаў пра маю дурату — захапленне ненатуральнаю квяцістасцю. Колісь я нават перакладаў «Конармию»; яна мелася выйсці кніжкаю. І дзякуй богу, што не выйшла, бо цяпер я ўсё роўна не прызнаў бы таго перакладу.

Час ніколі не спыняецца, спыняемся мы. Шчаслівы той, хто найбольш паспее сказаць сабе. Ад жа як быў я ўзрушаны, прачытаўшы «Хамуціус». Не толькі ад тэмы — ад выканання.

Чыстае, яснае, высокае класічнае пісьмо. Гармонія. Яшчэ адна вышыня.

Звычайна пра ўсё, што нас асабліва хвалюе, вельмі цяжка гаварыць. Не хапае патрэбных слоў. Мабыць, я гаварыў банальна, заікліва, самымі бездапаможнымі словамі, але Куляшоў слухаў цярпліва. Мы сядзелі на канапе ў Саюзе пісьменнікаў, выбраўшы самы зацішны куток. Потым я сказаў, што ў паэме ўсё ж няма канца, што яна яшчэ адкрыта дзеля нейкай далейшай, большай размовы. Што цяперашні канец — лішні. Куляшоў вельмі добра ўмеў маўчаць. Але нарэшце сваім трошачкі хрыплаватым, заўсёды як бы нечакана нізкім голасам сказаў:

— Паэму ты, можа, залішне высока падняў, але ўсё роўна я табе дзякую. А наконт канца твая праўда. Я сам не перастаю яшчэ думаць аб ім.

4

І яшчэ хачу ўспомніць адну сустрэчу. Гэта было пад восень, Куляшоў ішоў па вуліцы Карла Маркса ціхаю хадою, угнуўшы галаву, задумаўшыся. Каўнер дэмісезоннага паліта ззаду настаўлены, рукі заложаны ў кішэні. Кіраваўся ён да скверыка, што за вуліцаю Свярдлова. Я пайшоў яму напярэсцігі.

— А-а, здароў, здароў! — першы раз ён не паўтарыў майго павітання, бо спяшаўся сказаць сваё: — Якраз жа пра цябе я ўспамінаў. А калі дакладней, то не пра цябе, а пра скуранoе паліто, якое некалі купіў у цябе. Памятаеш? Ой, якою вераю і праўдаю служыла яно мне!

Дзіва што, вядома, я памятаў. Але прызнаюся, не было мне прычыны яго ўспамінаць. Толькі цяпер усё ўбачылася, як пры бляску маланкі. Я прынёс яго тады, акуратна загорнутае, у свой пакойчык, што наймаў за вакзалам. У пакойчыку мясцілася чатыры рэчы: столік, якога хапала толькі на мае расстаўленыя локці, старое венскае крэсла, самаробная кніжная паліца, прыстаўленая да сцяны, і чорная цыратавая канапа з высокаю спінкаю. Валікі на ёй адкідаліся, падымалася сядзенне — пад ім была схавань усяго майго набытку. І пасцель. Туды ж я палажыў і адшпіленую падбіўку. Паліто павесіў на цвік, убіты ў дзвярах. Яно было мне вельмі па душы: і зграбнае, і зручнае, і шыкоўнае. Кожны раз, калі я расшпільваўся, хлопцы-дружбакі прасілі шырэй раскінуць крыссе, каб лепш відна была і сама падбіўка, і пацешныя хвосцікі на ёй. У тым паліце я і ажаніўся. І Ліне яно падабалася. Часамі

яна нават надзявала яго, асабліва калі было хмурна і золка ці крапіў нудны дожджык.

Ды от жа час заўсёды падносіць нам свае неспадзяванкі. Ці то я памажнеў, ці то з палітом нешта рабілася, але я пачаў заўважаць, што мне ў ім цеснавата. Усё радзей і радзей я насіў яго з подбіўкаю, а потым і зусім перастаў прышпільваць яе.

Не раз разглядаў на мне тое паліто і Аркадзь Куляшоў. А калі дазнаўся, што яно мне стала малое, папрасіўся памераць. Ён быў трохі меншы ростам і трохі шчуплей за мяне. І прыстаў: прадай ды прадай. І Ліна сказала:

— А чаму б і не аддаць чалавеку? Калі ты яго беражэш дзеля мяне, то гэта дарэмна. Усё роўна я насіць не буду, яно ж — мужчынскае.

Доўга я хадзіў таго дня з Аркадзем Куляшовым па вуліцы Карла Маркса. Быў рад, што ніякіх гнявоў між нас няма. Зноў успаміналася і наша маладосць, і маладая літаратура. І вайна, на якую пайшоў Аркадзь Куляшоў, на якую не раз прасіўся і я. 24 чэрвеня 1941 года ён пакінуў разбураны, ахоплены агнямі Мінск і пехатою дайшоў да Оршы. Толькі там удалося сесці на цягнік.

Пішучы гэтыя ўспаміны, я перабіраў Аркадзевы кнігі. Узяў «Стихотворения и поэмы», выдадзеныя «Библиотекой поэта» ў 1983 годзе. Паміж старонкамі 176 і 177 убачыў фотаздымак 1942 года «Кулешов среди фронтовых друзей». Іх там шэсць чалавек, ваенных хлопцаў у шынялях, з зоркамі на фуражках. Адзін Куляшоў стаіць у скураным паліце — другі з правай рукі. Значыцца, вераю і праўдаю яно паслужыла і яму.

Нават у вайну.

*1979, 1987*

## ТОЛЬКІ АДНА СУСТРЭЧА

Час ідзе і ідзе. З ім праходзяць падзеі. Адна з іх даўно закранула й мяне. Пра гэта, мабыць, пара ўжо расказаць. Хоць не вельмі і зручна. І нават боязна. Каб хто не сказаў, што гэта нясціпла.

Я вучыўся на другім курсе універсітэта. Студэнцкая наша сталоўка была хілая, гатавалі ў ёй нясмачна і бедна. З свайго Заваксалля я панадзіўся хадзіць у цэнтр. Недалёка ад Дома пісьменніка, на Савецкай вуліцы, здаецца, адразу ж за польскім консульствам, у белай прысадзістай камяніцы мясцілася даволі ладная і прасторная сталоўка. Тут і напаткала мяне гэтая сустрэча.

Собіла мне сесці за столік у зручным і ціхім месцы пры куткавой сцяне. Толькі я паглыбіўся ў паперку, каб выбраць стравы, як нехта папытаўся, ці можна са мною сесці. Я падняў вочы і тут жа падхапіўся сам, пазнаўшы чалавека.

— Ну а як жа, калі ласка, дзядзька Гарэцкі, — толькі і адважыўся я сказаць.

Максім Гарэцкі быў мне даўно загадкаю. Па сваім веку і па пісьменніцкай сталасці і знанасці ён павінен быў бы гарнуцца да старэйшых — да Купалы, Коласа, Бядулі, але трымаўся асобна, убаку; па літаратурнай і грамадскай надзённасці мусіў бы хаўрусаваць з маладнякоўцамі, але й тут ён не быў блізкі, сабою ўяўляў нешта большае. Яго постаць стаяла адна і займала ўсё месца — да астатку. Не вельмі лёгка было распазнаць, дзе і што ён рабіў, але след апантанай руплівасці неадступна ішоў за ім: выдавецкая і рэдактарская дзейнасць, упершыню напісаная гісторыя беларускае літаратуры; лекцыі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, у Горы-Горыцкай агранамічнай акадэміі; навуковая работа ў Інстытуце беларускае культуры; кнігі свайго духоўнага жыцця — аповесці, апавяданні, роздум над светам,— мы не маглі спакойна чытаць, калі тыя кнігі паяўляліся з друку. Было дзіва — калі ўсё гэта ён пасляваў рабіць? Вось чаму я аж злякаўся, убачыўшы яго перад сабою. Першы раз гэтак блізка можна каля яго стаяць. І нават гаварыць з ім. Добра, што ён не ведае, хто я, няхай думае, што проста студэнт, бо я ж перад ім— горкае хлапчанё.

— Давайце сядзем, — сказаў ён, мабыць, дзеля таго, каб зняць маю няёмкасць.

Быў ён сярэдняга ці, можа, трохі большага росту і самавітай постаці. Удумлівы, адкрыты твар, душэўныя вочы. Мяккі, спакойны голас. На верхняй губе як бы зусім нядаўна намеціўся ці

знячэўку астаўся недабрыты цень вусікаў. Яны смела вязаліся з цёмным пінжаком і зусім чорным гальштукам.

Перад тым як сесці, ён пашукаў вачыма, куды можна палажыць папку. Месца ёй знайшлося на парожным крэсле пры сцяне.

Пакуль мы заказвалі абед, пакуль яго нам прынеслі, ён распытваў мяне: як жывецца, на якім курсе вучуся, ці хапае на пражытак таго, што зарабляю? Куды збіраюся на лета, ці назусім развітаўся з футурызмам? Я нямала здзівіўся: аказваецца, ён ведае, што я — гэта Відук, што патроху пішу і вершы, і прозу.

— Штодня тут сталуецеся? — папытаўся ён, калі мы ўжо збіраліся падняцца з-за стала. І раптам дадаў, не чакаючы адказу: — Я рад, што з вамі сустрэўся. І хачу пагаварыць шчыра, па-пісьменніцку. Нядаўна ў мяне выйшла з друку невялікая крытычная кніжка пра творчасць вашых маладнякоўцаў. Там напісана і пра вас.

За ўвесь час нашай сённяшняй стрэчы я больш за ўсё баяўся, што дзядзька Гарэцкі ўпомніць тую кніжку. У ёй папраўдзе гаворыцца і пра мяне, можа, не так і блага, можа, нават пахвальна, але — колькі горкіх папрокаў! Я мог пераказаць іх на памяць: «...аўтар арыгінальнічае, па-моднаму расстаўляе радкі, хоць дабра ад таго не шмат... у значнай меры збіваецца на шаблон... ёсць нямала штучнасці, нервовасці, трохі недагляду ў мове... не чужаецца эратычных матываў...»

— Я чытаў вашу кніжку, ёсць яна ў мяне, — сказаў я пакорліва.

— Ну то й лепш, тады мы яе й чапаць не будзем. — Ён паспеў быў узяць у рукі папку, збіраючыся развязаць яе, няйначай як там ляжала кніжка, але тут жа палажыў назад. — То я проста й скажу, як думаю: вам трэба перастаць пісаць вершы. Яны ў вас надуманыя, нежывыя. Як толькі вы берацеся за верш, вы стараецеся рабіць яго модна, шукаеце чужых, ненатуральных слоў. Нашто вам «перлы дум», калі вы самі не ўяўляеце, што гэта такое? Свае вершы вы пішаце пераважна на чужым, незнаёмым матэрыяле, як тую «Чадру», якой нават не бачылі ў вочы. Няўжо ж пра чадру вы раскажаце лепш за паэта, які там жыве? Пісаць трэба пра сваё, знанае, блізкае, каб яго кожны мог бачыць і любіць. Трэба пісаць пра свой край, ён жа ўсім нам самы мілы. Хіба не гэтак?

Я слухаў, затаіўшы дух. Найдзіўней было тое, што ўсё гэта мне было як бы знаёмае. Як бы гэта былі мае ўласныя, болем вынашаныя думкі. І цяпер мне хацелася як бы папытацца ў

кагось: як, якім чынам дзядзька Гарэцкі мог падслухаць ці падгледзець мае пакуты і трывогі, што мае вершы ніколі не давалі мне радасці?

— Вы кажаце, што чыталі маю кніжку? То мабыць жа пачулі ў ёй, што ад усяе душы я настаўляю вас на прозу. Толькі яна паможа вам. Бо ўгадваю, што вы можаце дамагчыся, каб вас у добрай меры слухаліся і душэўныя перажыванні, і рамантыка роднага краю, і народнае слова. Пішыце прозу.

***29 красавіка 1985 г.***

## ТОЙ ЧАС, АЛЬБО АЛЕСЬ ГАРОДНЯ

Пра гэтага чалавека я мог бы расказаць даўно, бо ў беларускай літаратуры свайго часу ён быў фігураю не зусім звычайнаю. Пачаць бы з самога прозвішча: Функ Аляксандр Эраставіч. Міжволі падумаеш, што гэта немец. А калі так, то здагадкі пойдуць і далей: што ён дваранін і мае дваранскі тытул барона. Не важна, што гэта будуць толькі здагадкі, бо яны вельмі падобныя на праўду, у іх няма ніякіх супярэчнасцяў. І што будзе папраўдзе дзівіць, дык гэта яго чалавечая сутнасць. Тут колькі хочаш нечаканасцяў: што ён просты, даступны, адукаваны. Выхаваны. Што знаецца з гісторыяй, з літаратураю, у тым ліку з беларускаю. А яшчэ больш: што сам па-беларуску і піша.

Да ўсяго гэтага мне прыемна было памятаць, што ў гады мае маладосці ўсюды прадавалася самая прыдатная на любы, нават вытанчаны абутак паста (тады мы называлі вакса), і на вечку бляшанай, круглай, пляскатай скрынкі тлустымі літарамі было выдрукавана кароткае слова: «Функ». Гэтая няхітрая акалічнасць і цяпер прыдавала нашаму знаёмству як бы нейкую даўнасць.

Калі, дзе і як мы пазнаёміліся, не памятаю. У памяці ён астаўся адразу як ужо добра знаёмы. Няйначай як гэта было на кватэры ў Паўлюка Шукайлы, нашага дбайцы і арганізатара «Беларускай літаратурна-мастацкай камуны». Шукайла жыў, як тады здавалася, на далёкай, можна сказаць, ужо загараднай Чырвоназорнай вуліцы, у новым, толькі што пастаўленым драўляным доме, — гаспадар здаў яго кватаранту на абжытак. У доме была яшчэ толькі такая мэбля: драўляны ложак, абедны стол і два крэслы. Калі мы, літкамунаўцы, збіраліся на свае рэдкалегіі, то рассцілалі на падлозе свае світкі, кажухі ці плашчы, лажыліся наўкруга, у галавах клалі чыю-небудзь шырокую папку, каб на ёй можна было раскладаць рукапісы, і пачыналі абмяркоўваць. Толькі адзін Шукайла, як гаспадар і наш кіраўнік, сядзеў за

сталом на крэсле. І вось аднаго разу паявіўся сярод нас новы чалавек. Ён таксама сядзеў на крэсле з другога боку стала. Гэта і быў Алесь Гародня[1]. І мяне гэта, папраўдзе сказаўшы, здзівіла: чаму ён не ў нашым гурце? Нядобра падумалася пра яго.

Аднак жа, калі разыходзіліся, само сабою сталася, што мы пайшлі разам: ні то ён мяне праводзіў, ні то я яго. І не заўважылі, як прайшлі ўсю дарогу ад Чырвоназорнай вуліцы да пасажырскага вакзала за гаворкаю. Нават яшчэ каля вакзала пашпацыравалі сюды-туды. І гаворка наша была вельмі патрэбная мне: пра нашу Беларусь і пра яе літаратуру. Галоўнае — пра старажытную: Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, нават пра майго земляка Альгерда Абуховіча, пра якіх я, сазнаюся, да таго часу нават не чуў.

Неўзабаве мы зноў былі на рэдкалегіі. І зноў з Гародням пайшлі разам і, вядома, зноў доўга снoўдалі каля вакзала. Я не ведаў, дзе і як жыве ён, але падумаў, што ў такі позні час ісці яму дадому аднаму не надта прыемна, і сказаў, што, можа, мы пераначавалі б у мяне? Ён лёгка згадзіўся.

Я жыў за вакзалам, у Піянерскім завулку, наймаючы ў Мар'і Жакевіч невялікі пакойчык. Мы перайшлі вузкі, доўгі пешаходны мост над чыгуначнымі пуцямі, каля школы павярнулі направа, крутнулі ў кароценькі мой завулак, і былі дома.

У пакойчыку маім месцілася толькі чорная цыратавая канапа, у галавах да сцяны прыліпаў самаробны стэлаж з кнігамі, а пры акне ў двор стаяў невялічкі столік, якога хапала, каб пры рабоце можна было паставіць на ім локці.

Збіраючыся спаць, я намерыўся зняць спінку з канапы, каб яна стала хоць трошкі шырэй. Але Гародня запярэчыў. Сказаў, што ні на чым мяккім ён спаць не можа, яму трэба толькі роўная і цвёрдая пасцель. А таму ён ляжа на падлозе.

Я тут жа сабраў увесь свой адзевак: паліто, розныя коптачкі, доўгі, яшчэ з дому ўзяты кажух, у якім з гонарам хадзіў па Мінску, не баючыся ніякіх марозаў. У галавах пад кажух мы паклалі некалькі няцвёрдых кніг, накрылі іх навалачкаю. Выйшла не так і блага. Калі ж сабраліся класціся спаць, я убачыў новае дзіва. Пад верхняю белаю кашуляю аказаўся цвёрды гіпсавы гарсэт, зашнураваны белым шнурком. Я няўцямна глядзеў, як Гародня развязаў верхні вузлік і пачаў расшнуроўваць гэты белы панцыр зверху ўніз. І паставіў яго на падлозе. Я не ведаў, што мне рабіць — распытваць у яго пра гэта ці маўчаць? Я разумеў, што гэта калецтва спіннога хрыбта. След, можа, вайны, а можа,

якая хвароба? Зноў тайна? Але распытваць не стаў. Не такі гэта выпадак, каб пра яго лёгка было гаварыць. І мне тут жа стала горка, што там, у Шукайлы, нядобра пра яго падумаў, калі ён разам з намі не лёг на разасланы на падлозе адзевак.

Потым ён часта аставаўся ў мяне начаваць. І кожны раз хапала ў нас гаворкі бадай што давідна. Мяне вельмі цікавіла, як ён і што піша, але гэтай гаворкі ён не любіў. Сказаў толькі, што для нашай суполкі напісаў аповесць. З вайны. І завецца яна «Варта на Рэйне».

На гэты ж раз, лежачы на кажуху, ён сказаў, што ў яго баліць душа: ён даўно не бачыўся з каханай жанчынаю. Гэта была новая мне навіна. Яна жыве ў Маскве. Зваць яе Вера Яўграфаўна Сіроткіна. Але ім нельга пажаніцца, бо яны ў нейкай вельмі блізкай роднасці. І яму конча трэба з'ездзіць. Можа, і я з ім паехаў бы? Вядома, я згадзіўся.

У Маскве Гародня адразу знік. Я пасяліўся ў Беларускай гасцініцы на Цвярской вуліцы і дзён тры прыходзіў туды толькі начаваць. У Маскве я быў першы раз, усё мне было навіною. І магазін Елісеева, падобны на святочны кірмаш, і Сенны базар, дзе я не бачыў ніякага сена, і Серпухоўскі рынак з пачварна няўклюдым, тупым будынкам пасярэдзіне пляцу. І Пушкінскі музей дасціпных мастацтваў з белаю, рамантычна маладою фігураю Давіда з прашчаю ў паднятай руцэ, пры самым уваходзе; і храм Хрыста Збаўцы, дзе, лазячы па крутых прыступках у яго сценах, я падымаўся пад самае скляпенне і любаваўся адтуль і на Маскву-рэчку, і на яе масты, і на далёкія смужыстыя наваколлі; і Траццякоўская галерэя, дзе цуды ў вобразах Івана Грознага, што з вар'яцкімі вачамі забівае свайго сына і абнімае яго галаву; і разудалы Сцяпан Разін; і князёўна Тараканава; і запарожскія казакі; і каляровая мяцеліца ў карцінах Малявіна; і душнае ўзрушэнне у карцінах Ге, — бог ведае колькі неспакою ў душы прыносіў я з сабою ў гасцініцу, не могучы заснуць да самага рання. А хіба можна было спакойна прайсці на Краснай плошчы каля помніка Мініну і Пажарскаму ці каля Лобнага месца, пазней адціснутых на край плошчы? А колькі гадзін прабавіў я, ходзячы па кірмашах старых кніг, што раскладваліся на століках ці проста на бруку бойкіх вуліц!

Вярнуўся дадому я з вялікім смуткам: як многа мне яшчэ трэба бачыць, ведаць і знаць. А Гародня, прыехаўшы, можа, праз тыдзень, як мог супакойваў: усё тваё яшчэ наперадзе. Я рад быў хоць гэтаму супакойванню.

Паўлюк Шукайла пераехаў на новую кватэру, блізка каля вакзала. Нам стала куды лягчэй збірацца ў яго. Часцей пачалі бываць і прыхільнікі «Літкамуны» — і мінчане, і перыферыйнікі — з Горы-Горыцкай сельскагаспадарчай акадэміі — Алесь Вечар, Прыбыткоўскі, Юрка Гаўрук. Аркадзь Куляшоў і Юрка Лявонны[2] прыглядаліся да нас з асаблівым цікаўствам, з нейкаю зычліваю насцярогаю. Часцей забягаў і Гародня, балазе гэта было па дарозе да мяне.

Аднаго разу Гародню спатрэбілася зайсці ў аптэку. Добраю славаю карысталася аптэка, што была перад Домам урада. Мы туды і рушылі.

На гэты бок вуліцы ўсе будынкі — цэлыя кварталы — былі ўжо знесены, бо тут пазней зрабілі плошчу. Аставаўся толькі адзін не надта высокі, але ўтульны, ладны, прыгожы сваімі архітэктурнымі формамі дом. Гэта і была аптэка. На тым жа баку вуліцы высіўся бадай што блізкі ўжо да свае дзесяціпавярховае вышыні Дом урада, аплецены рыштаваннямі, з дашчанымі пераходамі з паверха на паверх. Я бачыў, як па гэтых пераходах цяжка хадзілі мужчыны, носячы груз. На спінах у іх была прымайстравана так званая «каза», падобная на высокую скрынку, толькі адкрытую, з бакавінамі і з дном, у ёй насілася наверх цэгла. Мне ўспомнілася, што зусім нядаўна ў нейкай кнізе пісалася пра тое, як будаваліся егіпецкія піраміды. І быў малюнак, вельмі падобны на гэты: і «каза» на спіне, і цяжкія паклажы, і падыманне яе. Мы ўжо былі каля самае аптэкі, але Гародня рэзка спыніўся, спыніў і мяне.

— Гэта тваё шчасце, што мы з табою толькі ўдваіх, — сказаў ён. — А калі быў бы з намі нехта яшчэ, я прымушаны быў бы пра тваю гаворку сказаць куды трэба. Ты проста дурны! — сярдзіта сказаў Гародня і пайшоў у аптэку.

Гэты эпізод мне часта ўспамінаецца. Аж да гэтага часу. Па розных прычынах. Я ведаю, што на ўсім свеце існуюць законы пра абарону дзяржавы і людзей у ёй. Але ці ўсе спосабы гэтага клопату могуць быць чэсныя? Добраахвотна гэтым займаюцца ці прымусова? І ці было ў Гародні права на выбар? Таўро яго біяграфіі — вядома ж, буржуазнай — не давала яму гэтага права. І яго чэснасць мяне вельмі здзівіла.

Час ішоў. У Цэнтральным бюро «Маладняка» кніжачкаю выйшла Гароднева аповесць «На крэсах», у часопісе «Маладняк» — апавяданне «У паплавах». Апроч прозы ў газетах і ў часопісах «Узвышша» і «Маладняк» друкаваліся яго артыкулы

і рэцэнзіі на новыя кнігі. На цяперашняе вока тыя артыкулы выглядалі б, мабыць, прымітыўна, але трэба сказаць, што пісаць іх было і цяжка, і небяспечна — іх кантралявала пільнасць Лукаша Бэндэ. Патрэбен быў аголены сацыялагізм і барані божа не клопат пра нацыянальную літаратуру і спецыфіку літаратурнага твора, бо за гэта аўтар адразу пападаў у самую страшную віну — у нацдэмы.

Потым настаў трывожны час. Раптам у нашай рэспубліцы паявілася безліч ворагаў. Галоўным чынам інтэлігентаў. Бэндэ стаў не адзін, паявіліся яму памагатыя, яны выступалі ўпэўнена і смела. І сярод першых жа ахвяр зусім непрыкметна знік Гароднян. Праз невялікі час сярод людзей ненадзейных назваліся прозвішчы Уладзіміра Дубоўкі, Язэпа Пушчы, Язэпа Дылы[3], Некрашэвіча[4]. Зусім нечакана сярод ненадзейных — Уладыслаў Галубок[5] з усім сваім вандроўным тэатрам. Не ўсё належна пайшлося і ў тэатры імя Янкі Купалы, і там артысты пачалі знікаць. Чулася, што адны ішлі ў далёкія ссылкі, другія ў сібірскія лагеры.

І раптам паявілася новая суцешлівая тэма: нечуваная перакоўка чалавечых лёсаў на Беламорска-Балтыйскім канале. Гаварылася і пісалася пра гэта пераможна і ўрачыста. Пісалася ў газетах, у часопісах, рысавалася ў мастацкіх палотнах. Будоўлю на канале наведаў урадавы экіпаж.

Вядома, на будоўлю Беламорска-Балтыйскага канала паехала і беларуская экскурсія. Здаецца, што ўзначальваў яе Міхась Лынькоў. Сярод дэлегатаў былі Янка Купала і Алесь Кучар. Вярнуўшыся ж, нашы дэлегаты сказалі, што бачылі там і Алеся Гародню. Працуе ў тамашняй лагернай газеце.

Божа, колькі гэта дало мне болю і гора! Адразу ж перад вачыма паўстаў мне яго гіпсавы гарсэт, зашнураваны белым шнурком на грудзях. Як жа ён там вытрываў? І ў чым яго віна? Я ж сам быў упэўнены, што без віны не могуць саджаць!

Прайшло недзе каля трох гадоў. Я жыў у тым жа доме ў Мар'і Жакевіч, у тым жа пакойчыку. У галавах на канапе стаяў той жа самаробны стэлаж з кнігамі. Стаяла ў ім некалькі кніг і Гародневых. Папулярнага на той час літаратуразнаўца Валяр'яна Пераверзева, вучні і паслядоўцы якога Фогт і Саўсун наездам з Масквы выкладалі ў нас ва універсітэце свае дысцыпліны, і філосафа Абрама Дзяборына, кнігі якога я таксама любіў пагартаць, бо чутачку захапляўся гэтым прадметам. Няўжо ж ён выжыў? — думалася мне пра Гародню.

І аднаго разу, зранку, перад маім занавешаным акном у двор прамільгнуў цень чалавека. Потым бразнулі дзверы ў ганку, потым у кухні, потым рэзка адчыніліся дзверы і ў мой пакойчык — увайшоў Гароння. Той самы, у тым жа чорным, толькі добра паношаным паліце, толькі худы, натомлены, — мы пацалаваліся. Гэта было нейкае адно імгненне. Ён паспеў толькі сказаць:

— Дарагі Янка, я вызвалены, ты не бойся, за ўдарную работу. Я ні ў чым не вінаваты. Жыць у Мінску мне нельга, дзе буду — не ведаю, пакуль што еду ў Бабруйск. У мяне няма грошай, тут, можа, асталіся якія мае кнігі, ты можаш прадаць іх, а мне памажы грашыма.

Я кінуўся ў свой кашалёк. Не памятаю, што там было, але мала, кінуўся да гаспадыні, Мар'і Жакевіч. Мы сабралі ўсё, што маглі, — сто рублёў. Зноў расцалаваліся, і Гароння знік за дзвярыма.

*17 лістапада 1989 г. — 1кастрычніка 1990 г.*



## ПРЫ ВОГНІШЧЫ

Я еду па вузкай дарозе сярод жытоў. Глыбока ўрэзваюцца каляіны ў аксамітную мяжу-дарогу. Часам наабапал пападаюцца ямы, і, пераязджаючы іх, я гойдаюся на сваіх драбінах, як у калысцы.

Конь бяжыць. Пырхае і патрэсвае грываю. Пуга ляжыць у драбінах, і калі мне хочацца паддаць каню больш духу, дык я крышку сцебану ляйчынаю ды гукну:

— Но-о!

Тады зноў пырхне, страсяне грываю, грукне капытамі мой буланы, і я адчуваю прыемную дрыготу.

Нагнаў фурманку. Падняў галаву, каб паглядзець, што за чалавек такі. Конь штурхануў яго мордаю ў спіну.

— Но, пайшоў, ваўкі на цябе!

Па голасе я пазнаў, што гэта ўжо стары чалавек. Неўзабаве ён азірнуўся, і я разгледзеў шырокую белую бараду і — у руцэ — пугу.

— Далёка едзеце, дзед? — гукнуў я.

— Як кажаце?

— Далёка едзеце, пытаю?

— Далёка, дзеткі. Но-о! — і тузануў каня.

Калёсы затрабашчалі. Я чакаў новай зручнай хвіліны.

— Адкуль самі будзеце, дзядуля? — папытаўся я, калі нагнаў зноў.

— Здалёк. Старыцу ведаеце?

— Чуў.

— От я адтуль і буду.

— Ага, — сказаў я больш для таго, каб пагадзіцца, што гэта сапраўды далёка. — Дзе ж начаваць будзеце? Можа, заедзеце куды?

— Як кажаце?

Я паўтарыў.

— А от выедзем з жыта, прыпынімся ў ляску і пераначуем. Ноч жа, богу дзякаваць, мае быць добрая.

І папраўдзе, усё дакляравала добрую ноч: неба чыстае, звонкае, а ў вечар асядае ўжо дзяняшняя гарачыня і смага.

З дарогі завярнулі на поплаў. Дарога схавалася ў сутонні змроку, а калёсы, як на абрусу, ціха пайшлі па мураве. Неўзабаве мы пад'язджалі пад ніштаваты гай. Дыхнула вільгаццю і пахам сапрэлага лісця.

Абраўшы месца, мы паадпрагалі коні, папуталі іх і, абганяючыся ад камароў, пачалі раскладаць агонь...

1

— Э, дзеткі, ды што і казаць: бывала, як я быў хлопцам, дык нічога не баяўся. Ніякіх ні страхаў, ні забабонаў не ведаў...

Агонь патрэскваў. Іскры падымаліся над полымем і ціха знікалі, дрыготка расплываючыся ў цемры. У бляску вырысоўваўся маршчыністы дзедаў твар. Шырокая белая барада лажылася на грудзі. Старэнькая каўтунаватая шапка была нахлабучана нізка, і з-пад яе абвісалі цяжкія і таксама белыя бровы. Вочы свяціліся кволым, як бы нейкім вадзяным бляскам.

— А якія ж страхі вы бачылі, дзядуля?

— Якія страхі? Э, на маім вяку давялося паглядзець усякае ўсячыны.

— Не баяліся?

— Чаго ж баяцца? Я — быў дуж! Бывала, на ўсім сяле са мною ніхто не мог пабарацца. У лесе шулы — адзін клаў і на траіх конях вывозіў.

— Уперад, кажуць, усе людзі былі дужыя, — пагаджаюся я.

— Дужыя! Мой бацька-нябожчык на сваіх плячах з лесу сенцы вынасіў. Ого, даўней былі людзі!

Гаворка пайшла не туды, куды мне хацелася. Я зноў папытаўся:

— А ці здаралася з вамі што-небудзь страшнае, дзядуля?

— А як жа, здаралася.

— Гэта, мабыць, вельмі цікава?

— А хто яго ведае... От ішоў гэта нешта раз я з воласці. Ноч цёмная, хоць вока выкалі. А дарога была паўз могілкі, што там у нас каля Карачоўшчыны. Падыходжу — страшна стала: здаўна людзі баялі, што там нешта пужае. Чую, што аж

сэрца заходзіцца, а — іду. Ну, параўняўся з могілкамі, слухаю: мармыча нешта. Хоць ты ўцякай, і — не магу. Яшчэ слухаю — грукаціць. І сэрца, чую, тукоча: тук-тук. Але перасіліў сябе: не можа, думаю, быць, каб Зарубчык не дазнаўся, што за трасца там такая. Сціснуў свой кій і — туды. Падыходжу, гляджу, і — што ж вы думаеце? Ляжыць на магіле дурны Тадэвушаў Яўхім, мармыча сабе пад нос нейкую пакасць і барабаніць нагамі ў крыж.

Дзед слаба засмяяўся, паправіў шапку і пачаў набіваць люльку.

Агонь патухаў. Я падкінуў галля і, калі шугнулі ўгору дробныя іскры і полымя выхапіла з цемры абрысы кустоў, папытаўся:

— А паляваць ці прыходзілася, дзеду?

Дзед зірнуў на мяне, нібы я сказаў нейкае несусветнае глупства.

— А як жа! Бывала, як скажа Вароніч — пан такі быў у нас, што ў Рэчышчы маёнтак меў, — бывала, як загадае аблаву — хто з ім паедзе? Я, Зарубчык! Хто скарэй воўка загоніць ці кулю пад лапатку яму ўсадзіць? Зарубчык! Мяне пан паважаў. Бывала, скажа: «Зарубчык, заўтра на паляванне збірайся!» — і ідзеш. Нават стрэльбу сваю падараваў мне. І цяпер на сцяне вісіць. Добрая пістаноўка...

Агонь то ўспыхваў, прабягаючы па сухіх пруцінках галля, то патухаў. Я думаў пра дзеда, пра яго жыццё, што пачыналася недзе ў днях сівой мінуўшчыны: які гэта багаты скарб жывых чалавечых сузіранняў. А дзед пруцікам варочаў вуголле і, здавалася, слухаў, як там доўга і высока пішчаў нейкі адзін тоненькі гук.

2

— То от жа слухайце, калі маеце ахвоту. Была ў пана дачка Аміля. Бляявенькая такая, маладзенькая, жвавая. Такое вясёлае дзяўчыны за свой век я яшчэ не бачыў. Як званок які: вечна, бывала, у песнях ды ў кветках. А душы якой добрай!

Дзед уздыхнуў і пачаў пасля паўзы:

— Бывала, толькі і бачыш, што яна бегае. То ў садзе, то ў полі, то ў лесе чутна яна. Любіла пужаць мяне. Падкрадзецца спадцішка, ды — скок мне на плечы. Я, ведама, злякаюся, а яна — адскочыць і смяецца. Або ў бараду мне ўчэпіцца. А то — нарве кветак, перабірае іх і пытаецца, ці харошыя. А

яно ўсё ўяе руках было харошае. Ці казку просіць расказаць ёй. А ўмяне казак гэтых было, як у сявеньцы. «Як добра вы гаворыце, дзеду», — скажа яна. А казкі мае — усё найбольш пра гаротнага мужыка якога і лютага пана. А ёй — падабаецца. Што за душа была... Ды толькі нядобрая выпала ёй доля. І сама, як тая кветка, зачахла...

— А што з ёю здарылася? — не ўтрываў я папытацца, калі дзед на якую хвіліну змоўк.

— От слухайце ж. Быў у пана парабак, ладны хлапчына, што дуж, што харош, што разумнік — залюбавацца можна. Ігнатам звалі. Песню зацягне — не можаш наслухацца. Не часта каму адразу даецца так многа багацця на зямлі. Але ж не на добрае гэта пайшло: пакахаліся яны з Аміляю.

Пан, канечне, не ведаў. Дый ніхто, апрача мяне, не ведаў пра гэта. Толькі адно, што адразу ўсім кінулася ў вочы: надта перамянілася яна. Не відаць яе стала ні ў полі, ні ў садзе, і голас адразу замоўк. Ціхая, маўклівая стала і ўсё як бы пра нешта думае. Прыпільнуе дзе ўпотай мяне і толькі шапне, каб ніхто не пачуў:

— Мілы дзедка, скажы Ігнасю, што прыцемкам я буду чакаць яго за вішняком.

— Добра, — кажу, — скажу ўжо, а як жа.

— Глядзі ж, не схлусі, дзедка.

— Ды што вы, паненка, хіба ж можна...

Аднойчы, памятаю, туды недзе пад прачыстую, добрае ўсталявалася надвор’е. Выйшаў пан з пакояў, пахадзіў па сядзібе, адале наклікаў мяне дый кажа:

— Сёння, Зарубчык, на паляванне паедзем. Кажуць, там пад Замурожжам многа дзічыны аб’явілася.

— Што ж, — кажу, — можна з’ездзіць.

— Ты там скажы, няхай кабыліц абсядлаюць, ды так, неўзабаве, мы і скокнем туды.

— Добра, — кажу.

Неўзабаве мы так, гуляючы, і паехалі. Праязджаем паўз арэшнік, аж паненку спаткалі. Гуляла.

— Доўга, — пытаецца, — ты забавішся, тата?

— Да вечара, — адказаў пан. — А калі што, то і заначуем.

— Ні пуху вам ні пяра, — кажа.

— Разумніца. Толькі ты, дачушка, — кажа, — дахаты ідзі. Мама цябе там шукае.

Ну, паехалі мы ў Замурожжа. Правалачыліся там ладнавата, але, як на тое ліха, нічога людскага не ўпалявалі. Падстрэлілі

аднаго зайца, дый таго ўшчэнт папсавалі. Хацелі ўжо дахаты брацца, але пан падумаў дый кажа:

— А ці не падскочыць нам на Байдзіна? Няёмка ж з пустымі рукамі дома паказвацца. Можа, там хоць што-небудзь падстрэлім?

— Што ж, — кажу, — можна.

Ну і пагарцавалі мы. Пан — паперадзе, я — ззаду. Трэба было даць немалога круку, але сонца яшчэ стаяла высока і можна было з гадзіну пашвэндацца па байдзінскіх нетрах.

Ну, от і паехалі мы ў гэтае Байдзіна. Абагнулі пералесак, праскочылі прагаліну і апынуліся ля балотца.

— От тут, — кажа пан, — мы мусім хоць качак трохі напужаць. Толькі трэба да рэчкі прабірацца: што самі не ўходаем — сабакі падсобяць.

— Але, — кажу, — падсобяць, чаму ж не. Што ж то былі б, — кажу, — за сабакі, каб яны і птахі не задушылі.

Блізу рэчкі пан і кажа:

— Ты, — кажа, — паставіш каня ды ад таго канца зойдзеш, а я буду цябе ля чыстага плёса чакаць.

Ну і пайшоў я. Палазіўшы па лазняку і ўпэйкаўшы штук чатыры гэтай птахі, я ўжо думаў і варочацца. І толькі гэта выняў люльку, каб закурыць, як чую — як бы на некага пан сварыцца. Няўжо, думаю, мяне заждаўся? Але чаго ж бы ён, думаю, — гукнуў бы, калі што якое.

Не прайшоў і гоней, як чую — нехта стрэліў. А пасля — нехта пачаў крычаць і плакаць. Нядобра сашчамілася ў мяне сэрца. Бягу і думаю: злавіў, мусіць, нейкага абармота пан. Будзе клопату на ўсю дарогу.

Ажно калі падбег, дык аж не паверыў сваім вачам. Не паспеў апамятацца, як пан закрычаў:

— Даставай!

А даставаць трэба было човен, што гойдаўся на рэчцы. Насмерць падстрэлены ляжаў у ім Ігнат. Паненка, мабыць, не верачы сабе, яшчэ ўсё сілілася падняць яго, але Ігнатава галава выпадала з рук і стукалася аб днішча лодкі. Паненка нічога не разумела, у вачах яе быў толькі жах.

Калі дасталі човен, паненка кінулася на труп і закалацілася над ім. Пасля яна падняла галаву і паглядзела на нас. Нічога не было страшней за яе вочы. І валасы раптам сталі доўгія, раскіданыя.

— Нашто вы забілі яго? — папыталася яна вельмі ціха.

Пасля як бы нешта ўспомніла, жахліва расплюшчыла вочы і крыкнула:

— Не дам! Не дам! Зладзюгі! Драпежнікі! Не чапайце яго!

Паненка зноў кінулася на труп, а пан размахнуўся і пашчапаў сваю стрэльбу аб хвою.

— Адвязі дахаты, а па яго заўтра прыедуць! Не ўцячэ! — загадаў ён мне, а сам сеў на каня.

От так і скончылася нядоўгае шчасце ў іх... Ох, якія цвёрдыя сэрцы бываюць: як камень магільны... Нечалавечыя сэрцы.

Зноў дзед замоўк, я нават не заўважыў гэтага, і толькі калі ўжо доўга пастаяла цішыня, апамятаўся. Дзед таксама тупа глядзеў на свае калені і, мусіць, нанава ўспамінаў сваё жыццё. Вочы яго задуменна свяціліся, і мне здавалася, што ў іх прабягалі цені ўспамінаў.

— Ах, якая залатая дзяўчына была, — нарэшце сказаў дзед і ўздыхнуў.

— Ну, а што ж з ёю пасля было? — не вытрываў я.

— Э, дзеткі, так яна і зачахла. Дзе ўсё яе хараство дзелася: схуднела, выцягнулася, сама як смерць стала. Пад вечар, бывала, мо калі выйдзе на хвілінку ў сад пасядзець і ўсё думае, думае... Нядоўга пражыла, пахавалі яе на цвінтары...

Дзед пачаў даставаць торбачку. Паволі развязаў, выняў кавалак сала, адрэзаў нажом-цыганком скібачку, нанізаў на пожаг і пачаў падсмажваць.

— Усяго давялося мне пабачыць у жыцці, — сказаў дзед, яшчэ думаючы нешта сваё, — бо, як кажуць, я заўсёды быў на прыкмеце. Параіцца каму дзе трэба — да Зарубчыка ідуць. У валасць, бывала, трэба: хто пойдзе? — Зарубчык. Да спраўніка паехаць — Зарубчык. Раз нават аж у Вільні ад вобчаства пабываў...

— А чаму гэта, дзядуля, вас Зарубчыкам завуць? Што — пан даў такое прозвішча, ці як?

— Як кажаце?

— Зарубчыкам чаму вас завуць? Адкуль у вас такое прозвішча?

Ён коратка зірнуў на мяне, а пасля перавёў вочы на смалячок. Доўга думаў. Паправіў ламачча. Пабіў пруцікам па вуголлі, ад чаго высока ў цемру гайсанулі іскры.

— Э, дзеткі...

Ён падняўся, крактануў, як ад холаду, і падаўся ў цемру. Я таксама дагадаўся, што трэба паглядзець каня, і пайшоў за дзедам. Твару кранулася лёгкая вільгаць. Цемра была такая

густая, што яе хацелася распіхваць рукамі. Я свіснуў. Конь абазваўся, і на яго голас я пайшоў вобмацкам.

Конь сустрэў мяне па-дружбацку, ласкава ткнуўшы мордаю ў плячо. Я злавіў гэту морду, пагладзіў яе, згроб камароў, што паналіпалі ў яго каля воч. Конь пырхаў і цёрся аб маё плячо. Ад яго пахла потам і пяражованаю духмянаю травою.

3

Абняўшы калені, дзед сядзеў ля вогнішча і глядзеў, нібы сузіраючы свае думы. І калі недзе скончылася чарада гэтых дум, як бы ўслед ім, сказаў:

— Даўно гэта было, дзеткі. Не пан даў мне такое прозвішча, а людзі...

Я ўсеўся зручней, каб пасля не варушыцца ўжо.

— А было гэта так. Некалі паны давалі мужыкам балоты на расцяроб. Хто больш выцерабіць балота, таму і аставалася пасля сенажаць гэта. А ў дзеда майго было трое сыноў: Макарка, Базыль ды Якуш. Макар — самы старэйшы, жанаты быў, жыў на аддзеле, а Базыль з Якушом — пры бацьку. Работнікі з іх былі ўдалыя, от яны і прыдбалі гэтае сенажаці дзесяцін, мусіць, са тры. Ніштаватая была сям'я: быў хлеб і да хлеба.

Але і тут без няшчасця не абышлося. Надалі чэрці Якушу звязацца з муляроваю дачкою, Марынаю. Здаровая дзеўка была, грудастая такая. Шчокі — як макаў цвет гарадь. Пройдзе, бывала, па вуліцы — аж зямля, здавалася, стогне. Работніца, праўда, залатая, але ж распусніца несусветная. На начлезе, бывала, толькі з хлопцамі і круціцца. Чорт ведае чым яна Якуша прывязала, а ён жыць без яе не можа. Надумаў жаніцца. Бацькі і так і гэтак — сынок, пашкадуй сябе, не бяры на сябе ганьбы такое, — куды там, і слухаць не хоча: жанюся! Што ж, дубінаю не ўломіш: лезь у шыбеніцу.

Пачалі пакрысе рыхтавацца да вяселля. Як бы там ні было, а парадак справіць трэба. Але раптам — прапаў Якуш, як камень у воду праваліўся. Дзень чакалі, другі — няма чалавека. Аблазілі ўсюды — мо ў студню праваліўся ці павесіўся — не знайшлі. Ну, што ж, парашылі: значыць, ад Марыны збег. Хто хваліць за гэта пачаў, а хто — ганіць.

Але тут пачалі наўкруга прападаць коні ў людзей. То з начлегу не вернецца, то з хлява згіне — што за пракуда? Пачалі на Якуша грашыць: няйначай нячыстаю справаю займацца пачаў. Клянуць яго, а баяцца як агню. Вельмі ж адчайны быў чалавек. А аднае ночы суседняе сяло ўсё прахам пайшло, ні

аднаго гуменца не асталося. Тады ўжо вобчаствам парашылі ў воласць ісці прасіць заступіцца.

Пасля гэтага ўсё пацішэла, а аднойчы і сам Якуш заявіўся. Адзеты, прыбраны. Паясы дарагія па ім, кашуля з манішкаю, боты — зіхацяць, а порткі дык, мусіць, проста з князя якога. Ну, вядома, першым дзелам гарэлка ракой палілася. Усё сяло гуляй — у Якуша грошай хопіць!

Ліпнуць дзяўчаты да Якуша, але толькі адна для яго царыца: Марына.

Ажаніўся-такі. Жывуць пры бацьках Базыль з Якушом — усё нібы ладна. Хто яго ведае, можа, вінавата была ў тым і Марына, але такую думу надумаў Якуш, каб уся гаспадарка — і сенажаць тая — яму аднаму асталася.

4

— Скасілі яны сенажаць сваю: добры луг там быў, трава расла, як чарот. Месца ўдалае, роўнае, разложыстае. А тут і лясок недалёка.

Нешта раз Базыль з Якушом і паехалі гэта туды па сена. Панакладалі вазы — ладныя, шырокія, — і пакуль паўціскалі ды абхарошвалі, і ноч надышла. А дарога далёкая — вёрст з дзесяць, мусіць, будзе. Якуш і кажа Базылю:

— А што, калі б нам заначаваць тут?

— Чаго гэта?

— А навошта мучыцца ноччу? Думаеш, добра качацца па гэтых ямах?

— Знайшоў чаго баяцца. Дзе аб'едзеш, дзе плячом падапрэш. Што гэта — упершыню? А заўтра вунь трэба ў Дзятлішча па бярвенне ехаць.

— Паспееш з сваім бярвеннем, нікуды яно не дзенецца.

— Як хочаш, — нібы пагадзіўся Базыль. — Толькі ж бацька казаў...

— Ат, што там — бацька! Сам бачыш — ноч!

Так і не паехалі. Папрыпіналі коні, разлажылі агонь, перакусілі, чаго было, дый пачалі на начлег майстравацца. Януш доўга ляжаў, гледзячы ў неба, курыў ды сплёўваў. Месяц паказаўся над ляском. Якуш падняўся, пастаяў, як бы прыслухоўваючыся да нечага, дый кажа:

— Базыль?

— Га.

— Ты спіш?

— Не. А што?

— То спі сабе, а я прабягу ў лясок ды вязкоў пару высеку. Балазе і месяц не надта яшчэ свеціць.

— Ну ідзі.

Палазіў Якуш каля воза, выцягнуў рыдлёўку, узяў сякеру дый падаўся.

У лесе пакружыў крыху, выбраў мясціну, згроб зверху лісце і пачаў капаць яму. Пакапае, пакапае дый азірнецца, прыслухаецца. Даволі доўга важдаўся там.

Спаў Базыль, калі вярнуўся Якуш. Коні, сышоўшыся, зрэдку маталі хвастамі ды церліся галовамі адзін аб аднаго.

Якуш нагнуўся над Базылём. На месяцы ясна было відно, як у паблытаныя валасы на галаве яго паўлазілі каліўцы сена. Якуш выпрастаўся, падняў сякеру і з усяго маху спусціў яе. Базыль не сцепануўся нават.

Абцёр Якуш сякеру сенам, папіхнуў нагою Базыля, каб пераканацца, што той нежывы, узваліў на плечы і павалок. А месяц добра свяціць пачаў. Заваліў Якуш яму, зараўняў, нагроб наверх сухога лісця, згладзіў яго і, выцершы з ілба пот рукавом, цяпер ужо крадком падаўся да вазоў. Перш ішоў, адале пабег. Ці то ад страху, ці папраўдзе гэта, але яму здавалася, што краўся і перабягаў з ім нейкі цень.

А гэта быў палясоўшчык. От жа бывае так: як ні хавайся, а ўсё роўна нехта змеціць цябе.

А Якуш пазаціраў сляды, абхарашыўся сам і глыбей закапаўся ў сена. Мабыць, самаму страшнаму злодзею не лёгка забіць чалавека: так і не заснуў ён. Што ён бачыў перад сабою, што думаў — хто гэта скажа? Толькі на золак пачало брацца, а ён ужо быў у дарозе.

Ці то каб смеласці больш прыдаць сабе, ці каб людзям не падаць знаку, але нават песню заспяваў, нягоднік. Едзе, заліваецца — аж лес звініць. Яму ўжо гэта не грэх, дзе там! Ой, да чаго звер чалавек бывае... Аж вёрст за чатыры яго ўжо чакаюць стражнікі.

— Куды едзеш, чалавеча? — пытаюць.

— Сена вязу дадому — бачыце ж.

— А адкуль сена?

— З Забалацця. Там жа сенажаці нашы.

— Адзін ездзіў?

— Адзін.

— А можа, з братам?

— То брат жа пайшоў недзе.

— І ты не ведаеш куды?

— А што я — пастух яму? Яшчэ звечара пайшоў недзе. Можа, ужо дома.

— Дома? А можа, у лесе?

Пачуў Якуш, што будзе бяда. Стрыжэ вачыма: як бы ўцячы.

— Злазь з воза!

А ён другое дзяўбе:

— Не ведаю, дзе ён.

— А мы ведаем — хадзем!

Адкапалі тую свежую яму. Ну, што ж: стаіць Якуш, усмешку крывую састроіў, як бы гаворачы: скора ж вы мяне ўпэйкалі, нягоднікі.

...Так і прапалі абодва браты праз зайздрасць чалавечую. Толькі ад Макара пасынкі пайшлі. Але ўжо ўсіх пасля пачалі называць Зарубчыкамі. От, дзеткі, таму і мяне Зарубчыкам завуць... Не пан даў мне такое прозвішча, а людзі...

5

Цёмная, глыбокая цішыня стаіць на ўвесь свет. Агонь наш даўно патух, ледзь высвечваючы апошнімі вугалькамі белую дзедаву бараду. І дзед мне здаецца маленькі і вельмі скурчаны і далёкі, і мне не верыцца, што я толькі што чуў яго голас. Можа, гэта нехта другі гаварыў з цемры, а дзед толькі слухаў яго, а цяпер глядзіць у вуголле і яшчэ ўсё чуе той голас. Яшчэ раз я сабраў і падкінуў на вогнішча сухога ламачча, і аганёк перш зусім захліпнуўся, а пасля заскакаў, хапаючыся за тонкія пруцікі сушняку.

— Што ж Якуша — засудзілі?

— Як кажаце?

— Што ж з Якушом пасля зрабілі?

— З Якушом? — перапытаў дзед. — Пакаралі.

Наўрад ці трэба было распытваць далей. Усё было скончана, ад далёкай мінуўшчыны астаўся стары сведка яе — Зарубчык: я думаў цяпер пра яго. Як цяжка, мабыць, яму несці на сабе памяць чалавечых учынкаў.

— Прывялі Якуша ў места, — між тым гаварыў далей дзед, — чыніць над ім суд. Пасярэдзіне места стаяў высокі памост: на ім і караў кат злачынцаў. А кара, дзеткі, была такая: браў кат вялікі гарапнік, аж на сем сталак, кожная з драцяным

канцом, і пачынаў біць. І за кожным разам, свіснуўшы бізуном, прыказваў: «Гэта за тое, што не слухаўся бацькі», «Гэта за тое, што не паважаў цара і Бога», «Гэта за тое, што засек свайго брата».

І от у нядзелю ў места паназганялі людзей з усяе воласці, каб глядзелі яны, што чакае чалавека, які пераступіў меру чалавечага, падняў руку на кроўнага. Божкаюць людзі ды ўздыхаюць. На памост падняўся кат, свіснуў гарапнікам, усе прымоўклі. Мажны такі, у чырвонай сарочцы, пахаджае ён з закасанымі рукавамі. А тады моцна стаў, растапырыўшыся, бо пачалі ўзводзіць на памост Якуша. Людзі загулі: хто крычыць, хто плача. Якуша прывязалі к слупу, з голаю спінаю на людзі...

Так і біў кат яго па гэтай спіне, пакуль не дайшоў ён. Усе разышліся ўжо, а Марына яшчэ валялася на бруку ды стагнала: ужо і галасіць не магла...

Коні бразнулі цуглямі, мабыць, абганяючыся ад камароў.

— Усякі грэх караецца, дзеткі, от як, — скончыў дзед сваю страшную быліцу. — А нас з таго часу і пачалі называць Зарубчыкамі.

Дзед пачаў ладкавацца спаць. Агонь наш даўно патух, цяпер у небе відны сталі зоры, і мы адразу адчулі, што намнога пахаладала ноч...

## ТАІСА

### 1

Так я і не ведаю, кім ты даводзілася пану: наймічкаю ці сваячкаю, пакаёўкаю ці ахмістрыняю, ведаю толькі адно — у цябе было многа свавольства, якое вылучала цябе ад усіх. Мяне не дзівіла нічога: ні тое, што ты любіла песні, ні тое, што магла гарцаваць на жарабцы, як сапраўдны казак, ні тое, што паўнюткую ноч магла кружыцца на ігрышчы і жартаваць з парабкамі. Дзівіла толькі тое, што ў нас з табой пачалося каханне.

Дай прыгадаць, як сталася гэта.

Мы касілі шырокі панскі луг за ракою. Неяк пад вечар выйшла ты з лесу, у белай сукенцы, і сказала:

— Добры вечар, харошыя хлопцы!

— Добры вечар нехарошай дзяўчыне, — сказаў я за ўсіх.

— Чаму ж нехарошай? — папыталася ты, і ўсмешка, з якой падышла ты да нас, паволі знікла. Я памятаю, што ў руцэ ў цябе

была адна толькі дзіўна прыгожая кветка на тонкім доўгім сцябле. Ты махала гэтаю кветкаю, як стусінкаю, і за кожным узмахам у паветры аставаўся след пялёсткавай чырвані, нібы ты развейвала безліч танюткіх істужак. Папытаўшыся: «Чаму ж нехарошая?», ты перастала кружыць гэтаю кветкаю і, можа, знячэўку пераламала тонкае яе сцябло.

І ў той вечар, мабыць, упершыню, мы асталіся з табою ўдваіх. Ужо даўно пайшлі дахаты касцы. Даўно апусцілася ноч, высыпаўшы на небе поўныя зоры, а нам добра было з табою стаяць каля той высокай кладкі, перакінутай цераз ручаіну за садам, па якой ты нават удзень баялася хадзіць.

— Памятай, што ты сёння пакрыўдзіў мяне, — гаварыла ты, так блізка стоячы каля мяне, што я чуў, як пахнуў твой волас.

— Я не пакрыўдзіў цябе, — казаў я, — бо сказаў праўду. Хіба мог я іначай сказаць, калі да гэтага часу ненавідзеў цябе?

— Чаму ж так, Пятрусь?

— Можа, таму, што вельмі даўно кахаю.

— Навошта ж маўчаць было?

— Я і цяпер не рад, што пра гэта сказаў. Бо мы розныя людзі. Хіба ты калі-небудзь як след зразумееш мяне? Я ў гэта не веру. Ты навучылася жыць лёгка. Ты ўмееш кружыцца, сваволіць, не ведаць ніякіх турбот — як птушка. Мне можна кахаць цябе толькі здалёк. Ты ніколі не падзеліш са мною свайго лёсу.

— Ты вельмі не ведаеш мяне, — сказала ты ўзрушана. А пасля памаўчала і дадала: — І сама сябе я не ведаю. Я толькі ведаю, што мне добра з табою. Толькі чаму мы так доўга маўчалі адзін ад аднаго?

— Можа, гэта было лепш для нас.

— Ты ўсё не верыш, што нам будзе добра? Хочаш, скажу нешта?

— Гавары.

— Думаеш, чаму я заўсёды і кружыла, і сваволіла, і ўсюды старалася, каб чулі і бачылі мяне? Усё я рабіла дзеля цябе. Мне трэба было, каб ты ўсюды чуў і бачыў мяне.

Ці ведаеш ты, як было добра мне тады? Як многа было тады шчасця? Ноч берагла цішыню, можа, каб паўней мы маглі адчуваць яго. Мабыць, тады спаў ужо ўвесь свет, — я нікога не бачыў, нічога не ведаў, апроч цябе. Мне пахлі тады адны твае валасы. Я чуў тады цяпло адных тваіх губ. І ўсё ж такі мне было цяжка: як і раней, мне здавалася, што я павінен ненавідзець цябе.

Мы не маглі б тады перайсці цераз кладку: было цёмна, хоць ясна свяціліся зоры. Я ўзяў цябе на рукі — аж да гэтага часу я памятаю, як прыхінулася ты, абвіўшы маю шыю, — і я панёс цябе па вадзе. Больш ніколі так блізка я не чуў цябе. Мне хацелася, каб была не маленькая ручаінка, а каб цякла шырокая рэчка і каб я нёс цябе, не выпускаючы з рук.

— Як добра мне з табою, — сказала ты. — Мы больш ніколі, ніколі не будзем сварыцца. І ты больш ніколі не крыўдзь мяне.

І тады я папытаўся:

— А ты заўсёды будзеш са мною? Што б ні здарылася — ты ніколі не пакінеш мяне?

— Ніколі! — адказала ты.

Ці памятаеш ты гэтае слова?

2

Дай я крышку напомню. Да пана прыехаў яго далёкі сваяк: малады чалавек у форме паручніка польскай арміі, Гжэцкі. Ён прыехаў у добрым мундзіры, перапаясаным накрыж рамянямі, з бліскучаю аздобаю на казырку канфедэраткі, у брыджах і ў блішчастых са шпорамі ботах. За ім цягалася па доле крывая тонкая шабля з парчовымі кутасамі на тронку. Малады пан паручнік пахнуў духамі, меў тонкі далікатны твар, умеў прыемна гаварыць і ўсміхацца, робячы павароты на зграбных нагах, і міла прасіць прабачэння, прыстаўляючы два пальцы рукі да бліскучага казырка канфедэраткі. Ён ездзіў на падгалістай гнядой кабыліцы, замест гарапніка навесіўшы на руку стэк, абвіты палоскамі чырвонай лакіраванай скуры. Калі малады пан паручнік камандаваў салдатамі, то гэты стэк падымаў пад галавою, што азначала: «Увага».

Малады пан паручнік засцерагаў акупацыйныя парадкі свае дзяржавы і спакой старога пана, бо вельмі ж развучыліся паважаць дабрачыннасць няўдзячныя мужыкі. Сям-там яны пачалі нават пускаць чырвонага пеўня ў маёнтках. І вельмі дарэчы прыйшлося, што пан Гжэцкі быў не толькі сваяком, а яшчэ і паручнікам: лёгка спраўляючы абавязкі шаноўнага госця, ён выконваў і цяжкія абавязкі службы, што называлася карнай. Але маладому пану было сумна без паненак, і ты вельмі хутка кінулася яму на вочы.

Мне цяпер рэдка прыходзілася сустракацца з табою, бо ў мяне была таксама свая работа. Я цяпер жыў больш па лясах, хоць пра гэта ты і не дагадвалася. Калі ты пыталася ў мяне, чаму я так часта надоўга прападаю, то я прыдумваў што-небудзь

больш верагоднае: хадзіў да сваякоў ці ездзіў у горад. У гэтым таксама была доля праўды: я такі часта бываў і ў горадзе, і ў «сваякоў», бо так было трэба для мае работы. Ці варта было ведаць табе пра гэта? Я часта думаў над тым і чакаў, калі настане час, што можна будзе раскрыць табе ўсю маю душу. У той рабоце маёй не хапала цябе. Мне цяжка было ведаць, што не да канца я магу перад табою адкрыцца.

З тае ночы, як упершыню мы асталіся з табою ўдваіх, я палюбіў тую гарбатую кладку, высока перакінутую цераз ручаіну, за якой пачыналіся кусты арэшніку. Колькі там было самых непрыкметных сцежак, вядомых толькі нам з табою!

На гэты раз мне здалося, што ты вельмі доўга не ішла. Ужо месяц падняўся над лесам і, пераходзячы з хмаркі ў хмарку, разліваў сваё бледнае, ціхае святло. У вадзе паволі пагойдваўся маўклівы цень кладкі і адсвечвалася цёмная бясконцасць неба. Нарэшце паявілася ты, і я не мог дачакацца — так доўга ішла ты ў тым маўклівым месячным святле. На кладцы ты спынілася, паглядзела ўніз і сказала:

— Як страшна, калі падумаеш, што можаш упасці і будзеш ляцець і ляцець без канца, бо не відаць жа ніякага дна. Можа, так і ў жыцці, Пятрусь? Кінешся, не ведаючы, што зусім блізка дно, і можаш разбіцца.

— Навошта ж кідацца?

— А я ўжо кінулася, Пятрусь. Хіба ты не чуеш гэтага? І так мне добра ляцець у бездань, што, можа, нават і разаб'юся. Ты беражы мяне.

Колькі аставалася яшчэ не выхаджаных намі сцежак? Колькі кустоў чакала, каб ад усяго свету ўкрыць наша шчасце! А можа, — ці трэба было ўкрываць яго?

Не, у гэты вечар ты была вельмі трывожная.

— Пятрусь, мне цяжка робіцца, калі я цяпер вельмі падоўгу не бачу цябе. Можа, я стала табе не патрэбна? Ты трошкі чужы стаў, Пятрусь. Апроч мяне ў цябе на душы ёсць яшчэ нешта другое.

Гэта была бадай што праўда. Я сам адчуваў, што не ўсе свае думы дзяліў з табою, насіў іх толькі ў сабе. Думаеш, гэта мне было лёгка? Я ж хацеў, каб ты ішла са мною поруч, а ты, часамі, стаяла ў асобку. Ты была вельмі патрэбна мне як сябар, як памочнік, як аднамыснік. І таму, што гэта было вельмі важна, я зноў гаварыў сабе: а ці да канца я магу верыць табе?

— Ці помніш, Таіса, — папытаўся я, — як ты сказала, што ніколі не пакінеш мяне, што б са мною ні сталася? Што ты заўсёды будзеш са мною?

— Помню, — сказала ты.

— Дык ты павінна ўсё прабачыць мне. Слухай жа...

Я расказаў табе вельмі не многа з таго, што займала мае думы. Самыя звычайныя рэчы: што ёсць раскоша і беднасць, сіла і бяспраўнасць і што ў той спрадвечнай барацьбе класаў ёсць адна найвышэйшая мара: здабыць шчасце для абяздоленага чалавека. Адабраць яго ў тых, хто карыстаецца ім, не маючы на яго права. І што ўдзельнічаць у такой барацьбе — гэта самы святы абавязак кожнага добрасумленнага чалавека.

— Дык гэта ж будзе кроў, Пятрусь. Гэта ж будзе многа, многа крыві, — сказала ты з жахам.

— А хіба ж дагэтуль не лілася яна? Шчасце багатых заўсёды здабывалася крывёю бедных.

— Як страшна.

— Хіба ж наша з табою шчасце можа быць, калі кругом будуць несправядлівасці і пакуты?

— Страшна, Пятрусь... Я цяпер буду больш баяцца за цябе. Ты цяпер ніколі не пакідай мяне надоўга, — сказала ты і задумалася.

Ты не захацела стаць поруч, ці, можа, не так я тады зразумеў цябе? Можа, занадта асцярожна я гаварыў з табою? Ці занадта нячула прыслухаўся да цябе?

Месяц перабягаў з хмаркі ў хмарку, спяшаючыся абысці ўсю кароткую летнюю ноч. Пушыстыя валасы твае серабрыліся яго халодным святлом. Ты доўга сядзела задумаўшыся, і па прыжмураных вачах я бачыў, што ты глядзела ў самую сябе.

— Пятрусь, — сказала ты, недзе яшчэ ходзячы ў сваіх думах.

— Што, Таіса?

— Я хачу табе нешта сказаць.

— Я слухаю цябе, Таіса.

— То ты вельмі слухай.

— Гавары, Таіса.

— І не сварыся на мяне.

— Хіба ж ты ў чым вінавата?

— Да мяне пачаў чапляцца паручнік гэты... Гжэцкі.

— Ну? — папытаўся я трывожна.

— Каб ты ведаў, які ён нахабны... агідны...

Сэрца маё сціснулася. Толькі адно ўяўленне, што гэты вылашчаны нягоднік мог апаганіць цябе адным сваім поглядам... толькі ад аднаго ўяўлення мне захаладала ў грудзях. Я ўзяў тваю галаву ў свае рукі так, каб глядзець проста ў вочы, і сказаў:

— Ён не павінен нават дакрануцца да цябе, Таіса.

— Абнімі мяне мацней, Пятрусь, — сказала ты і ўся прыціснулася да мяне. — Мне страшна... Я буду толькі цябе, толькі цябе аднаго буду кахаць...

3

Давай успомню яшчэ.

Памятаеш? У садзе стаяла альтанка — круглая, з балясамі — у самым канцы бакавой дарожкі. Яна стаяла ў самай гушчыні бэзу і шырокіх старых ліп, і там заўсёды было многа глыбокага ценю. Часамі на якую хвілінку асцярожна я забягаў туды, каб пабачыць цябе, калі ты не магла прыйсці на нашу высока перакінутую кладку. Я доўга не бачыў цябе і, як толькі пачало вечарэць, заспяшаўся да тае альтанкі. Мне добра вядомы былі ўсе патаемныя сцежкі да яе, бо гэта былі нашы з табою сцежкі.

Я не дайшоў да альтанкі: там пачуўся твой голас.

«Мабыць, яна чакае мяне, — падумаў я, — але ёй нехта перашкаджае. Мне прыйдзецца трошкі забавіцца».

— Таіса, — пачуў я другі голас.

— Што, пане Гжэцкі?

Ты, мабыць, нечым была занята ці, можа, здавалася няўважлівай, бо голас зноў паўтарыў тваё імя:

— Панна Таіса.

— Я ўжо чула. А што?

— Чаму вы такая прыгожая?

— Каму гэта шкодзіць?

— Мне.

— Чым жа?

— Бо я люблю ўсё прыгожае.

«Навошта яна гаворыць з ім? Няхай бы хутчэй сказала штонебудзь рэзкае, каб ён ведаў, што не мае права нават блізка стаяць каля яе», — падумаў я.

— Панна Таіса не чуе, што я кахаю яе?

— Не надта прыемна.

— Каму?

— Вам.

— Толькі? А можа, і яшчэ каму?

— Быць можа.

— Разумею. Але ж гэта не варта жаднай увагі.

— Чаму ж так?

— Не думаю, каб панна Таіса сур’ёзна думала пра нейкага... хама.

Ты нічога не адказала. Мне было крыўдна за цябе, ты не чула, як калацілася маё сэрца. «Чаму ты не можаш быць гордай?» — хацелася крыкнуць табе. Я яшчэ спадзяваўся, што не страціў цябе, што ты яшчэ недзе са мною.

— Прашу прабачэння, — сказаў Гжэцкі, і мне ўявілася, што ён узяў двума пальцамі пад казырок. — Цяпер я буду верыць і таму, што гавораць людзі. Значыць, папраўдзе панна Таіса кахала...

— Глупства, — сказала ты вельмі лёгка. — Не ўсякія жарты можна называць каханнем.

Да гэтага часу я не магу дараваць сабе таго, што зрабіў тады. Мне трэба было адразу выкінуць цябе з сэрца свайго, як атруту, і знікнуць, нават не даўшы паглядзець на сябе. Я ж выйшаў на чыстую дарожку проста перад вашай альтанкай і сказаў, можа, занадта спакойна:

— Дзякую, панна Таіса.

Вы абое ўсхапіліся, і ў вачах тваіх я ўбачыў жах. Мабыць, па шляхетнай прывычцы рука пана Гжэцкага рванулася да пояса, дзе звычайна носяць далікатную зброю, але ты ўспела крыкнуць: «Не трэба!»

— Прэч, бальшавіцкая поскудзь! — грэбліва сказаў пан Гжэцкі і ўзяў цябе пад руку.

Вы пайшлі па дарожцы ў пакоі. Крывая тонкая паручнікава шабля валачылася па зямлі. Можа, табе было брыдка ці страшна — ты ні разу не азірнулася, толькі плечы твае, як у вялікі холад, былі высока падняты і сціснуты.

Я праклінаў цябе, Таіса, і праклінаў наша каханне. Ты не ведаеш, што тварылася ў маім сэрцы.

4

Я мог застрэліць цябе, мог забіць пана Гжэцкага, мне было вельмі зручна зрабіць гэта, але — я не дазволіў сабе.

Была нядзеля. Стаяла восень, толькі пачыналі жаўцець і ападаць лісты. У такую пору нягорача свеціць сонца і далёка відаць спакойная сінь далёкіх нябёс. Добра марыць у такія часіны! Я бясконца хадзіў са стрэльбаю, і на ўсіх сцежках нябачна была са мною ты. Я то развітваўся з табою, то зваў вярнуцца. Колькі ў сэрцы маім у той дзень было пяшчоты і гора! Я ўсё кахаў цябе, Таіса, і мне цяжка было адчуваць, што назаўсёды страціў цябе. Але ў гэта не хацелася верыць. І тады

мне здавалася, што ты ходзіш разам са мною і шэпчаш: «Божа мой, Пятрусь, як доўга мы не бачыліся з табою. Ты прабач мне за ўсё, я ніколі не забывалася пра цябе, а тое, што было, — гэта толькі табе здалося».

Тады перада мною ўставалі, як у вялікі холад, высока паднятыя і сціснутыя плечы, але ты пераймала мае ўспаміны і казала тое, чаго чакала маё ўяўленне: «Ты ж мне не гаворыш, што робіш недзе там без мяне. А хіба ж я не магу зрабіць без цябе таксама нечага добрага? Можа, я выпытвала гэтага Гжэцкага. Не верыш? Хочаш, я заб'ю яго? А калі трэба для твае справы, то Гжэцкі будзе заўтра ў цябе. Можа, я дзеля цябе ўсё гэта рабіла».

Я цалаваў цябе ў губы, цалаваў твае вочы, лоб, валасы: нарэшце ты стала мне самай дарагой і патрэбнай.

І вось у гэты час па дарожцы, што вывівалася паміж высокіх хвой, па дарожцы, усыпанай шышкамі і пераплеценай крутымі карэннямі, на дзвюх кабыліцах прагарцавалі вы з панам Гжэцкім. У вас за плячыма былі стрэльбы, вы рабілі невялічкую пагулянку, далікатна называючы яе паляваннем. Чароўная здань расплылася, мары спалохана зніклі, асталася горкая ява праўды. Я ўскінуў стрэльбу. Я мог паставіць кропку адразу на ўсіх пачуццях — нянавісці, крыўды, болю, — але ўстрымаўся.

«Гэта занадта многа ёй, занадта многа», — сказаў я сам сабе і апусціў стрэльбу.

Можа, і дрэнна, што так я зрабіў тады, але не раскайваюся: няхай ты сама цяпер паглядзіш на сябе, на тыя далёкія нашы дарогі і, можа, жахнешся ад болю сумлення. І калі асталося ў цябе тое сумленне, то ты, можа, паплачаш добрымі слязьмі дакору і роспачы...

5

Чакай, я прыпомніў не ўсё.

Мы вельмі доўга не бачыліся з табою. Я нават пачынаў забываць пра цябе. Ты памятаеш, як вечарамі пачалі далятаць да нас далёкія стрэлы гармат? Гэта гарэў усход полымем найвялікшай чалавечай праўды. Пан Гжэцкі вельмі адчуваў гэта: мы пачалі змагацца з ім ужо настойліва і адкрыта. Мы выступалі супроць яго цяпер як вялікая народная сіла. Пану Гжэцкаму прыходзілася займацца не лёгкімі справамі аховы парадку, а сапраўднай вайной.

Нам трошкі не пашанцавала. Мы не ведалі, што пан Гжэцкі атрымаў свежае падмацаванне, і напалі на яго ў той час, калі

ён абучаў новых жаўнераў, як трэба наводзіць парадак. Памятаеш цётку Палуту, што жыла ў Замосці на самым канцы сяла? Яна валялася ў нагах пана Гжэцкага, просячы, каб жаўнеры не забіралі апошняга парсючка. Смешна? Ці жахліва? Цётка Палута поўзала каля ног і прасіла літасці, бо ў яе была поўная хата дзяцей. Калі застрэлілі парсючка, цётка Палута крыкнула:

— Драпежнікі! Крывапіўцы!

Тады жаўнер стрэліў цётцы Палуце ў спіну. Яна не паднялася больш з калень, а пан Гжэцкі сказаў: «Добра!» — і пацёр рука аб руку ў пальчатках, як бы сціраючы з іх бруд.

Мы трошкі спазніліся, каб не даць загінуць цётцы Палуце. Схватка была вельмі жорсткая, і расплата дарагая. Мне тады не пашанцавала: я папаўся ў палон. Не, я не здаўся б, каб не тыя недарэчныя раны. Ты ж іх памятаеш...

6

Мяне прывялі ў пастарунак. Допыт рабіў сам пан Гжэцкі. Ён быў далікатны: нават цяпер не скінуў сваіх тонкіх пальчатак.

— Якое неверагоднае спалучэнне, — сказаў пан Гжэцкі, выгінаючы ў руках стэк, як стусінку: — палюбоўнік і паўстанец. Але мы не будзем гаварыць на лірычныя тэмы. А лес вас цяпер не схавае. Я не ўмею быць далікатным у справах гонару — гэта вам няхай будзе вядома адразу...

Што яму трэба было? Каб я назваў яму сябе? Ён мяне ведаў і так. Каб сказаў, хто мае сябры і хто аднамыснікі? Хто мой начальнік і як яго залучыць? Колькі нас, дзе нашы сілы і якія нашы планы? Наўрад ці гэта трэба было яму. Бо ён добра ведаў, што мы — гэта цэлы народ і нас нават цяжка пералічыць. Яму трэба было, каб я скарыўся. Каб я валяўся каля яго ног і прасіў літасці. Гэта было б яму перамогай.

Дарэмна стараўся пан паручнік, прызваўшы на дапамогу нават жаўнераў, калі ўжо не памагаў да самай пальчаткі акрываўлены стэк. Я плюнуў у твар гэтаму напышліваму вылюдку, сказаўшы адзінае слова «нягоднік!».

Ён не пачуў майго стогну, калі паласавалі і калечылі цела, бо нават стогн быў бы яму перамогай.

Чаго ты прыйшла тады? Ці, можа, гэта мне толькі здалося ў непрытомнасці? Ні жаўнерам, ні пану Гжэцкаму я быў больш не патрэбен: я валяўся ў сваёй крыві, прагна шукаючы запечанымі губамі хоць кроплі вады. Можа, ты прыйшла паглядзець па гэтую кроў? Ці, можа, прыйшла пашкадаваць, ці

сказаць, што кахаеш? Ты ж некалі лічыла ўдары майго сэрца і казала, што б'ецца яно дзеля цябе. Не, мне не прытрызнілася: я чуў, як за дзвярыма твой голас настойліва паўтараў слова «пусціце!».

— Нельга, — сказаў голас пана Гжэцкага, — такія рэчы не для паненак.

— Нашто вы забілі яго! — крычала ты. — Пусціце! Я павінна бачыць сама!

Я чуў, як ты плакала.

Можа, гэта быў сон. Я не чуў цяпер ні болю, ні крыўды. Была млявая стома. Я хацеў адпачыць. Як добра, што да чалавека прыходзяць харошыя, спакойныя сны...

7

...Шырокая, залітая сонцам палянка. Восень; сцелецца і слаба паблісквае павуцінне, чапляючыся за тонкія, аголеныя сцяблiны высокіх траў. Далёка разлягаецца неўміручы блакіт нябёс. Недзе на краі зямлі стаіць лес, я ўгадваю яго толькі па цёмным крайку гарызонту. Але раптам ён наўкруга абступіў мяне; я чую, як шумяць яго хвоі, як падаюць шышкі, і ногі нячутна ступаюць па мяккай слізгоце ігліцы. Вельмі слізка: я ўжо не іду, а плыву. Ну вядома, як я мог не заўважыць: гэта ж вялікая рэчка! Лес адшумеў, расступіўся: перада мною бясконцы ясны прастор. Рэчка падымаецца над берагамі, я высока стаю над вадою і плыву, і плыву, толькі недзе ўнізе мінаюцца кусты чырвоных ракіт. Наперадзе кладка, яна не дастае канцамі да берагоў; ты стаіш на ёй і не можаш перайсці. Я бяру цябе на рукі. «Дзе ж ты быў? Я так доўга чакала цябе, — кажаш ты, абнімаючы мяне. — Я ўсюды шукала цябе. Табе было цяжка? Я б магла памагчы табе...»

Шчакі кранаюцца твае валасы, рукі гладзяць плечы, абмацваюць галаў.

— Пятрусь... Петрусёк... Ты можаш сказаць мне хоць слова? Прачніся...

Я прачнуўся ад болю. Гэта была ты, Таіса. У цемнаце я знайшоў тваю руку, пазнаў твой голас, пазнаў цябе ўсю. Ты перавязвала раны, змывала запечаную кроў, выцірала сваёю тонкаю хустачкаю.

— Чаго ты прыйшла сюды? — папытаўся я ў цемру.

— Я не пайду адсюль. Я цябе не пакіну. Родны, дарагі мой, устань. Падыміся, хадзем... — шаптала ты над маімі губамі.

— Чаго ты хочаш?

— Хадзем! Я пайду з табою, я памагу табе... Трэба вельмі спяшацца. Я не пакіну цябе, Пятрусь...

— Ідзі! — мог я толькі сказаць табе.

— Пятрусь, дарагі, я прыйшла па цябе... Няхай ты больш не будзеш кахаць мяне, але ты павінен жыць. Хутчэй... Хутчэй, Петрусёк...

Ты плакала. Твае слёзы мачылі мой твар і пякліся, як іскры.

— Я кахаю цябе, Пятрусь, дарагі мой. Хіба ты не бачыш, што даражэй за цябе больш нікога няма, што мне больш ніхто не патрэбен...

Гэта быў самы вялікі боль, самы страшны. Я адштурхнуў цябе...

8

Цябе не было, калі я прачнуўся. Была густая, цягучая, чорная ноч. Ліпкая, як мае губы, запечаныя ў смазе.

На падлозе, у крыві, рука абмацала маленькі, пакінуты табою як апошні паратунак мне браўнінг...

## ШЧАСЛІВАЯ ЛІТАРА

1

На біржы далі пісульку. На заводзе з пісулькаю паслалі ў цэх, сказаўшы, да каго звярнуцца. У канторцы Каця застала нейкіх людзей. Людзі талкавалі, спрачаліся, пальцамі паказваючы ў спісаны аркуш паперы. Каця запомніла, што гаварылі пра чыгун і пра лічбы. І яшчэ запомніла: непадатліва спрачаўся невялікі, з шырокім тварам чалавек, гаворачы цяжка, як не ўмеючы, і то насоўваючы, то назад адкідаючы шапку. Пасля яна дазналася, што гэта быў начальнік цэха.

Калі выйшлі мужчыны, Агурскі заўважыў яе.

— А ты ж чаго хочаш, дачушка?

Каця паказала пісульку.

Прачытаўшы, Агурскі зірнуў на Кацю, і ад таго, што рыўком адкінуў назад шапку, Каці запомнілася белая незагарэлая палоса лба.

— Ну і малайчына... Нідзе не працавала да гэтага? — запытаўся Агурскі, гаворачы па-свойску, так, як бы ён даўно ведаў Кацю.

— У калгасе.

— Не на вытворчасці?

— Я працавала ў пральні... бялізну мыла, — паправілася Каця. І, не ведаючы, ці так адказала, зашчыпала пальцамі стол.

— А так, на заводзе, — не?

— Не.

— Ну, нічога, навучышся. Хадзем жа, я цябе і завяду, — і ён зноў неяк па-свойску ўзяў за плячо.

Цэх Каці здаўся страшны. Фармоўка. Ніколі не бачыла. На ўсю залу — чорная пухкая зямля. Па зямлі шныпарацца людзі, поўзаюць, набіваюць ёю нейкія формы. І, можа, ад зямлі — і цэх, і формы, і людзі здаліся чорныя. І над усім — маўклівая глухая работа. Мелькам яна заўважыла, як, нізка прыгнуўшыся над формаю, нейкі чалавек абхарошваў земляную дэталь. Якая вялікая патрэбна асцярога ды ўвага! Яна ніколі не навучыцца такой тонкай рабоце. Можа, адмовіцца ды пайсці дахаты?

— Мы цябе прымацуем да харошага хлопца... Навучыць, нічога, — як бы дагадваючыся пра Каціну думку, гаворыць Агурскі. — Пагарэльскі! — заве ён яшчэ здалёк. — Вось табе памочніца. Навучай, і глядзі, каб не надта нудзілася...

Не падымаючыся ад работы, хлопец зірнуў на яе быстрымі вачыма. З-пад пляскатае кепкі Каця ўбачыла толькі гэтыя вочы ды высока паднятыя светлыя бровы.

— Сядай, — сказаў хлопец, не перастаючы працаваць рукамі. — Глядзі ды пераймай. Ты ў мяне, дзяўчына, адразу прафесарам станеш.

Каця не ведае — жартаваць ёй ці не? Яна нагінаецца і глядзіць, як ходзяць у Пагарэльскага рукі. У чыгуннай раме шчыльна набіта зямля. Пагарэльскі здымае з рамы цяжкую накрыўку, і ў зямлі відно, як ляжаць мадэлі. Каця не ведае, навошта і як гэта робіцца. Адкуль тут пачынаць. Але Пагарэльскі пераймае Каціны сумняванні і тлумачыць:

— Гэта робіцца так... Цяпер трэба асцярожна павымаць мадэлі, і ў зямлі паастаюцца формы. Уся гэта рама з зямлёю — апока. Наверх наложыцца такая самая апока з формамі, але так, каб кожная палавіна формы папала адна ў адну. Збоку вось — вушкі. Налажыўшы, трэба моцна заклінаваць вушкі чокамі — зачыкаваць. Клінаваць трэба асцярожна, каб не здрыганулася зямля...

Чутачку пабіваючы, Пагарэльскі асцярожна дастае мадэль з зямлі. Адну, другую... і ў роўнай раме апокі астаюцца формы. Пасля беражкі ён папраўляе маленькімі жалезнымі лапатачкамі.

— От так вымаючы, бывае, што зямля дзе-небудзь падымецца або распіхнецца. Тады яе трэба паправіць вось гэтаю ланцэткаю ці кручком. А каб зямля была тужэй, дык яна змочваецца памачком, тады яна не так абсыпаецца.

— А навошта парашок? — пытаецца Каця, гледзячы, што ўвесь верх апокі пасыпаны белым мучнаватым пылам.

— Гэта лікаподзі. Парашок такі, праўда. Ад яго будзе тужэць зямля, і калі налажыць верхнюю форму, дык зямля верхняе апокі не прыстане да ніжняе. А яшчэ і тое, што калі будзе залівацца чыгун, дык лікаподзі выгарацьме, выносячы з сабою і чыгунную пару.

Каці здалося, што яна ніколі не асіліць гэтага. Вырабіць з зямлі дэталь такую, каб у яе пасля заліваць чыгун? Гладзіць, абрэзваць, баючыся, каб не скранулася з месца ніводная драбніца? Не, у яе ніколі не зложацца рукі, каб так смела, як воскам, валодаць зямлёю, адрэзваючы і прыкладваючы яе скібкамі.

Але праз пару дзён падыходзіць Агурскі. Ён нагінаецца і глядзіць, як нясмела ходзяць Каціны рукі. Яны баяцца, каб не разбурылася ад неасцярожнага дотыку зямля. І інструменты ніяк не слухаюцца: выпадаюць, чапляюцца за кожны замятак. Яна ніяк не можа добра абрэзаць лішняга крайка, што, як накепства, аціснуўся ў форму. Агурскі памагае і кажа, што вельмі добра. За такі невялікі час і такая складнасць. Дзе ж складнасць, калі яна катора пара, як марудзіць над адною дэталлю? Але ўсё ж падымаецца ахвота. Каця раптам верыць Агурскаму, што, можа, яна і папраўдзе сама сябе занадта баіцца? Агурскі пайшоў, і ў Каці смялей захадзіла ланцэтка. Не, праўда, — яна такі моцна трымаецца, гэта зямля!..

А яшчэ праз дзень Каця спяшалася, ледзь не бегла дахаты: ёй далі самастойную работу, і за дзень яна зрабіла шаснаццаць апокаў! Хацелася хутчэй расказаць дома, што яна ўжо сапраўдная фармоўшчыца. І якою доўгаю зрабілася тады дарога дахаты — ніяк не дабегчы.

2

Браку ў Каці бадай што не было. Хто яго ведае — ці то гэта залежыць ад рук, ці ад стараннасці, ці ад умельства, ці, можа, ад таго, што любіш сваю работу, але Каці здавалася, што працуе

яна зусім звычайна, так, як і ўсе, і ніякае асаблівае здатнасці ў яе няма. Але Мурашова, суседка па рабоце, русавалосая, з быстрымі і вясёлымі вачыма дзяўчына кожны раз не магла ўтрымацца, каб не здзівіцца:

— Ну як у цябе, Каця, так выходзіць?

— Што?

— Ды работа. Я от катора пара на фармоўцы, дый то... А паглядзіш — быдта ў цябе ўсё ідзе вельмі лёгка.

— Ну, не так-то і лёгка, — кажа Каця. — Спіна-то гудзе...

— А паглядзець — і не скажаш.

— Мала што.

Мурашовай вельмі не хочацца адставаць ад Каці, тым больш што лічыцца яна спрактыкаванай фармоўшчыцай.

— Ды яно ж, — кажа яна, — збоку ўсё вельмі лёгка здаецца. А калі сам папалазіш у гэтай зямлі... Ведаеш, што я хачу сказаць табе, Каця?

— А што, Анэля?

— Усё роўна ў нас аднакія дэталі — давай разам і рабіць будзем. І весялей, і зручней, і папытацца, калі што, дык можна адна ў аднае.

— Давай, — згадзілася Каця.

І праўда, стала куды весялей і ямчэй. Нават спарней. Бывала, сядзіш адна над апокай, маўчыш ды сама сабе думаеш, дзень доўга працягнецца, а так, калі ў цябе сяброўка ёсць, то і пагаварыць можна, і час прабяжыць непрыметна. А ў дзяўчат шмат можа знайсціся цікавай гаворкі. Заходзіў Агурскі разоў колькі — адкіне з ілба сваю шапку, прысядзе, паталкуе, паглядзіць на шырокія рады гатовых апокаў і скажа:

— От каб усе ў нас былі такія малайцы.

Сур'ёзна прымаць пахвалы неяк нязручна, і гэта дае магчымасць пажартаваць.

— Толькі брыгадзір нас трохі крыўдзіць, — кажа Мурашова.

— Хто?

— Пагарэльскі.

— Чым жа гэта?

— Цукерак не купляе. І не заляцаецца да нас.

— Ай, нягоднік, — вельмі сур'ёзна кажа Агурскі. — От анціхрыст, куды ж ён іх дзявае? А кожны ж дзень купляе ў ларку.

— Праўда, Каці-то трохі перападае.

— Кінь ты, Анэля, — пачырванеўшы, кажа Каця.

Яна ні на кога не глядзіць, увесь час ходзіць і ходзіць ланцэтка ў яе ў руках, але яна добра бачыць, што ў канцы цэха

паяўляецца Пагарэльскі і проста ідзе да іх. Яна папраўляе касынку, але так, каб больш прыкрыць ёю твар.

— Валодзя! — здалёк крычыць Пагарэльскаму Агурскі. А калі той падыходзіць і сунімаецца, шырока расставіўшы ногі, Агурскі строга гаворыць: — Тут на цябе вельмі сур'ёзная скарга.

— Кіньце, Назар Данілавіч! — перабівае Каця. — Не слухай, Валодзя.

Агурскі падымаецца, махам рукі з патыліцы на лоб збівае шапку і, звонка разрагатаўшыся, выходзіць з цэха. Замест яго каля Каці прысаджваецца Пагарэльскі. І Каця зноў папраўляе касынку, але ўжо так, каб твар быў відней. Яна глядзіць на Валодзю, хітравата ўсміхаючыся, нібы гаворачы: «Ты не злуешся? Не злуйся, гэта ж жарты».

Калі Каця з Мурашовай зноў астаюцца адны, Мурашова гаворыць:

— Далібог, Каця, я не думала, каб пасмяяцца. Можа, у цябе і папраўдзе сур'ёзна?

— От хіба.

— Ну, а чаго ж?

— Ён такі сур'ёзны хлопец, што мне да яго далёка.

Памаўчаўшы, Мурашова кажа:

— А яно і праўда. Са сваімі хлопцамі гуляць нецікава.

— Чаму? — ужо насцярожана пытаецца Каця.

— Ат, усіх іх ужо неяк вельмі добра ведаеш, усе як бы адзін на аднаго падобны. Пойдзеш з такім ці то ў парк, ці то ў кіно, думаеш, весела будзе, а ён табе ўвесь час то пра апокі будзе гаварыць, то пра працэнты. Хіба гэта кавалер?

— То што ж тут дрэннага?

— Ай, гэта і тут надакучае.

— А па мне, дык...

— І слухаць не хачу.

Каця нікому не скардзілася ні на работу, ні на сваё жыццё: ёй здавалася нармальна раніцаю спяшацца на завод, старацца, каб была зроблена работа, пабыць на камсамольскім сходзе, памагчы выпусціць насценгазету, а дома — памагчы мацеры ў хатніх клопатах, пачытаць кніжку ці схадзіць у кіно. Хадзіла яна ў кіно найбольш з мамай, але, вядома, куды цікавей стала, калі пачаў запрашаць Валодзя. Праўда, гэта бывала не часта, а калі Пагарэльскі запрасіў першы раз, то яна нават збянтэжылася. Бо і выйшла зусім нечакана. Хадзіў, хадзіў Пагарэльскі каля апокаў, а тады падсеў да Каці.

— От задача ў мяне, Каця: ніколі такое цяжкае задачы не было.

— А што такое?

— Ты разумееш: выпадкова мне ў кішэню трапілі два білеты ў кіно. На адзін-то я знаю, што сам пайду, а от каму другі... Можа б, ты схадзіла, Каця?

У Каці закалацілася сэрца. Яна добра ведала, што не таму падышоў да яе Валодзя, што няма куды дзяваць білетаў. На гэтай хвіліне Каця зразумела, што ў яе жыцці робіцца нейкі пераварот. Яна сказала так, каб не паказаць гэтых сваіх думак, але і так, каб Валодзя пачуў, што яна цэніць яго прапанову.

— Зрабі, Валодзя, так, як ты сам гэтага хочаш.

Гэта было ў той першы раз. І цяпер Каці было добра і ад гэтай дружбы з Валодзем, і ад сяброўства з Мурашовай. І тое і другое было патрэбна. Праўда, з Валодзем дружба была толькі сваёю, яна не выносілася на людзі. Калі нават было б няёмка прызнацца аб гэтым перад другімі, ды, уласна, і прызнавацца не было ў чым. Можа, гэта вельмі нешта звычайнае, такое, як і ва ўсіх, і ёй толькі самой здаецца, што... От жа ў Мурашовай, мабыць, зусім не так: усё хораша ў яе на людзях, і лёгка, і весела. Можа, толькі там усё сапраўднае? Часамі Каці рабілася нават зайздросна. «Яна, мабыць, вельмі шчаслівая, — думала Каця. — Усё ў яе нейкае святочнае, прыгожае, непакойлівае».

Як бы адчуваючы Кацiны думкі, Мурашова аднойчы сказала:

— Слухай, Каця, табе пара і на людзі паказацца. Давай разам у нядзелю паедзем на Мельнікаў луг. Усё работа ды работа — так і адурнець можна. А там хлопцаў — на выбар. Пакупаемся, на лодцы паездзім. Музыкі там колькі — патанцуем хоць удоволь...

Каці захаладала ў грудзях. Такой нечаканасці яна спужалася. Толькі цяпер яна зразумела, што нінавошта не можа змяняць таго, што ёсць у яе з Валодзем. Тут жа прыгадалася, як прысеў ён тады каля яе з білетам, і гэта было харашэй і даражэй за ўсё.

— Не, Анэля, не трэба. Мне і так вельмі добра, — сказала Каця.

### 3

Каця вельмі любіла тыя часы хвалявання, калі разлівалі расплаўлены метал па формах. Ёй здавалася, што і людзі, якія насцярожана пратыкалі вочка ў вагранцы, праз якое выбівалася

іскрыстае жывое золата, не зусім простыя людзі, а — чараўнікі, і сам метал, што агнянымі змейкамі бег па жалабах і зацякаў і хаваўся ў літніках, — што гэта не метал, а надзіва прыгожая і разумная істота. Метал, здавалася, сам знаходзіў літнік, каб папасці і забегчы ў форму. Як жывы, ён злаваўся да таго часу, пакуль не знаходзіў літніка, патрэскваў, кіпеў, іскрыўся. А ў апоку забягаў ужо рахмана, ласкава і як бы супакойваўся, што нарэшце трапіў на месца. Чуць-чуць па краях апокі паказвалася гарачая пара — гэта метал там, у цёмных сваіх закавулінах, лажыўся на спакой і выдыхаў апошнюю сваю злосць.

Каця хвалявалася галоўным чынам таму, што кожны раз, пакуль не астыне чыгун і не раскрыюць апокаў, невядома было: ці ўсе формы заліліся як мае быць, ці не будзе там браку. І калі пасля перад людскімі вачыма ўжо раскрываліся гатовыя дэталі, яна нават не ведала, чыя гэта ўдача — ці яе, ці ліцейнікаў. Але ўсё роўна было радасна.

Але ў апошні час гэтая радасць зацягнулася змрокам: у Кацінай графе пачаў падымацца брак. Што здарылася? Якая прычына? Што ў яе — рукі развучыліся? Не так упэўнена ходзіць ланцэтка? Не такая паслушная стала зямля? Можа, больш як трэба яна мочыць яе? Можа, лікаподзі нядобры? Можа, яна спяшаецца? Можа, занадта вялікую паверку дала рукам, не правяраючы іх работы?

Зноў заходзіў Агурскі — пасядзіць, пагаворыць, сам праверыць усю работу і — не можа даўмецца.

— Што ж гэта такое ў цябе, Каця?

— Не ведаю, Назар Данілавіч. Проста рады не дам.

— А як пачуваеш сябе — не хворая? Можа, стамілася? Можа, цяжка табе?

Каця моўчкі махае галавою: не.

Але аднойчы Каця такі захварэла. Прыйшла на работу, а галава трашчыць — аж папалам расколваецца. Работа не спорыцца, рукі ходзяць вяла, ланцэтка не слухаецца. Раней нібы і не чула Каця, што ланцэтка звініць, а сёння аж здзівілася: упадзе, ударыцца аб апоку і — такі тонкі звон у яе. У перапынку Каця не выйшла, як звычайна, на двор, каб пабыць там на сонцы ды пажартаваць з хлопцамі. Мурашова таксама асталася. Каця нават не думала, што ў сяброўкі яе такое харошае сэрца: яна сама выбрала больш зручнае месца, зняла і падаслала свой халат, пабегла прынесла гарачага чаю. Усё намервалася збегаць у санітарны пункт, але Каця запярэчыла.

— То хоць накрыйся, — сказала Мурашова і накінула на плечы ёй хустку.

«Я і не ведала, што ты такая добрая», — думала Каця, гледзячы, як прысмірэла яе сяброўка. Нават дзіўна было бачыць такія сумныя вочы ў Мурашовай. Каці аж шкада стала яе.

— Пройдзе. Проста — прастудзілася, мабыць, — сказала яна, тулячыся ў хустку.

— Не шануеш ты сябе, Каця, — уздыхнуўшы, сказала Мурашова.

— Як не шаную?

— А так — пра сябе забываеш. Каму гэта патрэбна, што ты так вельмі шчыруеш? Век вялік, наварочаешся яшчэ.

— Кінь ты, Анэля, не ад работы гэта.

Мурашова памаўчала. Прылягла на локаць, завадзіла пальцам па мяккай фармовачнай зямлі. Пасля сказала, далоняю згладжваючы ямкі:

— Маладая ты яшчэ, а славу ўжо любіш, от што. А таго не ведаеш, што калі ў каго слава, то нехта будзе абавязкова ў цяні ад гэтай славы. Што, я не ведаю?

— Як табе не брыдка, Анэля! — з абурэннем сказала Каця.

«У чым яна мяне папікае? Хто яе чым пакрыўдзіў? — думала Каця, ясна пачуўшы ў словах сяброўкі не толькі спагаду, а — крыўду. — Няўжо яна мне ў чым зайздросціць? Божухна, як гэта бывае — я ёй зайздрошчу, што ў яе так хораша і весела заўсёды на душы, а яна — мне. Ці, можа, папраўдзе падумала, што ад работы я занядужала?»

Каця гэтую гаворку вельмі запомніла. Можа, ад гэтай гаворкі яна стала як бы больш старэйшая і яшчэ больш цішэйшая. І было дзіўнае адчуванне: ёй здавалася, што да гэтага часу яна Мурашову бачыла не так, як трэба. І здалося, што ў Мурашовай нічога няма ні вясёлага, ні лёгкага, ні завідлівага. Што гэта толькі выгляд. Проста смешна — як гэта здалёк усё ў другога можа здавацца прыгожым?

4

Вонкава нічога не змянілася ў дачыненнях у сяброваk, толькі пасля гэтага Каці ўсё ж было нечага шкода. Мурашова як бы стала чужой. І іменна вось цяпер не хапала Каці сапраўднай сяброўкі, каб пагаварыць пра ўсё, што здавалася вельмі важным. От хоць бы з гэтым бракам. Адкуль ён? Як ён бярэцца? А Мурашова скажа, што яна хоча славы. Якая ж тут слава, калі проста — ганьба!.. Добра: тады яна пагаворыць з Валодзем. Ну,

чаго ж тут саромецца? Даўно трэба было гэта зрабіць. Кожны раз, калі пачынаў ён пра гэта, яна адмахвалася, як ад авадня, а цяпер возьме дый папросіць, каб ён сам усё-ўсё праверыў у яе — ад самай першай жменькі зямлі да вылітае дэталі. Няўжо і ён не знойдзе?

Задумаўшыся пра Валодзю, Каця згладжвае крайкі зямлі ў форме і неўзаметку, вельмі лёгкім дотыкам ланцэткі выводзіць літару «В». Паглядзела на яе, усміхнулася. Хацела згладзіць, але падумала, што нікому яна не замінае. Такая ледзьве відная, што ніхто і не заўважыць, а дэталі гэта нічога не шкодзіць. Выдумка так спадабалася Каці, што на кожнай форме яна пачала ставіць гэтую непрыметную літару. Валодзя нават і ведаць не будзе. А калі ўведае, то што скажа? Эх, Валодзя, цяжкавата мне, каб ты толькі знаў. Усё-ўсё раскажу, каб ты ведаў, якая нехарошая я: толькі нахвалілі мяне, а от як прыйшлося ў бяду папасці, то не ведаю, як яе і паправіць.

Калі выводзіла Каця на форме ледзьве відную літару, яна і не ведала, што гэта паможа ёй. От як смешна часамі бывае! У той дзень яна так сачыла за сваімі рукамі, што запомніла, здавалася, кожную дробязь. Яна памятала, дзе які краёк мачыла памачком, дзе хадзіла ланцэткаю, нават помніла, як зачыкоўвала кожную апоку — кожны клінок і кожнае вушка. Перад вачыма стаялі ўсе апокі яе — доўгімі радамі аж да самага канца цэха — з утоптанай каля іх зямлёю. А калі назаўтра не знізілася злавесная цыфра браку — не вытрывала і пабегла ў babракоўню.

— Я хачу паглядзець свой брак, — сказала яна начальніку. — Пакажыце мне тыя дэталі.

Агледзеўшы шурпатыя, з цьмяна-сінім, яшчэ не астоеным колерам шасцёркі, яна не ўбачыла свае тоненькае літары «В».

У перапынак яна знайшла Валодзю, завяла далёка ад людзей у нейкія чортавы дылі, панакіданыя абы-як, села на гэтых дылях і скоранька сказала:

— Валодзя, добранькі, толькі я папрашу — не пярэч мне.

— Што такое, Каця?

— Пабажыся, што не будзеш пярэчыць.

— От якая ты смешная — то гавары ж.

— Я хачу перайсці ў другую брыгаду — к Дорашу.

— Чаму гэта?

— Так трэба, Валодзя. Я прашу цябе.

— То раскажы ж толкам.

— Не магу. Пасля ўсё раскажу, а цяпер не магу. Зрабі, Валодзя, вельмі прашу цябе.

— Можа, злуешся на мяне за што?

— Не, Валодзя. Дык можна? Ты толькі скажы, бо без цябе я не хачу. Гэта будзе лепш, от пабачыш. Ну, хоць ненадоўга. Ну, кажы, бо я пайду да Назара Данілавіча.

— Каця! — раптам пакорліва і жаласліва гаворыць Пагарэльскі, — ты ж ведаеш, што я зраблю, калі гэта так патрэбна табе. Толькі я ж павінен ведаць прычыны.

Прычыны? Праўда, Каця і не падумала, што тут жа трэба падставы.

— Добра, Валодзя, — кажа яна, адразу згадзіўшыся. — Ну, слухай жа...

Каця гаворыць, спяшаецца, раз-пораз дакранаючыся да Валодзевай рукі. Хаця б расказаць да канца перапынку.

— А на шасцёрцы твае літары і няма, — кажа Каця. — Значыць, не мой брак, а Анэлін.

— Хто б мог падумаць? Што яна, знарок ці мо знячэўку? Ды якое знячэўку!.. Чаму ж ты дасюль не сказала, што вы робіце разам? От неразумніца... Не, бачыш як: робіце разам — значыць, і брак папалам. Здорава!

— Толькі ты нічога не рабі, Валодзя.

— Чакай, — пытаецца Пагарэльскі. — Дык чаму ты хочаш у другую брыгаду?

— Мне брыдка цяпер разам быць.

— Нячэсна! Наадварот — расказаць ёй усё. І нават пасля гэтага можна было б на спаборніцтва выклікаць... От было б здорава! А?

— Стой! — раптам Каця наморшчвае лоб і далоняю пачынае гладзіць яго. — А можа, ты і праўду кажаш? Мне лепш проста самой пагаварыць з ёю, каб не было ёй ніякага сораму. Ты нікому не кажы толькі... Ведаеш, Валодзя, — кажа Каця, успамінаючы сваю апошнюю гаворку з Мурашовай. — Мне здаецца, што яна вельмі добрая — і разумная, і чулая, і жвавая такая, — толькі ці не пакрыўдзілі вы яе чым? Неяк забыліся на яе, ці што?

Пагарэльскі нахмурвае лоб, і Каця разумее, што нібы гэтым гаворыць ён: «А што ты думаеш — можа, і праўда гэта? Вядома, усё можа быць...»

***1932, 1956***

# ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ РЭВІЗІЯ

## 1

У свой час я працаваў рэвізорам КРУ і аднойчы атрымаў заданне абрэвізаваць адно даволі буйное прадпрыемства. Калі сказаць праўду, я быў рад, што іменна мне на долю выпаў гэты аб'ект. Завод гадоў два не правяраўся, дырэктар меў славу рызыкоўнага чалавека, якому, як кажуць, законы не пісаны, а галоўны бухгалтар быў зняты за патуранне і бескантрольнасць. Дзейнасць новага бухгалтара не правяралася, і, вядома, маглі быць усякія нечаканасці.

Бяру пасведчанне, складаю ў партфель свае няхітрыя рэвізорскія пажыткі — паперу, карандашы, сякія-такія інструкцыі, мыльніцу, ручнік і — у дарогу.

На заводзе заяўляюся зранку, гадзіне а дзесятай. Аформіў паўнамоцтвы, зайшоў да галоўнага бухгалтара. Сярэдніх гадоў чалавек, невысокі, малагаваркі, быстры на вока. Собіч.

— Што ж, калі ласка, — сказаў ён, прыняўшы мяне як звычайнага наведніка, без ніякага ўзрушэння. — Марына Барысаўна! — гукнуў у прачыненыя дзверы.

Увайшла Марына, прыгожая маладая жанчына, і недаверліва зірнула на мяне.

— Будзьце ласкавы, падрыхтуйце таварышу рэвізору месца, — распарадзіўся ён. — І памажыце арганізаваць работу. Усе дакументы, любыя звесткі каб былі ў таварыша рэвізора пад рукамі. Калі трэба — парабіць выбаркі.

— Добра, — не адразу, як бы нешта прыкідваючы, сказала Марына і выйшла.

Тое, што намеснікам у галоўбуха была вось такая прыкметная жанчына, мне не зусім спадабалася. Здалося, што нездарма яна разгублена выслухоўвала распараджэнні, а пасля так скоранька выйшла: можа, каб нешта хутчэй там прывесці да ладу. А залішняя спакойнасць і дзелавітасць галоўнага выглядала ненатуральна.

«Цікава, як яно пойдзе далей», — падахвоціў я сябе і тут жа ўзяўся за рэвізію.

— Пачнём з касы, — сказаў я.

Звычайна з касы пачынаецца ўсякая рэвізія.

2

Нам, рэвізорам, уласцівы свае прафесійныя слабасці. Першая слабасць, гэта калі мы едзем куды на рэвізію, то ўжо загадзя лічым сябе вышэй за таго, каго будзем правяраць. З'ява прыкрая, і прызнавацца не вельмі прыемна. Бухгалтар вытворчасці — гэта ўсё-такі камандзір. І камандзір даволі адказнай справы. На вытворчасці часта трапляеш у такія абставіны, што прыняць тое ці іншае рашэнне бывае цяжка, а прымаць яго трэба неадкладна. Бухгалтар павінен быць адначасова і кіраўніком, і фінансістам, і юрыстам, і гаспадарнікам, і — прадстаўніком дзяржаўнага кантролю. Як бачыце, сутыкаюцца нават супярэчлівыя лініі, асабліва гаспадарніка і — дзяржкантролю.

Другая слабасць мае яшчэ больш далікатную ўласцівасць. Рэч у тым, што шмат хто з нас лічыць, што бадай кожны бухгалтар, якога мы едзем правяраць, хоць у нейкай ступені, а — шэльма ці прайдзісвет. Па-абывацельску мы часта спускаемся да разважанняў, што калі чалавек блізка стаіць да каштоўнасцей, калі праз яго рукі праходзіць безліч грошай, калі ў гэтых руках сабраны ўсе фінансавыя спляценні, то не можа быць, каб да іх чаго-небудзь ды не прыстала.

Прыблізна такіх поглядаў у той час трымаўся і я. Калі я пачынаў рэвізаваць, то быў загадзя ўпэўнены, што добра пераплеценыя і паскладаныя на палічках у шафах дакументы выглядаюць хораша і тояць спакой і цішыню да таго часу, пакуль іх не кранеш. Варта ж умеючы перагартаць ды прачытаць іх, як яны загавораць, ды яшчэ і як загавораць.

Рэвізія касы дала поўны парадак. Так таму і належала быць. Вельмі рэдка трапляюцца авантурысты, каб рабіць вялікае шальмоўства ў касе: там мала прастору. Зараз жа за гэтым я праверыў аперацыі з банкам. Тут поле дзейнасці бывае на вялікія дзясяткі, а то і на сотні тысяч рублёў. Давялося да ўсяго пільна прыгледзецца, прасачыць запісы і нарэшце схадзіць у банк, каб стыкнуць банкаўскія, ці, як кажуць, кантакарэнтныя выпіскі. І тут было ўсё спакойна.

Пасля беглага агляду штатнай дысцыпліны, каштарысаў пачалося тое, што ў поўным сэнсе называецца дакументальнай рэвізіяй. Трэба было браць том за томам акуратна пераплеценых дакументаў і — праводка за праводкаю, паперка за паперкаю — перагортваць, на кожнай спыняючыся, ад кожнай чакаючы ўсякай неспадзяванасці. Кожная паперка адлюстроўвае нейкую гаспадарчую, вытворчую ці фінансавую з'яву. А трэба паглядзець, ці з'яўляецца аперацыя законнай, ці аформлена

яна ў адпаведнасці з юрыдычнымі нормамі. Ну і, вядома, гэта ўжо найпершая рэвізорская задача — паглядзець, ці няма дзе злоўжыванняў, а проста кажучы — шальмоўства.

Кожны дзень Марына кладзе мне на стол новы стос пераплеценых дакументаў. Я гартаю іх адзін за адным, усе заўвагі занатоўваючы ў свой рэвізорскі сшытак. Так ідзе дзень за днём, я адкладваю том за томам. Не падабаецца мне, што ні ў чым я не магу знайсці больш-менш сур'ёзнай правінкі. І больш за ўсё не падабаецца, што я не веру ў гэта. Я глыбока перакананы, што грахоў тут безліч, я толькі не магу наткнуцца на іх. Ці не надта бегла я перагортваю гэтыя тамы?

Ведаючы, што часамі бываюць злоўжыванні ў дэпаненцкіх выплатах, я прашу даць мне выплатныя дакументы за два гады.

— Яны ж прайшлі рэвізію, таварыш рэвізор, — здзівілася Марына.

— Усё роўна, я прашу — дайце мне іх.

Марына пацiснула плячыма, але паднялася і пайшла. Хвілін праз колькі яна палажыла мне на стол новы стос тамоў, укрытых пылам. Я бачыў яе зграбныя рукі, а лёгкі, ледзьве чутны пах яе духоў да таго агортваў хваляваннем, што ў мяне кружылася галава. Не да твару рэвізору лірычныя адхіленні, але скажу, што я спужаўся ўсяе гэтае вабнасці. Я баяўся, каб Марына не пашкодзіла мне ў рабоце, не парушыла мае пільнасці.

— Нічога ў вас не выйдзе, таварыш рэвізор, — насмешліва сказала яна, адгадаўшы мае думкі.

— Дай божа.

— Доўга вы яшчэ будзеце нас мучыць? — папыталася яна, усё трымаючы свае зграбныя рукі на запыленых тамах.

— А пакуль не закончу.

— Гэта залежыць ад вас.

— Найбольш ад вас, — адказаў я, даючы зразумець, што яшчэ невядома, што пакажа рэвізія.

— Лядайкая ў вас работа, — заключыла Марына. — Усякаму трэба не верыць, ва ўсім бачыць шальмоўства. Так можна дайсці да таго, што чалавека трэба проста не любіць.

3

А між тым ішоў дзесяты дзень, і нічога таго, што вельмі варта было б рэвізорскае ўвагі, я не знаходзіў. Ну, усялякая драбяза, накшталт таго, што па авансавай справаздачы куплена ў краме тавару больш як на дваццаць рублёў ці, скажам, што

ў рабочым нарадзе не прастаўлены параграф расцэнак. Я пачаў траціць надзею на поспех свае работы. То мне здавалася, што я маю справу з надта хітрымі і лоўкімі прайдзісветамі і тут усё так добра і глыбока закопана, што я не маю сілы знайсці. То, наадварот, што я трапіў на такое прадпрыемства, на якім, можна сказаць, усё ідэальна. І ў бухгалтарскім уліку поўны парадак, і дакументальная дысцыпліна добрая, і поўны ажур у запісах, і прыемная спрацаванасць у рабоце. Што тут свой стыль, свая высокая школа.

Мне прыгадалася, як у самым пачатку мяне хвалявалі дачыненні дырэктара і галоўбуха. Мне тады здаліся яны вельмі лагодныя. А вядома ж, што ў большасці выпадкаў яны бываюць наадварот — напружаныя. Мне захацелася гэта праверыць. Я ведаў, што пры першым зручным выпадку дырэктар абавязкова скажа: ат, справы не важныя — бухгалтар у мяне не надта складны. Як кажа народная прымаўка: што каму рупіць, той тое й жупіць. Я пайшоў да дырэктара.

Якраз у дырэктара сядзеў начальнік аддзела забеспячэння і скардзіўся на галоўбуха за самаўпраўства. Гэта была самая найлепшая сітуацыя. Начальнік аддзела забеспячэння нейкай арганізацыі адпусціў сорак дзевяць кубаметраў кіслароду па сваёй волі, без візы бухгалтэрыі якраз у той час, калі гэтая арганізацыя мела ўжо запазычанасць. За гэты водпуск, з усімі накладнымі выдаткамі, галоўбух зрабіў налічэнне начальніку аддзела забеспячэння. Даволі строгая аперацыя.

— Значыць, вы лічыце, што налічэнне зроблена няправільна? — папытаўся дырэктар. — Што яно зроблена незаконна?

— Ну, вядома. Тады выходзіць, што мне і начальнікам быць не трэба, калі ў сваёй справе я не магу распарадзіцца. У мяне ж таксама ёсць меркаванні, бо тут жа не асабістая якая карысць, а я гляджу крыху глыбей. Нам гэты заводзік яшчэ не раз спатрэбіцца.

— Спатрэбіцца... гм, — падумаў дырэктар. — Усё гэта правільна, таварыш Галецкі, — сказаў дырэктар, — але ж і Собіч зрабіў правільна. Так мы пакуль што і пакінем гэта. А калі вы хочаце, каб з вас налічэнне знялі, то зрабіце так, каб гэты заводзік, як вы кажаце, найхутчэй сплаціў сваю запазычанасць. Каб на канец месяца ён не матляўся як дэбітор. От і ўсё. А каб вы маглі арыентавацца і надалей, то ведайце, што распараджэнні галоўнага бухгалтара — гэта тое самае, што і мае распараджэнні.

Больш мне нічога і не трэба было. Гэтай чужой размове я быў рад як сваёй удачы.

4

На пятнаццаты дзень я напісаў акт рэвізіі. Ніякага крыміналу я, вядома, не знайшоў, але пастараўся, каб голас мой быў аўтарытэтны. У нас жа таксама ёсць свой апломб. Не можа быць, каб рэвізор нічога не знайшоў, і няма такога прадпрыемства, пра якое нельга было б скласці акта. А як вядома, пра кожную рэч можна гаварыць розным голасам.

Схему акта я вытрымаў як найлепш, як таго патрабуюць усе правілы рэвізорскай тэхнікі. Тут быў і ўсебаковы агляд, і аналіз гаспадарчай і фінансавай дзейнасці, і вывады, і прапановы. Усё, вядома, ілюстравалася выбаркамі, табліцамі, параўнаннямі з нормамі, словам, мне здавалася, што сваю справаздачу я зрабіў з самай першакласнай рэвізорскай дакладнасцю.

Адзначыўшы, што злоўжыванняў не знойдзена, я грунтоўна націснуў на парушэнне касавай і фінансавай дысцыпліны, звярнуў увагу на сякія-такія выпадкі недагляду, патворства.

Сваёй работай я быў давольны. Было прыемна ўсведамляць, што ў ранейшых падазрэннях я памыліўся. Мне здавалася, што сваім актам я не парушаю добрай славы прадпрыемства і яшчэ больш умацоўваю Собічаў аўтарытэт. Не важна, што я адзначаю некаторыя другарадныя недахопы: Собіч павінен зразумець гэта як чыста прафесійную неабходнасць мае місіі. І яшчэ, калі я спрабаваў разабрацца, чаму мне было прыемна, то перад сабою бачыў Марыну. Чамусьці мне не хацелася, каб яна думала пра мяне нядобра.

Звычайна пасля абеду Собіч гадзіны дзве аддаваў вытворчасці. Абавязкова кожны дзень ён бываў, як кажуць, на тэрыторыі, як бы ён быў не галоўным бухгалтарам, а галоўным інжынерам. Спачатку мяне гэта абурала, і я запісаў заўвагу ў свой рэвізорскі сшытак, як факт парушэння працоўнага распарадку дня. Але скора зразумеў, што гэта давала яму перавагу, якой да гэтага часу я не бачыў ні ў аднаго работніка яго прафесіі: ён ведаў вытворчасць як найлепшы гаспадар і свой аддзел з пасіўнага адлюстравальніка падзей ператварыў у актыўнага ўдзельніка вытворчасці.

Я ўпершыню ўбачыў, што бухгалтэрыя непасрэдна ўдзельнічае ў жыцці прадпрыемства, і адзначыў гэта як наватарства.

Каб не траціць марна часу, я не стаў чакаць Собіча з яго вытворчай пагулянкі, а пайшоў адразу да дырэктара. Пасля звычайных у такім разе размоў: — Ну, як справы? Скончылі?

Многа напісалі на нас? — дырэктар уважліва прачытаў акт і, ні слова не кажучы, выняў сваю самапіску і падпісаў.

— Ад праўды нікуды не дзенешся, — сказаў ён, — а без грахоў ніяк не выходзіць. Ну, але добра, што праверылі нарэшце. А то — так даўно нас не рэвізавалі, што аж неспакойна было на душы.

З лёгкім сэрцам я пайшоў да Собіча.

5

От тут мяне і напаткала нечаканасць. Прачытаў акт Собіч, паглядзеў на мяне, падумаў крыху дый кажа:

— Не буду я падпісваць вашага акта.

Я аслупянеў:

— Чаму?

— Не буду. Лічу, што ваш акт няправільны.

— Дазвольце, дырэктар жа падпісаў.

— Ну што ж — яго права. А я падпісваць не буду.

— З чым жа вы не згодны? — пытаюся я.

— З усім згодзен. Тое, што вы напісалі, — усё правільна: і парушэнні, і незаконна — усё на месцы. Але ў вашым акце няма адной, самай неабходнай драбніцы: не сказана, чаму гэта зроблена — ці то гэта наша нядбайнасць, ці то вытворчая неабходнасць. А гэта рэчы істотна розныя, і без гэтага ваш акт не поўны. Ён няправільна арыентуе.

— Дазвольце, дык рэвізія і не ставіць такой мэты.

— От у гэтым і ўся бяда. А трэба, каб абавязкова паставіла.

— Схема рэвізіі не патрабуе такога аналізу.

— Якраз от у гэтым я карэнным чынам і не згодзен з метадамі рэвізій: вы канстатуеце, а тлумачыць і аналізаваць баіцеся, бо не хочаце браць на сябе адказнасці.

Мне здавалася, што такой сваёй гаворкай Собіч адводзіць справу ўбок, абыходзіць нейкія законы.

— Бачыце, усе законы...

— Законы адны, — перабіў мяне Собіч, — як для вас, так і для нас. Мы ж таксама добра ведаем іх і імі кіруемся. І аднак жа выкананне аднаго і таго ж закону ставіць нас з вамі на розныя пазіцыі.

— Не разумею вас.

— Вось вам прыклад з вашага ж акта. Вы пішаце, што мы незаконна звыдаткавалі з касы грошы, купіўшы сена на старане.

— Правільна.

— Але вы не сказалі, якія прычыны выклікалі такую неабходнасць, і не далі свае ацэнкі як дзяржаўны чалавек. Бо тое, што грошы скарыстаны не з тае кішэні, — гэта фармальная старана, а тое, на што яны скарыстаны ці чаму скарыстаны, — больш важная старана. Галоўная старана.

— Навошта ж займацца гэтым рэвізору?

— Ды проста таму, што вы не маеце права пісаць у акт таго, у чым самі не разабраліся і на што не маеце свае думкі.

— Я запісаў факт.

— Не, вы запісалі толькі адну яго старану. Вось слухайце. — Собіч зірнуў быў у акт, але тут жа адсунуў яго. — Па характару вытворчасці наша прадпрыемства павінна мець жывую цяглавую сілу, скажам, чатыры галавы коней. Як і належыць, па-гаспадарску, з самае восені мы забяспечылі сябе фуражом на гэтае пагалоўе: і аўсом, і сенам. Здавалася б — нармальна.

— Нармальна.

— І от уявіце сабе: у пачатку зімы трэст перадае нам, скажам, яшчэ чатыры галавы. Ясна, што ў такім выпадку фуражу на вясну нам ужо не хопіць. І па дзяржаўнай лініі мы яго таксама дастаць цяпер не можам. Коні пачынаюць прападаць. Што вы тут будзеце рабіць, таварыш рэвізор, калі на хвілінку перастанеце быць фармалістам?

Доўга не думаючы, я адказаў, што гэта справа далёка не бухгалтара і няхай пра гэта думае той, каму належыць. Хто ў гэтым вінаваты.

— Словам — мая хата з краю. Самы бяздушны бюракратызм. Няхай гіне дабро, а вы пільнуецеся літары закону. А я палічыў, што якраз гэта можа быць злачынствам, і даў дазвол на дзве тысячы рублёў, каб выратаваць пагалоўе. Правільнае было маё распараджэнне?

Прызнацца, я адчуваў, што Собіч усё-такі ў нечым мае рацыю. Але такая пастаноўка пытання была мне да таго новая, што я яшчэ не паспеў як след разабрацца ў ёй. Я толькі ведаў, што мне, як рэвізору, пагадзіцца з гэтым нельга.

— Другі факт таксама варты таго, каб яго прааналізаваць, — далей гаварыў Собіч. — Вы адзначаеце як пахвалу, што за апошні час мы маем вялікія поспехі: сістэматычна перавыконваем планы і нават зніжаем сабекошт прадукцыі. Павучальным жа ў гэтым факце можа быць тое, што якраз інтарэсы вытворчасці вымусілі нас недаздаць выручкі ў дзяржаўны банк.

— Які́м жа гэта чынам?

— Мы былі перад такімі дзікімі пагрозамі, што фармальны момант не прыходзілася браць да ўвагі. Выратаваць нас мог толькі неадкладны аварыйны рамонт.

Увайшла Марына. Відаць было, што наша гаворка не толькі цікавіла яе, а хвалявала. Палажыўшы перад Собічам дакументы на подпіс, яна пастаяла і звярнулася да мяне:

— Можа, каб вы трошкі больш любілі вытворчасць, то маглі б ведаць, што нам таксама бывае цяжкавата, — сказала яна. — Рамонт аварыйны, а матэрыялаў няма. Калі чакаць іх па планавай лініі, то гэта будзе не надта скора, а чакаць нельга. От як тут зрабіць? — глядзела яна на мяне дапытліва.

Што мне было ёй сказаць? Лепш бы яна не заходзіла. Лепш бы не пыталася і не глядзела такімі добрымі і яснымі вачыма. Але я ведаў, што зайшла яна знарок, каб памагчы тут Собічу. Яна як бы адчувала, што мне будзе цяжка не паслухаць яе.

— Вас павінны цікавіць толькі законы, — аднак суха сказаў я.

— Законы дзяржаўнай мэтазгоднасці і дзяржаўнага сэнсу, — горача запярэчыў Собіч. — Фігуруючы законамі, вы абыходзіце іх, не заўважаючы нават, што пачынаеце тармазіць, губіць жывую справу. Занадта на розных адлегласцях стаім мы ад вытворчасці, таварыш рэвізор.

Ад хвалявання Собіч пашукаў папярос.

— От таму я і не хачу падпісваць вашага акта. Каб, можа, хоць гэтым прымусіць вашых кіраўнікоў наверсе нарэшце задумацца над тым, што даўно пара навучыцца паважаць агульную справу і хвалявацца, — горача і гнеўна скончыў Собіч.

— У гэтым ваша нязгода? Яна вельмі нязначная, каб надаваць ёй такое прынцыповае значэнне.

— Вельмі значная! — уздыхнуў Собіч. — У ёй жа ўся сутнасць, удумайцеся толькі. Я, напрыклад, як галоўны бухгалтар павінен ведаць ваша дакладнае азначэнне: злачынствам ці не злачынствам трэба лічыць тое, што вы запісалі ў акт. Гэта яснасць мне неабходна. Яна неабходна таксама і вам, а яе ў вас няма. Без гэтага вы не маеце права ацэньваць нашай работы.

Пакуль у нас ішла ўся гэта гаворка, я быў упэўнены, што гэта проста звычайная палеміка, якая часамі бывае ў такіх выпадках, і што пасля яе Собіч усё роўна падпіша акт. Фармальна ў яго не было права не падпісаць яго, ды, уласна, у нашай справе гэта асаблівага значэння і не мае. Але ўсё ж адразу я адчуў сур’ёзнасць і недарэчнасць свайго становішча: гэта падрывала аўтарытэт мае справы. Прывезці і падаць свайму начальніку

знясл аўлены акт? Якая ж цана маёй рэвізіі і што за рэвізор з мяне! Злосць мяне ўзяла і абурэнне. Падумаеш, фігура якая, тэарэтык новы знайшоўся. Не, мала такі я наскроб на яго ў сваім акце! Падалікатнічаў.

— Не думаю, каб вас гэта магло выручыць, — рэзка сказаў я. — Мабыць, прыйдзецца прыслаць да вас комплексную рэвізію, акт якой вы нарэшце прызнаеце, — сказаў я, ледзь не задыхаючыся, але ўсё ж як мага спакайней.

Не развітаўшыся, я выйшаў з кабінета. Марыны ўжо тут не было. Я сустрэўся з яе вачыма, калі праходзіў праз бухгалтэрыю. Мне здалося, што вочы яе гаварылі: «Як шкода, што так недарэчна выйшла. От мы больш і не пабачымся з вамі. Але ж у гэтым вінаваты не мы. Толькі вы вінаваты ў гэтым...»

6

Вось і канец усяе гісторыі. Толькі канец нечаканы. Начальству свайму я здаў акт. Праз дзён колькі прыйшлі і «Заўвагі да акта рэвізіі» ад Собіча, у якіх ён выказаў свае погляды і на акт, і на метады рэвізіі яшчэ больш смела. Начальніка рэвізійнага аддзела ўсё гэта ані кропелькі не кранула, ён астаўся недавольны толькі мною.

— Як жа вы маглі дапусціць, каб і акт зняславілі ды яшчэ і трактаты пісалі? Панібрацтва, мабыць, завялі там. Ваша ж рэвізія не мае ніякага аўтарытэту, — дакараў мяне мой начальнік.

І тут я зразумеў, што абараняцца ад гэтага магу толькі з пазіцый Собіча. Тое, што мой начальнік нават не захацеў звярнуць увагі на чужыя думкі і хваляванні, аж пакрыўдзіла мяне. Я з абурэннем заявіў, што мы не маем права не прыслухоўвацца да людзей, што ператвараемся ў бюракратаў і бяздушных фармалістаў, што метады нашых рэвізій даўно састарэлі і самі мы даўно адсталі ад таго, чаму навучыліся і чаго дамагліся добрыя людзі, што мы ўпарта не хочам быць разам з наватарамі.

Словам, я паўтарыў Собічавы думкі і быў прыемна здзіўлены, што паўтарыў іх ад душы, як свае.

Мяне чакала новая камандзіроўка, але я адмовіўся ад яе. Я падаў заяву з просьбай вызваліць мяне ад работы рэвізора ў сувязі з тым, што думаю перамяніць профіль свае спецыяльнасці, наблізіўшы яе да вытворчасці. Не таму, што я раптам разлюбіў сваю работу ці яна мне здалася нікчэмнаю, не — работа ўсякая і пачэсная, і патрэбная, а тым больш рэвізорская.

Але мне такі захацелася пашырыць і свой кругагляд, і практыку, а галоўнае — стаць бліжэй да жывых працэсаў дзейнасці. Ну і, вядома, мне здавалася, што так я буду бліжэй і да Марыны. Не ведаю чаму, але я быў упэўнены, што сустрэўся з ёю нездарма.

Цяпер у мяне новая работа. І цяпер ужо ездзяць рэвізаваць мяне.

Можа, не надта здзіўлю, калі скажу, што з Собічам з таго часу мы сталі найлепшымі сябрамі і цяпер от я еду яго праведаць.

# НАТАЛЯ

*Ганне Скрыган*

## ЧАСЦІНА ПЕРШАЯ

### 1

Наталя памірала.

Яна добра ведала гэта сама, і, аднак, не было ў яе ні страху, ні пратэсту. Так заўсёды, мабыць, бывае з чалавекам, калі ён траціць надзею. А адкуль жа ўзяць тых надзей, калі яна от чатыры месяцы як ляжыць у гэтай палаце і не чуе ні кропелькі палёгкі? Яна слабне ўсё больш і больш.

Паволі цягнецца дзень за днём, і ўсё тыя ж бальнічныя ложкі, белыя сцены, белыя халаты прыслужнікаў, часамі слабы стогн хворых, а найбольш — маўклівае, ціхае ляжанне. Якая пакута — гэтая павольная смерць! Бо і не баліць жа нічога. Проста слабасць і абыякавасць да ўсяго. І ўсё нешта толькі тоненька і бясконца звініць. Ці то сцены такія звінючыя, ці паветра, ці так, можа, і заўсёды было, толькі яна не заўважала гэтага, калі была здаровая.

І бясконца доўга цягнецца марудны, белы, спрэс аднолькавы дзень. Наогул усё стала вельмі павольнае. Павольна людзі гавораць, павольна ходзяць, павольна і ціха ляжаць. Гэтая павольнасць і ў ёй, і вакол яе. Нават здаецца, што гэта не праўда, а сон. Вось хоча яна паварушыць нагою, а тая не слухаецца — як не свая. Падыме руку, а яна такая цяжкая, як налітая нечым вельмі жалезным, і калі апусціць яе — адразу лёгка падае назад. Нават неяк добра робіцца, калі яна так лёгка падае. Адале — стома, як пасля вялізнай работы.

А калі памрэ яна? Сёння, заўтра, паслязаўтра? Няхай сабе і сёння, абы скарэй ужо, каб пра ўсё забыць. Не, страшна аднаго:

што ніхто, ніхто не ведае, што яна ляжыць вось у гэтай белай палаце, у гэтым далёкім азіяцкім гарадку і паміраe адна. А ў яе ж ёсць свае, родныя, сям'я. Яе чакаюць, думаюць пра яе, спадзяюцца, што вось скончыцца вайна і яна вернецца дадому. І яны нават не будуць ведаць, як яна загінула. Божачка, чаго нарабіла гэтая вайна! Хто б мог думаць пра нейкую эвакуацыю? Дзе ўсе цяпер, што з імі? Ці ведаюць, што яна думае пра іх?

Даўно так востра не ўспаміналася жыццё. Наталя заплакала, ды так і заснула з мокрым знясіленым тварам.

2

Паволі цягнецца белы, напоўнены бясконцым тоненькім звонам дзень. Наталя папрасіла ў нянькі, каб тая дала ёй люстэрка. Нянька доўга не хацела даваць, але Наталя вельмі ж прасіла. Захацелася паглядзець на сябе. А калі зірнула — жахнулася. У люстэрку яна ўбачыла толькі вочы, дый то не свае — у глыбокіх ямах, шырока расплюшчаныя і такія ясныя, што наскрозь прасвечваліся. Нос завостраны, тонкі, таксама чужы. Лоб высокі, нейкі сцямнелы, пукаты; шчокі праваліліся, тарчаць адны вострыя сківіцы. Гэта не твар, а чэрап, якім звычайна малююць смерць. Яна ведала, што замест рук і ног у яе паасталіся косці — доўгія, надта цяжкія косці. Але ж яна думала, што твар у яе той самы — з матаваю загарэлаю скураю, з румянымі губамі, з русымі валасамі, што адразу над ілбом падымаліся ледзьве значнымі хвалямі, з вачыма, вакол якіх таілася вечна гатовая заіскрыцца ўсмешка. Аж яна цяпер выглядае як здань з таго свету.

І хто ведае, чаму так бывае, але цяпер Наталі зрабілася страшна: ёй вельмі захацелася жыць. Яе ахапіў жах. Няўжо яна павінна памерці? А як жа будуць жыць людзі без яе, як будуць гаварыць, думаць, смяяцца ці плакаць, спяваць песні, нешта рабіць, нечага дамагацца, нечага бясконца хацець? Як жа гэта яна не ведацьме ўсяго таго, што называецца жыццём, што з кожным днём мяняецца, іначае, каб усё лепшаць і харашэць? Як жа гэта яна не будзе думаць, не будзе сярод людзей? Гэта ж усё так хораша, так важна, нават вечна! Няўжо ж яна не ўбачыць больш свае дачкі?..

— Пастойце, — сказала яна доктару, калі той абходзіў палату, слаба ловячы яго за руку. Яна хацела сказаць скоранька, але слова выгаварылася вельмі павольна — «пас-стой-йце». — Пастойце, — паўтарыла яна. — Дарагі доктар, зрабіце мне апошнюю ласку. Навошта вам са мною важдацца.

— Не хочаце жыць? — адразу здагадаўся доктар і, хоць не дзяржала яна яго больш за руку, суняўся.

— Я не выжыву, доктар. Навошта, каб я толькі пакутавала? Дайце мне якой атруты. Або хоць скажыце, што я буду жыць!

— А хто вам сказаў, што вы не выжывеце? — Доктар паднёс табурэтку і прысеў каля Наталі. — Ну хто вам сказаў?

— Я сама ведаю, доктар. Я бачыла сябе ў люстэрку. Такія ўжо не жывуць.

— Эх, маладзіца, — засмяяўся доктар. Можа, яму нават не было смешна, але ён так засмяяўся, нібы сапраўды Наталя сказала найсмяшнейшае глупства. Смяяліся яго тоўстыя губы, старэчы твар, маршчыны каля воч, нават жывот троссе ад смеху. — Паміраць надумалася, от дурная!

— Доктар, я вас прашу, памажыце мне. Няхай гэта ўсё скарэй кончыцца.

— Колькі год табе? — запытаўся доктар.

— Дваццаць шэсць.

— Ну от бачыш. А вунь той бабцы, што каля акна ляжыць, — на сёмы дзесятак пайшло, а яна жыць просіцца. Брыдка, маладая жанчына, брыдка! — сказаў раптам злосна доктар. — Каб я больш не чуў гэтага! Ты ў мяне яшчэ танцаваць будзеш. Чуеш?

Добры танец, калі косці бразгаюць адна аб адну. Доктар пайшоў, а ў вушах у Наталі зноў падняўся тоненькі-тоненькі звон. Звінела столь, звінелі сцены, і ўсё стала ў нейкай глухой белай ваце: і чужыя галасы, і стук крыві ў сваіх скронях, і свае думкі — мяккія, павольныя і глухія. Захацелася спаць.

3

А доктар вярнуўся ў свой пакой і доўга сядзеў, задумаўшыся, над сталом. Што ён мог зрабіць? Трэба лякарствы. Трэба нармальныя бальнічныя харчы. А дзе іх узяць? І тое і другое на фронце. Нават лепшыя дактары — там. Якая гэта страшэнная хвароба, калі нервы стаміліся, калі не хочуць больш змагацца і цела не можа ачуняць! Дзе ўзяць патрэбную арганізму маленькую кроплю дыэты? Папраўдзе страшна.

Лякарствы ён пастараецца дастаць чаго б там ні каштавала. Ён паедзе сам у Ташкент, ён аблазіць там усё, што можа. Сходзіць, нарэшце, у ваенны шпіталь, няўжо і ў іх не дастане? Не, ён выпрасіць. А от дзе ўзяць масла, малака? На чым зварыць курыны булён, дзе дастаць пячонкі? А дзе яна возьме гэтых тысяч, каб купіць усё? Што яна можа прадаць?

Доктар зноў пайшоў хадзіць — па кабінетах, па калідоры, па кладоўцы, па кухні, — абы нешта рабіць. Зноў пайшоў па палатах.

Наталя спала. Ён падышоў на пальчыках, паглядзеў ёй у твар. «Ты ў мяне будзеш яшчэ танцаваць», — горка падумаў пра сваю казённую фразу. А што ён мог ёй сказаць? Чым мог памагчы? Сваёю вераю? Ён верыць у жыццё і змагаецца за яго, але ж ён ведае і законы смерці.

Тая самая бабка, на якую спаслаўся доктар, гаворачы з Наталяй, пальцам пазвала яго. Рукой загадала сесці, нагнуцца да яе.

— Ты зманіў ёй, доктар, скажы? — вачыма паказала яна на Наталю. Твар яе быў маленькі, зморшчаны, губы западалі ў рот, і гаварыла яна неяк мякка, нібы словы зліпаліся адно з адным. — Ты не бойся, добры чалавек, яна спіць, не пачуе.

Доктар агледзеў палату. Спрэс белыя ложкі, і ўсюды пад коўдрамі лініі худых рук, ног. Сапраўды, можа, спяць людзі, можа, думаюць — кожны пра сваё.

— Што ж я зманіў, цётачка Багуцкая?

— Слухай сюды, доктар: ты не вылечыш яе. Я хачу памагчы табе.

— Як жа гэта, цётачка Багуцкая?

— У мяне тут і дачка і ўнучкі, добры чалавек. Яны мне ўсяго носяць — і масла, і яек, і ўсякага наедку прыносяць мне поўна. Наталі ты не паправіш без гэтага. Ёй няма каму памагчы, і яна зачахне.

— Я разумею, цётачка Багуцкая.

— Не балабонь, перш паслухай. Нічога ёй не кажы, бо яна тады не возьме. Бяры майго ўсяго колькі хочаш. Калі трэба, мне ўсяго прынясуць. От так, добры чалавек. Ты ж ёй сказаў, што жыць будзе, то так і зрабі.

Доктар знайшоў бабчыну сухую руку, пагладзіў. Часта чалавечымі словамі нельга сказаць таго, што скажаш маўчаннем.

...Праз два месяцы Наталя першы раз паднялася і ціхенька дабралася да акна. Яна ішла вельмі доўга, не верачы, што можа пераступаць нагамі, дакранацца рукамі да халоднай белай сцяны. Да шыбы цягнулася тоненькая галінка акацыі, і адзін малады лісток намагаўся дакрануцца да шкла. За акном цвіў сад, у кветках яго з адной на адну пералятала пчала, торкаючыся рыльцам глыбока між тычынак то ў адным, то ў другім месцы. Свяціла сонца з бясконца далёкага, яснага неба. Шчабяталі птушкі, была вясна. За садовай агароджай прасвечвалася вуліца, і па ёй хадзілі людзі, кожны сваім крокам, хто скоранька, абганяючы

другіх, хто паволі, мабыць, кожны з сваімі чалавечымі клопатамі. Божухна! — зноў жыццё, тое самае, даўно не бачанае, даўно не адчуванае жыццё!..

Ад усяго гэтага на Наталю так многа лінулася радасці, што яна абамлела і бразнулася на падлогу.

## ЧАСЦІНА ДРУГАЯ

### 1

Наталя зрабіла памылку: яна не сказала Казіміру, што ў яе была дачка. Быў муж, але няма яго — хіба мала людзей забрала вайна. Словам, няма, і навошта пра гэта гаварыць. Навошта корпацца ў тым, чаго не вернеш. А можа — ці варта нават варочаць.

— Асталася адна, — сказала яна Казіміру.

— Мабыць жа, цяжка?

— А што ж зробіш.

Наталя працавала на заводзе ў аддзеле капітальнага будаўніцтва. Іменна там першы раз і ўбачыў яе Казімір. Ён зайшоў папытацца, чаму так доўга аддзел не дае актаў-працантовак на будоўлю. Начальнік, дабрадушны, ледзь крануты сівізною інжынер, растлумачыў невялікую затрымку і паабяцаўся заўтра ж здаць. Тым больш што ён сам зацікаўлены ў гэтым: калі не паступяць ад завода грошы, то яму не будзе чым расплаціцца з рабочымі. Гаворка цягнулася нядоўга, але за гэты час Казімір паспеў агледзець кантору і ў дальшым кутку за чарцёжным сталом заўважыў Наталю. Так жа бывае, што часамі ўбачыш упершыню чалавека, і невядома чаму ён западзе табе ў душу. Наталя чарціла, паглынутая нейкай далёкай, толькі ёй адной вядомай увагай, нават не падняла галавы, не зірнула на Казіміра. Казімір пайшоў, увесь дзень займаўся малымі і вялікімі справамі, а Наталін профіль не пакідаў яго.

Прыехаў Казімір на завод ад главка па рэвізію на пятнаццаць дзён, а калі капнуўся — няма як і рэвізаваць. У бухгалтэрыі ўсё запушчана ды заблытана так, што не ведаеш, дзе знайсці канец, дзе пачатак. Гэта было бадай што нармальна: усе кваліфікаваныя работнікі, нават сам галоўбух, былі на фронце. Работа бухгалтэрыі лягла на плечы маладых дзяўчатак, якія раней хаця б умелі разнесці праводку па картках, выпісаць накладную або зрабіць рэестр дакументаў. Каго ж можна было вінаваціць, што замянілі яны цяпер бухгалтараў, узяўшы работу сабе не пад сілу? Даў Казімір у главк тэлеграму, каб адцягнулі камандзіроўку яшчэ

дзён на пятнаццаць, бо трэба ж памагчы людзям, навучыць іх хоць самаму неабходнаму ў іх рабоце. Камандзіроўку адцягнулі, а калі і яшчэ пятнаццаці дзён не хапіла — загадалі астацца, аж пакуль работа канторы не стане нармальнай. Так і астаўся Казімір на заводзе за галоўнага бухгалтара, нават невядома на які час. А ўцягнуўся ў работу, прывык да людзей, і здалося, што іначай не магло нават і быць.

Не ўмеў заляцацца Казімір, а Наталя не пакідала трывожыць яго. Не так каб рэдка ён і сустракаўся з ёю — то ў сталоўцы, то на заводскім двары, то ў дырэктарскай пачакальні, — але ні разу не выпадала як след пагаварыць. Казімір за гэта наракаў толькі на сябе — не ўмеў. У другіх лёгка гэта выходзіла: у свой час ласкава ўсміхнецца, скажа камплімент, знойдзе нейкае лёгкае слова, ад якога і пачнецца патрэбная плынь, а ў Казіміра здольнасці гэтай не было. Не навучыўся за свае трыццаць сем год, не было калі. Ды з Наталяй і гаворка павінна быць нейкая адмысловая. Толькі шчырая. «З Наталяй нельга пустазвоніць, — думаў Казімір. — З ёю нельга гаварыць абы-што, абы-як на бягу, як гэта робяць з другімі. З Наталяю трэба гаварыць так, каб яна ўсяго цябе зразумела. Ёй трэба расказаць усяго сябе адразу».

Што збіраўся расказаць Наталі Казімір, ён і сам не ведаў. Але ён адчуваў, што яму трэба было, каб яна была поруч, каб ён мог усяго сябе або хоць некаторую долю аддаваць ёй. Няхай бы іменна яна ведала, што ў яго ў вайне ў Бабруйску загінула ўся сям'я. І што іменна таму цяпер больш як калі яму хочацца, каб нехта быў поруч. А то такая звярыная туга адзіноты. Трэба, каб нехта ведаў пра гэта. Але Казіміру было ясна, што гэты «нехта» мог быць толькі Наталяй. Больш нікога ён не пусціць у сваю душу.

Ён часта заседжваўся на рабоце. Тут ён мог падумаць і пра работу, і пра сваё жыццё. І аднойчы здарылася, што ў такі от запознены час ён сустрэўся з Наталяй.

Як гэта бадай што заўсёды бывае, пасля хваробы арганізм прагавіта хапаецца жыць. Не заўважыла Наталя, як у яе зноў пакруглелі плечы, на твары паявілася тая ж матавая свежасць загару, уваскрэсла ўсмешка, засвяціліся вочы. Гэтак жа хораша па валасах пабеглі павольныя хвалі. Стала нават паўней, як была.

За праходнымі варотамі Наталя з некім разгаварылася, павярнулася ісці і адразу ж наткнулася на Казіміра.

— Прабачце, траха не збіла вас з ног, — здзіўлена бліснула яна вачыма, папраўдзе збянтэжыўшыся.

Якраз быў выпадак пажартаваць, а гэтым і завязаць гаворку, разам пайсці.

— У жыцці часта нават хочацца, каб хто збіў — не з ног, дык хоць з панталыку, — сказаў Казімір.

— Вашага брата вельмі цяжка збіць з панталыку, — весела падхапіла жарт Наталя.

— Як гэта?

— Бо ў бухгалтара, а тым больш у галоўнага, павінна быць усё дакладна: і разлічана, і пералічана.

— Ваша праўда, — уздыхнуў Казімір. — Вось гэта, мабыць, больш за ўсё і шкодзіць мне.

— Не, гэта, мабыць, вельмі памагае.

— Горкая памылка, Наталя Ігнатаўна. Да таго шкодзіць, што калі нават я каго і пакахаю, то баюся яму сказаць пра гэта.

Наталя ішла вельмі порстка і лёгка, так, што ўвесь час забягала наперад і паварочвалася назад, калі гаварыла з Казімірам. Казімір як бы даганяў яе і ніяк не мог дагнаць. Яна была ў цёмна-зялёным плацці і ў басаножках на загарэлых нагах. Па русых, закінутых назад валасах яе плылі ледзьве значныя хвалі.

— А вы не бойцеся, а скажыце, — павярнулася, нібы чакаючы, Наталя. — І пабачыце, што будзе ўсё проста. А можа, ад вас якраз і чакаюць, каб вы сказалі.

— Ну, дапусцім, каб вам хто сказаў?

— Мне — не трэба, — раптам строга сказала Наталя і нават не павярнулася. — Я гэтага не чакаю... Ну, вось я і дома, бывайце здаровы.

Не паспеў Казімір апамятацца, як Наталя лёгка і порстка ўзбегла на высокі ганак, рыўком адчыніла дзверы і знікла за імі, нават не азірнуўшыся.

2

Як мог зразумець гэтую размову Казімір? Усяляк. То яму здавалася, што гэтая размова павінна крыўдзіць яго: Наталя нават не захацела з ім размаўляць. Яна адразу дала зразумець, што ён ёй не патрэбен. Яна старанілася яго. «Мне — не трэба», — успамінаў ён яе словы, і яму здавалася, што яны былі сказаны нават са злосцю. «Я гэтага не чакаю», — сказала яна, і Казіміру здавалася, што ў гэтым была нават насмешка. Яму ўспаміналася, як Наталя ўвесь час па дарозе вырывалася наперад, і гэта можна было зразумець так, што яна хацела як мага скарэй уцячы ад

яго. «Мне трэба перастаць думаць пра яе, — сам сабе гаварыў Казімір. — Гэта вельмі гадка — надаражацца сабою, калі на цябе нават не хочуць глядзець. Я ж не хлапчанё, і мне павінна быць брыдка. Добра. Кончана. Сустрэну, кіўну галавою — добры дзень — бывайце здаровы — і хопіць. Гэта нават лепш, што так адразу стала ўсё ясна», — думаў Казімір.

То раптам пачынала здавацца зусім наадварот: што Наталя давала яму многа надзеі. Не, можа, гэта не так сказана: не надзеі, а — ну, проста, што ўсё ж яна вылучае яго ад другіх. І як толькі пачынаў сябе так настройваць Казімір, то зусім у іншым святле рысавалася зноў Наталя. І тое, што ў той першы дзень у аддзеле капітальнага будаўніцтва ў яе быў такі задуманы профіль — было нездарма. І тое, што кожны раз пры сустрэчах яна вітаецца з ім неяк асабліва — без усмешкі і як бы з трывогай — і пасля апускае галаву, нібы хочучы кожны раз нешта ў сабе ад гэтага пакінуць, — таксама нешта значыць. Ён зноў успамінаў тую ж размову па дарозе, і цяпер у ёй нічога не было крыўднага, а — наадварот — у ёй было нешта вельмі харошае, чаго на першы погляд можна нават і не заўважыць. От жа спяшалася яна тады, а ўсё ж не пакідала яго: не-не дый павернецца, дый пачакае. «А можа, ад вас якраз і чакаюць, каб вы сказалі», — успамінаў Казімір ужо другія словы, і яны мелі для яго вялікі сэнс. «А вы не бойцеся, а скажыце», — гаварыла яна, і было ясна, што яна ведала, пра што можа сказаць Казімір. Не, яна вельмі харошая, вельмі слаўная. Было б нават смешна, каб яна адразу сказала: «Ах, дарагі Казімір, я так рада!» Гэта было б куды горш, як у раманах. Яна вельмі чыстая, вельмі высокая. «У вас усё павінна быць і разлічана і пералічана», — успамінаў ён і пагаджаўся, што гэта была перасцярога: Наталю магла прыняць толькі шчырасць. Так яно і трэба. Іменна такой ён і бачыць Наталю.

І паступова Наталя запоўніла ўсяго яго. Яна жыла каля яго, разам з ім, умешвалася ў яго думы, ёю была пранізана ўся яго работа. Яна гаварыла з ім, раілася, памагала яго рабоце, поруч сядзела за сталом, побач ішла ў дарозе.

Не, тады ў іх не кончылася гаворка, але яна больш і не патрэбна.

«— Ты бачыш, як нам добра з табою, Наталя, а ты так доўга старанілася мяне, — гаварыў Казімір, у думках ставячы Наталю поруч.

— Мы заўсёды былі разам, Казімір, толькі ты доўга не заўважаў гэтага, — адказвала Наталя.

— Мне здаецца, што я ўсё жыццё шукаў цябе і толькі от цяпер знайшоў. Чаму я раней не прыехаў сюды?

— Можа, якраз раней і не трэба было прыязджаць, — гаварыла Наталя. — Можа, тады ты і не знайшоў бы мяне.

— Чаму, Наталя?

— Я тады яшчэ больш баялася б цябе. Ты бачыў, як доўга я баялася цябе?

— А ты кажаш, што заўсёды была разам са мною?

— Гэта я толькі хацела так. Але я была вельмі нядобрая, Казімір.

— Што ты кажаш, Наталя, пакінь!

— А ты ведаеш, хто я?

— Не ведаю. І не хачу ведаць. Ты самая лепшая, от хто ты. Ты самая патрэбная мне, Наталя. Куды ты ідзеш?.. Пачакай!..»

Мары расплываліся, аставалася ява, і Казімір адчуваў, як калоціцца яго сэрца, бо Наталі не было, было толькі адно яго каханне да яе. І з кожным днём усё большае.

Мара не была падобна на яву, і Казімір пачынаў баяцца явы. Ён стараўся не сустракацца з Наталяй. Але не гаварыць з ёю ён не меў сілы, гэта стала патрэбай яго душы. Ён з ёю спрачаўся, сварыўся, дакараў за бессардэчнасць, гневаўся, абураўся — яна была вораг яму. Ён гаварыў ёй самыя ласкавыя словы, павяраў усе думы свае, расказваў усю сваю тугу, усю радасць, — яна была найбліжэйшым сябрам яго. Толькі Наталі не было, і, каб падмяніць яву, — усё гэта пісаў ён на паперы. Каб гаварыць з ёю — ён схіляўся над лісткамі, астаючыся адзін у свае доўгія вечары.

«— А ты ведаеш, хто я? — пыталася ў яго тая Наталя, з якой ён гаварыў на паперы.

— Не ведаю, — адказваў той, выдуманай, Наталі Казімір. — Але ты самая лепшая, самая патрэбная мне, Наталя. Куды ты ідзеш?.. Пачакай!

— Пачакай, Наталя, — гаварыў выдуманай Наталі Казімір. — Паслухай. Ты ведаеш, што ў кожнага чалавека ёсць патрэба абавязкова раскрыцца перад другім? Без гэтага няма чалавека, без гэтага ён — нішто. І ўсё жыццё ён шукае таго, перад кім будзе мець права паспавядацца. Што гэта — сяброўства, каханне? — не знаю. Рэлігія вельмі хітра скарыстала гэтую патрэбу чалавека раскрывацца перад другім як споведзь. Нават у самых цяжкіх грахах сваіх, нават у злачынствах на споведзі прызнаецца чалавек. І яму тады становіцца лягчэй. Ён нават робіцца тады чысцейшы. Але ж не перад кожным можна рабіць такую спо-

ведзь. Толькі перад тым, у каго верыш больш, як у сябе. Таго, каму хочацца паспавядацца, чалавек шукае ўсё жыццё сваё. А ці ведаеш ты, Наталя, што я кожны дзень гавару з табою, што ўсяго сябе я раскрыў перад табою ўжо даўно...»

Лісткоў, у якіх аставаліся Казіміравы думкі, рабілася ўсё больш і больш. Яны ляжалі ў шуфлядзе яго стала. Казімір ведаў, што ён не аддасць іх Наталі і яна не будзе ведаць ні пра адно яго слова. Тым больш што і Наталя пазбягала яго — гэта бачыў ён ясна.

Аднойчы ішла яна насустрач па вуліцы, і ён добра заўважыў, што, убачыўшы яго, яна завярнула ў першую ж краму.

Але вымушана была яна прынесці акт на подпіс, і Казімір раптам наважыў, што лісткі ён аддасць.

— Адну хвілінку, — сказаў ён і, выняўшы з шуфляды, загарнуў лісткі ў паперу. — Як член рэдкалегіі вы паглядзіце, ці варта чаго мая пісаніна. А пасля мне скажаце. Добра?

— Добра, — адказала Наталя, кладучы пакецік у тарбэльку.

— Толькі абавязкова скажаце мне, — трывожна зірнуў у вочы Казімір.

— Ну, а як жа — абавязкова, — сказала яна сваім страгаватым голасам. — Нават аберагу тайну аўтарства, — пажартавала яна з той жа строгасцю і пайшла сваёй лёгкай і порсткай хадою.

Але ні заўтра, ні пазаўтра і ні разу пасля Наталя не напомніла пра лісткі. Яны сталі толькі лягчэй сустракацца — віталіся і нават маглі сказаць адно аднаму які жарт. Але пра лісткі маўчалі. Так, як бы Казімір не даваў, а Наталя не брала іх.

Можа, яна не чытала? Можа, забылася пра іх?

Неяк раз ён знарок пачакаў, пакуль яна выйдзе пасля работы. Яна выйшла запознена і здзівілася, убачыўшы яго, але твар яе на імгненне засвяціўся.

— Трошкі запазнілася, канчала чарцёж, — сказала яна, нібы ведаючы, што ён чакаў яе.

Яны пайшлі па заводскай вуліцы, абсаджанай маладымі прысадамі.

— Вы бачыце — восень. І лісты пачынаюць падаць. Праўда, хораша? Цяпер бы ў лес, на паляванне.

— Хіба любіце?

— А як жа... Не, але я не пра тое, Наталя Ігнатаўна. Вы хоць што-небудзь мне павінны сказаць.

Наталя нахмурыла бровы. Зірнула сабе пад ногі і так прайшла некалькі крокаў. Яна ведала, пра што пытаецца Казімір.

— Я не магу нічога вам сказаць, Казімір Антонавіч.

— Вы павінны сказаць. Хоць бы тое, каб я больш не трывожыў вас.

— Не магу. Нічога не скажу. Вы не зразумееце мяне.

3

Наталя прачытала лісткі таго ж вечара. Не, нават днём прачытала яна іх. Прыйшла да сябе ў аддзел, разгарнула пакецік і на першых жа словах зразумела, што гэта не газетны допіс. Яна пачула, як шчакам яе стала горача, і азірнулася — ці не глядзяць на яе. Сэрца застукала моцна, так, што здавалася, нават чуюць другія. Яна прачытала толькі некалькі радкоў і больш не адважылася: гэта можна будзе чытаць толькі тады, калі нікога не будзе. Але яна ўсё зразумела. Яна сама даўно чакала гэтага. Чакала і — баялася.

Дома яна прачытала ўсё адным духам, і здалося, што ўсё гэта яшчэ няпраўда. Прачытала яшчэ раз і задумалася. Ужо змрокі ляглі на вуліцы, у пакоі стала цёмна, а Наталя сядзела ўсё ў тым жа крэсле, апусціўшы галаву ў рукі. Калі падняла галаву, на вуліцы гарэў ліхтар, бледнае святло яго клалася на падлогу, вырысоўваючы квадрат акна. Гэтае святло лілося на Наталіны плечы, слаба іскрылася ў валасах. Як зганяючы сон, Наталя пагладзіла лоб і папівала галавою туды-сюды, туды-сюды, так, як ківаюць, калі хочуць сказаць — не!

Не, не магла яна зрабіць гэтага.

У пасцелі ўжо яна зноў прачытала ўсё спачатку. І калі пагасіла святло — старалася сказаць Казіміру, чаму не можа прыняць яго ўвагі. Яна таксама размаўляла з ім. Ён таксама быў поруч з ёю. Ёй было вельмі добра, што ён быў поруч, але яна баялася яго. Шчырасць? Як яна верыла ў яе, але ж от паламалася ў яе гэтая вера. «Ты ведаеш, што ў кожнага чалавека ёсць патрэба абавязкова раскрыцца перад другім», — успамінала яна прачытаныя радкі. «Ведаю, — адказвала яна, — а мне хіба не хочацца гэтага? Толькі я зняверылася, Казімір, і мне цяпер вельмі цяжка адкрыць сябе. І як жа адкрыешся, калі ёсць нешта такое, што цяжэй за грэх, — сваё сумленне. Калі яго нельга раскрыць, бо самой гэта страшна. Лепш пакінь мяне, Казімір. Я баюся сама сябе, баюся цябе, баюся ўсяго таго, што называецца сям'ёй. Ты ведаеш, што ў мяне была дачка, Казімір? От бачыш, не ведаеш. А ці ведаеш ты, што я нават не знаю, ці жывая яна? Як жа я магу адкрыцца табе, што я такая маці? Дык от жа слухай. Я кахала яго, але вельмі скора дазналася, што наша жыццё не ўдалося.

Чаму? Я не вінавата ў тым, Казімір. Я кахала, як сляпая, уся, без астатку, бо не ўмею дзяліць сябе папалам. І вось аднойчы ён вельмі пакрыўдзіў мяне. Ён прыйшоў п'яны і выцер губы чужой жаночай хустачкай. Я нічога не сказала яму, бо не верыць не ўмела. А пасля да мяне прыйшла жанчына і сказала, што я адабрала ў яе мужа. Што ў іх ёсць дзіця і цяпер яно будзе без бацькі. Яны пажаніліся яшчэ ў інстытуце, але яна была недзе доўга на практыцы. І ў мяне было дзіця, Казімір. Я сказала жанчыне, што мужа вярну ёй. Я забрала Людачку і пайшла да маткі. Ён прасіў вярнуцца, кляўся, бажыўся, але верыць больш я ўжо не магла. Я ненавідзела яго гэтак жа шчыра, без астатку, як без астатку кахала. Ён больш не існаваў для мяне: ён выгараў у сэрцы разам з болем крыўды і ганьбы. З таго часу згарэла ў мяне і вера, Казімір. Я стала баяцца людзей, стараніцца іх ласкі, каб не ведаць, што ў свеце апроч шчырасці ёсць і мярзота.

Я баялася, каб не адзічэць, Казімір, і кінулася ў работу. Пакінуўшы Людачку на маму, я паехала з экспедыцыяй на праектаванне гарадоў. Гэта ж мая любімая работа — мензула, нівелір, планшэт, калька і прасторы зямлі, запісаныя на паперу лініямі і матэматычнымі знакамі. Рабіла я гэта яшчэ і таму, што хацела, каб не бачыць яго. І тут, мабыць, была другая мая памылка: я страціла сям'ю. Пачалася вайна, экспедыцыя распалася, дадому вярнуцца я ўжо не магла.

Каб не астацца пры немцах, маці пусцілася ў эвакуацыю. Яна спадзявалася знайсці мяне, везла мне Людачку. Але яна загінула па дарозе, Казімір, ад самалётных расстрэлаў. Вось бачыш — калі загінула разам з ёю і Людачка, дык я нават не ведаю, дзе яна пахавана. Я не хачу ў гэта верыць. Мне трэба яшчэ знайсці яго, бо я ведаю, што ён часта бываў у мамы, можа, ён і папраўдзе любіў дачку. Не можа быць, каб ён не ведаў пра яе, але яго я шукаць не магу. Гэта вышэй за мае сілы.

Дык вось ты бачыш, якая я, Казімір? Ты бачыш, якая я маці? Мне пра гэта нельга сказаць не толькі табе, мне пра гэта страшна сазнацца нават самой. Ты мяне адразу знелюбіў бы за гэта. Не, Казімір, на споведзі гавораць не ўсё.

Можа, ты падслухаў, што мне таксама цяжка адной, але ж я не магу прыняць цябе. Дорага заплаціла я за веру сваю і баюся, што больш не буду такой, як была. Я буду азірацца, буду насцерагацца — гэта будзе пакута і мне і табе. Я буду ашукваць, бо буду не ўся з табою, а я так не ўмею, Казімір.

Дзякую, што ты абудзіў у мне добрыя чалавечыя хваляванні, але я не магу працягнуць табе рукі. І я нічога не раскажу табе,

не трэба. Навошта, каб ты знаў, што я не варта таго, каб ты кахаў мяне».

Толькі пад раніцу заснула Наталя, ведаючы, што Казіміру яна можа сказаць толькі адзінае слова — «не!».

4

Гадзіне а дзевятай Казімір варочаўся з партвучобы. Дарога ад гаркама да завода была даволі доўгая. Казімір не сеў на аўтобус — захацелася прайсці, абдумаць новыя акалічнасці ў сваім жыцці. Настрой быў дваякі: было ў ім трошкі тугі і была тая радасная трывога, якая заўсёды апаноўвае чалавека, калі перад ім адкрываюцца новыя далячыні.

Глаўк прыслаў ліст, у якім прасіў, каб Казімір вылучыў кандыдатуру на пасаду галоўнага бухгалтара, бо ў вызваленым Бабруйску трэба аднаўляць работу на заводзе і яму, Казіміру, трэба будзе вярнуцца туды. Казіміру было сумна, бо ён тут здружыўся з народам, прывык да яго, і цяпер не хацелася пакідаць і гэтых мілых дзяўчатак, якіх ён панавучваў сапраўднай рабоце, і свае канторы, і свайго стала з прывычнаю лямпаю на ім, з паперамі то на подпіс, то для адказу, то для тэрміновага выканання. Усё гэта стала блізкім, патрэбным, звязаным кроўна з заводам, з яго жыццём, якое дыктавалася таксама патрэбамі фронту. Шкода стала пакідаць дырэктара, інжынераў, начальнікаў цэхаў, з якімі не раз прыходзілася і сварыцца і мірыцца, як гэта заўсёды бывае ў дачыненнях галоўбухаў і гаспадарнікаў.

Шкода было рабочага Карымава, што аднойчы ледзь не папусціў у Казіміра яго ж прэсам, калі ў касе доўга не было грошай на заработную плату. Шкода было пакідаць Наталю...

У гэтай плыні думак была туга. Радасна і трывожна было, наадварот, ад таго, што ён вернецца на свой завод. У думках ён бачыў, як пад'язджае да Бабруйска, прыглядаецца да яго абрысаў, як пазнае і не пазнае яго. Вось знаёмыя вуліцы, дамы, плошчы, і хочацца ўбачыць і пазнаць людзей. І вось завод з яго карпусамі — галоўным, вапнавым, механічным, са складамі гатовай прадукцыі — высокімі круглымі цыстэрнамі, да якіх па эстакадах праз увесь двор ад галоўнага корпуса цягнуцца металічныя трубаправоды. Вось корпус заводакіраўніцтва, кабінет дырэктара, кантора бухгалтэрыі, планавага аддзела, аддзела забеспячэння і збыту. Розумам Казімір знае, што там цяпер можа быць усё не тое, але ён уяўляе і таго ж дырэктара, які выходзіць аж з-за стала, каб прывітацца і абняць яго, і

таго ж галоўнага інжынера, маўклівага, з бародкай чалавека, і начальнікаў аддзелаў, і лабарантаў. У бухгалтэрыі стаяць тыя ж сталы, тыя ж картатэкі, і ён чуе шоргат арыфмометра. Да яго ў кабінет заходзіць яго ж намеснік Уладзімір Бернасевіч; высокі, кучаравы, ён усміхаецца сваёй вечна здзіўленай усмешкай і працягвае руку. «А божа мой! — кажа Бернасевіч, здзіўлена падымаючы бровы. — Колькі ж гадоў мы не бачыліся, ну як жа маешся, дзе быў?»

Казімір пацепвае плячыма і толькі цяпер заўважае, што гэта ад холаду. Ноч. Не вельмі густа гараць ліхтары, кладучы на вуліцу плямы святла, больш ясныя, толькі каля самых слупоў і вельмі бляклыя, перамешаныя з туманом наводдаль. Азіяцкая зіма, дзе снег толькі для прыклёпу выпадзе ўночы, каб раскіснуць у туман і зрабіць зямлю сырой, волкай, упляскаць у яе паасыпаныя лісты. Нядобрая, азызлая зіма, і не мароз, а вось гэтая тумановая слата прабіраецца аж да касцей. Толькі схамянуўшыся ад дум, Казімір папраўдзе чуе, што яго працінае гэтая волкая сырасць і на спіне ные параненая асколкам снарада лапатка. Яшчэ не так позна, а тут, на гэтай далёкай вуліцы, ужо мала людзей. Калі хто пройдзе — падэшвы доўга чмякаюць па абмакрэлым тратуары. Не паспеўшы апасці, амярцвелыя лісты акацыі здаюцца павырэзванымі з іржавай бляхі: на іх бледна пабліскваюць кропелькі расы. Сяды-тады яны падаюць на тратуар, на плечы.

У глаўк Казімір даў рэкамендацыю. На пасаду галоўнага бухгалтара ён параіў прызначыць Азізава, які вярнуўся з фронту без нагі. Заўтра ён пачне паціху перадаваць яму справы. У намеснікі няхай сабе возьме Шуру Дзядову — дзяўчына вельмі варта таго, каб яе павышаць. Трэба будзе сяго-таго, вядома, пераставіць. Ну ды цяпер лёгка — на групу па зарплаце таксама вярнуўся франтавік...

Словам, Казімір жыў ужо новым жыццём. Бадай што год прайшоў непрыметна. Цяпер ён адчуваў сябе, як госць, якому і пагасцяваць яшчэ хацелася б, і дадому трэба спяшацца. Але, як яму здавалася, у яго яшчэ многа асталося ўсялякай недаробленай работы — дзе што пачатае аформіць, дзе паказаць, дзе расказаць, дзе параіць, як павінна ісці далей. Ад гэтых сваіх новых дум ён прыбавіў хады і на паваротцы, нават не задумаўшыся, павярнуў на завод. Ён пасядзіць там у цішыні і цяпле. Падпіша банкаўскія дакументы на заўтра, якія, ён ведае, падрыхтавалі і палажылі яму на стол. Прагледзіць і падпіша баланс, калькуляцыі, усе формы

гадавой справаздачы, якую толькі паспелі закончыць і якую ён сам жа павязе ў глаўк.

Але ва ўсіх гэтых клопатах і думах увесь час жыло пачуццё нейкай нявырашанай трывогі. І ў адчуванні добрай развітальнай тугі, і ў яўленні новай будучай дзейнасці, якой ён пачынаў поўніцца загадзя, увесь час жыла Наталя.

Дзе і чым цяпер занята яна? Спіць? Чытае кнігу? Адна? А ці адна? Ну што ж, можа, і не адна. І нават напэўна, што не адна. Але ж гэта справа яе — яна сама сабе гаспадыня. От развітаюся, і — быдта нічога і не было. Быдта і не сустракаўся. Толькі трохі сорамна — лісткі гэтыя. Навошта было пісаць іх? Навошта перадаваць? Як хлапчук які. І чаму ўсё ж не адказала?

І раптам Казіміру захацелася пайсці і развітацца з Наталяй. Каб не думала, што ён на яе гневаецца. Ён жа нічым не пакрыўдзіў яе, і няхай астанецца ў яе добрая памяць аб ім.

Казімір павярнуў назад, але чым бліжэй падыходзіў да таго дома з высокім ганкам, тым больш брала сумняванне: а ці добра ён робіць? «Навошта дэманстрацыя, — думаў ён, — я ж магу развітацца і на рабоце. Яшчэ не раз пабачуся. Тым больш што ўжо ноч. А яна падумае бог ведае што».

Крокаў колькі не дайшоўшы да дома, Казімір павярнуўся і рашуча пайшоў на завод. Ад такога яснага рашэння стала спакойна на душы. «Не забыць праверыць, ці падрыхтавалі дакументы на пазыку пад гатовую прадукцыю», — думаў Казімір, уяўляючы, як зараз зойдзе ў кабінет, сядзе за свой стол, закурыць, сагрэецца.

Гулка прайшоў Казімір па пустым калідоры, асветленым ад беражлівасці адной цьмянай лямпачкай. Каля аддзела капітальнага будаўніцтва ён спыніўся. Так, нічога не думаючы, націснуў на дзверы, і яны адчыніліся. Ён спыніўся ўражаны: за сваім сталом, пад высокай чарцёжнай лямпай, угнуўшыся, сядзела Наталя, і плечы яе ўздрыгвалі. Яна плакала.

— Што з вамі, Наталя? Што сталася? Можа, якое няшчасце? — пытаўся Казімір, нагінаючыся і кранаючыся яе плеч.

Наталя падняла твар, мокры, гарачы і зусім не такі, як прывык бачыць Казімір, — бездапаможны, пакорлівы.

— Нічога, — сказала яна, шукаючы хустачкі — то ў рукаво, то па грудзях за блузкай. — Мне вельмі цяжка.

— Вас пакрыўдзілі? У вас непрыемнасці? Дома ці на рабоце?

Наталя кіўнула галавою — «не».

— Цяжка, — паўтарыла яна. — У мяне была сям’я. І нікога няма. Нікога не асталося. Няхай бы хоць дзеці былі ў мяне. Няхай бы была ў мяне дачка...

Казімір сціснуў Наталіну руку і пацалаваў яе. Потым стаў цалаваць лоб, скроні, губы, мокрыя і салёныя ад слёз.

## ЧАСЦІНА ТРЭЦЯЯ

### 1

Наталя зрабіла памылку, не сказаўшы Казіміру, што у яе была дачка. Быў муж, ды няма яго, хіба мала параскідала людзей вайна, папакідала жанчын удовамі? Цяпер няма ў яе мужа. І няма чаго пра гэта ўспамінаць.

— Нам трэба жыць спачатку, Казімір, — сказала яна. — Берагаць тое, што належыць нам. А тое, што прайшло, — гэта не наша, і нам пра яго ніколі не трэба ўспамінаць. Добра?

Так пражыла Наталя дванаццаць год.

### 2

Не толькі шчаслівай, а самай шчаслівай лічыла сябе Наталя. Гэтае шчасце вымяралася не тым, што ў сям'і быў дастатак, што не было сварак, п'янства, разбэшчанасці. Шчасце было ў тым, што яны былі вельмі патрэбны адно аднаму, што патрэбен быў клопат, рупесак, што ва ўсім адчувалася вера, спагада, нешта такое, чым запоўнена ўсё жыццё.

Казімір, тады ж пераехаўшы на свой завод, працаваў на ім, заўсёды захапляючыся і любячы яго. Часамі глаўк пасылаў яго на рэвізію на другія заводы: у Канск, у Таўду, у Лысьву. Наталя нават гэтыя паездкі любіла, бо Казімір прыязджаў з іх нейкі новы, яшчэ больш любы ёй.

Адчуванне поўнай сямейнай удачы давалі таксама дзеці: Стасіку ішоў дзесяты год, Святланцы — восьмы. Наталя любіла іх выпраўляць у школу, пра кожнага непакоячыся, кожнага аглядаючы, а пасля чакаць — з хвіліны на хвіліну, з хвіліны на хвіліну, — аж пакуль не паяўляліся яны ў дзвярах, прыносячы з сабою шум, гаману, свае дзіцячыя клопаты. Любіла чакаць Казіміра, каб тут ужо сесці разам, паабедаць, пагаварыць пра ўсе тыя справы, якімі як бы падводзіцца пэўная рыса дня.

— Ты пад'еў? — звычайна пыталася Наталя.

— Госпадзі, ну а як жа.

— А можа, яшчэ шкляначку кампоту?

— Ды што ты, не магу.

— Ну ідзі адпачні.

Выпадалі вечары, поўныя нейкай асаблівай хатняй утульнасці, і Наталі хацелася ўспомніць і нанава перабраць усё самае лепшае, што ляжала ў закутках памяці.

— Не, як гэта магло здарыцца, што ты прыехаў і от мы сустрэліся? — гаварыла Наталя, хочучы пабыць хоць хвіліну там, у сваіх успамінах.

— А ты ж мудравала — памятаеш? — знарок хочучы, каб ахвотней хадзілася па далёкіх сцежках памяці, жартаўліва падцвельваў Наталю Казімір.

— Не, мудрошчаў там ніякіх не было, — не хацела вароч-ваць у гэты завулак Наталя.

— Чакай, — Казіміру таксама захацелася высветліць некаторыя акалічнасці. — А калі ўсё ж ты заўважыла мяне? Я дык адразу — як убачыў цябе ў тваім кутку. Ты нават воч тады не падняла.

— Не падняла, а ўсё роўна ўсё бачыла. Як ты доўга глядзеў на мяне — бачыла. Лепш кажучы, я гэта проста адчувала.

— Ну, добра. А от чаму ўсё-такі на тыя лісткі не хацела адказаць?

— Я баялася, Казімір. Мне думалася, што ўсе, усе вы, мужчыны... вельмі нядобрыя.

— І каб я тады не зайшоў да цябе ўвечары, то так бы мы і раз’ехаліся, праўда ж?

— От, можа, таму я і плакала. Але ў мяне ўжо ўсё было надумана. Я сама ў сабе ўсё перажыла. І ведаеш, хто памог мне?

— Хто?

— Памятаеш Ніну, дырэктараву сакратарку, кучаравая такая, поўная? Яна.

— Як жа гэта?

— Яна расказала мне, як каля цябе ўвіхалася: у кіно вадзіла, у госці да сябе запрашала. Старалася. Было гэта?

— Было, — сазнаваўся Казімір. — Бо да цябе ж не і даступіцца было.

— Ну от я і надумала. «Ах, так! — сказала я сабе, — не аддам жа! Не дачакаешся!» Так што твая Нінка памагла мне.

Казімір рагатаў. Нават жартам гаворачы «твая Нінка», Наталя натапырвалася, у вачах пабліскваў гнеўны агеньчык. Гэта нават падабалася Казіміру.

І калі ўспаміны затухалі, і калі гэтымі ўспамінамі як бы зноў абнаўлялася і абмалоджвалася жыццё, радая, поўная шчасця, Наталя гаварыла:

— Я нават не ўяўляю, як гэта магла б жыць без цябе. Як гэта магло б быць, каб мы былі чужыя або не ведалі б адно аднаго. Не магу нават гэтага думаць.

І потым, як бы ставячы зноў усё на сваё месца пасля таго, як усё было прагледжана і перабрана, гаварыла:

— Колькі я ні гляджу на другіх, то ўсё роўна ў іх не так, як у нас, Казімір. Мне здаецца, што ў нас лепш за ўсіх. Лепш за ўсіх, Казімір, а?

3

Але гэта была адна старана Наталінага жыцця. Другой стараны жыцця Наталя не паказвала нікому, нават ад самой сябе хавала яе. Гэтай другой стараной жыцця была дачка.

Першыя часы Наталя была ўпэўнена, што дачка ў яе загінула разам з маткаю. У гэтым было хоць нейкае лагічнае супакаенне. Але думкі не спыняліся на гэтым. Думкі пыталіся ў Наталі — а ці добрая ты маці, што ты не ўпэўнена ў гэтым, бо ты нават не ведаеш, дзе і як пахавана твая дачка? Тады пачыналіся сумняванні. І сумняванні падмацоўваліся тымі акалічнасцямі, што паблізу маткі мог жа быць і ён. Яна ведала, што ён вельмі часта заходзіў праведаць дачку. Ён такі любіў яе. Ён прыносіў ёй цацкі, прысмакі. То ці мог тады ён у апошнюю хвіліну пакінуць іх? І ці абавязкова, каб разам з маткаю загінула і дачка? А можа, яна дзе асталася на людзях? Можа, нават дзе ён падабраў яе?

Тады, на першым часе, яна атрымала пісьмо ад жанчыны, з якой ехала маці, і тая пісала, што са старымі пахавалі многа і дзяцей. Гэта засланіла тады ўсё, напоўніўшы яе адчаем, пачуццём абыякавасці, крыўды на свой лёс аж да таго, што ёй не хацелася нікому нават падаць пра сябе голасу. Што сказаць ім, чым пахваліцца, хіба сваімі няшчасцямі? Не, лепш няхай ніхто нічога не ведае пра яе. Але з часам, як пачалі тачыць сумняванні, яна жахнулася сама, што так зрабіла. Ёй цяпер было душна і цесна, страшна перад сабою, перад усім светам, перад Казімірам.

Як толькі Наталя пакахала Казіміра, яна не сказала яму пра сваю сям'ю. Не сказала, па-першае, таму, што не хацела расказваць пра свой боль і абразу, пра тое, што нехта так злосна пакрыўдзіў яе. Ёй было брыдка гаварыць пра гэта. Гордасць — таксама жаночае хараство. На тым жыцці яна паставіла крыж і не захацела ўспамінаць пра яго. Няхай лепш Казімір думае, што так, як і ўсе, яна была шчаслівая і што гэтае шчасце забрала вайна. Гэта была першая памылка. Не сказала, па-другое, таму,

што, страціўшы раз веру ў чалавечую праўду, гэтак жа баялася і Казіміра, доўга не давяраючы яму свае душы. Не сказала яшчэ і таму, што, закрэсліўшы жыццё сваё з тым, не хацела, каб яно лажылася ценем на іх з Казімірам жыццё. Яна аберагала гэтае жыццё як магла. І па меры таго як усё часцей і часцей прыходзіла вера ў тое, што недзе можа жыць дачка, станавілася ўсё цяжэй і цяжэй сказаць пра гэта Казіміру. Бо ён павінен быў ведаць пра гэта з першага дня. Значыць, прыходзілася таіць усё гэта толькі ў сабе.

І з часам, прыходзячы дахаты, усё часцей пачынаў заўважаць Казімір нешта вельмі незнаёмае ў Наталі: засмучаны твар, сляды душэўнай трывогі, часамі сляды нядаўніх, старанна выцертых слёз. Бывала, што Наталя плакала над прачытанай кнігай або ў кіно.

— Што з табою, Наталя, ты нешта перажываеш? — пытаўся тады Казімір.

— Я не магу, калі дзе паказваюць маленькіх дзяцей ці сірат. Мне гэта цяжка, Казімір. Ты не вадзі мяне на такія карціны.

Аднойчы ўсе яны былі дома, збіраліся папалуднаваць, як на ніжнім паверсе ў калідоры пачуўся немы дзіцячы крык. Дзіця крычала высока, рэзка, захлібіста, няйначай, як з ім было нейкае няшчасце. Наталя кінулася ў дзверы, адным махам зляцела па ўсходах уніз, і праз момант ужо чуваць было, як яна з некім сварылася: нехта адказваў ёй глуха, нехаця, але злосна, а плач заціх, відаць, дзіця завялі ў кватэру. Вярнуўшыся, Наталя ўся дрыжала.

— Што такое? — пытаўся трывожна Казімір.

— Звяры! Звяры, а не людзі, — задыхаючыся, гаварыла Наталя. — Дзяўчынка гуляла на дварэ, а Зямніцкая выскачыла, схапіла за валасы і пачала біць, госпадзі, як біла, што дзіця аж пасінела. Той пара было збірацца ў школу, а яна загулялася. Толькі падумаць! Ты разумееш, яна ёй не родная — мачыха! — дык от са свету гатова збыць. Не, гэтага я так не пакіну, я пайду ў суд, я... Каб ты толькі чуў: я палажыла яе ў пасцель, а яна ўсё ўсхліпвае: або ўцяку, або жыць не буду. Да чаго давялі дзіця! Яно ж вырасце з пакалечанаю душою.

Наталя адчувала сябе як злачынец. Перад кім? Перад сабою, перад памяццю дачкі, перад Казімірам — яна не ўсведамляла. Можа, перад усімі разам на свеце. Але ёй было ўсё цяжэй і цяжэй насіць гэтую кару ў сабе самой.

«У кожнага чалавека ёсць патрэба абавязкова раскрыцца перад другім», — успамінала Наталя некалі сказаныя Казімірам

словы. «А калі ёсць нешта такое, што цяжэй за грэх, — сваё сумленне, і ў ім нават перад сабою цяжка сазнацца?» — успамінала Наталя свае думкі. Яна адчувала, што тая памылка яе прывяла да самага страшнага — да адзіноты, калі ты хаваеш сябе ад другіх.

«Не, спавядацца трэба да канца, — думала Наталя. — А іначай гэта будзе доўгая, вечная кара».

4

Не заўважаючы таго, што яна ашуквае не толькі Казіміра, а ашуквае нават сябе, Наталя гаварыла:

— Мы з табою проста злачынцы, Казімір. Жывём, як хутаранцы ці як адшчапенцы. Замкнуліся ў сабе і нават не ведаем — а можа, у нас дзе якая і радня асталася.

— У мяне нікога не асталося, Наталя, я гэта ведаю. А ў цябе калі ёсць, то даўно пара пашукаць.

— У першыя часы я пісала ўсюды, але нідзе нікога не аказалася. Ну, але ж...

— От іменна — людзі былі параскіданы па ўсім свеце. А цяпер жа... абавязкова трэба зноў пашукаць. А можа, і цябе дзе хто чакае.

Наталя ажывілася. Яна атрымала нібы афіцыйны дазвол заглянуць у сваё мінулае. Але дзе шукаць яго? Гэта ж далёкае юнацтва. Гады маглі даўно перайначыць лёс кожнага, кожнаму даць свой шлях, сваё месца. Сябровак яна, вядома, не знойдзе. Родных? Хто ж мог астацца? Хіба адна толькі цётка Мальвіна.

Наталя добра разумела, што толькі цётка Мальвіна ёй і патрэбна, бо толькі яна магла знаць пра яго. Цётка Мальвіна любіла Наталю вельмі і, вярнуўшыся з фронту, куды пайшла санітарыць з першых дзён вайны, не магла не шукаць яе. І, напэўна ж, магла шукаць і праз яго. Калі б Наталя знайшла яе, то тады нарэшце стала б спакойнай.

«Дарагая, мілая цётка Мальвіна! Каб ты ведала, як мне хочацца бачыць цябе. Табе — я ўсё, усё расказала б. Ты мяне зразумела б адразу, я гэта ведаю. Я ніколі нічога не таіла ад цябе. Дзе ты цяпер? Ты ніколі не мела свайго сталага месца — з дзядзькам Прахорам вы вечна падарожнічалі па краіне з канца ў канец, то на новыя будоўлі, то на новыя пошукі, — і я не вінавата, што дасюль не магла знайсці цябе. А праз другіх я шукаць цябе не хацела, бо ўсё баялася, каб не наткнуцца на яго. Я не хачу, каб ён ведаў пра мяне. Калі ён жывы, то няхай лепш думае, што я

загінула, — я не дам яму знаць пра сябе нізавошта. Ты за гэта занадта не сварыся на мяне, дарагая цётка Мальвіна».

Час ад часу Наталя прыгадвала, дзе быў у яе хто блізкі, пісала ім — хто маўчаў, хто адказваў, але гэтыя адказы не цікавілі яе. У іх былі пабочныя, вельмі далёкія ад яе інтарэсы: той памёр, той ажаніўся, тыя недзе раз'ехаліся па свеце. І толькі. Спакойныя паведамленні, у якіх няма ні жывых пачуццяў, ні хваляванняў. Наталя рвала гэтыя лісты з адчуваннем нейкай прыкрай злосці, — яны толькі палохаюць яе, толькі непатрэбна вярэдзяць спадзяванні.

Успомніла Наталя яшчэ адзін адрас, зусім безнадзейны: недзе ў Кашыне жыла далёкая радня дзядзькі Прахора — старэнькая цётка Маня. Цётка Маня помнілася Наталі па сваёй звяглівай дабраце, па старэчай прыдзірлівай строгасці, па куфрах, акаваных палоскамі жалеза, у якіх было поўна таго дабра, якое даўно выйшла з ужытку і моды, але якое звычайна берагуць для нашчадкаў. У такіх куфрах звычайна ляжыць і папера, з якой нашчадкі павінны будуць даведацца, што каму адказана з гэтага дабра. Ці жыва яна, цётка Маня? Госпадзі, цеперся гэта было — дзе ж ёй жыць! Але захацелася, каб сумленне хоць тут было чыстае да канца, — Наталя напісала і ёй.

І от — так жа бывае! — неўзабаве Наталя атрымала два лісты.

## 5

Была нядзеля. Сонечны, добры дзень ранняй восені. Седзячы на канапе ля нізенькага століка, Казімір чытаў газеты. Дзеці гулялі на вуліцы. У Наталі, як звычайна ў гаспадыні ў святочны дзень, было безліч дробнага клопату: то заслаць, то прыбраць, то выцерці пыл, то падумаць, што згатаваць паесці. Тым больш што збіраліся ўсёй сям'ёй схадзіць на Бярэзіну і трэба было нарыхтаваць чаго ўзяць з сабою. На ўвесь дзень.

— Можа, я што памог бы табе? Ты скажы, гэта ж будзе скарэй, — як заўсёды адчуваючы сябе няёмка, калі бачыў, што не можа чым-небудзь карысным заняцца, гаварыў Казімір.

— Адпачывай. Упраўлюся, паспеем.

У дзвярах зазваніў званок. Наталя адчыніла, сказала некаму «дзякуй», тут жа вярнулася з двума лістамі ў руках і, бледная, села на канапу.

Пісала цётка Маня. Божа мой, — жывая, хто б мог падумаць! Наталя чытала вельмі скоранька, прабягала міма ўсё непатрэбных, усё непатрэбных слоў: рада, што знайшлася, чаму так доўга

маўчала... якава ў цябе сям'я, я ўжо зусім старая, жыву пры ўнучцы... Нарэшце, вось і патрэбнае: цётка Мальвіна з дзядзькам Прахорам цяпер у Яраслаўлі, доўга іх не было чуваць... Цётка Мальвіна не раз па табе плакала, я ёй зараз жа пра цябе дам тэлеграму...

У Наталі дрыжалі рукі — другі ліст быў ад цёткі Мальвіны. Гэта яна пазнала адразу невядома па чым — можа, па сваім хваляванні. І па гэтых першых словах: «Дарагая мая Наталька, дзе ж ты была?..»

Вось гэта і было ўсё, чаго чакала Наталя. Твар яе гарэў, губы яна прыкусіла, каб не заплакаць. Усё-ўсё, кожнае слова тут было патрэбнае. «Не магла знайсці, бо ў цябе ж, выходзіць, новае прозвішча... Але ж ніколі не верылася, што ты магла загінуць... А цяпер скажу пра самае галоўнае для цябе — ці ведаеш ты, што Людачка твая жывая. Як магла ты зрабіць, каб дачка нічога не ведала пра цябе?..»

Наталя ўскрыкнула тым страшным голасам, якім могуць крычаць толькі маткі па сваіх дзецях, і закрыла твар рукамі, захлібнуўшыся ў рыданні.

Казімір толькі цяпер заўважыў на Наталіных каленях лісты.

Ад нечаканасці ён не паспеў апамятацца і толькі бачыў, як брызнулі між пальцаў Наталіных слёзы і сутаргава закалаціліся плечы.

— Што з табою? — разгублена папытаўся ён.

Наталя выхапіла з рукава хустачку, выцерла слёзы і, усхліпваючы і рыдаючы, зноў прыпала да ліста. Яна чытала, не перастаючы плакаць; слёзы цяклі па шчаках, аблівалі губы і падалі на ліст. Хустачка тут жа стала мокрая, яна не высушвала шчок, а толькі развозіла слёзы па твары. «Божа мой!» — ускрыквала Наталя і тут жа хапалася чытаць ліст далей.

— Што з табою, Наталя?

Але Наталя не чула, пра што пытаецца ў яе Казімір. Яна не бачыла нават ліста. Нейкім новым, невядомым ёй пачуццём яна як бы ўгадвала ўсё тое, што ў ім напісана... «Ён не сышоўся з той першай жанчынай — ажаніўся нанава. Я не ведаю, добрая яна ці благая, можа, яна найлепшая, хоць гэта бывае рэдка, але ж ты разумееш, як дзіцяці цяжка адно тое, што ў яго няма роднае маткі. Горш за ўсё, што Людачка не ведае людскіх трагедый і не ведае, як думаць пра цябе: хто ты ёй, ці была ты ў яе і як пакінула яе... Ён яе вельмі любіць, мабыць, сам адчуваючы перад ёю сваю віну... Ёй пятнаццаць гадоў, а яна ні разу не ад-

чула матчынай ласкі. Ёй сказалі, што маткі ў яе няма, але сваім дзіцячым чыстым сэрцам яна не верыць у гэта і спадзяецца, што яшчэ цябе знойдзе. Я сказала ёй, што ў яе была самая лепшая маці на свеце. Я старалася зрабіць так, каб яна ніколі нічым не магла папікнуць цябе...»

Рыданні душылі Наталю. Яна ўпала тварам у калені, заціснуўшы ў руках мокры пакамечаны ліст, і плечы яе калаціліся так, што Казіміру зрабілася страшна.

— Наталя, Наталька, што такое, скажы! Што з табою, скажы, Наталя! — сціскаючы плечы рукамі, сіліўся супакоіць яе Казімір.

У страшэнным горы і адчаі Наталя паўтарала толькі «божа мой!», яшчэ больш пужаючы Казіміра. Ён не ведаў, што рабіць, што падумаць, чым памагчы, адчуваючы толькі адно: што здарылася нейкае непапраўнае няшчасце.

Нарэшце Наталя падняла твар, і Казімір не пазнаў яго. Так выглядаюць толькі пасля страшэнных, нечалавечых пакут.

— Казімір, — сказала Наталя, мяшаючы з рыданнямі словы. — Я нічога не казала табе, хацела, каб ты быў спакойны: у мяне ёсць дачка.

— Як так? — здзіўлена папытаўся Казімір.

— Я хацела, каб табе было добра, каб ты нічым не мог папракнуць мяне, — гаварыла Наталя. — Я нават не ведала, што яна жывая.

— Што ты кажаш? — яшчэ больш здзівіўся Казімір. Ён устаў. Ён не паспеў яшчэ разабрацца ў гэтай нечаканасці і не верыў сабе — ці праўда гэта?

Першае адчуванне было тое, што ён уявіў маленькае, кінутае дзіця, і ў гэтым было нешта нядобрае, грэшнае. Але тут жа ён зразумеў, што гэта звязана з Наталяй, і яму стала непрыемна і балюча. Не паспела акрэсліцца гэтае адчуванне, як узнікла новае: што ўсё гэта звязана з ім. Чаму Наталя зрабіла так, чаму дасюль не сказала? Не верыла? Баялася? То хто ж ён ёй такі? То ці ж можа быць каханне, калі няма веры? Як гэта нядобра і крыўдна. Незаслужана яго зняважыў блізкі, родны чалавек. Перад ім была не тая Наталя, якую ён ведаў увесь час. Хто ж яна такая? Была не адна Наталя, а былі дзве. Другую ён убачыў цяпер упершыню. Каторая Наталя была з ім? Каторую Наталю ён ведаў? Што — яна ашуквала яго ці аберагала? Бессардэчнасць гэта ці мужнасць? Што — яна стала цяпер лепшая ці горшая? Ён хадзіў па пакоі, адчуваючы, што здарылася нешта вельмі важнае ў яго жыцці. Што яшчэ не ўсё ясна. Што недзе ў сабе яму трэба зразумець нешта яшчэ большае. Наталя зрабіла вельмі дрэнны,

вельмі дрэнны ўчынак. Але перад кім? Перад ім, перад тым невядомым малым дзіцянём? Ці перад усімі?

Ці толькі перад сабою?

— Ты... як жа ты магла, Наталя? — суняўся ён перад ёю. — Якая ж ты нехарошая. Якая ты... што ты нарабіла, Наталя!

Можа, за ўсё жыццё ў Наталі не было патрэбы абараніцца. Можа, за ўсё жыццё не было смеласці абараніць сваё права мацеры.

— Не гавары нічога, Казімір! — рашуча і злосна бліснулі яе вочы. — Не чапай! Я ведаю, што я нягодніца, і за свой грэх буду адказваць сама. Я ведаю, што табе будзе цяжка чужое дзіця, але я забяру яе. Можаш не праганяць — я сама пайду ад цябе, Казімір, але ўсе дзеці будуць са мною. Я не буду табе дакучаць нічым.

Тое нешта яшчэ большае, што трэба было зразумець Казіміру, ён паволі пазнаваў. Перад ім была новая Наталя. Не, не новая, але такая, якой ён яшчэ не ведаў. Яна была яшчэ лепшая, яшчэ даражэйшая яму. Ён дзівіўся, толькі цяпер дазнаўшыся, колькі пакут яна выцерпела дзеля яго.

— Я не буду нічога ад цябе дамагацца, Казімір, — казала Наталя, нібы гаворачы сама з сабою. — Я нічога не гаварыла табе, бо нічога ў сваім жыцці не магла паправіць. Ведай толькі адно, што за ўсё наша з табою жыццё я ні на адну хвілінку не адчувала сябе спакойнай. Ты нават не ведаеш, колькі ўпотай ад цябе выплакана мною слёз. Думаеш, я была шчаслівая? Я крала гэтае шчасце ад цябе, ад сябе, ад усіх людзей, бо не мела права быць шчаслівай. Ты можаш ненавідзець мяне, можаш плюнуць мне ў твар, ад гэтага мне будзе толькі лягчэй.

— Ах, якая ж нехарошая ты, Наталя, — паўтарыў Казімір.

Наталя гнеўна бліснула вачыма: не, таго, што яна лічыць святым, яна бэсціць не дасць! Яна памкнулася нешта сказаць, можа, крыўднае, можа, дзёрзкае, нешта апошняе, але Казімір перабіў яе:

— Я не сварыцца на цябе збіраюся і не праганяць цябе. Зараз жа збірайся і едзь па дачку! — сказаў ён раптам строга. — Чуеш? Трэба ехаць па яе неадкладна!

Наталя здзіўлена паглядзела на Казіміра. Ці гэтага яна чакала? Ці праўда гэта? Ці можа гэта быць? Ці няма тут насмешкі, здзеку, знявагі? Ці можна ёй у гэта верыць? Але Казімір падышоў, узяў яе галаву ў свае рукі, прытуліў да сябе.

— Як жа ты магла маўчаць і пакутаваць? Яна ж даўно магла быць разам з намі. Гэта ж будзе такое... — Казімір задумаўся, можа, шукаючы слоў, можа, нешта ўспамінаючы. — Гэта ж будзе

такое шчасце дзіцяці, толькі падумаць. Знайсці родную матку, а? Ах, якая ж ты дурная, Наталя.

Зноў закалаціліся Наталіны плечы, але гэта ўжо ад сапраўднага чалавечага шчасця.

6

Казімір праводзіў Наталю на цягнік. Наталя была свежая, румяная, вочы яе гарэлі тым агнём, які бывае заўсёды, калі чалавек ахоплены трывожнай узрушанасцю.

— Я нават не ведаю, як яна выглядае, Казімір, — гаварыла Наталя. — Я, мабыць, не пазнаю яе. Пакінула трохгадовым дзіцем, а сустрэну пятнаццацігадовай дзяўчынай. Як мы сустрэнемся? Што я скажу? Як яна на мяне паглядзіць? Я вельмі хвалююся, Казімір.

— Ну от табе маеш, не трэба. Пабачыш, што ўсё будзе добра. Вельмі добра.

— А раптам — не аддадуць?

— Як гэта не аддадуць? — нават абурыўся Казімір. — Ды, нарэшце, гэта глупства: яна будзе рашаць сама.

Наталя то ўкладала на палку рэчы, то перастаўляла іх; то адкрывала сумку, то закрывала; то зашпільвала на сабе кофтачку, то, як ад гарачыні, расшпільвала яе. Ох, як гэта цяжка цярпець, калі хочацца, каб час праляцеў як адно імгненне. Ну хоць бы ўжо крануўся цягнік!..

Казімір ішоў дахаты паволі-паволі. Стаяла перад вачыма ўсё, што прайшло за гэты дзень. А які ён быў вялікі. Ён пачынаўся недзе адтуль, можа, ад першага знаёмства з Наталяй. Бо ён сёння як бы нанава сустрэўся з Наталяй і нешта вельмі важнае пазнаў у жыцці. Што — ён не хацеў разбірацца ў ім, але на душы было цёпла, светла, так, нібы спачатку пачыналася і жыццё, і каханне, і ўсе трывогі і радасці, звязаныя з ім. От цяпер ён будзе чакаць Наталю так, як чакаў першых сустрэч, з тым жа маладым хваляваннем.

«Мне здаецца, што ў нас лепш за ўсіх», — успамінаў ён Наталіны словы і ў думках адказаў ёй: «Харошая ты мая Наталя, пакутніца ты мая дурненькая,— цяпер у нас папраўдзе будзе ўсё найлепш».

## ПАВАРОТАК КАЛЯ ХВОІ

На павароце вуліцы каля раймага стаяла некалькі чалавек, і па нечым вельмі няпэўным можна было прызнаць, што гэта чакальнікі падарожных машын. Яшчэ да таго, як нехта з іх падняў руку, Майбарада рэзка затармазіў сваю трохтонку. Ён зрабіў гэта ўпэўнена і незалежна, так, як робяць усе шафёры на ўсіх дарогах, даючы зразумець, што спыняецца не дзеля пасажыраў, а дзеля больш важнай патрэбы: забегчы купіць папярос. Не спяшаючыся, адчыніў дзверцы, вылез з кабіны, бухнуў нагою па пакрышцы. На запытанне: «Ці далёка, таварыш шафёр?» — няўзнак адказаў, куды едзе, і спакваля пайшоў у краму.

— Ну, сядай, каму ў дарогу! — коратка дазволіў, выйшаўшы адтуль. — Толькі, вядома, хто з грашыма, — дадаў як бы між іншым, але строга.

Нам трэба будзе праехаць кіламетраў з восемдзесят, аж у другі раён, у прамысловую арцель «Драўніна». Учора я пералічыў туды праз банк пяць тысяч рублёў, узяў з сабою копію плацёжнага даручэння, і цяпер мы едзем, каб адразу зрабіць аж дзве справы: Майбарада нагрузіць піламатэрыялаў, а я ў бухгалтэрыі праверу нашы фінансавыя дачыненні.

Выехаўшы за мястэчка, Майбарада дае поўны газ. Дарогу ён ведае на памяць, і яму няма чаго баяцца ні калдобін, ні крутых паваротаў: усё гэта машына ведае нібы сама. Ён вядзе машыну як лепш не трэба. Гэта ведае ён сам, і таму мае поўнае права трымаць сябе ўпэўнена і незалежна. І так, каб кожны бачыў, што ён не раўня каму другому. Седзячы поруч у кабіне, я гляджу на яго збоку і нібы ўсяго чытаю. Мажны, дужы, плячысты, у сваім камбінезоне, які падкрэслівае яго павагу да сваё прафесіі, Майбарада сядзіць, як цар, — адкінуўшыся да спінкі сядзення, надаўшы твару рысы велічнай спакойнасці. Рукі яго ляжаць на рулі лёгка, нібы толькі для таго, каб адпачыць на ім, а павароты робяцца як бы самі. Нага ляжыць на педалі таксама быдта для прыліку, проста толькі таму, што так зручна. Можа, гэтая свабоднасць перадаецца ўсёй машыне: яна імчыць весела, роўна, ажно пасвістае вецер. Адно, што занята ў Майбарады, — гэта вочы: яны ні на імгненне не адрываюцца ад дарогі. Але Майбарада не хоча паказаць нават гэтага. На яго можна залюбавацца. І я ведаю, што ўвесь гэты выгляд Майбарадзе вельмі патрэбен. Гэты выгляд як бы гаворыць: «Гэта едзе не абы-хто, а Майбарада. То-та ж, а вы ўсе кажаце, што Майбарада ў вас чорт ведае што».

Нарэшце позу трымаць робіцца цяжка.

— Ну як? — пытаецца ён, не адрываючыся ад дарогі, і твар яго ледзь прыкметна святлее.

Я ведаю, пра што ён пытаецца, — пра машыну. Гэта яго гордасць. Гады два валялася на нашым двары разбітая трохтонка. Мачылі яе ўсе дажджы, абдзімалі ўсе вятры і сушылі ўсе сонцы. Час ад часу шафёр кінафікацыі ці маслапрома, падцікаваўшы, калі нікога не было на двары, забягаў і цішком выкручваў якую дэталь. Паступова яна пачала выглядаць, як шкілет, абгрызены ваўкамі: без скатаў, без дзверцаў, з паабдзіранымі бартамі, з патрэсканым абаранкам руля ў пустой кабінцы. Зайшоў неяк на двор Майбарада, агледзеў усё гэтае дабро, уздыхнуў і падрадзіўся паправіць. «Толькі з адною ўмоваю, — сказаў ён нашаму загадчыку, — што ў чужыя рукі я ўжо яе не аддам». — «Тым лепш, — сказаў наш загадчык, — сам зробіш, сам і ездзіць на ёй будзеш». Адтарабанілі мы яе тады ў механічную майстэрню ў саўгас, заключылі ўмову на капітальны рамонт. Але Майбарада не астаўся: ён паехаў разам з машынаю. Ён хацеў, каб уся работа ішла ў яго на вачах. Ён бракаваў работу, перарабляў, сварыўся, мірыўся, неаднойчы распіваў пляшку гарэлкі з майстрамі, з шафёрамі, з начальнікам гаража, каб дастаць дзе якую патрэбную дэталь або сабраць які вузел. Сам лазіў пад машынаю і на лапатках, і на чэраве. Праз два месяцы прыкаціў на новенькай машыне, толькі што пафарбаванай у бледна-зялёны колер. І з таго часу пачаў шафёрыць. Час ішоў, машына бегала як мае быць. Майбарада лічыў яе лепшай за самыя лепшыя маркі на свеце і не прапускаў выпадку, каб не падкрэсліць, што гэта справа яго залатых рук.

— Што ж ты маўчыш? — патрабуе адказу Майбарада. — Машына, пытаюся, здорава бегае?

— Здорава, Якаў, — кажу я вельмі пераканана. — Я нават не чакаў, што яе можна паправіць.

— То-та ж, — кажа ён здаволена. — А ўсё гэта зрабілі рукі Майбарады. Не машына, а — звер! Чортава сіла! От пабачыш, колькі я на яе нагружу. А матор як працуе — чуеш?

Я стараюся прыслухацца, як працуе матор, але нічога асаблівага не магу распазнаць. Гудзе роўна, настойліва — можа, у гэтым і ёсць яго адмысловасць.

— Але, — кажу я, не паказваючы, аднак, што ў гэтай справе вялікі невук.

— У Майбарады ўсё павінна быць так, — кажа Майбарада, раптам хмурнеючы. — Майбараду толькі трэба паважаць трохі, як кожнага чалавека.

— А цябе і паважаюць, Якаў Міхайлавіч.

— Можа, і паважаюць, ды толькі не ты, Ян Аляксеевіч.

Мільгануў толькі што папраўлены, яшчэ са свежымі сасновымі балясамі мосцік. Мінуліся два прыдарожныя курганы з рыжай рэдкай травой наверсе — сведкі незапамятнай старажытнасці. Паказаўся лясок; машына ўскочыла ў яго, і ён нібы пакланіўся, расступаючыся і кладучы перад машынаю бясконцую стужку дарогі. За лесам адразу дарога крута пайшла ўніз, адкрыўшы перад намі далячынь. Пад гарою ў нізіне, як на карце, нанізанае на пакручастую нітачку рэчкі, раскінулася Вераб'ёва з жылкамі вулачак, з пункцірамі платоў на агародах, з чародамі гусей на паплавах уздоўж рэчкі, з чырвонымі цаглянымі будынкамі саўгаса наводшыбе.

У першай вулачцы забарабанілі па кабіне, але Майбарада не суняўся. Уехаўшы ў сяло, ён крута павярнуў направа, праехаў высокі драўляны мост і затармазіў каля чайнай, дзе звычайна спыняюцца ўсе шафёры. Адчыніў дзверцы, не вылазячы, пачакаў, пакуль падыдуць пасажыры разлічыцца. Падышло чалавек пяць, астатнія ехалі далей.

— Колькі, таварыш шафёр? — папытаўся невысокі мужчына з палявой торбачкай пад пахай, ні то палявод, ні то канторскі работнік саўгаса.

— Сам ведаеш, чаго ж пытацца, — адказаў сурова Майбарада.

— Пяцёркі хопіць?

— Хопіць.

Майбарада палажыў пяцёрку ў верхнюю кішэньку камбінезона.

Чалавек у плашчы і ў пакамечанай кепцы працягнуў грошы не пытаючыся. Майбарада моўчкі ўзяў.

— Калі ласка, таварыш шафёр! — нечая рука падавала тры рублі.

Майбарада бліснуў вачыма. Высокі, танклявы, яшчэ малады, няйначай студэнт, чалавек глядзеў дабрадушна, выказваючы сваю шчырую ўдзячнасць за паслугу.

— Куды вы іх тыкаеце? — груба сказаў Майбарада. — Хіба не бачылі, як плацяць другія?

— Як вам не брыдка, таварыш шафёр. Я плачу так, як заплаціў бы на аўтобусе.

— То трэба было і чакаць аўтобуса. Можа, абышлося б і дзешавей. Або можна было і пехатою адбарабаніць.

— Эх, абдзірала! На казённай машыне, дый...

Дастаўшы яшчэ два рублі, чалавек кінуў іх у машыну і скоранька пайшоў, махнуўшы рукою.

— Іч ты, разумнік! Толькі яму дарагі рубель, а Майбарадзе ён не патрэбен, — наўздагон яму кінуў Майбарада, разлічваючы на маё спачуванне.

Нехта яшчэ моўчкі працягнуў пяцёрку.

Майбарада пералічыў грошы, палажыў у кішэньку.

— Можа, зойдзем падсілкуемся? — папытаўся, яўна адчуваючы сябе ніякавата перада мною.

— Не.

— Як хочаш, а я забягу.

Праз хвіліну Майбарада вярнуўся, рукавом выціраючы губы.

— Хто ў Шылу, або ў Ленінку, або ў самае Гаравое, садзіся! — апавясціў ён народу, які таптаўся каля машыны, хто з клункам, хто з чамаданчыкам, чакаючы яго. — Але загадзя кажу: толькі хто з грашыма.

— У Ленінку, дзеткі, едзеце? — відаць, недачуўшы, кранаючы Майбараду за рукаў, папыталася старая бабулька ў хустцы, завязанай пад бараду. У руках яна трымала хатулёк, увязаны ў нейкую крамніну — ні то злівачак, ні то кадаўбец. Перад дужым Майбарадам была яна вельмі маленькая, слабенькая, можа, нават хворая.

— Даедзеш, бабка, даедзеш, сядай. Памажыце ёй там, хлопцы, залезці! — крыкнуў ён мужчынам у кузаве.

Ён сеў у машыну, румяны, здаровы, нават крыху павесялеўшы.

— Цяпер без перасадкі, Ян Аляксеевіч, да самага Гаравога.

Дарога наша пайшла цяпер па добрай роўнай шашы, і за сялом Майбарада пускае машыну на поўную сілу. Ён дастае папяросы, прыкурвае, і я толькі дзіўлюся, як ён робіць усё гэта спакойна, упэўнена, не памяншваючы ходу, не пакідаючы глядзець на дарогу, не перастаючы кіраваць рулём. Нават запалку выкідае за дзверцы неяк вельмі ёмка: нібы сам вецер забірае яе ў яго з рук, робячы яму паслугу.

Аднак твар у Майбарады паступова хмурнее. Зноў нешта гняце яго.

— Не шануеш ты добрых работнікаў, Ян Аляксеевіч, не цэніш, — нарэшце гаворыць ён, не маючы сілы маўчаць.

Я чакаю гэтай гаворкі даўно. Я ведаў, што Майбарада пакарыстаецца нашай паездкай, каб нарэшце выказаць усе крыўды ў абставінах, так сказаць, неслужбовых. Гэта гаворка будзе пра грошы. Майбарада глыбока ўпэўнены, што я яго незаслужана

крыўджу. Ён мала зарабляе. Лепш кажучы, ён зарабляе многа, але я кожны раз раблю якое-небудзь кепства, каб паменшыць гэты заработак: то не правяду акта на буксоўку, не спішу бензіну на перапал, то не прыму пуцявога ліста, западозрыўшы ў ім не вельмі хітрую недакладнасць. Гэта больш за ўсё крыўдзіць Майбараду. Я лезу туды, куды мне не асабліва і трэба тыкаць носа. «Падумаеш, закон мне — бухгалтар! На тое ёсць начальнік. А начальнік, можа, пра гэта даўно ведае ці сам закамандаваў. Што табе да таго, як хто зарабляе? Майбарадзе кожны рубель дарагі, і ты яму яго аддай. От які твой павінен быць закон...»

Гэтая хціваcць да грошай у Майбарады мяне дзівіць і абражае. Дзівіць і абражае, можа, таму, што Майбарада не такі ўжо благі чалавек. У ім ёсць і многа харошага, душэўнага. Ён шчыры і ўвесь непасрэдны. Шчыра ён працуе, не шкадуючы ні сваіх рук, ні часу, шчыра можа злавацца, радавацца і — нават плакаць. Аднаго разу я бачыў, як ён плакаў ад свайго сямейнага гора, калі былі нелады з жонкаю, — чыста, не хаваючыся, як дзіцянё, выціраючы кулаком слёзы. Калі ён памыляецца ці гневаецца, то таксама шчыра, і я ведаю, што лічыць ён мяне ліхім чалавекам ад пераканання. Ён шчыра ўпэўнены, што сапраўды не ён, а я ўсё раблю незаконна. А ці магу я даваць патачку гэтай чалавечай слабасці?

— Ну от скажы, Ян Аляксеевіч, чаму ты таго пуцявога ліста не правёў? — пытаецца Майбарада якраз пра нядаўнюю сваю крыўду.

— Бо такой работы ў нас не было, — кажу я спакойна, як адбываючы павіннасць. — Мы нікуды не вазілі жвіру.

— Але ж прараб падпісаў, ён прыняў работу.

— Я правяраў: такой работы не было, Якаў. Ты, мабыць, рабіў паслугу самому прарабу.

— Я не за грошы яе рабіў, а ад павагі — як чалавеку. Так, як зрабіў бы табе або другому. Я ж не такі бессардэчны, як ты.

— Не магу, Якаў, я прыняць таго ліста. Не магу.

— Але ж я працаваў! І бензін паліў!

— Ну от бачыш, зноў прыйдзецца вылічваць. А ты будзеш злавацца на мяне — мала зарабіў. Зноў буду вінаваты я. Ты бачыш, Якаў, як выходзіць? Ты падумай, што ты гаворыш!

Майбарада маўчыць. Я ведаю, што ён не згодзен са мною. Прараб прарабам, а пуцявы ліст падпісаны, і я мог бы яго смела правесці. Законнік! Ён успамінае другую крыўду, можа, нават куды большую:

— Ну, а пяцьсот рублёў навошта ўтрымаў?

І пра гэта мы гаварылі не раз. Але я цярпліва зноў тлумачу:

— Ты сам добра ведаеш, што ўзяў іх пад справаздачу. Ты павінен быў іх або вярнуць, або апраўдацца дакументамі.

— Я не ўкраў іх — вунь яны ўсе на машыне. Думаеш, чаму ў мяне машына бегае, а не стаіць, як у другіх? Бо ў мяне ёсць і запасныя часткі, і інструмент.

— Веру, што ты купіў інструмент. Дык жа дай справаздачу.

— А як я дам яе? Я купляў у людзей, дзе папала, ты ж распісак не прымеш?

— Не.

— Значыць, няхай цярпіць Майбарада? Ён багаты!

— Якаў, пакінь прыкідвацца, — нарэшце кажу я рэзка, хочучы скончыць гаворку. — Я ведаю, што ты ўжо тройчы акупіў гэты інструмент, і нават з дазволу начальніка, праўда ж? Дзе ты з машынаю быў увесь дзень у чацвер? А ўчора звечара куды машына хадзіла цішком? Пуцявых жа лістоў няма? Як табе не брыдка, Якаў! Цябе трэба караць!

Майбарада сплёўвае за дзверцы, гэтым як бы ставячы кропку. Машына імчыць, мы нават не заўважылі, што так многа праехалі. Шаша перад намі набягае і набягае, то выпучваючыся, то ападаючы ўніз, загінаючы то ўправа, то ўлева, ледзь паспяваючы паказваць свае падарожныя знакі, то клічнікаў, то зігзагаў. Звешваючы ніткі правадоў, мінаюцца і мінаюцца тэлеграфныя слупы, нібы стараючыся нас перасцігнуць і кожны раз закідваючы правады наперад. Наўздагон выцягваюць вецце кусты, дарэмна просячы пачакаць. Паказаўшыся наперадзе, сустрэчныя машыны пагрозліва растуць і тут жа знікаюць, на адно імгненне злосна хапаючыся ветрам за борт. Матор гудзе да таго імкліва і роўна, што робіцца страшна ад яго спакойнай настойлівай сілы.

— Табе трэба часцей бываць у дарогах, Ян Аляксеевіч, — кажа Майбарада другім, памяркоўным тонам.

— Чаму?

— Можа, тады ты сам пабачыш, і што такое буксоўка, і перапал гаручага, і аварыя ў дарозе. Тады, можа, і акты пачнеш лягчэй прымаць. Памякчэеш.

Ясна, што гаворка ідзе на прымірэнне. Я разумею яе так: «Ну добра, дапусцім, што раблю я крыху незаконна, — нібы гаворыць Майбарада. — Але ж хіба ты не можаш сяды-тады саступіць закону? Тут жа ніякай правінкі няма, калі найпершы закон — чалавек. Ці табе баліць ад таго, што Майбарада будзе

мецъ лішні рубель?» Але я не магу ні кропелькі саступіць, бо тады Майбарада сам жа першы не будзе мяне паважаць.

— Але ж тады я буду ведаць і другое, Якаў Міхайлавіч, — кажу я яму ў тон. — Буду ведаць, напрыклад, як збіраюць грошы ў дарозе, што пішуць у пуцёўкі і што робяць за пуцёўкамі. Нават буду ведаць таксу, што за кожны рэйс у лес па дровы Дубіцкаму ці Жывіцу бярэцца па сто рублёў.

Маўчым. Мы сказалі адзін аднаму ўсё, хоць добра ведаем, што адзін аднаго не пераканалі.

Шыла набегла на нас неспадзеўна, раскінуўшыся наабапал шашы шырока забудаванымі дамамі, высокім пабеленым клубам на самай гары. Майбарада суняўся, не даязджаючы яе. Сабраў з пасажыраў грошы. Вылезла чалавекі чатыры. Грэбліва ткнуў у кішэню колькі паперак: што гэта за заработкі!

Звярнулі налева. Цяпер наша машына пайшла мякка, пагойдваючыся на гладкай няроўнасці поплава. Слядоў дарогі было многа, Майбарада выбіраў больш біты, штораз кідаючы машыну то ўправа, то ўлева. Перад выбоінамі ён тармазіў, і машына паслухмяна прыпынялася, нібы прыглядаючыся, ці глыбока там, а перайшоўшы пярэднімі коламі, спяшалася выскачыць на пагорак. Яна то бегла весела, жвава, калі было роўна, то гула і стагнала, бытда злуючыся, што яе не пускаюць, калі траплялі ручаіны і калдобіны.

Аднак вельмі хутка нізіна мінулася, і машына пакацiла зноў весела і лёгка. Цяпер мы ехалі дарогамі, якія называюцца селавымі і харaства якіх ніхто не здолее апісаць.

То мы ехалі сенажацямі, усыпанымі кветкамі, якія напярэсцігі кланяліся і заклікалі спыніцца і палюбавацца на іх. То траплялі ў малады беразак, і ён, паварочваючыся перад намі, выхваляўся і паказваў усе свае ўборы — і белыя ў карунках сукенкі, і парасапусканыя каснікі тонкага веццяя; ён то хаваў ад нас дарогу, падступаючы зусім блізка і блытаючы яе ў сваіх нагах, то раптам выпроставаў і рассцілаў яе перад намі, гасцінна запрашаючы ў мяккія цені. То мы плылі, як па моры, у бяскрайніх палях збажыны, у хвалях якой млела і паласкалася сонца. То бачылі, як у неба, цягнучы за сабою бясконцую нітачку песні, падымаецца і трымціць жаваранак; то як кружыць коршак, выглядаючы сабе здабычу, і раптам, бліснуўшы на сонцы косым крылом, кулём кідаецца ўніз, як нажом разрэзваючы паветра.

— Грошы, Ян Аляксеевіч, кожнаму патрэбны, і ты мяне гэтым не сарамаці, — кажа Майбарада, нібы хочучы ў нечым усё ж

апраўдацца. «Буду ведаць, як зарабляюць грошы ў дарозе...» А што — мо задарам? Не, браце, я свайго не папушчу!

Я не адказваю: гэта ўжо не паможа нашым спрэчкам. Майбарады я не папраўляю, а ён не папраавіць мяне. Гэта апошнія іскры пратэсту, яны ўспыхваюць яшчэ на імгненне, каб патухнуць зусім.

Дарога выйшла на край узгорка, адкрыўшы перад намі новыя краявіды. Справа ляжала нізіна, спрэс укрытая лесам. Гэта быў нават не лес, а шырознае мяккае мора яго верхавін, то густазялёных там, дзе стаяў сасоннік, то з жаўтаватым адценнем, дзе ў сваім вечным шолаху трапеча лістота асінніку ці таполяў. Часамі пракідаліся прасветліны — мабыць, там прайшлі пажары і маладняк не паспеў яшчэ набраць свае сілы. А за нізінай паступова, адна за адной, падымаліся горы, укрытыя тым жа лесам, і контуры іх то вырысоўваліся ясна, то зліваліся ў сіняватай смузе аж да самага гарызонта. Часамі вылучаўся на фоне далёкай смугі няроўны грэбень вяршынь, часамі вышэй за другіх падымалася адна якая хвоя, стоячы, як вартавы, над гэтым спрадвечным царствам дзіўнот.

Я пачынаю марыць. Вось на той, самай блізкай шырокай гары, край якой мякка сплывае ў нізіну, я хачу ўявіць горад. Адсюль я бачу, як сярод сосен узвышаюцца дзіўныя палацы, ляжаць асфальтам залітыя вуліцы, у задуменным гомане стаяць паркі. Не паркі ў горадзе, а горад, пабудаваны ў суцэльным парку з непачапанага лесу. Увечары загарацца там агні, напоўніўшы ўвесь гэты край адвечнага хараства казачным святлом. Як хораша там жыць чалавеку, думаю я і пачынаю верыць, што гэта недалёкая будучыня. І хіба не робім гэтага мы ўжо цяпер, на вуліцах саджаючы кветкі і ліпы, паркамі займаючы цэлыя кварталы, садамі высаджваючы дарогі кароткіх і доўгіх шляхоў. Будучыня! Ці не дзеля цябе нам так хораша хочацца марыць?

Люблю дарогі! У дарогу я магу ехаць у любы час, у любое надвор'е і ніколі не скажу, што стаміўся. Дарога ні то маладзіць мяне, ні то абнаўляе, ні то поўніць нечым вельмі патрэбным, жывым, энергічным. Дарогамі апавіты ўвесь наш край, і колькі б ні ездзіў па іх — з кожным разам будзеш усё больш і больш любіць яго. Там сустрэнуцца людзі, пазнаўшы якіх, ты сам станеш лепшы, чысцейшы. Там народзяцца думы, з якімі хораша і памаўчаць, і памарыць.

— Ленінка, — кажа Майбарада. — А за ляском, што наперадзе, будзе і наша Гаравое. Кіламетраў з восем асталося.

Гэта Майбарада гаворыць, каб сказаць, што ён канчаткова са мною мірыцца, што цяпер мы можам быць з ім нават сябрамі.

Машына праскоквае праз невялікі гаёк і спыняецца на палянцы каля старой хвоі, што ўсыпала дол шурпатымі шышкамі і выцягнула абслізганае карэнне цераз дарогу. За хвояй ідзе паваротак на сяло. Яно паказалася нечакана — невялічкае, новае, з кучаю акоранага бярвення наводшыбе, са свежымі трэскамі ля яго, — нібы аднекуль выскачыла, каб пахваліцца сабою. Ля бярвення ходзяць куры. З вуліцы на поплаў жыватастая свіння важна, самавіта выводзіць двух парасят. Майбарада выходзіць з кабіны, выцягваецца на сонцы, чакаючы, пакуль пазлазяць пасажыры. Тут ён бярэ розна: з каго пяцёрку, з каго дзесятку, у залежнасці ад таго, дзе хто садзіўся. Нехта сеў пад Шылою — Майбарада бярэ з яго трояк.

— Ладна, хопіць, — кажа ён прабачліва чалавеку.

Апошняй да Майбарады падышла бабка. Яна торкнулася рукою ў свой хатулёк, завязаны крамнінаю, дастала адтуль два яечкі і сунула іх у руку Майбарадзе. Майбарада перамяніўся ў твары, размахнуўся і пляснуў яйкі аб дол. Яны разбырзнуліся, абдаўшы жоўтымі пырскамі Майбарадаў кірзавы бот.

— Ты здзекуешся, бабка, з мяне! — крыкнуў Майбарада, шалёна чырванеючы і наліваючыся гневам.

— Дзеткі мае, — кажа бабулька, — няма ў мяне грошай, каб я так жыла. — Галава ў яе трасецца, выцвілыя вочы моргаюць, макрэюць слязьмі.

— Прадаваць дык было што, а расплаціцца няма чым! — з нянавісцю глядзіць Майбарада на хатулёк.

— Не прадавала я, дзеткі, ездзіла да сына. Вазіла гасцінцы, а ён прагнаў мяне.

— Як? — нечакана прыслухоўваецца Майбарада.

— Сын у мяне, дзеткі, нелюдзь такі. З'ехаў з дому, пакінуў калгас, і не тое каб мне, старой, памагаць, дык яшчэ мяне ўсю абшастаў. Усё да ніткі спрадаў і яшчэ гневаецца, што не памагаю. А дзе я вазьму? Цяпер хварэе, ляжыць у бальніцы, можа, ад гарэлкі гэтай праклятай. Сабрала яечак яму, павезла. Дык жа прагнаў, што не прывезла грошай.

— Дык гэта сын у цябе нягоднік такі? — пытаецца злосна Майбарада.

— Што ж я вінавата, дзеткі. Няшчасце маё.

Майбарада спахмурнеў. Ён толькі цяпер зірнуў на бабулю і ўгледзеў, што яна зусім старая, нямоглая, што ў яе вельмі сухія, спрацованыя рукі. От і гэтую яго натуру я добра ведаю: лёгка

адгукнуцца на чужое гора. І таксама шчыра, усёю душою. Я ніколі не мог памірыць у ім гэтых дзвюх супярэчнасцей.

Грошы ў Майбарады ляжалі ў кішэньцы камбінезона, адтатурваючы яе і вытыркаючы пакамечанымі краямі. Майбарада выняў іх, аддзяліў дзве пяцёркі і палажыў назад у кішэньку, а рэшту, поўную жменю, сунуў у руку бабульцы.

— Ідзі, маці, не журыся надта. Такога сына не варта нават і ўспамінаць.

Скоранька сеўшы ў машыну, Майбарада выводзіць яе на дарогу, і мы едзем далей, у Гайнічы.

***1957***

## У КІРЫЛЫ НА ХУТАРЫ

### 1

У пачатку красавіка тысяча дзевяцьсот дваццатага года на хутар да Кірылы Якубоўскага зайшоў чалавек. Быў ён росту даволі ладнага, у чорным, з крамнага, але таннага сукна гарнітуры, з забранымі ў боты порткамі, у шапцы-варшаўцы, моднай на тыя часы, з маленькім бліскучым казырком, і з вусамі. Відаць, што тут ён быў першы раз, бо, зачыніўшы веснічкі, пастаяў трохі, агледзеў двор — хату, хляўчук, свіронак, асабліва спыніўся вачыма на варывеньцы, што стаяла тут жа пры варотах, а ўжо тады, паправіўшы шапку, накіраваўся да сянец.

Кірыла быў пад паветкаю. Хоць і нядзеля і праваслаўнаму чалавеку грэх у святы дзень займацца якою работаю, але ён збіраўся забіць у бароне павыпаданыя зубы, мяркуючы, што такая малаважная работа не можа лічыцца за грэх.

— Ці не Мікалай гэта Красуцкі адно? — абазваўся ён, углядаючыся ў чалавека. — То праходзь сюды, чалавеча.

Ён выйшаў з-пад паветкі, пачакаў госця, павітаўся з ім за руку. Супроць Красуцкага ён быў невялікі і ад хатняй будзённай апранахі нейкі таўсматы. Ды тым часам і гады прызямлялі Кірылу і рабілі яго, з яго лямцаватай барадой і зімовай шапкай у пагодлівы веснавы дзень, падобным на раскарачысты, але яшчэ здаровы смаловы корч.

Павітаўшыся, і госць, і гаспадар прыселі на бервяне, прыгрэтым не так сонцам, як зямляной парнасцю. Зірнуўшы зблізу, Кірыла падумаў, што Красуцкі яшчэ зусім малады, гадоў недзе за трыццаць, але выглядае куды старэй праз свае

вусы. Праўда, яны надаюць яму нейкай самавітай строгасці, асабліва тым, што адгадованы без фасону, толькі з кончыкаў трошкі закручаныя ўгору.

— То куды ж ідзеш, чалавеча? — папытаўся ён.

— Ды можна сказаць, што проста да вас, дзядзька Кірыла.

— Хіба ж інтэрас які маеш?

— Прафесію мяняю.

— От табе маеш. Як гэта?

— Хачу пачаць галяндэрскія сыры рабіць.

— То чым жа я табе памагу?

Кірыла зірнуў на Красуцкага. Той глядзеў недзе за прыгуменне, як бы аглядаючы мясцовасць і нешта прыкідваючы ў галаве. Кірылаў хутар стаяў далёка ад бітых дарог, сярод хмызняку, ручаін ды балот, на невялікім грудку, расцярэбленым пад сядзібу ды поле. Відаць, нямала палажыў тут сілы Кірыла, каб зраўнаваць пагоркі, павыкопваць канавы, спусціць гнілую балотную ваду ды павыкарчоўваць імшары. «Ураджаяў вялікіх тут не збярэш, — падумаў Красуцкі, — нават хутаранства ў такім пекле, мабыць, абыходзіцца дорага». За хутарам пачынаўся лес, цягнучыся на далёкія вёрсты, па якіх сям-там у прагалінах параскіданы сёлы — Заброддзе, Нівішча, Караніцы. Праз гэты лес і ляжала тая сцежка, па якой ішоў сюды Красуцкі ад бітай дарогі на Слуцак.

— Мне здаецца, дзядзька Кірыла, у вас тут вельмі прытачнае месца, — сказаў Красуцкі, паказаўшы рукою на наваколле, якое толькі што бачыў перад сваімі вачыма. — Жывяце вы ў зацішку. Хоць зямля ў вас і не надта каб сказаць што людская, але ж у лесе пашы колькі хочаш. Ва ўсіх тутэйшых сёлах, мабыць, хапае малака, а вазіць яго да Слуцка далекавата. То я падумаў, каб адкрыць тут пактарню. Штодня ці праз дзень звозіў бы з сёл гэтае малако і пачаў бы грошы рабіць. Хопіць і мне па чужых кутках аціраццa.

«Гм», — падумаў Кірыла. Ён папытаўся ў сябе, чаму гэта яму самому не прыйшла ў галаву такая думка. Але тут жа пагадзіўся і з другім: не, мабыць, на дзве гаспадаркі не пацягнеш — або зямля, або камерцыя. А ад зямлі як жа ты адарвешся?

— А што, гэта — мудрая штука? — папытаўся, аднак, каб мець пэўны спакой.

— А якая там мудрасць, — адказаў Красуцкі. — Пераграць, заквасіць, напакаваць у формы, адціснуць, палажыць, каб выспелі, — вось табе і галяндэрскі сыр. Ну, там, вядома,

сякія-такія рэцэпты трэба ведаць: колькі парашку, колькі солі, колькі вылежвацца.

— Думаеш — выгадна? — яшчэ ўсё не стаўшы на пэўным спакоі, папытаўся Кірыла.

— А хто ж яго ведае, трэба папробаваць. Вы ж ведаеце, мне выбіраць няма з чаго. Зямлі свае не маю, па людзях хадзіць надакучыла. Улада цяпер у нас панская, то я і надумаў панскаю справаю заняцца, а можа, праз яе і сам панам стану. Капітал які зараблю нарэшце...

Цяпер ужо Кірыла глядзеў на прыгуменне і за ім уяўляў тыя свае гоні. Н-але, капітал... Кожнаму тых капіталаў хочацца мець, каб яно спуставала. От і ён збіраўся забагацець, выбіраючыся на гэты хутар. Аддаў свае чатыры дзесяціны ў сяле, памяняўшы на водруб. Думаў, што яго працавітыя рукі ды здароўе зробяць тут залатое дно. Аж от пятнаццаць год ужо, як гарбее тут, а спадзяванні і асталіся спадзяваннямі. А ці на тое мерыўся ён? Хацелася ж быць чалавекам. Думалася, от пройдзе колькі часу, ён прыкупіць яшчэ дзесяцін з дзесяць, хоць бы от тут, гэтай паляначкі, што мяжуе з яго хутарком, ад пана Мельнікава, завядзе жняярку, малатарню, як гэта бывае ў добрых людзей на свеце, а ў Слуцак паедзе на жарабцы, у размалёванай каламажцы, як той Ястрэмскі, і людзі яшчэ здалёк будуць паважна вітацца з ім: «Здароў, Кірыла, як жывеш-маешся?» — «Ды дзякую, з божае ласкі не горш за другіх...» От як думалася, бывала. Капітал... А Красуцкі от другім спосабам на тыя капіталы ўзбіцца хоча.

— Я ў вас ужо і варывеньку вашу змеціў, — між тым гаварыў Красуцкі. — Стаіць ля самых варот, можна сказаць — як наводшыб ад сядзібы. Калі б вы яе пусцілі мне на лета, дзядзька Кірыла, то я б сюды прывёз свае прычындалы дый пачаў бы круціць. Клопату вялікага вам не зраблю, гаспадаркі тае і будзе ў мяне, што бітоны ды цабэркі якія. Ну, конь пастаіць часам запрэжаны, то ўсё гэта я прыбяру... Памяркуемся грашыма ці якім другім спосабам.

Пэўнасць даўно ўжо прыйшла да Кірылы, і ён сказаў:

— Ды яно што ж, да восені яна ў мяне пустуе, — і нават сам неяк па-новаму зірнуў на сваю варывеньку. — Бяры, няхай бог памагае.

2

Каб ведаў Кірыла, чаму Красуцкі робіць у яго пактарню, то яшчэ невядома, ці згадзіўся б аддаць пад яе сваю варывеньку.

Знаў Кірыла, што Красуцкі з недалёкага ад Слуцка сяла Агароднікаў, што невялікае свае гаспадаркі на тры дзесяціны зямлі з братам не дзяліў, а пакінуў яму ўсю, сам пайшоўшы зарабляць па людзях. Ён служыў у царскай арміі, быў у палоне ў немцаў, але ўцёк і змагаўся супроць іх у тыя першыя некалькі месяцаў, калі была тут савецкая ўлада, нават паранены. Пакінуўшы брата, ён рабіў у Слуцку брукарам, кавалём у Лейбы, калеснікам у Карповіча, бляхаром на Школішчы, пільнікам на пільні ў Гуцайта. Кірыла заўважыў Красуцкага здаўна, маючы патрэбу па гаспадарцы бываць у ўсіх гэтых людзей, то наварваючы сашнік у плузе, то перацягваючы колы, то распускаючы калоду на дошкі ці набываючы новыя драбінкі. Красуцкі яму падабаўся тым, што быў спакойны характарам, разважлівы і неяк па-добрасуседску памяркоўны. У яго былі, як казалі, залатыя рукі, і Кірылу дзівіла толькі адно: як жа можна, каб з такім характарам і з такімі рукамі нельга было ўжыцца на адным месцы?

— Ці ты сам, Мікалай, перабягаеш ад аднаго гаспадара да другога, ці цябе праганяюць? — папытаўся ён аднаго разу ў Красуцкага. — Такія залатыя рукі — і нідзе не задзержышся.

— От бо то і бяда ўся ў тым, што з гэтых залатых рук кожнаму хочацца мець больш золата. А мне яно і самому патрэбна, дзядзька Кірыла, — адказаў Красуцкі так, што Кірыла ўсяк мог думаць пра такі адказ. Але сам сабе падумаў: «Разумны, кадук на яго, — нічога не хоча на людзі выносіць».

Гэты адказ пра залатыя рукі яму прыгадаўся і цяпер, калі Красуцкі загаварыў, што хоча сабраць капіталы. «Ну што ж, і пара чалавеку да якога берага прыбіцца, — падумаў Кірыла. — Не век жа яму галетнічаць».

А між тым Красуцкі заявіўся да Кірылы таму, што жыць у Слуцку яму стала нельга. Польскія ўлады, падмяніўшы сабою немцаў, прывезлі на Беларусь сваё права на яе як на калонію. Пачаліся прыгнёт, рабункі, здзекі, і гэта ўжо не толькі па праву заваёўніцтва, а і як помста за разбураныя ў рэвалюцыю маёнткі. Народ пачаў барацьбу, пайшоўшы ў партызаны, арганізаваўшы падпольныя групы ў гарадах, мястэчках ды сёлах.

Ад разгрому такой падпольнай групы Красуцкі выратаваўся выпадкова. Цяпер трэба было хавацца, бо правакатары ведалі яго ў твар. Але ж нельга было спыняць і барацьбы. У падполлі аставалася яшчэ многа людзей, як з цывільных, так і сярод салдат Войска Польскага. І такім чынам Красуцкі выбраў сабе новую прафесію, якая давала магчымасць вельмі добра, пад тон часу, замаскавацца і мець сувязь з горадам праз сваю камерцыйную дзейнасць.

Назаўтра ж пасля гаворкі на хутар да Кірылы на дзвюх фурманках прывёз Красуцкі ўсё сваё начыненне: цэнтрыфугу, як гаварылася тады на сепаратар, бітоны, цабэркі і поўны воз точаных дзераўляных формаў, падобных на вазоны, нават з такімі ж дзірачкамі ў дне. Ён прыехаў з памочнікам, зусім маладым яшчэ хлопцам Пятром, бялявым, з вельмі весела паднятымі брывамі. Так і здавалася, што ён зараз зацягне песню, ды такую, што тут разляжацца ўсё Кірылава навакολле. Ён шустра паадпрагаў коні, вывеў за вароты ў лясок і спутаў іх, яшчэ шустрэй паздымаў з вазоў паклажу і навёў у ёй імгненны парадак: што занёс адразу ў варывеньку, што палажыў каля сцяны, што панавешваў на шчыкецiны ў плоце. Тут жа аднекуль знайшоў сякеру і пачаў майстраваць, добра ведаючы толк, дзе трэба паставіць тую цэнтрыфугу, дзе посуд, як збіраць кружкі ў ёй, куды накручваць корбу. Пасярэдзіне варывенькі быў лаз у скляпок. Якраз на тым месцы ён паставіў шырокую дзежку, падмайстраваўшы так, што ад таго лазу не асталося і знаку. Не паспеў Красуцкі, седзячы з Кірылам на прызбе, дакурыць свае самакруткі, як ён ужо выйшаў і аб'явіў:

— Гатова, дзядзька Мікалай, можна пачынаць... А вы, дзядзька Кірыла, давайце ваша малако, адразу і сыру пакаштуеце.

— Іч, які шустры ён у цябе, — кіўнуў галавою Кірыла. — Малайчына, дзе ты яго толькі спаймаў такога?

— Кампаньёнам будзе, — адказаў Красуцкі. — А па рабоце — памочнікам. Ён са сваім канём далучыўся.

Красуцкі сёння быў ужо ў сваім звычайным адзенні, у якім бачыў яго Кірыла не раз: у рудым паношаным палітоне, у залапленых на каленях портках, — і ад гэтага быў як бы прасцейшы і нават ніжэйшы. Нават вусы нібы адразу трохі абвіслі.

— Пачынаць будзем заўтра, Пятрок, — сказаў ён хлопцу. — А сёння адгані адну фурманку назад і заўтра раніцаю каб быў тут.

З хаты выйшла дзяўчына, уся круглявая, варушкая, яна таксама падышла сюды, каб зірнуць не так на пактарню, як на Пятра, на якога ўжо кінула вока з акна. Пятрок ускінуў бялявыя бровы, бліснуў вясёлымі вачыма і крыкнуў ёй так, як бы даўно быў самым найлепшым сябрам:

— Падыходзь, падыходзь, сястрыца, смялей, тут памочнікі трэба, пакуль ніякае работы няма.

— Тата, ідзеце есці, мама казала, — пастаралася не заўважыць дзяўчына Пятра і пайшла, панёсшы з сабою, аднак, хітраваты бляск яго воч. Ох, абармот, і слова ж якое знайшоў — «сястрыца!» — самае ласкавае і небяспечнае з усіх ласкавых слоў.

Пактарня папраўдзе пачала жыць пазаўтра. Зранку Красуцкі разам з Пятром паехалі па сёлах. На першы раз не так многа набралася ахвотнікаў здаваць малако. Але Пятрок вельмі скора мог пераканаць, што тут многа выгады: за малако яны плацяць добрыя грошы, самі яго забіраюць без клопату, калі хто хоча, то можа спажываць сыроватку. Дзе там чалавеку катораму збіраць па гладышыку, каб завесці нарэшце ў Слуцак той фунцік масла, калі можна адразу атрымаць жывыя грошы. Першы ж вечар загула ў варывеньцы цэнтрыфуга. А на другі дзень не толькі Пятрок вярнуўся з поўным возам бітонаў, а нават хто і сам прывёз, каб на свае вочы ўпэўніцца, што ў Кірылы Якубоўскага такі і папраўдзе адкрыўся завод.

Пад вечар і Кірыла зайшоў у варывеньку паглядзець на тую хітрасць. Ён агледзеў прыладдзе, паспрабаваў пакруціць за корбу, падзівіўся, як праз гарлякі белаю цягучаю гумаю вылівалася малако. Нават пакаштаваў на смак.

— Псота, — сказаў ён. — Адна псота, толькі дабро пераводзіце. Ды ці я б такую дрэнь еў, паглядзеўшы, як вы яе тут квэцаеце?

— Ну, бо вы ж яшчэ не пан, дзядзька Кірыла, — весела абазваўся Пятрок. — А каб былі панам, ды яшчэ гжэчным, то толькі тыя б сыры і паядалі.

Кірыла сеў на парозе. Ці то ад гэтых слоў, ці ад чаго другога задумаўся.

— Вы скажэце, хлопцы, — нарэшце сказаў ён, — скажэце вы мне, хлопцы, то што гэта і папраўдзе ў нас гэтая панская ўласць адсталюецца? Надоўга яна?

— Хто ж яго ведае, дзядзька Кірыла, — адказаў Красуцкі. — Можа, доўга, а можа, і нядоўга.

Пятрок паглядзеў на Красуцкага і здагадаўся, што той не хоча гаварыць пра гэта з Кірылам. Яму гэта было важна, каб самому ведаць, што можна гаварыць, а што не.

— Немцы, балахоўцы, белыя палякі, а нашаму ж, рускаму, чалавеку куды брацца? Усюды вешаюць, страляюць, а як гэта можна, каб свая ўласць ды сваіх жа людзей страляла?

— Калі вешаюць ды страляюць, то, мабыць, не сваіх, дзядзька Кірыла, — абазваўся зноў Пятрок, зірнуўшы на Красуцкага, як бы пытаючыся, ці добра тое, што ён сказаў. — Сарока сароку бачыць здалёку, то кожны сам добра ведае, куды яму брацца.

Такі адказ Кірылы не заспакоіў. Як гэта можна ад самага галоўнага адкручвацца? Быдта яму, катораму, усё вельмі ясна. А дзе ж тая яснасць? Ну, пра немцаў, вядома, і гаварыць не прыходзіцца — народ чужы, прышлы, дзякуй богу, што іх і след прастыў. Балахоўцы гэтыя, шмалахоўцы — проста басата, бандзюгі. Ну, а от бальшавікі, скажам, народ жа свой, рускі, да іх і душа павінна гарнуцца, але ж толькі за беднату! Дый то не зусім ясна — Ленін жа падпісаў дэкрэт, што ўсю зямлю ад памешчыкаў трэба адабраць і аддаць мужыку? Значыць, беднаты быць не можа? Ну, а цяпер от палякі — гэтыя супраць пана нічога не маюць, калі ласка — паней, але ж панець будзе толькі памешчык?

— Ты гэта добра надумаў, Пятрок, пра сароку, — сказаў Кірыла і падняўся з парога. — Але ж ці далёка тая сарока бачыць? А мы ж людзі, чалавеча, людзі...

Кірыла пайшоў, Пятрок паглядзеў яму ўслед і сказаў са шкадобаю:

— Мабыць, пакрыўдзіўся вельмі... А чаму вы яго баіцеся, дзядзька Мікалай?

— Трэба асцерагацца, Пятрок, нам з табою асабліва, — адказаў Красуцкі. — Ні ты, ні я чалавека як след не ведаем. А ён жа як-ніяк хутаранец...

3

Пакуль не было яшчэ тых сыроў, Пятрок звычайна кожнае нядзелі або нават і два разы на тыдзень вазіў у Слуцак малако.

Гэтае нядзелі ён таксама паехаў, настаўляўшы поўны воз бітонаў. Не памыліўся Кірыла, адгадаўшы па высока ўскінутых брывах песенны характар у Пятра.

Ці свет, ці світае,
Ці на зоры займае, —

зацягнуў Пятрок, толькі выехаўшы з двара. Дарога ішла ўздоўж лесу. Песня ўзлятала высока, а лес падхопліваў яе і нёс бог ведае куды, нібы каб паказаць і пахваліцца, што тут едзе самы вясёлы на свеце хлопец Пятрок.

А мой міленькі,
Голуб шызанькі,
Коніка сядлае, —

звінела песня і плыла і плыла без суцішку, пакуль Пятрок выязджаў на бітую дарогу. Тут ён сустракаў звычайна якога падарожніка і яшчэ здалёк крычаў: «Добры дзень, дзядзечка!» Пачыналася размова, ды такая ліпучая, што або падарожнік падсаджваўся ў воз да Пятра, або Пятрок перабіраўся да падарожніка.

Нядзеля была цёплая, сонечная. Дарога, павіляўшы паплавамі, між кустоў, ручаін ды балотцаў, якія аддзялялі Кірылаў хутар ад свету, нарэшце за рэчкаю выходзіла ў поле, усланае зялёным шоўкам руні азімых жытоў. У паветры трымцелі песнямі жаваранкі, між каляін і на ўзмежках яркла яшчэ маладым, але туга набрынялым сокам трава. У галубовае неба падымаў крылы вятрак, нібы перадаючы сваё ранішняе прывітанне далёкаму, яшчэ не ўдужэламу воблачку. Пятра абганялі фурманкі з больш лёгкімі паклажамі — мяшком бульбы, пеўнем, заціснутым між калень у маладзіцы, дзесяткам яек, пастаўленым у кошыку ў перадку, і Пятрок, свецячыся сваім ясным тварам і песеннымі брывамі, толькі паспяваў гаварыць: «Добры дзень, дзядзечка!», «Добры дзень, цётачка!», хоць трошкі скіроўваючы ўбок свайго гнедку, каб даць абмінуць.

Як гэта часта бывае, нават невядома па якіх прыкметах — ці то па фурманках, якія спехам і нязвычна рана варочаліся ўжо з горада, ці то па тым, што людзі або забываліся адказваць, або вельмі скоранька адказвалі на яго «дабрыдзень», ці яшчэ па чым — але, пад'язджаючы пад горад, Пятрок адчуў нейкую

няясную трывогу. Гэтая трывога пабольшала, калі, уз'ехаўшы на Кладовую, ці, як яе звалі яшчэ, Магільную вуліцу, каля могілак ён убачыў многа народу. Людзі ні то сыходзіліся на нейкае відовішча, ні то разыходзіліся з яго. Трывога стала зусім ужо ясная, калі ён убачыў, што сярод гэтых людзей многа легіянераў і паліцыянтаў — і пеша, і конна — і яны наводзяць нейкі парадак, мабыць, разганяюць людзей ці не даюць збірацца ім або, наадварот, зганяюць у кучу, бо жэсты ў іх энергічныя, раз-пораз відаць, як яны падымаюць угору то шашкі, то нагайкі, паказваючы кірунак.

Найбольшы натоўп варушыўся ля кальвінскіх могілак, а ў глыбіні іх людзі ўсціскаліся нават на агароджу, і там недзе, аж з-пад таго краю, чуўся плач і галашэнне. Пятрок не памятаў, ці сказаў яму хто, ці ён сам гэта зразумеў, але зразумеў ясна — гэта тут толькі што расстралялі паўстанцаў, партызан, якіх не так даўно паарыштоўвалі ў Слуцку, у Грэску, у Пукаве і сярод легіянераў самога Войска Польскага. Каго ж расстралялі? Хто астаўся жывы? Шмат каго з іх Пятрок ведаў. Божа мой, гэта ж сярод іх мог быць і дзядзька Мікалай Красуцкі, які там, на хутары, цяпер варочае і перасушвае свае сыры! Сярод іх мог быць і дзядзька Нічыпар, якога ён сёння павінен убачыць, маглі быць і ўсе тыя, што яшчэ асталіся ў падполлі, дзеля якіх ён ездзіць вось з гэтай фурманкай і якія тайком, можа, ходзяць вось тут, сярод натоўпу.

— Там пастралялі іх, ляжаць над ямаю. Зганяюць усіх, каб людзі самі паглядзелі ды страху набраліся, каты! — сказаў чалавек, у якога папытаўся Пятрок, доўга праехаўшы з ім поруч.

— Колькі іх?

— Чатырнаццаць. Ды вунь пачытай, на ўсіх платах ды сценах абвесткі вісяць. Па вуліцы вялі ад самай турмы, закаваўшы ў кайданы, і зганялі народ, каб глядзеў з тратуараў. Думалі, народ радавацца будзе, а ён плакаў ды кветкі кідаў, нянавісці больш набіраўся. А яны песні спявалі, на смерць ідучы, толькі падумаць трэба, якая сіла. «Мы жертвою пали в борьбе роковой...» — і не даліся, каб ім вочы завязвалі перад расстрэлам... А цяпер там на могілкі бацькоў ды мацярок пазганялі, любуюцца на іх пакуты. Унь, бачыш, нават паненка нейкая гарцуе на жарабцы разам з легіянерам, ёй весела, усё роўна як на фэст прыехала.

Вельмі хацелася Пятру злезці з воза, схадзіць туды, адкуль чуўся плач, каб, можа, пазнаць каго там ды хоць перад мёртвым зняць шапку, перадаць зямны паклон ад жывых. Але ён памятаў,

што ў яго ёсць свая задача, свая вельмі адказная роля, якую ён павінен іграць, нягледзячы ні на што.

Мінаючы людзей, чуючы галашэнне і плач з таго краю могілак, не бачачы людскіх твараў, не заўважаючы паліцыянтаў, што конскімі капытамі, гарцуючы сюд-туд, выбівалі іскры з камення, Пятрок паволі паехаў далей па Кладавой вуліцы, грукочучы па бруку і спрабуючы свяціцца на ўвесь свет сваімі яснымі вачыма бестурботна-шчаслівага чалавека на зямлі. Песенныя бровы, як размахнутыя крылы ў птушкі, хацелі падняцца і распасцерціся на ўвесь свет.

Сёння бадай што не было на рынку людзей, і дзядзька Нічыпар не прыйшоў купляць малака. Пятрок падкінуў гнедку сена і сеў на біле воза. На той бок вуліцы, што разбівала рыначную плошчу папалам, каля сваіх будак стаяла некалькі гандлярак. На століках у іх ляжалі гузікі, шпількі, грабянцы, шпулькі нітак; на матузках да перасолак пападвешваны ў адных абаранкі, тараны, сушаныя ўюны, пернікі, у другіх — жычка, карункі, шнуркі ў чаравікі, прошва. Збоку, бліжэй да дарогі к сабору, што высіўся на гары за рынкам, стаяла кабеціна, у складзеных руках трымаючы свежы сыр з адтуленымі крайкамі палатнянага кліна. На рагу, каля аптэкі, на чырвонай цаглянай сцяне крамы ярка бялела паперка з яшчэ непавысыханымі плямамі клею з таго боку і з загнутым правым ражком. Што ж, яна павешана тут, каб людзі чыталі, значыць, павінен прачытаць і ён. Паліцыянтаў тут куды менш, як на Кладовай вуліцы, бо адсюль жа паразыходзіўся і народ. Пятрок падышоў да паперкі, літары на ёй былі выдрукаваны чытэльна, каб самі кідаліся ў вочы.

«Абвестка», — прачытаў самыя буйныя літары Пятрок. «Солдаты, — ішло пасля больш дробнымі, светлымі: — Яромолицки Петр, Емильянчик Михаил, Камински Александр и цивильные: Симонович Антон, Выченко Михаил, Грачук Еухим, Красуцки Степан, Солодуха Петр, Реутович Михаил, Тишкевич Максим, Тишкевич Миколай, Тишкевич Михаил, Степанович Петр, Бенько Никифор.

Постановлением полевого суда Камандзира Окружного Этапа Минска Литоускага дня 24 красавика 1920 за, — далей ішло чорнымі літарамі, — здраду и змову против войска польского приговорены на кару смерти через разстрел.

И геты приговор, — зноў было надрукована светлымі літарамі, — через две гадины после абвестки 25 гетае же красавика о 10 гадзине рано у Слуцку быу выполнен».

Пятрок чытаў гэтыя радкі, збіваўся, пачынаў спачатку зноў, нібы ўсё не верачы, што ўсіх, пра якіх тут сказана, ужо няма.

Можа, гэта папраўдзе толькі нядобры сон або жарт, бо яшчэ ж нядаўна ён спяваў песні і ўсім па дарозе ўсміхаўся, расказваючы вясёлыя прыгоды, а як жа гэта пагадзіць адно з адным? Пятрок не чытаў далей, дзе ішло паведамленне, што за тую ж самую віну цяжкай турмой каралася яшчэ многа людзей, салдат і цывільных. Не, гэта быў не сон і не жарт, а самая страшная праўда, бо пад нізам абвесткі стаяў подпіс, самі літары якога, здавалася, напісаны крывёю: «Шемет. Палкоуник и командер Окружного этапа». Ах, якія цяжкія сталі ногі, калі ішоў Пятрок назад да свайго воза. Нібы толькі вось цяпер, пасля гэтай абвесткі, стала ясна, якое непапраўнае здарылася гора.

Можа, гэта адтуль, ад могілак, пачалі паяўляцца трохі людзі — мужчыны, жанчыны. Праехала адна, другая фурманка. Крыкнула адна, другая гандлярка, зазываючы пакупнікоў. Праехаў верхам па самай сярэдзіне вуліцы паліцыянт, паблісkваючы аздобай свайго мундзіра.

— Ці ваша малако яшчэ не пракісла? — папыталася нямоцна жанчына, стоячы каля Пятровага воза з гладышыкам у руках.

Пятрок порстка і пільна зірнуў у твар. Жанчына была яшчэ маладая, куды маладзей, як хацела здавацца, і таксама глядзела яму ў вочы.

— Кіслым малаком не таргуем, — весела адказаў Пятрок. — Можаце пакаштаваць.

— Ну, то налейце, — сказала жанчына і паставіла гладышык, стаўшы вельмі блізка. — Дзядзька Нічыпар сказаў, што сёння яго бачыць няможна.

— Як буду даваць здачы, — адказаў Пятрок, — то там будзе маленькая паперка. Дзядзька Мікалай сказаў аддрукаваць яе як найбольш, забяру ў тую нядзелю. Яшчэ дзядзька Мікалай сказаў, што карабіны і патроны трэба даставаць скарэй, і гэта трэба рабіць праз таго паручніка, якога ведае дзядзька Нічыпар. Не бойцеся, знайду спосаб вывезці. Буду па нядзелях і чацвяргах.

Жанчына пайшла, а Пятрок ажывіўся і пачаў зазываць людзей, ды так галасіста і звонка, што, здавалася, ніколі не мог бы журыцца гэты найвесялейшы чалавек.

— Гэй, каму малака — падыходзь і суседачку падводзь! Прадаю напавер, за грошы, бо хлопец харошы! Пан капрал, ідзеце пачастуйцеся, на ўсякай жа рабоце трэба падсілкавацца...

Па дарозе назад у самым канцы Кладовай вуліцы, на кузні ў Лейбы, таксама вісела абвестка. Яна вісела на адным крайку — мабыць, нехта адляпіў яе. Пятрок сарваў яе і палажыў у кішэню.

Хоць гэта вельмі цяжка — даведацца, што загінуў родны брат, — але ж трэба паказаць яе Красуцкаму.

4

Зброю і патроны, перад тым як пераправіць іх у партызанскія атрады, Пятрок не давозіў да хутара. Было ў яго вельмі многа зручных мясцін у лесе, хапала і ламачча ды моху, каб прыкрыць іх. А адтуль ужо самі людзі, каму гэта было вядома, разбіралі і разносілі, найбольш ноччу, па атрадах. А лістоўкі часамі трэба было мець пад рукамі, і ненадоўга Пятрок хаваў іх у варывеньцы, у тым самым скляпку, да якога так ёмка замаскаваў лаз.

У горад Пятрок ездзіў рэгулярна. У яго там завялося вялікае і добрае знаёмства сярод легіянераў, нават з паліцыянтамі. Хоць яны часта мяняліся, але гэта не надта бянтэжыла Пятра: вельмі скора, то зняўшы яшчэ здалёк шапку, то сказаўшы якое прыемнае слова, то ўчаставаўшы добраю квартаю малака, ён заводзіў зноў не толькі знаёмства, а нават дружбу. Як толькі саспелі сыры, ён павёз іх прадаваць і ў першую ж чаргу абдарыў па цэлай галоўцы і пана Стасека, які меў абход па Кладовай вуліцы, і пана Збышку, што наглядаў за парадкам на цэнтральнай шашы, і паноў Габруся і Казімежа, пад наглядам якіх быў сам рынак.

— Няхай паны ведаюць, што ёсць не толькі дрэнныя людзі, — гаварыў ён кожнаму з гэтых паноў.

Панам было вельмі прыемна, калі Пятрок кожны раз, весела ўсміхаючыся, яшчэ здалёк вітаўся з імі:

— Шанаванне пану Стасеку!

— Шанаванне пану Збышку!

— Шанаванне пану Казімежу!

А ў варывеньцы тым часам работа ішла. Гула цэнтрыфуга; Пятрок ездзіў па сёлах, заўсёды возячы з сабою песню, без якой лес, здавалася, цяпер нават не мог абысціся; Мікалай Красуцкі даглядаў сыры, падціскаючы іх у клешчах, а пасля сушачы ўпацярусе ці ў сене. У сёлы часамі выязджаў і Красуцкі разам з Пятром, але варочаўся звычайна без Пятра, куды пазней, а бывала, што і начамі. І да Красуцкага пачалі прыходзіць людзі, можа, нават нетутэйшыя ці далёкія, бо Кірыла раней іх не прымячаў. Чаго прыходзілі? Бог іх ведае, можа, каб паглядзець на пактарню ды самім пераняць тую навуку.

Адзін такі госць вельмі запомніўся Кірылу і трохі збянтэжыў яго спакой. Ён прыйшоў у суботу надвечар, даволі плячысты,

рослы, ладны, у светлым даматканым палітоне наапашкі. Пад палітонам белая вышываная кашуля, лёгка перахопленая паяском з кутасамі; рабыя порткі забраны ў боты. Акурат вось такія хлопцы ходзяць да дзяўчат на вячоркі, калі юруе маладая кроў. Але найбольш запомніўся твар — з левага боку ад губы і недзе пад сківіцу ішоў шрам. Можа, ён не так і відзён быў бы, гэты шрам, але калі чалавек гаварыў, то рот у яго трошкі крывіўся, нібы шрам адцягваў губу ўніз. Дзе ён бачыў гэты твар? Вельмі ж памятаюцца яму пакрыўленыя ў гаворцы губы.

Чалавек нядоўга быў у варывеньцы, Красуцкі правёў яго за вароты, а тады ў лясок, і яны доўга там недзе бавіліся. Не бачыў, вядома, Кірыла, як Красуцкі злазіў у скляпок і на адыходзіны даў чалавеку скрутак паперак. Не чуў і размовы, якая была ў Красуцкага з чалавекам у лесе.

— Важна, каб акупанты не адчувалі сябе гаспадарамі, — гаварыў ён чалавеку. — Трэба трывожыць іх усюды, у армію да іх пралазіць, знішчаць ваенныя склады, не даваць асталёўвацца.

— Якая наша бліжэйшая задача, таварыш Красуцкі?

— Урэчча. Трэба там знішчыць усё іх дабро на станцыі. Заадно, вядома, і гарнізон. Зброю і патроны — з сабою. На бліжэйшы час нам трэба будзе вельмі многа зброі.

— Добра, таварыш Красуцкі.

Кірыла зайшоў у варывеньку папрастарэкаваць з хлопцамі па пытаннях жыцця. Ці не ведае Красуцкі, чаму гэта легіянеры пачалі так часта падпальваць сёлы і чаму зноў пачаўся такі неспакой? Раней быдта не было так многа гэтых карных атрадаў. Ды нешта і сам Красуцкі стаў не такі, як быў: скупы на словы, на гаворку. Можа, і папраўдзе пачуў смак у грашах і ўвесь кінуўся ў сваю камерцыю? А можа, таксама баіцца пярэтрусу? Але ж чалавек гэты — адкуль ён узяўся і чаго прыходзіў?

Кірыла такі ўспомніў яго. У той кароткі час, калі тут былі бальшавікі адразу пасля рэвалюцыі, на хутары ў яго стаялі салдаты, можа, больш за ўзвод. Немцы стаялі на тым баку рэчкі, і цераз Кірылаў хутар з тугім завываннем пераляталі снарады, разрываючыся то справа, то злева, то, здавалася, над самаю галавою. Салдаты ляжалі ў акопах, тымі акопамі было зрыта ўсё яго поле, нават у агародзе. Гэты чалавек быў у бальшавікоў за камандзіра. Усюды ішла страляніна, а ён быдта нічога не заўважаў ці абвык, можа, спакойна стаяў на ганку, паглядаючы ў бінокль, і час ад часу падаваў каманду то аднаму, то другому салдату ў бліжэйшых акопах. Неяк пад вечар, ужо прыцемкамі, калі сціхла страляніна, ён сабраў салдат і загадаў адступаць.

— Будзь здароў, дзеду, — сказаў ён Кірылу, узяўшы яго за абедзве рукі. — Калі нашкодзілі табе тут трохі — прабач.

— А цяпер жа куды — дадому? — трывожна папытаўся Кірыла, яшчэ ўсё не верачы, што яны і папраўдзе пойдуць і што пасля іх сюды прыйдуць немцы.

— Не, дзеду, дадому мне далекавата, я сам з Петраграда. Ды і няма калі — ваяваць трэба: немец тут пабудзе нядоўга, вернемся, гэта ты будзь спакойны. А цяпер — дзякуй табе за хлеб, за бульбу, за прытулак. Ад усіх чырвонаармейцаў, — сказаў ён і паціснуў рукі. І калі гаварыў, то шрам трошкі крывіў яго рот, нібы адцягваючы губу ўніз.

От цяпер Кірыла прысеў на парозе.

— Ну, як жа, рахубу ад свайго інтэрасу маеш? — папытаўся ён у Красуцкага.

— Ды як вам сказаць, дзядзька Кірыла, не рахаваў яшчэ.

— Раскідаешся надта, збыткуеш, — гаспадарліва сказаў Кірыла. — Пятрок твой, я гляджу, шырокае натуры чалавек. Бачыў я, як ён прадае — за цаною не стаіць, кожнаму, які трохі з начальства там ці з чыноўнікаў іхніх, услугоўвае — і перадасць, і гасцінчыка ткне. Так робячы, не забагацееш. А сыроватку тую, ці, як вы кажаце, пахту, дык ён жа проста за бесцань выкідае.

— Ну, часамі ж трэба і рэкламу зрабіць, — памяркоўна не згадзіўся Красуцкі. — Без гэтага не бывае.

— Ракла-аму, — пераказаў Кірыла. — Бачыў ты, ужо і слоў мудрых нахапаўся. Ну што ж, можа, твая і праўда... А скажы ты, што гэта за чалавек быў у цябе надоечы? Гэты, з губою пакалечанаю?

Красуцкі тут жа падняўся з парога, пачаў разбіраць цэнтрыфугу, каб перамыць ды высушыць за ноч.

— З Амгавіч, леснікам там робіць, — адказаў ён, стоячы да Кірылы плячыма. — Мы з ім даўно знаемся, дык от прыбег праведаць. А родам з Агароднікаў, але таксама на гаспадарцы не жыве.

— А-а, — працягнуў Кірыла, як бы сказаўшы: «Ну, вядома, што ж тут такое», але сам сабе здзівіўся. «Нешта ён выдумляе. То з Петраграда, а то з Агароднікаў, — нешта тут не тое», — падумаў ён.

## 5

Нейк у чэрвені, пасля паўдня, Пятрок варочаўся з горада ў добрым настроі. Ён вёз адозву, надрукаваную падпольным

камітэтам, у якой растлумачвалася, што камуністы і савецкая ўлада ваююць не супроць Польшчы, а супроць польскіх магнатаў, памешчыкаў, буржуазіі ды пілсудчыкаў, якія акупавалі Беларусь паміма волі свайго народа, каб прыгнётам і эксплуатацыяй толькі павялічваць свае багацці. У адозве гаварылася, што сялянства і рабочы клас Польшчы добра самі разумеюць гэта і спачуваюць працоўнаму народу Беларусі, бо нават сярод салдат польскай арміі ёсць многа людзей, якія працуюць падпольна і як могуць памагаюць партызанам, часам нават пераходзяць да іх са зброяй. «Падымайцеся ўсе супроць памешчыкаў і капіталістаў, змагайцеся за ўладу рабочых і працоўнага сялянства! Прэч акупантаў з нашай зямлі!» — гаварылася ў адозве.

Бываючы рэгулярна ў горадзе, Пятрок вельмі добра вывучыў салдат, з якімі звычайна стыкаўся за час тае дарогі. Не дзіва, што і адозвы тыя вёз сёння без асаблівай асцярогі — проста палажыў у сядзенні пад сена, наверх спакаваўшы штук колькі нераспраданых сыроў ды пасудак — два парожнія бітоны. Ён нават песні сёння не спяваў, пусціўшыся ў добрыя дарожныя мары.

І не паспеў уз'ехаць на двор і распрэгчы каня, як ля варот паказаліся карнікі.

Не было асаблівай падставы Кірылу баяцца карнікаў, бо яны звычайна наязджалі і распраўляліся ў сёлах, дзе сустракалі сабатаж або сляды партызанскай дзейнасці. Кірыла ж быў у баку ад дарогі, на адзіноце, ціха, хоць крэкчучы, плаціў падаткі і кантрыбуцыі, нікому нічым не гразіў і ніякае небяспечнае сілы сабою не станавіў. Аднак жа ён вельмі спужаўся, убачыўшы вайскоўцаў гэтакай вялікай чарадой, і, стоячы недалёка ад варывенькі, нямоцна крыкнуў:

— Мікалай, салдаты прыехалі!

Красуцкі стаяў каля парога, ён перш як бы сцепануўся, намерваючыся куды кінуцца, а пасля стрымаў сябе, глыбока, на ўсе грудзі, удыхнуў паветра і выйшаў на двор. Пятрок так і астаўся стаяць пры аброці ў каня. Кірыла, босы, у расхрыстанай сарочцы, папраўляючы ўскамлычаныя валасы, бо толькі выйшаў з хаты пасля полудня, пайшоў адчыняць вароты.

Карнікі ўз'ехалі на двор. Пад пярэднім, паручнікам, аж гарцавала танканогая, бліскучастай гнядой масці кабыліца. Паручнік саскочыў з сядла, крывая шабля бразнулася канцом па доле. Ён падвёў кабыліцу да плота, зачапіў повадам за шчыкеціну і паправіў на сабе перш шапку з доўгім лакавым казырком, тады мундзір, абцягваючы яго наўкруга і выпінаючы грудзі. Пазлазілі і астатнія і таксама пачалі, хто дзе мог, прывязваць коні.

— Пан гаспадар будзеш? — папытаўся паручнік у Кірылы, падазваўшы да сябе. Ён паправіў рамянёк нагайкі, зачэпленай на правай руцэ.

— Але, гаспадар, паночку.

— Бальшавікоў хаваеш? Прыходзяць да цябе партызаны? — паляпваючы нагайкаю па халяве шчыгульнага бота, аж два пытанні адразу задаў паручнік.

— Ды што вы, паночку, я іх у вочы ніколі не бачыў.

— Патроны, зброю маеш?

— Бронь божа, я ж чалавек мірны.

— А то хто такія ў цябе? Што за людзі? — папытаўся паручнік, тою ж нагайкаю паказваючы на Красуцкага і Пятра.

— Ды як вам сказаць, — замяўся Кірыла. — Інтэрас невялікі людзі маюць, пактарню абсталявалі, на продаж сыры робяць тут.

Карнікі і папраўдзе заехалі да Кірылы, можна сказаць, выпадкова. З самага рання яны былі ў глыбокіх лесавых сёлах, папалі ў партызанскую перастрэлку, спалілі дзве хаты, арыштавалі за бунтарства трох чалавек і адправілі ў пастарунак. Цяпер, злосныя і галодныя, яны варочаліся ў горад і па дарозе ў Кірылы проста хацелі падсілкавацца. Але непрадбачаная акалічнасць з гэтымі нетутэйшымі людзьмі прымусіла пусціць у работу сваю прафесію.

— Пактарню? — злосна перапытаў паручнік. — А вось мы зараз пабачым, якая ў цябе тут пактарня. Салдаты! — крыкнуў ён і падняў тронак нагайкі ўгору.

Салдаты кінуліся хто ў варывеньку, хто ў хату да Кірылы, хто палез на гарышча. Двое абступілі Красуцкага, двое схапілі Пятра, пачалі трэсці, абмацваючы за пазухаю, выварочваючы кішэні. Пятроў конік, бачачы, што яго больш не трымаюць за аброць, матнуў галавою і пайшоў да сяброўства — да салдацкіх коней, якія ўжо натапырвалі вушы.

— Тпру, каб ты здох! — крыкнуў на яго Кірыла, якога ніхто не крануў, бо ён стаяў каля самага паручніка, і кінуўся напярэсцігі. — Іч, ваўкарэзіна, упынку на цябе няма, неўстаенны. Но, зараза! — крыкнуў ён яшчэ мацней, шлёгнуў ляйчынаю і пагнаў воз цераз двор на прыгуменне.

Ён загнаў каня на ток, выпраг, выпусціў за вароты ў лясок, спутаў. Калі вярнуўся на двор, вобыск ужо скончыўся. На двары валяліся папераварочваныя бітоны, цабры, відаць было, што ў варывеньцы ссунута дзежка з лазу ў скляпок. Паручнік дапытваўся ў Мікалая і Пятра, хто яны, адкуль і чаму заняліся пактарствам.

— Мы, пане паручнік, правільна жыць хочам, за сваю сумленную працу. Самі абжыцца стараемся і дзяржаве карысці зычыць хочам. Вашай арміі мы сыры нашы збываем, вось, маеце паглядзець, — тлумачыў Пятрок, паказваючы квіткі, весела свецячыся тварам і высока падымаючы свае бялявыя песенныя бровы.

Аднак пана паручніка вельмі цікавіла тое, чаго ён сюды прыехаў:

— А ці не ведае пан гаспадар, што гасцей трэба пачаставаць? — папытаўся ён у Кірылы, як толькі той зноў стаў каля яго.

— То гэта можна, паночку, зараз скажу... Тэкля! — крыкнуў ён у хату. — Волька! Зараз жа згатуйце панам чаго паесці смачнейшага... Я зараз, паночак, — і Кірыла падаўся ў хату, ступаючы так, як заўсёды, калі спяшаўся: адной нагой карацей ступаючы, другой — даўжэй.

З варывенькі роўна і глуха загула цэнтрыфуга. Паручнік пачаў аглядаць двор. На страсе ў хляве зацвярдзелымі грудкамі зелянее мох. Дрывотня з калодаю, і поўна нацягана карчоў. А што ж, няхай і карчуе, бо хто ж будзе разрабляць зямлю, калі не мужык.

Сонца парыла. Аднекуль цягнула густым, настоеным водарам кветак, траў, збажыны. Загула пчала, пакінуўшы за сабою выгнуты след гудзення, нібы яна блыталася ў гэтых густых мядовых пахах. Пан паручнік успомніў, як сёння гулі кулі, толькі след у тых быў роўны і пякуча-востры.

Бразнулі дзверы, з сянец выскачыла дзяўчына — мабыць, Волька! — і скоранька пайшла цераз двор, стукаючы загарэлымі пяткамі і лёгка пагойдваючы круглымі клубамі. Стаўшы на адно калена, яна пачала набіраць на бярэмя дровы, і вельмі трошкі з-пад падолу прасвечвалася галёнка нагі. Выйшла жанчына — мабыць, Тэкля! — несучы перад сабою мнагараджалы жывот, перахоплены матузком фартуха. Суняўшыся каля хлеўчука, яна пасыпала хлебных крошак па доле, ззываючы «ціп-ціп-ціп», прыцікаваўшы, злавіла дзвюх кур і падалася ў дрывотню. Прысеўшы і заціснуўшы адну ў прыполе, яна прыціснула галаву другой да палена і нямоцна стукнула сякераю. Курыца млява трапянула крылом, асела назад, і з кароткага ашыйка ў яе выціснулася палахлівай кропляй, а пасля цуркам пацякла цёплая кроў...

Пан паручнік вельмі хацеў есці і, каб перабіць нецярплівасць, дастаў цыгарэту і закурыў...

6

Зноў усталявалася Савецкая ўлада, ужо навечна.

Быў канец лета. У Слуцку, на рыначнай плошчы, зрабіўшы ўсе справункі, сядзеў Кірыла на сваім возе і перакусваў, збіраючыся дадому. Народу было поўна, вазы стаялі густа, з пападвязванымі ўгору аглоблямі, каб па іх не ступалі чужыя капыты і каб не замінаць чужым фурманкам. Кірыла надломваў пальцамі ад кавалка хлеба столькі, колькі трэба было адкусіць, адрэзваў маленечкі кавалачак варанага мяккага сала і доўга мусліў у роце, стараючыся пеpaжаваць бяззубымі дзёснамі. Па торбачцы яго прайшоў і суняўся нечы цень.

— Добрага здаровейка, дзядзька Кірыла!

Перад Кірылам стаяў Красуцкі, зусім не такі, як ён яго бачыў яшчэ зусім нядаўна, — паблажэў і разам з тым пахарашэў, збрыў вусы, твар адразу стаў нейкі вельмі адкрыты і добры, — толькі цяпер Кірыла ўбачыў, што ў яго такія ясныя вочы. Шапка на ім сядзіць лёгка, адкрываючы лоб, на плячах хоць паношаная, але blішчастая скуранка, галіфэ з абшытымі каленямі.

— Божа мой, Мікалайка, ці цябе толькі я бачу? — заварушыўся Кірыла, адграбаючы торбу, выціраючы губы і працягваючы абедзве рукі.

— Ды, мабыць, мяне, — адказаў Красуцкі, смеючыся нейкімі вельмі цёплымі іскаркамі ў вачах. — От, пазнавайце.

— Даўно ж не бачыліся, чалавеча.

— Ды не так і даўно, гэта ж месяцаў з два, мусіць, толькі.

— Два? — перапытаў Кірыла. — От бачыш, а мне дык здалося, што, можа, ўжо год, як выкурылі тых яснавяльможных паноў. Але ж і здорава яны беглі. Толькі шкода, што бяды многа нарабілі, от Нівішча ж дашчэнту спалілі.

— Ну што ж, нічога не зробіш... Як жа пажываеце, дзядзька Кірыла?

— Ды пажываю так сабе, ніштo, а ты от давай разам будзем падсілкоўвацца. Садзіся ў воз, от сюды, тут у мяне старая сала, як ведала, не на аднаго палажыла.

Кірыла пасунуўся на калёсах. Красуцкі торкнуў рукою па казырку, яшчэ больш адкінуўшы шапку, правёў пальцамі па тым месцы, дзе былі вусы, мабыць, яшчэ не адвыкнуўшы ад іх, і гарцануў на біла.

— Давайце, дзядзька Кірыла, бо без сала яно і папраўдзе трохі занудзіўся я.

Красуцкі еў смачна, у ахвоту, і ўвесь час не сыходзіла ў яго з твару нейкая шчаслівая рыска.

— От за што не пахвалю савецкую ўласць вашу, Мікалай, — сказаў Кірыла, сам адчуваючы на сабе і гэты смак, і ахвоту, і радасны подым, так, як гэта бывае, калі ты сам нават не верыш, што з табою нешта добрае здарылася.

— А за што? — перастаў нават жаваць Красуцкі.

— Што гарэлкі не дазваляе. От бы нам з табою сёння да гэтага сала ды па чарачцы. На што ўжо я не надта важнецкі пíток, а сёння, як у добрых людзей заведзена, не пашкодзіла б яна.

— Дурман, — адказаў Красуцкі. — Рэлігія і гарэлка — дурман для народа. Гэта правільна, і я піць не мог бы ўсё роўна.

Кірыла падумаў.

— Што да гарэлкі, то, можа, яно і дурман, — сказаў ён, — а от на лерыгію, то я з табою не пагаджуся. Лерыгія — гэта, брат Мікалай, спрадвеку ідзе, і чалавеку без яе няможна. Лерыгія — гэта... ну, як табе сказаць...

— Другім разам, дзядзька Кірыла, і пра рэлігію пагаворым, а сёння некалі. Вельмі дзякую за пачастунак, спяшаюся.

— Ты от што — забяры з сабою, што асталося. Забяры-забяры, спатрэбіцца, кажу. Бачу, што не надта зажыўся ты на той камерцыі... Дык дзе ж цяпер, што робіш, скажы?

— Па дзяржаўнай лініі, дзядзька Кірыла, работы хапае, — сказаў Красуцкі і злез з воза.

— Па дзяржаўнай лініі, іч ты, па галіфэ тваім бачу, рассмяяўся Кірыла. — А калі ж чарапкі свае пазабіраеш? Там жа і формы гэтыя твае валяюцца, парасяты іх лычамі качаюць па двары, і вёдры, і цабэркі. Так ты скоранька ўсяго адцураўся, што я думаў — можа, няшчасце якое табе надарылася: знік, нават цэнтрыфугі тае не разабраўшы.

— Некалі было ўжо: вельмі ж моцна Чырвоная Армія націснула. Нам трэба было памагаць. Але я што хацеў сказаць: я перад вамі вінават, дзядзька Кірыла, — сказаў Красуцкі, папраўдзе гледзячы вінавата-прыязна. — Пактарня ж тая ў нас была толькі для прыклёпу, падпольшчыкамі мы былі. Каб вы ведалі, то, напэўна, і не пусцілі б нас.

Кірыла нахмурыўся. Бровы сталі строгія, і з твару збеглі маршчынкі тае весялосці, што ўвесь час свяцілася каля воч.

— Ты от што скажы, Мікалай: дзе цяпер Пятрок твой? — пачакаўшы, папытаўся Кірыла.

— А што, — затрывожыўся Красуцкі, — можа, ён чаго натварыў?

— Ды не. Але ж пасля тае калатнечы я яго больш і не бачыў.

— Адразу ж тады я паслаў яго на сувязь з Чырвонай Арміяй. Там і астаўся, ваюе цяпер недзе пад камандаю ў таго, як вы казалі, з губою пакалечанаю.

— Шустры быў хлопец.

— Не кажыце, дзядзька Кірыла. І смелы. Ён жа пад тымі сырамі ды бітонамі зброю ды лістоўкі вазіў. І тады, як карнікі наскочылі, я проста быў утрупянеў. Але ён, мабыць, перахітраваў іх: недзе скінуў па дарозе. От і гэтага вы не ведалі, дзядзька Кірыла.

Кірыла ўздыхнуў. Задумаўся.

— То вы ўжо нам за ўсё прабачайце, — вінавата папрасіў Красуцкі. — А цяпер бывайце здаровы, бо я спяшаюся.

Красуцкі аберуч паціснуў Кірылаву каструбаватую руку, торкнуў пальцам у казырок, збіўшы шапку на патыліцу, і пайшоў, прабіраючыся між вазоў, пераступаючы аглоблі. Кірыла з любасцю глядзеў у гэтую шырокую, ладную спіну.

«Ідзі, чалавеча, рабі сваю леваруцыю, — думаў ён. — Падпольшчыкі... Значыць, Пятрок табе нічога не сказаў. Ну, то і я не скажу, калі ён сам не прызнаўся. Няхай сабе, як ты кажаш, я нічога і не ведаў... Але калі б тады я не загнаў каня ў гумно пад носам у карнікаў ды не пахаваў у запеvры ўсіх вашых і бонбаў і цыдулек, якіх повен воз было ў Пятра пад сядзеннем, то і ён не ваяваў бы, і ты наўрад ці стаяў бы сёння перада мною. От як, мой дарагі Мікалайка...»

## СЛЕД ГУМОВЫХ ШЫН

Гэта быў, можна сказаць, ужо край горада, і называўся ён Калоніяй. Крута спусціўшыся з узгорка, шырокая гарадская вуліца нечакана канчалася і разбівалася на завулкі і вулачкі. Пакручаста яны разбягаліся то ўлева, то ўправа, ішлі то ўдоўж, то ўпоперак так, што цяжка было разабрацца. Аднак жа да аднаго будынка, нізкага, шырокага і прасторнага, як гамарня, што рассунуў сабе даволі ладнае месца сярод гэтай мітусні, вёў драўляны тратуар, насланы на тоўстых лежаках. Ён таксама выкручваўся то ўлева, то ўправа, але ясна паказваў, што будынак гэты стаіць тут як бы выпадкова, што ён — гарадскі. Нават двор яго, таксама шырокі і прасторны, быў аслонены маладымі таполямі і абсаджаны кустамі бэзу.

Гэта была наша гімназія. Лепш кажучы, не наша, бо мы былі ў падсуседзях. Мы, рэалісты, не мелі свайго будынка, дый наогул мы не ведалі, што мы за школа. То былі часы першых гадоў рэвалюцыі, калі савецкую ўладу ў Беларусі душылі перш салдаты кайзера, а тады легіянеры Пілсудскага, і пры кожнай новай уладзе школыператасоўваліся, мяняліся назвы,ператасоўваліся і вучні. Не ведаю, якія школы на гэты раз былі зліты і як дакладна мы называліся, але займацца нам прыйшлося на Калоніі. Цяпер тут асталявалася новая навучальная ўстанова — Слуцкая беларуская гімназія. Мы ад яе залежалі не толькі як падсуседзі, а яшчэ і таму, што дырэктар яе меў сілу і над намі. Ён вывешваў у калідоры загады, якім мы павінны былі падпарадкавацца, мог заходзіць у нашы класы і ўвесь урок праседзець на задняй парце, правяраючы ні то нас, ні то нашых настаўнікаў. Ён быў членам гарадской управы і, мабыць, лічыў, што яго права хапае на абедзве школы і што свайго дырэктара нам не трэба.

Аднаго разу не прыйшла выкладчыца нямецкай мовы. Мы былі рады, што можна будзе ўвесь урок прашлындаць па калідорах, падслухваючы, што робіцца ў другіх класах, або збегаць на рэчку, якая працякала тут жа за Калоніяй. Але празвінеў званок, і ў клас увайшоў дырэктар.

— Настаўнікі вас не крыўдзяць? — папытаўся ён. — Крыўдзіць не павінны. Калі што, то вы скажыце мне, я крыўдзіць не дазволю. Але вучыцца вы павінны добра, бо нам патрэбны маладыя здольныя сілы. І з мужыкоў могуць выйсці вучоныя, інтэлігентныя людзі.

Мы глядзелі на яго як бы ўпершыню, бо толькі цяпер маглі як след разгледзець. Ён увесь зіхацеў дасціпнасцю: невялікая клінаватая бародка згладжвала крыху рэзкія рысы твару; цёмнакарычневы гарнітур ляжаў шчыгульна і ладна; бялюткая манішка з гутаперчавым каўнерыкам і такія ж бялюткія манжэты, на якіх з-пад рукава на нейкае малюсенькае імгненне паблісквала зялёная іскарка спонкі, рабілі яго прывазным, нетутэйшым. Увесь ён быў акуратны і начышчаны. Нават гладка прычэсаныя валасы былі начышчаны нейкім пахучым, недасяжным бляскам. Няўжо вось так павінны будзем выглядаць і мы, калі станем вучонымі, інтэлігентнымі людзьмі, як на тое спадзяецца дырэктар? Не, гэта незбытэчныя спадзяванні.

— А цяпер трошкі пазаймаемся вашым прадметам. Як бачу, вы нямецкую мову не надта любіце. На чым мы спыніліся? — папытаўся ён так, як бы скрозь быў нашым настаўнікам, і пачаў іменна з таго параграфа, на якім мы спыніліся перад гэтым.

Настаўніца па нямецкай мове была старая, часта нядужала, мы нават шкадавалі яе. Не прыйшла яна і назаўтра. Мы чакалі, што зноў яе заменіць дырэктар, і былі рады, калі ў клас увайшла новая настаўніца, маладая, вясёлая і прыгожая. Яна нам адразу ўсім спадабалася. Павіталася не як з вучнямі, а як з сваімі сябрамі ці аднамыснікамі, ласкава ўсміхнуўшыся і акінуўшы ўсіх трошачкі вялікаватымі круглымі вачыма. У яе былі светлыя пышныя валасы, нейкія вельмі цёплыя. І мілая манера здзіўляцца з усяго самага звычайнага: «Ой, як вас многа, і ўсе такія харошыя!» Ды ўсё ў ёй было мілае, нават сукенка, тонка-галубовая, з лёгкімі брыжыкамі, якія так нясмела прыкрывалі трывожныя грудзі. Нават пальцы з вузкімі ружовымі назногцікамі. Цяпер мы ведалі, што нямецкую мову будзем любіць. Нават двойкі будзем любіць ад такой настаўніцы.

— Дзень добры, хлопчыкі, — сказала яна чыста па-беларуску, уся свецячыся маладым хараством. — Будзем знаёмы: завіце мяне панна Кася. Я буду выкладаць у вас польскую мову.

Гэтага мы не спадзявалі, і радасць наша адразу згасла. Мы пачулі трывогу, можа, не зусім ясную, але вельмі вострую: значыць, мы належым цяпер да другой дзяржавы. І панна Кася адразу стала не тая: яна не наша аднамысніца, а гаспадыня.

Прайшло тыдні два, панна Кася акуратна прыходзіла на нашы заняткі, кожны раз вясёлая, прыгожая і простая. Калі мы былі перш збаяліся яе, то гэта скора прайшло. Цяпер мы ні ў чым не вінавацілі яе, а нават спачувалі: не кожнаму дадзена рабіць толькі тое, што хочаш і любіш. Панна Кася нам зычыць дабра, гэта мы бачылі па ўсім. Яна на нас не крычыць, не сварыцца, не ставіць сябе высока ці ганарыста. Можа падысці да парты і пажартаваць, пакудлаціўшы каго за чуб. Можа пахваліць, нават пагладзіўшы па валасах.

— Добжэ. Бардзо добжэ, — скажа яна і тут жа дадасць па-беларуску: — Вы ўсе, хлопчыкі, разумныя, і мы скора навучымся не толькі пісаць, а нават размаўляць.

Вучыліся мы і папраўдзе нядрэнна. Трошкі цяжка было з граматыкай: мы не заўсёды разумелі, дзе трэба было пісаць «о» простае, а дзе крэскаванае, каб яно чыталася, як «у»; дзе «е» і «а» звычайнае, а дзе з крывулінкаю, каб чутно было ў ім «н». Дзівіліся яшчэ, што «ш» і «ч» трэба пісаць праз дзве літары кожную. Але чыталі і разумелі мы вельмі лёгка. У гэтым не было ніякага дзіва, бо зрэдку падабенства на польскую мову мы чулі. Мясцовая шляхта, маючы каталіцкае веравызнанне, на фэстах ці на кірмашах лічыла за найбольшы гонар пры сустрэчах ска-

заць адзін аднаму хоць некалькі слоў па-польску. «Як се маш, пане?» — «Да ніц собе, хвала богу. А пан, слышалэм, цурку выдае замуж?» — «А так, проша пана, хлопец папаўся ладны, то нех собе выходзі». — «Чым прэндзай, тым лепей».

Гэтыя невялікія пазнанні і выручалі нас. Вельмі скора мы налаўчыліся не толькі перакладаць, а нават і самі скласці падобную фразу. Панна Кася была давольна. Яна прыпісвала гэта нашай стараннасці, не ведаючы, што мы нават і не думалі старацца. На ўроках яе мы займаліся чым папала: перапісваліся, шапталіся, робячы выгляд, што памагаем адзін аднаму яшчэ больш зразумець тое, чаму навучае нас панна Кася. Урокі яе праходзілі весела, з жартамі. Кожны раз яна гаварыла нам «да пабачэння» і скоранька выходзіла, дробна грукаючы абцасікамі, а мы яшчэ доўга глядзелі ёй услед.

Мы такі любілі панну Касю, бо яе прадмет нам не замінаў. Але аднойчы ўсё гэта адразу як згінула. Ходзячы каля дошкі, панна Кася дыктавала нам практыкаванне. Час ад часу яна спынялася каля стала, каб зазірнуць у кніжку. Словы, на якіх мы маглі зрабіць памылку, яна падкрэслівала тонам або працяжным вымаўленнем. Яна як бы памагала нам у нейкай тайнай змове, як бы папраўдзе была нашым аднамысснікам.

— Польска — наша ойчызна. Юзэф Пілсудскі — наш начэльнік паньства, — прадыктавала панна Кася сказ і пайшла паміж парт, паўтараючы і падкрэсліваючы асобныя словы. Іздзіўлена спынілася каля Міхаля Пісарыка. — А чаму ж ты, хлопчык, не пішаш?

Міхаль Пісарык быў невысокі, таўсматы хлопец з Грэска. Ён быў аднарукі. Правую адарвала яшчэ недзе ў малыя гады прывадам малатарні. Пісаў ён левай рукой вельмі лёгка і спрытна, куды спарней за нас. Але нас дзівіла не гэта, а тое, што почырк у яго быў куды харашэй за самыя лепшыя ўзоры ў прапісі Гарбача. І націскі, калі пяро апускаецца ўніз, і танюсенькія лініі ўгору, і завітушкі ў вялікіх літарах, размашыстыя і смелыя, і роўны, акуратны радок. Такім почыркам пісаліся толькі царскія ўказы. Мы жартавалі, што почырк у яго ідзе ад самога прозвішча і што калі б ён радзіўся на паўвека назад, то быў бы самы знакаміты пісар на ўсю імперыю.

— Чаму ж ты не пішаш, мой хлопчык? Можа, ты хворы? — перапытала панна Кася.

Міхаль Пісарык устаў. Сшытак, разгорнуты перад ім на парце, быў чысты. Чубок жоўтай чупрыны спаўзаў на лоб. Ён глядзеў на панну Касю вельмі даверліва.

— Нашто вы гэтаму нас вучыце, панна Кася? Майго ж татку застрэлілі легіянеры.

Панна Кася пачырванела і на хвілінку злякалася. І тут жа твар яе стаў суровы і злосны. Скрывіўшыся ў гэтай злосці, яна схапіла Пісарыка за вуха і пачала круціць.

— Нягоднік! Хам! — крычала панна Кася. — Усе вы тут такія ваўчаняты! Вас трэба ўсіх перадушыць!

Правае бязрукае плячо ў Пісарыка паднялося высока. Ён выбавіў гэтым плячом вуха з пальцаў панны Касі. Тады яна пачала яго біць па шчаках — у адну, у другую, з размаху, з асалодаю, з пошчакам на ўвесь клас, крычучы і задыхаючыся і адразу стаўшы старой і страшнай, як вядзьмарка:

— Перадушыць! Перавешаць усіх, бандытаў, бальшавіцкіх вырадкаў!

Панна Кася выскачыла з класа, дробна застукаўшы абцасікамі і моцна бразнуўшы дзвярыма. Ах, як нам было шкода чагосьці, як нечакана абарвалася і знікла назаўсёды нешта вельмі дарагое, — мабыць, гэта мы развіталіся з даверлівым і бесклапотным дзяцінствам, бо ўведалі, што жыццё куды складаней, як здаецца на першае вока.

Не паспелі мы разабрацца ў гэтай нашай журбе, як у дзвярах паказаўся дырэктар. Мы ўспомнілі, як ён абяцаў нікому не даваць нас у крыўду, і акрыялі. Але ён гнеўна асадзіў нас, назваўшы басурманамі і бунтаўшчыкамі. Мы ніхто яму не сказалі ні слова, калі ён дапякаў і гразіўся ўсіх паразганяць. Нас — няхай разганяў бы, мы нават хацелі б гэтага, але каб толькі не чапаў Міхаля Пісарыка. Ён цяпер быў нам — як наша сумленне.

Выходзілі мы з гімназіі гуртам, нам не хацелася пакідаць Пісарыка аднаго. На высыпанай жвірам дарожцы, што загінала з вуліцы да ганка, стаяў дырэктараў фаэтон. Фурман за лейцы стрымліваў сытую жарабіцу.

Да фаэтона прайшла панна Кася з дырэктарам. Яна ішла скоранька, як бы ўцякаючы ад яго. Але ён паспеў нагнаць, каб падаць руку, калі панна Кася ступіла на падножку. На нейкае малюсенькае імгненне з-пад рукава ў яго бліснула зялёная іскарка спонкі.

— Божа мой, якія яны хамы. Навошта ты вёз мяне сюды, у гэтае балота, лепш бы я была ў Вільні, — гаварыла панна Кася, і мы цяпер не бачылі на твары тае прыгажосці, якой яшчэ нядаўна любаваліся.

— Няхай панна Кася не зважае, на тое яны мужыкі.

— Ты ў мяне сёння будзеш?

— А як жа, мая каханая панна. Адразу пасля ўправы, я там забаўлюся не доўга.

Дырэктар загадаў фурману, каб вёз паволі, і неўзабаве вярнуўся, бо ён яшчэ на якую часіну тут астаецца. Стаенная кабыліца нецярплівая рванула з месца, і на жвіры астаўся след тонкіх гумовых шын.

## РАЗВІТАННЕ

### 1

Гэтая гісторыя пачынаецца з тых цяжкіх дзён, калі на нашу краіну напаў люты вораг. У далёкі сібірскі шпіталь прывезлі чарговую партыю параненых. Адзін з іх, капітан Андрэй Сушынскі, спрэс абкручаны бінтамі, доўгі час быў непрытомны. Ні ў кога не аставалася жаднай надзеі, што ён выжыве.

Лена тут была ў эвакуацыі, працавала на абаронным заводзе. Завод гэты браў шэфства над шпіталем. Звычайна шэфы памагалі ва ўсіх гаспадарскіх клопатах: дзяжурылі па кухні, мылі вокны і посуд, прыбіралі палаты, паласкалі бінты. А яшчэ больш рабілі тое, што памагала раненым адчуваць на сабе звычайны чалавечы клопат: чыталі газеты і пісьмы з дому або пад дыктоўку пісалі дадому ці таварышам на фронт.

Якраз Лена дзяжурыла ў той час, калі прывезлі Сушынскага. Яна памагала яго пераносіць, класці на аперацыйны стол. Бачыла, як падалі і падалі ў таз акрываўленыя шматкі бінтоў. І толькі адзін раз пачула, як ён застагнаў.

Дзён колькі ён трызніў. Крычаў нейкую каманду, на некага сварыўся. Было страшна нават глядзець, адкуль у яго бярэцца столькі сілы, каб аж калаціўся ложак. Лена баялася, што ён паздзірае бінты і зноў пойдзе кроў, паадкрываюцца раны.

І часта зваў жанчыну — Таню. Хто была гэтая Таня — невядома. Але зваў ён яе ласкава. У нечым папракаў яе, на нешта скардзіўся.

— Не хачу нічога знаць... Таня! Не, не, ты не зробіш гэтага!.. Добра, я сустрэну... А чаму не страляюць?.. Агонь! Агонь!.. — і нічога ўжо нельга было разабраць.

Папраўляўся ён вельмі цяжка. На твары, там, дзе паздымалі бінты, расла рыжая шчаціна, прабіваючыся праз луску мёртвай скуры, што яшчэ не аддзялілася ад ран. Найбольш ён

моўчкі ляжаў або спаў і доўга нават не заўважаў, што цэлымі вечарамі каля яго ложка праседжвала Лена.

Калі ў яго ўжо ставала сілы на ўвагу, дактары дазволілі прачытаць пісьмы, якіх за гэты час назбіралася шмат. Лена загадзя перагледзела іх, каб ведаць, ці няма там чаго такога, што магло б хваляваць яго. Чытанне расцягнула на некалькі дзён, не даючы надта стамляцца. Але здавалася, што ён чакаў нечага другога, большага, чым тое, што пісалася ў пісьмах.

— Усё? — звычайна перапытваў ён.

— Усё. Можа, хочаце каму адпісаць? Я напішу, толькі скажыце што.

— Не трэба.

Аднаго разу прыйшло пісьмо і ад Тані. Лена прачытала яго на хаду, у калідоры. Таня пісала з фронту, не ведаючы, што ён у шпіталі, і пісьмо доўга блудзіла, пакуль знайшло свой адрас. Коратка яна прасіла прабачэння, што замест радасці прыносіць яму смутак. Вельмі коратка тлумачыла свой учынак: фронт — гэта на кожным кроку смерць, і навошта звязваць сябе, каб не пакарыстацца тым, што дадзена чалавеку на радасць. Прасіла не чакаць і не спадзявацца на яе — яна ўжо звязала свой лёс. «Можа, гэта ненадоўга, я магу загінуць кожную хвіліну, ты ж сам ведаеш гэтае пекла перадавой, але я хачу, каб ты памятаў, што я цябе любіла як магла. Твая Таня».

Лена не прачытала гэтага пісьма Сушынскаму, хоць добра разумела, што іменна аб ім кожны раз пытаюцца яго вочы. Яна схавала гэтае пісьмо і ўсёю душою ўзненавідзела невядомую ёй Таню.

Прайшла зіма, настала доўгачаканая кароткая сібірская вясна. За вокнамі ў агародчыку выскачыла густая сакавітая і нейкая надта порсткая трава. Яна расла буйна, спяшаючыся, і найбольш начамі, каб на раніцу здзівіць чалавечае вока: ага, паглядзі, якая я стала! Пачало прыпякаць сонца, на двор паадчынялі вокны, і адразу стала чутно, што паявіліся птушкі: колькі іх шчабятлівых галасоў уварвалася ў палату!

Сушынскі ўжо мог хадзіць. Праўда, на мыліцах, але гэта не страшна — галоўнае, ён адчуваў, што не будзе калекам. Усё выратавалі яму: ногі, рукі; выратавалі твар, няхай са шрамамі, але ж не такі ўжо і знявечаны. Трохі яшчэ стамляецца галава, трохі слабая памяць, але ж і гэта пройдзе. Ён верыць у гэта, бо ён малады і дужы.

Цяпер ён ужо можа пайсці пахадзіць па калідоры, выйсці на веранду ці ў садок пасядзець на лаўцы. Найбольш, ведама,

у садок, каб бачыць, як прыходзіць Лена. Тыя дні, калі яна не бывае, нейкія шэрыя і нудныя, і ён не ведае, што яму рабіць. Як бы няма тут ні сонца, ні птушыных песень. Але вось бразнула брамка, і паказалася Лена. Яна ў лёгкім веснавым паліце, і галава нават без касынкі — з цёплымі бялявымі валасамі. Вось яна адразу і ўбачыла яго, і ўсміхнулася яму. І адразу ўвесь садок заліло сонца.

— Добры дзень, — кажа яна і падыходзіць да яго. — Як пачуваеце сябе? Скора станеце зусім здаровы?

— Думаю, скора выпішуся. Проста ўжо грэх аставацца тут.

— А мыліцы?

— Ну што ж, пахаджу трохі на мыліцах. На фронт мне ўсё роўна не ехаць, туды я ўжо спісаны. А так — здаровы.

— Вельмі рада за вас... Значыць, цяпер ужо можаце самі чытаць?

— Ну пэўна ж, — кажа Сушынскі, разумеючы, што яму напамінаюць той час, калі ён быў ледзьве жывы. — Я буду памятаць ваш клопат.

— Наце! — Лена перадае яму пісьмо. — Цяпер вам ужо можна знаць.

Гэта пісьмо ад Тані. Невядома за што, але Лена цяпер глядзіць на Сушынскага з нялюбасцю: вось, падзівіцеся, якая ў вас сяброўка.

— Ну і добра, — кажа Сушынскі, прачытаўшы і разарваўшы пісьмо на шматкі. — Дзякую, што зберaглі. Цяпер, па крайняй меры, я чысты перад вамі.

— Чаму перада мною?

— Мне трэба быць чыстым толькі перад вамі, Лена.

Калі Сушынскага выпісалі, Лена пайшла яго правесці. Яны ішлі па вуліцы вельмі паволі. У кіцелі з пагонамі, чыста выбрыты і ўзрушаны, ён быў зусім нейкі новы, як бы даўно вядомы і невядомы. Гэта было нават прыемна. Апіраючыся на мыліцу, ён стараўся ісці трошкі зводдаль.

— Ну вось, паедзеце недзе, можа, успомніце калі і мяне.

— Я нікуды не паеду.

— Як?

— А так. Заводаў тут многа, работы хопіць, я — інжынер-канструктар. Адразу ж пайду дзе-небудзь і афармляцца.

— Дзе жыць будзеце?

— Не ведаю яшчэ.

— Сядзем. — Яны ішлі праз парк, у якім асталася адна, нікому цяпер не патрэбная лаўка. — Многа вам хадзіць яшчэ няможна.

Яны сядзелі доўга, зразумеўшы, што да гэтага гаварылі вельмі мала. І было гэта прыемна, і было трывожна, што нешта кончылася і ў кожнага павінна пачацца нешта другое. І таго, што кончылася, было шкода.

— Праз вас я не магу нікуды ехаць, Лена. Вы чуеце гэта?

— Чую. І ведаю. І мне не хочацца, каб вы куды ехалі, Андрэй.

— Я хачу быць каля вас зусім блізка.

Лена маўчыць. Маўчыць і чакае Андрэй. Ужо зусім цёмна — агнёў няма, бо гэта раскоша не для ваеннага часу. Толькі недзе далёка два разы нецярпліва-рэзка азваўся паравоз.

— Я ведаю, пра што вы гаворыце, Андрэй. Але я не магу зрабіць гэтага. Я люблю другога чалавека. Больш за вас.

— Хто ён?

— Яго тут няма.

— Ён вас чакае?

— Не ведаю.

— Дзе ён?

— На фронце.

— Жывы?

— Не знаю. Я яго, можа, больш ніколі не пабачу. Толькі два пісьмы было ад яго.

Доўга маўчаць, думаючы кожны сваё. Бо ў кожнага свой лёс, сваё жыццё і свае трывогі.

— Ён вас вельмі любіў?

— Я любіла яго.

Яшчэ памаўчала. Сказала:

— Я ўсё жыццё буду яго любіць. Нават мёртвага.

— А я буду любіць вас вось такую, Лена.

— Нават калі б я выйшла замуж і потым даведалася, што ён жывы, я пайшла б да яго, Андрэй.

— Я гэта чую, Лена. І яшчэ больш люблю вас...

2

Той другі чалавек быў Мікалай. Сюды ён прывёз эвакуіраваны завод. Завод пачалі будаваць сярод снегу, між раскарчованай тайгі. Яшчэ не было ні сцен, ні страхі, гула завея, трашчаў мароз, а станкі пад чыстым небам ужо круціліся, бо нельга было прапускаць ні аднаго дня, каб не працаваць на абарону. Жылі ў палатках пад брызентам, у зямлянках, у бараках, збітых з дошак, абложаных саломаю. Толькі пад весну паявіліся дамкі і цёплыя баракі, стала нешта такое, што можна было назваць кватэрамі. Мікалай быў галоўным механікам, Лена лабаранткай, як хімічка па адукацыі, хоць інстытута скончыць ёй не ўдалося.

Ах, якія гэта былі цяжкія і харошыя дні! Вечна ў рабоце, вечна ў клопатах, у нястачы і з вечна ясным адчуваннем высокай адказнасці, што твой лёс зліты з лёсам Радзімы. І сярод такіх мужных, суровых, простых і чулых людзей. Мікалай, здавалася, ніколі не ведаў стомы, ніхто не сказаў бы, на якой змене ён адпачывае, бо ў цэху, сярод замеці і пургі, ён паяўляўся ў любы час дня і ночы.

Першы раз сустрэліся яны вельмі нядружна. Мікалай прыйшоў у дашчаную канторку лабараторыі і раскрычаўся на Лену, што яна затрымлівае аналізы. Завод павінен даваць фронту толькі самую лепшую, самую новую і нечаканую зброю, трэба тысячу разоў шукаць варыянтаў яе надзейнасці, тысячу разоў мяняць тэхналагічны працэс, а гэты тэхналагічны працэс залежыць ад Лены. Нябрыты, худы, з блішчастымі ад бессані вачыма, ён стаяў перад ёю і гаварыў, усё роўна як сек жалеза:

— Вы ж не дзяўчынка, павінны зразумець: кожная прамаруджаная хвіліна — гэта крок ворага па нашай зямлі.

— Добра, Мікалай Гаўрылавіч, — сказала Лена. — Я сёння не буду спаць, але зраблю.

І да гэтага яна ўжо не спала некалькі начэй, ледзьве стаяла на нагах, худзенькая, знясіленая, наапашкі накінуўшы рэдзенькае паліто. Устаўляючы ў гняздо прабірку, яна хіснулася і, каб не паказаць гэтага, прыхілілася да сцяны.

Доўга і цяжка паглядзеў на яе Мікалай і пайшоў. А праз хвіліну вярнуўся. Ён прынёс нейкую старую злямчаную ватоўку і адкрытую бляшанку кансерваў. Дзе толькі ён дастаў?

— У вас тут холадна, — сказаў ён, — абкруціце ногі. А гэта — перакусіце. А то я, мабыць, не з таго пачаў.

Больш ён ніколі не крычаў на Лену. Калі было што цяжка, ён сам прыходзіў і памагаў — і на гэта ў яго ставала часу. А калі завод ужо быў гатовы і лабараторыя перайшла ў новае памяшкан-

не, ён неяк зайшоў, паглядзеў і задумаўся. Было лета, за акном, размораная сонцам, млела тайга. Сярод яе ляжала дарога, і па ёй, цяжка нагружаныя, ішлі і ішлі грузавікі.

— Ты падумай, Лена, — сказаў ён, гледзячы ў акно, — як бы гэта было хараша, каб не вайна. — Падышоў ззаду, палажыў на плечы ёй рукі і доўга стаяў, а Лена слухала гэтыя шырокія цёплыя рукі. — Ты ведаеш, пра што я думаю? — І сам жа адказаў:— Што калі-небудзь у нас будзе маленькі дамок, няхай сабе самы маленькі — звычайная кватэрка, — і ты будзеш у ім гаспадыня. І я заўсёды магчыму абнімаць гэтыя плечы. Ты чуеш, Лена?

— Чую, Мікалай. Я заўсёды цябе чую, нават калі цябе няма са мною.

— Але цяпер гэтага няможна яшчэ, — сказаў ён. — Мы не ўсё яшчэ зрабілі, каб так думаць.

Толькі пасля Лена зразумела гэтыя словы. Неяк яна зайшла да яго ў канторку. На рабочым століку ляжала пісьмо на імя народнага камісара абароны.

— Што гэта? — аж спужалася Лена.

— Ты разумееш, я іначай не магу. Тут усё ёсць, і людзі, і... вось і ты навучылася, і другія. Цяпер ужо я там больш патрэбен, як тут. Ты зразумей мяне, Лена. Неяк я гаварыў з табою пра харaство, якім грэшна любавацца, пакуль ходзіць па зямлі смерць. Пра наш дом, а яго трэба абараніць... Ты чаго маўчыш, Лена?

— Я думаю пра тое, што сябе ненавіджу. Што, можа, і ты не павінен любіць мяне. Бо ў мяне не стае сілы прасіцца, каб пайсці разам з табою. Туды ідуць толькі смелыя і дужыя, а я баюся чужое смерці і калецтва. Сама магу памерці не задумаўшыся, а бачыць усё... Але помні, што я буду пры табе кожную хвіліну.

Праз месяц Лена праводзіла Мікалая на вакзал. Пасля атрымала два пісьмы. І ўсё. І больш нічога не ведала пра яго. Ведала яго апошні крок: пайшоў на адказнае заданне. І яшчэ ведала: каб быў жывы — напісаў бы.

### 3

Прайшлі гады. Лена з Андрэем жыла ў Мінску, які любіла з дзяцінства. Скончыла інстытут, стала інжынерам і радавалася, што нарэшце магла называцца спецыялістам. Яна ўмела захапляцца ўсім: і жыццём, і работаю. Андрэй ведаў гэтую яе трапятлівасць і любіў слухаць, калі яна, прыйшоўшы з работы,

яшчэ не астыўшы ад яе, спяшалася падзяліцца якой-небудзь сваёй радасцю.

— Толькі падумай, Андрэй: спрадвеку мы выкідалі на глум усякія лігніны, астачу ад нафты ды бог ведае колькі другога дабра, называючы ўсё гэта адкідамі і не ведаючы, куды дзяваць іх. А цяпер хімія з усяго гэтага робіць цуды.

— Няйначай як і ты зрабіла нейкае адкрыццё?

— Не. Я толькі пераконваюся, што чалавек можа адкрываць без канца. Што прыродзе ён можа дыктаваць свае законы. Мы сёння выпрабоўвалі пластмасы, якія куды мацней за самую лепшую сталь. Ты чуеш, Андрэй? Чаму ты не радуешся, галоўны канструктар, хіба гэта не адкрывае і перад вамі новых перспектыў?

— Ну як жа, Леначка, і чую і радуюся. І чакаю, калі папраўдзе мы пачнём праектаваць цэлыя агрэгаты з вашых палімераў. Нам бы хацелася, каб яны былі чыстыя, як шкло, і наскрозь прасвечваліся.

— А ну цябе, ты ўсё жартуеш.

— Ніякіх жартаў няма. Так яно і будзе. Мы стаімо на парозе таго, што тэхніка зрастаецца з кібернетыкаю, што машына робіцца нечым падобнай на жывы арганізм. А раз так, то вельмі важна, каб мы бачылі і ўсё тое, што робіцца ў ёй усярэдзіне.

Час загойвае ўсякія раны, гэта праўда. Але бывае, што ад тых ран астаюцца рубцы, якіх не можа згладзіць ніякі час. Іншы раз мы гаворым вельмі неасцярожныя словы, не ведаючы, што нехта другі, блізкі, будзе памятаць іх усё жыццё. Гэтыя словы сказала некалі Лена. «Нават мёртвага яго буду любіць», — сказала яна. Лена сама даўно забыла гэтыя словы. Яны былі сказаны ў хвіліну душэўнай стомы і разгубленасці, але Андрэя яны скрозь як бы перасцерагалі, як бы напаміналі пра нейкую небяспеку. Часамі яму здавалася, што ён незаконна заняў чужое месца, на якое мае права нехта другі, лепшы. «Калі б я выйшла замуж і потым даведалася, што ён жывы, я пайшла б да яго», — сказала тады яшчэ Лена. Хто ён, той другі, Андрэй не ведаў, але іначай не ўяўляў сабе, як чалавека незвычайнай дабраты, розуму і душэўнага харавства. І ён аберагаў Лену, загадзя адгадваючы кожны яе душэўны рух, кожнае жаданне. Быў з ёю ласкавы, чулы, як бы ўсё памятаючы, што яна зрабіла дзеля яго нейкую ахвяру.

І ўсё было б добра, каб не прыехала ў госці Андрэева сястра. Як гэта часта бывае, усе нечаканасці адбываюцца бадай што ў самую апошнюю хвіліну. За тры дні было перагаворана бог ведае колькі: і пра тое, што Андрэю варта было б з’ездзіць на

курорт, бо яшчэ дае сябе знаць кантузія, і пра Леніну работу, і пра новую кватэру, якую яны маюць атрымаць. Лена паплакала, успомніўшы сваё гора: летась памерла ў іх трохгадовая дачка. І вось Волька ад’язджала. Перад дарогай сабраліся пасядзець, і Андрэй сказаў:

— Ну от і зноў паедзеш, Волечка, на свой Урал. Ах, як я па ім занудзіўся, проста аж перад вачыма стаіць.

— А ты прыязджай да нас. Не, чакайце, а чаму б вам не прыехаць разам? Праўда, Леначка, адпачылі б у нас, развесяліліся. У нас так хораша. І прырода якая! Проста бярыце адпачынак і прыязджайце. Лепш як на курорт.

— А што, я б згадзілася. Давай, Андрэй.

— Гм... Спакуслівая рэч.

— Не, папраўдзе. Лена паглядзіць на наш Урал, я пазнаёмлю яе з нашай хіміяй. А цябе — з заводам, з дырэктарам. У нас цяпер новы — нехта Астанін. Дзелавы такі, Мікалай Гаўрылавіч.

— Як? — перапытала Лена.

Толькі Андрэй улавіў у Леніным голасе трывогу.

— Завод у вас харошы, я знаю. Пабываць на ім проста нават трэба, — пастараўся ён спакойна павесці далей гаворку.

— А Астанін гэты даўно ўжо ў вас? — між тым назад вярнулася Лена.

— Ды нешта каля года.

Андрэй зразумеў, што пра таго чалавека Лене хочацца знаць куды больш. І ведаў, што ёй цяжка пытацца. І, як заўсёды, захацеў памагчы ёй.

— Што ён, малады? — папытаўся ён. — Як выглядае?

— Прыблізна тваіх гадоў, можа, трохі старэйшы.

— І сям’я ў яго? Вялікая?

— Не, адзін. Маці толькі з ім. Была, кажуць, жонка, ды разышліся. Што ў іх такое, не знаю, — пакінула яго.

На нейкі час прымоўклі.

— Дык што — чакаць вас? Абавязкова прыязджайце. Гэта проста любата, як будзе хораша!

— Не, Волечка, я пажартавала, — сказала Лена. — Не будзе нам часу на такую паездку.

Як бы сабе ні было, а Лену гэтая гаворка ўстрывожыла. Хоць яна сабе ніколі не прызнавалася, але Мікалай увесь час жыў у яе памяці. Мабыць, у кожнага чалавека ў жыцці ёсць такія хвіліны, якія нечым вельмі дарагі. Можа, гэта маладосць, можа, першыя ўражанні і пачуцці, чысціні якіх нішто не можа ні зацямніць, ні заплямиць. Вобраз Мікалая нічым не пагражаў Андрэю, гэтага

яна не баялася. Андрэй быў нечым вельмі сваім, кроўным і дарагім, без чаго нават нельга мысліць сябе. А Мікалай — зусім іншае, патрэбнае, як добрая казка ці мара. Усё, што харошае было ў Лене, — гэта было як бы ад тых успамінаў, ад той сустрэчы. І цяпер, калі Лена даведалася, што ён жывы, усё з новай сілаю ўваскрэсла. Хацелася ў нечым як бы апраўдацца перад ім.

Неяк пад вечар яна чакала Андрэя з работы і падышла да акна. І раптам перад вачыма пранеслася ўсё іх жыццё. Бінты і закарэлая кроў, пранізаная шчацінкамі барады, пісьмы, якія чытала яму, і тое, ад Тані. І як ён парваў тое пісьмо. Парк, цёмная лаўка, на якой сядзелі яны, збіраючыся развітацца, і далёкі трывожны гудок паравоза. Гудкі заўсёды прарочаць дарогу і нясуць развітанне. А мог бы паехаць і цяпер быў бы зусім чужы ёй. Лена нават спужалася гэтага — як часта ў жыцці ўсё залежыць ад якой-небудзь хвіліны: яна ж магла тады проста падаць руку, і ўсё.

За вокнамі спакойным і далёкім бляскам гарэлі агні горада, роўнымі пункцірамі пазначаючы вуліцы. Чутачку лявей, у парку, яны параскіданы мітусь і адсвечваюць над лістотай угору, як полымя. Калі глядзець на гэтыя агні доўга, яны зліваюцца ў плямы і, здаецца, гудуць і шугаюць, як на ветры... І от ужо не гэтыя агні бачыць Лена перад сабою — другія, калі раскладалі яны вогнішчы сярод пургі, каб абагрэць закарчанелыя рукі. Вось тайга і дарога з яе, па якой ідуць і ідуць цяжка нагружаныя машыны. Тая цесная лабараторыя і Мікалаевы шырокія цёплыя рукі.

«Мікалай, — шэпча Лена, гледзячы ў агні і чуючы і цяпер тыя рукі, — не ведаю, як зваць цябе — дарагі, ці харошы, ці любы. Ці, можа, чужы. Колькі гадоў я не ведала, дзе ты і што з табою. Што ж, так, можа, трэба, але мне хацелася б, каб ты ведаў толькі адно — я ні ў чым не вінавата перад табою. І каб не ўспамінаў нядобра пра мяне.

Можа, ты думаеш, што я чаго прашу ў цябе? Не, нічога я не прашу ў цябе, Мікалай, бо не маю права гэта рабіць — я шчаслівая. Гэта праўда — самая шчаслівая, і, можа, з таго мне яшчэ больш няёмка перад табою. Мне хочацца сказаць табе толькі вялікі дзякуй. За тое, што пакінуў у мне самыя светлыя пачуцці, навучыў верыць, любіць і паважаць людзей, ведаць цану жыцця, служыць яго святым ідэалам. Усё, што ў мне ёсць харошага, я ведаю — гэта ад цябе, Мікалай, бо, на цябе гледзячы, я гэтаму вучылася. То быў такі час, што я магла б не адзержацца, і мяне лёгка можна было зрабіць чым хочаш. А ты

зрабіў маю душу чыстай і праўдзівай. Не бойся, я не сябе гэтым хвалю, а цябе».

Прыйшоўшы, Андрэй пачаў расказваць, чаму запазніўся. У іх была нарада — прынялі вельмі важны заказ на завод, трэба было памеркаваць, як яго лепш выканаць. Але Лена слухала нехаця, па твары прабягаў цень заклапочанасці.

— Што з табою, Лена? — папытаўся ён.

— Я хачу табе нешта сказаць, Андрэй. Ты не будзеш гневацца, калі я напішу Мікалаю пісьмо?

У Андрэя, як ад удару, сціснуліся бровы.

— Ну што ж... напішы.

Лена доўга паглядзела на Андрэя і расплакалася.

— Ты не любіш мяне, Андрэй, — сказала яна. — Чаму ты не можаш сказаць, каб я не рабіла гэтага? Чаму не можаш забараніць?

— Я веру табе, Лена.

— А мне гэтага мала! Я хачу, каб ты быў са мною строгі. Я ніколі не чую над сабою твае волі, як бы табе ўсё роўна, што я раблю і як жыву. Чаму ты мне ніколі не загадаеш, не скажаш сілаю? Няхай бы я сабе бунтавала, няхай бы працівілася, але мне было б лягчэй, бо я чула б тваю руку, магла на яе абаперціся. Няўжо ты думаеш, што я мацней і дужэй за цябе?

— Ты хочаш, каб я быў падобны на каго другога? — папытаўся Андрэй.

Лена доўга ўслухоўвалася ў гэтыя словы, баючыся ў іх нейкай далёкай праўды. Нарэшце сказала, як бы ачуўшыся:

— Не, Андрэй, не трэба гэтага. Будзь толькі сабою, такі, як ты ёсць. Я сама нядобрая, не злуйся на мяне. І я не буду пісаць, дый не трэба гэтага.

## 4

Уражанняў ад нарады было многа. Перад хімічнай навукай ставіліся задачы, пра якія яшчэ нядаўна ніхто нават і не думаў. Яна павінна забяспечыць народную гаспадарку сінтэтычнымі матэрыяламі, самымі таннымі і самымі трывалымі, якіх няма ў прыродзе. Вучоныя павінны адкрываць законы і спосабы, па якіх палімеры мянялі б свае структуры і давалі кожны раз толькі патрэбныя якасці. Каб з іх можна было вырабляць матэрыялы цвярдзей за алмазы, каб аўтамабільныя шыны служылі вечна, каб з пластмас рабілі станкі і дамы, гадзіннікі і ракеты. На гэтай нарадзе Лена бачыла вялікіх вучоных, чула іх прамовы. Але

галоўнае хваляванне, мабыць, было ў самой атмасферы: нарада праходзіла ў Крамлі, у той зале, з якой звязана ўся гісторыя дзяржавы.

Сёння Лена ад’язджала дадому. Білет быў на руках, але да цягніка аставалася многа часу, і трэба было як мага разумней скарыстаць яго. Яна намеціла пабыць у Трацякоўцы, бо ні разу не дазваляла сабе абмінуць яе, і паспець пабегаць па магазінах: купіць сабе якой навіны на плацце і, галоўнае, пашукаць чаго ў падарунак Андрэю. Яна заўсёды што-небудзь прывозіла яму з дарогі. А цяпер тым больш, калі на душы было так хораша, хацелася і яму зрабіць нейкую радасць.

Спакаваўшы рэчы і падрыхтаваўшы, каб яны былі напашэве, яна пабегла ў буфет, што быў тут жа на дванаццатым паверсе яе гасцініцы. Заказала лёгкае снеданне і села за круглы столік перад акном. Ранак быў цудоўны — чырвонымі і шэрымі дахамі, выступамі сцен, старадаўнімі вежамі і куртатымі спічакамі ў далёкую смугу ўліваўся пейзаж Масквы.

— Гэты стыль даўно аджыў сваё, — пачула Лена гаворку ззаду. — Такім стылем цяпер працаваць нельга.

Яна ўспомніла, што, калі зайшла сюды, за суседнім столікам сядзела двое мужчын, толькі яна не звярнула на іх жаднай увагі.

— Мы ў камандзіроўцы, Віктар Міхайлавіч, — адказаў другі голас. — Я думаю, што гэтай гаворкі нам хапае і дома.

Лене здалося, што гэта вельмі знаёмы голас. Кажуць, чалавек можа мяняцца аблiччам, характарам, але голас у яго ніколі не мяняецца. «Гэта ж Мікалай, — падумала Лена, — яго голас. Божа мой, чаму ж я не паглядзела на іх?»

У гэтую часіну Лена забыла пра ўсё — што ёй трэба нешта рабіць, некуды спяшацца. Яна чакала, пакуль загаворыць зноў гэты голас. Можа, яна памылілася, можа, ёй здалося? Вось і сустрэча, такая нечаканая. Што яна скажа яму? І ці рад будзе ён? Ці пазнае? І як жа ёй зрабіць — узяць зараз і падысці да яго? А можа, ён сам от падымецца і падыдзе? Можа, пазнае? А можа, ён пазнаў яе ўжо, калі яна ішла, і чакае зручнай хвіліны? Абы толькі пайшоў ад яго гэты другі чалавек. Што гэта за чалавек і навошта ён? Ці, можа, ёй павярнуцца, як бы знячэўку, каб ён яе ўгледзеў, калі яшчэ не бачыў? А можа — не ён?

— Гэта нават лепш, што мы не дома, — адказаў першы голас. — Здалёк, збоку ўсё становіцца відней. Нават на самога сябе можна паглядзець іначай, Мікалай Гаўрылавіч.

Цяпер Лена ўжо не магла сумнявацца, што гэта ён. Не, яна не будзе чакаць, зараз устане і падыдзе.

— А ў гэтым няма ніякае патрэбы, Віктар Міхайлавіч, — запярэчыў Мікалаеў голас. — Я не ўмею азірацца на бакі. Я прывык думаць і ўсё рашаць сам, адзін. Усё браць на сябе і сам адказваць, і ніякіх дарадчыкаў мне не трэба. Вы, мой парторг, павінны былі б ведаць пра гэта.

«У іх нейкая сур'ёзная гаворка. Не, трэба трошкі пачакаць», — падумала Лена.

— Патрэба вельмі вялікая, — гаварыў далей голас таго, што зваўся Віктарам Міхайлавічам. — Я сам, я адзін, мой завод, мой парторг, мае людзі, — вы гаворыце такія небяспечныя словы і хочаце, каб я не трывожыўся. Не, мне трывожна, бо людзі пачынаюць стараніцца вас. Яны баяцца вашай грубасці і глухаты.

Лена перш толькі чакала, калі кончыцца гэтая гаворка, але міжволі пачала прыслухоўвацца. Што ж гэта такое? Хіба Мікалай у чым правінаваціўся? Як жа так можа быць?

— Ясна! — з далікатнай зласлівасцю ў голасе сказаў Мікалай. — Вы хочаце, каб я з усімі запанібрата вітаўся за руку, хадзіў на вяселлі, на хрэсьбіны, абдымаўся і цалаваўся, і тады будзе адна мілата. Я глухі і грубы, бо выгнаў з кабінета Варкова — правільна! Абазваў смаркачом камсамольскага культработніка і загадаў зняць іх сігналку, у якой яны павучалі мяне, як кіраваць, — правільна! Вядома, я разумею, што гэта зроблена не без вашага блаславення. Я зняў з работы інжынера Гарунова...

— Дарэчы, — перабіў Віктар Міхайлавіч, — вы павінны яго аднавіць, бо абышліся з ім несправядліва. Тэхніка-эканамічны савет праверыў яго выкладкі, памылка іменна ваша, бо вы распарадзіліся змяніць тэхналагічны працэс.

— Я сваіх загадаў не адменьваю! — строга і нават гнеўна запярэчыў Мікалай. — У мяне план, завод, яго слава, а вы хочаце, каб я займаўся сантыментамі. Падумаеш, падзея якая — чалавека пакрыўдзілі. Выжыве! Так рабіў і так буду рабіць і ўмешвацца не дазволю. І наогул пра гэта кончым, Віктар Міхайлавіч, калі не хочаце сварыцца.

— Не, сварыцца я не хачу, Мікалай Гаўрылавіч, гэта нічога не дасць. Мне толькі горка падумаць, што вы самі пад сабою падводзіце рысу. А вы ж былі мужным чалавекам. І гаворка наша на гэтым, вядома, не скончана.

Якія толькі нечаканасці не падпільноўваюць людзей. І як бы дорага Лена дала, каб не чуць гэтай гаворкі. Яна паднялася і, стараючыся не паказаць твару, скоранька пайшла да дзвярэй.

Бакавым зрокам на нейкае імгненне яна ўбачыла, што Мікалай зірнуў на яе і ўвесь страпянуўся — пазнаў. Вельмі скоранька ёй хацелася прайсці міма. Але яна пачула, як рыпнула крэсла і як Мікалай падняўся і пайшоў за ёю. За дзвярыма ледзь не подбежкам яна кінулася па калідоры. Ён быў доўгі, усланы мяккай ружова-зялёнай дарожкай. І Лена чула за сабою Мікалаевы крокі.

— Лена! — слаба гукнуў Мікалай.

«Гэта не ён, — сама сабе гаварыла Лена. — Не ён, а нехта чужы, нядобры. Госпадзі, як ён сябе спустошыў. Лепш бы я не бачыла гэтага, лепш бы не знала».

Да ліфта трэба было прабегчы цераз нізкі, прасторны, вылажаны жоўтым бліскучым паркетам хол. У паркеце адсвечваліся ножкі крэслаў, халодныя грані калонаў, гронкі вясёлкавых бра. Той канец хола быў далёка. І, можа, ліфта якраз не будзе, яго прыйдзецца чакаць, і Мікалай паспее падысці. Лена крута павярнула ўлева, ведаючы, што тут жа ўніз ідуць усходы. Яна не бачыла, але спінаю чула, што Мікалаевы крокі яе насцігаюць. У галаве сама сабою ішла гарачая, мітуслівая работа мозгу, і невядома адкуль, па якой сувязі, у гэтай палахлівай мітуслівасці праблісну Андрэй.

— Лена! — яшчэ раз гукнуў Мікалай.

Але яна была ўжо на ўсходах. Вось яна дабегла да пляцоўкі, павярнулася і, не падымаючы галавы, угледзела, як зверху суняўся Мікалай. Яна бачыла толькі яго ногі, што стаялі на самым краі перад усходамі.

Як бы не чуючы, яна пайшла далей, уніз, яшчэ спяшаючыся, але ўжо спакайнеючы. Нешта скончылася. Харошае ці благое, яна не знала. Дый хто можа знаць, што дае чалавеку развітанне. Занадта нечаканая была гэтая сустрэча, каб можна было так лёгка разабрацца ў ёй.

## МЕСЯЧНАЯ НОЧ

### 1

На саменькім ранку дэпутатка сельсавета, не адчыняючы веснічак, крыкнула ў двор:

— Волька, ты дома? Выйдзі-тка сюды!

Двор быў невялічкі, відаць, толькі ўчора звечара чыста падмецены, — на доле значны былі яшчэ палоскі ад веніка, туга зляжалыя за ноч. У канцы хаты — дрывотнік, а за ім — скіданы з аполкаў хлевушок. Карытца з дробненькімі слядамі парасячых капытоў каля яго. Да хлевушка прытыкае рэдзенькі пляцень, і за ім відна густая, лапушыстая блытаніна зялёных град. Адтуль жа сюды, на двор, весела дзівяцца тры высокія сланечнікі.

Волька выйшла з адчыненых сянец, відаць, сабраная на работу: у ботах, вельмі зграбных на яе нагах, у шарсцяной чорнай кофтачцы з дзвюма чырвонымі палоскамі ўпоперак грудзей і ў лёгкай хустцы, завязанай вузлікам зверху, над самым ілбом, каб толькі не разбягаліся валасы. Яна зірнула на дэпутатку не вельмі прыязна.

— Ты мяне звала, Ганна?

— Але. Вазьмі чалавека на пастой. Экспедыцыя тут рабіцьме ў нашым сельсавеце, дык, можа, з месяц пажыць ім недзе трэба. Можа, знойдзецца месца дзе прытуліць аднаго.

Поруч з Ганнаю стаяў чалавек — загарэлы, абветраны, у ватоўцы і ў аблавушцы з адным апушчаным вухам, вышмуленай і злямчанай, бо, відаць, не раз яна служыла і за падушку. Ён паставіў на зямлю невялікі, аздоблены блішчастымі зашчапкамі куфэрак, зняў з пляча і прыставіў да плота трыножкі, такія, як бываюць у фатографаў, можа, хіба толькі большыя, жаўтаватага дубовага колеру, з вострымі жалезнымі наканечнікамі. За плячыма ў яго вісеў рэчавы мяшок, не вельмі поўны.

— Ну што ж, хадзем, — сказала Волька, агледзеўшы чалавека.

Хата, відаць, будавалася да часу, няйначай як да яе збіраліся прыбудаваць ці нанава перасыпаць яе і павялічыць, ды так і забыліся. І ўсярэдзіне яна была невялікая, з нізкімі вокнамі. Спераду кухня, а за ёю на ўсю сцяну адгароджана бакоўка, вузкая і доўгая, як каморка. У гэтым кутку, што пры дзвярах, аж два акны — на вуліцу і ў двор; тут жа столік, накрыты махрастым абрусам, з вазонам кволага пакаёвага папаратніку на ім, і два крэслы. Далей, па сцяне, адзежная шафа, а за ёю, у глыбокім

ценю другога канца, — ложак, засланы ружоваю капаю. І больш нічога. І больш як бы нічога і не трэба.

— Ну от, — сказала Волька, рассунуўшы фіранку ў гэтую бакоўку і паказваючы яе чалавеку, — будзем як-небудзь мясціцца. Там мой ложак, а тут адсунем столік і паставім тапчанчык вам. Ёсць недзе, валяецца на гарышчы. Бо больш нідзе і месца няма.

— А хіба вы адна жывяце?

— Адна.

— Гм...

Чалавек ступіў за фіранку, больш строга азірнуў бакоўку, як бы вымерваючы, ці стане тут той тапчанчык. Выйшаў на кухню і тут агледзеў, але лепшага месца, мабыць, не знайшоў, вярнуўся назад. Волька кінула вокам на яго кірзавыя боты, на картовыя штаны, павыцягваныя ў каленях.

— Уладзімір Навумавіч! — пазваў нехта з вуліцы. — Даганяйце нас, мы пайшлі!

— Ну што ж, няхай так, — сказаў чалавек, падагнаны гэтым крыкам, скінуў свой рэчавы мяшок, паставіў яго ў бакоўку і выйшаў.

Увесь дзень Волька рабіла ў полі з адчуваннем нейкага новага рупеску. «Эх, дакука на маю галаву», — думала яна, аднак жа пад вечар скарэй пайшла дахаты. Злазіла на гарышча, дастала тапчан, выцерла яго, але ў хату не панесла. «Не вялікі пан, і сам паставіць». Агледзела, што на раніцу няма гатовых дроў, пачала калоць іх.

— Ого! — пачула яна за сабою голас. — Не, гэта не ваша работа. Давайце сюды!

Не пытаючыся, ён узяў з рук у яе сякеру і пачаў гваздаць палена за паленам. Яны разляталіся напалам лёгка, ахвоча, як лучына, нават з нейкім вясёлым звонам. Нават тыя кручаныя ды сукаватыя, што яна была паадкідала, і тыя трашчалі, рыпелі на суках, клычыліся, але ўсё роўна паддаваліся пад размашыстай, вострай сілай яго рук.

— Не трэба так многа, хопіць ужо, — сказала Волька.

— Як гэта хопіць? Не, тут вы ўжо мне не памагайце.

Волька пайшла ў хату, уключыла святло ў бакоўцы.

Пераставіла столік, паціснула да шафы крэслы. Прынесла тапчан — якраз ён стаў ад сцяны да сцяны. Што ж паслаць? У яго ж нічога свайго няма. Недзе ў сенцах валяецца сяннік, добра, што да гэтага часу не вытрасла яго. Ну, а зверху што? Пастаяла, падумала. Уздыхнула і адразу як бы заспяшалася. З шафы дастала

два прасціradлы, навалачку, свежыя, з чуць халаднаватым палатняным пахам. Слала, а ўсярэдзіне нешта працівілася гэтаму: у сваёй хаце яна збірае пасцель чужому, невядомаму мужчыну. І раптам так стала горка на душы — дакуль гэта будзе цягнуцца? Скрозь, усюды — сама, адна. Спрахла б яно, такое жыццё!

2

Вельмі спустошыў яе душу Сцяпан.

На сяле ён паявіўся гады праз два пасля вайны, з рыжым чубам і з вечна гатовымі на вясёлую ўсмешку вачыма. Аднак тое, што ён паявіўся, заўважылі не па чубу і вясёлых вачах, а па песні. Аднойчы ўвечары яна праплыла праз усё сяло, ад аднаго канца да другога, дзе стаяў калгасны клуб.

Эх, дарогі, пыл да туман,
Халада, трывогі да сцяпной бур'ян, —

жалілася песня, агалашаючы разлегласць нейкім удалым адчаем. З гэтага часу песня звінела ўсюды — на полі, на дарогах, вечарамі і зранку, — усюды, дзе быў Сцяпан. Але песню гэтую любілі больш мужчыны, яна ім была радней, а Сцяпану хацелася другога — каб уздыхалі жанкі. І неўзабаве паявілася новая.

Пасею гурочкі
Блізка над вадою.
Сама буду паліваці
Дробнаю слязою, —

зноў скардзіўся Сцяпанаў голас, кранаючы душу тугою і ласкавым болем. Увечары, калі Сцяпан быў на сяле, на песню збіраліся ўсе — хто паслухаць, а хто памагчы, але ўсё роўна Сцяпанаў голас быў самы высокі; тую «дробную слязу» ён выцягваў на самай танюсенькай валасінцы так, што можна было задыхнуцца. Выцягнуўшы апошнюю ноту і перавёўшы дух, ён, на ўсіх гледзячы і ўсміхаючыся, як бы гаварыў вачыма: «От як трэба спяваць. Хто яшчэ так выцягне, як я?» Што і гаварыць, самы першы хлопец на сяле быў Сцяпан.

Нельга сказаць, каб не закрануў ён і Вольчынага дзявочага сэрца. Толькі яна не падавала знаку, як бы не чула, як бы праходзіла міма, хоць ведала, што, мажа, больш за ўсё дзеля яе і хоча выставіцца Сцяпан. Ёй было трохі страшна і яго зухаватасці, і яго вясёлай ахвочасці да беглай чаркі, і таго, што вельмі да многіх гарнуўся яго падатлівы чуб. І, мажа, міма ўсё яно і прайшло б, каб не той дурны вечар, калі яна даўжэй за

ўсіх забавілася на сенажаці, вярнуўшыся па хустку, якую забыла пад кустом. Ужо добра змерклася, калі на лугавой дарозе яе абагнаў грузавік. Адтуль гукнулі, каб яна садзілася, грузавік прыпыніўся, але яна пазнала Сцяпанаў голас і крыкнула, што не паедзе. Машына пайшла далей, але Волька бачыла, як з кузава саскочыў Сцяпан.

— Ты думаеш, што я толькі вясёлы пустабрэх ды баламут? — ціха жаліўся ён па дарозе. — А не ведаеш, што ў мяне на душы. Ні дзень, ні ноч ты не выходзіш з мае галавы.

— А гуляеш з другімі, думаеш, я не ведаю? — папікнула Волька.

Непадалёк ад дарогі чарнела капа сена.

— Давай паседзімо ды хоць пагаворым з табою як людзі, — сказаў Сцяпан.

Што ж, не часта даецца паслухаць чужую споведзь. Сцяпан выскубнуў колькі ахапкаў сена, раскінуў іх па доле. Волька прысела. Сена было мурожнае, яно абдавала гарачым пахам і трывожна п'яніла.

— З другімі, — гаварыў Сцяпан. — А што мне рабіць, калі ты такая прынцэса, нават глядзець на мяне не хочаш. Зараз яшчэ папікнеш і за тое, што п'ю? А чаму, дык ведаць не хочаш? Тут дашчэнту сап'ешся, калі табе свет не міл.

Волька ўціскалася ў сена ад гарачага, блізкага дыхання. Сцяпан усё бліжэй і бліжэй спускаў над ёю свой чуб.

— Пусці, перастань, — гаварыла Волька, не даючы наблізіцца яго вачам.

— Я загіну без цябе, чуеш?

— Пусці, перастань. Не смей, кажу, чуеш! — паўтарала Волька, з усяе сілы адпіхваючы яго грудзі. І раптам задыхнулася і абхапіла за шыю...

Яны пачалі будаваць гэтую маленькую хатку, спадзеючыся, што, як адужэюць, паставяць новую, прасторную і светлую. Песні спяваць Сцяпан перастаў, пайшоў на цяслярку. Але ненадоўга хапіла такой самавітасці, яго цягнула пакрасавацца па людзях. Зноў пачуліся на сяле «гурочкі». Усё часцей і часцей Сцяпан пачаў прападаць аж за поўнач, ад работы адбіўся, дадому прыходзіў п'яны. І на самы той час, калі Волька хадзіла ўцяжку, ён злыгаўся з нейкім вербаўшчыком і, весела ўсміхнуўшыся, махнуў аж у Карэлію. «Пачакай, зараблю грошай, вярнуся, і тады мы станем жыць з табою ўсім на дзіва», — сказаў ён Вольцы. Волька яшчэ спадзявалася. Але вярнуўся ён праз паўгода нават без чамадана, у чым стаіць, зачарнелы і выпетралы — мабыць,

усё ад тае ж гарэлкі. Яшчэ два гады прашлындаў, наймаючыся то ў сельпо, то ў прамкамбінат на якую беглую работу. Сноўдаўся, як сугней, зацяты і цёмны, ні сем'янін, ні работнік, як бы ў яго нават не было ні дачкі, ні жонкі. Волька ўжо добра ведала, што шчасця свайго яна не знайшла. «Лепш бы я была адна, — думала Волька. — Лепш бы ён мяне зусім пакінуў». Раптам ён знік і прыслаў пісьмо аж з-пад самай Залатой Тайгі. Цяпер ён пісаў, што збіраецца зарабіць на золаце, але Волька ўжо не верыла. Яна толькі баялася, каб ён, барані божа, папраўдзе не ўзяў ды зноў не вярнуўся. Не сябе ёй было шкода, а дачкі, — навошта дзіцяці ведаць, што ў яго такі бацька. Гэтак у трывозе пражыла Волька ўсе гады. Марынка пайшла ў школу, і тут нечакана адкрылася, што яна вельмі любіць музыку. У школе было піяніна, і каля таго піяніна яна прападала ўсе часы. Так бы яно, можа, і кончылася адною пацехаю, каб не прыехалі артысты даваць канцэрт. Яны паслухалі Марынку і забралі з сабою ў Мінск.

Ах, якая непрыветлівая стала гэтая хата, калі Волька асталася ў ёй зусім адна. «Да якога ж часу будзе гэта?» — пыталася яна ў сябе. Самае горшае было ў тым, што яна ведала, што сама вінавата. Хіба не бачыла яна, як заўсёды шукае, каб сустрэцца з яе вачыма, Ігнат Кутылоўскі? Хіба не перасцігаў яе на ўсіх дарогах Змітрок Азярыцкі, спагадліва намякаючы, што ёй адной цяжка — ні сена няма каму нарабіць на зіму, ні загадзя назапасіць дроў? Адзін удавец, а ў другога жонка-весялуха, толькі, мабыць, не надта весела ад гэтага было Змітру. Але Волька вельмі баялася таго, што зазнала за Сцяпанам, яна не верыла цяпер ні сабе, ні людзям.

3

Першыя дні Волька прыглядалася да новага чалавека. Вельмі ж ён быў лішні ў хаце. Яна даўно прывыкла да свае адзіноты, ведала, што яе дзень як пачнецца, так і пройдзе спакойна, а цяпер трэба было скрозь памятаць, што ёсць нехта чужы. Зранку яна старалася раней падняцца, з апаскаю глядзела на яго пасцель і скоранька адзявалася, пакуль ён не прачнуўся. Увечары рупілася прыбегчы загадзя дадому, як бы ў яе пабралася там бог ведае колькі работы. Пакарміць парася, падаіць карову — гэта было няўзнак, але ж хацелася насвежа памыць падлогу, ухадзіцца завідна ў хаце, паглядзець, ці ўсюды чыста, ці не пазаношваліся фіранкі. Ды падумаць, што згатаваць на сняданне, на абед, на

вячэру. Усё ж такі гэта чужы чалавек, трэба, каб ён блага не падумаў.

Ён быў нейкі дзіўны. Найбольш маўчаў, як бы чым быў вельмі заняты. І толькі на трэці дзень папытаўся, калі яна паставіла снедаць:

— Скажыце, а як вас зваць? Што Волька, то я ведаю, а як па бацьку?

— А па бацьку і не трэба, мы да гэтага не прывучаны. Проста Волька, і ўсё.

— Добра. Тады вы і мяне так завіце — Уладзімір. Ну вось, мы і пазнаёміліся. А мне гэта падабаецца: прасцей і нават харашэй — цётка Волька, дзядзька Уладзімір. Праўда, трохі няёмка: так называць можна трохі старэйшага, а мы з вамі бадай што ў адных гадах. Але гэта дзела прывычкі: можна без цёткі і дзядзькі. Ну дык вось, Волька, сядайце снедаць.

— Ды я паснедала ўжо.

— Мала што! А мне аднаму нудна. Я не прывык без кампаніі. Сядайце, калі ласка.

Прыйшлося сесці. І з гэтага дня Волька за стол садзілася разам з ім.

Ён ішоў у поле на ўвесь дзень. Дазнаўшыся, што там яны нават не абедаюць, Волька давала яму з сабою кавалачак сала, пляшку малака. Ён перш не хацеў браць, але Волька нават не пыталася, клала ўсё гэта ў кішэню ватоўкі.

Іх было чалавек восем. Кватаравалі яны на сяле, у каго прастарней было ў хаце. Кожнае раніцы калгас ім даваў машыну, каб завезці на работу. У падмогу сабе яны панаймалі селавых хлапчукоў, і тыя яшчэ досвіткам чакалі іх каля сельсавета. У полі геадэзісты даставалі з куфэркаў тэадаліты, ставілі іх на ножкі, пачыналі ўдоўж і ўпоперак мераць палетак, а хлапчукі цягалі мерныя стужкі, забівалі ў зямлю колікі, кожны раз пераносячы іх на новыя гоні. Весялосці ў гэтым было не так і многа, але затое колькі гонару! Расказаць на сяле, што самі глядзелі ў тыя тэадаліты, хоць здалёк памарыць, што, можа, і самі стануць геадэзістамі, — гэта не жарты.

Увечары ён садзіўся працаваць. З палявое торбачкі вымаў доўгія ліsткі паперы, паспісваныя і ўдоўж, і ўпоперак, і наўскасяк, раскладаў іх на стале і пачынаў чарціць. Волька ўжо ведала, што гэтыя вузкія лісткі называюцца абрысамі, а тое, чым ён займаецца цяпер, — камеральнай работай. Усё, што ім зроблена за дзень там, у полі, з гэтага абрыса трэба перавесці ў чарцёж.

Папраўдзе ён быў вельмі дзіўны. Калі што рабіў, то нічога як бы і не бачыў. Сам сабе нешта шаптаў, сам з сабою раіўся. Вольцы было ў навіну глядзець на яго работу.

— Вось так, значыць: тут дарога, а тут ручаіна, — гаварыў ён з сабою. — Добра. Так і запішам: шаснаццаць-два... Дык вы робіце на таку? — тут жа пытаўся ён у Волькі, але адказу не чакаў. — А тут — трыццаць і чатыры... Ну і як ураджай?

— Ураджай сёлета добры.

— Так. А тут узгорак... Управіцеся самі?

— Ды ўправімся. Машын цяпер многа... Ну, а вось гэта, што вы чэрціце, — гэта таксама калгасу трэба? — папыталася Волька.

— Тут рэльеф мяняецца. Так. Кірунак адзінаццаць градусаў... Ці трэба калгасу, кажаце? — Ён зірнуў на Вольку, але ўсё роўна як бы не бачыў яе, гаварыў з некім другім. — Гэта найвялікшае гістарычнае глупства, якое паўтаралі з веку ў век ва ўсіх кнігах і вучоныя і невукі, што Беларусь — край балот, галечы, каўтуна і мякіны. Няпраўда! Хлусня! Наша зямля вельмі багатая, толькі не было каму, як добраму доктару, праслухаць яе. А калі праслухалі, дык сказалі: тут трэба будаваць вялікі горад.

— Як? У нас, у гэтай глушэчы, будзе горад? — здзівілася Волька.

— Ды яшчэ які! Шырокі, прасторны, сонечны, з садамі, з паркамі. Сюды панаязджае многа людзей, — калі ласка, жывіце, працуйце і праслаўляйце свой край. Тут, у вашай зямлі, знойдзена столькі багацця, што яго хопіць на сотні гадоў.

— Нейкую няпраўду вы гаворыце. Мабыць, думаеце пасмяяцца з мяне.

— Не, Волька, не смяюся. Праўда. Тут будуць шахты, пастануць заводы, закіпіць работа. Словам, глушэчы вашае, як вы кажаце, больш няма. От як.

Ён нагнуўся над чарцяжом, як бы тут жа забыўся, пра што гаварыў. Вольцы стала раптам вельмі крыўдна. Зноў успомніўся Сцяпан. Куды, чаго ён паехаў у свет? Чаго яму тут не хапала? Чым ён даражыў і што бачыў перад сабою? Што і каго любіў? Толькі самога сябе. Нават не, і самога сябе не любіў — нікога. Ні людзей, ні работы, ні гэтага месца. Хіба ж не мог ён, як гэты чалавек, от так жыць, каб і другіх некуды зваць за сабою? Чужы, зусім тут невядомы, а от жа дбае, каб нешта добрае зрабіць на зямлі. Якая шчаслівая, мабыць, у яго сям’я. І жонка шчаслівая якая...

Волька ўздыхнула, зірнула на сваю хату. Каб не гэты чалавек, што схіліўся над сталом пад лямпкаю, выбіраючы месца, каб не падаў свой цень на чарцёж, дык хоць уцякай адсюль. Яна ўспомніла, што нанач няма вады, бразнула вёдрамі.

— Чакайце, што вы робіце — дайце сюды!

Ён не даў Вольцы пайсці. Узяў з рук вёдры і пайшоў сам. А вярнуўшыся, панёс іх цераз усю хату, паставіў каля стала і сеў за работу. Волька ціха перанесла іх у мыцельнік.

— Дык от, і вы будзеце жыць у тым горадзе, — сказаў ён, як бы і не было перапынку ў гаворцы. — Толькі шкода: ніхто нават і не ўспомніць, што той горад пачынаецца ад нас. Ад гэтых вось чарцяжоў.

— Добрых людзей ніколі не забываюць, — сказала Волька.

Толькі цяпер ён як бы ачуўся і здагадаўся, што перад ім Волька. Падняў галаву і здзівіўся, што першы раз бачыць яе рукі з роўным тугім загарам, карсаж спадніцы на жываце, грудзі, гатовыя да нейкага ўпартага, дзёрзкага бунту, і... сустрэўся вачыма.

— Ну, хопіць, — сказаў ён, згортваючы чарцёж. — На сёння хопіць... Я вас не разумею, Волька. Не разумею, чаму вы жывяце адна. Гэта нядобра. І несправядліва.

— Што ж зробіш. Не ўсім роўна выпадае шчасце. А пра гэта гаварыць не варта, — сказала Волька і пайшла ў бакоўку.

4

Ён жыў ужо тры тыдні. Неяк зранку, прыбіраючы ў хаце, Волька наткнулася на яго мяшок, наспех кінуты пад тапчан. Хацела прыбраць яго далей, але зверху пазнала сарочку, якую ён сёння, мабыць, перамяніў. Яна падумала, што нядобра поркацца ў чужых рэчах, але тут жа выцягнула тую сарочку, перабрала і другое, што было ў мяшку. Збегала да Дубоўскай Кацярыны, папрасіла, каб яны на гумне на якую часіну абышліся без яе, бо яна трошкі запозніцца. Памыла гэтую кашулю, майку, насавыя хустачкі, развесіла на вяроўцы, пацягнутай цераз двор, каб яны скарэй прасохлі на ветры. Яшчэ сыраватыя адпрасавала, згарнула, палажыла стосікам на тапчан паверх коўдры.

У гумне рабілі бадай што адны жанкі. Па ўсім таку яны паразбіраліся на купкі — каму хто бліжэй па сэрцы. Варушылі зерне, каб яно падсыхала, веравейвалі, сартавалі. Зерне ляжала кучамі — сыпучае, ядранае, цяжкае, ад яго пахла гаркавым халаднаватым пылам.

Калі Волька прыйшла, яе напарніцы — Дубоўская Кацярына і Лісавета Азярыцкая — адпачывалі, чакаючы новай машыны з поля.

— Садзіся, звенавая, аддыхні, — сустрэла яе Кацярына, лежачы ў зерні.

— Як жа мне аддыхаць, калі я яшчэ не нарабілася.

— Ат, у цябе цяпер работы многа, — весела паспачувала Лісавета: нехта ўжо бачыў, як у Вольчыным двары сушылася бялізна. — І абмыць, і накарміць, і самога дагледзець.

— Ну дык ён жа адзін, хто ж яму зробіць, — хацелася апраўдацца Вольцы.

Лісавета любіла гаворку смачную. Яна выцягнулася па ўсёй кучы зерня, уплыўшы ў яго, раскінуўшы рукі. Аблёгшы, плацце вылепіла ўсю яе фігуру.

— Нарэшце і ты дачакалася, Волька. Уся ночка твая, — дадала яна і хрустка пацягнулася. — Эх, люблю, калі любяць.

— Ну і як ён — нішто? — хітра бліснула вачыма Кацярына.

Вольцы было брыдка ад такой гаворкі. Але на злосць захацелася, каб яны верылі ў няпраўду, каб хоць раз пазайздросцілі ёй.

— Харошы чалавек, — сказала яна.

Лісавета, рэзка махнуўшыся, села. Спалохана разбырзнуўшыся, зярняты кучкаю сабраліся ў жалабку яе прыполу.

— Але ж ён не вечна будзе тут, — сказала яна. — От кончыцца работа — і паедзе. А можа, твой тут астанецца?

— Чаго ж яму аставацца. Ён жа пры службе.

— Мала што. Трэба ўмець прываражыць. Эх, не на мяне ён нарваўся — прысох бы.

Прыйшла машына, ссыпала зерне і паехала зноў у поле. Насустрач ёй ішла другая, натужна гудучы. З узгорка адсюль далёка відна была разлегласць — поле густых спелых жытоў, сярод якіх усё як бы блудзілі і ніяк не маглі сустрэцца адзін з адным два камбайны, справа — тарфяныя распрацоўкі, парэзаныя чорнымі канавамі, а злева — паплавы і за імі чубок сіняга лесу. Недзе пад тым лесам і ходзіць ён увесь дзень...

Увечары ён ужо быў дома, калі Волька вярнулася з работы.

— Што ж вы мне нарабілі, Волька? — За фіранкаю відно было, як ён стаяў на калене, завязваючы мяшок. — Я сам збіраўся заняцца гэтай санітарыяй, нават раней дадому прыйшоў.

— Навошта ж вам гэта рабіць?

— Ну а як жа? Я так прывык.

— Мала што. У вас работы хапае. А мне брыдка было б.

Волька зняла кофтачку і якраз збіралася павесіць яе на цвік, як пачула, што ён дакрануўся да яе плеч. Яна сцепанулася і застыла. Божа мой, як пранізаў яе гэты дотык.

Ён, мабыць, сам адчуў гэта і сумеўся. Рукі яго толькі на адну хвіліну затрымаліся на плячах і, як бы падумаўшы, паволі апалі.

— Вельмі харошая вы, Волька. Дзякую, — сказаў ён.

5

Волька і сама ведала, што будзе ён тут не вечна. І вось ён не прыйшоў. Яна доўга не прымала са стала вячэры. Ну што ж, можа, дзе затрымаўся з сваімі людзьмі, а можа, у сельсавеце, бо яны ж часта туды заходзяць. Выйшла на вуліцу — ого, дык жа зусім позна ўжо, ні ў кога нават няма агнёў. Прайшла да сельсавета, але і там у вокнах было цёмна. А вуліца заліта месячным бляскам, і так ціха-ціха ўсюды. Яна вярнулася дадому і, не прыбіраючы са стала, патушыла святло.

Проста дзіва, як гэта яна дасюль і не знала, што так нядобра і вусцішна ў хаце, калі ў ёй нікога няма. Ці, можа, гэта ад месяца? Ад гэтай мярцвянай віднаты? Яна раздзелася, як за гэты час прывыкла, скоранька складаючы ўсё на крэсле за шафу. Лягла ў пасцель, але так і не магла замгнуць воч. Закінуўшы рукі за голаў, глядзела, як па столі ходзяць, то блекнучы, то гусцеючы, цені. Мабыць, па небе снуюць воблакі. Паплылі, чапляючыся адзін за адзін, успаміны. То Кацярына з Лісаветаю на зерні, то той далёкі чубок лесу за паплавамі. Чамусьці падумалася, што і цяпер ён там. Раскладзена вогнішча, і ён сіліцца заснуць, укрыўшыся з галавою пад тою ватоўкаю.

Пасля думала пра дачку. Гэтая думка цягнулася доўга. Хацелася ўявіць, што там за лагер гэты Артэк, куды яе паслалі са школы як лепшую піянерку. А тады хацелася ўявіць яе ўжо дарослаю, як яна будзе іграць перад людзьмі, са сцэны, але гэта ніяк не ўдавалася. Бо гэта абавязкова быў горад, нейкі далёкі, вялікі горад і вялікая зала, і поўна людзей, і воплескі, і толькі далёка на сцэне яе Марынка кланяецца, і так далёка, што яе нават не відно. Толькі відно, што яна шчаслівая, бо іначай не было б так поўна воплескаў...

Недзе забрахаў сабака, і ўсе думкі абарваліся. Волька спужалася, успомніўшы, што яна адна. Раптам здалося, што за акном па вуліцы нехта прайшоў і шаснуўся ў брамку. Волька ўскочыла і кінулася к акну. А што, калі, не дай божа, гэта Сцяпан? Яна

аж амярцвела. Але на вуліцы было ціха, зусім ціха, як гэта ўжо бывае пад раніцу.

6

Прыйшоў ён праз два дні.

— Ну от, мабыць, мяне і не чакалі ўжо?

— Дзе ж гэта вы так запрапасціліся?

— Начавалі ў тым сяле, што за ляском. Далёка мы ўжо зайшлі, адтуль нам куды зручней хадзіць. Прыйдзецца пераехаць.

— Ну што ж, такая ваша служба.

Ён хадзіў па хаце: наперад — назад, наперад — назад, як бы ўжо спяшаўся.

— Але, служба не надта вясёлая. Зіму на месцы, а як толькі сышоў снег — так і ў поле. Эх, колькі я сваімі нагамі папамераў зямлі! І ўсё-такі люблю сваю работу.

— Што ж тут любіць? — не згадзілася Волька. Але куды больш хацелася сказаць пра другое. Дазнацца пра больш важнае. — Так можна і сям'і адцурацца, — сказала яна.

— Не, любіць ёсць што. Сонца, вецер, лясы, прасторы — уся прыгажосць зямлі з яе раніцамі і вечарамі, росамі і дажджамі скрозь на тваім веку. А колькі харошых людзей пабачыш! І прывыкнеш да іх. От мне і вас шкода пакідаць, Волька. А сям'і, на жаль, у мяне няма.

— На людзях вы ўсе так гаворыце.

— Не, не на людзях. Толькі летась жонка пакінула. Я скрось не дома, ёй трэба весялейшае жыццё. Весялейшы, ведама, знайшоўся лёгка. Ну і бог з ёю, яна, можа, і правільна зрабіла.

«Дык і ў яго не так добра, як я думала, — здзівілася Волька. — От як можна ашукацца».

Сёння ён не сеў за стол працаваць. Паскладаў усё ў сваю палявую торбачку, павесіў на цвік, каб была напашэве на раніцу. Мяшок таксама паставіў каля сцяны. Волька пайшла спаць, а ён усё хадзіў па кухні, як бы на астатак яму трэба было нешта дадумаць.

Нарэшце і ён выключыў святло.

І сёння была такая ж месячная ноч. Волька ўсё бачыла ў бакоўцы — крэслы, стол, вазон кволага мяккага папаратніку, цьмяную пляму сука ў бэльцы на стале, нават даччыну картку на сцяне. Толькі ў яе кутку было цямней, можа, таму, што засланяла шафа.

Волька бачыла, як ён увайшоў. Мабыць, думаючы, што яна ўжо спіць, ён увайшоў асцярожна, стараючыся не рабіць груку. Памацаў пасцель, адгарнуў коўдру, скінуў кашулю. Пастаяў крыху і падышоў да акна. Адсунуў фіранку, узлакаціўся на падаконнік і пачаў глядзець на вуліцу. У месячным святле відно было нават, як лоб яго ўціснуўся ў шыбу.

Доўга глядзеў. А тады падышоў да тапчана, падумаў і — павярнуўся. У Волькі захаладала сэрца: здалося, што ён хацеў ступіць да яе. Але не — лёг. Волька глыбока ўздыхнула.

— Не спіце яшчэ, Волька?

— Не.

— І мне спаць не хочацца.

Волька маўчала.

— На вуліцы хоць іголкі збірай, — гаварыў ён. — У такую ноч мне хочацца некуды ісці — хоць на край свету. Ісці і ісці, а наперадзе нешта вусцішнае, невядомае, і ўсё нечага як бы чакаеш. І нешта ўсё хочаш зразумець. Люблю, калі думаецца.

— А я баюся такой ночы. Вельмі трывогі многа. Асабліва калі адна.

— Ну, але, але.

«Няўжо ён хацеў падысці? — думала Волька. — Ці, можа, мне толькі здалося? А што б я рабіла, каб ён падышоў?»

— А мы з вамі так ні разу і не пагаварылі.

— Яно, можа, і лепш. Ды няма чаго мне і расказваць.

— Ну, гэта няпраўда. У кожнага чалавека — гэта ж цэлае жыццё. І каб не было чаго гаварыць.

— Пра мяне вам, мабыць, другія расказвалі.

— Ды расказвалі. Ён — вернецца?

— Не дай божачка, каб вярнуўся.

Ён уздыхнуў. На месяц, мабыць, набегла хмара — раптам цёмная хваля праплыла па бакоўцы, як бы жывая: перш пакаўзнулася па падлозе, а тады паднялася вышэй, закрыла столь, сцены, вокны. Мяккая, густая, нават, здавалася, чутно было, як яна кранулася твару. І адкацілася. Зноў стаў відзён яго ложак.

«Што б я рабіла, каб ён падышоў? — зноў пыталася ў сябе Волька. — Прагнала б? Не, нічога не магла б я зрабіць з сабою. Няхай бы так і было».

— Падабаецца мне ваш старшыня. Разоў колькі прыязджаў да нас, талкавіты, відаць, чалавек. Ужо думае, як яму павярнуць гаспадарку, калі стане тут горад. Трэба ж, кажа, падумаць, што тут будзе многа людзей. Мне ж іх карміць прыйдзецца, кажа.

— Добры чалавек. Мы самі рады, што яго выбралі.

За вокнамі плыла ноч, а яны гаварылі і гаварылі так, як гавораць на розвіт, успамінаючы то адно, то другое, часамі нават нічым не звязанае. Або нават маўчалі.

— А вам не нудна без дачкі, што нават і ўлетку не бачылі яе?

— Нудна. Да школы яна вернецца яшчэ, пабудзе крыху ў мяне.

Зноў памаўчалі. Як бы слухалі цішыню.

— Хлапчукі вашы ўсё просяцца, каб мы іх пакінулі з сабою. Вельмі шустрыя хлопцы. Але дзе ж ім хадзіць адсюль такую далеч? Прыйдзецца там новых наймаць.

«Ніколі не думала, што і ў яго можа быць такое гора ў сям'і. Што ж там за жонка ў яго, вільня нейкая?»

— А вы яе вельмі любілі? — асмелілася папытацца Волька.

— Любіў.

— А каб вярнулася — падаравалі б?

— Яна не вернецца.

Ціха. Ідзе і ідзе час. На кухні ходзікі вельмі роўна адлічваюць ноч. Нехта прайшоў па вуліцы. Удваіх. Нават чутно было, як яны шапталіся.

Ну от, заўтра ён і пойдзе. А яна зноў астанецца адна. А хто ж ён ёй? Ніхто. Чужы чалавек, і толькі. А от жа астанецца нешта ад яго добрае. Такое, што пасля будзеш успамінаць і сумаваць па ім. І чакаць...

Ён, мабыць, ужо спіць. А можа, думае што. Маўчыць. Ці гэта ўжо досвітак, ці месяц так ярка свеціць? Усё, усё віднюсенька. Яго боты пры дзвярах, на крэсле — кашуля. Коўдра на ім, са звешаным ражком у нагах. Краёк прасціradла, пакамечаны, апушчаны ўніз. На жоўтай падлозе пазы між дошак і цемнаватыя кропкі цвікоў.

— Вы не спіце яшчэ, Волька?

— Не, Уладзімір.

Апушчаны ўніз краёк прасцірадла паварушыўся. Зноў у грудзях у Волькі стала цесна... Але не, ён толькі паправіў коўдру.

— Добрай ночы.

— Добрай ночы...

Ідзе і ідзе час. Па доле праходзяць то густыя цені, то хвалі святла. А Волька не спіць. І не можа заснуць. Дый ён, закінуўшы рукі за галаў, глядзіць у акно, так што нават відно, як блішчаць яго вочы.

## У СТАРЫМ ДОМЕ

Яна адчыніла дзверы і сумелася. Перакінуўшы цераз руку плашч, на ганку стаяў чалавек і глядзеў на яе з трывожным чаканнем. Нешта знаёмае, але далёкае было ў паставе яго галавы, у адкрытым ілбе, у вачах, што глядзелі чутачку прыжмурана. Нарэшце, калі ён, як бы прызнаўшы, усміхнуўся — і яна адразу пазнала і гэтую ўсмешку, і паставу галавы, і манеру глядзець трошачкі спадылба.

— Кастусь! Няўжо гэта ты? Ну дык заходзь жа, заходзь, чаго мы стаімо. Божа мой, хто б мог чакаць!

І тут жа яна ўся замітусілася, успомніўшы, што не прыбрана, што на ёй хатні халат, раскіданая прычоска, на нагах пантоплі. Правёўшы ў пакой, сказала: «Пачакай, я зараз» і знікла ў бакоўцы, баючыся нават аглянуцца.

Ён азірнуў пакой. Здавалася, усё ў ім было так, як і некалі: старадаўняя канапа з патрэсканым скураным сядзеннем, два глыбокія крэслы, абабітыя калісьці яркім, а цяпер вышмуленым аксамітам, у адным кутку этажэрка з пакуль што паложанымі газетамі, часопісамі, у другім — пальма ў дубовай кадушцы з зацвярдзелым бляскам на шырокіх цяжкіх лістах. За вокнамі тыя самыя густыя кусты бэзу, ад якіх у пакоі як бы вечна спачывае зялёны халаднаваты цень. Усё гэта на яго дыхнула знаёмай даўняй утульнасцю. Толькі пісьмовы столік пры сцяне, з кнігамі і стосам вучнёўскіх сшыткаў на ім, быў тут новы і парушаў тую даўнасць.

Яна ўвайшла порстка, паружавелая, свежая, і ён здзівіўся, што ёй вельмі пасуе і гэтая жвавасць, і незнаёмая ў ёй папаўнеласць, і плацце спакойнага тону, што надало ёй строгую сціпласць, і прычоска, што невядома нават чым так ажывіла ўвесь твар. «Якая яна яшчэ маладая, — падумаў ён. — І якая прыгожая, я нават і не мысліў сабе».

— Дык чаго ж ты стаіш, сядай, — сказала яна. — Нават плашча з рукі не зняў, давай сюды. Я так рада, што ты зайшоў.

Яна павесіла плашч, паказала на крэсла перад канапаю, сама села ў другое, уціснуўшыся ў цень пад пальму, каб лепш было глядзець адтуль.

— Я так рада, што ты зайшоў. Проста не верыцца.

— Я ведаеш колькі шукаў цябе? Яшчэ ўчора прыехаў і пусціўся на вашу вуліцу. Іду і нічога пазнаць не магу. Я памятаў, што тут у вас, як у сяле: у кожнага свой дамок з дворыкам, з брамкаю, з агародчыкам, з вішнёвым садам, як у даўнейшым

мяшчанскім прыгарадзе. Аж тут панастаўлялі камяніц, разбудаваліся, усё і старое і новае перамешана. Я ішоў і баяўся, што не знайду ніякага следу.

— Бо ты ж даўно не быў тут.

— Колькі ж гэта мы не бачыліся? Гадоў з дваццаць, мабыць?

— Больш, Кастусь. Я цябе доўга не магла пазнаць.

— Але, я бачыў. І сам быў збянтэжыўся.

— Як жа ты тут аказаўся? Дзе жывеш? Што робіш?

— Знарок прыехаў. Быў на поўдні, лячыўся, адпачываў. А жыву ў Сібіры, там цяпер работы дай божа. Ну і падумаў: я ж тут, па нашых сібірскіх маштабах, зусім блізка, дай зраблю гэты крук.

Яна глядзела на яго твар, дзівячыся, колькі новых, незнаёмых рысак напісалі на ім гады. Лоб стаў большы, на ім смела падняліся залысіны, на скронях асцярожныя іскаркі сівізны. Вочы пасушэлі, навучыліся глядзець строга, яна пазнавала і не пазнавала іх бляск.

— Я так часта ўспамінала цябе.

— Я доўга блудзіў, усё шукаў Гэлінага дома. Знайшоў адзін, але доўга не мог прызнаць: прыціснуты камяніцамі, ён стаў маленькі, адзінокі. І як бы не так стаіць. Той стаяў удоўж вуліцы, а гэты — упоперак.

— Упоперак ён і стаяў.

— Ну от бачыш, забыўся. Але, гляджу, ганак — той. Шырокі, зашклёны, ты ж яго памятаеш?

— Памятаю, Кастусь, яшчэ і як.

— Ну от, з гадзіну кружыў каля яго. Хацеў у каго папытацца, але падумаў: навошта? Усё роўна я ж ведаю, што яе няма.

Ён перачакаў, спадзеючыся, што яна скажа, тут ці не тут Гэля. Але яна прамаўчала.

— Ну, тады пайшоў шукаць цябе.

— Я вельмі рада, Кастусь. Я так часта ўспамінала цябе.

Пасля яны сядзелі за сталом. Яна сабрала закуску з памідорамі свайго догляду, з маласольнымі гурочкамі, вяндлінай, паставіла пляшку віна, якое зберагала на самы дарагі выпадак. На дварэ ўжо быў вечар, даўно былі зачынены аканіцы, на ўсе лямпкі ў пакоі гарэла святло. Было ўсё перагаворана, успомнена, а ім здавалася, што яны яшчэ і не гаварылі.

— Памятаеш могілкі, гэта ж недзе недалёка ад вас? Увечары — таямнічасць, помнікі, агароджы, густыя кусты, раса, і мы да

позняй ночы любілі гуляць там. І нейкі хлопец часта круціўся каля вас, я ўжо забыўся, хто ён. Ён усё любіў бегаць навыперадкі.

— А помніш клуб Крэйнаса? Мы там ставілі «Паўлінку», і ты іграў Якіма Сароку?

— Ага. За Паўлінку была Гэля.

— Бо ты ж так хацеў. А яна ўпіралася. Каб не цалавацца з табою.

— А як першы раз сустрэўся з вамі, памятаеш? Вы ўдзвюх прыйшлі ў тэхнікумаўскі інтэрнат да нашых дзяўчат. Я нават не ведаў, што вы зналіся з імі. І я зайшоў да іх нечага і аж збянтэжыўся: стаіце вы, абедзве тоненькія, зграбненькія, здавалася, што ў вачах у вас свеціць сонца, мяне аж асляпіла. І Гэля ні з сяго ні з таго запрасіла мяне на вечарынку. Вядома, я адразу згадзіўся. Памятаеш тую вечарынку ў яе?

— Памятаю, а як жа. Таго вечара я ніколі не забуду.

— Ну вось. А пасля я ні дзень, ні ноч не знаходзіў сабе месца. Не мог без яе быць ні хвіліны. І аднойчы мы за нешта былі пасварыліся. За што толькі мы сварыліся, госпадзі! Якое самае найдрабнейшае глупства, а яна ўскіпіць, павернецца і пойдзе. Пасля не раз яна так рабіла. І я цэлыя дні прастойваў каля яе дома, каб дапільнаваць, калі яна выйдзе. І на вуліцы ўсё шукаў яе, думаў — сустрэну. Пройдзе якая дзяўчына, хоць чутачку русявая, у лёгкай сукенцы, і я думаю, што гэта яна, даганяю. Зірну ў твар, божа мой, — пачвара! Тады ўсе мне здаваліся пачварамі. Пра цябе не кажу, ты была яе самая блізкая сяброўка, значыць, гэтак жа сама харошая.

Па вуліцы прайшла машына, мабыць, нечым цяжка нагружаная, ад яе патужнага гудзення тоненька зазвінелі шыбы. Каб перачакаць гэтае гудзенне, яны памаўчалі. Ён падняў келіх, адпіў з яго.

— Я ўсё памятаю, і вашы сваркі, і замірэнні, — сказала яна, счакаўшы. — Нічога не забыла. Не лёгка мне даваліся яны.

— І ўсё-такі гэта было хораша. Што хочаш гавары, а гэта было хораша, Зося. І той ганак, якога я сёння шукаў. Аднойчы мы доўга гулялі, я правёў яе дадому, і ў гэтым ганку мы яшчэ бог ведае колькі стаялі. А назаўтра я ўсё не мог даўмецца, чаму ў яе на губе чорная плямка. А калі дадумаў, то быў без меры шчаслівы. Мне хацелася, каб усе бачылі ў яе гэтую чорную плямку, каб усе ведалі, што гэта я цалаваў Гэлю.

— І гэта я памятаю, Кастусь. Я табе кажу, я ўсё ведала, можа, больш за яе. Нават памятаю, як ты запрасіў яе на вяселле, калі ў цябе выходзіла замуж сястра. Яна адна не паехала, сказала, каб

ты запрасіў і мяне. Мы ехалі ў санях, зіма, мароз, усё чакалі, калі ж пакажацца ваша сяло. І баяліся, каб не паадмарожваць шчок, закрываліся так, што відны былі адны толькі вочы, і нам цяжка было рагатаць. І тады ты ўсю ноч танцаваў з ёю.

— Але, але. Памятаю. Яна вельмі лёгка танцавала.

— Яна ўся была лёгкая, — сказала яна раптам жорстка. — Усё ёй давалася вельмі лёгка.

Настала часіна, калі кожнаму захацелася пабыць з самім сабою. Маладосць, як бы яна ні была пражыта, ніколі не пакідае нас. Ад яе на ўсё жыццё мы нясём і свежасць, і шуканні, і трывогу душы, і ласку сэрца. І бясконца хочам яе паўтараць. Згадамі мы становімся мудрэй і кажам сабе, што цяпер бы нешта паправілі, нешта зрабілі іначай, але гэтая папраўка на мудрасць — толькі суцеха. Нічога не паправілі б, бо маладосць не любіць гатовых дарог. Можа, у тым і ўсё хараство яе, што яна вучыць нашу сталасць.

Ён папытаўся, ці не асталося ў яе фотакартак. З этажэркі яна дастала зацямнелы альбом з медзянымі зашчапкамі. Там былі пажылыя людзі — яе бацькі, сваякі, бабулі і дзядкі, — яны сядзелі ў строгіх позах з павыцягванымі на каленях рукамі; былі дзеці-сысункі на разасланых пялёнках, у мацярок на руках; былі сябры і сяброўкі, далёкія знаёмыя, парамі і ў гурце, цывільныя і ваенныя, у ватоўках і ў шлюбных строях, з позамі заліхвацкімі і млявымі. Яна спрабавала тлумачыць, што гэта за людзі, якая з кім ступень сваяўства ці знакамосці, але ён нецярпліва гартаў старонкі далей і далей. Нарэшце ўбачыў-такі яе. Ну вядома, вось такія былі ў яе і ўсмешка, і здзіўленыя вочы, і чутачку пухлявая ніжняя губа, і недаступная ласкавасць, і строгасць.

— Ты даўно бачыла яе? — папытаўся ён і загарнуў альбом. — Едучы сюды, у душы я спадзяваўся, што сустрэнуся з ёю.

— Даўно, Кастусь. Разы два яна прыязджала, але вельмі накаратка. Ну і нешта не зусім у нас ладзілася з ёю. Яна ж выйшла замуж, ты ведаеш?

— Ведаю. Мне здаецца, што я сам вінаваты ў гэтым. Каб я тады не паехаў...

— Не, Кастусь, мабыць, ты добра зрабіў, што паехаў.

— Чаму?

— Яна таго кінула.

— Ну што ж, бываюць няўдачы.

— Не, не кажы ты, Кастусь. Пасля гэтых няўдач было ў яе бог ведае колькі. З год яна пабыла адна, нікога і бачыць не хацела. Адале пачала як бы спяшацца, не разбіралася ні ў кім і

ні ў чым. Як лёгка сыходзілася, так лёгка і пакідала. Я ж кажу, уся яна была лёгкая, мне было вельмі шкода яе. Яна стала нейкая бессардэчная, ліхая ў душы. Бывала, скажаш ёй: «Што ты робіш, Гэля, апамятайся», а яна здзівіць вочы, паверне плячом: «А што ж тут такое, калі яны мне не па душы».

Ён уздыхнуў, нахмурыўся, пагладзіў рукою лоб.

— А пасля тут паявіўся нейкі начальнік з торфу, з вырабатак. Пажылы ўжо, суровы такі, ні віду ў яго, ні складу. Бог ведае што сталася з ёю — паехала з ім. Жывуць недзе на балоце, пад Бабруйскам. Двое дзяцей у іх. Ну, прыязджала, зайшла да мяне на часінку. Я не бачыла, каб яна была шчаслівая.

Ён выпіў келіх да дна, падняўся, прайшоў па пакоі. Пагладзіў тугі пальмавы ліст. Зноў апусціўся ў крэсла.

— Ну добра, раскажы пра сябе, Зося. Я так і не папытаўся дагэтуль.

— Пра сябе... Што ж расказваць? Як бачыш, жыву адна. Муж загінуў у вайну, тут жа ў нас была партызанская зона. Я таксама была звязана з лесам, але выкруцілася, ніхто не выдаў. Выгадавала дзвюх дочак, і вельмі шчаслівая. Абедзве ўжо выйшлі ў людзі. Адна ў Ленінградзе жыве, замужам, інжынер. Другая ў Мінску, канчае кансерваторыю. Ты бачыш, які багаты ў мяне дом? А сама настаўнічаю, сваю работу люблю. Чаго ж мне больш хацець?

— А ў мяне сям’я не ўдалася, Зося. Ну, як табе сказаць: ёсць дастатак, пашана, ёсць жонка і сын, а шчасця няма. От я ў Сібіры, гадоў з дзесяць ужо, галоўным інжынерам, будую плаціны, электрастанцыі, а яны — у Маскве. І нішто нас не цягне адно да аднаго, нішто не звязвае, як чужыя.

— Гэта ж цяжка, Кастусь.

— Вельмі. А што ж зробіш?

Ён задумаўся, але, відаць, не над гэтым сваім горам. Нешта другое жыло ў ім. Прыжмураныя вочы не тужылі, а марылі. І паступова твар яго праясніўся, а на губы лягла ціхая ўсмешка.

— Не, усё было добра ў нас тады, усё было добра. Гэля любіла мяне, я знаю. Калі я паехаў, яна плакала. І... я пасля ўжо дазнаўся, што яна вяла дзённік. І пісала ў ім пра мяне... Можа, каб я ведаў пра гэта раней, то ўсё было б інакай.

— Ты пра многае не ведаў, Кастусь. Можа, і добра нават.

Было ўжо за поўнач, калі ён зняў з вешалкі плашч.

— Ну, бывай здарова, Зося. Я сёння шчаслівы. Вельмі шчаслівы. Што пабачыў цябе, што мы пагаварылі. Можа, калі

сустрэнеш Гэлю — не злуй на яе. Перадай маё прывітанне. Скажы, што быў, хацеў яе бачыць. Яна ўсё зразумее...

Калі ён пайшоў, яна доўга яшчэ сядзела адна. Яна яшчэ як бы гаварыла з ім. Ты ўсё пераблытаў, Кастусь, ты нічога не ведаеш і не памятаеш, гаварыла яна. Не яна, а я плакала, калі ты паехаў. Не яна, а я запрашала цябе на вечарынку. І за ўсе вашы сваркі і прымірэнні перажывала не яна, а я. Ты не ведаеш і таго, з якім горам я паехала на тое вяселле, калі знала, што запрашаў ты мяне толькі дзеля яе. Ты кажаш, што каля нас часта круціўся нейкі хлопец. А не ведаеш, што ён два гады хадзіў за мною, а я на яго глядзець не хацела. І на другі ж дзень, як ты паехаў, выйшла за яго замуж. І не яна, а я пісала дзённік...

## НАД ГАЕМ КРУЖЫЛІ БУСЛЫ

У нядзелю раненька Ігнат вывеў веласіпед з сянец. Дзень меўся быць найлепшы. На двары пад вішнямі, дзе ўчора купаліся куры, на разгрэбенай зямлі ляжала яшчэ вільгаць.

— То я з’езджу, Яніна. Чуеш?

За плоцікам у градах паднялася жанчына ў паркалевым халаце, расквечаным пад рамонкі. Абтрасаючы ўробленыя ў зямлю рукі, пераступаючы бучны цяўнік, яна падышла да веснічак. Тыльным бокам далоні, каб з пальцаў не асыпаўся пясок, дакранулася да касынкі, папраўляючы яе. Вельмі пасаваў ёй загар па руках, па адкрытым рагавічку грудзей, нейкі спелы, гарачы. Бровы ў яе былі высокія, як здзіўленыя. Яна зірнула на Ігната таксама як бы дзівячыся, што ён нават у спартыўным будзённым гарнітуры такі зграбны і ладны. Твар толькі для другіх суровы і чэрствы, а для яе — самы даступны.

— З’ездзі, Ігнатка, — сказала яна. — Толькі не баўся доўга.

— Ну, мне там бавіцца няма чаго.

— Яна спіць?

— Спіць. Ты яе не будзі. Пакуль прачнецца, то я і вярнуся.

— Ну едзь.

Ігнат спакаваў на багажніку згорнутую турысцкую кайстру, апусціў на яе дужку. Павярнуў веласіпед да адчыненай брамкі, ускочыў у сядло і пакаціў з двара, пакідаючы на доле свежы роўны слядок.

Ён праехаў сяло, мінуў масток, насланы новымі дошкамі, веласіпед прайшоў па ім без шуму. Падняўся на ўзгорак, адкуль адкрылася ўсё калгаснае наваколле. Пад лесам у жоўтым жыце хадзілі два камбайны, па палявых дарогах снавалі машыны:

порстка, весела, з подскакам — у поле, і з асцярогаю, натужна гудучы, — у свіран. Усюды ішла работа, і на хвіліну Ігнат пачуў сябе няёмка: у такі гарачы час ён займаецца бог ведае якім глупствам. Як на тое з-за павароткі на дарогу выехала фурманка. Ігнат пазнаў запраўшчыка дзядзьку Антона: на возе ляжала бочка з саляркаю.

— Дзень добры, аграном! Ці далёка? — папытаўся дзядзька Антон, параўняўшыся. — Тпру!

— Невялікі клопат у мястэчку. Зараз вярнуся.

— То ў мяне да цябе просьба, аграном: купі там пачкаў з два «Беламору».

— Добра, дзядзька Антон, прывязу.

У мястэчку Ігнат наўскасяк перасек пляц, на якім у цяньку ад старое царквы стаяла некалькі вазоў з параспраганымі коньмі, пад’ехаў да раймага. Прыставіў веласіпед да сцяны каля ганка, пашкадаваўшы, што ў нас няма завядзёнкі на гэты від транспарту рабіць стаянак. Такая драбяза: збіць пры сцяне рагавік з рэдка пастаўленых планак, каб можна было паміж іх уткнуць пярэдняе кола веласіпеда — няхай стаіць. А то прыходзіцца прымошчваць бокам, а нехта другі прымосціць да твайго, а тады трэці, чацвёрты, — паспрабуй потым дастаць свайго, не параскідаўшы другіх. І вучыцца ёсць у каго: уся Прыбалта з такімі стаянкамі.

— А-а, Ігнат бацькавіч! — абарваў Ігнатаў гаспадарлівы роздум нечы голас. З прыступак ганка спускаўся раённы заатэхнік з пакункам пад локцем, загарэлы, без шапкі, з палавымі ад сонца валасамі. — Даўно не бачыліся, як пажываецца? Нешта купіць збіраешся?

— Ды, разумееш, дачка ў мяне імянінніца сёння і сёлета ў школу ідзе першы раз. Ну то трэба ж, каб астаўся нейкі знак.

— Рэзонна, рэзонна! Пазнаю заядлага сем’яніна... Ой ты! — весела памахаў пальцам перад сабою заатэхнік і пайшоў, разрагатаўшыся, бог ведае на што намякаючы.

Народу ў краме было не так багата. Найбольш жанкі; яны тоўпіліся каля аддзела з крамнінаю, мацалі, прымервалі на сябе, прыкідваючы яе да грудзей перад люстэркам, — ці да твару. Улучыўшы хвілінку, Ігнат расказаў крамніцы сваю патрэбу і пачаў выбіраць з таго, што яна палажыла перад ім на палок. Ён выбраў туфлікі, чорныя, з кутасамі на шнурках, але передумаў і памяняў на чырвоныя. Выбраў сукенку ў белую палоску па сінім полі, тады другую, школьную, а тады фартушок да яе

з шырокімі крылкамі. Крамніца падала гарнітур бялізны — і гэта палажыў у свой пак.

— Што яшчэ трэба? — папытаўся бездапаможна.

— Каснікі.

— Ну, пэўна ж, давайце і каснікі.

— Партфелік. Ці ранец.

— Давайце партфелік.

Нарэшце крамніца ўсё спакавала, а Ігнат яшчэ стаяў, успамінаючы, ці не забыўся чаго.

— Баюся раіць, але мне здаецца, што вы не ўсё яшчэ купілі, — сказала крамніца.

— А што?

— Трэба ж было і жонцы нешта ўзяць.

— Божа мой, якая вы малайчына. Абавязкова! А што б вы параілі?

Крамніца прайшла туды, у жаночы канец, перакінула па паліцы адзін скрутак крамніны, другі, нарэшце палажыла на палок і разгарнула. Па чорным полі ішлі танюсенькія срэбныя павуцінкі, як бы выблісквалі з самой чарнаты. Прыкінула сабе да грудзей, зірнула на Ігната, на жанок.

— Ой, як хораша, — уздыхнула адна з іх.

— Не настаўніца будзе, а царыца.

На хвіліну Ігнат уявіў Яніну ў гэтакім плацці. І чамусьці іменна так, як бачыў сёння, калі ішла яна да яго за веснічкамі. Гэта было нямаладу як здорава. Краса! Толькі такое плацце Яніне і трэба! Даўно пара было набраць.

— Давайце, — сказаў ён.

Усе пакупкі ён спакаваў у кайстру. Дужка багажніка не прыкрывалася, прыйшлося зверху ўвязаць яшчэ шпагатам. Заехаў у прадуктовую краму, набраў цукерак, печыва — і гэта спакаваў у багажнік. І ўжо калі пусціўся ў дарогу, успомніў дзядзьку Антона. Вярнуўся па «Беламор».

За мястэчкам думкамі адразу апынуўся ў калгасе. Здалося, што забавіўся ён бог ведае як доўга, а там ён, можа, вельмі патрэбен; можа, якая няўпраўка і яго чакаюць. Сам таго не заўважаючы, націснуў на педалі.

На дарозе людзей цяпер пабольшала. Хто спяшаўся яшчэ ў мястэчка, хто варочаўся ўжо дадому. Адны пехатою, другія, гэтак жа, як і ён, на веласіпедах з пакункамі, прывязанымі на багажніках. Двое, хлопец і светлавалосая дзяўчына, ні то спаткаліся, ні то развітваліся, стаялі пры самай абочыне, і дзяўчына, мабыць, не хацела на людзі паказваць твару, усё ад-

варочвалася ў поле. Прайшоў самаскід з грымучымі жалезнымі бочкамі, заслаўшы пасля сябе дарогу гарачым гаркавым пылам.

Ігнат падумаў, што яму куды спакайней будзе ехаць па сцежцы, якая пачнецца зараз праз параснік і выведзе нацянькі к калгаснай дарозе.

Як толькі параўняўся ўзлесак, Ігнат гайдануўся па набітым следзе цераз канаву. Ціха і мякка пайшоў веласіпед.

Сцежка вяла то паміж арэхавага кустаўя, то выбягала на прагалкі, усыпаныя чырвонымі і белымі галоўкамі пахкага дзяцельніку. Ігнат міжволі падумаў, што селавыя людзі занадта прывыкаюць да прыроды і не бачаць, колькі вакол іх харdespite. От быў бы ён гарадскі, дык у такія мясціны прыехаў бы адпачываць. З сям'ёю. На цэлы месяц. У цень. У траву. У пахошчы і птушыныя песні. Ну, няхай сабе не тут, дык трохі далей, дзе стаяць векавечныя дубы, а пад імі разасланы падаткі дыван муравы. І рэчка, што цячэ за імі, з крутымі берагамі, падмытымі пад самае карэнне.

За гэтымі думкамі Ігнат і не заўважыў, як нагнаў жанчыну. Яна ішла наперадзе вельмі паволі, як бы каго чакаючы. Заўсёды ёсць нешта загадкава-таямнічае, калі бачыш жанчыну, ды яшчэ там, дзе не спадзяваеш, ды яшчэ адну. Ігнат збіраўся яе абмінуць, але паспеў адзначыць нейкую трывожную зграбнасць яе фігуры, хады. І тут жа пазнаў і злякаўся. Яна саступіла са сцежкі і выставіла руку, перагароджваючы дарогу.

— Пачакай, Ігнат, — сказала яна патрабавальна. І калі Ігнат саскочыў і паставіў веласіпед перад сабою, сказала з пакораю:— Я бачыла, што ты быў у мястэчку, і ведала, што паедзеш сюдэю. Чакала цябе. Усё думаю, можа, ты мне што-небудзь скажаш.

— Я табе ўсё сказаў, Антоля. Мы ўсё перагаварылі з табою, навошта ж зноў варочацца.

— Няўжо ж ты такі бессардэчны?

— Не, Антоля, бессардэчны быў не я. І, можа, якраз табе пра гэта не варта ўспамінаць.

Сцежка не так далёка зайшла ў кустаўё, сям-там за прагалкамі прасвечвала дарога. Відно было, як там прайшла жанчына ў белай хустцы з хатулём за плячыма, як з трэскам прамчаўся матацыкл, пусціўшы за сабою сіні дымок. Каб не быць у прасветліне, жанчына дакранулася да руля, як бы просячы, каб Ігнат правёў веласіпед далей.

— Я была перад табою вінавата і не баюся сазнацца, — сказала яна. — Дык хіба ж ты не бачыш, як я за гэта пакутую?

— Цяпер нічога ўжо не паправіш, — сказаў Ігнат. — Усё ў нашым жыцці зрабілася так, як трэба. Як ты хацела. У цябе ёсць свая сям'я, муж, які даў табе і прытулак, і шчасце.

— Не было ў мяне шчасця! — горача запярэчыла жанчына. — І мужа таго, што ты кажаш, няма. Я кінула яго, ты сам пра гэта ведаеш, і другі год хаджу за табою, як цень. Няўжо гэтага мала, каб ты паверыў, што мне больш нічога не трэба?

Яна памаўчала, супакойваючы дыханне.

— Я зрабіла тады нядобра, гадка, — цішэй сказала яна, — але ж гэта не з ахвоты ці радасці — гора прытужыла мяне. Ну, няхай не будзем гаварыць пра мяне, дык жа я ратавала сына.

— Дзякую, Антоля, ты вельмі ўратавала яго. Аж да таго, што дала яму і чужое прозвішча.

Сцежка спускалася ў перасохлую ручаінку, на дне якой ляжала пруцце, кінутае, мабыць, вясною, а цяпер утоптанае, пачарнелае. На камялёк пруціны, што вытыркаў над травою, села маленькая птушачка, весела цвыркнула, махнула два разы хвосцікам і ўспырхнула, паляцела на куст. Ігнат пачакаў, каб жанчына прайшла наперад па гэтай сухой ручаінцы, не сазнаючыся, што яму яшчэ раз хочацца зірнуць на яе хаду, на паставу. Пасля ручаіны яны пайшлі поруч, яна па сцежцы, а ён збоку, ведучы веласіпед па траве. Высокія сцяблiны слёзак, вызвоньваючы, перабіралі па спіцах.

— А што я магла зрабіць? — прасіла жанчына. — Хіба табе лепш было б, каб ён астаўся бяздомнікам, невукам ці вырас якім бандытам? Ты ж ведаеш, што магло быць і са мною, і з ім пасля цябе... А ён жа цяпер, дзякуй богу, вучыцца ў тэхнікуме. Як маглі, мы засцерагаліся, а ты кажаш — прытулак. Нішто сабе прытулак, калі табе свет не міл.

Параснік мінаўся, сцежка выводзіла на палянку, за якой пачынаўся дубовы гай. Ужо адсюль відны былі высокія сівыя ствалы з няроўнымі, карабатымі сукамі і густымі кронамі, засень ад якіх у глыбіні пераходзіла ад сініх да цёмных таноў.

Ігнат прыпыніўся, паправіў веласіпед, як бы збіраючыся паехаць.

— Я ведаю, гэта ўсё Яніна, — сказала жанчына. — Ух, як я ненавіджу яе, гадаўку. Падсцерагла-такі. Усё жыццё яна падсцерагала мяне!

— Яніны ты не чапай, — сказаў Ігнат. Ён зноў бачыў, як сёння ішла яна да яго на градах з урабленымі ў зямлю рукамі, як глядзела з-пад высокіх броў, просячы не бавіцца. — Яніны ты не чапай, — сказаў ён. — Яна перад табою святая.

— Нішто сабе святая — раскашуецца на маім горы. А колькі яна цябе кляла — не ведаеш? З першага дня, як мы пажаніліся, яна стала маім ворагам. Уся кіпела ад злосці. Нават з сяла была з'ехала, каб не настаўнічаць разам са мною, ты ж памятаеш?

Ігнат памятаў. Памятаў і другое: шэры, золкі ранак на глухім тупіку станцыі, ланцуг вагонаў, загнаных на далёкі пуць. Бог ведае навошта, дзеля якога сэнсу яму выпала на долю зазнаць, што такое людская няслава і этапныя шляхі ў невядомы свет. Маўклівая калона людзей і ціхая, як крадучыся, каманда канвою. Калі яго выклікалі, ён аддзяліўся ад натоўпу і ўжо каля вагона павярнуўся, каб апошні раз азірнуць тое, з чым развітваўся, можа, навечна. З ранішняга сутоння выступалі толькі цьмяныя абрысы вакзала, сілуэт воданапорнай вежы ды ўгадваліся палоскі правадоў, усё адно як абверчаныя мохам. Ужо крануўшыся прыступак, на апошняй хвіліне, ён паспеў угледзець постаць, што стаяла наводдаль за пуцямі, аддзеленая канвоем, з клумкам у руках. Ён хацеў у ёй прызнаць Антолю і жахнуўся — стаяла Яніна, яна махнула яму рукою.

Першае, што яго пранізала, — гэта страх за Антолю: што з ёю, чаму не прыйшла сама? Стараючыся, каб не адціснулі з тамбура, ён лавіў Яніціны жэсты (будзь спакойны, усё добра) і сам сіліўся перадаць толькі адно: што ён не вінаваты. Яніна махнула галавою — паняла. Божачка, як гэта важна, — яна ж перадасць! — каб ведала хоць Антоля, што за ім няма ніякай віны.

А пасля, калі іх распакавалі па вагонах і эшалон крануўся з месца, начальнік этапа перадаў яму пакунак. Ігнат пазнаў: той пакунак, які дзяржала ў руках Яніна. У пакунку былі валёнкі, цёплыя шкарпэткі і зімовая шапка. Укрыўшыся ад усіх, ён заплакаў. Як, адкуль, якім спосабам яна магла дазнацца пра сённяшні ранак, каб хоць Яніну прыслаць на гэтае сумнае развітанне?

І яшчэ памятаў Ігнат: як туды, у далёкі сібірскі край, прыйшоў першы ліст. Ён таксама быў ад Яніны. З яго Ігнат дазнаўся, што Антолі ў яго больш няма. Што на развітанне прыходзіла Яніна не ад Анатолі, а сама, і пакунак, над якім ён плакаў, быў не ад Антолі. На другі ж тыдзень пасля яго бяды яна весела выйшла замуж.

— Яніны ты не чапай, — сказаў ён яшчэ раз.

— Гадаўка яна! Не магу! Век буду праклінаць яе!

Ігнат паставіў веласіпед на сцежку.

— Ідзі, Антоля, — сказаў ён. — Ты далёка адышла ўжо, ідзі.

— Куды я пайду? Навошта і куды я пайду? Як сляпая, я магу хадзіць толькі за табою... Божа мой, чаго я нарабіла! Няўжо хоць гэтым я не замаліла перад табою ўсіх грахоў?

Яна стаяла перад ім, пакорліва расціраючы ў руках сцяблінку мятліцы. Пальцы ў яе дрыжалі, у вачах стаялі сухія слёзы, губы торгаліся ў горнасці.

Каб ён не глядзеў на яе, яна адвярнулася, стаўшы зусім блізка плячыма. Яна была намнога ніжэй за яго. Зверху ён бачыў яе каштановыя валасы, пасмачку, што, выбіўшыся, хацела ўпасці на лоб, адкрытае плячо. Прайшоўся па выразе плацця, убачыў грудзі, раздзеленыя цёмнаю лагчынкаю ў цесным станіку, і пачуў, як у скронях пачала шумець кроў...

Трэба было з месца скрануць веласіпед, але Антоля вельмі блізка стаяла пры ім. Пажмаканая сцяблінка мятліцы ўпала на дол. Аднекуль у небе праплылі два буслы і пачалі кружыць над дубовым гаем...

## КОННЫ ДВОР

Нам з Аляксеем Піваваравым выпала на долю стаць конюхамі. Не надта ўзрадавала нас гэтая навіна. Мы думалі, што спатрэбімся калгасу толькі на гарачую пару, на восень. І мы ўдосталь папрацавалі: па сенакосах, калі пачыналі работу нацямку і лажыліся з зорамі тут жа ў копах, у душныя, шалёныя іх пахошчы; на полі, калі дзень, пранёсшыся як адно імгненне, аставаўся ў памяці маўклівай сінечай зжатых прастораў, шорсткім, сухім бляскам іржэўніку з уціснутымі на ім слядамі грузавікоў, гулам малатарні, у пражэрлівую зяпу якой заімшэлы машыніст піхаў цяжкія снапы пшаніцы, ледзьве паспяваючы ўспорваць тугія перавяслы блішчастым узмахам нажа. Увесь дзень тугім, плаўкім золатам лілося з лёхаў зерне; увесь дзень віхаліся жанкі, гладкімі, выслізганымі віламі перамахваючы над сабою ахапкі саломы, а басаногі, шустры хлапчына верхам на гнедым кані адцягваў яе валакушаю ўбок, да сцірты, якую вяршылі трое мужчын. Малатарня нікому не давала перадыхнуць, мы спыняліся толькі на перакуску, і тады кожны даставаў свой хатулёк і шукаў месца, каб дзе зручней прысесці.

Аднаго разу ў такі перапынак пазвала Аляксея Паліна, жанчына яшчэ яркай, але стомленай, нейкай задуменнай красы, салдатка, муж якой не вярнуўся з вайны.

— Сядайце да мяне, — сказала яна, разгарнуўшы на саломе свой хатулёк. —У мяне тут хопіць прыпасаў, усё свежанькае, сваё, не тое што ў вас: скарынка хлеба з гурком.

Аляксей быў дабёр што з постаці, што з твару, увесь шырокі, круглы, з вузенькімі шчылінкамі воч і надзіва ціхім, нясмелым голасам. Здавалася, ён саромеўся ўсяго на свеце, гэта рабіла яго бездапаможным, падобным на вялікае дзіця.

— Што вы, — сказаў ён, — дзякую. Вы, мабыць, вельмі добрая.

— Як для каго, — бліснула Паліна вачыма. І, калі ён сеў, прымяўшы настаўбурчаныя камялькі саломы, дадала спагадліва:— Вы, мабыць, не прывыклі да нашай работы. Я глядзела на вас, і ў мяне сэрца заходзілася. Давайце, калі хочаце, памяняемся: я буду падаваць на палок, а вы станеце на салому, да нашых жанок, бо ў гурце можна і не спяшацца.

— Не ляжыць у мяне душа да ўсяго гэтага, Паліна, які з мяне тут работнік, — уздыхнуў Аляксей. — У мяне гіне свая спецыяльнасць, я ж кравец. Уся Вятка стаяла да мяне ў чарзе, шыў і ваенным і цывільным. І на Яі ўсё начальства хадзіла ў маіх кіцялях.

— Ой, — пляснула рукамі Паліна, — дык вы, можа, і жанкам шылі?

— Шыў, чаму ж не.

Гарачы, заружавелы стаў твар у Паліны.

— А ў мяне так многа шытва, — сказала яна раздумна. — Заходзьце да мяне, а? Маглі б нават і на кватэры ў мяне стаць.

У лёгкіх драбінках на ўзмакрэлым папялястым жарэбчыку ў гэты час падкаціў брыгадзір Сяргей Чаркашын. У мультановым пінжаку наросхрыст, з адкрытай разлахмачанай галавой, нізкі, камлюкаваты, ён падыходзіў да нас самавіта, паважна, але мы ведалі, што гэта не ад фанабэрыі. З вайны ён прынёс прастрэленыя грудзі і яшчэ незагоеную рану на назе. Ён абышоў пляц нашае работы, суняўся каля малатарні, набраў плывучага зерня ў рукі, пакаштаваў на зуб.

— Аддыхаем! — сказаў ён замест прывітання, але ў голасе пачулася больш не папроку, а пахвалы.

— Аддыхні і ты з намі, брыгадзір! — крыкнуў нехта з-за валка саломы. — А можа, ты і пляшачку з сабою прывёз?

— Ідзі, Сяргей, перакусі, — без жартаў сказала Паліна. — Тут хопіць і табе.

Брыгадзір матаўся па полі зрання, абедаць не было калі, і ён ахвотна прыняў запрашэнне. Нізкае, стомленае сонца свяціла

млява, недалёкі чубок бярэзніку гарэў ціхім золатам восені, павуцінне паблісквала на ржэўніку. Надрэсіраваны жарэбчык, без прывязі, з закінутымі на спіну лейцамі, стаяў як укапаны, чакаючы гаспадара.

— Прывучаеш патроху? — папытаўся ў Паліны Чаркашын, кіўнуўшы на Аляксея. — Правільна робіш. От бяры сабе ў прымы, няхай асталёўваецца. Мужчына ён рахманы, спакойны, а без сям'і нядоўга і зачахнуць.

Даўно хацелася Аляксею пагаварыць і з брыгадзірам пра сваю трывогу. Нашто ён тут мадзее, які з яго толк? Няхай яго адпусцяць, ён пойдзе шукаць сабе работы, ад якое была б карысць і яму і людзям.

— Пачакай, — сказаў Чаркашын. — От уходзімся ў полі, з агародамі, а тады і пагаворым. А пакуль што памагай калгасу. Сам ведаеш, людзей у нас мала.

Выбіралі мы і бульбу, увіхаліся і на агародах. Пачыналіся халады, сцюжа, цяжкія, разлезлыя хмары плылі над галавою, крапілі дажджамі. З слізкага цягучага бульбоўніку мы раскладалі вогнішча, садзіліся ў густы яго дым, каб пагрэць гразёю пазлепваныя рукі. Ужо ў замаразкі выдзіралі з зямлі буракі і бручку, складалі іх у бурты, абгортвалі саломаю і насыпалі капцы. І калі зусім закруцілі завеі, усе палявыя дарогі пазамятала, нас з Аляксеем разлучылі. Хто рабіў на кароўніку, хто ездзіў у лес па дровы, хто ў свірне перавейваў зерне.

Недзе ў сярэдзіне зімы Сяргей Чаркашын пазваў нас з Аляксеем да сябе. Ён самашто паснедаў, сядзеў за сталом у сподняй кашулі. Я толькі цяпер угледзеў, што ў яго зусім белыя бровы. Ён зірнуў на нас з-пад гэтых белых броваў такімі ж белымі вачыма.

— Вось што, хлопцы, — сказаў ён, — у мяне пустуюць добрыя палаці: вунь, бачыце, пры печы, над дзвярыма. Нас толькі двое, старая маці ды я. Увесь яе клопат — згатаваць паесці, то што ёй значыць заадно згатаваць і вам. Перабірайцеся да мяне. За пастой я не вазьму нічога, хіба толькі прынесяце ў хату вады ці з лесу прывезяце возік дроў. На двары ў мяне свая лазня, штосуботы можаце мыцца колькі хочаце. Бо гэта ж я мяркую і на работу вас паставіць разам: на конны двор.

— Таварыш брыгадзір! — аж пабялеў Аляксей. — Вы ж дакляравалі мяне адпусціць.

Чаркашын вылез з-за стала. Аказалася, што ён сядзеў босы. На пальчыках, каб не ўсёю нагою ступаць па халодных маснічынах, ён пратэпаў да табурэткі, пачаў абуваць валёнкі.

— Не магу, — сказаў ён. — Гавін не пускае. А свае майстэрні, як ты ведаеш, у нас няма.

Гавін — гэта старшыня. Я сам разоў колькі хадзіў да яго прасіцца на работу ў кантору, назваўшыся бухгалтарам, — нічога не памагло. Казалі, што ён добры, а я не верыў гэтаму. «А свайго я куды дзену? — сказаў ён. — Вунь жа сядзіць, з работаю спраўляецца, а двух мне не трэба». Ён нават не глядзеў мне ў твар, калі гаварыў, то я так і не ведаю: ад дабраты гэта ці ад таго, што дабрату трэба скрываць.

— Я хацеў вам зрабіць як лепш, — гаварыў далей Чаркашын. — Работы, ведама, знойдзецца ўсякай, але ж гэта будзе і на ветры, і на марозе, дык на яе трэба мець і моцны пуп, і добрую адзежыну. А я думаў, што на конным двары вы будзеце, можна сказаць, у зацішку ды ў цяпле. Дагледзеў, падчысціў, управіўся — можаш і дадому падскочыць, па-чалавечы і абагрэцца, і перакусіць. Самі і чаргуйцеся як хочаце: хто ўночы, хто ўдзень. Я мысліў, што і жыць вам разам будзе зручней, калі вы станеце на адной рабоце.

На конны двор вёў глухі, чорным, скасабочаным плеценем выгараджаны завулак. Выйшаўшы з яго, на самым пуку гладкага ўзгорка можна было ўбачыць шырокі загарад з нізкаю абораю пасярод яго. І загарад, і абора пабудаваны былі нядаўна. Тут была свая спрадвечная завядзёнка: як толькі наставала зіма, коней выпускалі з двара, яны ішлі на лугі, на ўзрэчышчы, дзе з восені аставалася нечапаная, па пояс трава, і, капытамі разрываючы снег, самі сябе кармілі да вясны. Не вельмі многа мяняў і конны двор. Добрая палавіна жыўнасці стаяла пад адкрытым небам, горбячыся на ветры, інеем абрастаючы на марозе, і я не раз гаварыў брыгадзіру Сяргею Чаркашыну, што гэта дзіка і бессардэчна.

— Ты сам інтэлігент і хочаш, каб і коні нашы парабіліся інтэлігентамі, — гаварыў Сяргей Чаркашын. — Не плач, ад гэтага яны будуць толькі здаравей. Сама прырода патрабуе гэтага.

У стайні мясціліся жарэбныя кабыліцы, маткі з сысункамі, гадунцы ды экземпляры нетутэйшай крыві, завезеныя сюды для расплоду. Ну і тыя, што кожны дзень былі ў рабоце і якім трэба было даць лепшага покарму. Чаргу мы з Аляксеем папраўдзе ўстанавілі самі: тыдзень па дзяняшняй змене, тыдзень на начной. І спалі на цёплых палацях. І штосуботы мыліся ў лазні, парачыся душнымі венікамі. У калгаснай кладоўцы бралі харчы, за якія разлічваліся працаднямі; брыгадзірава сухенькая маці гатавала нам есці. Усё ішлося так, як гаварыў Сяргей Чаркашын.

Мой дзень пачынаўся з таго, што яшчэ нацямку, падперазаўшыся па бушлаце, па самыя вочы надзеўшы шапку і цясней завязаўшы пад барадою матузкі, узяўшы з пячуркі цёплыя рукавіцы, я ішоў на конны двор. Перш-наперш я аббіваў ад наледзі бочку, што стаяла на санях пасярод двара, запрагаў у гэтыя сані старога, вечна лінючага каня і ехаў на рэчку. За маім следам вецер вырываў снег, гнаў яго са свістам бог ведае куды. На рэчцы я ставіў сані пры самай палонцы, прабіваў начны лёд і чарпаком, прыбітым да доўгага дзяржальна, наліваў у бочку ваду. Вада на ветры расплёсквалася, пырскі яе застывалі ў мяне на валёнках, на ватовых штанах, на крыссі бушлата; увесь перад на мне рабіўся цвёрды і слізкі. На двары я пераліваў гэтую ваду ў другую, куды большую, бочку, нізкую і шырокую, як чан. Ад таго, што наледзь на ёй прыходзілася адколваць абухом, верхні абруч лопнуў, адну клёпку выперла, вада цурчэла, пакуль шчыліну не зацягвала новым лёдам. Коні лена падыходзілі, скрозь зубы смакталі гэты пякучы вадкі холад, падымалі морды, як бы раздумваючы — хопіць ці можна пасмактаць яшчэ, і на валасінках іхніх губ застывалі ледзяныя кроплі. Я ездзіў на рэчку да таго часу, пакуль не здавольваліся ўсе: і гэтыя, з двара, і тыя, што ў стайні, якіх я выпускаў то па адным, то невялікім гуртам, баючыся за матак.

Потым я пачынаў чысціць. Больш за ўсё даваў мне клопату двор. Бадзяючыся па загарадзе, коні за ноч раскідалі гной дзе папала, ён умярзаў у натупаны снег як камень, я паламаў не адну совалку, выбіваючы яго. Яшчэ добра, калі стаяў мароз, тады было ціха, я спакваля варушыўся, гонячы перад сабою валок у кучу на канец двара. Горш, калі круціла завіруха. Тады здавалася, што ўвесь наш двор гарыць белым пажарам і полымя шалее, то б’ючыся ў сцены, то гойсаючы цераз паркан, то віхрам узлятаючы на вільчак страхі. Ветрам пранізвала наскрозь, нават не значно было, што ты ў нешта адзеты.

У стайні было іначай. Тут пахла цяплом, густым конскім духам. Я ішоў з праварыны ў праварыну, падбіраў з-пад ног расцярушанае сена, клаў яго ў яслі, а гной і цырбунне выграбаў на сярэдзіну. Коні мяне зналі, абнюхвалі рукавы, як бы дазнаючыся, ці не прынёс ім якога гасцінца. І я прыносіў тым, каго асабліва любіў. Жыватастай Мушцы з весела настаўленымі вушамі, бо яна вось-вось павінна была ажарабіцца; папялястаму жарэбчыку, на якім усю восень ездзіў брыгадзір і якога загнаў дашчэнту. Брыгадзір не любіў ціхай язды. Па доўгіх палявых дарогах за дзень ён выязджаў бог ведае колькі прастору, і на кожны ўзгорак

конь павінен быў выносіць брыгадзіра як птушка. Ён быў запалоханы да страхаты, калі я падыходзіў да яго, дрыжаў усім целам. Мне асабліва хацелася быць да яго ласкавым, каб ён не думаў, што людзі могуць быць толькі злыя.

Яшчэ я любіў зайсці да Маёна. Цёмна-гнядой масці, статны, пародзісты, ён не рабіў, аднак, уражання цяжкай сілы, як гэта бывае з ардэнамі ці біцюгамі, наадварот, яго вылучала нейкая самавітая, спакойная ладнасць. Ён рахмана абнюхваў мяне, нагінаючы сваю галаву з сухой, тонкай скурай, на якой відны былі ўсе выпукліны, усе жылкі. Шорсткай цёплай губой ён кранаўся мае рукі, правяраючы, ці няма там якога ласунку. «Не важна, што ты нічога не прынёс, важна, што не забыўся праведаць», — як бы гаварыў ён, гледзячы сваім добрым слівавым вокам.

Нашы з Маёнам дачыненні мелі сваю, толькі нам вядомую інтымнасць. Да таго як папасці на конны двор, мне собіла-такі пабываць на тых розных работах, пра якія гаварыў Сяргей Чаркашын. На вывазцы сена. Нялёгка было ў полі, на дзікім ветры, аднаму навяршыць воз, утаптаць яго, уціснуць, абхарашыць, а яшчэ не лягчэй давезці да канбазы. Прывучаны недзе да добрых дарог, Маён не ўмеў намацваць занесенага следу, збіваўся на цалік і, будучы грузным, правальваўся ў снег па самыя грудзі. Воз з сенам зарываўся, не раз клаўся набок так, што прыходзілася яго распускаць і перакладваць нанава. Калі ж бядзе можна было яшчэ памагчы, я падыходзіў да Маёна. Ён не тузаўся ў аглоблях, не біў у хамут, як некаторыя порсткія стрыкулісты, а вінавата чакаў, гледзячы сваімі добрымі вачыма і як бы гаворачы: «Ты ж бачыш, я хацеў як лепш, а выйшла чортведама што». Я абтоптваў перад Маёнам снег, пазначаў след да дарогі, тады ішоў назад, падстаўляў пад воз плячо і казаў: «Но, Маён!» Сіла ў Маёна была немалая, трашчалі аглоблі і заваратні, рыпелі гужы і падсядзёлачныя рамяні, але ён не аслабляў пляча, вывозіў на біты троп і тады сунімаўся і чакаў. «Што будзем рабіць далей?» — як бы пытаўся ён. Распазнаўшы такі Маёнаў грэх, я ведаў, што рабіць далей. Я сам, правальваючыся, ішоў паперадзе, намацваў валёнкамі пад снегам цвёрды тор, а Маён стараўся пільнавацца майго следу. Гэта ў мяне брала нямала поту, бо вецер, такі ж белы і панылы, як гэтае поле, і аднекуль гнаныя ім па шарпаку танюткія палахлівыя блікі парошы самога мяне высільвалі і збівалі з арыенціру.

Затое я быў спакойны, калі выязджаў на тракт. Тут Маёнам лепш было не кіраваць. Ён знаў правілы дарожнага руху, як

самы размудраны інспектар. Сярод раз’езджанай машынамі каламесы ён сам выбіраў сабе найлепшы след, дбаючы, каб спакойна прайшоў за ім і воз. Згледзеўшы наперадзе машыну, адразу забіраў управа, даючы размінуцца. Нічога не бачачы за возам, ён, аднак, ведаў, што могуць быць машыны і ззаду, і па першым жа гудку адтуль саступаў ім дарогу, няхай сабе дзеля гэтага яму трэба было залезці ў сумёт. Гэта дзівіла не толькі мяне, а ўсіх шафёраў па трасе ад Краснаярска да Енісейска. Тут, на тракце, я спакойна залазіў наверх, зарываўся ў сена і мог, заплюшчыўшы вочы, памарыць. Мары мае былі далёка і ад Маёна, і ад гэтай дарогі, яны лёгка заносілі мяне на той канец зямлі, што называўся бацькаўшчынаю.

Люба мне было сустрэцца і з Ластаўкаю. Разам з ёю стаяў яе гадаванец, ужо ладны жарэбчык палавой масці Бутон. З гэтай Ластаўкі я дзівіўся больш як з каго. Бутону даўно пара было даць сваю праварыну, гэта не раз і рабілі. Але Ластаўкі было тады не пазнаць. Беспярэстанку рэгчучы, шаленцам наліўшы вочы, яна кідалася па стойле, разбівала персі, ламала праслы і вырывалася да Бутона. Прыйшлося раскідаць іхнія загарадкі і даць поўную волю: цэлы канец стайні.

Быў і яшчэ адзін экземпляр, якога я не мог абысці ўвагаю. Не таму, што любіў, а таму, што ён быў мне нямілы. Гэта быў проста бандзюга, яго так і звалі — Раскол. Яму не было ні пярэгарадак, ні праслаў, ён дняваў і начаваў у чужых праварынах, падчышчаючы чужыя жалабы і яслі. Куртаты, віслазады, нейкай няпэўнай бруднай масці, ён не даваўся нават падысці да яго. Агідна нахмылены, з налітымі злосцю вачыма, ён кідаўся на цябе з капытамі або пачынаў сігаць па праварынах, падымаючы пярэпалах і грукат на ўсю стайню. Як я ненавідзеў гэтага злодзея!

Нарэшце ўсе праварыны былі падчышчаны, гной выграбены за вароты, я здымаў шапку і выціраў пот. Можна было перакурыць. Але ўжо і не было надта часу: надыходзілі людзі, трэба было збіраць іх на работу.

На маім дзяняшнім клопаце было знаць, куды занараджаны які конь, якая на яго збруя — хамут, падсядзёлак, набадры, лейцы, якія каму даць сані; прыняць прывезенае на канбазу сена і скідаць яго ў малой загарадцы за канцом стайні; ведаць, каго напаіць і накарміць удзень, каго ўночы; глядзець, каб не прычынілася дзе якога няшчасця ці траўмы.

Часам забягаў на маё дзяжурства Аляксей, ці то памагчы што, ці проста пасядзець. На слова ён быў скупы. Адно, пра

што ён мог гаварыць без канца, дык гэта пра сваю прафесію. Ён глядзеў на мой бушлат.

— Ён на табе як пудзіла, — гаварыў ён і ставіў мяне перад сабою. — Не важна, з чаго пашыта адзежына, важна, як яна пашыта, на ўсё трэба вока мастака. От стой, я б табе даў вось такія лініі... — і пачынаў паварочваць мяне.

У сваёй справе ён быў паэт. Мяне дзівіла, што ён ніколі не гаварыў пра сябе, пра сваю сям'ю, хто ён і адкуль, мелькам неяк абкінуўся словам, што ў яго ёсць два хлапчукі-сыны. А пра моды, лініі крою і сілуэты я знаў бог ведае колькі. Неяк я папытаўся:

— Скажы, а Паліне ты пашыў?

— Пашыў.

— Часта ты не начуеш дома.

— Яна просіць, каб перайшоў да яе. Але я не магу. Тады я ўжо не вырвуся адсюль, я ведаю.

Мне шкода рабілася ўжо не Аляксея, а Паліны. І ёй жа трэба жыць нейкімі спадзяваннямі.

Аднаго разу прыйшоў Аляксей на конны двор чыста выбрыты, прыхарошаны, адзеты ў сваю адмыслова пашытую масквічку з хлясцікам ззаду, з косымі кішэнямі на грудзях. Сказаў, што, можа, сёння ўвечары прыйсці на дзяжурства забавіцца, і прасіў пачакаць яго. І прыйшоў папраўдзе позна. Я сядзеў з ліхтаром у збруйні, што была выгараджана пры варотах у стайні. Тут пахла сырамяццю, на сценах віселі хамуты, аброці, новыя і пасшываныя. Аляксей, увесь светлы, ажыўлены, сеў на зэдлік, на якім мы звычайна крышылі тытунь.

— Быў у Шыле, — сказаў ён шчасліва, — здаецца, нарэшце знайшоў работу. Там жа прамкамбінат і кравецкі цэх вялікі. Ну, майстар сказаў, каб праз тыдзень прыходзіў. Цяпер трэба толькі ўпрасіць Гавіна. Ой, братка, як убачыў я ўсё гэта — і распараны прас на сукне, і машыны, што стаяць у радок, і закройшчыка з метрам на шыі, дык думаў, што ў мяне самлеюць ногі. Сёння позна ўжо, дый няма як на рабоце, а заўтра мы з табою вып'ем, я нават пляшку з сабою прынёс.

Але выпіць не давялося.

Назаўтра раненька, яшчэ дома ўсе спалі, спаў і я, як прыбег Аляксей. Будзіць мяне, падняўшыся к палацям, трывожным шэптам:

— Хадзем, братка, памажы, няшчасце ў мяне. Усё прапала, не патрэбны будуць ніякія мае клопаты. Давай скарэй, толькі ціхенька...

У стайні, у далёкім канцы яе, павешаны на слупку, гарэў ліхтар, кідаючы вакол сябе слабы бляск. Ластаўка стаяла сцішаная, за ёю ў яслях відно было недаедзенае сена, а ніжэй, у жолабе, заваліўшыся туды спінаю, ляжаў Бутон. Я зразумеў, чаго хацеў Аляксей: хутчэй выбавіць Бутона з жолаба. І мы заспяшаліся: не дай божа, каб хто цяпер зайшоў. А гэты ліхтар зырчыць, як бы знарок паказваючы, што тут нешта нядобрае робіцца. Аляксей хацеў патушыць яго, зняў з слупка, але перадумаў: яшчэ горш страшна. Мы рабілі злачынства, дзялілі яго папалам. Бутон ужо быў халодны, здранцвелы. Рукі ніяк не маглі падчапіць яго, ніхто не падумаў бы, што ён такі цяжкі. Нарэшце спусцілі ўніз, адцягнулі далей ад жолаба, стараючыся, каб ні на доле, ні на ім не асталося знаку. Дол прыхарашылі і сталі як скамянеўшы, кожны ўсярэдзіне пачуўшы жах.

— Хто б думаў. Здаецца, усю ноч быў тут, не чуў ніякага груку, і от, калі ласка. Хоць размудрыся, не магу даўмецца, як гэта здарылася. Няйначай як Раскол ноччу шворыў па ўсіх праварынах, а Бутон стаяў пры жолабе, і той штурхнуў яго. А я агледзеў, калі ён ужо астыў. Нішто сабе конюх! Думалася, што, можа, настане якая прасветліна, а тут, бачыш, зноў турма. Можа, не трэба было, каб ты мне і памагаў, усё-такі я быў бы вінаваты адзін.

— Перастань, — сказаў я Аляксею. — Ідзі далажы старшыні ці брыгадзіру.

Аляксей вярнуўся з Чаркашыным і заатэхнікам. Заатэхнік аказаўся тут выпадкова, ехаў з раёна, заначаваў. Высокі, у доўгім паліце з настаўленым каўняром, ён адразу пайшоў на канец стайні. Бутон ляжаў з адкінутаю галавою, пярэдняя нага яго, адубянеўшы яшчэ ў жолабе, не дакранапася зямлі, тарчала праўцом, мы нават не здагадаліся яе прыгнуць.

— Як жа так здарылася? — папытаўся Чаркашын.

Аляксей сказаў, што нічога не ведае. Пайшоў правяраць і агледзеў, што Бутон ляжыць нежывы.

— Захацеў, дык узяў дый здох. Скончыў самагубствам. Здорава прыдумана! — з’едліва сказаў заатэхнік.

Ён нагнуўся над Бутонам, абмацаў усяго рукамі, агледзеў вочы, ноздры, расчапіў рот і выцягнуў язык. Нічога нідзе не пазнаць.

— Ну што? — нецярпліва папытаўся Чаркашын.

— Давай адцягнем к варотам, — сказаў заатэхнік.

Каля варот, ля збруйні, дзе святла стала больш, заатэхнік дастаў з-за валёнка нож і прысеў над Бутонам. Чаркашын вынес са збруйні зэдлік, сеў на яго, закурыў.

Усё агледзеў заатэхнік — сэрца, лёгкія, печань, выварочваў і назад упіхаў вантробы, нечага шукаючы, нечага дазнаючыся. Нарэшце пачаў аддзяляць шкуру.

Паявіўся і стаў у дзвярах Гавін. Ён ні з кім не павітаўся, толькі кінуў цяжкім вокам на нас з Аляксеем.

— Ну што тут? — папытаўся ён у заатэхніка.

— Ды от шукаю прычыны.

— Ён нічым не хварэў? — папытаўся ў Чаркашына.

— Не відно было.

Колькі часу ўсе памаўчалі. Глядзелі, як пад нажом у заатэхніка напінаецца плеўка і ўсё далей і далей пад шкураю агаляецца бок. Я ведаў, што зараз, бліжэй к спіне, пакажацца пляма: Бутон жа біўся ў жолабе доўга. Нарэшце от яна і паказалася, на пярэдняй лапатцы, сіняватая, налітая кропелькамі мёртвай крыві. Мне здавалася, што ў сэрца маё нехта ўнізвае распалены агнём прут і вось яшчэ хвіліна, яшчэ хвіліна — і яно замрэ.

— Ды што тут шукаць, усё ясна, — сказаў Гавін. — Словам, я пайшоў, пішыце акт, каб усё было па форме. Хадзем і ты, Чаркашын, няма чаго табе бавіць час.

Вядома, чаго ж ім тут быць, думаў я пра Гавіна і Чаркашына, яно ж і папраўдзе ўсё, мабыць, вельмі ясна. Аж да таго, што ў нас ніхто ні пра што не папытаўся, як бы гэта зусім лішняя непатрэбшчына.

Заатэхнік устаў, выцер рукі шматком сена, што падсцелена было пад калені, выцер і засунуў за валёнак нож.

— Дык расказвайце, хлопцы, як было. Хто з вас вінаваты? — папытаўся ён, усё яшчэ сціраючы парушынкі сена з рук, насуха абгладжваючы іх.

Аляксей паціснуў плячыма, цяжка ўздыхнуў.

Заатэхнік яшчэ раз схадзіў на канец стайні, зноў агледзеў стойла, праслы, абмацаў край жолаба. Мабыць, шукаў, ці не застраміўся дзе там шматок шэрсці. Вярнуўся, сеў на зэдлік і, апусціўшы галаву, задумаўся. Надоўга. Я ведаў, чаго ён думае: каго яму ратаваць — сябе ці нас. Сябе яму ратаваць было лёгка: проста ўсё запісаць, як бачыў. Але ж тады — што будзе з намі?

Вельмі доўга аддалялася яго фігура, перш па двары, а тады па дарозе ў завулак, высокая, угнутая на ветры.

Аляксей павінен быў даўно пайсці дадому, адпачываць пасля дзяжурства — не пайшоў. Мы былі ўсё яшчэ як аглушаныя.

— От яшчэ і Паліне нарабіў гора, — сказаў Аляксей, і я здзівіўся: я грашыў на яго за эгаізм і чэрствасць, а ён у цяжкую хвіліну падумаў перш за ўсё не пра сябе.

Увесь дзень мы былі з Аляксеем разам, раптам адчуўшы, што нечым вельмі звязаны, можа, прадчуваннем немінучай ростані. І было шкода і гэтага сяла, і канбазы, і марознага сіняга неба, і ветру. Не хацелася ніякіх прасветлін, абы аставалася тое, што маем. Мы нават не ўзрадаваліся, калі ў завулку, глыбока западаючы ў снег, паказалася Паліна. Мабыць, не першы раз яна падбягала сюды, калі дзяжурыў Аляксей, я толькі цяпер падумаў пра гэта. Ну што ж, мы часта чаго не заўважаем, пакуль не страцім яго.

— Я была ў канторы, — сказала Паліна, адкінуўшы рог хусткі, заружавелая і задыханая, — чула, як яны там складалі акт, і Чаркашын, і Гавін, і заатэхнік гэты. Доўга яны не ведалі, што рабіць, усё гаманілі ды спрачаліся. Але заатэхнік кажа: Бутона ж, кажа, усё роўна мы не падымем, а людзям яшчэ раз пакалечым жыццё, яно ў іх і так пакалечанае. Ну, словам, запісалі там нешта другое, я ўжо не ведаю што...

Па вуліцы праехаў высокі воз сена, я ведаў, што яго вязуць на канбазу, і здагадаўся, што дзень павярнуў на вечар.

З лагчыны ад рэчкі ўсё дужэй і дужэй дзьмуў вецер. Як жа ён добра асвяжаў твар.

## МОЙ ДЭПУТАТ

Пасля таго як Аляксея Піваварава адпусцілі ў Шылу, я перабраўся на другую кватэру. Да Чаркашына прыехаў з горада яго брат з маладою жонкаю і дзіцем, стала шумна і цесна. На пастой мяне пусціла Ганна Бараўлёва, гадоў пад сорак жанчына добрай сібірскай уроды, з грубаватым голасам і дзёрзкімі чорнымі вачыма. Муж яе, спіўшыся і разбасячыўшыся дашчэнту, каторы год быў у безнадзейных прочках, яна была ні ўдава, ні замужніца. З таго часу як на сяле паявіліся наезджыя людзі, якія маглі тут астацца і за гаспадароў, удовы ахвотна іх бралі сабе ў дом. У Бараўлёвай было два сыны, адзін дапрызыўнік, рослы і надзіва сімпатычны хлопец Мікола, другі, Толік, пяты год хадзіў у школу, але так і не вылазіў з трэцяга класа. Хлопцы спалі на палацях, якія тут звычайна рабіліся пад самаю столлю пры печы, на іх можна было залезці, як у шчыліну, толькі паўзком. У адга-

роджанай вузенькай каморцы, у яе цёмнай глыбіні, стаяў ложак Бараўлёвай, а пры дзвярах, завешаных фіранкаю, — мой тапчан.

Я снедаў варанаю бульбаю з чаем і ішоў на работу. Днём або ўвечары выбіраў хвілінку, каб забегчы на пошту, што мясцілася на тым канцы сяла за калгаснаю кантораю. Кожны раз я ішоў туды з трывогаю: будзе ці не будзе ліст. Звычайна мяне сустракала сама загадчыца пошты, непрыгожая тварам, але вельмі мілая жанчына з рэдкім цяпер імем Матруна. Яна была негаваркая, нават строгая, але калі я паяўляўся, яе твар святлеў. Калі не было пісем, яна ўздыхала і паціскала плячыма; калі ж яны былі, яна радавалася, можа, не менш за мяне.

— Вы, мабыць, вельмі любіце сваю сям'ю? — аднойчы папытала яна.

— Ну а як жа, — сказаў я, нават здзівіўшыся, што пра гэта трэба пытацца.

Вайна пакінула бог ведае колькі ўдоў. І яна была ўдава, і дзіва: не маючы свайго шчасця, яна радавалася чужому.

— У вас, можа, ёсць яе карткі?

Я ведаў, што яна пытаецца пра жонку. І калі аднойчы прыйшло пісьмо, і па тым, што яно было пакаўное, здагадваючыся, што там, мабыць, карткі, яна стала пры бар'ерчыку, чакаючы, калі я разарву канверт. Задумная жончына пастава і двое малых — хлопчык і дзяўчынка, што прыпалі да яе спадніцы і глядзелі гэтак чыста на свет, — нагналі на яе вочы слёзы.

— Які вы шчаслівы, яны ж вас любяць, — сказала яна.

Аказваецца, што можна зайздросціць нават мне. Якая ж умоўная рэч гэтае шчасце, і як кожнаму не хапае яго!

І вячэраў я бульбаю з чаем. Я не ведаў, што гэта не так і блага. Пяцілінейная лямпа, пастаўленая на дно гаршка, кідае на стол жаўтаватае дрыготкае святло, ад міскі ідзе пара. Перакідваючы ў руках гарачую бульбіну, я абіраю яе; яна да таго сопкая, што рассыпаецца ў пальцах. Бараўлёва, у лёгкім ватовым кабаціку і ў хустцы, завязанай каптурыкам, узлакаціўшыся, сядзіць насупроць, чакаючы, каб прыбраць стол.

— Дзе ж сёння рабіў, што так позна прыйшоў? — пытаецца яна.

— На дрывах, — кажу я. — Бярэзнік жа намёрзлы, цвёрды, цяжкі, як жалеза. Пакуль наспускаў ды павыцягваў з снегу, наладаваў воз, от і сцямнела на трэцім рэйсе.

— Сёгады снег глыбокі, — пагаджаецца яна.

Я прыслухоўваюся да гэтага слова. Дзіва, якое падабенства: па-нашаму сёлета, а тут — сёгады. Чамусьці мне вельмі прыемна ад гэтага нечаканага адкрыцця: хоць зямля мая далёка, але і тут адчуваю, што я не ў чужых.

— Нешта ты ўсё адзін ды адзін, — кажа Бараўлёва, пачакаўшы.

Яна са мною на «ты» з першага дня. Не ведаю, ці такая тут завядзёнка, ці, можа, таму, што я ёй такі ж, як і ўсе, — свой селавік.

— Як гэта — адзін?

— Ну, другія ж неяк і пройдуць да каго, і пасядзяць, і павесяляцца часамі, ды яно ж і жанок у нас многа, можна было б і сюды пазваць, але ты ўсё нешта пішаш ды кніжкі чытаеш.

Гэта праўда. За пятнаццаць гадоў маё жыццё складалася так, што і ад пісання, і ад кніжак я быў далёка. Не ставала часу. Не надта ставала яго і цяпер, але памагала тое, што я быў на адзіноце. Звычайна ўвечары Бараўлёвых хлопцаў не было дома. Мікалай меў дзяўчыну, увішную і шчабятлівую Граню, і бадай што ўвесь свой вольны час бываў у яе, а меншы падшыванец прападаў бог ведае дзе. Бараўлёва ішла ў каморку, клалася спаць, а я, укруціўшы ў лямпе кнот, садзіўся к сталу. Чытаў кнігі, якія нялёгка мог тут даставаць, пісаў пісьмы дадому. Гэта былі цяжкія пісьмы. На развітанне Аня сказала: «Памятай, дзе б ты ні быў, я прыеду да цябе». Куды ж яна прыедзе? Што будзе тут рабіць? Тут няма ні праектных інстытутаў, ні чарцёжнай работы, — чым яна будзе займацца, якую знойдзе сабе спецыяльнасць? Я прасіў пачакаць з пераездам, пакуль нейкім чынам не вызначыцца больш пэўна мой лёс. Напісаў яшчэ адну заяву ў райвыканкам.

Нарэшце я тушыў лямпу і, блытаючыся ў фіранцы, ціхенька пераступаў у каморку. Упоцемку, каб не грукаць, намацваў свой тапчан, табурэтку. У бляклым святле, што ішло з намарожаных шыб знадворку, я бачыў край прасцірадла, што спускаўся з ложка ў Бараўлёвай.

— Чортведама навошта ты губіш сябе. Заўтра досвета ўставаць, а яму гэтая грамата патрэбна.

Няўжо яна не спала? Ці, можа, яе прабудзіў скрып майго тапчана?

— Нічога, сну мне хопіць.

У галаве ў мяне ішла свая, яшчэ прынесеная ад стала, плынь думак. За вокнамі ляжала чуйная цішыня, калі хто праходзіў па вуліцы, чутно было, як пад валёнкамі рыпіць снег. У кухні пачынаў сваю работу цвыркун. Абодва хлопцы яшчэ не вараchaліся дадому.

— Табе не холадна там пры акне? — па немалым часе маўчання пыталася Бараўлёва.

— Не.

— А то, можа, на кухні яшчэ кажух вазьмі накрыцца, — паясняла яна свой клопат.

Я разумеў гэты клопат. І адкрыў яго для сябе зусім нядаўна. Я ішоў на пошту. Каля чужога двара стаяла Бараўлёва з суседкаю. Вуліца на сонцы блішчала наезджаным марозным снегам. Яшчэ здалёк я бачыў, што суседка працінае мяне вачыма. Ясна, што гаворка ў іх пра мяне. «Гэта твой? Ну дай хоць паглядзець на яго», — чыталася ў суседчыным паглядзе. Шэптам яна пра нешта папыталася. І ўжо калі я праходзіў міма, пачуў, як Бараўлёва сказала сваім грубаватым голасам:

— Паскардзіцца не магу...

З дня на дзень я чакаў адказу з раёна. Трэба, мабыць, схадзіць самому, падумаў я. Заява — гэта паперка, яна нікому не баліць, калі пра яе забыліся, то пра сябе не напомніць. Папрасіўся ў Чаркашына, каб адпусціў хоць на дзень.

— Што ж зробіш, схадзі, — сказаў ён. — Або пачакай, пакуль праб’юць дарогу, пойдуць машыны, падвязуць, бо цяпер хадзіць не так і лёгка.

Я не чакаў ніякіх машын. Назаўтра ж раненька, надзеўшы падсушаныя валёнкі, цяплей ухутаўшыся і падперазаўшыся, яшчэ прыцемкам пусціўся ў дарогу.

Праўда такі, яна аказалася нялёгкаю. Першыя кіламетры, пакуль падымаўся на пагорак, пакуль мінаў лясок, дзе след дарогі быў цвёрды, ішліся ў ахвоту. Але далей, калі выйшаў у стэп, карціна перамянілася, след дарогі пазначалі толькі тэлеграфныя слупы. З золкам пачынаўся ўсё большы і большы вецер, па гладкім шарпаку то там, то там успыхвалі снежныя грывы, яны мітусіліся, пераганяючы адна адну, знікалі, зноў успыхвалі і плылі ў бясконцую, цяпер ужо прасвечаную сонцам далячынь. Ногі мае штохвіліны западалі ў нейкія ямы, вецер ззаду тут жа і замятаў мой след. Я стараўся намацаць валёнкамі хрыбціны ад каляін, нейкі час мне ўдавалася іх пільнавацца, але ненадоўга, ногі саслізгвалі і зноў западалі ў ямы. Кіламетр за кіламетрам у белай прасторы перада мною пазначалі кірунак толькі тэлеграфныя слупы. Каб ведаць, што я ўсё-такі рушу наперад, я пачаў іх лічыць. Адзін, другі, трэці. Вунь за тым, наперадзе, дарога пойдзе гладзей, там нібы перакат, і след стане цвярдзейшы. Я мінаў і гэты слуп, і яшчэ, і яшчэ, але нічога не мянялася. Як бы я хацеў, каб наперадзе мяне ці хоць ззаду паказалася фурманка,

няхай бы яна размінулася са мною, няхай бы абагнала, усё-такі я ведаў бы, што гэты стэп не мёртвы. Але наўкруга адна бясконцая снежная бель. Я ўспомніў, як часта спакойна слухаў расказы пра тое, як гінуць у дарозе людзі, і не верыў. Цяпер я бачыў, што гэта вельмі блізкая праўда. Ну от змагуся я недзе пасярэдзіне тропу, высілюся, прысяду адпачыць, і — усё. Толькі чуць-чуць дазволю сабе задрамаць і — не прачнуся. Лоб пад шапкаю, правы бок пад бушлатам у мяне прэў ад поту, а левы прамярзаў. Здавалася, што ён голы. На рабоце ў любы вецер я мог павярнуцца, стаць да яго або тым, або другім бокам, а тут я не мог зрабіць гэтага. Я спрабаваў ісці задам, каб хоць на якую хвіліну даць абагрэцца левай руцэ, але так можна было зрабіць якія два-тры крокі. Выходзячы з дому, па каўняры я павязаўся махрастым ручніком. Цяпер я падумаў, што ён хоць трохі можа мне памагчы. Я падышоў да слупа, скоранька скінуў бушлат, уваткнуў у рукаў яго ў дзве рэдзі зложаны ручнік. Апякаючы гузікамі пальцы, зашпіліўся, яшчэ цясней падперазаўся і рушыў далей. Паляжаўшы на снезе, паспелі астыць і рукавіцы.

Усё марудней і марудней міналіся слупы. Ногі сталі цяжкія, снег больш сыпучы, крок усё больш хісткі. Неба яснае, яркае, вочы аж слепіць блішчастая далеч. Я не ведаю, колькі часу іду; тут, у гэтай стэпавай белі, нават сонца свеціць іначай, я не магу сказаць, якая гадзіна. А мне ж трэба дайсці, каб заспець старшыню. Дзеля гэтага ж я і пусціўся ў дарогу.

Нарэшце наперадзе паказаўся цёмна-алавяны дах цаглянага клуба, што стаіць на пагорку, ён пануе над усім наваколлем. Яшчэ якая часіна, і паказалася ўсё мястэчка з густымі дамамі пасярэдзіне і паадкіданымі наводшыб з краёў, як нарысаванае на белым палатне.

Можа, таму, што мястэчка ляжала ў нізіне, атуленае з трох бакоў узвышшамі, вецер перад ім адразу аціх. Прывыкшы мясіць снег і не паспеўшы прызвычаіцца да гладкай дарогі, ногі мае аж падгіналіся, калі я ступіў на цвёрдую вуліцу.

У райвыканкаме, што мясціўся ў нізкім драўляным доме за маладым паркам, жанчына цёмнага воласу і суровага, занадта дзелавога аблічча сказала, што Удавічэнка заняты. Пачакальня была невялікая, падобная на калідор, свежапабеленая па старой, павышчэрбліванай тынкоўцы. Двое дзвярэй наабапал вялі ў два кабінеты — старшыні і намесніка, наабапал жа са сцен круглымі чорнымі бакамі выступалі дзве жалезныя грубкі. Жанчына, увесь час нешта пішучы за сваім невялікім столікам, сказала мне пачакаць. Я сеў у крэсла, прыставіўшы яго да самых стар-

шынёвых дзвярэй, і пачуў, як мяне пахіліла на сон. Я змагаўся з ім як мог, а вочы зліпаліся, і перад імі ўвесь час бялела дарога, круціла замець, і я ўсё мясіў і мясіў глыбокі снег. Сярод таго драмання я чуў, як нехта прыходзіў, пытаўся ў жанчыны, ці ў сябе Міхаіл Сямёнавіч. Прыходзілі і яшчэ людзі, заходзілі ў кабінет, выходзілі, а я ўсё трывожна думаў, хаця б не праспаць мае часіны. Добра грэла гэтае цяпло ад грубак, добра пахла свежаю крэйдаю ад сцен. Нарэшце стала вельмі ціха, і я прахапіўся; жанчына ўсё пісала, яна на мяне, мабыць, забылася, і Міхал Сямёнавіч не ведае, што да яго тут сядзіць яшчэ адзін наведнік.

Па нейкім часе з кабінета адчыніліся дзверы, і адтуль выйшаў чалавек у кіцелі без пагонаў, невысокі, з быстрымі шэрымі вачыма. Няйначай як ён збіраўся пайсці ўжо дадому і здзівіўся, што тут яго яшчэ нехта чакае.

— Вы да мяне? — папытаўся ён.

— Да вас.

— Ну давайце скоранька, што там у вас такое.

Ён вярнуўся за свой шырокі стол, я сеў насупроць і расказаў, хто я і чаго прашу.

— А, памятаю, памятаю, ёсць недзе ў мяне ваша заява.

З шуфляды ён дастаў апошні мой ліст, пачаў чытаць.

У мяне сэрца тахкала так моцна, што, здаецца, аж чутно было на ўсім пакоі. Няўжо ён нічога не паможа мне? Летась у познюю восень я галасаваў за яго ў дэпутаты. У нашым драўляным нізкім селавым клубе, дзе было паўнютка народу, ён выступаў з прамоваю перад выбаршчыкамі. Толькі што зволены з арміі ў запас у чыне падпалкоўніка, ён быў хоць без пагонаў, але ўвесь яшчэ чыста ваенны: дакладны, рухавы, быстры, у ім аж кіпела энергія. У зале з павыбіванымі вокнамі было холадна. На сцэне — прэзідыум з трох чалавек, каля трыбуны — Удавічэнка ў накінутым наапашкі шынялі. Час ад часу хукаючы ў рукі і пацепваючы плячыма, ён гаварыў пра Сібір. Што гэта раздольны і найбагацейшы край, у якім жывуць цудоўныя людзі. Пад цудоўнымі людзьмі ён разумее і такіх, як я, думалася мне, значыць, чалавек справядлівы. Маючы стаць дэпутатам ад нашай акругі і ведаючы, што яго бачаць тут першы раз, ён, аднак, не паддобрываўся пад сход, а тут жа пасарамаціў, сказаўшы, што мы неахайнікі і нядбайлы, бо нават клуб маем такі, што ў ім можна ганяць ваўкоў. Ён падабаўся нам за адкрытасць і праўду, уся зала пляскала ў ладкі. І вось цяпер я сядзеў перад Удавічэнкам. Дык няўжо ж гэты чалавек, што стаў старшынёй

райвыканкама, за якога я тады падаў свой голас, няўжо ён цяпер не палічыць мяне роўным сабе?

Не папытаўшыся ў мяне ані слова, Удавічэнка ўзяў з падстаўкі ручку і нешта напісаў на ражку мае заявы. Моўчкі перадаў яе мне. Я прачытаў: «Тав. Гулаку. З сённяшняга дня залічыце на пасаду бухгалтара райкамунгаса».

— Зараз жа ідзіце і прымайце справы, — дадаў ён, падымаючыся з-за стала.

Калі я выходзіў з кабінета, мне здалося, што і ў жанчыны быў не суровы, а вельмі добры твар.

## ФАКІР ІЯМА

### 1

У рэдакцыю газеты «Літаратура і мастацтва» зайшоў пажылы чалавек і папытаўся, ці можа ён бачыць Скрыгана. Я падняўся яму насустрач, запрашаючы прайсці далей, але чалавек канфузліва прызнаўся, што хоча гаварыць адзін на адзін.

Рэдакцыя мясцілася на другім паверсе Дома пісьменніка ў пакоях цесных, непрыветных. Мы выйшлі ў невялічкую нашу пачакальню. У ёй стаялі чорная патрэсканая канапа і руды столік з выцертым бляскам колішняй густой алівавай фарбы.

— Прашу прабачыць, што адарваў вас ад работы, — сказаў чалавек, хвалюючыся. — Не важна, хто мне параіў, але я прыйшоў да вас як да пісьменніка. Хачу прадаць вам свае дзённікі.

— Як так?

— Я артыст, — сказаў чалавек, — факір Іяма. Прыехаў у ваш горад на гастролі. Тут няма ніякае спекуляцыі.

Я ўспомніў, што папраўдзе бачыў парасклейваныя ў горадзе афішы з імем гэтага чалавека. Вялікімі чорна-сінімі літарамі пасярэдзіне напісана «Факір Іяма», а ў левым кутку наверсе партрэт. Нетутэйшае аблічча: загарэлы бронзавы твар з строгім бляскам воч; чалма, перакрыжаваная на лобе белымі складкамі, сярод якіх чорнымі праменямі гарыць дарагі камень; тонкае колца завушніцы ў вуху. Мімволі ўяўленне заводзіць у далёкія, гарачыя, нязнаныя краіны, дзе поўна самых пякучых таямніц, дзе жывуць чараўнікі, адгадчыкі лёсу, і дзе змеі танцуюць пад музыку... Я зірнуў на Іяму: з партрэтам не было ніякага падабенства. Вельмі пажылы чалавек

невысокага росту, шчуплы, стомлены, нават нездараўчаны, нават разгублены. На вузкіх плячах кароткая даха, рудою, лямцаватаю шэрсцю наверх.

Не стасавалася такое аблічча ні з афішным партрэтам, ні з іншаземным прозвішчам, ні з прафесіяй. Усяму гэтаму хацелася знайсці прымірэнне.

— Я многа паездзіў па свеце, — між тым гаварыў чалавек, — многа чаго бачыў і ўсё, што было вартае ўвагі, запісваў. Я бачыў вялікія гарады — Парыж, Вену, Ніццу, Дэлі, Бэйпін[1]. Ведаў славутых і знакамітых людзей свету — французскіх класічных барцоў, італьянскіх спевакоў, індыйскіх факіраў, драматычных артыстаў, такіх, як Сара Бернар, танцорку Айседору Дункан. Словам, мне было што запісваць у свае дзённікі. Ведама, найперш за ўсё ў іх расказана маё жыццё. Прафесія факіра не такая ўжо частая, і мне здавалася, што вам як пісьменніку яны спатрэбяцца.

Не, мне яны не былі патрэбны. Па-першае, зусім нядаўна паявіліся ў друку «Прыгоды факіра Бе-Алі-Бея» Усевалада Іванава, і я не мог нават памысліць, каб узяцца паўтараць тэму, ды яшчэ з чужых рук, не знаючыся з матэрыялам. Па-другое, гэта было вельмі далёка ад маіх замыслаў: я збіраўся пісаць пра козыраўскіх партызанаў. Я сказаў, што дзённікаў узяць не магу.

— Шкода, — уздыхнуў Іма. — А ў мяне была такая надзея...

Прымірэння супярэчнасцей не знайшлося, і таму я сказаў:

— Дзённікі — гэта тое, што пішацца пра самога сябе. Такое інтымнае, што яго нават найлепшаму сябру не асмелішся паказаць. А тут — на людзі. Што вас прымушае прадаваць іх?

Іма ўцягнуў галаву ў вузкія плечы. Мы сядзелі на чорнай прашмуленай канапе, паміж намі ляжала яго рудая, пад колер дахі, шапка-вушанка.

— Я спадзяваўся, што з часам на іх аснове напішу кнігу, збіраўся стаць пісьменнікам. А цяпер бачу, што і не здолею, і не паспею. Але не гэта галоўнае. Я жанаты, мая жонка маладая жанчына, і я не магу... Таксама не галоўнае... Вам добра вядома, што маё мастацтва цяпер не ў модзе. Нават з вамі вось тут гаворачы, я не спакойны, бо не ведаю, як пройдуць гастролі. Мае заробкі страшэнна няпэўныя. А я нават у думках не магу дапусціць, каб яна за мною зазнала... Я думаю, вы разумееце, пра што я гавару.

Я разумеў. Факірскай прафесіі на той час было цяжка. Дзяржава змагалася проці папоўства, выкрывала рэлігійны падман, усякае шальмоўства, а факіры сваю работу будавалі пераважна на тайнах, на тым пастулаце, што яны валодаюць надпрыродную сілаю, знаюцца ні то з богам, ні то з нячысцікам. І звычайна праграмы фокуснікаў правяраліся, патрабавалася, каб усё залішне мудрагелістае было тут жа раскрыта. Рамеснікаў гэта не абыходзіла, іхнія прымітыўныя праграмы вытрымлівалі ўсякія праверкі, а вялікія артысты трацілі многае. Як, напрыклад, можна было раскрыць трэніроўку памяці, дапытлівасць мыслі, тайны гіпнозу? Усё тое, што галоўным чынам уласціва высокаму мастацтву. І многія, можа, самыя лепшыя, нумары з іхняга рэпертуару часам да сцэны і не даходзілі.

І раптам майго ўсведамлення кранулася здагадка, што перада мною адзін з такіх вось вялікіх артыстаў. Што яго, як і многа каго ў жыцці, напаткалі трагічныя хвіліны, пра якія ён стараецца мужна маўчаць. І мяне пагарнула да яго.

— Чым яшчэ я мог бы вам памагчы? — папытаўся я.

— Нічым. Хоць не, я гавару не зусім праўду. Першае, я разумею вас як мастака, калі вы адмаўляецеся ад дзённікаў. Можа, і я зрабіў бы гэтак на вашым месцы. Але мне хочацца, каб вы іх усё ж пачыталі. Я не чакаю пахвалы ці літаратурнай ацэнкі, я вельмі далёкі ад самазахаплення, але ўсё ж хочацца паслухаць вашу думку. І другое, вы добра ведаеце, як многа значыць нават самы маленькі водгук у прэсе. Асабліва пра маё мастацтва. Сёння ўвечары я даю першы адкрыты паказ і быў бы вельмі рад, калі б вы пабывалі на ім і адгукнуліся ў вашай газеце. Вы, ведама, жанаты, запрашаю вас з жонкаю. У клубе харчавікоў. Туды я прынясу і дзённікі.

## 2

Быў канец трыццаць пятага года. Цёмным вечарам мы з Лінаю спускаліся па Камсамольскай вуліцы ўніз да Нямігі. Пашчыпваў добры марозік. Мы ледзьве знайшлі той клуб харчавікоў, нізкі, шырокі, як бы ўціснуты ў начны рыпучы снег. У зале таксама было холадна, людзі сядзелі ў палітах, пацепвалі плячыма, хукалі ў рукі. Гарэла некалькі нізка спушчаных лямпачак, святло іх то ажывала, то замірала, грозячы зусім патухнуць. Я вельмі не люблю вытыркацца ці дакучаць сабою, асабліва ў выпадках, калі ты нейкім спосабам спрычы-

няешся да чужых інтарэсаў. Не паказаўшыся Іяму, мы знайшлі сабе месца недзе ў апошніх радах.

Ці то ад холаду, ці ад чакання людзі пачалі тупаць нагамі. Паднялася заслона, і на сцэну з невялікім столікам пасярэдзіне, накрытым цёмным покрывам, імкліваю хадою выйшаў Іяма. Майму здзіўленню не было мяжы: гэта быў той самы заморскі чараўнік з партрэта — бронзавы, маўкліва-замкнёны твар, магічная зорка ў складках чалмы пад самым лобам, танюткае колца завушніцы. Ён пакланіўся публіцы, зрабіў некалькі мяккіх крокаў назад і ўспляснуў рукамі.

На сцэну выйшла новае дзіва — жанчына невыказнага хараства, убраная ў лёгкія квяцістыя шаўкі, хадою, у якой поўна і стрыманасці, і ўлады, і пакорлівай адданасці. Яна таксама пакланілася ў публіку, адышлася да століка і зняла з яго цёмнае покрыва...

Як мне здалося, усё ішло звычайна і нармальна. Але нешта ў паказах было такое, што трымала ўвагу ў трывожнасці. Іяма глытаў доўгую гнуткую шпагу, піў газу і пасля выдзімаў яе над сабою чырвона-дымным факелам; рабіў фокусы з хустачкамі, з вадою; доўгім прутам пратыкаў аголеную да локця левую руку, і з ніжняга боку, дзе выходзіў канец прута, скура непадатліва напіналася і праколвалася з ціхім хрустам. Было многа і іншых дасціпных выдумак. Аднак жа асабліва запомніліся два нумары. Адзін — калі Іяма, адышоўшыся ў далёкі канец залы і стаўшы да сцэны спінаю, клаў на плячо стрэльбу руляю назад, цэліўся праз аптычнае вочка перад сабою і страляў. На сцэне гарэла пяцілінейная лямпа са знятым і паложаным перад ёю на чорным аксаміце шклом. Шрацінка, не пачапаўшы шкла, прайшоўшы праз яго вузкі камінок, цаляла ў самы агеньчык і тушыла яго.

Другім нумарам завяршаўся паказ. Яго памочніца выходзіла на сцэну ў спрэс сінім шоўку, станавілася на калені і ўгінала галаву. Іяма клаў ёй на шыю яблык і высокім, блішчастым узмахам шаблі рассякаў яблык з такою сілаю, што палавінкі яго разляталіся далёка ў бакі. Па зале прабягаў ток жаху, нехта ўскрыкваў, нехта ўскокваў з месца, але жанчына падымалася з каленяў і, міла ўсміхнуўшыся, спакойна ішла за кулісы.

Можа, таму, што незвычайнасцю нашай сустрэчы я быў настроены зычліва, усё бачанае імпанавала мне. Гэтак я сказаў і Іяму, калі мы з Лінаю падняліся за заслону. Іяма быў ужо ў карычневым пінжаку, выглядаў стомлена, збіраў і ладкаваў рэквізіт.

— Мар’янка! — крыкнуў ён за кулісы. — Ідзі сюды, я цябе пазнаёмлю з добрымі людзьмі... Калі ласка, — сказаў ён, калі ўвайшла тая прыгожая, у сінім шоўку, жанчына, — вось мая жонка...

Апроч прыгажосці ў жанчыны была нейкая вельмі мілая мяккасць — у вачах, у голасе, у светлых валасах, у манеры даверліва глядзець, у гатовасці вас зразумець і ісці насустрач. Сказаўшы адна адной некалькі фраз, яны з Лінаю тут жа сталі сяброўкамі.

— Хадзем, Ліначка, вы мне паможаце пераадзецца, бо я мерзну.

Нечым з Лінаю яны былі падобныя, проста, мабыць, непасрэднасцю і маладосцю. І памятаю, якімі замілаванымі вачыма Іяма глядзеў услед Мар’яне, калі яны пабеглі за кулісы.

— А мне, на жаль, прыходзіцца займацца вось такім тандэтам, — паказаў ён на сабраны рэквізіт, адразу стаўшы сумным. — Як шкода, што вы не бачылі мяне ў маіх каронных нумарах...

3

Чатыры даволі ладныя агульныя сшыткі, спісаныя дробным, цесным почыркам, — гэта і былі Іямавы дзённікі. Апроч храналагічных падзей у іх запісваліся ўспаміны, апавядаліся чужыя гісторыі, многа месца аддавалася роздуму. Даваліся характарыстыкі і знакамітым гарадам, і славутым людзям. Але з усяго напісанага найярчэй выступаў партрэт самога Іямы. Гэта быў чалавек строгі да сябе, удумлівы і разважлівы. Ён не любіў марнатраваў, выскаляк, людзей пустых і легкадумных, няхай сабе за імі бегаў цень славы. Па ўсіх дарогах ён вазіў з сабою кнігі. Няблага разбіраўся ў філасофіі і псіхалогіі, дасканала ведаў фізіялогію і анатомію чалавека, трэніраваў волю і памяць. Высока ставіў чалавечую годнасць і з агідаю пісаў пра двух барцоў, з якімі ў Рыме міжволі давялося жыць поруч у гасцініцы. На сцэне яны дэманстравалі прыгажосць класічнай барацьбы, а ўвесь вольны час паласкаліся ў віне і цынічна выхваляліся, дзе, у якіх паклонніц і пры якіх акалічнасцях мелі найбольшы поспех і за якія дастаткі іх любілі.

З дзённіка можна было дазнацца, што ніякі ён не чужаземец Іяма, а самы звычайны рускі Красікаў з добрым рускім жа імем Уладзімір. Што родам з Сібіры. Быў селавым пастухом, бадай што сам навучыўся грамаце і «захварэў» на штукарства з таго

часу, як праз іхняе сяло прайшоў вандроўны цырк. Пачаліся пошукі кніжак пра хірамантыю, чорную магію, чарадзеяў, ёгаў, тайны жывёльнага магнетызму. Каб прывучыць сябе не баяцца болю, ён падпяразваўся пад адзеннем цвёрдымі тугімі вяроўкамі, насіў паўтыканыя ў цела вострымі кручкамі гіркі — увесь дзень у такім самаастракізме ходзячы за чарадою. Падзываў сабаку, які быў яму памагатым у пастухоўстве, і глядзеў яму ўвочы з такою ўпартасцю, што той лажыўся яму ў ногі і пачынаў вішчаць. Словам, яго біяграфія нечым як бы пераклікалася з бен-алі-беeўскай, мне нават падумалася, ці не мае факірская прафесія ў сваім узнікненні нейкай заканамернасці.

Потым знік — таксама падобна на заканамернасць.

Потым вандраваў з цыркам.

Потым на многа гадоў апынуўся ў Індыі і адтуль вярнуўся ўжо з вядомым на ўвесь свет імем факіра Іямы.

4

Не памятаю, ці даваў я водгук у газеце. Мабыць, даваў. І не ведаю, ці гэта стала прычынаю, ці тое, што пасябравалі між сабою жанкі, але ў нас з Іямамі завязалася добрае сямейнае калегаванне. Яны сталі бываць у нас як жаданыя госці.

Звычайна, калі збіраліся, мы прасілі Іяму што-небудзь расказаць. З яго вандроўнага жыцця ці нешта з прафесіі, якая нам заўсёды ўяўлялася як далёкая трывожная тайна. Ён не вельмі ахвотна на гэта згаджаўся. Усё як бы баяўся, каб не надта раскрыцца. Аднаго разу Ліна нават сказала яму пра гэта. Яна сказала, што папраўдзе факірская прафесія любіць недамоўленасць і што глядач мае рацыю, калі сяму-таму не верыць, бо часамі надпрыродная сіла надаецца самому звычайнаму штукарству.

— У мяне абсалютна ні ў чым няма штукарства, — сказаў Іяма.

— Можа, і няма, але так выглядае, бо вы любіце скрытнасць. Не вы, а ваша прафесія.

— Калі ласка, можаце пераканацца!

Іяма падняўся з крэсла, ступіў крок назад і агаліў да локця левую руку.

На смуглай тугой скуры з іскрыста-жоўтым мяккім пухам валаскоў мы ўбачылі сляды праколаў. Яны ружавелі беднымі,

тоненька паморшчанымі плямкамі, як гэта бывае на свежазагоеных ранах.

— Як бачыце, сляды, зверху і знізу, старыя і свежыя. А многія думаюць, што гэта таксама ашуканства. Што і прут не жалезны, і я не праколваю рукі. Усё штукарства, як вы кажаце, у тым, што я ведаю, дзе калоць і як калоць. Каб прут прайшоў паміж локцеваю і прамянёваю косцю, не закрануўшы іх; каб ён не пачапаў мышцаў, а найдакладнейшым чынам прайшоў паміж іх слаямі. І трэба ведаць, як трымаць пальцы: калі сашчапіўшы ў кулаку, калі расшчапіўшы і колькі. У мяне ніколі не бывае ні крыві, ні разрыву тканак, няма болю. А можа, боль і ёсць, толькі я прывучыў сябе не чуць яго.

Другі раз Іяма здзівіў нас, можна сказаць, самаю нечаканаю нечаканасцю. Была нядзеля. Пасля лёгкага чаю мы сядзелі хто за сталом, хто на канапе. Іяма стаў каля кафлянае нашае грубкі, прыціснуўшыся да яе спінаю. Выпала хвіліна нейкае ціхае паўзы, і ніхто не заўважыў, як ён дастаў з кішэні ў пінжаку губны гармонік. Я ўбачыў яго ўжо толькі тады, калі пачуліся першыя гукі. Гэта былі чары. Было ўражанне, што зайграў цэлы аркестр. Я чуў адначасова і высокія галасы, і ўторы да іх. Я глядзеў на рукі, — здавалася, што ўсё дзіва было ў іх. І ў губах. І яшчэ ў нейкай тайне, якая раздзельна на розныя таны падавала дыханне.

Скончыў Іяма гэтак жа нечакана, як і пачаў. Абцёр хустачкаю гармонік, прадзьмуў яго. І зірнуў на Мар’яну. Яна падышла і стала каля яго, радая і шчаслівая.

— Мы не ведалі, што ў вас ёсць яшчэ адзін, такі шчаслівы талент, — сказала Ліна.

— У яго было дванаццаць штук такіх, канцэртных. Праўда, Валодзя? — не стрывала Мар’яна, каб як паказаць, што ўсё Іямава ёй люба і міла.

— Праўда, Мар’янка, — усміхнуўся ёй Іяма. І, дапаўняючы яе, паясніў: — Я іх некалі купіў у Германіі, цэлы набор. І мог даваць канцэрты на цэлы вечар. А цяпер вось астаўся толькі адзін, і нечым ён мне вельмі дарагі... І музыку закінуў зусім.

Апошнім часам ён паправіўся, пасвяжэў, памаладзеў, на твары паменшала маршчын. І на душы як бы ўсталяваўся нейкі трывалы спакой.

Нават гарнітур карычнева-балотнага колеру сядзеў на ім неяк акуратна і зграбна, падкрэсліваючы стрыманую паважнасць і станавітасць.

5

На нейкі час Іяма выехаў у раёны. Паколькі праграма на раёны была скарочаная, ён паехаў без памочніцы. Бадай што ўвесь свой вольны час Мар’яна цяпер бавіла з Лінаю. Ведама, былі расказаны ўсе самыя задушэўныя тайны.

Зусім маладою дзяўчынаю Мар’яна выйшла замуж за інжынера-будаўніка. Здарылася нейкая сур’ёзная правінка на рабоце, і ім прыйшлося разлучыцца. Мар’яна вярнулася да мацеры. Па невялікім часе маці сабрала яе ў Мурманск: едзь, дачушка, пабачышся, будзе лягчэй і яму і табе. Тры дні яна дзяліла з ім і радасць і слёзы. На ад’ездзе прачытала афішы, што ў тэатры дае апошнія паказы факір Іяма. Пайшла. З залы на сцэне бачыла смуглага пажылога чалавека ў стракатым нетутэйшым адзенні, з мяккімі, але строгімі жэстамі. Некалькі разоў ён зірнуў на яе, як бы пазнаючы ці даючы знак, што вылучыў яе сваёю ўвагаю. Калі спатрэбіўся яму ў нейкім фокусе ні то памочнік, ні то сведка, што ўсё робіцца без фальшу, ён пазваў ахвотнікаў з залы. Без хвіліны развагі ці вагання яна паднялася і пайшла на сцэну. І пачула, што з гэтага часу яна будзе пакарацца толькі яму. І больш не вярнулася: ні ў свой нумар у гасцініцы, ні дадому.

Яна стала яму памочніцаю, ездзіла з ім па гарадах, вандравала па гасцініцах і заезных дамах, ніколі не думаючы, цяжка гэта ці лёгка, і не ведаючы, дзе край і дзе пачатак шчасця. Усё было хараша і міла, і самым найдаражэйшым чалавекам на свеце быў Іяма. Даходзілі да яе чуткі, што ў Іямы была ці, можа, і ёсць нейкая другая жанчына, але гэта яе ані кропелькі не трывожыла.

І вось нарэшце яны прыехалі ў яе горад. Матцы дакучаць не сталі, бо тая яшчэ памятала даччыны нялюдскія ўцёкі, нанялі на Койданаўскім тракце палавіну дамка — пакой і каморку, перавезлі туды два жоўтыя скураныя чамаданы і акварыум з чатырма рыбкамі, кожная рознага колеру. У гэтую пару Мар’яна была асабліва шчаслівая: неўзабаве яны збіраліся на гастролі ў Манголію.

— Ты ведаеш, што я адтуль прывязу? — гаварыла яна Ліне. — Стракаты цёмны халат з залатымі іскрамі і зуб ад нейкае куслівае рыбы. Крывы такі, вялікі, як шабля, я ў аднае бачыла, яна таксама прывезла з Манголіі...

Вярнуўся Іяма з раёнаў не вельмі вясёлы, удачы вялікае паездка не дала. Ён заняўся нейкім дадатковым клопатам, бываць у нас стаў рэдка. Аднаго разу, калі мы з ім сядзелі ў маім невялікім пакойчыку, абмяркоўваючы яго невясёлыя справы, а ў гасцінай на

канапе, падняўшы светлыя бровы, Мар’яна пра нешта шчасліва шчабятала Ліне, ён сказаў, зачаравана гледзячы на яе:

— Яна адна толькі і радуе мяне. І не ведаю, як аберагчы яе ад злых нечаканасцей майго лёсу. Я вельмі люблю яе.

Я зірнуў на яго. Зноў мне здалося, што ён вельмі стары: стомлены, суха паморшчаны твар, палахлівы бляск у вачах, востра паднятыя плечы. Мяне кранулася нейкае трывожнае прадчуванне.

І папраўдзе, па невялікім часе раненька прыбегла Мар’яна, расхрыстаная, з раскіданымі валасамі і, горка плачучы, кінулася Ліне на шыю: знік Іяма.

— Як знік?

А вось так: учора пад вечар ён хадзіў на пошту, даваў нейкую тэлеграму. Дома яны спакойна павячэралі, пагаварылі зноў пра Манголію. А ўранні, калі Мар’яна прачнулася, у доме стаяла ціхуткая цішыня і не было ні чамаданаў, ні акварыума, ні Іямы.

— Пастой, не гарачыся, Мар’янка, — спрабавала супакоіць яе Ліна, заводзячы ў пакой і абціраючы слёзы з яе твару. — Можа, ён паехаў на гастролі, ён жа хадзіў, недзе дамаўляўся, а табе не паспеў сказаць. Вернецца, і ўсё будзе добра.

— Ах, пачакай, — раптам расшырыла вочы Мар’яна, нешта ўспомніўшы. — Мне ж нездарма гаварылі пра нейкую жанчыну, я ведаю, дзе ён.

І тут жа з непрыбранаю галавою, з мокрым тварам выбегла з дома.

## 6

Мар’яна памятала ў Маскве адзін дом каля Сеннага рынку, гаспадыню яго, даволі поўную жанчыну, у якой яны чамусьці часта бывалі. На гэты раз яе сустрэла не гаспадыня, а другая жанчына, пажылая, але стройная і, відаць, калісьці прыгожая, з высокаю прычоскаю, у сукенцы, падперазанай тугім замшавым паяском, што яе вельмі маладзіла.

— Каго вам? — папыталася яна.

— Мне, Іяму. Валодзю, — паправілася яна, хочучы паказаць, што той, каго яна пытаецца, блізкі ёй.

— Такога тут няма.

— Якраз ёсць, вось яго чамаданы. І акварыум. Так што не маніце.

— Ах, чамаданы? Ну, чамаданы ёсць, а самога няма. І не будзе.

— Усё роўна я пачакаю, — сказала Мар'яна і села на большы, такі знаёмы ёй чамадан.

Жанчына пайшла ў бакоўку. Мар'яна пазнавала гэты пакой, цяпер ёй такі страшны і чужы. Нізкая столь, змрок ад густых фіранак, жалезны ложак адразу пры дзвярах, адгароджаны стаячаю шырмаю. Сядзела і ўспамінала Мурманск. Нават не ведала, колькі прайшло часу. І раптам увайшоў Іяма.

— Ты? — здзівіўся ён. І не паспела Мар'яна апамятацца, як ён сказаў: — Ты зараз паедзеш назад, дачушка. Абавязкова паедзеш назад, праўда ж? Ты мяне заўсёды слухалася, слухайся і цяпер: ты зараз паедзеш назад. Я цябе правяду на вакзал, вазьму білет. Ты разумніца і ўсё зробіш так, як я кажу. І не плач, і не бядуй, і будзь вясёлая — чуеш? Ну вось і хадзем.

Мар'яна пакорліва пайшла, пакорліва на вакзале з рук у яго ўзяла білет і паднялася ў вагон. І праз колькі хвілін, як крануўся цягнік, пра ўсё забылася, як бы ніякага гора ў яе і не было. Нечакана аднекуль наплыла лёгкасць і весялосць. З адчуваннем гэтай лёгкасці і весялосці, шустрая, нейкая зусім бесклапотна новая, яна прыйшла і да нас.

— Ну? — нецярпліва папыталася Ліна.

— Усё! — бесклапотна сказала Мар'яна. — Усё кончана, я адна, мне спакойна і лёгка.

— Не, чакай, раскажы толкам.

— Што ж расказваць: вярнулася і сяджу ў цябе. І як бы нічога і не было ў мяне, як бы ўсё толькі прыснілася. Мне хочацца нешта рабіць — смяяцца, радавацца, плакаць, — даўно я не чула вакол сябе гэтулькі волі...

## 7

Па сутнасці, на гэтым апавяданне можна было б і скончыць. Але ёсць акалічнасці, якія маюць да яго непасрэднае дачыненне.

Пасля першага, закрытага паказу за кулісамі да Іямы падышоў элегантна адзеты малады чалавек і папрасіў яго схадзіць у бухгалтэрыю і атрымаць ганарар. Мар'яна асталася з чалавекам адзін на адзін. Ён назваўся Артурам, сказаў, што яна самая прыгожая і самая пікантная жанчына на свеце і што ён быў бы шчаслівы, калі б яны маглі заўтра сустрэцца.

— Я буду чакаць вас каля Чырвонага касцёла раніцаю роўна ў дзесяць гадзін, — сказаў гэты чалавек.

— Што вы, — запярэчыла Мар'яна, — Я замужам, і ніякія спатканні мне не патрэбны.

— Не веру, — сказаў чалавек. — Вы маладая, прыгожая, перад вамі трэба стаяць на каленях. Хочаце, стану?

— Перастаньце, — гнеўна запярэчыла Мар'яна. — Вы вельмі нядобры чалавек.

— Зараз прыйдзе ваш муж, і нам нельга будзе гаварыць. Памятайце, роўна ў дзесяць я чакаю вас.

Паказаўся Іяма, элегантны чалавек галантна раскланяўся і знік.

А назаўтра ўранні Іяма разбудзіў Мар'яну.

— Уставай, дачушка, а то спознішся.

— Куды, Валодзя? — папыталася Мар'яна.

— Ён жа чакае цябе. Хіба ты забылася, што на дзесяць гадзін у вас назначана спатканне?

У Мар'яны захаладала сэрца...

Цяпер, вярнуўшыся з Масквы, яна пачала ўспамінаць і іншыя рэчы. Што часта, прачнуўшыся ўранні, ва ўсім целе яна чула знясіленне і стому, і на руцэ ў яе, недзе каля запясця, як бы заставаўся след чужога настойлівага крапання. Раптам ёй падумалася, што і жанчыну, якую застала ў Іямавай гаспадыні, яна ведала недзе раней. І ўспомнілася ні то праўда, ні то послых, што першая Іямава жонка была таксама ў яго памочніцаю, і аднаго разу, намовіўшы на сцэне ёй сон, ён не разбудзіў яе. І што пасля гэтага ён больш не меў права на такія паказы. І акварыумных рыбак ён вазіў з сабою проста як памяць, бо пасля таго таксама не меў права глытаць іх і адрыгваць колерам, які закажа публіка. Ён адрыгваў зусім не той колер, але ўсе бачылі іменна той, што заказвалі.

Упершыню яна горка падумала і пра тое, што ён ёй ніколі не быў мужам, а проста як добры бацька, і гэта, мабыць, страшэнна перажываў.

— Перад маімі вачыма як бы развеяўся нейкі сіні туман, і я ўсё ўбачыла зусім іначай, — стаўшы раптам сур'ёзнаю, сказала Мар'яна. — Мне лёгка і свабодна, але ж нешта і трывожна. Мне шкода яго. Ён быў вельмі добры і вельмі любіў мяне. І я ўсё думаю: чаму ён так зрабіў?..

Гісторыя гэта праўдзівая. Але прайшоў вялікі час, сёе-тое ў памяці размылася і пры аднаўленні магло парушыцца. Нешта набыло больш акрэсленыя формы, нешта прыглухла або зусім страцілася. Апавядальная манера пісьма таксама вымагала свабоднага рысунку. І таму я дазволіў сабе трошкі змяніць імя гераіні. Тым больш што Мар'яна шчаслівая жыве, не так даўно я яе бачыў і

не мала падзівіўся, што гады бадай не пачапалі ні яе прыгажосці, ні абаяльнасці.

Колькі добрага часу таму назад давялося пачуць і пра Іяму. У адным з літаратурных часопісаў я прачытаў успаміны вядомага тэатральнага дзеяча, у якіх ён, згадваючы імёны майстроў савецкае сцэны, сярод вялікіх артыстаў назваў і факіра Іяму. Я ад душы пасмуткаваў, што імя было ўпомнена сярод нябожчыкаў.

Я таксама часта пытаўся ў самога сябе: чаму ён так абышоўся з Мар’янаю? Ні на хвіліну я не прымаю намёкаў на нейкую пабочную жанчыну: такую здагадку магла спарадзіць толькі хваравіта-ўзрушаная тады Мар’яніна фантазія. Мне куды бліжэй думка, што ён быў па-рыцарску высакародны і пакінуў яе толькі таму, што вельмі любіў.

*1971*



# ДУМКІ АБ МОВЕ

## 1

У госці да мяне прыехала пляменніца. Даўно не бачыліся, захацелася пагаварыць, распытаць пра жыццё. Тым больш што чалавек яна ўжо дарослы, мае сваю інтэлігентную спецыяльнасць — медыцыну. Гаворка наша перарвалася, бо Вера падышла да кніжнае паліцы. Перабрала некалькі кніг, як бы гэтым вывучаючы мае густы. Звычайна па бібліятэцы можна дазнацца пра чалавечыя схільнасці або слабасці.

— Многа беларускіх, — сказала яна. — А я дык па-беларуску мала чытаю.

Такая заява мяне здзівіла. Карэнны жыхар Случчыны, там вырасла, жыве і працуе, з маленства ў сям'і гаварыла па-беларуску, і раптам...

— Чаму ж так? — папытаўся я.

— Бо калі я чытаю, то вельмі злуюся на вас, на пісьменнікаў. Мабыць, вы трошкі не так пішаце, як мы гаворым, ці што. Цяжкавата чытаць вас. Ну от глядзіце...

Мая госця дастала з паліцы кніжку і, адгарнуўшы самы пачатак яе, прачытала:

— «Зімчук гаварыў стрымана, нават некалькі суха». Ну што, добра? — папыталася яна.

Папраўдзе кажучы, я нават не адразу зразумеў, што не спадабалася маёй госці. Але яна тут жа растлумачыла:

— Калі б у нас захацелі сказаць гэта, то сказалі б так: «Зімчук гаварыў стрымана, нават *крыху* суха». А калі вы гаворыце *некалькі,* то скажыце колькі, бо ў нас могуць сказаць *некалькі* толькі да таго, што можна палічыць: некалькі чалавек, гэта

значыць тры або чатыры, некалькі рублёў, некалькі кніг. А тут жа трэба *крыху* або *трохі.*

— Ты надта строгі крытык...

— Не, вельмі не строгі, — перабіла яна. — Гэта ж я вам прачытала першае, што трапіла на вочы, ды яшчэ *з* мастацкай літаратуры. А як жа нам чытаць газеты, калі там часам аб напісанае можна язык паламаць... Чакайце, тут, пакуль вас не было, я газету чытала. Ну от паслухайце, як мне тут што зразумець. Пра тэатр, а я тэатр люблю.

Пашукаўшы сярод газет, яна знайшла «Літаратуру і мастацтва».

— Ну от слухайце, дзядзечка: *«Другое вяртанне* тэатра імя Янкі Купалы да сцэнічнага ўвасаблення вобразаў аповесці З. Бядулі «Салавей» не выпадковае». Словы-то беларускія, а фраза выкручана. У нас бы прасцей пра гэта сказалі: «Тэатр імя Янкі Купалы *другі раз вярнуўся* да сцэнічнага ўвасаблення вобразаў аповесці З. Бядулі «Салавей», і гэта не выпадкова». Або: «Не выпадкова тэатр імя Янкі Купалы *другі раз вярнуўся* да сцэнічнага ўвасаблення вобразаў аповесці З. Бядулі «Салавей».

Бачачы, што я хачу нешта сказаць, госця зноў перапыніла мяне:

— Не, дзядзечка, вы мне не кажыце. Не ўмеюць некаторыя пісьменнікі пісаць проста, так, каб нам лёгка было іх чытаць. Гэта ж выходзіць так, як недзе я ў банку чытала: «Крэдытныя аперацыі вытвараюцца з 12 да 3 гадзін дня». Або як у нас на пошце напісана: «Тут вытвараецца продаж марак». А чаму б не напісаць проста: «Крэдытныя аперацыі з 12 да 3 гадзін дня», «Тут прадаюцца паштовыя маркі»?

2

Цяпер гэта можа гучаць як анекдот, але ў свой час, вельмі даўно, на мінскай гуце «Пралетарый» была вывешана такая абвестка «Тут прадаецца шлюбнае шкло». Ясна, што такую абвестку пісаў не літаратар і не работнік літаратурнага фронту, але ж ён быў упэўнены, што піша па-беларуску. Чалавеку таму здавалася, што ведаць мову — гэта самая лёгкая рэч: узяў слоўнік, паглядзеў, як перакладаецца з мовы на мову такое або такое слова, — і работа зроблена. У слоўніку супраць рускага слова «брак» стаяла адно з азначэнняў «шлюб». Вось такім чынам і паявілася абвестка з шлюбным шклом.

Ведаць мову — значыць, ведаць законы яе будавання, ведаць яе народную аснову. Бо толькі ведаючы народную аснову мовы, можна ведаць, як правільна і проста выказаць думку, як натуральна, паводле законаў гэтай мовы, пабудаваць фразу, дзе якое сказаць слова, патрэбнае іменна да гэтага месца, дзе зрабіць націск, дзе і як вымавіць галосныя, зычныя, цвёрдыя, мяккія, уласцівыя гучанню гэтай мовы. Ведаць мову — гэта ў першую чаргу ведаць, як гаворыць народ, бо яна — сродак зносін людзей.

Слоўнік — вельмі патрэбная пры рабоце рэч. Ён можа памагчы знайсці неабходнае слова, даць тлумачэнне, абагаціць лексіку. Але ж ён не падменіць сапраўднага адчування мовы.

На вуліцах часта мы можам сустрэць такія транспаранты: «Грамадзяне, *захоўвайце* правілы вулічнага руху». Паводле слоўніка гэтая фраза зроблена таксама правільна: движение — рух, граждане — грамадзяне, соблюдайте — захоўвайце. А ўся фраза не дае ўражання пісьменнасці. Такой фразы нельга ўявіць у жывой, народнай гаворцы. Больш натуральна, мабыць, фраза гучала б так: «Грамадзяне, *пільнуйцеся* правіл вулічнага руху» або: «Грамадзяне, *трымайцеся* правіл вулічнага руху».

Часта я саджуся да радыёпрыёмніка, каб паслухаць апошнія паведамленні, праслухаць якую карысную гутарку. Вядома, мне хочацца, каб па радыё са мною гаварылі так, як я гавару дома або як гавораць са мною мае суседзі, знаёмыя — звычайныя людзі. Дык пра самыя простыя рэчы па радыё гавораць іначай. Вось, скажам, гаворка ідзе пра кантралёра кіно, які добра спраўляе свой абавязак. Дыктар скажа так: «А цёця Маша *працягвае* ахоўваць парадак». Або: «Пасля заканчэння спектакля *адбудзецца* канцэрт», *«Выкладанне* ў студыі будуць весці артысты», «Ні яна, ні ўрачы, ні таварышы... не маглі і думаць *аб працягванні* вучобы», «...працягваць працу з далейшым *унясеннем* пытання...». Самым лепшым спосабам праверыць нармальнае гучанне фразы, гэта ўзяць ды папытацца ў сябе: а ці сказаў бы хто гэтак дома, у сваёй сям'і або свайму знаёмаму? Жывыя людзі, у тым ліку і складальнік тэксту і дыктар, гэтыя простыя думкі сказалі б прыблізна так: «А цётка Маша глядзіць за парадкам», *«Выкладаць* у студыі будуць артысты», «Пасля спектакля *будзе* канцэрт».

Тут, вядома, віна не дыктара ці артыста, якія перадаюць тэкст, а складальніка тэксту і рэжысёра. Але ж і выканаўцы тэксту часта таксама ведаюць мову толькі ў межах службовага карыстання і таму лёгка павялічваюць непісьменнасць. У розныя часы, з розных перадач мне ўдалося запісаць такое

вымаўленне: «Скончылася вайна, і я паехала ў горад на Вол*ге*», «Вінцук пас*ва*рыўся з суседам», «Дзяўчына засталася ў горадзе і займала*сь*», «Адразу па*ча*ліся сумесныя спрэчкі», «Працоўныя пад*ня*лі сцяг барацьбы».

Агульнавядома, што калі вы бачыце добра апранутага і, здавалася б, культурнага чалавека і раптам гэты чалавек гаворыць портфель замест партфель або доцант замест дацэнт, то вам становіцца няёмка за гэтага чалавека, і вы пачынаеце здагадвацца, што ён невук, які толькі падрабляецца пад культурнага. Такое ж адчуванне, калі з няправільным націскам гаворыць дыктар або артыст па радыё, бо кожнаму вядома, што гаварыць трэба на Вол*зе*, пасва*ры*ўс*я,* займала*ся*, пача*ліс*я, падня*лі*.

На жаль, так гавораць не толькі на радыёцэнтры. Аднойчы па тэлевізары перадавалася камедыя Мальера «Скупы» ў пастаноўцы тэатра імя Янкі Купалы. Мы ўсе прывыклі думаць, што старэйшы тэатр рэспублікі ва ўсіх адносінах з’яўляецца прыкладам для другіх. Гэтае права ён заслужыў. Але, на жаль, у гэтым тэатры не ўсе артысты працуюць над моваю. Няёмка было слухаць іменна сярод купалаўцаў такое вымаўленне: «Раскайваецеся, што *да*лі слова! (замест «да*лі* слова»), «Вось чаго я баю*сь*» (замест «баю*ся*»), «Калі б яны ў мяне былі *б*» (з непатрэбным другім «б»), «Прызнаю*сь* бы зрабіў» (замест «Прызнаю*ся*, зрабіў бы»), «Я не х*л*ушу» (замест «не хлу*шу*»).

Непрыемнасць павялічылася тым, што са сцэны гучыць сухая аканцылярная мова: «Як вам *будзе ўгодна,* татачка», «Ледзь *здолеў захаваць* сваё хваляванне», «Увесь горад смяецца *над намі»,* «Скажыце нам усё, і ваш гаспадар *вас аддзячыць»,* «Чакаў *падыходзячага* моманту», «Мы хочам *падзякаваць вас»* і г. д. замест: «Як будзе *ваша ласка,* татачка», «Ледзь здолеў *не выказаць свайго хвалявання»,* «Увесь горад смяецца *з нас»,* «Скажыце нам усё, і ваш гаспадар *вам аддзякуе»,* «Чакаў *зручнага моманту»* (або *зручнай хвіліны*), «Мы хочам *падзякаваць вам».*

Праўда, апошняя віна, можа, нават не тэатра, а няўдалага перакладу, але ж тэатр таксама павінен адчуваць натуральнасць і культуру мовы, бо яго работа — гэта работа са словам.

Калі чытаеш кнігу і заўважаеш нейкія фальшывыя, непісьменныя мясціны, то хоць ведаеш, што ніхто не бачыць, як табе брыдка і няёмка, і цябе гэта не так шакіруе. А калі фальш гучыць са сцэны, то непрыемнага адчування няма куды дзяваць, і гэта падобна на тое, што твой сорам вынеслі на людзі, каб усе бачылі, як ты чырванееш.

3

Здавалася б, што ў першую чаргу мову павінны адчуваць літаратары. Іх друкаваныя органы павінны былі б вызначацца і пісьменнасцю, і культураю, і багаццем мовы.

Аднак калі чытаеш нашы часопісы і газету «Літаратура і мастацтва», відна нейкая наўмысная неахайнасць. Як ні парадаксальна, але найбольш гэта бывае ў артыкулах па мастацтву і літаратуры. Іменна там, дзе больш за ўсё трэба было б чакаць культуры мовы. Вось, напрыклад, артыкул Дз. Арлова «Аповесць і спектакль», пра сцэнічны варыянт аповесці З. Бядулі «Салавей». Нават высокапісьменнаму чалавеку не так лёгка прачытаць гэта.

«Вельмі прывабная задума перанесці вобразы Сымона (Адама — Салаўя) і Язэпа з аповесці на сцэну, імкнучыся захаваць усю разнастайнасць адценняў і фарбаў, сілу і хараство гэтых галоўных герояў твора». Фраза выпісана ад кропкі да кропкі, і разам з тым яна не закончана. Яна пабудавана так, што, пачынаючы чытаць «вельмі прывабная задума», міжволі чакаеш, што павінна быць сцвярджэнне: ...удалася ці не ўдалася яна аўтару.

Я разумею, чаму так здарылася. Аўтар па-руску думаў правільна: «Весьма привлекателен замысел...» А пры няўдалым перакладзе фраза чытаецца не як «привлекателен», а як «привлекательный», бо зроблены слоўнікавы пераклад, а не творчы, падпарадкаваны законам мовы. Можна было б сказаць, што і «імкнучыся захаваць» не вельмі на месцы, бо трэба, мабыць, не «захаваць», а «пакінуць», і не «імкнучыся», а «хочучы». Наогул фраза выйшла вельмі «вучоная», больш канцылярская, чым літаратурная.

Возьмем артыкул «Далей ад торных дарог!». Артыкул напісаны Алесем Кучарам, і нельга сказаць, каб аўтар не ведаў мовы. Тут, мабыць, самая звычайная непатрабавальнасць: артыкул жа пішацца для газеты. Чытаем: «Амаль такі ж лёс сустрэў кожны твор Шамякіна». Хто каго сустрэў? Кніга сустрэла лёс ці лёс сустрэў кнігу? Няхай гэта будзе прыдзірка, бо сэнс тут ясны, але ж фраза неахайная. Будзем чытаць далей: «А *пры з'яўленні* першага яго рамана «Глыбокая плынь» *разыходжанне паміж* ацэнкай крытыкаў і чытачоў было яшчэ большым». Таксама можна смела сказаць, што ў жыцці А. Кучар так не гаворыць. Артыкул напісаны спецыяльна для друку, знарок для газеты. І больш за ўсё крыўдна за гэтую прывычку думаць, што ў газеце трэба гаварыць нейкай другой хадульнай мовай. А я ўяўляю,

як сказаў бы А. Кучар гэтую фразу, сустрэўшыся са мной або яшчэ з кім-небудзь. Ён сказаў бы, можа, так: «А калі паявіўся першы яго раман «Глыбокая плынь», дык чытачы з крытыкамі яшчэ больш разыходзіліся ў яго ацэнцы».

Самым звычайным канцылярытам можна лічыць такія фразы: «Працяжны гудок абвясціў *аб заканчэнні* працоўнага дня», «Наведвальнікі *з задавальненнем* чытаюць кнігі», «Несумненна, што на развіццё мастацтва зрабіла ўплыў васьмігадовае *знаходжанне* каля Віцебска І. Рэпіна», «Пасля вайны яны былі дастаўлены ў Мінск і *захоўваюцца ў фондах...*», «Вобразы Алешкі, Понтуса ды і раман у цэлым — *сведчанне таго,* што Карпаву пад сілу ўздымаць пласты жыцця», «Створаны спецыяльны гурток, прысвечаны *знаходжанню І. Рэпіна* ў Здраўневе», «Мы выпісваем літаратуру толькі *згодна з патрабаваннямі* бібліятэчных работнікаў», «Я хацеў папярэдзіць хворага *аб прыходзе* госці».

Усё гэта можна сказаць куды прасцей і натуральней. Хоць бы вось гэтак: «Працяжны гудок абвясціў, *што скончыўся* працоўны дзень», «Наведвальнікі *з прыемнасцю* чытаюць», «Несумненна, на развіццё мастацтва зрабіла ўплыў тое, што непадалёку ад Віцебска каля васьмі гадоў *жыў І. Рэпін*», «Пасля вайны яны былі прывезены ў Мінск і *зберагаліся ў фондах...*», «Вобразы Алешкі, Понтуса ды і раман у цэлым *сведчаць, што...*», «Мы выпісваем толькі тую літаратуру, *якую патрабуюць* бібліятэчныя работнікі», «Я хацеў папярэдзіць хворага, *што прыйдзе госця*».

Тая самая хвароба і ў такіх канструкцыях: «Колькі разоў узнімалася ў друку пытанне *аб выданні* фальклорных зборнікаў», «Між тым Вучэбна-педагагічнае выдавецтва мала клапоціцца *аб іх папаўненні*». І вось натуральнае гучанне гэтых фраз: «Колькі разоў гаварылася, *каб пачаць* выдаваць фальклорныя зборнікі», «Вучэбна-педагагічнае выдавецтва мала клапоціцца, *каб іх папоўніць*».

Склоны. І імі мы карыстаемся не вельмі ўпэўнена. У аднолькавых канструкцыях то вінавальны, то родны. Вось сказы, напісаныя ў вінавальным склоне: «Чаму б не адшукаць больш *адпаведнае* памяшканне» (дарэчы, не адшукаць, а знайсці), «Чаму б не падрыхтаваць *тэматычныя* зборнікі». А вось аналагічныя сказы ў родным склоне: «...рэцэнзіі не змяшчаюць *неабходнага* аналізу», «Нельга знайсці *падручніка* на беларускай мове» (а тут, дарэчы, ужо добра сказана: не адшукаць, а знайсці).

Правільнасць напісання падказвае народная гаворка. Успомнім прыклады: «Не магу дастаць сабе *ботаў* па назе», «Не

магу знайсці *сваіх* рукавіц», «Я не чытаў *гэтай* кнігі», «Мне не налічылі яшчэ *працадзён*». Успомнім і правілы: адмоўе «не» патрабуе роднага склону.

4

За гады савецкай улады наша мова вельмі ўзбагацілася, асабліва за лік тых галін грамадскага жыцця, якія пачалі развівацца толькі пасля таго, як Беларусь атрымала сваю дзяржаўнасць. Развілася тэрміналогія эканамічная, палітычная, філасофская, юрыдычная, тэхнічная. Гэта не цяжка заўважыць, калі параўнаць мову дваццатых гадоў з моваю нашых дзён.

Асноўным сродкам вытворчасці для пісьменніка з'яўляецца мова. Але мне здаецца, што часта мы карыстаемся толькі пэўным, я б сказаў, службовым запасам слоў, набытых за час нашай літаратурнай практыкі найбольш з кніг і газет, прывыклі да іх і на гэтым заспакоіліся.

Літаратар павінен быць вельмі чулы да слова. Ён павінен адчуваць, што для таго каб перадаць розныя адценні думак ці пачуццяў, трэба і рознае слова. А ў нас часта бывае, што на адны словы мы ўскладаем вельмі вялікую, нават не ўласцівую ім службу, а другіх не заўважаем, і іменна тых, якія нясуць на сабе найбольш адценняў.

Вось, скажам, слова *з'явіўся.* Гэтае слова стала бадай што адзіным для перадачы ўсяго багацця адчуванняў, звязаных з гэтым паняццем. А ў народзе на роўных правах жывуць яго паплечнікі: *з'явіўся, паявіўся, наявіўся, заявіўся, явіўся*, і ўсе яны ўжываюцца іменна толькі там, дзе якраз патрэбны. Можна прыгадаць некалькі фраз: «Усё было добра, пакуль не *заявіўся* гэты дурань», «От і птушкі *паявіліся* — вясна!», «Заўтра табе трэба *явіцца* ў райвыканкам», «Нідзе не дзенецца — *з'явіцца»,* «Ужо ніхто не чакаў, аж раптам і ты *наявіўся»*.

Я не скажу, што ва ўсіх мною ўзятых выпадках скажуць толькі так, але ва ўсіх выпадках словы перадаюць пэўнае адценне. Кожнае з іх па-свойму перадасць або нечаканасць, або непажаданасць, або разважлівасць, або настрой, або якую другую фарбу. Кожным з іх карыстаецца народная мова, і кожнае нясе сваю службу.

Калі натуральна і ўпэўнена адчувае сябе слова *трымаць* (і яго паплечнікі *затрымаць, падтрымаць, утрымаць і* г. д.), дык затое *атрымліваецца* не мае такое ўпэўненасці. Мы нават не ведаем, як правільна яго пісаць: *атрымліваецца* ці *атрымоўваецца.*

Яно захапіла функцыі другіх слоў і жывую гаворку робіць падобнай на калькавы пераклад. Мы пішам: «З-пад яго рук усё *атрымліваецца* (або *атрымоўваецца*) вельмі зграбна», «З навукаю ў яго нічога не *атрымліваецца»* (або не *атрымоўваецца*). А жывая гаворка скажа: «З-пад яго рук усё *выходзіць* вельмі зграбна», «З навукай у яго нічога *не выходзіць».* Або нават іначай: «З навукай у яго нічога *не ладзіцца*».

*Здавальняць* і *задавальняць.* Гэтыя словы таксама нясуць большую службу, чым ім належыць.

Літаратурная практыка ўжывае гэтыя словы для перадачы многіх разуменняў, якія на рускай мове маюць аж пяць азначэнняў: «получить удовольствие, получить удовлетворение, быть довольным, ублаготворить, пресытиться». Можа, варта разабрацца, у якой жа ступені адпавядаюць нашы *здавальняць* і *задавальняць* гэтым азначэнням?

Мабыць, таксама прыйдзецца звяртацца да народнай практыкі.

Слова *здаволіць* найбольш адпавядае, мабыць, рускаму «удовлетворить». Возьмем такія сказы: «Трэба будзе *здаволіць* яго просьбу», «Яго не так лёгка *здаволіш*». Але народная мова гэтым словам перадае і другое адценне: «Еў, еў, аж *здаволіўся*». «Нарэшце я *здаволіўся*: на сала аж глядзець не хачу». Тут ужо ёсць элемент «пресыщения». Значыць, слова «здаволіць» перадае, мабыць, два азначэнні: «удовлетворение» і «пресыщение». А калі мы скажам: «Я *са здавальненнем* (або *з задавальненнем*) з табой пасяджу», «Я *са здавальненнем* (або *з задавальненнем*) прачытаю гэту кнігу», «Я быў вельмі *здаволены* (або *задаволены*), што пабываў у Маскве», то гэтыя фразы гучаць не зусім натуральна. Мабыць, іх трэба сказаць так: «Я з *прыемнасцю* пасяджу з табой» або «Я з *ахвотаю* пасяджу з табой», «Я з *прыемнасцю* прачытаю гэту кнігу» або «Я *з ахвотаю* прачытаю гэту кнігу», «Я быў *вельмі рад,* што пабываў у Маскве» або «Я быў *вельмі давольны,* што пабываў у Маскве». Нават слова «давольны» будзе стаяць тут больш нармальна, як «здаволены» або «задаволены».

Больш правільна было б перадаваць рускае азначэнне «с удовольствием» напісаннем *з ахвотаю* або *з прыемнасцю,* а рускае азначэнне «доволен» — *вельмі рад* або *давольны.* Без слова «давольны» абыходзіцца вельмі цяжка, яно ў народзе бытуе, і мне здаецца, што літаратура толькі выйграе, калі прыме яго на сваю службу. У словах «здаволіцца» і «задаволіцца» ляжыць жа яго корань.

Слова *задаволіць* найбольш адпавядае, мабыць, рускаму «ублаготворить». Яно так стаіць і па слоўніку і адпавядае народнай практыцы. Калі, скажам, гаспадар пачаставаў добра гасцей, то ён скажа сам сабе: «Ну, усіх *задаволіў* як мае быць». Ва ўсякім выпадку, слову «ублаготворить» больш адпаведнага ў нашай мове няма. Праўда, адценне паміж словамі *здаволіць* і *задаволіць* нібы і невялікае, але характэрна, што слова «здаволіцца» ёсць, а слова «задаволіцца» няма.

Аб слове *зараз.* У літаратурнай практыцы яно аднолькава ўжываецца ў такіх фразах: «Я зараз быў у яго», «Я зараз сяду ў яго», «Я зараз буду ў яго». У народнай практыцы слова «зараз» звязана *з будучым часам:* «Я зараз буду ў цябе», «Я зараз прыбягу», «Я зараз распрануся». Калі ж гэта датычыць *мінулага часу,* то будзе сказана: «Я *толькі што* быў у яго», «Я *толькі што* адтуль», «Я *толькі што* абедаў». А калі дзеянне адбываецца *ў цяперашнім часе,* то так і скажуць — цяпер: *«Цяпер* я займаюся на курсах», «*Цяпер* я ўжо гэта разумею», «*Цяпер* мы сталі багатыя».

Не заўсёды ў правільным значэнні літаратурная практыка ўжывае слова *жадаць.* Звычайна яго літаральна перакладаюць з рускага *желать.* А між тым у іх не заўсёды аднолькавая нагрузка.

Скажам, «желаю успеха» трэба перакласці «жадаю поспеху»; а «не желаю разговаривать» перакласці як «не жадаю размаўляць» вельмі дрэнна. Натуральна будзе, калі скажам: «Я *не хачу* з табою гаварыць».

У слова «жадаць» ёсць элемент прагавітасці, смагі, большай напружанасці, шкадобы. Калі дзіця доўга просіць: «Мама, я хачу есці», то маці можа ў злосці сказаць: «От *зажадалася,* і пачакаць не можаш!» Гэта значыць — вельмі захацелася.

Словы *іншы* і *другі.* Бадай што ўсюды заваявала папулярнасць слова «іншы»: «Прыехалі госці: Пятрок, Апанас і іншыя», «Адным усё, а іншым нічога», «Табе трэба, а іншым хіба не трэба?» Але гэта нядобра. Гэта проста кніжная інерцыя. Вельмі несур'ёзнае ўяўленне, быццам «другі» можа пісацца толькі ў сэнсе чарговы: першы, другі. Няпраўда гэта. У народнай мове слова «іншы» ўжываецца ў сэнсе «иной», «прочий»: «*Іншым* разам і гэта не шкодзіць», «У яго *іншы* (або не той) інтэрас», «*Іншы* табе нічога не скажа, а падумае». Рускае ж «другой» і «второй» найбольш перадаюцца праз «другі»: «Адны плакалі, а *другія* смяяліся», «У цябе ўсё так: аднаму поўна, а *другому*

нічога», «Ты-то скажаш, а другі ці скажа?», «І адзін, і *другі* — абодва здарожыліся».

Хочацца сказаць яшчэ пра слова *задума* ў сэнсе *замысел.* Няўдалае слова, выдуманае без патрэбы. Яно азначае не «замысел», а «задумчивость»: «Чаго ты ў такой *задуме* сядзіш?» У яго корані ляжыць іменна «задумчивость» — одум. Для «замысла» другога слова як «замысел» і не патрэбна. Іменна замысел, які ідзе ад мыслі. Бо мы ж гаворым і *мысліць*, і *мысліцель*, і *мысленне*. І народная мова добра ведае гэтае слова: «Я *мыслю*, што сяўбу трэба будзе пачынаць заране», «А іначай я гэтага сабе і не *мыслю*». І іменна ў тым выпадку, калі ў фразу закладаецца больш важная думка. Адсюль вялікая неабходнасць ужываць і другое слова — *вымысел,* бо ў ім стаіць той жа корань — «мысль», — яно таксама не будзе гучаць штучна. Нават калі такога навуковага, спецыяльнага слова ў мове не было, то па прыродзе сваёй яно вельмі натуральна ўваходзіць у плынь гаворкі.

Вельмі часта ў літаратараў няправільна будуюцца фразы: «У руках Апанаса была пуга» замест «У руках *у Апанаса* была пуга» або *«У Апанасавых* руках была пуга»; «Яна была памочніцаю Пракопа» замест «Яна была памочніцаю *ў Пракопа»;* «Больш усяго людзей сабралася каля канторы» замест «Больш *за ўсё* людзей сабралася каля канторы»; «Пад лаваю стаялі боты Івана» замест «Пад лаваю стаялі *Іванавы боты*»; «Алена доўга працягвала плакаць» замест «Алена доўга *не переставала* плакаць»; «Імкненне было такім вялікім» замест «Імкненне было *такое вялікае»;* «Я хачу ведаць пра тваё стаўленне да работы» замест «Я хачу ведаць, *як ты ставішся* да работы».

Дарэчы, пра слова *бок.* І ім мы карыстаемся вельмі прыблізна. Мы пішам: «Ён зірнуў у бок бацькі», «Ён пайшоў у бок сяла», «Мы звярнулі ў бок лесу», «Дарога павярнула ў бок поля», «З боку сенажаці пацягнула ветрам». А ці не лепш будзе вось гэтак: «Ён зірнуў на бацьку», «Ён пайшоў пад сяло» (або на сяло, або ў сяло, гледзячы па сэнсу), «Мы звярнулі пад лес» (або да лесу), «Дарога павярнула ў поле» (або на поле), «Ад сенажаці пацягнула ветрам» (або з-пад сенажаці).

Нярэдка, па аналогіі з рускай мовай, слова «глупости» перакладаецца як «глупствы». Гэтае ж слова не мае множнага ліку.

А з другога боку, трапляецца, што словы, якія маюць толькі множны лік, пішуцца ў адзіночным. У апавяданні А. Чарнышэвіча «Свой лес», напрыклад, Клеманс кажа, што яму хочацца «хоць гонейку» канюшыны засеяць. Няма такога слова

«гонейка», ёсць толькі ў множным ліку — «гоні»: адны гоні, паўтара гоней, двое гоней.

Яшчэ хочацца выказаць думку, што напісанне слова «асталіся» мае большую будучыню, чым «засталіся». Літара «з» у слове «засталіся», мабыць, асталася як дыялектная.

Хочацца сказаць і пра тое, што і мы, літаратары, часта бываем нячулыя да мовы. Лёгка прывыкаючы да калькі і канцылярытаў, мы трацім вельмі многа: багацце лексікі, красу і трапнасць слова. Чым, як не нячуласцю да слова, можна растлумачыць тое, што літаратурная моладзь карыстаецца толькі штампамі «мінулагодні», «у гэтым годзе», забыўшыся на такія яркія, каларытныя словы, як *сёлета, летась, залетась, сёлетні, леташні, залеташні.* Або ці шмат дзе можна прачытаць фразы з такімі сакавітымі народнымі словамі: *«Цеперся* гэта было», «Вельмі *здоўжыўся* мне гэты тыдзень», *«Надоечы* ён да мяне зайшоў», «Мы з ім як бач *паразумеліся*».

Я ведаю, што ёсць погляды на мову, як кажуць, чыста цэхавыя: я газетчык, у нас свае законы — неадкладная інфармацыя, і нам хапае нашай бегла-штампаванай фразы; я займаюся навукай, і мне няма ніякага клопату да вашай бытавой, як вы кажаце, народнай мовы, мне трэба свая, навуковая. Думка такая толькі ў нейкай долі правільная, у той долі, што кожная галіна чалавечай дзейнасці мае сваю спецыфіку і патрабуе свайго спосабу перадачы інфармацыі аб гэтай дзейнасці. Адпаведна такой неабходнасці літаратурная мова выпрацоўвае стылі: газетны, навуковы, энцыклапедычны, канцылярскі, дыпламатычны, стыль мастацкай літаратуры і г. д. Але ж кожны з гэтых стыляў літаратурнай мовы не можа быць адарваны ад народнай мовы і законаў яе будавання, бо іначай ён стане ўжо другой, штучнай мовай. Вось што пра гэта сказана ў такім навукова-аўтарытэтным выданні, як Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. «Народная мова — адно з найменняў жывой гаворкі народа, разам з літаратурнаю моваю складае нацыянальную мову... Выкарыстанне лексічнага і словатворчага багацця беларускай народнай мовы мае першаступеннае значэнне ў развіцці літаратурнай мовы». І яшчэ: «Нацыянальная літаратурная мова складаецца на базе народнай мовы. У працэсе фарміравання літаратурнай мовы адбіраюцца найбольш тыповыя з’явы, характэрныя ўсім дыялектам».

Агульнавядома, што і Пушкін, і Талстой, і Горкі, і ўсе вялікія пісьменнікі ставілі абавязковай умовай літаратурнай працы ведаць скарбніцу народнай творчасці — фальклор. Ідучы ад

народнай мовы і фальклору, Пушкін стаў зачынальнікам рускай сучаснай літаратурнай мовы. Горкі неаднойчы пісаў і заклікаў літаратараў вучыцца багаццю мовы ў народа. Калі мы гаворым пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Змітрака Бядулю, Кузьму Чорнага, мы таксама гаворым, што яны добра ведалі народную мову.

Чаму ж яны ведалі яе? І чаму нам трэба вучыцца ў іх, у той час, як сучасная наша мова стала багацейшай за мову таго часу, калі працавалі нашы вялікія папярэднікі? Па-першае, таму, што яны сапраўды былі шчыльна звязаны з народам — і сваімі думамі, і сваёй тэматыкай, і сваім бытам. Па-другое, таму, што яны вывучалі фальклор. Гэта жывіла іх мову, іх фразу рабіла простай, даступнай, трапнай, вобразнай, багатай.

Мы ж зарана адрываемся ад народнага творчага асяроддзя і, не паспеўшы прычасціцца яго народнаму багаццю, адразу пападаем на работу ў кабінет. Праз сцены кабінета да нас ужо вельмі трудна даходзіць і бляск народнай думкі, і гнуткасць фразы, і стройная прастата мовы, і трапнасць прыказкі, і мудрасць наглядання. Усё гэта мы ўжо чэрпаем толькі з газет ды з чужых кніг. Ад гэтага часам і наша сухасць, і беднасць, і канцылярыт, і аднастайнасць.

Не малая бяда і ў тым, што мы рэдка калі звяртаемся да фальклору. Кніг Сержпутоўскага, Раманава, Шэйна багата хто з нас нават не трымаў у руках. Мы не ведаем, якія былі абрады на радзінах, хрэсьбінах, шлюбе ды пахаванні, не ведаем загавораў, казак, прыказак, песень. А гэта ж духоўная гісторыя народа, яго побыту, укладу жыцця, культуры, і не ведаць яе літаратару проста грэшна. Тым больш што вялікія пісьменнікі ніколі не пераставалі настаўляць, каб на фальклоры мы вучыліся мове — самай простай, дасціпнай, невычэрпна багатай і вобразнай.

У выхаванні культуры мовы важную ролю павінна іграць таксама крытыка. Аднак літаратурная крытыка выбрала вельмі лёгкі шлях у сваёй практыцы. Звычайна пераказваецца асноўная лінія твора, даецца агляд асноўных вобразаў, некалькі разважанняў пра іх асаблівасці — што яны або яркія, або бледныя, — а пад канец будзе сказана пра недахопы. Крытыка павінна даць глыбокі і ўсебаковы аналіз твора не толькі як літаратурнай, а як і грамадскай з’явы. Абавязковым элементам крытыкі павінен быць аналіз мастацкіх сродкаў, якімі пісьменнік карыстаецца пры выкананні свайго замыслу: кампазіцыі, дэталей, пейзажу, мовы. Цяжка зразумець, як гэта можна, каб мова, як галоўны сродак пісьменніцкай творчасці, крытыкай не разглядалася. Мова дае

каларыт твору, робіць яго баявым або спакойным, паэтычным або нудным, лірычным або суровым, дае кожнаму пісьменніку свой почырк, сваю манеру, а крытыка пра гэта скажа бачком: вельмі добрая, сакавітая мова або — нудная, сухая мова. Гэта значыць — нічога не сказаць. Бо гэта, вядома, цяжка: трэба і самому крытыку сёе-тое ведаць.

Такі ўсебаковы агляд даў бы карысць і пісьменніку, і чытачу. Чытач бачыў бы твор, раскладзены на элементы. Ён бачыў бы, як і якімі спосабамі ствараецца вобраз; якую ролю іграе пейзаж, як і чаму ён памагае; бачыў бы, якімі сродкамі аўтар дамагаецца адчування нянавісці або сімпатыі, павагі або пагарды; зразумеў бы, чаму ў творы адно запамінаецца, а другое забываецца адразу; зразумеў бы, якімі элементамі дасягаецца праўдзівасць; адчуў бы сілу эпітэта, метафары, параўнання, сілу або слабасць твора. У чытача выхоўваліся б культура чытання, мастацкі густ, пашана да мовы.

Можна ж, не будучы надта дасведчаным у жывапісе, спакойна прайсці каля выдатнай крыніцы. А варта нейкаму пісьменнаму ў гэтай галіне чалавеку раскрыць яе сэнс, асаблівасці, сакрэты майстэрства, сакрэты святла, ценяў, ліній, прыёмаў, і карціну адчуваеш іначай. Або ў музыцы: не заўсёды слухачу зразумелы змест яе да таго, пакуль нехта збоку не раскажа, што яна раскрывае або што заключае ў сабе. Тады адразу стане ясна, навошта бравурныя мясціны, спады, імклівыя або мяккія плыні. Хваляванне прыходзіць тады, калі з’яву адчуваеш не толькі зрокава або слыхам, а калі пачуеш яе сэрцам.

Слова ў літаратурным мастацкім творы — гэта чарадзейны знак. От жа напісаў Аляксей Кулакоўскі нешта прыблізна так: «Пад раніцу падшэрхла зямля». І слова гэтае «падшэрхла» мала хто ўспамінаў ужо, а так яно зразумела і так перадае адчуванне, што нават і бачыш гэты маленькі марозік, і чуеш ранішні халадок. Або напісаў Янка Брыль нешта вось так: «Аслоненае вербамі, стаіць возера», і чуеш, што лепшага слова, як «аслоненае», тут і не трэба. Самае звычайнае народнае слова, а ці шмат хто ім карыстаўся.

Вялікую чарадзейную сілу мае слова. Сапраўды, варта быць пісьменнікам, каб любіць яго і адчуваць!

*1956; 1973*

## ЯШЧЭ ТРОХІ АБ МОВЕ

На старонках цэнтральнага друку, асабліва ў «Известиях», прайшла шырокая гаворка пра культуру мовы. Што гэтая гаворка была патрэбная і карысная, мы пераканаліся на свае вочы. У тралейбусах, у кіно або так дзе сустрэўшыся, людзі часта, як бы нават жартам, рабілі адзін аднаму заўвагі: «А гэта няправільна: трэба гаварыць не хто крайні, а хто апошні». І ніхто ні на кога не крыўдзіўся, бо сапраўды нейкі час была ў нас такая гуллівая абыякавасць да культуры наогул, да культуры абыходжання ў прыватнасці і да культуры мовы асабліва.

Калі такая вялікая і такая магутная мова, як руская, адчувае неабходнасць аберагаць сябе ад выпадковай засмечанасці, то гэтакай засмечанасці ў нас куды больш. Гэта тлумачыцца многімі акалічнасцямі, і ў першую чаргу бурным узбагачэннем і развіццём літаратурнай мовы. Якое дзіва, што ў часе такога імклівага развіцця могуць даваць сябе знаць выпадковасці. Часамі яны выяўляюцца ў звычайных шарахаватасцях, часамі ў механічным разрыве з сінтаксісам, часамі ў нашай нядобрай прывычцы да лёгкага, беглага скарапісу. Часамі ж проста ад таго, што мы павярхоўна ведаем народную мову і не хочам турбаваць сябе, каб зірнуць хоць трошкі глыбей за прывычную газетную або канцылярска-бюракратычную лексіку.

Што там гаварыць, побач з агульным развіццём і ўзбагачэннем мовы трапляюцца ў нас яшчэ і паўзучая спрошчанасць, і архаізмы, і дыялектызмы, карыстанне якімі наўрад ці можна апраўдаць; часта мы пішам шэрай, бяскроўнай калькай, парушаючы прыроду і законы мовы, і пасля дзівімся, як некаторыя пацешнікі скардзяцца, што беларуская мова непрыгожая, што гэта нейкая мешаніна з усіх моў і што яе цяжка чытаць. І сапраўды, хіба лёгка прачытаеш, калі будзе напісана вось так: «Уздоўж тулава рыбы *некалькімі правільнымі радамі размяшчаюцца свецячыяся* кропкі... Кожны *свецячыйся* орган мае складаную будову». Прастата, даступнасць, моўная пісьменнасць — найпершая задача друку, тым больш публіцыстычнага, бо ён абслугоўвае найшырэйшыя пласты народа. То нельга ж, каб у нашым пісьме народ не пазнаваў свае мовы.

Аднойчы па радыё дыктар сказаў: «Новыя механізмы *валодаюць* радам пераваг». Валодаць можа жывая істота, чалавек, гэта значыць — распараджацца нечым: «Так пакалечыўся, што не валодае ні рукою, ні нагою». Можна валодаць, авалодаць, завалодаць маёмасцю, навукаю, гэта значыць, дамагчыся сілаю,

розумам, намаганнем, над нечым мець сваю волю. Чым жа, якім сваім органам валодае станок па свайму жаданню? Чым можа ён распарадзіцца? Так жа можна хіба толькі жартаваць, каламбурыць. Куды прасцей было сказаць, што станок *мае* перавагі, а не *валодае* перавагамі.

А не так даўно ў газеце я прачытаў прыблізна такую фразу: «Нават *перад тварам смерці* яны не страцілі мужнасці». У мове кожнага народа ёсць свае ўстойлівыя фразеалагічныя спалучэнні, якіх часам нельга літаральна перакласці на другую мову. Яны перадаюць не сэнс слова, а цалкам нейкае разуменне, можа, нават далёкае ад сэнсу самога слова. «Твар смерці» — такога вобраза ў беларускай мове няма, народная практыка не ведае такога спалучэння. Ёсць другое — «вочы смерці». І калі б было сказана: *«*Нават *гледзячы ў вочы смерці»,* то ўсё было б на месцы.

Многа пра што можна пагаварыць у моўнай гаспадарцы. Мне, тым часам, хочацца падзяліцца думкамі толькі пра некаторыя словы, якія, мне здаецца, мы непамерна нагрузілі работаю, зрабілі іх як бы універсальнымі, карыстаемся імі не зусім дакладна і ў той жа час выключаем з ужытку другія словы, можа, куды больш трапныя. А гэтым, вядома, звужваем свае моўныя сродкі, абядняем самую мову.

Вось яны, гэтыя словы.

*Вырашыць.* Мы пішам прыблізна так: «Была вольная часіна, і я *вырашыў* схадзіць у тэатр», «Так расхвалілі гэтую кнігу, што я *вырашыў* пачытаць яе», «Я *вырашыў* купіць сабе новае паліто», «Цяжка быць непісьменным, і я *вырашыў* вучыцца», «Думаў я, думаў і *вырашыў* заняцца пчалаводствам», «Доўга не было вестак ад брата, і я *вырашыў* наведаць яго».

Нельга сказаць, каб гэта было няправільна. Сэнс перададзены. Але ж ці хапае гэтага? Ці не абакралі мы сябе, заспакоіўшыся толькі на сэнсе? А дзе ж каларыт мовы, дзе тыя адценні, якія кожнаму выпадку надаюць свой характар? Дзе ж багацце, якое так і пераліваецца ў жывой гаворцы? Ясна, што калі б гаварылі жывыя людзі, то яны не абышліся б толькі гэтым «вырашыць». Давайце падумаем, як бы яны маглі сказаць, хоць прыблізна. Можа, нават сказалі б і так: «Была вольная часіна, і я *надумаў* схадзіць у тэатр», «Так расхвалілі гэтую кнігу, што я *захацеў* пачытаць яе», «Я *сабраўся* купіць сабе новае паліто», «Цяжка быць непісьменным, і я *насмеліўся* вучыцца», «Думаў я, думаў і *намысліў* заняцца пчалярствам», «Доўга не было вестак ад брата, і я *намерыўся* з’ездзіць да яго».

Я не кажу, што сказалі б іменна так. У кожным сваім выпадку ўсё гэта магло быць сказана і іначай: не «намысліў», а «захацеў», не «намерыўся», а «сабраўся», у залежнасці ад таго, што трэба падкрэсліць, бо ў кожным з гэтых слоў ёсць свой унутраны жэст. «Насмеліўся» — калі доўга не адважваўся, «намысліў» — калі перад гэтым быў нейкі роздум, «намерыўся» — калі асабліва падкрэслена мэта і г. д. Але «вырашыў» нідзе не было б сказана, бо ў гэтым слове ёсць пэўная акраса афіцыйнасці. Яно было б на месцы толькі ў такім сказе: «Цяжка было *вырашыць* гэтую справу». Дый то невядома. Маглі б яшчэ сказаць: *разабраць* гэтую справу або *разабрацца* ў гэтай справе. Ва ўсякім выпадку чутно было б, што гаворыць гэта не падстаўны персанаж трошкі ўжо бюракратычна-канцылярскаю моваю аўтара, а жывы чалавек.

*Накіравацца.* У народзе звычайна гавораць: «пайшоў на сяло», «пайшоў з хаты»; «паехаў у лес», «паехаў па дровы», «паехаў у горад». Усё гэта мы цяпер найбольш пішам іначай: «накіраваўся ў сяло», «накіраваўся з хаты», «накіраваўся ў лес», «накіраваўся па дровы», «накіраваўся ў горад» і г. д. І, канечне, у гэтай схільнасці да кніжнасці пераходзім меру. Добра, напрыклад, сказаць: «Чалавек злез з цягніка і *накіраваўся* ў сяло», бо ў фразе адчуваецца і кірунак і адлегласць. Але сказаць: «Ён павячэраў і накіраваўся спаць» або: «Распрануўся і накіраваўся да стала» — дрэнна. Які тут кірунак? Мы падмянілі жывое слова простым умоўным знакам. Бо хада ж не заўсёды аднолькавая. Народ куды багацей перадае характар кожнай хады. Калі чалавек пайшоў нацянькі, нягледзячы на дарогу, кажуць «папраставаў». Калі пайшоў напорыста, заўзята — «пашыбаваў», «пасігаў». Калі пайшоў невядома куды і нам не кажуць пра кірунак — «падаўся» («Пабыў трохі з намі дый падаўся немаведама куды»). А яшчэ ж ёсць і другія спосабы перадаць характар руху: «улёг у дарогу», «пусціўся ў дарогу», «узяў кірунак», «пашкандыбаў», «пацягнуўся», «павалокся» і г. д. Вунь колькі свае акрасы нясе кожнае гэтае слова.

*Шлях.* Мы пачалі карыстацца ім супроць законаў мовы. Пішам: «добрага шляху табе», «у добры шлях», «пайшоў у шлях», «у далейшы шлях». Гэтым мы навязваем мове сваю недасведчанасць у ёй і непісьменнасць. Рэч у тым, што ў беларускай мове разуменне «шлях» толькі канкрэтнае. Калі мы гаворым «шлях», то нават уяўляем сабе шырокую наезджаную дарогу. «Праедзеш палявою дарогаю, а там выедзеш на шлях». Мы нават прывыклі бачыць такую дарогу з прысадамі, уяўляем, як далёка наперад забягае яе палатно. А ў адцягненае разуменне

ў нас пераходзіць не *шлях,* а *дарога.* Кажуць: *«Добрай дарогі»* або *«шчаслівай дарогі», «пайшоў у дарогу», «пусціўся ў дарогу», «выбраў сабе дарогу».* Якраз тое, што па-руску перадаецца словам «путь». А мы літаральна гэта перакладаем, думаючы, што пішам па-беларуску. Бо нават формы такой — «у добры шлях», «у шчаслівы шлях» — няма, а ёсць *«добрай* дарогі», *«шчаслівай* дарогі».

*Стан.* І гэтым словам мы не ўмеем карыстацца. На сваім месцы яно вельмі добра можа служыць, напрыклад: «*Стан* прамысловасці дазваляе выканаць гэтыя задачы», «Пасевы сёлета ў найлепшым *стане».* Але як жа можна разабрацца ў такіх фразах: «Яна такая хворая, што не ў стане падняцца», «Ад шчасця ён не ў стане быў выгаварыць ні слова», «Я не ў стане тут ні ў чым разабрацца». Літаральны пераклад не толькі пазбавіў фразу свае натуральнасці і хараства, а зрабіў з яе каламбур: на слых «у» зліваецца з наступным словам, і мы чуем замест «не ў стане» — «не ўстане»; «не ўстане падняцца», «не ўстане выгаварыць». Выходзіць бязглуздзіца. А як проста зрабіць, каб усё было хораша: «Яна такая хворая, што *не мае сілы* падняцца», «Ад шчасця ён *не мог* выгаварыць ні слова».

Гэтым словам тым больш небяспечна карыстацца абы як, бо ў бытавым плане «стан» — гэта талія ці торс у чалавечай фігуры. І нездарма ж у жанок ад гэтага слова называецца і прыналежнасць жаночага туалету — станік.

*Імкнуцца.* Чым дрэнна чытаюцца такія сказы: «Я ведаў, што без навукі жыць цяжка, і *стараўся* вучыцца», «Мой брат заўсёды *цягнуўся* да навукі», «Вельмі ён хацеў *папасці* ў горад», «Увесь час ён *сіліўся* ўзбіцца на гаспадарку», «Усім сэрцам я *імкнуўся* да яе». Усё выглядае нармальна. А між тым мы і тут часта абкрадаем сябе і ўсё гэта пачынаем пісаць праз «імкнуўся»: «Я ведаў, што без навукі жыць цяжка, і імкнуўся вучыцца», «Мой брат заўсёды імкнуўся да навукі», «Вельмі ён імкнуўся папасці ў горад», «Увесь час ён імкнуўся ўзбіцца на гаспадарку». На ўсе сказы гэтае «імкнуўся» налажыла адну фарбу, дый то штучную. У слове «імкнуўся» прысутнічае момант парыву, палёту, нястрымнага жадання, і сапраўдную сілу яно дало толькі апошняму сказу: «Усім сэрцам я *імкнуўся* да яе».

*Таропка.* І гэта выпадковае слова. У народнай гаворцы яго нідзе няма. Нават цяжка знайсці да яго корань. Не можа ж яно ўтварыцца ад слоў з вельмі далёкім сэнсам «атарапець», «утаропіцца». Яно нават шкодзіць тым, што, будучы само бледным, невыразным, вельмі ахвотна падменьвае сабою другія сло-

вы, куды каларытнейшыя на сваім месцы. Вось можна сказаць: *«Скоранька* паеў і падаўся ў дарогу», *«Хуценька* паеў і падаўся ў дарогу», *«Спехам* паеў і падаўся ў дарогу», *«Нахапкам* паеў і падаўся ў дарогу», — усюды той самы фізічны рысунак, а эмацыянальная акраса другая. Можна яшчэ сказаць: «Ён усё робіць *порстка»,* «Сабраўся і *шпарка* паехаў», «Рухі ў яе былі *хапатлівыя».* А дзе трэба, то можна сказаць і *борздзенька*, і *быстра*.

*Узняць.* Нават слоўнік дае тлумачэнне, што «ўзняць» больш стасуецца да «вознести», «возвысить» — у духоўным значэнні, а фізічны рух выказваецца словам *падняць*. А мы бадай што скрозь пішам: узняў руку, узняў галаву, узняў мяшок, узняў бервяно; узняўся на другі паверх, узняўся ў космас, — якраз наадварот. Гэта ж не цяжка праверыць на самым простым прыкладзе. Калі, дапусцім, са стала ўпала кніга, то мы скажам не «ўзнімі кнігу», а *«падымі* (або *паднімі)* кнігу».

*Узводзіць.* Звычайна гэтае слова адказвае на пытанне: каго, куды ўзводзіць. «Узвёў яго на другі паверх», «узвёў на гару». Мы цяпер усюды пачынаем ужываць яго замест «будаваць» у літаральным перакладзе з рускай «возводить»: «На вуліцы Міру ўзвялі мікрараён», «Мы ўзводзім цэлыя гарады». Няўжо горш сказаць *«забудавалі* мікрараён», *«будуем* гарады», *«вылажылі»* або *«змуравалі»* сцяну, як гаворыць народ? Чытаюць жа нас якраз людзі, якія гавораць не «ўзводзім», а «будуем», дык навошта нам вучыць іх гаварыць не па-свойму, а кніжна?

Захапіліся мы словам *трапіць,* падмяніўшы ім усе сінонімы і ўсе сэнсы: *собіць, папасці, выпасці, пашчасливіць, пашанцаваць.* Скрозь пішам «з задавальненнем», калі можна сказаць *«з прыемнасцю», «з ахвотаю»* («З прыемнасцю прачытаў кнігу», «З ахвотаю папрацаваў»). Калі можна сказаць: *«я быў рады»* ці *«быў давольны»,* гаворым «я быў задаволены». Прывыклі да «сапраўды», забыўшыся, што існуюць яшчэ словы *папраўдзе, упраўду, напраўду, дапраўды.* Пішам: «Па ўзросту ён быў ужо не малады», «Ён быў чалавек не маладога ўзросту», забыўшыся, што можна гаварыць іначай: *«Гадамі* ён быў ужо не малады», «Ён быў чалавек не маладога *веку».* Пішам: «Што прадпрымаецца ў мэтах паляпшэння прыёму шклатары ад насельніцтва» замест: «Што *робіцца дзеля таго, каб палепшыць* прыём шклатары ад насельніцтва». З бяздумнай лёгкасцю засмечваем мову канцылярытамі накшталт таго, што нейкая ўстанова «вытварае набор студэнтаў», а арцель «вытварае рамонт гадзіннікаў», калі можна сказаць проста і даступна, што

ўстанова *«набірае* студэнтаў», а арцель *«прымае* на рамонт» (або *рамантуе)* гадзіннікі.

Усё гэта я гавару з адным добрым пажаданнем: каб мы больш уважліва ставіліся да таго, *як* пішам. Каб пазбягалі канцылярска-бюракратычнай штучнасці, не пісалі шэрай перакладной калькай, не вымудроўвалі, а гаварылі проста, даступна, па-народнаму свабодна. Каб больш шанавалі народнае слова. Я не хачу, каб мяне зразумелі, што я супрацьстаўляю літаратурную мову народнай і арыентую на спрошчанасць або на стыхійнасць мовы. Ні ў якім разе. Я гавару пра *культуру літаратурнай мовы,* пра тое, што ў ёй павінна быць *народная аснова,* як гэтаму вучылі нас нашы вялікія настаўнікі Пушкін, Талстой, Горкі, Тургенеў, Колас, Чорны і вучаць выдатныя сучаснікі Шолахаў, Федзін, Паўстоўскі, ды ці толькі яны. Мы ж часта выпрацоўваем пэўныя шаблоны, застываем на іх і пасля гэтыя шаблоны ператвараем у норму.

Ніхто не сумняваецца, што, скажам, Максім Лужанін, Янка Брыль або Язэп Семяжон пішуць на літаратурнай мове, але колькі ў ёй народнага багацця, хараства, колькі і добрай усмешкі, і гневу, як бруіцца ў ёй гэтая народная свежасць. А, скажам, у Уладзіміра Карпава надзвычай вялікі запас слоў, куды як багатая лексіка, а натуральнай, свабоднай фразы няма, мова робленая, цяжкая. Ад гэтага трудна Карпаву нарысаваць і характар, і вобраз, і даць атмасферу, — усё гэта выходзіць як бы ўмоўна, адчуць душы, хвалявання нельга. Бо фраза, зробленая не па законах мовы, не перадае праўды. А Мікола Лобан, наадварот, вельмі траціць на тым, што не можа падняцца над стыхійнасцю мовы. Гэтым ён звужвае дыяпазон сваіх выяўленчых сродкаў. Яму (у рамане «На парозе будучыні», напрыклад) лёгка даецца вобраз селяніна, а вобраз рабочага або інтэлігента не ўдаецца, бо тут трэба палітра другая. Гэта ўжо прыклад таго, як нядобра ў літаратурнай мове капіраваць народную, быць у яе ў палоне.

Найбольш шкодзяць нам сінтаксічныя парушэнні ад механічнага перанясення законаў адной мовы на другую (пры літаральных перакладах), як, скажам, тыя ж «Перад тварам смерці» альбо «Механізмы валодаюць перавагамі». Лёгка ўпэўніцца, як гэта нядобра, калі ўявіць, што гэтакім жа чынам будзе зроблены пераклад з беларускай мовы на рускую. Скажам, калі «Ужо добра ўднела» ці «Бралася на вечар» перакласці літаральна: «Уже хорошо вднело», «Бралось на вечер», дык гэта будзе проста смешна, і такога перакладу ніхто не прапусціў бы ў друк. А ў нас такіх штукарстваў многа.

Асабліва непрыемна слухаць непісьменную мову са сцэны тэатра або па радыё, бо фальш выносіцца на людзі як рэклама. Хто паверыць у праўду вобраза, калі селянін, напрыклад, будзе гаварыць той жа робленай фразай: «Я не ў стане пайсці па работу»? Кожны ўбачыць, што гэта гаворыць падстаўны чалавек, дрэнны артыст, а за ім, вядома, і дрэнны аўтар. Або як прыкра, калі артысты купалаўскага тэатра і артысты радыё не могуць правільна сказаць нават такога простага і самага народнага слова, як «хлуш*у*», яны гавораць «хл*у*шу»: «Я пішу для Сашы, а я ёй ніколі не хл*у*сіў». Трэба толькі дзівіцца, як можа рэжысёр выпускаць на сцэну ці да мікрафона акцёра, які не ўмее зрабіць націску на слове.

Праўда мовы — гэта і праўда вобраза, і праўда душы, і праўда атмасферы. І нам, пісьменнікам і журналістам, нельга не мець гэтага на першай сваёй увазе. У мове нават маленькае парушэнне можа пачапаць нашу веру ў праўду. Мы, напрыклад, прымушаем селяніна (у нашых творах) гаварыць: «Якая табе справа» або «Не твая справа», а селянін свае мовы тут не пазнае, бо ён гаворыць: «Што табе да таго», «Які табе клопат», «Не твой клопат» або нават «Не тваё дзела». І гэта натуральна, бо «справа» ў такім кантэксце ніколі народам не практыкуецца, а «дзела» бытуе вельмі шырока. Мне здаецца, што мы дарэмна баімося некаторых слоў, лічачы іх рускімі, як «свабодны», «давольны», «прамы», «пастаянна», «апаска». Якое б ні было іх паходжанне, але яны лёгка становяцца ў моўны рад, прыжываюцца самі, бо не супярэчаць законам мовы і яе сінтаксічным формам. А вось такія формы, як «свецячыйся», не хочуць прыжывацца, бо ідуць уразрэз прыродзе мовы, жывая гаворка імі карыстацца не можа.

Можна было б пагаварыць пра вымаўленне, калі нават па ўсіх законах зробленая фраза не дае адчування натуральнасці, бо ў ёй страчана прырода мяккіх зычных дзь, зь, ць, сь, нь. Але гэты папрок, на жаль, прыходзіцца рабіць нашай граматыцы. З таго часу, як мы выкінулі памякчальны знак, вымаўленне перастала перадаваць асаблівасць мовы, літаратурная мова аддалілася ад народнай. Спадзяванні, што мяккая галосная будзе перадаваць памякчэнне па папярэднія зычныя, не апраўдаліся. Замест *сь*вет, *сь*нег, *сь*мех, *ць*вік, жы*ць*цё, шча*сь*це, *дзь*веры, *зь*вер, каха*нь*не, *сь*віта*нь*не мы цяпер скрозь чуем падкрэслена цвёрдыя зычныя *съ*вет, *сънег, съмех, цъвік, жыцъцё, шчасъце, дзъверы, зъвер, каханъне, съвітанъне.* Ды іначай і быць не можа: пры фанетычным прынцыпе нашай граматыкі мы чытаем так, як напісана. Я глыбока ўпэўнены, што скасаванне памякчальнага знака нам карысці

не дало. Наадварот, яно ўнесла многа ўскладненняў, у якіх мы часта блытаемся. Пры абсалютна аднолькавым памякчальным гучанні слоў се*сь*ці і калі*сь*ці трэба, напрыклад, «се*сці*» пісаць без памякчальнага знака, а «калі*сь*ці» з памякчальным. Ясна, што гэтае правіла прымушае нас у адным выпадку вымаўляць слова нармальна, мякка, а ў другім цвёрда — «сесъці». Вось так гавораць цяпер і артысты, не перадаючы ўласцівасці мовы: ча*цъ*вер, ча*цъ*вёрты, *цъ*вёрды замест ча*ць*вер, ча*ць*вёрты, *ць*вёрды, і мы абураемся, што яны не ўмеюць гаварыць. Так чытаюць свае вершы нават маладыя паэты, навучыўшыся мове «пісьменнай», але не народнай.

Наогул граматыка нарабіла цяпер столькі правіл і столькі выключэнняў з іх, што стала цяжка быць пісьменным чалавекам. Нездарма ж работнікі рэдакцый газет, часопісаў і выдавецтваў вечна поўзаюць па слоўніках і ўсякіх даведніках, каб упэўніцца — як правільна напісаць. І, можа, варта было б зноў вярнуцца да ўдасканалення нашага правапісу, каб зрабіць яго больш лёгкім і больш блізкім да прыроды і законаў самой мовы.

*1962—1964*

## ЧАРЫ СЛОВА

У вагоне я слухаю чужую гаворку. Дзве жанчыны — пажылая і маладзейшая. Маладзейшая едзе ў Мінск праведаць сына: ён вучыцца ў рамесным вучылішчы.

— Даўно не бачыла, — кажа яна. — Дома мама хворая, дык не было на каго пакінуць. Усё чакала, пакуль паправіцца.

— Паправілася?

— Ды не, але ж бачыць, што мне ўжо магаты няма: едзь, кажа, дачушка, а са мною нічога не зробіцца, я — трывушчая.

«Трывушчая». Не раз я чуў гэтае слова, нават сам гаварыў яго, будучы некалі дома. А цяпер не прыпамінаю, каб дзе пакарыстаўся ім у сваіх творах. Каб мне давялося пісаць, то я сказаў бы «трывалая». Так і напісаў бы: «Едзь, дачушка, а са мною нічога не зробіцца, я — трывалая».

Я пачынаю прыслухоўвацца да гэтых слоў і чую, што яны не зусім аднолькавыя. І «трывалая» і «трывушчая» як бы гавораць пра тое самае, але акраса ў іх розная. *Трывалы* — гэта разуменне нечага стойкага, надзейнага, моцнага, вынослівага ў агульным сэнсе. Можна сказаць і трывалы конь, і трывалая вяроўка, і трывалае адчуванне паху. Але от не скажаш «трывушчая» бэлька або «трывушчы» мароз. Бо ў сіноніме *трывушчы* ёсць адценне

ўнутранага пачуцця, цярплівасці, што можа стасавацца толькі да чалавека. І мне падумалася, як жа часта мы самі, на шкоду сабе, прывыкаем да кніжнасці і штампаў.

Я часта лаўлю сябе на тым, што пішу не так, як гавару. І за другімі заўважаю гэта. Гаворыць з табою чалавек — хораша, натуральна выходзіць у яго, неяк прасторна і свабодна. А як садзіцца пісаць, уся гэтая натуральнасць і свежасць прападае. Ён ужо скованы нейкімі нарматыўнымі ўмоўнасцямі, свой почырк у яго знікае. Гэта значыць, што мы вельмі прывыклі да кніжных слоў і часта стараемся пісаць не так, як думаем і як ведаем мову, а як пішуць другія. Ствараем сабе штамп.

Некаторыя шаблоны і штампы, мабыць, паасталіся нам у спадчыну ад часоў так званага адраджанізму, калі літаратурная мова толькі рабілася і ў яе пападалі вельмі выпадковыя формы, часамі ад спробы ўласнай нармалізацыі, а часамі пазычаныя з чужой моўнай практыкі.

Няйначай як з таго часу мы баімося дачапаць словы *спіс, палова,* калі заўсёды нас цягне сказаць *спісак, палавіна.* Гаворым жа мы: хату збудаваў на дзве *палавіны;* павесілі *спіскі* выбаршчыкаў. І выходзіць куды натуральней, як у напісанні, дзе насуперак сабе пішам: павесілі *спісы* выбаршчыкаў.

Замест таго каб літаратурную мову папаўняць народнай — яе свабодным дыханнем, гнуткасцю, каларытам, мы прывучаем сябе толькі да «абавязковых» і «агульнапрынятых» слоў і толькі іх лічым за норму. І, вядома, пазбаўляем сябе не толькі жывога трапятання сказа, а і свайго аблічча.

Давайце прыгледзімся да сябе. Ну вось, хіба не заваражыла нас слова *нібы?* Часамі сям-там мы пакарыстаемся яшчэ яго сінонімамі *быццам бы* і *як быццам.* А жывая гаворка карыстаецца не толькі імі. У жывой гаворцы мы можам сказаць: ездзіў у лес: грыбы *як* з-пад зямлі вылазяць; ён гаварыў сурова, *усё роўна як* загадваў; стаіш і маўчыш, *усё адно як* чужы; кветкі на лузе *як бы* кланяліся нам; загневаўся, *нібыта* яго пакрыўдзілі. Прыслухайцеся, як глуха гучала б мова, калі б ва ўсіх гэтых выпадках напісалі толькі *нібы.* А яшчэ ж ёсць народнае слова *бытта:* «Маўчыць, *бытта* яму ўсё роўна».

Прывыклі і пачынаем карыстацца як нормай скарочанай формай слоў *ля* і *ледзь.* Народная мова карыстаецца гэтай формай вельмі ўмела, як спосабам свабодна і лёгка перадаваць думку. Бываюць выпадкі, калі трэба сказаць *можна* і — *мо, трэба* і — *трэ, яшчэ* і *шчэ, ледзьве* і — *ледзь, каля* і — *ля, нават* і —

*нат,* але ж асноўная форма не падменьваецца скарочанай, яна саступае месца толькі для варыяцый.

Бадай што скрозь пішам толькі *калісьці*, *інакш*, а бывае, што вобразы і каларыт патрабуюць напісаць і *колісь*, і *некалі*, і *іначай*. Пішам: *міжвольна, павольна, штодзённа, штохвілінна, задуменны, сцяжынка, хусцінка, рачулка, хацінка, дзіўна, былы* нават тады, калі натуральней было б напісаць *міжволі, паволі, штодня, штохвіліны, задуманы, сцежачка, хустачка, рэчачка, хатка, дзіва, колішні*. Пішам: дарога пайшла па ўскраіне лесу, калі такой ускраіны ніколі не было, а ёсць *узлесак*. Дарога пайшла *па ўзлеску*.

Насуперак сабе пішам: *плоціць, заплочана,* не паспрабаваўшы дайсці да логікі, адкуль жа магло паявіцца тут гэтае «о».

Яшчэ мне здаецца, што мы занадта прывыклі да слоў *пазіраць* і *пакласці* і стараемся падмяніць імі *глядзець* і *палажыць*. У іх рознае адценне. Кожнае з іх павінна займаць сваё месца. *Пазіраць* — гэта найбольш час ад часу кідаць вокам, з нейкімі перапынкамі, не пільна. От, скажам: «Чаго ты ўсё *пазіраеш* на яе вокны?» — гэта значыць, сяды-тады, коратка, выбіраючы хвілінку. А «Чаго ты ўсё *глядзіш* на яе вокны?» — гэта пільна, не адрываючыся, увесь час, з увагаю.

Слова *палажыць* мы проста баімося, як бы яно нейкае «нетутэйшае» ці незаконнае. Пішам: *паклаў* руку на плячо, *паклаў* кнігу на стол; а між тым натуральней сказаць: *палажыў* руку па плячо, *палажыў* кнігу на стол. Бо пакласці можна, калі нечага многа і павінна яно класціся паасобку: яблыкі, памідоры, яйкі. Ну хоць бы: *«Пакладзі* памідоры за акно, каб даспявалі». Гэтак жа, калі ты ўзяў нешта адно, ну хоць бы надзеў святочную кашулю без спросу, то маці можа сказаць: «Скінь і *палажы* назад», а калі ў кішэню залішне набраў тых жа памідораў з акна, то скажа: «Павымай і *пакладзі* назад». Дый пра людзей тое самае. Калі іх многа, то можна сказаць: «Натаміліся і *пакладаліся* спаць», а калі адзін: «Натаміўся і *лёг* спаць». Праўда, можна сказаць: «Натаміліся і *ляглі* спаць», але гэта будзе ўспрымацца іначай: мы ўбачым не карціну таго, як людзі паўкладаліся ў пасцель, а толькі адчуем сам факт, што яны пайшлі адпачываць.

У літаратурнай практыцы ўсё больш мы прывыкаем да падмены слоў і нават канструкцый фраз на такія, што не ўласцівы мове. Гэта робіцца, мабыць, механічна. Проста таму, што мы добра ведаем рускую мову і міжволі, не задумваючыся, пераносім

яе формы на сваю мову. І ў гэтым не было б нічога благога, каб такое запазычанне рабілася ад патрэбы мовы.

Часціна *было.* У рускай мове яна ўжываецца пры мінулым часе дзеяслова, каб сказаць, што дзея пачалася або меркавалася, але не адбылася па нейкіх прычынах: «Он собрался *было* уже в дорогу, но передумал». Прычым гэтая часціна не мяняецца ў залежнасці ад роду займеннікаў. У беларускай жа мове яна *абавязкова* мяняецца ад роду займеннікаў: пры мужчынскім — *быў,* пры жаночым — *была,* пры ніякім — *было.* «Ён *быў* ужо сабраўся ў дарогу, але перадумаў», «Яна *была* сабралася ўжо ў дарогу, але перадумала», «Яно хацела *было* пабегчы, але не асмелілася». Мы ж часам забываем на гэты закон і пішам *было* ва ўсіх трох родах.

Механічна ў творным склоне пачынаем ужываць прыназоўнік *за:* паслаў *за* доктарам; паехаў *за* абсталяваннем, калі тут патрэбен прыназоўнік *па* ў вінавальным склоне: паслаў *па* доктара; паехаў *па* абсталяванне. Не *за чым* і *за кім* пасладь, з’ездзіць, схадзіць, а *па што* і *па каго.* Прызнаюся, што нядаўна я прачытаў у газеце: «Навошта ездзіць *за* экзотыкай на край свету» і не адразу зразумеў, пра што сказана. Памятаючы, што *за* — гэта следам за кім, наўздагон за кім, я так і зразумеў, што следам за ёю. І толькі пасля ўжо, дачытаўшы да канца фразу, дзе сказана, што экзотыкі колькі хочаш і дома, пад бокам, здагадаўся, што гэта *па* яе. Я не жартую і не прыкідваюся: прывык за словам бачыць той сэнс, які памятаю з матчынай мовы, з дзяцінства. Гэта яшчэ раз гаворыць толькі пра тое, як небяспечна «падпраўляць» мову.

Прыназоўнік *для.* Яго мы зрабілі надта універсальным. Пішам: ён сумленна жыў для навукі; цяпер вядома, для чаго ён збіраў лекавыя травы; не астаецца часу для заняткаў; яна стала для яго за маці; яна спявае для вас; для свайго часу гэта было прагрэсіўнай з’явай; я купіў для цябе кнігу; купіў бочку для капусты; для таго і стрэльба, каб з яе страляць; для яго гэта пацеха; для чаго гэта патрэбна. Усюды мы абышліся адным толькі для. А давайце пагледзімо, ці не лепш было б напісаць так, як таго патрабуе сама мова: цяпер вядома, *навошта* ён збіраў лекавыя травы; не астаецца часу *на* заняткі; яна стала *мне* за маці; яна спявае *дзеля* вас; *на* свой час гэта было прагрэсіўнай з’явай; я купіў *табе* кнігу; купіў бочку *пад* (або *на*) капусту; *на* тое і стрэльба, каб з яе страляць; усё робіцца *дзеля* карысці справы; *яму* гэта цяжка; *навошта* гэта патрэбна; *каму* гэта патрэбна. Вунь колькі прастору і лёгкасці стала ў гэтых фразах».

Злучнік *бо.* Звычайна таксама мы абыходзімся трошкі ўжо прыказёненай і прыземленай формай *таму што.* Не пайшоў, таму што не было часу; спяваем і танцуем, таму што маладыя; лёг спаць, таму што натаміўся. А жывая мова перадае гэта іначай: не зайшоў, *бо* натаміўся; спяваем і танцуем, *бо* маладыя; лёг спаць, *бо* натаміўся.

Пішам і гаворым часам: пасмяяўся над ім; жаніўся на ёй; дзякую вас; прабачце мяне; адкрыў кнігу. Але гэта калькавы пераклад. Бо па-беларуску трэба дзякаваць не *каго,* а *каму* — дзякую *вам;* прабачаць не *каго,* а *каму* — прабачце *мне.* I пасмяяцца не *над кім,* а з *каго;* ажаніцца не *на кім,* а *з кім.* I не адкрыць кнігу, а *адгарнуць, разгарнуць.*

Нядобра пісаць *зубронак*, бо трэба *зубраня* або *зубранё*, гэтак жа, як *цяля*, *ягня*, *птушаня*.

Яшчэ пішам «земляная падлога», калі такой падлогі няма. Ёсць проста *дол.* Каб была падлога, то па гэтым доле трэба нешта паслаць: дошкі, паркет, цэмент.

Асабліва псуюць і калечаць мову бяздумныя калькавыя пераклады і так званыя канцылярыты, калі і само слова, і канструкцыя фразы робяцца сілком, насуперак законам мовы. Бываюць выпадкі, калі такія бяздумныя пераклады перадаюць не той сэнс ці, яшчэ больш — набываюць адваротны сэнс. Ну вось хоць бы ў кінарэкламах было абвешчана, што пачынае дэманстравацца карціна «Ліхія вадзіцелі». Перакладчык не даў сабе клопату нават падумаць, што *ліхі* па-беларуску і *лихой* па-руску — гэта не тое самае. Па-руску «лихой» гэта — *смелы, удалец, сарвігалава, адчайны рызыкант*, а па-беларуску — *дрэнны, злы, нядобры, паганы*. Адсюль і «ліхалецце», і нават праклён: каб на цябе ліха. А карціна якраз была не пра ліхіх, а пра зухаў і рызыкантаў.

Доўга я не мог даўмецца, як можна *развярнуць* самалёт або *развярнуць* машыну. Мне здавалася, што развярнуць — гэта *раскідаць, разбурыць, растрыбушыць, разваліць.* Так я прывык разумець гэтае слова. Аж яно ўзята з тэхнічнай, вузка спецыяльнай тэрміналогіі і прыстасавана замест прывычнага, заўсёды вядомага *завярнуць* і *павярнуць.* Не ведаю, якая патрэба ў гэтай падмене? Чым яна ўзбагаціла мову? Наадварот, толькі прыдала няпэўны сэнс. I хіба не лепш сказаць натуральна: «Машына *павярнула* (або *завярнула*) і пайшла па ўзлеску», «Машына *павярнулася* (або *завярнулася*) і пайшла назад»?

*Накрываць* стол. I гэта пазычана без патрэбы. Бо накрываць — гэта *чым* — абрусам, настольнікам. А калі збіраць пача-

стунак, то так і гавораць: *сабраць стол.* «Зараз папрыходзяць госці, *трэба сабраць* стол». Або: «Я схаджу ў пограб, а ты *збяры* на стол». А гавораць яшчэ і *«падаць* на стол».

Запраўляць машыну гаручым — натуральна. А от заправіць *штаны ў боты* — наўрад ці добра. Тут трэба — *забраць.* Прыгадаем чутае ў народзе: *«Забяры* порткі ў боты, бо заплюндраеш», «Цяпер кашулі носяць не навыпуск, а *забраўшы* ў штаны». Гавораць яшчэ: *увабраць, убраць*.

І ўсё ж найгорш псуюць мову канцылярска-бюракратычныя штукарствы. Вось простая думка: чалавек аслеп ад хваробы два гады назад і, як толькі паправіўся пасля аперацыі, пайшоў на работу. Дык па радыё гэтую думку перадалі так: «Ён *страціў зрок у выніку захворвання* два гады назад. Як толькі *палепшыўся стан здароўя,* ён пайшоў на работу». Навошта гэтыя «палепшыўся стан здароўя» і «выніку захворвання»? Або вось яшчэ фраза: «Англійскія ўлады *ўжываюць шматлікія* арышты». Як гэта можна ўжываць арышты? З чым іх ужываюць?

Калі б так пісалі толькі газеты ці гаварылі па радыё, то гэта яшчэ можна было б зразумець: матэрыял у друк рыхтуецца тэрмінова, часамі яго трэба спешна перакладаць. А перакладаюць найбольш, мабыць, машыністкі — радок у радок, літаральна, калькаю. Дык, на жаль, такой лёгкай дарогай часамі ідуць і пісьменнікі ды журналісты, і не ў перакладных, а ў сваіх творах. Вось некалькі прыкладаў з твораў, чытаных зусім нядаўна:

«Ён перажываў, *таму што* сярод партызан доўга яму *не было даверу.* Яго правяралі доўга, *ужывалі для гэтага розныя метады».*

«Многія з іх *трымаюць намер* паступіць у школу».

«Жанчына павярнула на сцежку, відаць, *мела намер* прайсці нацянькі».

«Калі немцам удасца хоць трошкі наблізіцца, *адыход Мікалая стане зусім немагчымым».*

«Дзяўчына моцна шапялявіла *ад недахопу пярэдніх зубоў*».

«Ён наліў чарку Кавалеўск*ага*».

«Знаёмцеся, наш сын, — *прадставіў* яго Сцяпан Раманавіч».

Давайце паспрабуем пашукаць, як бы ўсё гэта можна было сказаць іначай. Ці не пацяплеюць гэтыя радкі, калі зняць з іх канцылярскае квяцістае шумавінне:

«Ён перажываў, *бо* партызаны яму доўга *не верылі*... Яго правяралі *ўсякімі спосабамі, як толькі маглі*».

«Многія з іх *збіраюцца* паступіць у школу».

«Жанчына павярнула на сцежку, відаць, *збіралася* прайсці нацянькі».

«Калі немцам удасца хоць трошкі наблізіцца, Мікалай аніяк не *магчыме* адступіць (або не *здолее,* не *зможа*)».

«Дзяўчына моцна шапялявіла, *бо ў яе не хапала пярэдніх зубоў*».

«Ён наліў чарку Кавалеўск*аму*».

«Знаёмцеся, наш сын, — *адрэкамендаваў* яго Сцяпан Раманавіч».

Гэта ўсё сказана як жаданне падзяліцца сваімі нагляданнямі і меркаваннямі, часамі, можа, нават спрэчнымі. Толькі дзеля таго, каб мы асцерагаліся ў мове быць неахайнымі, бо гэта вельмі зніжае культуру і мастацкую праўду нашых твораў. Каб мы любілі і шанавалі слова. Да слова нельга прывыкаць нацёмна, напавер, трэба яго адчуваць самому. І тады яно заўсёды будзе новае і свежае, не дасць сфальшывіць, само стане і на сваім месцы, і на сваім часе.

*1961*

## БЛІЗКІЯ СЭРЦУ ДУМКІ

Ёсць такая кніга «Русские писатели о языке». Гэта не проста кніга, а хрэстаматыя, прызначаная для школ, каб думкі перадавых людзей зямлі рускай перадаваліся кожнаму новаму пакаленню, як патрыятычныя наказы шанаваць і аберагаць Радзіму. Упоравень са словам «Радзіма» заўсёды стаіць «мова». Без мовы не можа быць народа. Калі памірае мова, памірае і народ, сыходзіць з гістарычнай сцэны. Добра ведаючы гэта, ад бязроднага нігілізму перасцерагаў Францішак Багушэвіч. «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!», — пісаў ён у прадмове да свае кнігі.

Яшчэ больш энергічна такую ж думку сказаў ірландскі вучоны Дэві. «Кожны народ павінен аберагаць сваю мову больш, чым граніцы, бо мова — галоўная яго абарона, куды больш моцная, чымся ўсе яго цытадэлі», — сказаў ён. Нямала падобных думак можна знайсці і ў названай мною кнізе, у рускіх пісьменнікаў, такіх, як Пушкін, Герцэн, Бялінскі, Тургенеў, Талстой, Горкі. Праз іх мы навучыліся любіць і шанаваць рускую мову. І Расію навучыліся праз іх любіць як сваю радзіму. У часы вялікіх выпрабаванняў, калі на Савецкі Саюз накінуліся фашысцкія

дзікуны, Анна Ахматава ў вершы «Мужнасць» як сцяг самай дарагой нацыянальнай святыні падняла перш за ўсё мову.

Мы знаем, чтѓ ныне лежит на весах
И чтѓ совершается ныне.
Час мужества пробил на наших часах.
И мужество нас не покинет.
Не страшно под пулями мертвыми лечь,
Не горько остаться без крова, —
И мы сохраним тебя, русская речь,
Великое русское слово.
Свободным и чистым тебя пронесем,
И внукам дадим, и от плена спасем
Навеки!

Я заўсёды з душэўным узрушэннем адчуваю гордасць рускіх пісьменнікаў, калі іх творы пазначаюцца такімі назвамі, як «Русский характер», «Русский вопрос», «Русские люди», «Русский лес», «Русские просторы», «Мы — русский народ». Я не магу ўявіць сабе ні аднаго рускага, які сказаў бы, што ён не любіць рускай мовы; ні аднаго француза, ні аднаго немца, ні аднаго іспанца, італьянца, які дазволіў бы сабе нешта нядобрае сказаць пра сваю мову.

З беларускай жа мовай было многа метамарфозаў. Я памятаю часы, калі толькі што наладжваўся друк і кожная беларуская кніжка з'яўлялася святам. Калі Уладзіслаў Галубок са сваёй трупай вандраваў з сяла ў сяло па Беларусі і людзі з вуснаў не мужыка, а гарадскога, інтэлігентнага чалавека першы раз чулі сваё роднае слова і дзівіліся, што з ім, з гэтым словам, можна паказацца ў людзі. Я сам у Слуцку бачыў тых галубкоўскіх артыстак. Маладыя, прыгожыя, адзетыя ў вышываныя строі, яны ішлі па Пралетарскай вуліцы і весела гаманілі. Не ведаю, колькі часу я хадзіў следам за імі, слухаючы і баючыся прапусціць хоць адно слова.

Пасля памятаю часы, калі небяспечна было сказаць «Маці-Беларусь». Памятаю, як Францішак Багушэвіч стаў «рэакцыйным» пісьменнікам. Як Андрэй Александровіч атрымаў спагнанне за верш, напісаны пра Кастуся Каліноўскага...

І вось зусім нядаўна я бачыў, як у кнігарні дзве дзяўчынкі-школьніцы куплялі кніжку Сяргея Грахоўскага «Гарыць касцёр». Зачараваная афармленнем, малюнкамі, фарбамі, адна пусцілася ўжо ў касу плаціць, але другая перапыніла: «Стой, гэта ж па-беларуску!» — «Праўда, — згадзілася першая, — а па-беларуску

я не ўмею». Мне стала шкода гэтых дзяўчатак і брыдка за іх бацькоў. Гэта ж яны, карыстаючыся нашымі дэмакратычнымі законамі, не палічылі патрэбным, каб дзеці іх ведалі мову народа, сярод якога жывуць. А без мовы яны будуць намнога бядней духоўна, можа, нават эгаістычней, бо чаго не разумееш, не дайшоў розумам і сэрцам — стараешся не любіць.

Неяк я выступаў у Ждановічах на камсамольскім актыве. Я расказаў, што ў нас была свая гісторыя, што быў Статут Вялікага княства Літоўскага, першадрукар Скарына, рэвалюцыйны дэмакрат Кастусь Каліноўскі. Камсамольцы слухалі з цікавасцю надзвычайнай, пасля задавалі пытанні, выступалі, і я быў здзіўлены тым, што ў нечым не мог разабрацца: адны з іх былі яўна рады, што надарыўся выпадак пагаварыць па-беларуску, другія не ўмелі гэтага зрабіць і як бы сароміліся і адчувалі сябе вінавата. Едучы дадому, у машыне, іхні кіраўнік сазнаўся, што беларускай мовай не карыстаецца. Я ўспомніў выступленні камсамольцаў і зразумеў, якая гэта важная рэч — асабісты прыклад кіраўніка.

Ёсць і больш сур'ёзныя рэчы: мова ў акадэмічным тэатры, які носіць імя Янкі Купалы. Слухаць мову з вуснаў артыстаў проста няёмка. У тэатры гэтым вы не пачуеце таго, што ўласціва прыродзе мовы, ні цвёрдых зычных, ні мяккага падваення, ні адкрытых галосных, — усяго таго, што дае прастату і натуральнасць гаворкі. Наадварот, усё будзе выглядаць так, нібы са сцэны гаворыць чужаземец, якому вельмі цяжка прызвычаіцца да «правінцыяльных дзівацтваў».

Аб мове купалаўцаў не раз пісалася ў газетах, гаварылася на сходах. Можа, было б карысна, каб калі-небудзь мы сабраліся разам — пісьменнікі і артысты — ды пагаварылі аб мове, як кажуць, з вока на вока, і строга і шчыра, каб той, хто не разумее гэтага, нарэшце зразумеў, што гэта вельмі сур'ёзна: акадэмічны Купалаўскі тэатр і купалаўская мова.

Мы часта і слушна гаворым пра такую катэгорыю, як культура мовы. Гэта натуральна: развіваецца грамадская думка, расце культура мыслення, павінна расці і культура слова, сказа, мовы. На жаль, мы вельмі не заўважаем сувязі гэтых паняццяў. Многія работнікі культурных і пісьменніцкіх прафесій вымушаны паступова замаўкаць, сцішацца і зусім творча паміраць толькі таму, што паступова і непрыкметна адсталі ад філасофіі часу, ад культуры мыслення і спосабу перадачы думкі. Культура ва ўсіх выпадках — гэта паглыбленне. Пісьменнік скрозь павінен ісці толькі ўпоравень часу, каб не стаць прымітывам.

Мы часта скардзімся, што нашу моўную культуру псуе газета. У гэтым ёсць праўда і няпраўда. Газетны стыль заўсёды існаваў і будзе існаваць. У газетнага стылю зусім іншая прырода і іншыя функцыі: ён перадае надзённую інфармацыю не эмацыянальнай, а публіцыстычнай уласцівасці. Таму гэты стыль бадай што заўсёды павярхоўна-інфармацыйны. І бяда шмат якіх пісьменнікаў, што ў сваёй рабоце яны пераймаюць іменна гэты стыль.

З маладымі пісьменнікамі бываюць вельмі нечаканыя рэчы. На старонках газет ці часопісаў паяўляецца новае імя. З радасцю мы заўважаем, што ў літаратуру ідзе чалавек з свежымі вачыма на свет, з сваім здзіўленнем, з простай, добрай народнай мовай. Выйшла першая кніжка, яе пахвалілі. Акрыялы чалавек пераязджае ў горад, уладкоўваецца на рабоце, недзе бліжэй да рэдакцый газет або радыё. І вось праз нейкі час пісьменніка мы не пазнаём. Свае пошукі ён лёгка падмяніў схемай, мова яго стала службова-бедная, неахайна развінчаная ў сваіх сінтаксічных формах, па-мадэрнісцку настаўбурчаная. Дарэчы, мадэрнісцкая настаўбурчанасць мовы асабліва чутна і відна ў паэзіі.

У свой час я вельмі прыхільна ставіўся да аднаго чалавека, здаецца, нават даваў яму рэкамендацыю ў Саюз. Пасля пісаў рэцэнзію на рукапіс яго першай кніжкі. Мне падабаўся гэты хлапчына па сціслай манеры пісьма, па думцы, што прысутнічала ў кожным апавяданні. І вось цяпер выйшла яго новая кніжка. Паслухайце, якой мовай гавораць там людзі. Муж да жонкі: «Гэта справа не такая лёгкая»; вучань, не могучы рашыць задачы: «Што ж гэта на самай справе»; сябры між сабою: «Слухай, не затрымлівай, кажы аб справе»... І вось так: «справа не чыстая», «у чым справа», «прыступілі да справы», «так справа не пойдзе», «выканаць сваё меркаванне», «аказаць дапамогу», «дакладна дамовіцца», — якая духоўная беднасць. Няўжо ж такой куртатай мовай гавораць жывыя людзі? Мастацкі твор павінен несці праўду вобраза. Няправільны жэст, недакладнае, не да месца пастаўленае слова, прыдуманая, не ўласцівая жывой гаворцы фраза, — дзе ж тут у праўду вобраза паверыш?

Вельмі спакушае мяне пагаварыць пра мову Уладзіміра Караткевіча, робленую пад старажытную кніжнасць з такім імпэтам, што пад яе стыхію аддаецца нават лексіка сённяшняга дня. Пра асаблівасць мовы Рамана Сабаленкі, — што яна надта лёгка служыць аўтару. Пра мову Міколы Лобана: народная, каларытная і сакаўная, яна, аднак, вельмі многа траціць ад стылізацыі, якая дае магчымасць недарысоўваць характараў,

недапісваць пейзажаў, абмінаць роздум. Але такая гаворка патрабуе спецыяльнай работы.

Настойліва шукае свае мовы Валянцін Мыслівец. І яму нялёгка, бо ўвесь час ён мае справу з вытворчай тэматыкай, а рабочы стыль у нашай мове не распрацаваны. І там, дзе ў Мысліўцовых пошуках сказ ідзе ад народнай асновы, выходзіць няблага. Але, на жаль, часта пошукі падменьваюцца гатовымі штампамі з канцылярытаў. Нават у самых лірычных мясцінах можа быць сказана вось гэтак: «Закаханыя *тым і адрозніваюцца* ад іншых людзей, што *здольныя заўважыць* усё лепшае, *самае адметнае ў каханай істоце,* як бы глыбока яно ні было схавана». Занадта адцягнена і рацыяналістычна. А яшчэ горш тэхніцызмы: «Корпус са шпянёвай скрынкай робіш? Глядзі, тут наадварот паказана тэхналогія. Заблытана ўсё па чарцяжы».

Я ведаю пісьменнікаў, якія не даюць сабе клопату запомніць, што па-беларуску трэба гаварыць *дзякуй вам*, а не дзякуй вас; *прабачце мне*, а не прабачце мяне. Ведаю пісьменнікаў, якія, каб апраўдаць свае нелады з моваю, пішуць артыкулы, у якіх сцвярджаюць, што мова рэч другарадная. Ведаю пісьменнікаў, якіх лягчэй чытаць у перакладзе на рускую мову.

З культураю мовы звязаны і некаторыя недакладнасці нашых слоўнікаў і граматыкі. Старажытны горад Гродня, напрыклад, у народзе скрозь скланяўся, скланяецца і цяпер, гэтак жа як і Вільня: я быў у Гродні, паеду ў Гродню, лясы пад Гродняю,— дык цяпер ён запісан Гродна і не мае права скланяцца, як чужаземнае слова. Многія населеныя пункты пішам не так, як іх называюць у народзе: замест Бокшычы, Гольчычы, Шашчычы — Бокшыцы, Гольчыцы, Шашчыцы, невядома навошта адвучаючы людзей ад іх спрадвечнага ладу мовы.

Не вельмі пісьменна і цяпер робіцца перайменаванне паселішчаў і вуліц. Назвы гарадоў, паселішч і вуліц не павінны мяняцца пры перакладзе і ў вымаўленні на другой мове незалежна ад таго, які сэнс закладзены ў назве: Масква, Манрэаль, Грунвальд.

Мы перайменоўваем па спісках, складзеных на рускай мове, і ўзаконьваем дзве назвы: Акцябрская і Кастрычніцкая вуліцы, усё роўна як бы іх дзве. Такі парадак перайменавання прыводзіць часамі да кур’ёзаў: па-руску, напрыклад, гучыць вельмі добра вёска «Лазоревая», а па-беларуску, паколькі няма такога слова, гавораць Лазаравая; перайменаваная вёска «Сиреневая» вымаўляецца Сярэневая, — вельмі далёка ад бэзу.

Справа з пераменаю найменняў паселішчаў і вуліц вельмі сур’ёзная, звязаная і з традыцыямі, і з гісторыяй, і з народнай

практыкай, і вельмі шкода, што гэта робіцца без абмеркавання хоць бы з тымі людзьмі, якіх перайменаванні датычаць самым кроўным чынам: бо яны там жывуць.

Некаторы час таму назад у нашу літаратуру прыйшла даволі моцная купка празаікаў. Яны прыйшлі неяк адразу, гуртам, гэтыя маладыя хлопцы.

Памятаю, як у зале ЦК камсамола мы абмяркоўвалі першыя творы Барыса Сачанкі. Да гэтага часу я бачу перад сабою тую дарогу, што ішла праз лес, і коніка, і чалавека, што сядзеў на калёсах і ткаў свае думы. Я быў без меры шчаслівы, што ў аўтары пазнаваўся не выпадковы для літаратуры чалавек. З рэдактара выдавецтва (можа, ён займаўся літаратураю і да рэдактарства, толькі не асмельваўся аказвацца?) стаў пісьменнікам Іван Пташнікаў, прынёсшы з сабою ўсе пахі лесу, кветак, сонца, душу прыроды. Памятаю, як прымалі ў Саюз Вячаслава Адамчыка. Я сказаў, мабыць, вельмі захлёбістую прамову, бо мяне аж перабілі, калі я рэкнуў, што ён малады, а піша, можа, лепш за некаторых старых. Моўчкі, спакваля, але з крынічнай бруістасцю душы і роздуму, летуценна і крыху нават нясмела паявіўся Міхась Стральцоў. Зусім нечакана прынёс у літаратуру свой непаспешлівы, вельмі спакойны, апісальна-бытавы голас Уладзімір Дамашэвіч. Пазней, неяк бокам, як бы жартуючы, як бы спрабуючы голас, стаў пісьменнікам Іван Чыгрынаў. Кожны з сваім аблiччам, з сваёю хадою, з сваім почыркам, і хочацца думаць, што нехта з іх або ўсе разам яны зробяць новы, якасна значны крок у нашай прозе.

Вельмі важна і дарага, калі за пісьменнікам бачыш яго краіну: за Пушкіным, Тургеневым, Талстым — Расію, за Лакснесам — Ісландыю, за Экзюперы — Францыю. Дай божа, каб і праз нашы творы ўсё больш пазнавалася Беларусь.

Хочацца мне трохі пагаварыць аб мове без цеснай залежнасці ад тэмы. Проста: пісьменнік і мова. Аб тым, што яе трэба бачыць вечна ў руху, штодня працаваць над ёю, штодзень яе чуць.

Мне шкода некаторых слоў. Здаецца, мы вінаваты перад імі, як перад людзьмі, якіх незаслужана пакрыўдзілі. Папраўдзе, зусім забыліся мы пра тое, я б сказаў, антычнае словаўтварэнне, як «прыгожае пісьменства» нават тады, калі кранаемся часоў адраджанізму. Забываемся на «маляўнічы», цалкам падмяніўшы яго «жывапісным». Забыліся, што некалі звалі ў сябе дома «Сашачка», «Машачка», «Волечка», «Сяргейка», «Андрэйка», цяпер гэтак зваць як бы ўжо і нязручна, і лёгка пераходзім на кальку «Сашанька», «Машанька», «Оленька», «Сярожа», «Ан-

друша», хоць адчуваем, што калька выходзіць груба, бо гэтыя імёны патрабуюць культурнага рускага вымаўлення: «Серёжа», «Андрюша». Пішам не ўласцівае складу мовы «любві» замест паўнакроўнага «любові». Гуляе па нашых творах абсалютна кніжная, калькавая «прыгажуня» (часамі нават з падвойным «н») замест народнай «красуні» і зусім дзікі «прыгажун». Не будзем лічыць неэстэтычным і прыгадаем, як звалі дома кароў: Краска, Красуля, Красуня, толькі не Прыгажуня. Гэтак жа груба і самадзейна гуляе слова «лаяцца», якім мы карыстаемся без меры, нават тады, калі трэба сказаць «накрычаць», «насварыцца». Шкода слова «кавярня», якое падмянілі «кафэ» або зусім чужым і далёкім «кафетэрыем». Усё радзей мы сустракаем «цырульню», «кнігарню». Замест ёмістага «мястэчка» паявілася безаблічнае словазлучэнне «пасёлак гарадскога тыпу». Пасля Кузьмы Чорнага пачынаем адвыкаць ад слова «інтэрас». Для фізкультурнікаў прыдумалі ніколі не ажывелае «варатар», калі на яго месцы смела мог бы спраўляцца з работаю «брамнік», бо па сваёй непасрэднай спецыяльнасці «привратника» яму цяпер няма чаго рабіць. Незаслужана забылася «гута», стаўшы толькі «шклозаводам», сточаным з двух слоў, бо гаварыць раздзельна «шкляны завод» аж няёмка, ён жа не са шкла. Апярэджваем нават газеты, пішучы «дальні» замест «далёкі» ці «дальшы». Зрабілі вельмі непаваротлівыя словы «наведвальнік», «распаўсюджвальнік», якія, можа, лепш было б пісаць «наведнік» і «распаўсюднік». Забыліся, што нітак і іголак «машынных» няма, а ёсць «машыновыя» іголкі і ніткі. Што дзяцей і ўсякую жыўнасць не «росцяць», а «гадуюць». Усё трымаем у чужаземных такія словы, як «паліто», «піяніна», «кіно», «маці», бо не дазваляем іх скланяць, а ў народзе іх усё роўна скланяюць. Злоўжываем, трацім адчуванне праўды і меры ў мастацкіх творах, называючы персанажаў абавязкова па імю-бацьку. Па імю-бацьку называюць чалавека, калі звяртаюцца да яго або калі завочна выказваецца яму пашана. Згадаем Талстога; нялёгка будзе нам успомніць, як звалі пабацьку Балконскага ці Карэніна, а гэта ж былі патомныя дваране, прадстаўнікі высокага свету, дзе з імем абыходзіліся па строгіх нормах этыкету. Насуперак ладу мовы перакладаем назвы п'ес у тэатрах: «Патрабуецца лгун», «Мешчанін у дваранстве», калі просіцца сказаць: «Патрэбен ілгун», «Мешчанін у дваранах».

Яшчэ мне хочацца сказаць, што знікае гістарызм у назвах калгасаў. Уяўляю сабе, як было б добра, каб іх называлі па назве цэнтральнага сяла — Рудня, Волма, Вясея, — і не было б паўтораў у назвах, і асталася б прывязка да зямлі, да геаграфіі.

Быў я нядаўна ў сваіх краях, у Слуцку, сакратар райкама расказваў мне пра заможныя калгасы, называючы іх «Першае Мая», «Дзяржынскага», «Арджанікідзе», а я не мог нават уявіць, дзе яны, у якім баку, далёка ці блізка, пакуль ён не называў сяла.

Мова іграе вялікую ролю ў рэчах і малых і вялікіх, за ёю стаіць яснасць і канкрэтнасць нашага мыслення. Літаратура без мовы наогул існаваць не можа, бо мова — сродак будавання твора, праз яе відзён інтэлектуальны свет і вобразаў, і самога пісьменніка. Я ўпэўнены, што чым далей, тым усё менш і менш будзе твораў, напісаных слабенькай, шэрай, павярхоўнай мовай, бо такой мовай не пакажаш глыбіні і велічы часу.

*1967*

## БЕГЛЫЯ ЗАПІСЫ

*

У мяне ў апавяданні напісана: «Выгадавала дзвюх дочак і вельмі шчаслівая». Але на тэлебачанні нехта паправіў, і артыстка прачытала: «Вырасціла дзвюх дочак».

Той, хто правіў, быў перакананы, што папраўляе лепш. На жаль, так бывае часта.

*

Каларытнае слова *цяпершчына*. І калі б папракнулі нейкага пісьменніка, што ў яго творах мала цяпершчыны, то ўсё роўна ён зразумеў бы, што ад яго патрабуюць сучаснасці.

Сінонімы — багацце мовы; яны ніколі не варагуюць.

*

Ніяк не ўразумею, чаму мы пішам звеннявы, звеннявая, калі словаўтварэнне ідзе ад звяна і не патрабуе другога «н»: звенавы, звенавая.

Гэтак жа, як гатоўнасць. Гатовы, гатоўля, загатоўля, гатаваць, гатоўка, нагатове, напагатове — нідзе няма «н». То, мабыць, правільна было б і пісаць гатовасць?

*

Цудоўнае слова *найсвяцейшы* — сінонім свяшчэннага. Найсвяцейшы наш абавязак — абараняць Радзіму.

*

Забываюцца некаторыя словы. І не яны вінаваты ў гэтым, а мы: усё аддаляемся ад жывое гаворкі. Неўміручы, агністы, агняны, неўпрашоны... А ў нас жа толькі бессмяротны, вогненны, няўмольны. Добрыя словы, але ж іх мала.

*

Жанчына ў магазіне:

— Ці ёсць у вас складаная метра?

Другая, у краме электратавараў:

— Гэта ж я шукаю машыновых іголак ды нітак. Ці няма ў вас часам?

Колішняя партызанка ўспамінае, як выратаваліся яе сяброўкі з аблогі:

— Яны выйшлі цераз тунэлу.

На аўтастанцыі два мужчыны:

— Дакуль будам браць білеты?

— Да Міра!

Паспрабуйце перадаць гэта мовак, прычэсанаю грабянцом нормы, і згіне ўся краса слова, яго жэст, свабода вобраза.

*

І яшчэ. Жанчына з Дзятлаўшчыны. Расказвае пра чалавека, што ўтапіўся.

— Ён быў вельмі спакойны мужчына. Вечна маўчыць. І ніхто ніколі не бачыў яго выпітым. Меў свой дом на тры пакоі. Як гарадскі: спальня, кухня, прыхаджалая.

Гэта, вядома, стыхія. Але які непачапаны лад мовы!

*

Ёсць рускае слова «задел». Тое, што пачата работаю, але не скончана. Думаючы, што калі «задел» ідзе ад «дело», то і ў беларускай мове лёгка можна ўтварыць ад работы — зароб. Так было і напісана: «У заробе тэатра тры п’есы». Аднак слова стаіць на такіх высокіх хадулях, што карыстацца ім больш ніхто не асмельваецца.

Мабыць, у мовы таксама ёсць свае законы несумяшчальнасці. Калі ісці ад прыроды яе, то, можа, лепш было б сказаць распачын: тое, што распачата работаю. «У распачыне тэатра тры п’есы». А лепш за ўсё ўспомніць жывую мову і сказаць: «Тэатр распачаў работу над трыма п’есамі».

*

Сёння касілі па той нізовіне, што за лесам.

Якое светлае, яснае слова! Так і хочацца ўбачыць яго дзе ў творы.

*

Калі я працаваў у Эстоніі, мая памочніца была мне і за перакладчыцу. Я адчуваў сябе да страхаты няёмка: быць сярод людзей без іхняй мовы, гэта значыць быць ім чужым. Я паставіў сабе найпершую задачу: як мага скарэй не мець патрэбы ў перакладчыку. Праз паўгода ўсю дакументацыю я чытаў сам, ведаў, чаго ў мяне пытаюць або просяць, што і як мне адказаць.

Мабыць, праз гэта доўга я адчуваў да сябе іхнюю прыязнасць, нават пасля таго, як ужо не быў сярод іх.

*

Успамінаю, як у нас гаварылі. Блакіт — гэта колер тонкі, лёгкі, з ласкаю для вока: блакітнае неба. А калі жанчына купляла хустку, то казала: «Купіла галубовую хустку». Гэта ўжо колер грубейшы, гусцейшы, больш празаічны.

Калі ткалі кросны, то ніколі не гаварылі, як у слоўніку: чаўнок. Гаварылі чоўнік. «Гэта ж мужчыны зрабілі новы чоўнік, дык цяжкавата ходзіць яшчэ».

А калі куплялі гаршкі на рынку, дык пробавалі, ці цэлыя, стукаючы іх костачкамі пальцаў. Калі гаршчок (ці міска, ці макацёр, ці гладыш, ці злівак) быў пабіты, гэта пазнавалі па глухім голасе. На такі гаршчок казалі, што ён трупціць. Здаецца, што іначай і сказаць нельга, але цяпер у любой пасуднай краме гавораць іначай: не звініць.

У слове «трупціць» было знаццё справы, прырода самой рэчы, вобраз, мадэль.

*

У слоўніках напісана *дзяячка*. А пра мужчын — *дзеяч*. Гаворым жа мы ўсё роўна *дзеячы, дзеячоў, дзеячамі*.

*

— Па суботніх і нядзельных днях слухайце нашы перадачы з цыкла...

Усё, здаецца, правільна ў гэтай аб’яве па радыё, а праўды мовы няма. Кожная мова мае свае законы словаўтварэння. У ру-

скай мове назвы двух дзён — суббота і воскресенье — маюць свае прыметнікі: субботний день і воскресный день. У беларускай мове ні адзін дзень не мае свайго прыметніка. Вось чаму чутна калька, хоць яна вельмі старанна падрабляецца пад натуру.

А натура выглядае куды харашэй і прасцей: — Слухайце нашы перадачы па суботах і нядзелях.

*

У Сафіі, у Дзяржаўным тэатры, я глядзеў «Ягора Булычова». Вядома, на балгарскай мове. Пасля спектакля, устаўшы ўсёй сваёй жывой масай, зала доўга не выпускала артыстаў з гарачых воплескаў. Трыумф, слава, любоў, гордасць — усё было ў гэтай узрушанасці. Я падумаў пра сілу формулы: нацыянальная формаю і сацыялістычная зместам культура. Гэта яна, мова, зрабіла так, што п’еса рускага пісьменніка стала з’явай нацыянальнай гордасці балгарына.

І тады са шкадобаю падумалася пра дом. Ці то вінаваты тэатр, ці паэты, ці артысты, але ні сусветная оперная класіка, ні руская не ўключана ў наш нацыянальны духоўны здабытак.

*

Уладзімір Калеснік, выступаючы неяк на сходзе, сказаў: «Па нашых творах рысы сучасніка выглядаюць часамі расплывіста». А практыка абмяжоўваецца толькі адным, далёка не лепшым словам: расплыўчата.

Ён жа, гаворачы пра нейкую каларытную фігуру, сказаў: «Не так разумны, як нюхлівы».

Якая яркая перадача вобраза!

І як жа доўга зачакаліся мы тлумачальных слоўнікаў, каб дасціпнасць жывога слова была ў нас напашэве.

*

Ён змалку ў касцёле на арганах іграў.

Па слоўніках жа — на аргане.

Нехта ж тут памыляецца: ці жывая мова, ці слоўнікі.

*

— Зрабі сабе прымернік ды па ім і будзеш нарэзваць падрад, — казаў бацька, калі я збіраўся нарабіць дошчачак на фігурную шалёўку.

Прымернік — гэта экземпляр, які з’яўляецца асноваю да масавай вытворчасці, да якога прымерваюцца другія: абразец.

Мне здаецца, што гэтага слова вельмі не хапае ў тэхніцы. Бо ўзор, узорны — гэта нешта лепшае сярод другіх, а не той экземпляр, з якога можна размнажаць.

Яшчэ бацька казаў: зразы.

— Трэба будзе добрыя зразы дастаць ды прышчапіць тыя дзічкі, што з лесу паперасаджвалі.

Гэта таксама, мабыць, нешта лепшае, гатунковае, узорнае. Бо сёстры нават для вышывання даставалі зразы.

*

Археолагі пішуць: «Пры раскопках знойдзены скрэблы з пільчатай рэтушшу». А хочацца чытаць іначай, з больш натуральнай канструкцыяй слова: «...з пільчатым рэтушам». Гэтак жа як і карціны пісаць не гуашшу, а гуашам. Або археалагічныя знаходкі: пішам — праслiца. А, мабыць, па законах мовы, трэба — праселка, прасельца.

*

Вось якімі багатымі адценнямі жывая мова надзельвае некаторыя разуменні. Скажам, жанчына: дзяўчынка, дзяўчына, дзяўчо, дзеўчанё, дзеўчаня, дзеўка, дзявуля, дзявуха, маладзіца, кабета, жанчына, баба. У кожным слове свая эмацыянальная акраса, за кожным стаіць свой вобраз і век — малады, сярэдні, пажылы. Але перакладаючы з рускай «деваха», мы пакінем лепш кальку, а сказаць дзеўка, дзявуля не асмелімся.

*

Чытаю ў газетах: «У абстаноўцы поўнага ўзаемаразумення» і адчуваю душою, што не так гэта сказана. Абстаноўка — гэта тое, чым абстаўляюць кватэру, мэбля: «Купіў новую абстаноўку». А тут жа ўмовы, становішча, акалічнасць, абставіны.

*

Барыс Платонаў расказваў, як аднойчы зусім нязначная выпадковасць натыкнула яго на думку прыдаць вобразу новую рысу.

Проста здорава, як хораша — натыкнула! А мы ж яго скрозь падменьваем словам наштурхнула, самі не верачы ў яго праўду.

*

Паміранне мовы такая ж натуральная з’ява, як і нараджэнне яе. Быць можа, што і мая мова некалі памрэ. Як памру я сам, чалавек. І я аніяк не баюся натуральнай смерці.

А от калі насільна паміраць — страшна.

*

Словамі, якія патрэбны эканамічнай і тэхнічнай навуцы: хуткарэзны станок, самазаточны інструмент, нержавейная сталь, нафтаздабыўная (горназдабыўная) прамысловасць — мы не карыстаемся, іх у слоўніках няма. Але яны выглядаюць як даўно знаёмыя, бо не парушана іх словаўтваральная прырода. Пішам жа, на жаль, іначай: хуткарэжучы станок, самазаточваючыйся інструмент, нержавеючая сталь, нафтаздабываючая (горназдабываючая) прамысловасць, — усё роўна як выкручваем рукі. Думаючы, што мове не баліць.

*

Ніяк не магу прымірыцца, што, як чужаземнае, трэба пісаць прозвішча Герцэн. Хочацца пакарыстацца любым выключэннем — традыцыйнасцю вымаўлення, даўнім запазычаннем з неславянскіх моваў — і пісаць Герцан, як імя сваё, добра вядомае кожнаму з юначых гадоў, калі мы знаёміліся з развіццём айчыннай рэвалюцыйнай думкі.

*

Можна сказаць, што некаторым словам, такім, як рамонт, цырымонія, рысора, дрызіна, інжынер, сакратар, літаратура, канцылярыя — пашанцавала. Яны набылі такое напісанне яшчэ тады, калі нормы рабіла сама мова, і таму выглядаюць панароднаму натуральна. Цяпер бы іх напісалі рэмонт, цэрэмонія, рэсора, дрэзіна, інжэнер, секрэтар, літэратура, канцэлярыя, гэтак жа, як прэсвітэр, рэжым, шпіндэль, крэветкі, чэркес, — надаючы ім чужаземнасць.

Чужаземнае напісанне дадзена і такім гарадам, як Арэнбург, Нахічэвань, Какчэтаў, Чэлябінск, Чэркасы, Чэркеск, хоць яны сталі нашым бытам і смела падышлі б да фармуліроўкі «даўно запазычаных слоў».

*

Пільнуючыся народных канструкцый, вось як шырока можа карыстацца прыназоўнікам *на:* пісаць на адрас, дом на восем кватэр, хата на тры акны; п'еса на два акты, раман на чатыры часткі, збор твораў на пяць тамоў; бочка на капусту, мех на бульбу; пасведчанне на заканчэнне школы, квіток на здачу грошай у касу; рашэнне на выдачу ордэра, пастанова на засяленне дома, загад на прызначэнне на работу, пагадненне на абмен дэлегацыямі, дагавор на пастаўку абсталявання, указ на ўзнагароджанне (а яшчэ лепш — на ўзнагароду).

*

Пішам «матацыкл», але «мотаролер». Як жа здагадацца, якое тут правіла, калі этымалогія адна: матор?

*

— Пайшоў на заслужаны хлеб, — скажуць пра чалавека, які сваё адпрацаваў, пайшоў на адпачынак. Затое калі нехта карыстаецца шырокаю павагаю, усімі знаны, за вялікія заслугі пашанаваны ўзнагародамі, скажуць: — Гэта чалавек заслужоны.

*1963*

## ЭЦЮДЫ

### ТЫСЯЧА ДРАБЯЗЫ

Слова любіць, каб яго гаварылі, тады яно само пакажа на сваё месца.

Чытаю ў газетах: «В магазин «Тысяча мелочей» завезли новые товары». Інфармацыя ўспрымаецца нармальна. Ды вось жа ў беларускай газеце напісана тое самае: «У магазін «Тысяча дробязей» завезлі новыя тавары», але тут ужо нешта фальшывіць. Нешта чуецца ненатуральнае. Гэтак робіцца са мною і не раз, і не два — кожны раз, калі чытаю беларускі тэкст. Што ж за прычына?

Аднаго разу сустрэў сваю знаёмую. Артыстку. Родам — вясковая. Колькі гадоў таму назад скончыла Тэатральна-мастацкі інстытут. Дзівіць у ёй тое, што, будучы актрысаю, яна не толькі не забылася на хатнюю, сямейную сваю мову, а зрабіла яе патрэбаю прафесіі і надала ёй нейкай натуральнай вабнасці, я

сказаў бы — інтэлігентнасці. Кожны ж, мабыць, не раз чуў, як нехта, асабліва са сцэны ці ў тэлеперадачы, стараючыся гаварыць па-беларуску, надта падкрэслівае гэтую сваю стараннасць. І, вядома, адразу відна наўмыснасць. У мове ж мае знаёмае я ні разу не пачуў ніякай натугі.

Яна мне паскардзілася:

— Патрэбна прошва тонкага блакіту, ды не магу знайсці. Заходзіла ў «Тысячу драбязы», але й там няма.

З усяе гэтае гаворкі мне пачулася толькі «Тысячу драбязы», — і як жа на месца стала ўся фраза! І я, ведама, успомніў, што гэтага слова (дробязей) людзі ніколі не гавораць у множным ліку. Гэтак жа, як не гавораць і ў адзіночным. Бо драбяза, дробязь — гэта сукупнасць, зборнасць, няпэўная колькасць прадметаў, якая ўспрымаецца як адно цэлае.

Калькавы пераклад жывой гаворкі — гэта заўсёды ненатуральнасць. А ўсякая ненатуральнасць ніколі не дасць пачуцця.

*1984*

## СВЯТЛІЦА

Чытаю Мальдзісаў «Оксфардскі дзённік» — з падарожжа ў Англію. Вельмі прыемнае ўражанне. Не толькі ад граматнага, свабоднага публіцыстычнага пісьма, а найперш ад цікавых вестак, нагляданняў, разважанняў, ацэнак бачанага. І каторы раз усцешана пераконваюся, што ён не толькі прыродны даследчык старажытняй літаратуры, а і прыродны знавец мовы. У гэтым артыкуле ён пусціў у людзі два новыя словы — гасцёўня і абсталюнак. Іх няма ні ў якіх слоўніках, але яны напісаны з кроўным адчуваннем прыроды мовы.

Можна было б пажадаць шчаслівай дарогі гэтым словам, бо гасцёўня безумоўна лепш за гасціную. Гасціная ўжо тым блага, што не гучыць натуральна з-за свайго штучнага словаўтварэння: мае форму прыметніка, а гэта ж — назоўнік.

Але ці варта наогул выдумляць самакат, калі на ім даўно ездзяць. Ёсць жа ў нас найдзіўнейшае даўняе народнае слова — святліца. Якая ў ім чысціня і святочнасць! І як па-сённяшняму свежа раскрывае яго «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы»: «Светлы, чысты пакой у хаце, у якім звычайна прымаюць гасцей».

Хіба патрэбны гэтакаму слову памагатыя?

*1984*

# ХОРАША

Слова любіць, каб яму верылі. Вельмі нядобра, калі ў мове натыкаешся на нейкія нечаканасці, незвычайнасці, як кажуць, навацыі. Яны шкодзяць чытанню, запыняюць увагу, часамі прымушаюць па некалькі разоў перачытваць тэкст. Самая лепшая і самая высокая адзнака мовы, калі яе зусім не чуеш. Якая гэта мілата: чытаеш добрую кнігу, і нішто не замінае быць нішком у чарадзейным свеце, па якім водзіць нас аўтар.

Апошнім часам неспадзяваныя навацыі ў мастацкай літаратуры пачалі надавацца слову «хораша». Мы прывыклі да яго, да гэтага добрага, самавітага, ручнога слова, верым яму, бо яно нясе вельмі дакладныя адчуванні. Хораша можна жыць у сям'і, хораша выглядаць, хадзіць, апранацца, хораша спяваць, іграць на гармоніку, — ва ўсіх канструкцыях з гэтым словам ёсць свая краса і праўда. Вы чуеце, як усё тут да ладу, на сваім месцы, нічагусенька не фальшывіць, не кідаецца ў вочы. А вось як моднічаюць некаторыя пісьменнікі.

Пішуць у сваіх творах:

(садам) «нехта хораша цікавіцца»; (печ) «была хораша напалена»; (яна) «хораша з ім пагутарыла»; (да навучання) «хораша падрыхтаваныя хлопцы».

Гавораць між сабою:

— Мне сёння хораша працавалася.

— Я хораша сябе адчуваю.

— Хораша чытаецца гэтая кніга.

— Хораша, што вы ўсе такія да яго добрыя.

І піша гэтак не якая малеча, не пачынальнікі, а пурысты слова, якіх я не адважваюся нават назваць.

А як жа па-людску выглядалі б усе пададзеныя фразы, калі б яны напісаліся прывычна, проста, у лучнасці з хатнім і таксама верным словам «добра». *Добра спалася, добра працавалася, добра чулася* або *пачувалася;* была *добра напалена* печ, былі *добра падрыхтаваныя* да навучання хлопцы.

Праўда ж?

*1981*

## АПАСІЯНАТА

Выйшаў з друку раман нямецкага пісьменніка Альфрэда Аменды пра Бетховена. Перакладчыкі Гундула і Уладзімір Чапегі тут жа прымчалі яго мне як навагодні падарунак. Я ж тым часам зацікаўлена яго чакаў.

Выданне выйшла вартае Бетховена. Нават з выгляду. Беглы, узрушаны, раскудлачаны накід галавы на чорным бяздонні дэрмаціну, трывожна-напружаны шрыфт унізе: «АПАСІЯНАТА». Цудоўны падарунак. Дарагі. Прыстойны. Салідны. Бездакорна аформлены паліграфічна. Да ўсяго — шчыры дарункавы надпіс.

Як толькі Чапегі пайшлі, я з трапяткою нецярплівасцю пачаў любавацца навіною. Ну вось, на цэлы вечар будзе радасці — гартаць, перагортваць, нахапкам смакаваць то там, то там адгорнутую старонку. Адгарнуўся пачатак:

«Дзень быў хмуры і маркотны», — прачытаў я. І далей чытаць пачакаў. Як гэта — дзень хмуры? Трэба ж — хмурны! Або — хмарны! «Дзень быў хмурны і маркотны».

Я прагледзеў усе слоўнікі. І старыя, і новыя, і найноўшыя. І «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы». І самы свежы «Русско-белорусский словарь», мяркуючы, што калі прыйшла пара нейкае беларускае карэннае, але стараватае слова мяняць на свежае (што часамі робіцца без ніякага дбання аб культуры мовы, асабліва газетамі, і без ніякага папытання ў Інстытуце мовазнаўства), калі прыйшла такая патрэба, то ў апошнім слоўніку гэты працэс мог бы ўжо абазвацца. Але не — усё нармальна: слова «хмуры» ў беларускай мове нідзе не зафіксавана.

Хто ж паправіў? Няйначай як ён думаў, што робіць добра. Бо ў Чапегаў «хмурага» не магло быць.

Спакайней думаць, што гэта проста недагляд.

*1984*

## КЛОПАТ

Слова любіць, каб з ім раіліся, тады яно будзе служыць мове праўдзіва.

Калі я сумняваюся ў праўдзе нейкай фразы, я гавару яе ўчуткі. Або ўяўляю другога чалавека, найлепш даўняга суседа ці знаёмага, труханаўца, або нават тату ці маму, і прыслухоўваюся, як снуецца тая фраза ў іхніх вуснах. Калі хоць трошкі ў чым фраза

фальшывіць, я прымушаю маіх уяўных памагатых вар'іраваць яе да таго часу, пакуль не пачую, што праўда гучання знойдзена.

Вось чую татаў голас:

— Усякага клопату набралася, трэба ў Слуцак зьезьдзіць. Купіць касу, пераплётнага дроту ды гаршкі пераплесці.

— Многа клопату далі тыя дажджы.

— Ат, толькі таго й клопату, — гэта калі нешта не ўдалося, але шкадаваць не варта.

А вось мамін голас:

— Колькі клопату далі тыя кураняты.

— Не той клопат, дык той, без клопату не пражывеш.

Палясоўшчык з Гарахоўкі:

— Клопату не абабрацца — сякуць лес.

Ніхто, нідзе, ні адненькага разу мае памагатыя не сказалі гэтага слова *клопат* у множным ліку — *клопаты.* Мабыць такі, жывая гаворка гэтага слова ў множным ліку не мае. Як бачым, множнасць перадаецца другім спосабам: *усякі* клопат, *вялікі* клопат, *колькі* клопату, *не той, дык той* клопат, не *абабрацца* клопату.

Аднак жа кніжная практыка карыстаецца і множным лікам: дзякаваць за клопаты, было многа дробных клопатаў. Няйначай як гэта тлумачыцца тым, што словам *клопат* найчасцей мы перадаем другое, вельмі блізкае разуменне — *турботы.* У рускай мове, якой мы карыстаемся штодня, яно і перадаецца вельмі падобным словам — хлопоты. Адсюль і множны лік, перанесены на клопат.

Думаю, што гістарычная праўда слова *клопат* ляжыць усё ж у народнай практыцы, з лікам адзіночным.

*1984*

## АДНОЙЧЫ

Слова любіць, каб над ім падумалі, тады ў яго будзе больш упэўненасці.

Каму неразгадана пашанцавала, дык гэта ціхаму, непрыкметнаму слову «аднойчы». Здаецца, яго нават не заўважаеш, але яно само заўсёды аказваецца на падхваце. Ніколі я не дазнаваўся, адкуль і калі яно ўзялося. Што яно не народнага паходжання, дык гэта факт, бо яго вы не знойдзеце ні ў казках, ні ў легендах, ні ў паданнях. Праўда, знарок я гэтага не вывучаў, але памяць, здаецца, не маніць. Няйначай як яно паявілася ў часы фарміравання літаратурнай мовы як калька, калі прыходзілася

з чужых прымернікаў (ад слова *прымерваць, браць за ўзор*) рабіць нешта сваё.

І вось, нягледзячы на цьмянае сваё паходжанне, гэтае слова заваявала ўсю літаратуру. Ім карыстаюцца пісьменнікі, журналісты, публіцысты — усе пісучыя людзі, — нават не думаючы, што карыстаюцца не асноўным сродкам маўлення, а яго выпадковым заменнікам. Вядомая рэч, што карыстаўся ім і я.

Ды аднаго разу сталася вось што. Чытаў я кнігу з мілаю назваю «Дрэва кахання». Выдана яна багата: на мелаванай блішчастай паперы, з раскошнымі малюнкамі абаіх Паплаўскіх і, галоўнае — з пазначэннем на тытульным лісце: легенды, паданні, сказы. Што я не разумею слова «сказы», бо гэта тое самае, што і паданні, мяне надта не патрывожыла. Галоўнае было, што зараз я нацешуся хараством і надыхаюся водарам народнай мовы.

Але з першых жа старонак расчараваўся: мова фальшывіла. То там, то там тканіна легенд і паданняў стылізавалася пад сённяшнюю паэтыку, перадавалася сённяшнімі канструкцыямі і самымі свежымі сённяшнімі словамі. Вось такімі, напрыклад: «Малодшы ж брат *настойліва* працярэбліваў дарогу», «І душа ейная была ад усіх людзей *адменная»,* «Цяжкую ты мне работу задаў, ды я не баюся яе, зраблю табе з *задавальненнем»,* «Войты нібы і не чулі, *працягвалі* біць Рыпіну». І гэтак бадай што на кожнай старонцы.

Было ў той кнізе і слова «аднойчы», не раз упомненае. Па-першае, яно дало магчымасць пераканацца, што, будучы працавітым і папулярным, аднак жа ў легендах і паданнях таксама фальшывіць, у ім няма каларыту даўнасці, яно спароджана нашай цяпершчынаю, старажытнасць яго не знала. Па-другое, што мы, пісьменнікі, мала задумваемся над службаю слова. «Аднойчы» і «аднаго разу» — перадаюць тую самую сутнасць, аднак жа ў кожным разе акраса перадачы свая.

— Аднаго разу пазваў мяне аграном дый кажа... — гэтак гаварыцьме просты чалавек, селянін, калгаснік, які ў сваёй мове і нарадзіўся.

— Аднойчы са мною здарылася бяда... — гэтакім, кніжным стылем скажа сённяшні інтэлігент.

Праўда вобраза — вельмі тонкая рэч. «Дрэва кахання» якраз і падкрэсліла, як гэта відно, калі змест і форма не надта дагледжаны.

Тым часам прызнаюся, што выпадак гэты памог і мне. Рыхтуючы да перавыдання «Некалькі хвілін чужога жыцця», шмат

дзе я адмовіў у веры гэтаму ціхаму, але пралазліваму слову «аднойчы».

*1984*

## ДАБРЫНЯ І ЯШЧЭ СЁЕ-ТОЕ

Слова любіць, каб яго шанавалі.

Уяўляю сабе, што цяперашні наш заможны чалавек, можа, нават пісьменнік, едучы недзе на ўласных «Жыгулях» ці нават на «Волзе» і ўбачыўшы прытачны, поўны дзівоснага хараства і лагоды краявід, спыніцца, вылезе з машыны і зачаравана скажа:

— Божухна, якая дабрыня!

А што апошнім часам каторыя з пісьменнікаў словам *дабрыня* падменьваюць *дабрату* і *добрасць* — гэтым праўдзе слова не памагаюць.

*

Ёсць у нас некалькі груваскіх, непаваротлівых, кніжных словазлучэнняў, якіх вымаўляць нязручна і цяжка. Напрыклад: неаднаразова, наведвальнік, распаўсюджвальнік. Кожны раз так і хочацца памагчы ім стаць зручнымі, дабрэйшымі, свойскімі.

І, можа, варта такі ім і памагчы: замест «неаднаразова» пісаць так, як гаворым — не раз; у «распаўсюджвальніка» і «наведвальніка» хоць бы выкінуць адзнаку непатрэбнай шматразовасці, надаць хоць кроплю кароткасці і гаварыць *распаўсюднік* і *наведнік*.

*

Вельмі ж не пашанцавала прыназоўніку «каля». Усе ўсечаныя формы — мо, трэ, хай, шчэ — ляжаць у запасе, імі карыстаюцца хіба што паэты як стылістычным прыёмам, дзеля памеру і рытму. На ўвесь рост, на поўную сілу працуюць нармальныя словы — можа, трэба, няхай, яшчэ. Толькі аднаму гэтаму добраму «каля» няма ходу. Усё роўна як ім пацяшаюцца: усё «ля» ды «ля».

У тым, што яно гэтак незаслужана занядбана, вінаваты толькі пісьменнікі.

*1984*



# ПЯРЭГАЛАС

## СЛЕД ПАМЯЦІ

Увесь мудры, дзівосны свет, кожны раз па-новаму пазнаны, я бачу толькі сваімі вачыма. І нават не думаю, што гляджу праз акуляр, у якім асталіся сляды ўсіх, хто жыў і глядзеў да мяне, — тысячы і мільёны гадоў чалавечае дзейнасці.

Па праву пераемнасці гэтакі след нашчадкам павінен пакінуць і я, сённяшні чалавек.

## БОГ

Бог — гэта тое, у што верыш. Без бацькаўшчыны ў душы не будзе ніякага Бога.

## АЗДОБА І СУТНАСЦЬ

Звычайна мясціны, якія не ўдаюцца, над якімі доўга працуеш, думаючы, што яны вельмі важныя, пасля выкрэсліваеш як лішнія. Гэта значыць, што ты рабіў іх сілком, як аздобу, а не як сутнасць.

Няма лепш, калі думка запісваецца на першым імгненні.

## ДАМАВІНА

Я баюся людзей з упартымі поглядамі, яны могуць нарабіць многа бяды.

Упарты чалавек нечым падобны на дамавіну: у ім нічога няма жывога.

## ІСЦІНА

Часам бывае, што найкарацейшую дарогу да ісціны дае памылка.

## ПАЎНАТА

Нават першыя, можна сказаць, яшчэ не зусім дасканалыя творы Кузьмы Чорнага забіраюць нашу ўвагу, бо яны — пра чалавечы лёс.

Часта мы праз меру займаемся пейзажамі, ненагружанымі дыялогамі, пустымі азначэннямі (злосна зірнуў, ласкава сказаў), калі гэтых азначэнняў сам тэкст не нясе.

Толькі рух — паварот душы, думка, з'ява — дае твору паўнату.

## КАХАННЕ

Мне здаецца, што і пасля смерці я буду памятаць і буду шчаслівы, што нехта на зямлі вельмі любіў мяне.

## МОВА

Можна грэбаваць чалавекам, а моваю нельга грэбаваць, бо гэта народ.

## ЖАДАННЕ

Паляванне. Рыбацтва. Колькі пра гэта напісана! А мне якраз прычына падумаць, як многа чаго ў жыцці астаецца няздзейсненым.

## УХВАЛЕНАЕ ГЛУПСТВА

Нават глупства можа набыць славу мудрасці, калі яму не пярэчыць.

## МАРЫ

Мы заўсёды любім больш мару, як яву. Кожная ява абавязкова шукае новай мары.

Гэтак, мабыць, і трэба, каб ніколі не пераставаць шукаць.

## БУКІНІСТЫЧНАЯ КНІГА

Не дай божачка бачыць сваю кнігу ў скупачным магазіне. Міжволі тады падумаеш: значыцца, ты напісаў дрэнна і на нечай паліцы тваёй кнізе месца няма.

Усё роўна як цябе выракліся самыя лепшыя твае сябры.

## ПАСПЕШНАСЦЬ

Здагадаўся, чаму я не люблю аднаго моднага, даволі вядомага пісьменніка. Нечым ён падобен на мяне ў пару мае літаратурнае маладосці. Ад тых маіх твораў мне цяпер аж нядобра, лепш бы іх не было.

## СТРАТЫ

У кожнага з нас ёсць сябры, таварышы, знаёмыя. І мы думаем, што добра іх ведаем. Божухна, як гэта далёка ад ісціны! Папытайцеся ў самога сябе — перад кім вы адкрыліся хоць бы за гэты дзень? Ні перад кім! Проста вас бачылі такім, як даўно прывыклі: вонкавы вобраз.

А ўвесь той працэс, што ў вашым духоўным жыцці ідзе кожную хвіліну, астаўся ад усіх закрыты.

Калі вось гэтак вы хаваеце сябе ў літаратуры, вы многа траціце.

Чытач адразу пазнае, што гаворыце вы языком, а трэба — душою.

## ХАДА

Многа напісана пра вочы, што яны з'яўляюцца адлюстроўкам душы, псіхічнай арганізацыі чалавека. Напісана і пра губы. Але, можа, нічога не выяўляе чалавека так, як яго хада.

Вось прайшоў нехта наперадзе, і табе робіцца нядобра ад адчування, што гэта рушыць цяжкая, упартая, сляпая сіла, якая не знаецца з такімі тонкімі нюансамі душы, як ласка, пяшчота, дабрата, каханне, чуласць, спагада.

І ўся гэтая трывога толькі ад таго, што чалавек прайшоў непрыгожа, няўклюдна, як кажуць, па-мядзведжы — наскамі ўсярэдзіну.

На жаль, бывае, гэтак ходзяць і жанкі, нават маладыя дзяўчаты. Дзе ўжо там думаць пра нейкую жаноцкасць.

Хаду таксама трэба выхоўваць. Як інтэлект. А яны звязаны між сабою, я ў гэта веру. Чалавек не мае права быць непрыгожым. І нядобрым.

## ПАТРЭБА ДУШЫ

Вечар. Цішыня. Кнігі за шклом на паліцах. Што пачытаць?

Адны даўно прачытаныя, другія — нават нечапаныя. Дзіва: і чытаць іх не хочацца. Спрабую каторы раз — не ідуць яны. Нікуды цябе не завуць.

І тады зноў бяруся за тыя самыя, па многа разоў чытаныя, перачытаныя, кожны раз краталыя, варочаныя, — і зноў чуеш у іх нешта вечна патрэбнае тваёй душы.

Мабыць, таму, што пісаліся яны даверліва, як споведзь перад табою. Як жа мала трэба мець вялікаму пісьменніку, каб да яго ўсе гарнуліся, — толькі самога сябе. І як многа — каб у ім кожным бачыў таксама самога сябе.

## МАЛЕННЕ

Кожны чалавек у некім пакідае ўспамін пра сябе. Хто быў знаёмы, хто блізкі, хто любы — кожнага ў свет павяла свая дарога. Як жа не хочацца думаць, што ў чыёй-небудзь памяці мог ты пакінуць горкі след.

## НОЧ

Якая гэта мілата — праседзець ноч за сваім сталом! За работаю, што табе даражэй за ўсе адпачынкі.

Астаешся на зямлі толькі ты і створаны табою свет чужых жыццяў, лёс якіх ты будзеш вырашаць сам.

*1962—1982*

## ДЫСЕРТАЦЫЯ

Я быў неафіцыйным апанентам у чалавека, які абараняў дысертацыю на годнасць кандыдата гістарычных навук. Пасля ён папрасіў — ці не магу я накідаць сваю прамову на паперку, бо яе трэба далучыць як дакумент да абароны.

Назаўтра па тэлефоне я папытаўся, дзе ён жыве, сказаўшы, што збіраюся рабіць праходку, дык заадно прынясу яму і тую паперку.

Гэта былі малады хлапчына і яго маладая жонка. Яны ўпрасілі мяне зайсці на хвілінку да іх.

Пасля, пад вечар ужо, яны правялі мяне дадому. Па дарозе мы гаварылі ўсё пра яго ж дысертацыю, часамі нават спыняліся, калі гаворка патрабавала нейкіх экскурсаў. Ён распытваў пра тых, каго не заспеў убачыць, — Платона Галавача, Васіля Каваля: той час быў тэмаю яго даследавання.

Калі развіталіся, я зірнуў ім услед. Яны пайшлі ў кірунку да парку, узрушана заспяшаўшыся. І я падумаў: колькі ў іх было добрага такту, каб не даць мне здагадацца, што я адабраў у іх гэтулькі маладога, шчаслівага часу.

***1972***

## ЗАБЫТАЕ ДЗІВА

На праспекце, на скрыжаванні, стаіць цуг легкавых машын, спыненых чырвоным светафорам; на тратуарах — тоўпішча спыненых людзей. Аказваецца, дзеля каня, запрэжанага ў парожні балагольскі воз. Конь імкліва перабягае вуліцу, высока ўскідваючы ногі, весела наставіўшы вушы, — рыжа-ільсняны, дагледжаны, гладкі, першабытна-прыгожы, — як бы хочучы паказаць, што людзі несправядліва забыліся на яго, насяліўшы горад толькі машынамі.

***1972***

## ПРАДАДЗЕНЫ АЎТОГРАФ

У букіністычным магазіне гартаю кнігі. Колісь я вельмі любіў шворыць па паліцах, на якіх стаялі старадрукі. Цяпер хадзіць няма калі, дый кніг на самай праўдзе букіністычных няма. Найбольш збываюць непатрэбшчыну, якую купілі ўчора, а сёння ўжо могуць развітацца з ёю. Старыя, папраўдзе дарагія кнігі да магазінаў не даходзяць, іх скупляюць на хаду або непасрэдна ў таго, хто мае патрэбу прадаць, бог ведае якім спосабам пранюхваючы чужую бяду. Бо добрая кніга прадаецца толькі калі напаткае чалавека бяда.

Па даўняй прывычцы часамі я і цяпер заходжу ў букіністычны магазін.

І вось гартаю толькі летась выдадзеную кнігу. Раман. А на ім надпіс: «Дарагому Сяргею. На добры і доўгі ўспамін аб нашай

школе і аб нашай самай шчырай дружбе. На дзень тваіх, ужо дарослых імянін — таксама ад бадай што дарослай ужо Валі».

Я загарнуў кнігу і скоранька выпусціў з рук. Здалося, што на імгненне я ўбачыў тую тоненькую, ласкавую і чыстую дзяўчынку Валю, і ў вачах яе боль, што ўсе мы цяпер чытаем яе надпіс, давераны толькі аднаму чалавеку.

*1969*

## ДОБРАСЦЬ

Пад весну мне захацелася купіць новы плашч. І пайшоў я ў «Сінтэтыку» — магазін на праспекце, светлы, раскошны, нейкі вельмі ж лёгкі на чалавечую зычлівасць.

Дзяўчынка, што стаяла пры ўваходзе ў аддзел, чарнявая, высокая, тоненькая, з гладка спушчанымі доўгімі валасамі, скупая на ўсмешку, нават строгая, сказала, што ад леташняга завозу ў іх мала чаго асталося. На ўсякі выпадак я перамераў увесь астатак тых леташніх плашчоў — яны не маглі парадаваць ні матэрыялам, ні колерам, ні фасонам. Засмучоны, я ўжо выходзіў з магазіна, калі дзяўчынка захацела мяне абнадзеіць.

— Заходзьце да нас, — запрасіла яна. — Неўзабаве мы чакаем новага завозу.

— Дзякую.

— Чакайце! — гукнула дзяўчынка, калі я быў ужо ў дзвярах. — Можа, дома ў вас ёсць тэлефон?

— Ёсць.

— Дайце я запішу.

І праўда, можа праз тыдзень у тэлефонным званку я пазнаў голас дзяўчынкі з «Сінтэтыкі». Яна сказала, што ў магазін прывезлі новыя тавары і каб я прыйшоў.

Гэтае дзяўчо перамерала на мне бог ведае колькі плашчоў. Розных фасонаў, колераў, доўгіх і кароткіх, шырокіх і вузкіх, з гесткамі, з блішчастымі спражкамі, з кішэнямі накладнымі і ўшыўнымі, з буйным і дробным швом, — прыглядаючыся, што больш ідзе да майго росту, паўнаты, да маіх воч, круціла мяне і зблізку, і здалёк і нарэшце сказала:

— Вазьміце вось гэты: ён вас і маладзіць, і страйніць, наогул гэта вельмі добры плашч.

А спакаваўшы і аддаючы мне ў рукі пакунак, светла ўсміхнулася сваёю ўжо не строгаю, а самаю цёплаю ўсмешкаю і сказала:

— Дзякую.

Нічога не здарылася вялікага ці важнага. Але я ішоў дадому, лёгка несучы свой пакунак, і на вуліцы было многа сонца, і ўсе твары насустрач ішлі шчаслівыя, як бы да ўсіх людзей сёння дакрануліся нейкія добрыя тайны.

*1979*

## ПЕРАПАДЛІК

Аднаго разу, прыйшоўшы з работы, дома я застаў невясёлую карціну. Каля пісьмовага стала на нізенькім зэдліку сядзела бабуля, вельмі расстроеная. Аказалася, перад святам яна хацела ў пакоі навесці чысціню, знячэўку з палічкі скінула пляшачку з чарнілам, і яно заліло стол, кнігі на ім, канапу, крэслы.

— Што ж будзем рабіць? — пыталася яна голасам, поўным слёз.

— Кнігі і стол няхай сабе астаюцца з плямамі, нічога страшнага няма, а на крэслах і на канапе давядзецца мяняць абшыўку. Пазвонім на фабрыку, прыедуць, забяруць, а прывязуць новымі. Вось і ўся бяда.

Але праз хвіліну я паправіўся.

— Чакайце, — сказаў я. — Цяпер век высокай хіміі, не можа быць, каб не знайшлося спосабу ад чарнільных плямаў. Схаджу пашукаю.

Самы папулярны магазін у нас, ведама, «Тысяча драбязы». Але ў секцыі хімікатаў ад сцяны да сцяны была працягнута вяроўка, а на ёй прычэплены ліст паперы з надпісам: «Перападлік».

Усё там, за вяроўкаю, было зрушана з сваіх месцаў, перававарочвана, састаўлена з паліц на падлогу. Пры сцяне стаялі вінаватыя гэтага пярэтрусу — тры дзяўчынкі, усе маладыя і гарэзна прыгожыя. Яны зрабілі сабе перапынак у нудным пералічванні ўсіх гэтых слоікаў, цюбікаў, бляшанак, скруткаў, скрынек, і адна з іх, сярэдняя, самая маладая, самая гарэзная і мілая, з валасамі мяккімі, відаць, нядаўна пафарбаванымі ў светла- ільняны колер, весела расказвала нешта сяброўкам. Даволі гучна. Я зразумеў, што расказваўся ўчарашні выпадак: яна не хацела знаёміцца з хлопцам, якога звалі Васем. «Ні Васі, ні Вані мне не патрэбны!» — аглушыла яна хлопца. І цяпер усе трое яны заходзіліся найшчаслівейшым маладым смехам, што ўчора не пашанцавала ў заляцанні нейкаму Васю. Я вычакаў хвіліну зацішку ў іх размове і папытаўся:

— Дзяўчаткі, скажыце, ці ёсць у вас плямазмывальнікі?

Тая сярэдняя, самая мілая і гарэзлівая, бліснуўшы рассмешанымі вачмі, бойка адсекла:

— А мы не працуем!

— Бачу, — згадзіўся я. — Але я прасіў бы сказаць, каб ведаць, ці трэба будзе мне прыходзіць да вас другі раз.

— Надакучыла гаварыць! — яшчэ раз секанула дзяўчына і пачала далей расквечваць сваю ўчарашнюю прыгоду.

Многа пра што падумалася мне ў гэтую хвіліну. І пра яе маладую, чыстую прыгожасць, і пра школу, дзе яна вучылася ці, можа, вучыцца і цяпер, і пра дом, дзе яе, мабыць, вельмі любяць і аберагаюць ад усякае крыўды. І пра тое, што ў яе наперадзе ўсё жыццё, ад якога яна чакае ласкавасці, чуласці, дабрасці, далікатнасці душы.

Гэтым разам доўга ішлося мне дадому.

*1977*

## РАТУША

Гарады, у якіх пааставаліся гэтыя помнікі даўніны, неяк іначай нават выглядаюць. Ратуша — гэта як бы гістарычная даведка на тое, што горад быў самавіты і слынны, што ён быў асяродкам грамадскага, палітычнага і культурнага жыцця свае акругі і варты цяпер павагі нашчадкаў. Вось якое азначэнне дае гэтаму слову тлумачальная літаратура: 1) органы грамадскага самакіравання, 2) будынак, у якім мясціліся гэтыя органы самакіравання.

Грунтоўныя весткі дае пра гэта Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Ратушы ставіліся ў цэнтры горада, звычайна на рыначным пляцы ці на ўзбярэжжы рэчкі, завяршаліся шмат’яруснаю вежаю з гадзіннікам, звонам, назіральнымі пляцоўкамі. Галоўным памяшканнем у ратушы была парадная зала для ўрачыстых актаў, пасяджэнняў магістрата, тэатральных паказаў.

На Беларусі ратушы ставіліся звычайна з крамамі, аўстэрыямі, гасцінымі дварамі. Наезджыя купцы ў падвалах і на першых паверхах маглі хаваць свае тавары, там жа стаялі мерныя бочкі на збожжа, гарадская вага. У ратушы мясцілася канцылярыя самакіравання, гарадская казна, зберагаўся архіў з ухваламі рады і выракамі ратушных судоў.

Словам, ратуша надае гораду свой адмысловы, непаўторны сілуэт. І калі я бываю ў горадзе, у якім па шчаслівым выпадку асталася ратуша, я перш-наперш іду паглядзець яе. Яна — як сімвалічны знак: калі на месцы, значыцца, усё тут у поўным

парадку. Мне падабаецца ратуша ў Рызе, у Таліне, — якое стромкае, імклівае хараство! Талінская асабліва — з яе аркаднаю галерэяю, чорным дрэвам разьбяной аздобы, велічна-халодным змрокам пакояў; з фігурнаю вежаю над тарцоваю сцяною, з танюткім спічаком у блакітнай вышыні, на які нанізаны блазнотна-слухмяны флюгер у выглядзе гарадскога воіна, якога завуць Стары Toомас; з брукаваным шэра-выслізганым пляцам перад ёю, з нізкім, у зямлю ўплясканым дамком ратушнай аптэкі, заснаванай больш за пяцьсот гадоў таму назад, аб чым на металічным ажурным кранштэйне паведамляе шыльда з змяёю, што, абкруціўшыся колцам па тоненькай ножцы, у медыцынскую чашу аддае свой яд.

На Беларусі, па прычынах розных, найбольш ад заваёўніцкіх ліхалеццяў, а часамі ад звычайнай нашай неахайнасці, многа дзе ратушы не збераглiся. Як навіну можна іх убачыць у Віцебску, у Нясвіжы. Зніклі яны ў Магілёве, Чавусах, Шклове, Слоніме, Гродні. Мінская ратуша знікла пасля вайны ўжо. Яна стаяла на плошчы Свабоды, на самым пачатку цяперашняй Рэвалюцыйнай вуліцы. Чатырохкантовая вежа была як бы прыстаўлена да фасаднай сцяны і вытыркала на пляц так, што тратуар праходзіў пад скляпеннем яе першага паверха.

Дасціпнага хараства Мінская ратуша не мела, але мне шкода яе. Яна звязвала наш дзень з даўнінoю, без якой ні ў чалавека, ні ў горада не хапае ў біяграфіі. Мне шкода яе эмацыянальна. Тым больш што памятаю яе каменныя ўсходкі, строгую немату гулкага калідора, вузкія падслепаватыя вокны, глуха ўмураваныя ў тоўстыя сцены. Нечаканая і апошняя сустрэча ў ёй была ў мяне з Міхасём Зарэцкім, Платонам Галавачом і Васілём Кавалём.

Калі б я быў дойлід ды меў нейкае горадабудаўнічае права, дык і цяперашнія гарсаветы праектаваў бы з вежамі, як ратушы. З гадзіннікамі, з іх заўсёды нейкім роздумным, свойскім звонам. І на плошчах.

*1974*

## ЗАЛАТЫ КРЫЖЫК

Ульяна ляжыць у пасцелі. Цвёрдай, уплясканай безнадзейным ляжаннем ужо каторы год. Пры светлым розуме і здаровым сэрцы. Не валодаюць ногі.

Яна ведае чаму. Памятае, як вялі яе за сяло шасцёра фашысцкіх вылюдкаў і іх паслугачоў з прыстаўленымі к спіне штыкамі, каб сказала, што ў спіску, які ёй прачыталі, усе сем-

наццаць чалавек камуністы і партызаны. Божухна, сама сабе шаптала яна, не карай, што была трохі адступілася ад цябе, я зноў пачну верыць самаю вялікаю вераю, толькі дай мне сілы сцерпець любыя катаванні і здзекі, не назваўшы ні аднаго імя.

Пасля таго адабрала ў яе паясніцу: яна ледзьве магла дайсці да парога. Потым адпусціла і нават не абзывалася, можна было думаць, што ўсё шчасліва прайшло. Ды вось жа праз многія гады вярнулася і прыкавала назусім к пасцелі.

Распытаўшы, як звычайна, пра ўсё ў мяне, яна расказала пра калгас, — што ў іх цяпер талкавіты старшыня, што нарэшце і Труханавічы пачалі жыць заможна. Раптам задумалася, нешта ўспамінаючы.

— Мабыць, ты, братка, і не ведаеш, — сказала яна, — што хросны ж некалі надзеў табе залаты крыжык. Ну не тады, як знячэўку трапіўся тату на дарозе, а на хрысцінах, бо перш з'ездзіў жа дадому. На вельмі далікатным, тоненькім ланцужку, аж у рукі яго браць было боязна. Мама тады яго недзе схавала, той крыжык, а потым і не знайшла. Мы ўжо і маўчалі пра яго, і не ведалі, што думаць: на дабро гэта ці на бяду.

Яна памаўчала, як бы выбіраючы, гаварыць далей ці не.

— Ды неяк жа, незадоўга перад тым, як мне легчы, — сказала яна далей, — папрасіла я суседскіх хлопцаў, каб паправіць паркан ад бацюшкавага дворышча, дый знайшла яго, калі папраўлялі шулы. Здалося, нешта бліснула ў зямлі, я капянула рукою, і аж сэрца закалацілася: ён.

Зноў памаўчала, не асмельваючыся ў нечым адкрыцца. Але нарэшце слабенька махнула рукою.

— То от жа і сазнаюся табе: дачакалася я вечара, і калі добра ўцямнела, выйшла за агароды, размахнулася і кінула яго як можна далей. Не гневайся, братка, але я была не рада, што ён знайшоўся. Не трэба табе той крыжык. Долі табе ён не даў, а няшчасця й так хапіла.

Ні тады, ні пасля я не ўмеў пагадзіць са знойдзеным крыжыкам Ульянінае трывогі. І ўсё мне здаецца, што скрозь яна ведала нейкія чалавечыя тайны, якіх ніколі не ўведаю я.

*1982*

## ІМЯ

Як толькі ў Ленінградзе выйшла кніжка «Поворот у сосны», тут жа Усесаюзная кніжная палата прыслала мне ліст. У ім пісалася, што ў Генеральным каталогу кніжнай палаты я зарэгістраваны як Янка Скрыган, а на кнізе стаіць імя Ян.

Што лічыць правільным?

«Вельмі просім Вас неадкладна паведаміць нам... а таксама сказаць, як у далейшым Вы будзеце пісаць сябе на кнігах.

Весткі патрэбны нам на тое, каб уніфікаваць інфармацыю аб аўтары ў Генеральных каталогах Усесаюзнай кніжнай палаты, Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна і другіх буйнейшых бібліятэк краіны».

Вунь якая гэта сур’ёзная рэч.

Вядома, я тут жа адказаў, што ўсё будзе так, як было: за літаратурнае імя астанецца Янка.

Пыталіся і сябры: што здарылася? Я тлумачыў, што выйшла непаразуменне: мастак на вокладцы прапусціў кропку, бо я звычайна пісаў імя скарочана — Ян., а папраўляць не было ўжо калі.

Але і там, і там я гаварыў няпраўду. З сваім імем у мяне нелады ішлі даўно. Яшчэ на самым пачатку, калі была завядзёнка друкавацца пад псеўданімам, я не без вагання напісаў імя Янка. Напісаў і сумеўся: ці добра зрабіў? Мне здавалася, што гэтак звацца можа толькі Купала, што нікому другому гэтакім імем карыстацца няможна.

Час ішоў, але адчуванне няёмкасці не праходзіла. І ўжо тады, у маладосці, каб хоць трошкі, хоць зрокава зняць падабенства з Купалавым імем, сваё імя я пачаў пісаць скарочана — Ян. — з кропкаю. А часта ставіў проста адну літару — Я. Але карысці ад гэтага было няшмат, бо, не ведаючы маіх хітрошчаў, рэдактары ці карэктары найчасцей замест кропкі дапісвалі імя да канца, каб выходзіла Янка.

Такая дваістасць у напісанні спадарожнічала мне даволі доўга. Аднак жа перайсці на Івана я не мог асмеліцца: гэта было не ў нашых літаратурных традыцыях і не ў маім жаданні, бо імя гэтага я не любіў ніколі. І больш за ўсё за памяншальна-ласкальную яго форму Ваня. Імя ж Іван упершыню ў нас паявілася, здаецца, толькі ў пасляваеннай літаратуры: Іван Шамякін, Іван Мележ. Потым больш смела пайшлі і другія Іваны: Новікаў, Пташнікаў. Традыцыя пахіснулася.

Тым часам я пачаў сур’ёзна схіляцца да думкі, што Янка — гэта памяншальная форма. У народзе так бытавала. Я ўспамінаў,

каго ў нас, у Труханавічах, гэтак звалі. І выходзіла, што найбольш малалетак ці старых дзядкоў. З імі і гаварыць стараліся ласкава, палюбоўна. Дарослых жа і наогул сталых людзей звалі Іван. Я папытаўся ў самога сябе: а адкуль жа тады ўзяўся Янка? Адказ кожны раз быў той самы: толькі ад Яна. Выходзіць нешта нялюдскае: вытворнае ёсць, а асноўнага няма. Але ж гэта не значыць, што не было. Ці не дала сябе знаць тут рэлігія, якая заўсёды дамагалася свайго падманам і гвалтам? Было ж прымусовае акаталічванне? То, можа, было і прысваенне сабе гэтага імя?

Гісторыя вельмі не любіць падробак. Я прагледзеў назвы паселішчаў, утвораных ад імёнаў Ян і Янка. Ад карэнных жыхароў бог ведае якога даўняга часу. Па Віцебскай вобласці аказалася: ад імя Ян утворана 22 паселішчы (Яновічы, Янава, Янаўшчына, Янушова і пад.); ад імя Янка — 8 паселішчаў (Янкавічы, Янкава, Янкаўшчына і пад.). Па Мінскай вобласці: ад імя Ян утворана 12 паселішчаў (Янавічы, Яноўка, Янава, Янаўшчына і пад.); ад імя Янка — 5 паселішчаў (Янкавічы, Янкава, Янкоўцы і пад.).

Пасля гэтакай экскурсіі ў тапаніміку я паспакайнеў: выходзіць, што ў мяне імя даўняе, тутэйшае, не чужое.

Аднак жа прывычкі — таксама сіла, іх трэба ўмець прыручаць. Як толькі паявіўся «Слоўнік асабовых уласных імён» Міхаіла Судніка, у якім не толькі Янкі, а ўсе Петрусі, Міхасі, Кастусі, Юрасі, Алесі абвяшчаліся імёнамі гутарковымі і размоўнымі, юрыдычна неправамоцнымі, — памятаю, як пісьменнікі абураліся такою неспадзяванкаю. Дык што, — значыцца, наша літаратура яшчэ падлеткавая? Нясталая? Нават імёны нашы толькі бытавыя? Юрыдычна закасаваныя? Абураўся і я, скажу праўду. Вельмі непрывычна было стыкнуцца з такою навіною. Думалася, што ці не вельмі спяшаемся мы ўсе папраўляць нашу мову. Што, можа, не варта гэтак жорстка касаваць нашы традыцыі, няхай бы была варыянтнасць і няхай бы сама практыка вырашыла, чаму трэба жыць, а чаму знікнуць. Дый наогул, якая карысць, калі нешта жывое гіне сілком? Хіба такія імёны, як Міхал, Якуб, Язэп, напрыклад, не могуць аставацца сярод законных? Як Васіль, Рыгор, Аркадзь. У іх жа і шырокае народнае бытаванне, і сталасць формы, і класічная наша літаратура. І чым жа, напрыклад, блага, што Іван Шамякін назваў сваю дачку Алесяю?

Дарэчы, карыстаючыся выпадкам, што гаворка ідзе пра імя, хачу выказаць свае адносіны да яго наогул. Я лічу яго галоўнаю прыналежнасцю ў чалавечым існаванні. Імя чалавеку

даецца адразу ж пры яго нараджэнні і з малаком мацеры, як кажуць, праймаецца істотаю на ўсё жыццё, да самага скону. Яно заслугоўвае, каб яго шанавалі і лічылі на першым месцы, каб яго *вымаўлялі,* а не падменьвалі ініцыялам — літараю з кропкаю, — па сутнасці, зневажаючы яго. Паглядзіце, як аўтарытэтна і ганарова гучаць Аляксандр Пушкін, Леў Талстой, Янка Купала, Якуб Колас. Ініцыял жа абыякавы, халодны, часамі ён нават не ведае, як завуць чалавека. Ім можна карыстацца толькі пасля таго, як напачатку ўжо ўпомнена поўнае імя.

Але вярнуся да перарванай гаворкі, скажу на першае вока пра зусім нязначны выпадак. Зайшоў я неяк у адну паважаную сям'ю, і гаспадыня, толькі адчыніўшы дзверы, на ўвесь дом узрадавана апавясціла:

— А да нас Янка Аляксеевіч прыйшоў!

Ніхто мяне гэтак не велічаў, і вельмі падкрэслена адчулася, што нездарма турбавала мяне маё імя Янка. Велічанне з ім выглядала штучна, фальшывіла. Гэтакая форма не дапасавана да велічання.

Нарэшце ўсе згрызоты і ваганні канчаткова зняў дакумент, які дзівам знайшоўся ў маіх паперах. Невялікія з чорнай таюсенькай скуры абкладкі, на якіх залатымі літарамі выціснута: Союз советских писателей СССР. Першы білет члена Саюза пісьменнікаў, падпісаны Максімам Горкім, выдадзены ў студзені 1935 года пад № 2005. Подпіс і пячатка ад даўнасці ледзьве значны. Разгарнуўшы абкладкі, можна ўбачыць маладую фотакартку і ўласнаручны подпіс каля яе. Збоку цёмна-сінімі літарамі надрукавана, што і картка і подпіс — Скрыгана Яна Аляксеевіча.

З таго часу я й пачаў падпісвацца толькі Янам.

*1979—1983*

## ЖАНЧЫНА І ПЕНСІЯНЕР

Тралейбус. Прыпынак. На пярэдняй пляцоўцы цесна. Нехта знізу, за адчыненымі дзверцамі, просіць пацiснуцца, каб ён таксама мог улезці.

— Паспрабуем. Давайце пацiснемся, жанчынкі! — кажа мужчына на пярэдняй пляцоўцы.

Чалавек улез, але дзверцы не зачыняюцца. Ён просіць яшчэ пацiснуцца.

— І яшчэ пацiснемся, — кажа мужчына. — Вось так; прабірайцеся, калі ласка.

Побач стаіць маладая жанчына ў зграбным зелянковым паліце, у пухнатай чырвонай шапачцы, з ласкавым тварам. Ласкава яна і ўсміхнулася.

— Вы смяецеся, мабыць, з мяне? — кажа мужчына.

— З вас, — кажа яна. — Вы гаворыце ўсё толькі па-свойму.

Мужчыну захацелася пажартаваць, нешта трошкі скаламбурыць.

— Я толькі што з Францыі, — кажа ён. — І там усе гавораць таксама чысцютка па-свойму. Такія сябелюбцы!

— І вы абурыліся на такую нечаканасць? — весела падхоплівае жарт жанчына.

— Ну пэўна ж!

Чалавек пенсійнага выгляду, змрочны, цяжкабровы, у драпавым паліце і ў шапцы з шэрага каракулю, раптам строга падымае голас:

— Не хітруйце! Не на тое сябелюбства вы намякаеце, малады чалавек!

— На тое, — кажа мужчына. — Яны ж там такія заядлыя: усе як адзін гавораць на сваёй мове. Каб жа толькі гаварылі, дык яшчэ і пішуць!

Чалавек пенсійнага выгляду яшчэ больш нахмурвае бровы.

Усе глядзяць на яго. Няёмка за чалавека, які тут паказаўся як выкапень з вельмі даўняга, зусім нетутэйшага часу. І жанчына як бы за ўсіх кажа:

— А якое ж дзіва, калі людзі любяць сваё? У гэтым жа — Радзіма!

*1978*

## ЗАЙЗДРАСЦЬ

Прыйшоў праведаць прыяцеля ў бальніцы. Седзімо ўдваіх, у калідоры, тут прастарней. Прайшла жанчына, выпісаная ўжо, перамяніць бальнічны на свой адзевак. Кінула вокам на нас, пазнала, аднак прайшла міма, але, мабыць, адумалася, што робіць нядобра, азірнулася і кіўнула галавою.

Божа, што робіць з чалавекам хвароба: яе ж не пазнаць — мошчы! Сухі, шэры, на ўсе лады пераморшчаны і перакошаны твар з нейкімі палахліва-драпежнымі рысамі, з гнеўна-ледзяным холадам воч.

— Што робіць з чалавекам хвароба, — сказаў я прыяцелю.

— Не, — адказаў ён, — гэта не хвароба. І не старасць, дарагі мой. Я ж яе ведаю даўно. Самая звычайная зайздрасць. Яна з мужа выняла душу, што ён не ўмее жыць. Што ў іх, як у другіх, не ў тым раёне кватэра. Потым, што ён, як другія, яшчэ не заслужоны. Потым, што ў іх няма лецішча і свае машыны. Што няма прывезенага з Амерыкі футра. Ды ці толькі гэта.

Зноў прайшла яна міма нас ужо адзетая ў свае нетутэйшыя строі, якія анікропелькі не падобрылі твару.

— Усё ў іх набылося потым, — пасля одуму дагаварыў прыяцель. — Бо ён быў найсумленнейшы, наймудрэйшы, найпрацавіцейшы, найдушэўнейшы чалавек. Не стала толькі яго самога. І цяпер яшчэ больш яна кіпіць і праклінае ўсіх за тое, што памерлі не мы, а яе Багдан.

*1983*

## ПА ДАРОЗЕ Ў КАПЫЛЬ

Знаёмыя назвы паселішчаў: Гацукі, Валяр’яны, Белая Лужа. Дарога на Слуцак, якой ездзілася не раз. Але сёння ад Шышчыц мы паварочваем направа і кіруемся на Капыль. (Дарэчы, не магу дайсці розуму, якія моўныя заканамернасці ўплываюць на словаўтваральную форму. Я прывык да таго, што ў нашым наваколлі гавораць Прашчычы, Бокшычы, Гольчычы, Грозаў, Сцяпкоў. Але цяпер іх усюды называюць іначай: Прошчыцы, Бокшыцы, Гольчыцы, Грозава, Сцяпкова. Ну вядома ж, Шышчыцы.)

Сёння мы кіруемся на Капыль. Дарога, укрытая асфальтам, коціць нас роўна, гладка. Наперадзе, за Труханавічамі, будуць Сунаі. Потым будзе Пукаў, куды я нёс калісь пану Ёдку звязанага за калашматыя ногі пеўня.

Я думаў, можа, пазнаю, дзе быў маёнтак, дзе стаяла хатка пры браме, адкуль выйшла хударлявая жанчына і забрала ў мяне пеўня, і я не ведаў, як жа цяпер, без гасцінца, пакажуся пану. Але ні Пукава, ні слядоў маёнтка я не ўбачыў, бо «Волга» весела рванула ўлева, густое, шырока разбудаванае паселішча асталося ўбаку, і я здагадаўся, што тут даўно ўсё па-новаму распланавана і перакроена. І гэтае невядомае, шырока разбудаванае паселішча і ёсць колішні Пукаў.

Мая спадарожніца Надзя, што сядзела наперадзе поруч з шафёрам, ведаючы тутэйшыя мясціны, ахвоча растлумачыла, што вёска цяпер завецца іначай — Камсамольская, а старая назва асталася толькі ў анекдоце. Расказала і анекдот. У свой час тут хадзіў мясцовы аўтобус, і шафёр, робячы ў сёлах прыпынак, кожны раз апавяшчаў: «Хто на Пукаў — выходзь!» На воўка толькі памоўка, бо больш дакладныя весткі перадаюць, што гэты жарт належаў не шафёру, а самому старшыні калгаса, але людская пагудка не хоча нават наддалёк у такую вольнасць ублытваць імя свайго кіраўніка, каб не знізіць пашаны да яго.

Я даўно не бываў у дарогах, занудзіўся па іхніх вечна новых і нечаканых далячынях. Тут жа ў гэтае наваколле я ўглядаўся з асаблівым узрушэннем, бо яно — мая бацькаўшчына.

Увесь час я лічыў сябе случаком. Але пры апошнім тэрытарыяльным размежаванні маё сяло Труханавічы перайшло з Слуцкага раёна ў Капыльскі. Спачатку мяне гэта як бы і не кранала, бо ўсё роўна душа аставалася ў Слуцкай парафіі. Я любіў сваю Случчыну за яе старажытнасць, за бунты і непакорства заваёўнікам, за слаўную чыннасць вядомых і невядомых яе людзей — асветніцтва, кнігадрукаванне, слуцкія паясы. За геройства чатырнаццаці паўстанцаў, расстраляных белапалякамі ў 1920 годзе. За раўніны і лясы, за ўрадлівую зямлю. Нарэшце, мабыць, проста за тое, што яна была бацькаўшчынаю.

Але ж і Капыль мне дарагі.

*[1990—1992]*

# ШУКАННЕ КАМЯНЁЎ

Як міла ўспамінаецца маленства! І не дзіва: хіба не ў ім акрэсліваецца наша чалавечае аблічча? З ім мы ніколі не развітваемся, хоць бывае, што там знаходзяць прытулак нямала горкіх часін.

Тата быў працавіты і строгі. Нават у святочныя дні, калі сур'ёзнаю работаю займацца было грэшна, ён усё роўна прыдумляў сабе які-небудзь занятак. І, вядома, да талкавітасці прывучаў і мяне.

Памятаю, як нецярпліва я глядзеў, калі аднае суботы пад паветкаю ён пачаў рабіць нешта мне невядомае. Ён абчасаў два кіі, трохі большыя і таўсцейшыя за тыя, з якімі ходзяць у дарозе. Уся незвычайнасць была ў тым, што ў танчэйшыя канцы кіёў ён увагнаў па самым доўгім цвіку. Не глыбока, але так, каб яны сядзелі моцна. І прудка тарчалі. Плешку ў кожным цвіку ён спілаваў напільнікам, а канец завастрыў. Пасля гэтага сказаў:

— Заўтра, сынку, будзе нядзеля. Свята. Нічога цяжкага рабіць няможна. Дык мы з табою пойдзем шукаць камянёў. От гэтымі кіямі. І не будзе ніякага граху. Заўтра я табе пакажу, як гэта робіцца.

Няма чаго і гаварыць, як я чакаў таго заўтра. Выйшлі мы недзе пад паўдня. Таўсцейшы кій тата ўзяў сабе, танчэйшы і далікатнейшы даў мне.

Пайшлі мы пад скарбовы лес, што астаўся тут невялікім асколкам ад колішняй высечкі. Перад ім слаўся не то поплаў, не то стары выган з рэдкімі кустамі арэшніку і абгарэлымі пнямі.

— Кожны раз, калі мы едзем з табою ў Слуцак, — сказаў зноў тата, — то пасля Лейбавай кузні ўглядаемся ў адзін двор...

О, гэты двор я памятаў вельмі. Ён увесь быў устаўлены каменнымі помнікамі. Там жыў чалавек, які гэтыя помнікі рабіў. Яны стаялі — то невялікія, такія, што ставяцца на могілках людзям простым і бедным, то вялікія і фасоністыя, кантовыя ці круглыя, як дрэвы з абсечанымі сукамі. І мяне скрозь дзівіла, як можна з каменя рабіць такія дзіўноты. Нават сточваць камень з каменем, калі трэба, каб помнік быў высокі.

— То вось жа ці бачыў ты, — гаварыў далей тата, — што ў другой палавіне двара ў таго майстра ляжаць звычайныя камяні, з якіх ён і робіць помнікі? От жа і нам трэба пашукаць іх. І завезці таму майстру. Прадаць. Бывае, што яны ляжаць чуточку прыкрытыя зямлёю. То дзеля гэтага і зроблены нашы кіі з цвікамі на канцы. Ідзі сабе паволі, як гуляючы, і торкай кіем у зямлю. Намацвай.

Не скажу, што так ужо нам пашанцавала таго дня, але важна была сама работа. І ўдача такі была. Не мая, а татава, ён гукнуў мяне. Камень быў вялікі, роўны, умеру плескаваты, цёмна-шэры.

Я ўжо загадзя бачыў, які помнік зробіць з яго майстар...

*16 студзеня 1992 г.*

## ПАЕЗДКА ЗА МЯЖУ

Не памятую, хто паклапаціўся, але было мне запрашэнне з'ездзіць за мяжу. Я быў рад гэтаму, бо былі ў мяне добрыя знаёмыя і ў Польшчы, і ў Балгарыі, і ў Германіі.

Але ехаць не давялося... Аказваецца, што запрашэнне прыйшло на дваіх і ехаць трэба было разам. У гэтым і была ўся мітрэнга.

Паспрабую расказаць.

Аднаго разу забег я ў кавярню перакусіць. Кавярня была прыстойная, так што заўсёды было там цеснавата. Давялося трохі пачакаць. Ды вось за блізкім столікам нехта падняўся, я заняў яго месца і здзівіўся: на другім крэсле сядзеў добра знаёмы пісьменнік Шулякоўскі[1]. Як заўсёды шыкоўна апранены, з фасоністаю бародкаю, з модна пастрыжанымі, як бы ўверх паднятымі вусікамі. Элегантны, дагледжаны. Вядома, павіталіся, зрабілі выгляд, што вельмі рады нечаканай сустрэчы. Асабліва энергічна пацiснуў мне руку ён, бо перад ім стаяла ўжо добра адпітая шклянка гарэлкі. Прызнаюся, што я злякаўся, бо трохі ведаў неспадзяваныя дзівацтвы яго натуры — лёгка пераходзіць ад далікатнай узнёсласці да куслівай жартоўнасці.

Пакуль гатавалі нашы заказы, мы пацiху гаманілі, аглядаючы залу. І нечакана за столікам у канцы праходу я ўбачыў другога знаёмага чалавека. І, вядома, павітаўся з ім самым шчырым узмахам рукі.

— З кім жа ты гэтак запабегліва павітаўся? — з лёгкаю ўсмешкай папытаўся Шулякоўскі.

— З вельмі прыстойным чалавекам і не менш прыстойным пісьменнікам Карніловічам, — сказаў я.

— А-а-а, ведаю, ведаю, — спакойна, не захацеўшы нават зірнуць туды, сказаў Шулякоўскі. — Толькі не прыпамінаю, што ён людскае напісаў. А ты хіба ведаеш?

Я зразумеў, што пра таго пісьменніка нічога больш гаварыць не трэба. Бо гэта зусім розныя людзі. Шулякоўскі быў толькі пісьменнікам і нічым другім больш не займаўся, не асабліва дбаючы, каб тое, што ён піша, выглядала бездакорна. Важна, каб яно было надзённае, нешта з сённяшняга дня. Праз гэта ён быў

у заслужонай пашане і славе. Ён выбіраўся ва ўсе прэзідыумы, праўленні, канферэнцыі; пасылаўся ў розныя дэлегацыі, у замежныя пачэсныя камандзіроўкі. Часам набіраў з сабою блакнотаў і сшыткаў, каб і там пісаць, калі толькі знойдзецца вольная хвіліна. А яшчэ часцей браў з сабою жонку і пісальную машынку, і вечарамі, ходзячы па гасцінічным пакоі, дыктаваў новыя раздзелы рамана. Яго творы друкаваліся вялікімі тыражамі, яму плаціліся высокія ганарары.

Чаго ж было дзівіцца, што такога пісьменніка, як Карніловіч, ён нават не надта хацеў бачыць. І, проста дзіва, да чаго ж гэта былі розныя людзі!

Карніловіч таксама быў сямейны чалавек. Але зусім іначай абышоўся з ім лёс. На журналісцкай рабоце ён абкалясіў усю дзяржаву. Адбываў практыку ў Краснаярску, скончыў педагагічны інстытут, настаўнічаў, быў рэдактарам газет у Полацку, Магілёве, Оршы, рэдагаваў сталічны літаратурны часопіс. Ён заўсёды быў заняты патрэбнымі неадкладнымі справамі. І да ўсяго далучылася самае вялікае гора: памерла жонка, пакінуўшы двое дзяцей. Яго прытуліла другая жанчына, не даўшы, каб скалечылася сям'я, каб загінуў дом.

І бог ведае, калі і як выбіраў ён час, каб пісаць свае творы. Аднак жа пісаў. І выдаў чатыры кніжкі свае лірычнае прозы — аповесцей і апавяданняў. Яны і цяпер бываюць у маіх руках. І, божа, як часта я прыпадаю душою да іх старонак, на якіх так няўрымсліва, соладка і цяжка бунтуюць чалавечыя трывогі і радасці.

— Ты нешта надоўга задумаўся? — абарваў мой цяжкі одум Шулякоўскі. Шклянка яго была дапіта, здаецца, што ён зноў чакаў афіцыянтку. — Няйначай як ты замаркоціўся, што я не прыласкаў твайго Карніловіча? А што ў ім ласкаць? Абыдзецца! Дый цябе няма за што надта хваліць, — дадаў ён ні то з папрокам, ні то з хвалою, а больш падобна, што з далікатнаю ўсмешкаю.

Вось чаму я не паехаў разам з Шулякоўскім за мяжу. Я падумаў, што і там жа, будучы ў гасцях, не раз ён сустрэнецца з новымі сябрамі, гэтак жа будзе гаварыць пра нашу літаратуру і пра пісьменнікаў. Няйначай як скажа што і пра мяне. Я ўяўляў сабе, што і як ён скажа.

Канечне, я не паехаў. Я перадаў загадзя ў экскурсійную кантору, што ехаць не магу. Што захварэў.

*13 студзеня 1992 г.*

## ІНТЭРВ'Ю

Люблю дакранацца да чужога роздуму. І таму люблю чытаць запісныя кніжкі, успаміны, мемуары, маргіналіі, нават інтэрв'ю. Усюды шукаючы шчырасці. І быў вельмі разгублены, калі і да мяне звярнуўся чалавек, папрасіўшы гэтай самай шчырасці.

— *Як пісаліся вашы першыя апавяданні?* — папытаўся гэты чалавек, сказаўшы, што ён з'яўляецца карэспандэнтам «Маладосці».

Дзіва: як пісаліся? Проста, бралася папера, аловак, жыла ў галаве думка... Але адкуль жа ўзялося тое, што захацела легчы на паперу?

Шчыра скажу: калі б не Янка Купала, Якуб Колас і Змітрок Бядуля, то наўрад ці паявілася б у мяне патрэба нешта пісаць самому. Іхнія вершы кранапі душу. Я і пачынаў з вершаў. Але ўвесь час мне здавалася, што вершам я магу выказаць толькі настрой, крыўду, гнеў, замілаванасць, нават нарысаваць пейзаж, а мне хацелася перадаць рух, падзею. Хоць вачыма маленства, але я ўжо сёе-тое бачыў: імперыялістычную і Грамадзянскую вайну, Кастрычніцкую рэвалюцыю, нямецкую і польскую акупацыі. Усё гэта недзе жыло ў мне і нясмела прасілася ў слова.

Першыя апавяданні складаліся ў сне. Я — сярод партызанаў ці чырвонаармейцаў, мы ловім бандытаў ці якіх іншых заядлых ворагаў нашай дзяржавы, гонімся за імі конна, паласуем шаблямі. Апавяданні тыя не пабачылі свету, бо ў іх, як і ў сне, усё рабілася наіўна і лёгка.

— *Хацелася б, каб вы расказалі пра домысел у вашых апавяданнях,* — кажа карэспандэнт.

Цяжкаватая рэч. Не вельмі я з ім ладжу, з домыслам. Я вельмі прывязаны да матэрыялу, і мне шкода парушаць яго верагоднасць, дамешваць да яго выдумку. Аднак жа без домыслу няма мастацкага твора. І ён, ведама, памагае і мне. Калі больш, калі менш. Часамі толькі каб падняць рэальны матэрыял да ступені мастацкага. А часамі з'яўляючыся асноваю твора.

Аднак жа ўся сутнасць у тым, што домысел — гэта не толькі ўмець дадаваць, а куды больш — умець выкінуць лішняе. Ачысціць ад выпадковага, дробнага, бледнага з назапашанага матэрыялу. Прыблізна гэтак пісаліся «Наталя», «След гумавых шын», «Паваротак ля сасны», «У Кірылы на хутары».

Бывае, ведама, што з домыслу пачынаецца сама ідэя твора. І тады яна сама збірае вакол сябе матэрыял. І самую фактуру, і нагляданні, ураженні, погляды на рэчы, плынь думак, жэсты, рысы характараў і шмат чаго іншага, у той, вядома, меры, у якой

гэта адпавядае замыслу. Гэтак пісаліся «Месячная ноч», «У старым доме», «Карла», «Развітанне», «Над гаем кружылі буслы».

З «Буслямі» выйшла ў мяне няўпраўка. Паводле замыслу гэта было зусім не такое апавяданне і звалася іначай: «Выхадны дзень». Яно было пра калгаснага старшыню, на матэрыяле фактычным. Але, мабыць, таму, што сітуацыя мела надта вузкі, лакальны характар, апавяданне не захацела стаць з'яваю мастацтва, яно фальшывіла. Я яго знішчыў, пакінуўшы толькі першую старонку. У ёй было нешта мне мілае — партрэт Яніны. З год гэты партрэт не даваў мне быту: яго трэба было выкарыстаць у нейкім іншым творы. Але ён нікуды не месціўся, нікуды не падыходзіў. І тады ўсю сітуацыю «Буслоў» я прыдумаў выключна дзеля Яніны.

— *Ці ёсць у вас сваё любімае апавяданне?*

Гм... Баюся, каб, адказваючы на гэтае пытанне, не парушыць суадносін шчырасці і такту. Дый наогул наўрад ці можна тут сказаць нешта пэўнае. Рэч у тым, што часта гэта справа густу, а густ мяняецца ад многіх акалічнасцей: часу, гадоў, грамадскіх ідэалаў, духоўнага фармавання.

— *А любімыя пісьменнікі?*

Пра Купалу, Коласа і Бядулю я ўжо сказаў. Пэўны час пасля сваімі рамантычнымі апавяданнямі хвалявалі мяне такія непадобныя пісьменнікі, як Іван Тургенеў і Максім Горкі. Быў перыяд, калі за вяршыню дасціпнасці я лічыў апавяданні Ісака Бабеля і Юрыя Алешы. «Аповесці пра жыццё» і «Залатая ружа» далі мне Паўстоўскага, адкрыўшы, што чароўная мілата яго твораў у вельмі незалежным, свабодным мастацкім мысленні.

Але ёсць у мяне галоўны чараўнік, у апавяданні якога ўваходзіш, як у храм, — Іван Бунін. Ён заўсёды мяне гіпнатызаваў, нават не ведаю чым, мабыць, тайнаю рабіць чытача саўдзельнікам нейкай вельмі блізкай яму трывогі. Бунінскі домысел працуе галоўным чынам на тое, каб абмінаць непатрэбнае. Я не ведаю другога пісьменніка з такою гранічнаю нагрузкаю на тэкст.

— *Што такое апавяданне як жанр, на вашу думку?* — пытаецца далей карэспандэнт.

Здаецца, усе пытанні лёгкія, але адказваць на іх цяжка. Тым больш што на ўсё гэта ёсць агульнае вызначэнне, і боязна фармуляваць свае прыватныя меркаванні. Твор эпічна-апавядальнай літаратуры, невялікі памерам, з нямногімі персанажамі, са строгім і дынамічным сюжэтам, — прыблізна так выглядае агульнае вызначэнне. Ці згодзен я з ім? Як кажуць, у аснове.

Практычна апавяданне ў гэтыя рамкі не месціцца. Асабліва цяперашняе. І ў Буніна, і ў Паўстоўскага якраз найменш дынамічнасці ў сюжэце, часам яго наогул няма, а між тым нешта трымае іхнія апавяданні на высокім мастацкім напружанні. Няйначай як гэтае «нешта» і складае тайны майстэрства, духоўны яго субстрат.

У маім разуменні апавяданне — гэта вельмі сканцэнтраваная ў фокусе нейкая адна з'ява жыцця. І таму, як у сувеніры, у ім павінна быць своеасаблівасць, характэрнасць.

Часта пішуць доўгія, пухлыя апавяданні, напаўняючы іх неабавязковымі, другараднымі падрабязнасцямі, дазваляючы персанажам без канца балбатаць, але гэта ўжо не апавяданне, а расслабленая аповесць. На жаль, часамі і пішуцца так аповесці, калі не хапае сілы напісаць апавяданне.

Хачу закрануць модную з'яву апошняга часу. Часта ў друку паяўляюцца замалёўкі, ці, як кажуць, эсэ, што на нашай мове азначае нарыс, накід, даволі безаблічнага, сузіральнага характару, і называюць гэтыя замалёўкі навеламі. Мне здаецца, гэта неправамерна. Усё-такі за навелаю павінна аставацца яе, няхай сабе ўмоўная, але вельмі пэўная асаблівасць: энергічнасць, кароткасць, дасціпнасць і нечаканасць развязкі.

*— Яшчэ адно запытанне: які сэнс вы ўкладаеце ў паняцце майстэрства?*

Само сабою майстэрства не існуе без канкрэтнага ўяўлення з'явы мастацтва. Ніякі змест не бывае без формы, гэта вядома вельмі даўно. Адсюль: твор, напісаны на самую важную тэму, але напісаны слаба, так і не даносіць зместу. На жаль, наша крытыка аналізуе мастацкія творы найбольш толькі па лініі зместу, не аддаючы аніякай увагі іх якасці — форме.

Майстэрства — гэта не толькі сума прыёмаў. Светапогляд, філасофія сцвярджальнага руху, глыбокае пранікненне ў з'яву, культура мыслення, культура прафесіі, якой павінны быць добра вядомы такія рэчы, як чалавечыя пачуцці, адчуванне меры і такту ў выяўленчых сродках, свабоднае кіраванне сілаю слова і многія іншыя рэчы, што складаюць творчую індывідуальнасць пісьменніка, — вось тое, што спадарожнічае майстэрству.

Як я шукаю выразнасці? Вядома, у слове. Вось радкі з запісной кніжкі да «Кругоў», першая частка якіх называецца «Парог». Фактычны матэрыял, і тым не менш хочацца знайсці як мага большай рэльефнасці. Нашы Труханавічы, сусед па вуліцы Рыжкоў, а па селавой мянушцы Рыжок. Яго двор на

гэтым, нашым, канцы сяла. Варыянты рысунка, вядома, не для выхваляння.

Памятаю ў двары Рыжковых шырокі клён, жылаватае карэнне якога выходзіла на вуліцу...

Памятаю, з нашага акна на той бок вуліцы...

Памятаю, на той бок вуліцы стаяў шырокі клён...

Памятаю, на той бок вуліцы стаяў клён, прыкрываючы шырокаю кронаю куп'істы, тугі мох на хаце ў Рыжковых і выходзячы вузлаватым карэннем на вуліцу...

Памятаю, у двары ў Рыжковых стаяў шыракалісты, раскідзісты клён, жылаватае карэнне якога...

Памятаю шырокі клён, што відзён быў з нашага акна на той бок вуліцы, тоўстыя жылы яго каранёў...

...жылаватае карэнне якога выходзіла на вуліцу, і па ім...

...па жылаватым карэнні якога, што выходзіла на вуліцу, вечна грукалі жалезныя шыны калёс...

Памятаю раскідзісты клён у двары ў Рыжковых, карэнне якога жылаватымі вузламі выходзіла на вуліцу...

— *Дазвольце яшчэ адно, на гэты раз папраўдзе апошняе пытанне. У вас ёсць нейкія свае прывычкі ў рабоце, свае эстэтычныя погляды, выяўленчыя сродкі; вы бываеце давольны або недавольны сабою, любіце працаваць удзень або ўночы. Ці не можаце расказаць і пра гэта?*

У кожнага, ведама, свае схільнасці і густы. Як прыклад, думаю, што мы ў прозе недаацэньваем публіцыстычнасці. Яна надае твору актыўнасць, грамадзянскую страснасць, мужнасць. Паэзія ў гэтым сэнсе куды смялей за прозу, яна не баіцца пафасу клічнікаў. Алесь Бачыла, напрыклад, мог у паэзіі сказаць «Радзіма мая дарагая», а мы ў прозе як бы саромеемся такіх гучных слоў. Праўда, тут трэба адна ўмова: публіцыстычнасць у прозе павінна быць душэўная, лірычная. Але строгая.

Што яшчэ магу сказаць? Некалі працаваў уночы. Цяпер перайшоў на дзень і гэтым страціў куды больш за палавіну поспеху і працавітасці.

Цяжка пісаць, калі фактычнага матэрыялу замнога. Ад яго задыхаешся.

Цяжка мне даецца сам працэс пісання. Усё шукаеш, як лепш сказаць.

Доўга шукаю пачатку. За няўдалым пачаткам звычайна ідзе фальш.

Ведаю: калі што не выходзіць — трэба пахадзіць. Наогул, калі ходзіш, лепш думаецца. Я быў бы куды шчаслівейшы, каб можна было пісаць ходзячы.

Люблю ўяўляць чужое жыццё, калі ўвечары гляджу на чужыя асветленыя вокны...

***1975***



# *Дзённікавыя запісы*

## 1974

*1 сакавіка*

Мабыць, самы вялікі паэт у нас цяпер Аркадзь Куляшоў. З яго паэзіяй можна перажываць, можна не згаджацца, можна спрачацца, але ўсё роўна высокі клас яго душэўнага і духоўнага майстэрства не пакідае цябе раўнадушным.

Якая глыбокая паэзія.

*25 красавіка*

Перадрукаваў «Пасля доўгіх разлук сустракацца не трэба». Гэта эпізоды ў «Кругі», недзе, мабыць, у «Сугучча». Ох, як жа я цяжка пішу! Усё не пускаю сябе на расслабленую безразмерную прозу. У гэтым, мабыць, уся мая бяда.

*12 мая*

У сне бачыў Ліну. Яна выйшла з цёмнага фону, падышла весела, у футры рудога колеру, для пацалунка павярнула шчаку. Ярка абрысаваны свежы твар. Мы недзе пайшлі з ёй разам, пад руку.

Яна не прыходзіла да мяне ў сне гадоў каля дваццаці. Вось і цяпер, раніцаю, на ўзрушэнне.

*16 мая*

Не магу прывыкнуць да моды апошняга часу зваць Максіма Горкага Аляксеем Максімавічам. Усюды — у артыкулах, у газетах. Ніколі Горкі не быў Аляксеем Максімавічам, Аляксей Максімавіч быў Пешкаў. Сваё імя-прозвішча і псеўданім — зусім розныя рэчы: не хацеў жа Пешкаў пісаць пад сваім імем.

*30 мая*

У нас гаварылі *сілны*. Слова законнае — ад сілы, але без мяккага знака.

А яшчэ гаварылі *громка.* Таксама законнае слова — ад *грому*.

*31 мая*

Каханне ніколі не ўваскрасае. Калі яно патухае, то навечна. Аднаму з закаханых часамі пакідаючы і навечна боль.

*2 чэрвеня*

Жанчына ў аўтобусе. Убачыла вялізную сінтэтычную сумку, з рамянямі, з зашчапкамі:

— Навошта такія вялікія шыюць? Трэба мець *канячую* сілу, каб іх цягаць.

Памятаю, і ў нас так гаварылі: *канячая* сіла. Але гной *конскі.*

*23 ліпеня*

Пра кожную з'яву, нават пра рэч, у творы трэба расказаць толькі ў руху. Тады яна будзе таксама ўдзейніцай дзеі.

Учора ўвечары ездзіў да Юрачкі[1] ў Кіявец[2]. Любата там! Паветра, прастор, далячынь, лес, неба — усё жывое.

Юрачка мяне паводзіў па наваколлі, ведае, дзе хто жыве, чые пасуцца каровы, каго як зваць. Словам, ён упісаўся ў наваколле як найлепш. І да месца скажа бабчына выслоўе: свет трасецца.

Гала[3] таксама, адразу відаць, што адпачыла: пасвяжэў твар, загарэла.

Сёння назад вёз шафёр класна. За гадзіну з Кіеўца быў дома.

Учора папрасіў Віктара Вітальевіча пабудзіць у 7. Але прачнуўся сам задоўга да сямі і пайшоў па дарожцы на прыпынак. Божухна, якая пекната, свежасць, ласкавасць, лёгкасць у паветры, буйная зеляніна. Пачуў ззаду машыну: аўтобус. Падняў руку — спыніўся. І дарога вясёлая. Тыпаж цікавы, гаворка: узяў, сказаў. Трое — аднаго тыпу, тонкія, нізкаспушчаныя насы, няйначай літоўцы ці палякі. А гаворка чысцюсенькая беларуская.

*29 ліпеня*

Чытаю польскія апавяданні, якія купіў у Маладзечне. Вельмі ж многа слабенькіх, шэрых, падобных больш на нарысы. І часамі вельмі доўгіх.

Адна з самых лепшых якасцей для мяне цяпер у апавяданнях — іх сцісласць, энергічнасць, кароткасць. Перад тым, як

чытаць, зірну — ці доўгае. Доўгіх не хочацца чытаць. Апавяданне павінна мець 4—6 машынапісных старонак, астатнія можна выкідаць, і апавяданне стане лепшым.

*

Не разумею, што прымушае рабіць неразумныя рэчы. А вось — мястэчка Заслаўе, а станцыя завецца Беларусь. Мястэчка Дзяржынск, а станцыя — Койданава. Ст. Радашковічы, а мястэчка Радашковічы за 9 кіламетраў.

І гэта ўсё — творчасць чыноўнікаў. А колькі ад гэтага неразумнасцей, непаразуменняў. Бачыў сам, як дзяўчына-студэнтка прыехала ў гэтыя самыя Радашковічы і ледзь не плакала, бо ёй трэба было ў мястэчка, а ехаць туды няма чым.

*1 жніўня*

Памятаю, на пісьмах, якія прысылаў Даніла Ульяне з Усць-Дзвінска ў час вайны, заўсёды стаяла: «Её благородию Ульяне Алексеевне Скрыган». А часамі скарочана: «Её бл-ю». Пазней ужо, калі я вучыўся ў Слуцку і пачынаў разбірацца ў сякой-такой шляхетнасці, мне падабалася тая форма: не такой і такой па імю-прозвішчу, а з паважаннем: яе шляхетнасці. Можа, дробязь, але яна, такая форма, выхоўвала такт, густ, пашану.

Шкада, што ў нас, у чалавечых адносінах, усё так спрошчана і засушана. Успамінаю Салавухіна, як ён выяваў за форму звароту, раіў ўзяць «сударь», «сударыня»; папраўдзе ж, вельмі цёплая, душэўная форма. Нездарма ж палякі і чэхі не адмовіліся ад гэтай формы і ў сацыялістычных умовах: пані, пан. Што ў гэтым благога? Бо папраўдзе ж, таварыш — гэта афіцыйная, строгая форма.

Думаю, што нешта цёплае ў зваротах мы ўсё ж з часам прыдумаем. Вярнуліся ж да міністраў, афіцэраў, генералаў. А гэта ж у свой час былі словы для азначэння белагвардзейшчыны, рускага царызму, усякай контррэвалюцыі.

Час робіць усё, што яму прыспявае.

А часамі на канвертах стаяла: «Её высокоблагородию». Падумаць толькі, якая чэсць: сялянка і — благородие, высокоблагородие. А — прыгожа.

*9 жніўня*

Прыходзіла Таіса, забрала адрэдагаваныя артыкулы, новых не прывезла. Як яна лёгка і хораша гаворыць па-беларуску. «Сёння быў Броўка, усю раніцу *дзялуецца*». «Як «дзялуецца»? — пытаюся. «Ну там то аднаго, то другога выклікае да сябе». Аказваецца «дзялуецца» — ад дзела. Займаецца справамі, дзелам.

*24 жніўня*

За гэтыя дні атрымаў 20 кніг з Ленінграда (22,8 кг), учора дадому прынесла шчабятлівае дзяўчо грошы, таксама з Ленінграда. Афармляла дакументы і шчабятала: «Такіх вялікіх грошай нам нельга насіць дадому. Але дзяўчыны ў нас гаварылі, як вы ўчора прыходзілі па бандэролі, тры пачкі, такія цяжкія, а вы на мыліцах, дык я сказала, што грошы я вам сёння занясу дадому». Грошы яна выняла недзе з-пад карсажа спадніцы, зноў шчабятала: «Хто можа падумаць, што я іду з грашыма, калі рукі ў мяне пустыя...» Такое мілае танюсенькае дзяўчо.

Сёння занёс ёй цукерак. Не было яе, сказалі: абавязкова перададзім.

*26 жніўня*

Зноў сон з тае далёкае рэчаіснасці. Нейкія нары, пасцелі, нейкія рукавіцы — брызентавыя, шарсцяныя, я іх падбіраю да пар, нейкае перасяленне з месца на месца. Як цяжка, прачнуўшыся, усё гэта помніць. І нейкія земляныя работы... Яна апускаецца, блішчыць балотам гэтая зямля...

Гэта ўжо цяжасць на сэрцы на ўвесь дзень.

*18 верасня*

На швейнай фабрыцы расказаў канву адной падзеі, па якой ужо даўно збіраюся напісаць апавяданне з умоўнай назвай «Да прараба прыехала жонка».

І вось расказаўшы і паглядзеўшы, як прынялі ўсё гэта швачкі, бачу, што апавядання пісаць не трэба. Не бачыў, каб яно ўсхвалявала слухачак. Ці, можа, я не вельмі ўдала расказаў. Па крайняй меры, з пісаннем гэтага апавядання трэба пачакаць.

*11 кастрычніка*

Лепшага партрэта Бальзака, як скульптурны партрэт Радэна, я не бачу. Колькі ў ім полымя, неспакою, болю.

*

Пераконваюся: мне трэба пісаць тое, што ведаю, а не выдумку. Сваё жыццё. Сваю практыку. Нават хоць бы «Шуфляда майго стала». А не «Даведка», «Граня-Графіня», пад якія трэба абавязкова падводзіць агульную філасофію і мараль — без крыві. Без крыві так яно ўсё і будзе — бяскроўнае.

*

Мне трэба жыць цяжка. Я не прывык да «забяспечанасці». Яна не дае мне працаваць. Цягае ў бясконцы роздум і вандраванне. Я не люблю прыліпаць да нейкага месца. Калі б было можна: я хацеў бы не мець дома, а толькі падарожжы. А потым — нешта падобнае на турму: каб нішто не замінала мне пісаць.

Але я павінен некага любіць. Мне павінна некага не хапаць.

*14 кастрычніка*

Знайшоў сярод сваіх розных накідаў запісачку: «Ад гэтага чалавека дыша сілаю». І развагу: «А ці трэба, каб ад чалавека дыхала сілаю? Чаму не воляю? Не розумам? Тактам? Добрасцю?»

Я і цяпер згодзен з гэтаю паперкаю. Чалавек — перш за ўсё чалавек. І галоўнае не ў яго сіле, а ў мэтанакіраванасці, розуме і душы.

1975

*28 кастрычніка*

Удзень чытаў Салавухіна «Прыгавор». Добра піша, нягоднік. Але колькі самалюбавання, самаўпэўненасці, барства. Дзіва: адкуль гэта ўсё? І ў «Прыгаворы» колькі позы, акцёрства!

А пісьменнік — дай божа!

*11 снежня*

Як гэта ўсё знаёма! У сябе дома, хадзіць па Мінску і не пачуць роднага слова. Не, з моваю робіцца нешта несправядлівае. Яна не можа шкодзіць будаваць тое светлае будучыні, у якую мы верым і робім усё, каб яна была іменна самай светлай. Як мне здаецца, вінаваты ў гэтым толькі вялікадзяржаўны бюракратызм...

*

Конча трэба напісаць апавяданне, каб праз чужы лёс паказаць, што я ведаю, што Ліна адсюль пайшла на той бок не адна, што ў яе ўжо быў падарожнік. Я дзякую ёй, што яна выхавала Севу ў павазе да мяне (як мне здаецца, нават да нашай зямлі), але гэта не значыць, што яна не павінна ведаць, што яе ўчынак мне вядомы. Яшчэ да вайны яна ўжо была не адна.

Іншая рэч, мая ацэнка гэтага факта. За гэта я яе не дакараю. Тым больш што сам пісаў, каб пакінула мяне, каб на яе не клаўся мой нядобры цень. Дакараю толькі за тое, што не асмелілася мне сазнацца ў гэтым. Я заўсёды лічыў яе вельмі чэснай і адкрытай; быў ўпэўнены, што калі б нават пры мне яна зрабіла нейкі нядобры ўчынак, то не магла б не сазнацца ў гэтым. І раптам вось такое маўчанне.

Мне здаецца, што сваім апошнім пісьмом, у якім даў зразумець Севу, што ўсё ведаю, — што апошнім пісьмом я вельмі збянтэжыў іх. Ім (ёй, вядома, а праз яе і Севу) стала няёмка, што не яны, а я сам даведаўся пра Ліну.

Вось так, як і заўсёды, калі хварэю: абступае, трывожыць, бунтуе ўсё тое, што просіцца, каб яго напісаць.

Божа, колькі ж яго ненапісанага!

*12 снежня*

Якаў Маркавіч (прозвішча правільнае Чарнякоў) чалавек своеасаблівы, па натуры партызан, любіць гаварыць тое, што прыйдзе ў галаву, не думаючы, добра гэта ці не. Ні з сяго ні з таго раптам накінуўся на беларускую мову: што такой мовы няма, што выдумалі яе нацыяналісты, што яна грубая, непрыгожая. Што ў свой час «вучоным» плацілі нават грошы за кожнае выдуманае слова.

Я сказаў яму: што яго гэта дзела — любіць ці не любіць нейкай мовы, але абражаць яе не варта. Ну вось я, беларус, лічу беларускую мову сваёй роднай, пішу на ёй, і няўжо ж мне прыемна, што мне ў вочы яе ганяць?

Ён сам зразумеў, што па сваёй «партызанскай» звычцы сказаў глупства і папрасіў прабачэння.

Эпізод не варты ўвагі. Ён толькі сведчыць, да якой ступені дайшлі ненармальныя адносіны да мовы нацыянальнай, як лёгка яе можна лічыць ужо непатрэбнай.

1977

*22 лютага*

Масты — доўгае, уздоўж Нёмана мястэчка. Цікавае месца. Улетку тут, мабыць, вельмі хораша.

У Гудзевіцкай школе — школьны музей. Божа, які энтузіяст і настаўнік, чыёй любоўю ўсё гэта зроблена! Як хораша ён выхоўвае вучняў — у любові да свайго краю!

Яго вучні ў жыцці пасля школы не могуць быць пустымі, нікчэмнымі, — яны будуць творцамі новага жыцця з самымі сумленнымі душамі.

*9 жніўня*

Памёр Уладзімір Карпаў[4]. Божа, як шкада. Ён быў прынцыповы, чэсны чалавек. Мы з ім патрошкі былі пасварыліся, і як былі рады, калі сказалі адзін аднаму, што сварка наша — драбяза, што адзін аднаго разумеем у большым, у галоўным, у тым, што складае сутнасць разумення бацькаўшчыны і служэння ёй.

З такімі людзьмі можна ўсюды адчуваць сябе так, каб быць упэўненым у локці таварыша.

*22 верасня*

Шкраба Рыгор прасіў напісаць для «Полымя» размову пра маладых. Пра іхнюю творчасць. Згадзіўся. Але вось жа вельмі хутка прагрэсіруе ўпэўненасць: ці маю я права на гэта?

Усё больш і больш, усё часцей і часцей прыходзіць да мяне думка, нават не думка, а ўпэўненасць, што я, па сутнасці, глыбокі невук. Куды ні кінуся: у гісторыю, у літаратуру, у мастацтва, філасофію, эстэтыку, не толькі ў шырокім плане, а нават у хатнім — пра Беларусь, бачу: ні ў чым няма ў мяне сістэматычных грунтоўных ведаў. Нават некаторай класікі літаратуры я не паспеў прачытаць да гэтага часу. Проста: я нічога не ведаю. То ці можа невук павучаць і навучаць чаму другіх.

Азірнешся на дарогу, што асталася ззаду, аж страшна: якая пустата! І бадай што тыя дваццаць гадоў — выкрасленыя, і тыя, што пасля іх, — непаўнацэнныя: яшчэ большае спусташэнне. Не актыўнае жыццё, а — бакавое існаванне.

Не, у нашай рэабілітацыі — таксама недаробленасць. Ужо калі рэабілітавалі, то трэба, каб і ўсе абставіны, і ўмовы, і грамадскае і грамадзянскае гучанне, нават ацэнкі і адносіны, нават узнагароды павінны быць роўныя з усімі, каб не адчувалася таго правалу, у якім чалавек быў не вінаваты.

Не трэба такога страшэннага самаадчування — другараднасці, непаўнацэннасці.

Міжволі пачынаеш думаць: памылка — не тое, што ты быў незаконна адрынуты, а тое, што цябе вярнулі назад.

Як шкодзіць такое самаадчуванне! Па сутнасці, гэта самапахаванне.

*10 кастрычніка*

Учора ў двары паштальёнка дала распісацца за ліст ад Севы. Канверт з чорнай рамкай: адразу зразумеў, у чым рэч. Памерла Ліна. 26 лістапада ў 6.45 раніцы.

Божа, як сціснулася сэрца! Якая пакутніца! І з Севікавага ліста бачу, яшчэ спадзявалася ўбачыцца, калі б я прыехаў на Сеўкава запрашэнне. Значыцца, таксама было што сказаць.

У кожным цяжкім жыцці, мабыць, вельмі многа велічы. Што яна зазнала? І за што? Па сутнасці, усю бяду прынёс ёй я. І от з учарашняга дня нашу гэты яе вобраз і яе гора. Нават перад смерцю не суджана было абмяняцца позіркам, словам.

Вечны спакой ёй, харошай маёй.

Да цяжкага крыжу майго, што нёс у сваім усведамленні за яе пакалечанае мною жыццё, дадаўся новы — маўчанне магілы, у якой пахавана ўжо ўсё.

## 1979

*9 кастрычніка*

Усю ноч зноў снілася, што я ў лагеры. Некуды адпраўляюць, некуды адбіраюць, перасылаюць, баракі, людзі, стары, многа разоў ношаны адзёвак, і над усім адна атмасфера: чаканне, што павінны разабрацца і адпусціць. Што тут як бы часова, і разам з тым бясконца цягнецца гэтая беззаконнасць: трымаюць тут без права, і — усё-такі трымаюць. Усю ноч — гэтая трывога, перажыванні, чаканне: калі ж, калі адпусцяць, недзе ж ёсць ужо гэтае рашэнне.

І вось увесь дзень нявыспаны, хворы, у галаве шум.

*18 лістапада*

Памёр Юрка Гаўрук. Толькі цяпер можна сказаць, што гэта быў волат на ніве мастацкага перакладу. І чалавек вельмі сціплы ў тым сэнсе, што ніколі ні навошта не скардзіўся. І ніколі нікога

з дарогі не адціскаў. Ведаў, што трэба рабіць сваю работу як мага лепш.

Аж сэрца забалела ад гэтай весткі. Як напамінак сабе.

## 1981

*24 кастрычніка*

А наогул выступаць, каб заўсёды было добра, не вельмі лёгка. Днямі выступаў ў 33-й школе, расказваў пра Янку Купалу, перад набліжэннем яго стагоддзя. Вельмі лёгка і свабодна ўспаміналася і гаварылася. Пад канец прачытаў «Дно душы», бо гэта ж таксама пра яго: пра тое, як слухаў яго з майго чытання бацька. Ішоў потым дадому, і было прыемна, светла і чыста на душы ад таго, што дзеці слухалі, а потым 3 дзяўчынкі з гітарамі праспявалі купалаўскую «Спадчыну». Як бы нейкае добрае свята было і ў мяне, гэтак было прыемна ўсведамленне чалавечага яднання.

А 22 запрасілі ў 18-ю бібліятэку, таксама на сустрэчу з вучнямі старшых класаў, праслухаўшы пра поспех у 33-й школе.

Але тут усё было іначай. Я гаварыў праз сілу, нехаця, без імпэту і без душы. І адчуў, што гэтак будзе, адразу, убачыўшы, як заходзілі вучні ў чытальню. Гэта былі ўжо больш як трэба дарослыя дзяцюкі і дзяўчаты, натомленыя 6-ю ўрокамі і з зусім іншымі духоўнымі патрэбамі. Яны заходзілі гучна, развязна і гаворачы і абыходзячыся з дзяўчатамі, ім Купала быў не патрэбны, а я нават лішні.

І ўжо дадому я ішоў пусты, таксама натомлены, вельмі недавольны сабою.

## 1982

*22 жніўня*

У сваёй рабоце я вельмі падобны на тату. Ён мог паставіць хату ці якую другую будыніну, цешыцца ёю, а тады надумацца, што не так, як трэба — не на тым месцы, не тым паваротам — паставіў, раскідаць і паставіць нанава.

Вось так і ў мяне. Сёння каторы ўжо раз праўлю тэксты. У «Развітанні» (што звалася колісь «Ідаліяй») уклейваю новую назву: «Ніколі не будзе супакаення», ну, а назва пацягнула па-

праўкі і ў тэксце. Падклейваю, пераклейваю, заклейваю. Мне такая работа — дасканаласць тэксту — сапраўдная ўцеха.

## 1986

*3 ліпеня*

Божа мой! — чытаю другіх — дзевяты дзесятак размяняў, а пісаць так і не навучыўся. Кожын дзень хаджу глядзець, як рэканструююць Някрасаўскую вуліцу: мабыць, папраўдзе, не па той дарозе я пайшоў.

*10 ліпеня*

Выпадкова і, здаецца, шчасліва сёння канчаткова аформілася жаданне напісаць пятую частку «Кругоў»: як знайшоўся Севік, першая жонка... Словам, цэлая аповесць, вярней — працяг аповесці. Гэта мяркую пачаць, як толькі паеду ў «Іслач», новы наш Дом творчасці. Назва 5-га круга «Дом». Бо там будуць і ўспаміны, і роздум, і домыслы, і Аня, і Галя (абяцанне на ўшанаванне яе памяці назваць дзіця — калі дачка — Галя, калі сын — Сева).

## 1987

*27 снежня*

Сяргей пазваніў, што ў нашай краме ёсць перакідныя календары. Купіў, цяпер вось дзіўлюся: пры цары былі календары, а цяпер у нашай Савецкай Беларусі, як нейкую навіну купляем. Няма: адвыклі ў Беларусі зусім ад слова «бацькаўшчына». Усё кругом лічыцца не сваім, казённым, агульным. Як жа позна мы спахапіліся, што прышчапіць павагу да агульнага проста немагчыма. Чалавеку блізкае перш за ўсё тое, што ён адчувае душою, а не як сімвал.

Дык от адкуль ідзе мая гаворка. Атрымаў «Успаміны» пра Івашкевіча. Прачытаў мясціну, як ён быў на Украіне і на могілках шукаў магілу бабкі... Праз вялікія, далёкія гады — сваю маладосць, памяць... І міжволі падумалася: а я вось і не ведаю, дзе мае бацькі. Дзе пахаваны. І ці пахаваны. Божа, як пакалечыў людскія душы і памяць *адзін* чалавек. Які ж ён крывавы. Які звер. Чалавеканенавіснік.

## 1988

*22 студзеня*

Усё жыццё была мара: мець прасторы, добры дом (кватэру), каб можна было мець па характару рабочы пакой (прасторны, дзе можна было б пахадзіць) і зручны пісьмовы стол. За ўзор я бяру пісьмовы стол у Доме творчасці ў Дубултах — шырокі, пакаўны, грунтоўны. За такім сталом і мыслі ў галаве больш смелыя і грунтоўныя.

І за ўсё жыццё нічога гэтага ў мяне не было. Не было нават спальні: кожны раз туліліся дзе хто мог.

*25 мая*

Пакрысе адкрываюцца адна за адною многія загадкі мінулага. Не можа быць, каб недарэчнаю смерцю Янкі Купалы не займаўся КДБ. Якая ж там схавана злавесная тайна? Нешта, мабыць, вельмі ганебнае для нас.

## 1990

Белая Русь мая! Самае страшнае, што магло прыключыцца, дык гэта згіненне нашай гісторыі. Чаму і як здарылася, што наймацнейшае дзяржаўнае ўтварэнне — Вялікае княства Літоўскае — магло ўтварыцца, быць папраўдзе вялікім і ваяўнічым, мець сусветна значныя законы як Статут Вялікага княства Літоўскага, мець за дзяржаўную мову — беларускую мову — і не пакінуць мінулага ратнага і грамадзянскага следу? Што не існавала таго кіраўнічага грамадства?

*

Памятаю і помню — не тое самае.

*Памятаю* — усё, што *было*, што трымае памяць. Памятаю, тая восень была цёплая.

*Помню* — усё тое, што *трэба зрабіць*, што намечана, на што дадзена абяцанне. *Помню* ўсе вашы наказы. *Помні*, што трэба вярнуцца ў пару.

## 1991

*21 красавіка*

Холадна. Хмурна. Мокра на вуліцы. Непрыветна на душы.

...Яшчэ і таму я выжыў, што ўвесь час лёс засцярог мяне ад этапаў.

Многа разоў бралі ад нас людзей у этапы — працавалі камісіі, выбіралі здаравейшых, бо ўсе ж этапы звычайна ішлі на ўсход і на поўнач, на самыя цяжкія катаржныя работы. І кожны раз і мяне адбіралі ў этап. І кожны раз наш галоўны бухгалтар, разам з начальнікам лагпункта, званілі ва ўправу, каб мяне пакінулі тут... Вось таму і астаўся жывы.

Мабыць, я расказваў ужо, што многіх нашых пісьменнікаў пастралялі. І Зарэцкага, і Галавача, і Каваля — недзе пад сотню чалавек знішчана. Няважна: «прызнаўся» ты ў якіх «злачынствах» ці не, прысуд ішоў цераз тройкі і асобныя нарады — расстрэл. І собіла ж мне застацца ў жывых толькі таму, што ўзяты я быў, мабыць, недзе не ў першай чарзе і «следства», вядома, таксама ішло не сярод першых, і раптам недзе выявілася, што ў расстрэлах як бы выйшаў перабор. І зусім неспадзявана следства маё затармазілася, а пасля нейкага перапынку выклікалі, каб сказаць, што следства «будзем канчаць» і аформілі тут жа групу з 12 чалавек не на «особое совещание», а на «Вярх. Суд». А суд даў ужо не вышку, а па 10 гадоў лагераў кожнаму і па гэтулькі ж ссылкі. Вось такім чынам я і застаўся жывы.

*4 ліпеня*

Увесь час не перастаю дзівіцца, як я астаўся жывы. Ну не я адзін, а хоць бы наша групка з 12 чалавек, якую спешна падрыхтавалі не на особое совещание, а на Вярхоўны Суд БССР. Да гэтага часу нарсуд не практыкаваўся: вырак выносіла Асобая нарада. Звычайна ўсіх яна афармляла на расстрэл.

*29 жніўня*

Прывык думаць, што ў жыцці нічога дарам не робіцца. От згубіў я медаль Скарынаўскі, і не пакідае мяне пытанне: а чаму гэта? Гэта ж нездарма. І скрозь жыву, чакаючы, што гэта павінна праўдзіцца. Хачу — каб добрае. Лепш кажучы, патрэбнае.

*8 верасня*

Сёння нядзеля. Аня на лецішчы. Халадэча: за акном на балконе толькі 8 градусаў. Вецер, на небе бягуць і бягуць хмары.

Прыходзіла Валодзі Чапегі[5] сястра, пераклала з нямецкай ліст ад Севы. Ён, небарака, цяпер там адзін, з жонкаю разышоўся, дзве дзяўчыны яго — Таццянка і Ева-Надзін, ужо дарослыя дзяўчаты, з ім, дзякаваць богу, жывуць дружна.

А Сева забыўся на рускую мову, яму цяжка пісаць па-руску, піша па-нямецку. А я зусім нямецкую забыў...

Я не мог нават падумаць: аказваецца, ён цяжка хварэў.

*5 кастрычніка*

Божа, які нядобры, цяжкі настрой! Каторы дзень! Мабыць, ад таго, што нездаровы. Хоць гэтак хочацца сабе супакоіць. І рабіць нічога не магу. Пустата.

А ўспаміны: то лагер, то ссылка. Адбіваюць усякае жаданне нават думаць, не тое што нешта рабіць.

А рабіць конча нешта трэба.

Шукаю самай галоўнай прычыны свайго такога нялюдскага настрою. А прычына, вядома, адна — мая хвароба. Каторы год ужо. Якую і называць не хочацца: *рак*! Пра які настрой можна гаварыць з гэтакай хваробай. Гэта ўсё роўна як...

Усё прывязана да яе... Каторы год...

## 1992

*

Часта я думаю, што хацеў бы памерці з лёгкаю ўсмешкаю ў абліччы. Нездарма ж заўсёды я радаваўся кожнаму пражытаму дню.

### ХТО МЫ?

Калі любіш Радзіму, то міжволі думаеш і пра яе лёс, варты захаплення і павагі, і пра мову, самую блізкую і родную табе. І думаеш, што яна не можа, не павінна памерці.

*20 ліпеня*

Якая страшэнная ноч была мне сёння. Я — паміраў. Ведаючы ўсё: і сваю хваробу, і сваю смерць як неабходнасць. Я быў нейкім яснавідцам, бачыў і разумеў усю недарэчнасць жыцця і свету...

Наогул нешта не зусім звычайнае са мною робіцца. Асноўнае — мабыць, на адчуванні, што ўсё дзеля мяне ўжо скончана... А ўглядзеўшыся — нават і мінулага ў мяне няма. Такога, каб яно нешта значыла. Над усім такая варожасць, ссылка, нікчэмнасць пражытага і бачанага. Адно, што ў мяне было высокае, чэснае, яснае — жонка, якая заўсёды і ўсюды ішла за мною. Прычым — гэта ж другая жонка. З першаю навечна мяне разлучыла ссылка, Сібір. Таксама памятаю яе толькі добра. Вунь на сцяне вісіць і партрэт сына, якога ніколі не бачыў. Цяпер ён сфатаграфаваны з сваімі дзвюма дочкамі.

Усё жыццё маё — як казка, толькі нядобрая, суровая. Як чужая.

*2.08*

МАМА

Якое ж святое гэтае слова! Праз усё жыццё, да самага скону, з ім не развітваецца чалавек — у сваіх думах, у сваёй любові. У гэтым слове праз усё жыццё ён знаходзіць і ўспаміны, і спадзяванні, і надзеі. У гэтым слове — само яго жыццё.

Нават пры смерці сваёй ён не разлучваецца з гэтым словам. Ён ідзе як бы насустрач з гэтым імем.

# *Лісты*

## 1. ПЕРВОМУ СЕКРЕТАРЮ ЦК КПСС Н. С. ХРУЩЕВУ[1]

*9 снежня 1954 г.*

Неоднократные указания партии и правительства настойчиво подчеркивали необходимость строжайшего соблюдения социалистической законности, предостерегая в том смысле, что человек, не сделавший преступления, не может быть подвержен опасности в нашем государстве.

Это дало мне повод вновь, уже с полной надеждой на торжество справедливости, написать жалобу, которая находится в прокурате СССР с апреля этого года. Не зависимо от того, каким способом и как технически выполнены материалы обвинения, — я заявляю, что я не виновен, что материалы обвинения покоятся на жуткой, черной клевете, старательно сработанной следователем Быховским в 1937 году, и прошу о пересмотре дела. Не зависимо от того, как старательно оформлены материалы следователем Быховским, — органы правосудия, при должном и справедливом подходе к делу, могут и обязаны установить подлинную истину.

Меж тем жалоба моя опять находится без движения и последствия клеветы и несправедливости я испытываю на себе на протяжении 18 лет.

Прошу Вашего вмешательства, Вашего указания о пересмотре дела, о новом следствии, о любом мероприятии по рассмотрению моей законной жалобы.

*Ян Скриган.*

Адрес: с. Сухобузим Красноярского края. До востребования. Скриган Иван Алексеевич.

## 2. ПЯТРУ БРОЎКУ

***[1954]***

Пётр Устинович!

О своей реабилитации я известил тебя телеграммой. Естественно, что я обязан теперь восстановиться во всех правах. Для этого посылаю извещение Прокуратуры БССР о реабилитации и 2 заявления: 1) О восстановлении в членах ССП и 2) О выплате единовременного безвозмездного пособия из сумм литфонда в размере 2-месячного среднего заработка. Эту сумму можно определить расчетным путём, да это и не обязательно, если сформулировать это как единовременное пособие в связи с реабилитацией.

Мне бы хотелось скорее получить некоторую первоначальную материальную базу, чтобы хоть немножко отдохнуть, поправить себя и скорее начать серьезную работу. Эта помощь зависит от вас.

Знание труда, производства, профессии, тем более что на протяжении ряда лет я занимал руководящие должности в довольно крупных промышленных предприятиях, имею большой опыт работы и наблюдений в созидании народного хозяйства — снабдили меня неоценимым материалом для работы, который необходимо обязательно выполнить. Года три работаю над темой «Главный бухгалтер», из названия уже видно, что тема — настоящая целина. Правда, условия моего особого положения не давали мне возможности нормально и уверенно работать над ней, и потому было много перерывов, изменений и задержек. Вторая очередная тема — «Главный инженер», за ней — «Директор завода»[1], а кроме того — целая серия рассказов. Я полон материалами, только надо успеть отрабатывать их.

Придется изменить немного свой быт, службу и, возможно, место жительства. Над этим я буду думать. Очень хотел бы выслушать по этому поводу и твои советы. Могу получить от вас и заказы, например, по текущей работе, по переводам с белорусского на русский и т. д.

Это самые короткие сведения о себе и своих намерениях.

Нужно будет мне также выписать белорусские газеты и журналы — «Полымя», «ЛіМ», «Звязда», «Советская Белоруссия» и т. д. Я вот сейчас воздерживаюсь по-белорусски писать тебе даже письмо, потому что и язык, и правописание, по-видимому,

шагнули вперед, и мне неудобно, если я где буду выглядеть как бы в старой свитке.

Петр Устинович, кроме извещения Прокуратуры БССР в твоем распоряжении имеются характеристика с последнего места работы (я там уже не работаю) и письмо Анатолия Ефимовича Горелова[2], которые также могут быть использованы в качестве документов и моим заявлениям.

Жду твоего извещения.

Крепко жму руки товарищам из далекой чудесной Сибири.

Лично к тебе хочется сказать: «Добры вечар, дарагі Пятрусь! Як доўга мы не бачыліся з табою. Віншую, вітаю цябе ад душы, рад за цябе, за тое, чым стаў ты, што зрабіў ты за гэты час!»

Будзь жа здароў.

*Ян Скрыган.*

## 3. СТАНІСЛАВУ ШУШКЕВІЧУ

*1 сакавіка 1956 г.*

Дарагі Стах!

Атрымаў твой ліст, дзякую. Надта нічым добрым пахваліцца не магу, навін асаблівых у мяне няма, шмат часу займае службовая работа, а для свае астаецца мала, і гэта мяне крыху непакоіць. Бо хочацца сёе-тое зрабіць, у галаве матэрыялу багата. Можа, я табе пісаў, што прыйшлося вельмі многа папрацаваць над складаннем зборніка апавяданняў. Асноўнае — старыя рэчы, але іх прыйшлося як мае быць перагледзець. А некаторыя пісаць бадай што нанава. Цяпер зборнік ужо ў выдавецтве[1].

Ты мне ні разу не адказаў, ці атрымаў ты грошы па рабоце ў раёне, дзе працаваў перад другім разам. Што з «Звязды» атрымаў, то гэта добра, але ж ты павінен атрымаць і па рабоце перад другім разам. Не думаю, каб у цябе было так многа грошай, што ты адмаўляешся ад гэтых. У законе пра гэта сказана ясна. Раю табе зрабіць гэта неадкладна.

Думаю, што ўвесну табе трэба будзе прыехаць у Мінск, паглядзець самому і самому ж вырашыць, што рабіць надалей: астацца тут ці вярнуцца на будоўлю электрастанцыі. Папраўдзе кажучы, калі б табе ўдалося наладзіць кантакт з рэдакцыямі, то можна было б працаваць там, дасылаць сюды творы, і гэта было б найлепш. Прынамсі, я сам вельмі мару, каб папасці на якую Брацкую гідрастанцыю, бо мне такая работа падабаецца. Люблю

прамысловасць, будоўлі, нават скучаю без гэтага. Думаю, калі ўсталююся, то буду прасіць туды хоць камандзіроўку. З маім такім поглядам мне цяжка даваць табе параду наконт работы, бо я цалкам галасую за вытворчасць. Але самому табе відней. Самае важнае — абы была магчымасць пісаць і друкавацца адтуль. Наконт гэтага ты павінен дамовіцца. Таму мне і здаецца, што ты павінен наведацца ў Мінск.

Заявіліся Звонак, Хведаровіч[2], Александровіч, Грахоўскі. Наведаўся ў «Полымя» неяк Пушча. Вось пакуль што і ўсё.

Карткі твае атрымаў, дзякую. Я і не ведаў, што ў цябе такая вялікая арцель. Сына твайго ні разу не бачыў. Неяк аднойчы хадзіў лячыць зубы ў паліклініку і сустрэў Ганку[3]. Ну там распытала сёе-тое, на гэтым наша гаворка і скончылася. Зразумеў я толькі, што яна за нешта на цябе сярдзітая, як бы за тое, што ты вінаваты, што яна адна. Я прасіў яе пашукаць дома, ці не знойдзе яна твайго білета. Абяцалася, але нешта маўчыць, мусіць, не знайшла. А кажа, што ў цябе білет быў. От такія справы.

Калі атрымаю ганарар, то хачу выслаць табе сякой-такой літаратуры, — з паэзіі ды з прозы. Але гэта толькі тады, калі атрымаю ганарар, бо з зарплаты цяжкавата.

Яшчэ раз раю табе атрымаць грошы па апошняму месцу работы.

Сёлета абяцаюцца даць новую кватэру. Без кватэры вельмі цяжка. Пакойчык мой не спрыяе да работы аніяк. Чакаю яе як свята.

Ну от і ўсё, што мог табе сказаць.

Бывай здароў, прывітанне жонцы і ўсёй тваёй арцелі.

*Ян Скрыган.*

## 4. АРКАДЗЮ ЧАРНЫШЭВІЧУ[1]

***[1957]***

Аркадзь!

Нешта цябе даўно не відаць у Мінску. Нават свае кніжкі я не магу даць. Ці скора будзеш?

23 верасня па рэспубліцы будзе наладжаны Дзень пісьменніка. Ці, іначай кажучы, Дзень кнігі. Гэта значыць, што ў гэты дзень пісьменнікі будуць рабіць сустрэчы з чытачамі ў кніжных магазінах. Будуць там сядзець дзе-небудзь за столікамі, па просьбе чытачоў могуць што прачытаць, а самае галоўнае — твае кнігі будуць купляць чытачы, а ты будзеш даваць ім аўтографы — падпісваць ім кніжкі. Мэта гэтага дня — папулярызацыя кніг, каб яны хутчэй ішлі ў людзі.

Ты прызначаны рабіць такую сустрэчу з сваімі чытачамі ў тваім родным горадзе — у Маладэчна. Будуць там паважаныя пісьменнікі — Гурскі, Аўрамчык, Скрыган і ваша мосць. Прызначана такая аперацыя на 23 верасня ў 12 гадзін дня ў абласным магазіне кнігагандлю. От ты туды і прыязджай. Мы там ужо будзем. Камандзіровачнае пасведчанне табе вышле саюз. Так па крайняй меры дамоўлена.

Абавязкова прыязджай. Можа, нават будзе сустрэча і дзе з якімі студэнтамі. Лічу, што справа гэта цікавая і важная.

Туды ж прывязу і кніжку табе.

Сустрэнемся або ў гасцініцы, або ў аблкнігагандлю.

Бывай здароў. Прывітанне тваёй сям’і.

І прывітанне ад Алеся Пальчэўскага.

*Ян Скрыган.*

## 5. СЦЯПАНУ ЛІХАДЗІЕЎСКАМУ[1]

***29 студзеня 1959 г.***

Дарагі Сцяпан!

Нават не памятаю, адказваў я табе на твой ліст і бандэроль, ці не. Трохі заматаўся. То было дома работы многа, то дзён 10 патраціў, ездзячы на з’езд[2] у Тбілісі. Толькі ўчора прыехаў. Сёння ўжо сяджу ў нашым Доме творчасці, што ў Каралішчавічах пад Мінскам.

Дзякую табе і за «Затоку ў бурах»[3], і за кніжачку, дзе ёсць багата тваіх перакладаў. Будзем спадзявацца, што праз колькі часу будзеш мець і сваю ўласную, і тады, я ведаю, у цябе будзе большая ахвота дараваць. Папраўдзе кажучы, мне самому хочацца, каб скарэй выйшла твая кніжыца, бо ўсё гэта запаўняе тую дзірку, якая зрабілася ў літаратуры тых нашых маладых, такіх харошых і гарачых камсамольскіх гадоў.

Я нават здзівіўся, калі ўбачыў «Затоку ў бурах». Гэтага выдання я нават у бібліятэцы не знайшоў, калі падрыхтоўваў мой зборнік 1956 года. Там прыйшлося перарабляць сёе-тое. І калі б не меў гэтае выданне, то і перарабляць было б менш, бо тут жа таксама пераароблена супроць першага выдання, і пераароблена не блага. Каб я меў гэтае выданне, то перарабіў бы куды лепш. Мабыць, калі буду мець час, то зноў паспрабую, улічваючы вось гэтае выданне. А я думаў, што ў цябе зборнік апавяданняў «Затока ў бурах», выдання 1929 года. Тое таксама ў мяне няма, а трэба было б прагледзець ды, можа, выратаваць некаторыя апавяданні. Праўда, пісаліся яны некалі так, што мне цяпер брыдка іх чытаць. Ну але што ж зробіш — час: і вялікі, і зусім не падобны на той, што быў у нашай маладосці.

Як ты там жывеш? Што добрага робіш? Пішы больш новых вершаў, каб уключыць іх у зборнік. Нашы жанкі памятаюць той вечар, калі ты быў у нас і чытаў свае вершы. Я таксама памятаю іх нейкае новае, крыху на ўсходні лад іх гучанне, і мне здавалася, што гэта вельмі цікава. Ты б сяды-тады прысылаў вершы для «ЛіМа», «Полымя», «Маладосці» ці «Беларусі». Няхай бы хоць сяды-тады паяўлялася тваё прозвішча.

У лесе тут у нас вельмі добра[4]: ціха, спакойна і можна было б нядрэнна працаваць, калі б я не адчуваў нейкае стомленасці. Думаю, што гэта ад дарогі, даволі цяжкай, у Грузію. Дзён колькі, мабыць, трэба паспаць. А сёння гуляў па дарозе ў лесе: от любата! Колькі думак прыходзіць па дарозе! Можа, што тут і напішу. У вас там, мабыць, цёпла? Памятаю, што зімы ў вас вельмі сіроцкія. Але лета мяне заўсёды пужала — такое гарачае, што няма куды дзявацца.

Я неяк забыўся, якая ў цябе сям'я. Вялікая ці малая, а перадавай ёй прывітанне. Май на ўвазе, што і жонка мая перадае табе прывітанне самае шчырае, бо ты нечым яе ачараваў: ці то вершамі, ці тоўстым пузам, — бог цябе ведае.

Ну дык от і будзь здаровенькі, пішы. А таксама вершы рабі і стукайся ў нашы часопісы. Ці пісаў што ў выдавецтва да Татура? Ён добры хлопец — пішы яму, пытайся, як справы, падганяй.

Моцазна цісну тае рукі.

*Ян Скрыган.*

## 6. ІВАНУ МЕЛЕЖУ

*18 мая 1961 г.*

Дарагі Іване!

Дзён колькі як збіраюся напісаць табе. Проста, каб падзякаваць за тыя харошыя часіны, якія даў ты мне тваім раманам[1]. Папраўдзе, Іване. Даўно я не чытаў з такім жарам, любуючыся на тое, што створана табою. Як хораша і ўдумна ўсё зроблена, як тонка, дасціпна і глыбока. І як праўдзіва і адчувальна. [...] Які тонкі псіхалагічны рысунак. А Ганна — гэта нешта непаўторнае і вельмі самабытнае.

Усё ўдалося табе, усё, мабыць, глыбока і даўно прадумана, гэта відно па самой фактуры. Мне нават шкода падумаць, каб што-небудзь тут скарачаць. Пастараемся, каб абысціся без гэтага. Хіба ўжо будзе прымушаць нас сама плошча часопіса[2].

Рукапіс чытаў я дома. Думаў, буду чытаць штодзень падвечар, а зранку рабіць сваё. Але прыйшлося-такі парадак парушыць: чытаў і зранку, і ўдзень, і ўночы. Бо на душы хораша было ад тваёй кнігі: і ад дасканалай філіграннай манеры пісьма, і ад сказу, і ад людзей, і ад атмасферы. Аніякіх маіх заўваг няма табе. Дай Божа табе і далей так пісаць. І каларыту мовы я нідзе не крануў, і сказаў стылістам, каб не краналі. Каб краналі толькі тое, што патрабуе граматыка, бо там былі, мабыць, і машынапісныя памылкі. Калі ты прыедзеш, то мы можам паглядзець рукапіс: калі там што і ёсць, дык толькі ў парадку сяброўскага меркавання па якіх-небудзь трох-чатырох словах. Ці, лепш кажучы, у парадку выяснення: ці ты так напісаў, ці так надрукавана на машынцы. Дый то — гэта ўжо ідзе па лініі стылістаў.

Дык от жа, Іване, цісну табе руку і дзякую за харошыя часіны, якія даў ты мне сваім раманам.

*Янка Скрыган.*

## 7. ІВАНУ МЕЛЕЖУ

*8 чэрвеня 1961 г.*

...Ні на хвілінку не вагайся і не сумнявайся, ты робіш добрую працу, пішучы свой раман. Як мне здаецца, дык аднолькава патрэбна і сучаснасць, і гісторыя, якая абумовіла нашу сучаснасць. Да сучаснасці мы прыйшлі праз вялікія нягоды і тым больш не маем права забывацца на гэты шлях. Дай шчыра кажучы, я не схілен пад сучаснасцю разумець толькі сённяшні дзень. Усё, чым жыло і жыве адно пакаленне, — гэта сучаснасць...

Не падымаецца рука, каб што-небудзь скараціць. Усё там так любоўна і тонка выпісана, што калі скарачаць, то здаецца, мне будзе балець.

У Ганначку тваю[1] я проста ўлюбіўся і перажываю: як-та складзецца далейшы яе лёс. А калі так, то значыць, што ты вобразы даў як жывыя, яны сталі дарагімі нават чытачу.

Вось, браце Іване, пішы далей. Не сумнявайся, не мучся — ты напісаў найлепшую кнігу, зрабіў вялікую перамогу. Смела магу сказаць, што гэта будзе самая яркая старонка ў літаратуры нашай пра Беларусь тых часоў...

## 8. ВІСАРЫЁНУ ГАРБУКУ[1]

*19 красавіка 1962 г.*

Паважаны тав. Гарбук!

Атрымаў вашы два апавяданні і адразу прачытаў іх. Скажу шчыра, я не знайшоў магчымасці надрукаваць іх і ў «Полымі», і параіць «Маладосці». Яны не зусім вам удаліся.

На кожным з іх у канцы я напісаў свае думкі. Вы іх прачытайце. «Чэмпіён свету» не падыходзіць проста па сваім духу: няма прычыны пра такі дробны факт чужой рэчаіснасці пісаць фельетон ці памфлет. Часопіс павінен быць на хвалі часу, ён друкуе матэрыялы па больш строгім адборы ў параўнанні са зборнікамі. Тое, што можа быць надрукавана, дапусцім, у кніжцы, не можа быць надрукавана ў часопісе, бо часопіс — усё-такі гэта афіцыйная грамадская думка.

«Свет сонца» — цікава як факт, а ў апавяданне не лягло. Многа лішняга, вонкавага, павярхоўнага, знарок прыдуманага (так выглядае, бо мастацкі не падрыхтавана) і не зусім глыбока раскрытага. Гэта апавяданне павінна быць псіхалагічнае, а вы

пайшлі па лініі вонкавай перадачы. Дзеля гэтага вам прыйшлося звяртацца да інтрыгі, знарок не раскрываць адразу, ускладняць, перадаваць сутнасць праз другарадных людзей, карыстацца элементамі таямнічасці, тармажэння дзеі. І самае нядобрае, што пасля ўсё гэта раскрываецца даволі прамалінейна і схематычна. Герой, напрыклад (мужны!), не мае мужнасці сазнацца ў тым, што надумаў зрабіць, ні таварышам па рабоце, ні матцы, ні каханай усё толькі дзеля таго, каб чытач нечага чакаў. А чытачу і чакаць няма чаго, ён ужо і так усё ведае. Значыць, гэта тэма адразу павінна быць раскрытая, сутнасць толькі ў тым, каб раскрываць духоўны свет герояў: як перажывае кожны і што кожны робіць. Раскрываць, як кажуць, духоўны свет, а не ствараць інтрыгі. Бо інтрыгі тут да таго ясныя, што як бы аўтар ні круціўся схаваць іх, нічога не выйдзе. Усё палучыцца схематычна, новага нічога не прыдумаеш: адна здрадлівая, другая ідзе за ім — вось сутнасць. І тут задача раскрыць: што ж у кожнага робіцца ў душы. Тут патрэбен глыбокі псіхалагічны рысунак. Нас мала цікавіць тое, *што* здарылася, бо мы ведаем пра гэта нават з газет, а цікавіць, *як* здарылася. А гэта *як* можна паказваць тысячамі варыянтаў, бо кожная душа можа быць раскрыта па-свойму.

Вам трэба ведаць, што вам больш удаецца, якая манера пісьма, і ў адпаведнасці з гэтым і пісаць. Тым почыркам, які вам больш уласцівы. Бо вось тыя два апавяданні зусім розныя: адно гуллівае, а другое сурь’ёзнае.

Больш чытайце: прыглядайцеся да другіх. Калі вам па характару апавяданні — чытайце апавяданні. Паустоўскага, Сяргея Ніліна, Нагібіна, Лаўрова Іллю, Буніна. У кожнага з іх многаму можна навучыцца. Старайцеся ў пісьме шукаць яркасці перадачы: тут трэба і выбраць галоўнае, і знайсці сродкі мастацкай праўдзівасці.

Бывайце здаровы. З пашанай

*Ян Скрыган.*

## 9. ПАЎЛУ КАБЗАРЭЎСКАМУ[1]

*16 жніўня 1965 г.*

Дарагі Паўлюк!

Шлю табе «Наталю»[2], як ты прасіў, тры экземпляры. Афармленне мне не асабліва падабаецца, асабліва мужчына на вокладцы. Але кажуць, што я адстаў ад моды, няхай сабе.

Ці прысылалі табе дагавор, бо ў мяне наводзілі даведкі — хто перакладаў і які адрас? І, вядома, ці прыслалі грошы?

Жыву сам памаленьку, патроху пішу. Нацэліўся на нешта больш-менш вялікае, але што з гэтага выйдзе, — не ведаю. Работа ідзе цяжкавата. Напісаў недзе адзін трацяк ці чацвёртую частку пакуль што.

У «Наталі» я трохі паправіў і цябе, і сябе. Думаю, што к лепшаму. Сёе-тое яшчэ хацеў паправіць, але было позна ўжо. На адным экземпляры я гэтыя папраўкі раблю. І на кніжачцы, што высылаю табе, паглядзі — ці не лепш было б так?

Ну ў астатнім — няма чаго і расказваць. Юбілею ніякага адзначаць не буду, бо брыдка спраўляць юбілеі, нічога не зрабіўшы. Вось і ўсё, дарагі Паўлюк.

Працуй, папраўляйся. Вось яшчэ што я хацеў табе сказаць: на той год у СП мяркую, што выйдзе мая кніжка па-руску (мабыць, у Маскве). Прынамсі, так мне паведаміў Кір'янаў: што ў плане ёсць. І ён жа напісаў, што перакладчыкам намячаюць Марка Осіпавіча Чачаноўскага. Дык я хачу папытацца, ці не ведаеш ты яго? Нешта я не памятаю, каб ён каго перакладаў, і трохі трывожуся. Не дай божа, калі пападзецца няўдалы перакладчык. І, галоўнае, што, не ведаючы, я не маю права і супярэчыць.

Ну вось і ўсё, дарагі Павел. Няхай табе добра адпачываецца і працуецца і ўсё ідзе на здароўе.

Абнімаю цябе.

*Янка.*

## 10. МІКОЛУ ТКАЧОВУ[1]

*29 верасня 1965 г.*

Дарагі Мікалай Гаўрылавіч!

Я ведаю, што звычайна ты займаешся гэтымі справамі, і таму пішу да цябе.

У лістападзе гэтага года мне будзе 60 гадоў. Звычайна такія даты адзначаюцца ў Саюзе мерапрыемствамі: наладжваюцца вечары, пішуцца адрасы, гаворацца прамовы, падносяцца кветкі. Можа стацца, што нейкім чынам Саюз захоча адзначыць і маю дату. Я вельмі прашу не рабіць гэтага. Ні вечара, ні адраса, ні юбілейных некралогаў у газетах, па радыё і ў нашых часопісах. Я проста забараняю гэта. І пісьмо гэтае знарок пішу загадзя, каб папярэдзіць усякія арганізацыйныя клопаты.

З вялікаю павагаю

*Янка Скрыган.*

## 11. ВАЛЯНЦІНЕ МІХАЙЛАЎНЕ І СЯРГЕЮ ІВАНАВІЧУ ГРАХОЎСКІМ

*23 жніўня 1979 г.*

Дзяньдобры, дарагія Грахоўшчыкі!

Сяргей, дарагі, атрымаў твой ліст. Рад быў чортведама як! Бо, скажу папраўдзе, надакучыла ўжо. Добра, што да 26 не так ужо і многа, а 27 у панядзелак раненька еду дадому[1]. І Ганначка там адна. Праўда, больш палову свайго клопату яна дзеліць з Галаю, мабыць, цэлыя дні там.

Тут, калі мянялася надвор'е, галава чула гэта: не тое што балела, але была напоўнена нейкай цяжасцю. І потым — па-зверску сплю.

У пакоі мы двое, вельмі добры і цікавы чалавек, гэта мяне і ратуе: і пагаворым з ім, і пасмяемся.

Паказалася тут мая кніжка — дзяўчынка з магазіна прыносіла. І вось жа дзіва. Здаецца, і людзі, як кажуць, тутэйшыя, бадай што ўсе з Беларусі, а кніжкі прадаць дзяўчынка і не здолела: па-беларуску не чытаем. Ды ведаеш, з якім гонарам гавораць, што *па-беларуску не чытаюць*! Як падумаеш, дык аж нядобра: для каго ж мы пішам? Хто ж нас чытае?

І выходзіць лагічна: раз вы, беларусікі, не маеце гісторыі, то навошта вам будучыня! А гісторыі нашай — ніхто нам не ўнушае.

Ну, не буду наганяць нуду. Ты нешта там патроху робіш, вядома. І правільна. Замест ныцця — трэба рабіць: пісаць, ствараць, пакідаць след.

Валянціне нізкі паклон.

Абнімаю моцна.

*Ян Скрыган.*



# ДАДАТАК

*Галіна СКРЫГАН*

## БАЦЬКА

100 гадоў з дня нараджэння! З пункту погляду развіцця цывілізацыі гэта адно імгненне ў бясконцым ланцугу падзей, якія здараюцца ў сусвеце.

Цяжка без хвалявання падумаць пра тое, што такім імгненнем вечнасці з'яўляецца жыццё майго бацькі, якое змясцілася ў адрэзак з 16 лістапада 1905 па 18 верасня 1992 года даўжынёю ў 86 гадоў.

Думка пра стварэнне памятнага дакумента, прысвечанага постаці майго бацькі (нясмелая спроба праз прыадчыненую заслону патрапіць ва ўнутраны свет яго душы, які ўсё роўна застаецца загадкай), выспела не адразу і не проста. Гэтаму асэнсаванню папярэднічалі пражытыя гады майго жыцця… Напэўна, мне патрэбны быў час, каб зразумець, што шмат для якіх падзеяў у жыцці надыходзіць свой вызначаны дзень і момант. Што нічога на свеце не робіцца проста так. Што існуюць заканамернасці быцця. І што раптоўна адбываюцца такія змены ў лёсе, якія нельга ні змяніць, ні, тым больш, прадухіліць.

У маладосці над усёй гэтай філасофіяй, як правіла, не задумваешся. Не задумваешся і пра тое, што рака часу няўмольна забірае ў мінулае дні, месяцы, гады…

На працягу жыцця многія моманты хацелася сесці і запісаць. Добрая была некалі традыцыя — весці дзённік. Цяпер, на жаль, такая практыка знікае.

Дык вось, калі думаю, з чаго ж пачаць свой аповед, думкі мае міжволі вядуць мяне ў далёкія гады дзяцінства, у глухую сібірскую вёску Сухабузім, якая шырока раскінулася непадалёк ад горада Краснаярска. У гэтыя мясціны бацька мой быў сасланы назаўсёды. Мне тады было каля двух гадоў, а старэйшаму брату Аліку каля 12.

Забралі бацьку ў Эстоніі, куды бацькі прыехалі хутка пасля майго нараджэння з горада Ферганы. Думалі, што Эстонія стане для нашай

сям’і другой радзімай. Аднак лёс зрабіў чарговы суворы сюрпрыз (першы такі сюрпрыз быў у 36-м).

Дык вось, бацьку забралі, а маці з двума дзецьмі і маміна сястра Ліда засталіся ў Эстоніі. Чаго ж было чакаць сям’і ворага народа? А таго ж, што было і з іншымі такімі ж сем’ямі. Жонку ў турму, а дзяцей раскідаць па розных дзіцячых дамах (каб назаўсёды забыліся адзін пра аднаго) з пажыццёвым кляймом: сын ці дачка ворага народа.

Думаю, што нас уратавала ад гэтага немінучага страшнага прысуду маміна інтуіцыя і незвычайная сіла духу. Літаральна ў адзін дзень былі сабраны самыя неабходныя рэчы. Квіткі на цягнік купілі раней. Мама з Лідай вырашылі дзейнічаць так, каб не выклікаць з боку ніякіх падазрэнняў. Дык вось, Ліда, а ўслед за ёй і Алік, з разбежкай у часе, пайшлі, не спяшаючыся, гуляючы, з невялікімі сумачкамі па адной дарозе. А праз некаторы час, па другой дарозе, мама мяне, быццам на прагулку, павезла ў калясцы.

Хутка цягнік ужо імчаў нас далёка за межамі Эстоніі.

* * *

У вёсцы Сухабузім мы пасяліліся спачатку на кватэры ў Слобжыных. Дом гэтай працавітай вялікай сям’і быў на ўскрайку вёскі. Мая дзіцячая памяць дагэтуль захавала вобраз адной з дачок, 16-гадовай Насты, якая з трох гадоў не падымалася з ложку. Казалі, што ў дзяцінстве яе забадала цёлка, і яна, з таго часу прыкаваная да ложку, нагадвала худое бледнае дзіця гадоў 8—10. Тут хочацца адзначыць незвычайную парадаксальнасць характару сібіракоў. З аднаго боку — круты і суворы, які часам даходзіў да крайнасці, калі любыя спрэчкі маглі перайсці ў бойку да забойства. З іншага боку, незвычайная дабрыня і ўзаемавыручка. Калі чалавеку трэба было дапамагчы, выручалі ўсёй вёскай. Я была сведкам і таго, і другога. Нельга забыць, калі хворая Настачка ў разгар лета папрасіла кіслай капусты, а яе дома не знайшлося. У імгненне гэтая вестка разляцелася па вёсцы, і аднекуль у двары з’явілася процьма народу — хто прынёс кіслую капусту, хто салёныя гуркі, хто мачоныя яблыкі і шмат-шмат іншага.

У Слобжыных мы пражылі каля года. Неўзабаве тата прыдбаў так званае сваё жытло. Гэта была зямлянка на супрацьлеглым баку вёскі. За ёй хутка замацавалася каларытная назва «вагон дальнего следования». Гэты «вагон» знаходзіўся глыбока ў зямлі. Першы вузкі пакой быў замест кухні і хлява для свойскіх жывёл: курэй, гусей, казы, індыка, парсючка. Цяпер нават немагчыма сабе ўявіць, як можна было так жыць. Наступны пакой быў нашай спальняй. Маё спальнае месца было на высокім куфры, дзе я трохгадовай дзяўчынкай вельмі добра месцілася. Маленькія ваконцы былі над столлю, і відаць быў толькі абутак чалавека, што ішоў да нас.

— Вось і Янчык ідзе, — заўсёды казала мама, вызначыўшы па нагах бацьку.

У нашай сям'і было заўжды шмат сяброў і знаёмых, якія любілі зайсці да нас «на аганёк». Гэта тычыцца і тых «прыставаў», якія павінны былі па службе назіраць за ладам жыцця ссыльнага Яна Скрыгана, а пасля сталі сябрамі нашай сям'і.

Зямлянка наша стаяла літаральна на ўскрайку — далей была рэчка, праз рэчку могілкі, а за могілкамі — тайга.

Тата быў вялікім акуратыстам, любіў, каб кожная рэч ляжала на сваім месцы, вісела на сваім цвічку, каб ляжала ўсё па слоічках, скрыначках, шафачках. Мала таго — шурупчыкі і цвічкі розных памераў ляжалі па асобных слоічках і г. д. Так неўзабаве ў нашым жыцці было ўсё абсталявана. Сваімі рукамі былі зроблены лаўкі, абедзенны стол і шмат іншага.

Я не магу прыгадаць, каб тата вызначаўся мнагаслоўем, ён гаварыў заўсёды мала і канкрэтна. Нават калі злаваўся, ніколі не выходзіў з сябе і ніколі не падвышаў голасу. А ўжо брыдкія словы — гэта выключана. Я наогул не ведала такіх слоў. І вось успамінаецца такі выпадак. Мама карміла курэй і пеўня на кухні. Мяне ў гэты час не выпускалі з суседняга пакою, бо певень чамусьці на мяне накідваўся і балюча кляваў. Але мне ж было цікава. І не паспела я прыадчыніць дзверы, як певень мяне тут жа ўхітрыўся балюча дзеўбануць. Мяне гэта так абразіла, што я проста павінна была яго неяк аблаяць. Але я не магла ўспомніць ніводнай лаянкі і, прыадчыніўшы на секунду дзверы, моцна выкрыкнула:

— Ух ты... Ненаглядны!

Доўга тады смяяліся.

* * *

Тата мяне ў дзяцінстве клікаў Галачкай. Пазней — Галай. Ён любіў насіць мяне на плячах і ў такт хады напяваць што-небудзь. Адна мелодыя ў мяне літаральна ўрасла з ранняга дзяцінства. Я, натуральна, не ведала, што гэта за музыка. Пазней, калі я вучылася ў музычнай школе, я пазнала ў ёй Ля-мажорны танец Э. Грыга. Наогул музыка Грыга бацьку вельмі падабалася. Ён адчуваў нешта роднаснае ў таямнічa-суворых незвычайных гармоніях гэтага кампазітара.

У бацькі быў вельмі тонкі слых і прыемнага тэмбру голас. Ён вельмі артыстычна паказваў сюжэт песні. Дагэтуль у вушах гучыць беларуская жартоўная песня, як «дзед бабу палюбіў, што баба хароша». Любіў спяваць ён беларускія народныя песні разам з чалавекам, які стаў блізкім сябрам нашай сям'і ў Сібіры, — Пятром Адамавічам Крыўцом — ссыльным беларусам. Іх аб'ядноўвала і роднасць душ, і надломленыя лёсы, а галоўнае, што яны далёка ад радзімы маглі

размаўляць між сабой на роднай беларускай мове. У іх выразным выкананні мне і запомнілася песня пра бабу, якая

І крычыць, і бурчыць,
Проці дзеда не змаўчыць.

І далей яны з вялікай тэатральнасцю паказвалі, што баба аказалася «і крывая, і касая, ды яшчэ і злая». Таму дзед вырашыў яе ўтапіць. І заканчваецца песня словамі:

— Цяпер, баба, кайся,
Крыху пакупайся.
Толькі баба узнырне,
Дзед ёй кіем падпіхне.

А мне, дзіцяці, усё гэта бачылася літаральна і было заўсёды страшна, калі я ўяўляла, як дзед палкай падпіхвае бабу ў ваду і яна захлёбваецца.

І яшчэ адна песня мне вельмі падабалася:

Зялёны дубочак, шырокі лісточак.
Куды вецер вее, туды галлё гнецца.

Яна іншага характару, напеўная, пяшчотная, дзе гаворыцца пра беднага хлопца. Праз гады, калі я ўжо стала прафесійным музыкантам, каронным нумарам на нашых хатніх музычных вечарах была песня на словы А. Русака «Не шукай ты мяне». Тата спяваў першую партыю, а я партыю другога голасу. Мне здаецца, што тонкая музыкальнасць бацькі перадалася яго ўнуку, таксама Яну Скрыгану, для якога музыка стала справай усяго яго жыцця, яго прафесіяй.

Гаворачы пра майго бацьку, пра нашу сям'ю, трэба абавязкова сказаць, што за ўсім дабрабытам нашай сям'і стаіць незвычайная і выбітная асоба маёй маці. У яе ўжо да сустрэчы з бацькам быў свой досыць складаны адрэзак жыцця (пра гэта часткова расказваецца ў «Наталі»). Гэта той тып рускай жанчыны, якая «коня на скаку остановит, в горящую избу войдет». Маці з бацькам былі поўнасцю супрацьлеглымі. Бацька — разважлівы, памяркоўны, заўсёды знешне спакойны, гаварыў няспешна, без лішніх словаў. Маці — хуткая, нецярплівая, не вытрымлівала доўгай гаворкі, гаварыла хутка, выразна, правільна будуючы фразы, без словаў-паразітаў. Бацька хадзіў марудна, з прыпынкамі. Маці хутка, імклівa. Таму яны разам амаль ніколі не хадзілі на шпацыры. Для бацькі ж штодзённыя мацыёны былі святой справай. Прычым маршруты заўсёды былі розныя. Тут трэба асобна сказаць пра адно захапленне таты — пра яго незвычайную любоў да кіёчкаў. Шмат ён рабіў іх сам. Прычым любіў выкарыстоўваць розныя пароды дрэва, і ад гэтага залежала форма кіёчка. Гэтым ён любіў займацца, калі бываў у Доме творчасці пісьменнікаў «Каралішчавічы». Кіёчак быў неад'емнай часткай ягонага вобліку. І не таму, што ён яму быў неабходны, а для фасону. Яшчэ для фасону бацька любіў дома

апранацца ў любую пару года ва ўзбекскі халат і цюбецейку, якія яму падарылі ў Дні беларускай культуры ва Узбекістане. Давяршалі гэты касцюм, як правіла, ці боты, ці валёнкі, ці тапкі — гэта ўжо ў залежнасці ад пары года і ад настрою.

Нельга абысці яшчэ адну супрацьлегласць. Бацька любіў цёпла апранацца і баяўся скразнякоў. Маці і зімой хадзіла з голай шыяй і без пальчатак, яна пастаянна адчыняла форткі і ніколі не прастуджвалася. Уражвае, што пры ўсіх знешніх і ўнутраных супярэчнасцях хатняя атмасфера заставалася спакойнай і ўраўнаважанай.

Выклікае здзіўленне, што мая мама, якая была карэннай масквічкай і ніколі не мела справы з работамі на зямлі, патрапіўшы ў сібірскую вёску з двума малымі дзецьмі на руках, у экстрэмальныя ўмовы выжывання, не разгубілася. Больш таго — засвоіла навуку сялянскага быту, вывучылася апрацоўваць і садзіць гарод, збіраць ураджай, саліць капусту і гуркі, варыць варэнне, замарожваць малако і шмат чаго іншага. Цяпер я думаю пра тое, адкуль у яе бралася столькі маральнай і фізічнай моцы.

Яшчэ абавязкова трэба сказаць пра талент мамы гатаваць. Яна гэта рабіла з вялікай любоўю, надаючы літаральна рытуальнае значэнне кожнай зёлцы, прыправе, прадукту. Фармальных абедаў у яе ніколі не было. Кожная, няхай самая традыцыйная, страва ў яе выкананні станавілася маленькім шэдэўрам. Гэтак жа шчодра яна любіла частаваць. Да нас часта заходзілі людзі і па справе, і проста пагаварыць, параіцца. Мама заўсёды спачатку запрашала за стол, і толькі потым пачыналіся размовы.

Знешні воблік бацькі рабіў уражанне замкнутага, крыху суворага — чалавека самога ў сабе. За лінзамі акуляраў цяжка было прачытаць у вачах яго сапраўдныя думкі і настрой. Ён сапраўды раскрываўся не заўсёды. Але калі ён адчуваў перад сабой роднасную душу, ён мог гаварыць і разважаць гадзінамі пра ўсё на свеце. І пра што б ні зайшла гутарка, яна абавязкова незаўважна зводзілася да разваг пра родную беларускую літаратуру, пра яе лёс. Асабліва ён клапаціўся пра чысціню, прыгажосць беларускай мовы. Трывога за лёс роднай мовы літаральна трэшчынай праходзіла праз яго сэрца.

Далёка няпоўным быў бы партрэт бацькі, калі не расказаць пра тое, як ён мог жартаваць, а часцяком рассмяшыць да слёз. Справа была на адпачынку ў Доме творчасці ў Дубултах у канцы 50-х гадоў. Наша таварыства складалася з сям'і Аўрамчыкаў і некаторых прыезджых з Масквы і Кіева. Мы як звычайна размясціліся на пляжы і адпачывалі ад марнатраўства. Нехта пайшоў купацца, нехта гуляе ў карты, нехта разлёгся на ручніках і ціха перагаворваецца між сабой. Я, седзячы каля мамы, гуляю ў каменьчыкі. Усе неяк размарыліся пад прамянямі скупога прыбалтыйскага сонца. Раптам перыферычным зрокам я бачу збоку каля кустоў нейкую постаць. Я ўглядваюся і дрэнна разумею, хто гэта стаіць як манумент. Ні то мужчына, ні то жанчына. Твар татаў — застыў у нерухомай тэатральнай усмешцы, на галаве — завязаная з ча-

тырох бакоў насоўка. На «постаці» мамін сарафан на тонкіх брэтэлях, а мускулістыя мужчынскія рукі скрыжаваліся на грудзях. Сарафан вісіць, як на вешалцы, да шчыкалатак. З-пад яго відаць мужчынскія босыя ногі. Я тузанула маму. Вакол людзі таксама пачалі ўглядацца ў незразумелую постаць. А далей — увесь пляж пачаў рагатаць, пакуль «постаць» пазіравала. Нехта хутка шчоўкнуў фотаапаратам, і ў нашым сямейным альбоме назаўсёды застаўся дзіўны Янчык.

* * *

У бацькавым жыцці поўна было нечаканых паваротаў. Аб адным з іх я хачу расказаць. Аднойчы за вячэрай (а наша сям'я звычайна збіралася на вячэру разам) я заўважыла, што мама з татам былі нейкія не такія, як звычайна. Вельмі хутка высветлілася прычына, якую яны хаваць і не збіраліся. Справа ў тым, што тата атрымаў на адрас Саюза пісьменнікаў БССР (ён тады знаходзіўся на вуліцы Энгельса) незвычайны ліст. З Заходняй Германіі. У канверце быў фотаздымак сімпатычнага маладога чалавека з задумлівым выразам твару. На адвароце надпіс: «Дорогому отцу от сына Всеволода. 27.07.63».

Справа ў тым, што да першага арышту (1936 г.) у таты была сям'я — жонка Галіна і сын Сева, які нарадзіўся, калі бацьку забралі. У нашым доме на гэту балючую для бацькі тэму ніколі не гаварылася. І не таму, што бацька хаваў ад сям'і нейкія таямніцы. Мама мая ўсе падрабязнасці гэтага драматычнага адрэзку жыцця бацькі ведала. І гэтага было дастаткова. Ёсць такія балючыя рэчы на свеце, да якіх нікому дакранацца нельга.

Для мяне ж такі таямнічы ліст не быў абсалютнай нечаканасцю. З самага ранняга дзяцінства я вельмі любіла слухаць маміны ўспаміны. Яна вельмі вобразна і цікава расказвала пра сваю маладосць, пра эвакуацыю ў Фергану пад час вайны, пра знаёмства з татам, пра тое, як я нарадзілася, пра жыццё ў Эстоніі. З яе аповедаў я і даведалася пра тое, што ў таты перад вайной была сям'я, і што ў самым пачатку вайны ягоная жонка і сын загінулі пад бамбёжкай, і што назвалі мяне Галінай у памяць аб загінуўшай татавай жонцы. А калі б нарадзіўся сын, яго назвалі б Усеваладам.

Дык вось, аказалася, што і сын Сева, і яго маці Галіна засталіся жывымі. Прайшоўшы свае кругі пекла, яны апынуліся ў Германіі.

Як мы даведаліся пазней, Сева выпадкова ўбачыў вокладку татавай кнігі і вырашыў напісаць літаральна «на деревню дедушке». Не ведаючы адрасу, не ўпэўнены ў тым, што гэта менавіта яго бацька (па логіцы бацьку даўно ўжо павінны былі знішчыць), Сева проста напісаў на Саюз пісьменнікаў БССР. А калі яшчэ ўзяць пад увагу ідэалагічную ўстаноўку, дык можна ўявіць, як ні на што не спадзяваўся Сева.

Так у тыя далёкія 60-я між нашымі сем'ямі завязалася пяшчотная перапіска, якая то абрывалася на які-небудзь час, то ўзнаўлялася. Мяркуючы па Севіных лістах, яго маці выхавала ў ім вельмі пяшчотныя адносіны да бацькі. Ішлі гады, аднак бацьку так і не суджана было сустрэцца з сынам.

Праз 10 гадоў пасля смерці бацькі я адшукала некалькі разоў зменены адрас Севы. Мы вельмі рэдка з ім гаворым па тэлефоне. Жыццё яго склалася няўдала. Зараз ён жыве зусім адзін. Збірае кулінарныя рэцэпты. Вельмі любіць гатаваць боршч. У 2003 годзе ў Севы ў гасцях быў мой сын Ян Скрыган-малодшы, які цяпер вучыцца і працуе ў Германіі.

Хто ведае, можа, мы з Севам калі-небудзь пабачымся. І я яго пачастую баршчом, прыгатаваным уласнаручна.

* * *

Тата вельмі рэдка цешыў нас успамінамі з свайго жыцця — жыцця, перапоўненага трагічнымі, сапраўды форс-мажорнымі віражамі. Ён наогул не любіў пустаслоўя, і мы, сямейнікі, не дакучалі яму сваімі распытваннямі. Аднак адзін момант мне, тады школьніцы, запомніўся. Мусіць, гэта было ў таты пад нейкі вызначаны настрой. Дык вось, бацька, у якога не было схільнасці да ўсялякіх містычных прымхаў, здавалася, быў заклапочаны нейкімі жыццёвымі абставінамі, якія па моцы душэўнага накалу можна параўнаць з атамным выбухам, калі ў адно імгненне рвецца сувязь часоў, знікае пад нагамі зямля і шанцы на выратаванне душы і цела практычна роўныя нулю. Ён расказаў нам, што яму двойчы ў жыцці сніўся адзін і той жа сон. Напярэдадні першага арышту яму прыснілася навіслая над ім маленькая сякерка, якая літаральна меціла ў яго і вось-вось упадзе яму на галаву. І ў гэты момант тата прачнуўся. У наступную ноч бацьку забралі. Гэта быў 1936 год.

Потым было пройдзена ўсё пекла турэмнага жыцця па поўнай дзесяцігадовай праграме. Паступова прыходзячы ў прытомнасць, па сутнасці, пачынаючы жыць з нуля, бацька атабарыўся на сланцахімічным камбінаце ў эстонскім горадзеКівіылі. І раптам адной ночы 1949 года ў сне зноў з'яўляецца тая ж знаёмая сякерка. Наступную ноч тату дома начаваць не давялося.

Што гэта? Можа, нейкае папярэджанне? Можа, само неба дало магчымасць напоўніць дух жывой энергіяй і тым самым ўратаваць ад душэўнага зрыву? Хто ведае. Адказу на гэтае пытанне няма.

* * *

Той вераснёўскі дзень быў такі ж, як учора і пазаўчора. Тата ўжо больш ляжаў. Мама завіхалася на кухні, а мы з Ясікам сабраліся схадзіць у краму. Перад выхадам з дому я падсела да таты, ён усміхнуўся, крыху прыпадняўся на локаць і спытаў:

— Галачка, калі павінен Юрка прыехаць? (Старэйшы ўнук.)

Я адказваю:

— Ды не сёння-заўтра, тата, ён прыедзе.

Мы з Ясікам адсутнічалі не больш за гадзіну. У дзвярах нас сустрэла мама словамі:

— Галачка, ужо няма нашага таты.

Па словах маці, як толькі мы выйшлі, яна прынесла тату каву і прысела на яго ложак. Бацька ўзяў яе рукі ў свае і пачаў цалаваць, а потым кажа:

— Ведаеш, Ганначка, я ўжо знаходжуся ў зусім іншым доме.

Надвор'е ў дзень пахавання выдалася на дзіва прыветным. Мякка свяціла вераснёўскае сонца, праводзячы разам з усімі бацьку ў апошні шлях.

* * *

Вось ужо 13 гадоў няма з намі нашага любімага таты і дзядулі. Праз 6 гадоў пасля яго смерці пайшла ў лепшы свет яго верны і надзейны сябра — жонка Ганна Міхайлаўна Скрыган, якая дзяліла з бацькам цяжкія гады выгнання. І чым больш часу мяне аддзяляла ад апошняга ўдыху майго бацькі, тым больш спела патрэба маёй душы перагартаць старонкі яго жыцця. Дзесьці за паўтары гады да юбілею ў размове з Янкам Брылём, Хрысцінай Лялько, Васілём Вільтоўскім я пачула столькі добрых словаў пра майго бацьку, што, акрыленая, тут жа занялася зборам матэрыялаў, звязаных з імем бацькі, яго жыццём, яго творчай дзейнасцю. Паступова ў гэты працэс пачалі падключацца татавы сучаснікі, людзі, з якімі тату звязвалі службовыя, творчыя, сяброўскія і проста добрыя адносіны.

У выніку такой калектыўнай працы ў юбілейным 2005 годзе ў выдавецтве «Беларускі кнігазбор» з'явілася кніга ўспамінаў пра бацьку «Слова пра Яна Скрыгана».

У працэсе работы над падрыхтоўкай кнігі ўспамінаў, разбіраючы хатнія архівы, я зразумела, што татава душа і розум працавалі да апошняга дня. Я знайшла некалькі скампанаваных варыянтаў для будучай кнігі пад назвай «Спакою душы не будзе». У асобнай папцы складзены старанна выпраўленыя, падрыхтаваныя да публікацыі апавяданні пад назвай «Сэрца горкая далячынь».

Смерць няўмольна ў адно імгненне назаўсёды спыніла яго сэрца, якое не ведала спакою і адпачынку.

Засталася памяць.

І я думаю, што самым дарагім падарункам да дня нараджэння нашага таты і дзядулі ад яго нашчадкаў будзе выданне кнігі яго выбраных твораў.

Унікальнай уласцівасцю быцця з'яўляецца тое, што з цягам часу самыя горкія і трагічныя моманты жыцця паступова перастаюць крoіць

душу. Боль сыходзіць. Застаецца высокае пачуццё прасветленасці, дабра і любові. Па такіх філасофскіх прынцыпах жыў мой бацька. Такімі меркамі мераў учынкі людзей. Такімі перакананнямі кіраваўся ў самыя невыносныя хвіліны жыцця. А лепш за ўсё сваё жыццёвае крэда бацька выказаў у сваім выразе: «Увесь мудры дзівосны свет, кожны раз па-новаму пазнаны, я бачу толькі сваімі вачыма. І нават не думаю, што гляджу праз акуляр, у якім асталіся сляды ўсіх, хто жыў і глядзеў да мяне, — тысячы і мільёны гадоў чалавечае дзейнасці.

Па праву пераемнасці гэтакі след нашчадкам павінен пакінуць і я, сённяшні чалавек».

*Ян СКРЫГАН-малодшы*

## МОЙ ДЗЕД

Мне пашанцавала. Я нарадзіўся ўнукам выдатнага дзеда, які, можна цвёрда сказаць, — аддаў мне частку свайго жыцця, свайго сэрца.

Год майго нараджэння супаў з цяжкім перыядам у нашай сям'і, калі дзед Ян паволі ачуньваў пасля вялікага інсульту. Жыццё яго вісела літаральна на валаску.

Па словах бабулі, яна падумала тады, што Гасподзь забірае да сябе аднаго Яна, а на змену даў другога. З яе лёгкай рукі мяне і назвалі ў гонар дзеда Янам. Цяпер я думаю пра тое, як добра, што Гасподзь працягнуў яго гады, іначай я не мог бы напісаць гэтых радкоў.

Як толькі я пачаў сябе помніць, дзед заўсёды са мной: яго позірк, яго ўсмешка, яго ціхі спакойны голас, яго няспешныя рухі, яго размовы са мной без сюсюкання на сур'ёзнай і паважлівай хвалі.

Любімай гульнёй дзеда былі шахматы. Візіты блізкіх яго сяброў заўсёды заканчваліся партыяй у шахматы. Прычым лік вёўся ад гульні да гульні. Можна сказаць, цэлая серыя гульняў прыводзіла да перамогі ці паразы. Так незаўважна, назіраючы, я ўцягнуўся ў гэтую найцікавейшую інтэлектуальную гульню. Пад кіраўніцтвам дзеда я і навучыўся гуляць у шахматы. Часам мы з дзедам праводзілі цэлыя паядынкі. Калі я выйграваў, я незвычайна радаваўся, а яшчэ больш быў рады дзед. Радаваўся ён неяк асабліва, па-скрыганаўску — стрымана. Вочы яго ўсміхаліся добрай і задаволенай усмешкай.

Праз гады я разумею, што ў большасці выпадкаў ён проста даваў мне магчымасць выйграць, адчуць упэўненасць у сваіх сілах і вялікую радасць. У гэтым я бачу незвычайную жыццёвую мудрасць свайго дзеда.

А яшчэ дзед быў неабыякавы да музыкі. Я ўспамінаю, як ён любіў слухаць, калі я, вучань музычнай школы, займаўся на гітары. Ён заўсёды быў удзячным слухачом. Ён звыкла ўсаджваўся ў крэсла нага на нагу, падпіраючы даланёю шчаку, і глядзеў некуды ўдалеч. Я быў упэўнены, што праз яго душу праходзіць кожны сыграны мной гук. І таму вельмі стараўся. А потым, памаўчаўшы, дзед пачынаў аналізаваць некаторыя моманты ігры так, як яму падказвала інтуіцыя. Я заўжды прыслухоўваўся да ягоных парад.

Пасля падрабязнага абследавання ўрачы сказалі бабулі, што ў дзеда ракавымі метастазамі пашкоджаны ўсе ўнутраныя органы. Дзеду было 86 гадоў. Канешне, не было і размовы пра аперацыю.

Пра хваробу дзеда дома ўслых не гаварылася, і наогул не гаварылася. Жылі так, як звычайна. Да апошняга дня дзядуля трымаўся бадзёра ці, больш дакладна, імкнуўся трымацца бадзёра.

Падчас нашай чарговай гульні ў шахматы патэлефанаваў стары сябра дзеда Янка Брыль, які ведаў, што дні, а можа, і гадзіны дзеда літаральна лічаныя. Пасля кароткай размовы ён папытаўся ў дзеда:

— Што ты зараз робіш?

— З унукам гуляю ў шахматы, — бадзёра адказаў дзед.

Праз два дні дзед памёр.

З таго часу прайшло 13 гадоў. Я стаў прафесійным музыкам-выканаўцам на класічнай гітары. За гэтыя гады было шмат выступленняў на канцэртах, на конкурсах, на фестывалях. І я ведаю, што сярод усіх маіх слухачоў ёсць самы добры, мудры і прыхільны да мяне слухач — мой дзед Ян.

*2004*



# КАМЕНТАР

*Віктар Каваленка.*
*Ян Скрыган (с. 5)*

Артыкул друкуецца паводле выд.: Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя: У 3 т. Мн., 2001. Т. 3 (у скарачэнні).

## КРУГІ

Гэты раздзел склалі аўтабіяграфічная аповесць «Кругі» і ўспаміны пра дваццацігадовае зняволенне ў аддаленых краях Савецкага Саюза «Горкая далячынь».

*Кругі (с. 23)*

Упершыню — час. «Полымя», 1963, № 2.

Друкуецца паводле выд.: Скрыган Я. Выбраныя творы: У 2 т. Мн., Т. 1. 1985.

У першай публікацыі гэты аўтабіяграфічны твор называўся «Свая аповесць». Пры выданні асобнай кнігай у выдавецтве «Беларусь» (1964) аповесць была падзелена на раздзелы з назвамі «Круг першы», «Круг другі», «Круг трэці», «Круг чацвёрты» з падзагалоўкам «Шуканні». У кнізе «Выбранае» (1969) аповесць займела канчатковую назву «Кругі» і набыла новую структуру — яна была значна пашырана за кошт асобных апавяданняў і ўспамінаў пра сяброў-пісьменнікаў. Аформіліся і раздзелы з такімі назвамі: круг першы — «Парог», круг другі — «Світанак», круг трэці — «Трывогі», круг чацвёрты «Сугучча». У двухтомавым выданні «Выбраныя творы» (1985) апошні раздзел названы іначай — «Спасціжэнне», дадаўся і «дасказ» — «Даткненне». Тут усе «кругі» яшчэ раз дапоўніліся рознымі мастацкімі творамі.

У цяперашнім нашым выданні аўтабіяграфічная аповесць «Кругі» падаецца асобна ад дададзеных да яе мастацкіх твораў і нарысаў — яны змяшчаюцца тут у іншых раздзелах. У структуры аповесці пакінуты толькі дзве невялікія згадкі — «У хроснага бацькі» і «Два немцы», якія арганічна ўпісваюцца ў яе.

[1] *Грамовіч* Іван (1918—1986) — беларускі пісьменнік.

[2] *...калі я ўключу яго ў гэту кнігу...* — Маецца на ўвазе двухтомавае выданне «Выбраныя творы» (Мн., 1985), у якім і было змешчана гэта апавяданне ў структуры аўтабіяграфічнай аповесці «Кругі».

[3] *Доўнар-Мусніцкі* Юзаф (1867—1937) — рускі і польскі ваенны дзеяч, генерал-лейтэнант рускай арміі (1917), генерал Войска Польскага, кіраўнік мяцяжу супраць савецкай улады на Беларусі ў 1918 г.

[4] *Пілсудскі* Юзаф (1867—1935) — польскі грамадска-палітычны, дзяржаўны і ваенны дзеяч. Як «начэльнік» Польскай дзяржавы ў 1919—1920 гг. ажыццяўляў агульнае кіраўніцтва ваеннымі дзеяннямі Войска Польскага супраць Чырвонай Арміі. Санкцыянаваў заключэнне Рыжскага мірнага дагавора 1921 г., на падставе якога Заходняя Беларусь увайшла ў склад Польскай дзяржавы.

[5] *Шукайла* Паўлюк (1904—1939) — беларускі паэт, празаік, крытык. У 1930 г. быў беспадстаўна арыштаваны па так званай справе «Саюза вызвалення Беларусі» і неўзабаве вызвалены. У 1938 г. ізноў арыштаваны і прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

### *Горкая далячынь (с. 93)*

Раздзел склалі нідзе дагэтуль не публікаваныя ўспаміны, за выключэннем дзвюх згадак з «Трыпціха» — «Будрык» і «Бела Кун», надрукаваных у кнізе Я. Скрыгана «Некалькі хвілін чужога жыцця» (Мн., 1990). Машынапісныя рукапісы ўспамінаў захоўваюцца ў сямейным архіве дачкі пісьменніка Галіны Іванаўны Скрыган.

[1] *Допр* — дом папярэдняга зняволення.

[2] *Астапенка* Змітрок (1910—1944) — беларускі паэт і празаік. Родам з Мсціслаўскага павета. У 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і асуджаны на 8 гадоў пазбаўлення волі.

[3] *Бухарын* Мікалай Іванавіч (1888—1938) — дзяржаўны і партыйны дзеяч Савецкага Саюза, член Палітбюро ЦК КП(б) да 1929 г., лідэр антысталінскай апазіцыі. Рэпрэсаваны, асуджаны, расстраляны.

[4] *Знаёмы* Сяргей (сапр. Сяргей Змітравіч Клопаў; 1909—1944?) — беларускі пісьменнік. У 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і асуджаны на 8 гадоў зняволення ў лагеры, адкуль у 1944 г. уцёк, і звестак пра яго далейшы лёс больш не захавалася.

[5] *Лекпом* — памочнік лекара ў лагеры.

[6] *Тухачэўскі* Міхаіл Мікалаевіч (1893—1937) — савецкі ваенны дзеяч, Маршал Савецкага Саюза (1935). З красавіка 1920 г. камандуючы Заходнім фронтам. У час савецка-польскай вайны 1920 г. распрацаваў і кіраваў Ігуменска-Менскай і Варшаўскай аперацыямі. У 1937 г. быў арыштаваны органамі НКУС і расстраляны.

[7] *Адамовіч* Язэп (1897—1937) — дзяржаўны дзеяч БССР. У 1924—1927 гг. — старшыня СНК БССР. У час масавых рэпрэсій скончыў жыццё самагубствам.

[8] *Савінкаў* Барыс Віктаравіч (1879—1925) — расійскі палітычны дзеяч, літаратар. Адзін з кіраўнікоў партыі эсэраў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. прымаў удзел у паходзе П. М. Карнілава на Пе-

траград, фарміраванні Добраахвотніцкай арміі на Доне, арганізаваў падпольны афіцэрскі «Саюз абароны Радзімы і свабоды» ў Маскве. Разам з С. Н. Булак-Балаховічам у пачатку 1920-х гг. арганізаваў рэйды ваенных атрадаў у Савецкую Беларусь. У 1924 г. пры спробе перайсці дзяржаўную мяжу быў арыштаваны на тэрыторыі Беларусі. Паводле афіцыйнай версіі — скончыў жыццё самагубствам.

[9] *Булак-Балаховіч* Станіслаў (1883—1939) — ваенны і палітычны дзеяч. Паходзіў з дробнай беларускай шляхты. Камандаваў вайсковымі фарміраваннямі на тэрыторыі Беларусі супраць Чырвонай Арміі ў 1920—1922 гг.

## ХВІЛІНЫ

Усе творы гэтага раздзела друкуюцца паводле выд.: Скрыган Я. Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1990.

### *Дно душы (с. 133)*

Упершыню — Скрыган Я. Ранішнія росы. Мн., 1965.

### *Настаўнік (с. 135)*

Упершыню — Жыццё для народа. Мн., 1962.

### *Госці з Мінска (с. 336)*

Упершыню — час. «Полымя», 1960, № 4. Пад назвай «Першая сустрэча з Кузьмом Чорным» у кн.: Скрыган Я. Ранішнія росы. Мн., 1965 г.

[1] *Пушча* Язэп (сапр. Іосіф Паўлавіч Плашчынскі; 1902—1964) — беларускі паэт. У 1930 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і высланы на Урал. Вярнуўся ў Мінск у 1958 г. пасля рэабілітацыі.

### *Ранішнія росы (с. 139)*

Упершыню — час. «Полымя», 1963, № 12.

[1] *Інбелкульт* — Інстытут беларускай культуры — першая ў гісторыі Беларусі шматгаліновая навукова-даследчая ўстанова, папярэднік Акадэміі навук Беларускай ССР.

[2] *Чарот* Міхась (сапр. Міхаіл Сямёнавіч Кудзелька; 1896—1937) — беларускі паэт, празаік, драматург. У 1937 г. беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і расстраляны.

[3] *Сасюра* Уладзімір Мікалаевіч (1897—1965) — украінскі паэт. Перакладчык твораў беларускіх паэтаў на ўкраінскую мову.

[4] *Бабарэка* Адам (1899—1938) — беларускі паэт, празаік, літаратурны крытык. У 1937 г. быў арыштаваны органамі НКУС і засуджаны на 10 гадоў выпраўленча-працоўнага лагера, дзе і памёр.

[5] *Дудар* Алесь (сапр. Аляксандр Аляксандравіч Дайлідовіч; 1904—1937) — беларускі паэт, празаік, крытык. Беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і расстраляны.

[6] *Вольны* Анатоль (сапр. Анатоль Іўсцінавіч Ажгірэй; 1902—1937) — беларускі паэт, празаік, драматург. Заслужаны дзеяч мастацтва БССР. У 1937 г. беспадстаўна арыштаваны і расстраляны.

[7] *Мурашка* Рыгор (1902—1944) — беларускі пісьменнік. Загінуў у час прарыву блакады як удзельнік партызанскага руху на Беларусі.

[8] *Зарэцкі* Міхась (сапр. Міхаіл Яфімавіч Касянкоў; 1901—1937) — беларускі пісьменнік. У 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны і расстраляны.

[9] *Александровіч* Андрэй (1906—1963) — беларускі паэт і празаік. У 1938 г. быў рэпрэсаваны. Тэрмін адбываў на Крайняй Поўначы. Пасля рэабілітацыі ў 1955 г. вярнуўся ў Мінск.

### *Дзядзька Цішка (с. 149)*

Упершыню — Скрыган Я. Выбранае. Мн., 1969.

[1] *Гартны* Цішка (сапр. Зміцер Хведаравіч Жылуновіч; 1887—1937) — дзеяч беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, дзяржаўны і грамадскі дзеяч БССР, гісторык, публіцыст, пісьменнік. Акадэмік АН БССР. З дня ўтварэння БССР (1.1.1919) да 3.2.1919 г. — старшыня Часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі, у 1920—1931 гг. — член ЦВК БССР. У 1936 г. арыштаваны і даведзены ў турме да вар'яцтва, дзе і памёр.

[2] *Баранавых* Сымон (Сымон Якаўлевіч Баранаў; 1900—1942) — беларускі пісьменнік. У 1936 г. быў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў зняволення. Загінуў у лагеры.

### *Некалькі хвілін чужога жыцця (с. 154)*

Упершыню — Скрыган Я. Выбранае. Мн., 1969.

### *Надпіс на кнізе (с. 161)*

Упершыню — Скрыган Я. Скажы адно слова. Мн., 1961.

[1] *Галавач* Платон (1903—1937) — беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. У 1937 г. беспадстаўна арыштаваны і расстраляны.

### *Каляровы аловак (с. 165)*

Упершыню — Скрыган Я. Кругі. Мн., 1969.

[1] *Калюга* Лукаш (сапр. Канстанцін Пятровіч Вашына; 1909—1937) — беларускі пісьменнік. У 1933 г. быў беспадстаўна арыштаваны і асуджаны на 5 гадоў. Пасля паўторнага арышту расстраляны.

[2] *Бэндэ* Лукаш (1903—1961) — беларускі крытык, публіцыст і літаратуразнавец вульгарна-сацыялагічнага кірунку.

### *Пабітая шашалем кніга (с. 167)*

Упершыню — газ. «Вячэрні Мінск», 1968, 30 студз.

[1] *Нікановіч* Мікола (1902—1944) — беларускі пісьменнік. У 1933 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і высланы за межы

Беларусі. У 1942 г. прызваны ў Савецкую Армію. У кастрычніку 1944 г. прапаў без вестак на тэрыторыі Чэхаславакіі.

[2] *Хадыка* Уладзімір (1905—1940) — беларускі паэт. У 1936 г. беспадстаўна арыштаваны, а ў 1937 г. асуджаны на 10 гадоў зняволення. Загінуў у 1940 г. на будаўніцтве чыгункі каля Улан-Удэ.

[3] *Аляхновіч* Мікола (1903—1959) — беларускі літаратурны крытык. У 1936 г. быў рэпрэсаваны. Адбываў ссылку на Калыме (1938—1942), потым быў на пасяленні ў Іркуцкай і Карагандзінскай абласцях. У 1957 г. рэабілітаваны.

### *На вячэры (с. 169)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 1962, 4 снеж., пад назвай «Незабыўныя рысы друга».

[1] *Куніцкі* Сымон (1902—1940) — беларускі пісьменнік. У 1936 г. быў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў. Загінуў на Калыме.

[2] *Пальчэўскі* Алесь (1905—1979) — беларускі пісьменнік. У 1936 г. беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС, у 1937 г. прыгавораны да пазбаўлення волі. У 1948 г. быў зноў асуджаны да высылкі (на пасяленне). У 1955 г. вярнуўся дамоў.

[3] *Мікуліч* Барыс (1912—1954) — беларускі пісьменнік. У 1936 г. асуджаны на 10 гадоў зняволення. У 1947 г. вярнуўся на Беларусь. У 1949 г. арыштаваны паўторна, высланы ў Сібір, дзе і памёр.

[4] *Шынклер* Хвядос (1903—1942) — беларускі пісьменнік. У 1942 г. пайшоў добраахвотнікам у Чырвоную Армію. У гэтым жа годзе загінуў пад Сталінградам.

### *Падпраўленае прозвішча (с. 171)*

Гэтае і наступныя чатыры апавяданні ўпершыню — Скрыган Я. Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1979.

### *Біяграфія (с. 172)*

[1] *Хурсік* Сымон (1902—1972) — беларускі пісьменнік. У 1931 г. быў арыштаваны і асуджаны на 5 гадоў высылкі ў Йашкар-Алу. Удзельнік ВАВ. Пасля вайны — зноў у высылцы. Жыў у Карагандзе.

### *Няспраўджанае калегаванне (с. 176)*

[1] *Каваль* Васіль (1907—1937) — беларускі пісьменнік. У 1936 г. беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і расстраляны.

### *Нарачанскі чараўнік (с. 181), Ліст не будзе адасланы (с. 186), Рэквіем (с. 193)*

Упершыню — Дзень паэзіі. Мн., 1971.

### *Сяргей Фамін і яшчэ нехта (с. 198)*

Упершыню — час. «Полымя», 1980, № 1.

[1] *Фамін* Сяргей (1906—1941) — беларускі паэт. У 1934 г. быў арыштаваны органамі НКУС і прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстрэл быў заменены пазбаўленнем волі на 10 гадоў. Адбываў зняволенне ў Комі АССР. Пасля паўторнага суда ў 1941 г. быў расстраляны.

### *Рубец (с. 202)*

Упершыню — Скрыган Я. Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1990.

### *Мой сусед Іван Мележ (с. 204)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1980, № 11.

### *Пасля развітання (с. 216)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 1980, 18 студз.

### *Самае доўгае таварышаванне (с. 221)*

Упершыню — Скрыган Я. Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1990.

[1] *Маракоў* Валеры (1909—1937) — беларускі паэт. У 1937 г. арыштаваны органамі НКУС і расстраляны.

[2] *Таўбін* Юлі (1911—1937) — беларускі паэт. У 1933 г. арыштаваны органамі НКУС і прыгавораны на 2 гады высылкі ў Цюмень. У 1936 г. арыштаваны паўторна і расстраляны.

### *Няслава і хвала (с. 225)*

Упершыню — Скрыган Я. Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1990.

[1] *Гаўрук* Юрка (1905—1979) — беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1935 г. рэпрэсаваны. Асуджаны на высылку з Беларусі. Рэабілітаваны ў 1956 г.

[2] *Гарэцкі* Максім (1893—1938) — класік беларускай літаратуры. У 1931 г. асуджаны на высылку з Беларусі. Расстраляны.

[3] *Ганчарык* Міхаіл (1899—1986) — вучоны-біёлаг, пісьменнік, член-карэспандэнт АН Беларусі. У 1933 г. беспадстаўна арыштаваны і ў 1934 г. асуджаны на 10 гадоў зняволення. У 1947 г. вызвалены. У 1949 г. зноў арыштаваны, прыгавораны на 10 гадоў ссылкі. Вызвалены у 1959 г.

[4] *Вечар* Алесь (1905—1985) — вучоны-біёлаг, паэт. Акадэмік АН Беларусі. У 1931 г. па ілжывым абвінавачанні, што ён сын кулака, быў выключаны з партыі і звольнены з працы ў Горацкім тэхнікуме механізацыі сельскай гаспадаркі. Выехаў за межы Беларусі. У 1959 г. вярнуўся на радзіму.

### *Скураное паліто (с. 237)*

Упершыню — Скрыган Я. Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1990.

[1] *Багун* Міхась (сапр. Міхаіл Фёдаравіч Блошкін; 1908—1937) — беларускі паэт, празаік, перакладчык. У студзені 1936 г. арыштаваны і ў снежні 1937 г. на адным з этапаў памёр.

[2] *Грахоўскі* Сяргей (1913—2002) — беларускі паэт, празаік, публіцыст. У 1936 г. арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў. У 1949 г. быў

паўторна арыштаваны і высланы на вечнае пасяленне ў Новасібірскую вобласць. Вярнуўся ў Мінск пасля рэабілітацыі ў 1955 г.

### *Толькі адна сустрэча (с. 245)*

Упершыню — Скрыган Я. Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1990.

### *Той час, альбо Алесь Гародня (с. 247)*

Друкуецца ўпершыню з рукапісу, які захоўваецца ў сямейным архіве дачкі пісьменніка Галіны Іванаўны Скрыган.

[1] *Гародня* Алесь (сапр. Аляксандр Эраставіч Функ; 1899—1944) — беларускі пісьменнік. У 1930 г. арыштаваны як удзельнік уяўнай «контррэвалюцыйнай групоўкі» і ў 1931 г. асуджаны. У 1942 г. яму была зноў інкрымінавана «контррэвалюцыйная агітацыя». Самаркандскі абласны суд прыгаварыў яго да расстрэлу, але пакаранне было заменена на 10 гадоў зняволення, у час якога памёр. Рэабілітаваны пасмяротна.

[2] *Лявонны* Юрка (сапр. Леанід Мікалаевіч Юркевіч; 1908—1937) — беларускі паэт, нарысіст, перакладчык. У 1936 г. беспадстаўна арыштаваны і расстраляны.

[3] *Дыла* Язэп (1880—1973) — беларускі празаік, драматург, грамадскі дзеяч. У 1931 г. асуджаны на 5 гадоў высылкі ў Кунгур. У 1938 г. зноў арыштаваны, у 1939 г. вызвалены. Жыў і памёр у Саратаве.

[4] *Некрашэвіч* Сцяпан (1883—1937) — беларускі мовазнавец і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН Беларусі. З 1928 г. віцэ-прэзідэнт АН БССР. У 1930 г. асуджаны на 5 гадоў высылкі ў Удмурцкую АССР. У 1937 г. арыштаваны паўторна і расстраляны.

[5] *Галубок* Уладыслаў (1882—1937) — беларускі празаік, драматург. У 1937 г. беспадстаўна арыштаваны і расстраляны.

## АПАВЯДАННІ

Усе апавяданні раздзела друкуюцца паводле выд.: Скрыган Я. Выбраныя творы: У 2 т. Мн., 1985.

### *Пры вогнішчы (с. 255)*

Упершыню — Скрыган Я. Свая аповесць. Мн., 1964.

### *Таіса (с. 265)*

Упершыню — час. «Росквіт», 1927, № 1.

### *Шчаслівая літара (с. 275)*

Упершыню — час. «Маладняк», 1931, № 10, 11, 12, пад назвай «Гомсельмаш». Першае выданне: Скрыган Я. Апавяданні. Мн., 1956. Тут — пад назвай «Каця з фармовачнай».

### *Дакументальная рэвізія (с. 285)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1955, № 12.

*Наталя (с. 294)*

Упершыню — час. «Полымя», 1957, № 7.

*Паваротак каля хвоі (с. 319)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 1957, 1 мая, пад загалоўкам «Паваротак ля сасны».

*У Кірылы на хутары (с. 328)*

Упершыню — час. «Полымя», 1958, № 12.

*След гумовых шын (с. 347), Развітанне (с. 352)*

Упершыню — час. «Полымя», 1962, № 1.

*Месячная ноч (с. 365)*

Упершыню — час. «Полымя», 1962, № 6.

*У старым доме (с. 376)*

Упершыню — час. «Полымя», 1964, № 1.

*Над гаем кружылі буслы (с. 383)*

Упершыню — час. «Полымя», 1965, № 5.

*Конны двор (с. 389), Мой дэпутат (с. 399)*

Упершыню — час. «Полымя», 1966, № 12.

*Факір Іяма (с. 405)*

Упершыню — Скрыган Я. Кругі: Выбраныя творы: У 2 т. Мн., 1975. Т. 1.

[1] *Бэйпін* — ранейшая назва Пекіна.

## ЧАРЫ СЛОВА

Матэрыялы раздзела друкуюцца паводле выд.: Скрыган Я. Выбраныя творы: У 2 т. Мн., 1985. Т. 1.

*Думкі аб мове (с. 419), Яшчэ трохі аб мове (с. 432), Чары слова (с. 439)*

Упершыню — Скрыган Я. Ранішнія росы. Мн., 1965.

*Блізкія сэрцу думкі (с. 445), Беглыя запісы (с. 452), Эцюды (с. 458)*

Упершыню — Скрыган Я. Выбраныя творы: У 2 т. Мн., 1975. Т. 2.

## ШУФЛЯДА МАЙГО СТАЛА *(с. 465)*

Творы «Пярэгалас», «Дысертацыя», «Забытае дзіва», «Прададзены аўтограф», «Добрасць», «Перападлік», «Ратуша», «Залаты крыжык», «Імя», «Жанчына і пенсіянер», «Зайздрасць» і «Інтэрв'ю» друкуюцца паводле выд.: Скрыган Я. Выбраныя творы: У 2 т. Мн., 1985.

«Па дарозе ў Капыль», «Шуканне камянёў», «Паездка за мяжу» друкуюцца ўпершыню з машынапіснага рукапісу, які захоўваецца ў сямейным архіве дачкі пісьменніка Галіны Іванаўны Скрыган.

### *Паездка за мяжу (с. 484)*

[1] *Шулякоўскі, Карніловіч* — відавочна, гэта змененыя прозвішчы пісьменнікаў, пра якіх тут гаворка.

## ДЗЁННІКАВЫЯ ЗАПІСЫ

Запісы друкуюцца паводле рукапісаў, якія захоўваюцца ў сямейным архіве дачкі пісьменніка Галіны Іванаўны Скрыган.

[1] *Юрачка* — Юрый Скрыган, старэйшы ўнук пісьменніка.

[2] *Кіявец* — вёска ў Валожынскім раёне.

[3] *Гала* — так пісьменнік называў сваю дачку Галіну.

[4] *Карпаў* Уладзімір (1912—1977) — беларускі пісьменнік.

[5] *Чапега* Уладзімір (нар. 1939) — беларускі пісьменнік-перакладчык. Жыве ў Германіі.

## ЛІСТЫ

### *1. Первому секретарю ЦК КПСС Н. С. Хрущеву (с. 507)*

[1] *Хрушчоў* Мікіта Сяргеевіч (1894—1971) — савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч. Герой Савецкага Саюза (1964), Герой Сацыялістычнай Працы (1954, 1957, 1966). На XX (1956) і XXII (1961) з’ездах КПСС выступіў з крытыкай культу асобы І. В. Сталіна.

### *2. Пятру Броўку (с. 508)*

[1] Задуманыя працы «Главный бухгалтер», «Главный инженер», «Директор завода» не былі напісаны.

[2] *Горелов* Анатолий Ефимович — кіраўнік камунгаса ў Сухабузіме.

### *3. Станіславу Шушкевічу (с. 509)*

[1] *...Цяпер зборнік ужо ў выдавецтве.* — Маецца на ўвазе зборнік Я. Скрыгана «Апавяданні» (Мн., 1956).

[2] *Хведаровіч* Мікола (сапр. Мікалай Фёдаравіч Чарнушэвіч; 1904—1982) — беларускі пісьменнік. У 1938 г. быў арыштаваны і высланы за межы Беларусі. Пасля рэабілітацыі вярнуўся ў 1956 г. у Мінск.

[3] *...сустрэў Ганку.* — Верагодна, маецца на ўвазе першая жонка Станіслава Шушкевіча.

### *4. Аркадзю Чарнышэвічу (с. 511)*

[1] *Чарнышэвіч* Аркадзь (1912—1967) — беларускі пісьменнік. У 1930 г. раскулачылі бацьку і адправілі на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала, а сям'ю, у тым ліку і А. Чарнышэвіча, вывезлі ў Качоўскі раён Комі-Пярмяцкай акругі. Там у пасёлку Янчэр пісьменнік працаваў, вучыўся. У 1950 г. вярнуўся на радзіму.

### *5. Сцяпану Ліхадзіеўскаму (с. 511)*

[1] *Ліхадзіеўскі* Сцяпан (1911—1979) — беларускі паэт, перакладчык, крытык, літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук. У 1933 г. беспадстаўна асуджаны на 3 гады высылкі ў Казахстан. Рэабілітаваны ў 1956 г. Апошнія гады жыў і памёр у Ташкенце.

[2] *...на з'езд у Тбілісі.* — Маецца на ўвазе з'езд пісьменнікаў Грузіі.

[3] *Дзякую табе і за «Затоку ў бурах».* — Маецца на ўвазе выданне аповесці Я. Скрыгана «Затока ў бурах» (1931).

[4] *У лесе тут у нас вельмі добра...* — Як відаць, тут гаворка пра пісьменніцкі Дом творчасці ў Каралішчавічах.

### *6. Івану Мележу (с. 513)*

[1] *...тваім раманам.* — Маецца на ўвазе раман І. Мележа «Людзі на балоце».

[2] *...будзе прымушаць нас сама плошча часопіса.* — Я. Скрыган працаваў тады ў рэдакцыі часопіса «Полымя» і рыхтаваў да друку раман І. Мележа.

### *7. Івану Мележу (с. 514)*

[1] *...у Ганначку тваю я проста ўлюбіўся.* — Маецца на ўвазе гераіня рамана І. Мележа «Людзі на балоце» Ганна Чарнушка.

### *8. Вісарыёну Гарбуку (с. 514)*

[1] *Гарбук* Вісарыён (1913—1986) — беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры Беларусі. У 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны. Зняволенне адбываў на Калыме. Вярнуўся на Беларусь у 1940 г. У 1941 г. прызваны ў армію. Удзельнічаў у абароне Масквы, вызваленні ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Беларусі, Польшчы, узяцці Берліна. У 1946 г. цяжка захварэў на поліартрыт і быў прыкаваны да ложка. Жыў у Пяцігорску.

### *9. Паўлу Кабзарэўскаму (с. 516)*

[1] *Кабзарэўскі* Павел Сямёнавіч (сапр. Гардо Фавій Залманавіч; 1909—1970) — рускі савецкі пісьменнік-перакладчык.

[2] *Шлю табе «Наталю»...* — маецца на ўвазе кніжка Я. Скрыгана «Наталя» ў перакладзе на рускую мову П. Кабзарэўскага (Мн., 1965).

### *10. Міколу Ткачову (с. 517)*

[1] *Ткачоў* Мікола (1918—1979) — беларускі пісьменнік. У 1969—1972 гг. працаваў сакратаром праўлення СП БССР.

### *11. Валянціне Міхайлаўне і Сяргею Іванавічу Грахоўскім (с. 519)*

[1] *...у панядзелак раненька еду дадому.* — Пісьменнік адпачываў тады ў санаторыі ў Нясвіжы.

## SUMMARY

Yan Skryhan (b.1905 – d. 1992) made his name in Belarusian literature as a great novelist, a master of short story and novella.

The author's first steps in literature were made in the difficult 20s of the 19th century when after the liberal policy in all the branches of economy (called NEP) the Soviet government took the course of collectivization in agriculture. The young Yan Skryhan sincerely believed in historical necessity of that break-up and personally took part in organization of collective farms. One after another the author's essays and literary works describing the bright future in rosy light appeared in print. Only after being personally involved in repressive mechanism of the Bolsheviks, unfoundedly accused in anti-Soviet activity and imprisoned for two scores in the Soviet concentration camp, the author was brought down to earth.

Just by miracle he remained alive. Those horrors and sufferings were described in the autobiographical novel *Circles* («Kruhi») that rightfully could be titled *Circles of the Hell* («Kruhi Pekla») and in memoirs *The Expanse of the Mountains* («Hornaya Daliachyn») as well as in a number of stories. All the mentioned literary works are published in the present one-volume edition of the selected works of Yan Skryhan. *Circles* are close to Yan Skryhan's memoirs of his friends, the Belarusian writers, who shared his fortune and went through all the horrors of Soviet concentration camps where most of them died.

The book compiles all the best works of Yan Skryhan and his articles mostly written after his returning to Motherland. The reader will appreciate Yan Skryhan's diary notes and letters and memoirs of his daughter Halina and grandson Yan.



# ЗМЕСТ

## АПАВЯДАННІ



## ЧАРЫ СЛОВА



## ШУФЛЯДА МАЙГО СТАЛА

## ДЗЁННІКАВЫЯ ЗАПІСЫ, ЛІСТЫ



## ДАДАТАК

**Скрыган Я.**

С 45 Выбраныя творы / Ян Скрыган; Уклад., камент. Г. Скрыган і К. Цвіркі: Прадм. В. Кавалеўскага. — Мн.: Бел. кнігазбор, 2005. — 544 с. [8] с.: іл. — («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).

ISBN 985-504-023-6.

Ян Скрыган (1905—1992) — выдатны майстар беларускай прозы. Аднатомнік яго выбраных твораў склалі: аўтабіяграфічная аповесць «Кругі», успаміны пра гады зняволення ў Сібіры «Горкая далячынь», літаратурныя партрэты сяброў-пісьменнікаў, якія загінулі ў часы сталінскіх рэпрэсій, лепшыя апавяданні, дзённікавыя запісы і лісты.

Трыццаць трэці том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».

**УДК 821.161.3-8**
**ББК 84 (4Беи)**

Літаратурна-мастацкае выданне

«Беларускі кнігазбор»
Серыя І. Мастацкая літаратура

**Скрыган Ян**

Выбраныя творы

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Кастусь Дуброўскі
Мастак Мікалай Казлоў
Тэхнічны рэдактар Алег Глекаў
Карэктар Наталля Давыдзенка
Набор і вёрстка Ларысы Ваўчок

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 3.10.2005.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 28,56 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. 31,7.
Наклад 1200 асобнікаў. Зак.

МГА «Беларускі кнігазбор». 220034, Мінск, вул. Фрунзе, 5.
Ліцэнзія ЛВ № 02330/0056929 ад 1.04.2004 г.
тэл/факс: (017) 200-70-27, E-mail: kniha@bk.lingvo.minsk.by
http://knihazbor.cjb.net

ISBN 985-504-023-6



Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя I.*

ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы
МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы
ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА. Выбраныя творы
ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ. Зборнік
ЯН БАРШЧЭЎСКІ. Выбраныя творы
ЯНКА БРЫЛЬ. Запаветнае. Выбраныя творы
КУЗЬМА ЧОРНЫ. Выбраныя творы
ЭЛІЗА АЖЭШКА. Аповесці, апавяданні, нарысы
ЛАРЫСА ГЕНІЮШ. Выбраныя творы
ПАЎЛЮК ТРУС. Выбраныя творы
ІВАН МЕЛЕЖ. Выбраныя творы
ЦЁТКА. Выбраныя творы
НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Выбраныя творы
ЯНКА КУПАЛА. Выбраныя творы
АЛЕСЬ ГАРУН. Выбраныя творы
АДАМ МІЦКЕВІЧ. Выбраныя творы
ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ БЫКАЎ. Выбраныя творы
РЫГОР КРУШЫНА. Выбраныя творы
ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ. Выбраныя творы

*Серыя II.*

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ. Зборнік
КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. За нашую вольнасць
МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК. Выбранае
ЯЎХІМ КАРСКІ. Беларусы
ІГНАТ ДАМЕЙКА. Мае падарожжы
ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ. Выбранае
ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН. Выбранае
ЧАСЛАЎ ПЯТКЕВІЧ. Рэчыцкае Палессе
АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ. Выбранае

*Серыя III.*

ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ. Выбраныя творы
ФЁДАР ДАСТАЕЎСКІ. Выбраныя творы

***Рыхтуюцца да друку:***

УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ. Выбраныя творы
АДАМ БАГДАНОВІЧ. Выбранае